АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

---

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1986

ББК 63.3(2Б)
З-41

З-41 **Збор помнікаў** гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць/АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Рэд. кал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш.— Мн.: БелСЭ, 1986.— 371 с., іл.

У пер.: 7 р. 80 к.

З $\frac{0505040000-009}{М 318(05)-86}$ 6—85 ББК 63.3(2Б)

# ПРАДМОВА

Выданне «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», якое з'яўляецца часткай Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР,— канкрэтнае ажыццяўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і адпаведнага закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, які ўключае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад дзяржаўную ахову.

Прапануемы чытачу том Збору помнікаў гісторыі і культуры Гродзенскай вобласці складзены на аснове навуковага абследавання помнікаў, вывучэння першакрыніц і літаратуры аб часе, падзеях і людзях, якім яны прысвечаны.

Помнікі гісторыі і культуры Гродзенскай вобл. займаюць значнае месца ў культурнай спадчыне беларускага народа. У сукупнасці яны адлюстроўваюць шматвяковую гісторыю і вялікі талент людзей працы гэтага рэгіёна. Рэшткі старажытных паселішчаў і ўмацаванняў, вытворчыя і культавыя збудаванні, як і іншыя помнікі матэрыяльнай культуры, утрымліваюць звесткі аб зніклых грамадска-эканамічных фармацыях, аб прадукцыйных сілах, сацыяльна-эканамічных адносінах і ідэалогіі розных эпох, даюць уяўленне аб майстэрстве народа, яго мастацкіх густах і поглядах, расказваюць аб зменах, што адбываліся ў галіне мастацтва пад уплывам мясцовых умоў і традыцый.

Значная ўвага аддаецца ў кнізе помнікам савецкага перыяду. За гады Савецкай улады ўзведзена шмат разнастайных помнікаў, якія перадаюць веліч сацыялістычнай перабудовы грамадства, увекавечваюць найбольш важныя падзеі айчыннай гісторыі і славутых людзей Радзімы. У апошнія дзесяцігоддзі на Гродзеншчыне створана шмат мемарыяльных комплексаў, манументаў і мемарыяльных знакаў, прысвечаных падзеям і героям Вялікай Айчыннай вайны. Значнае месца займаюць помнікі працоўнай славы савецкага народа.

У том уключаны толькі нерухомыя помнікі, у іх ліку:

помнікі археалогіі — рэшткі старажытных паселішчаў, стаянкі, гарадзішчы, селішчы і гарады, старажытныя помнікі працоўнай дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных гістарычных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, з адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за незалежнасць, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, з развіццём культуры, навукі, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст. і даваеннага савецкага перыяду (1917—41 гг.), найлепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950—80-я гады), якія адлюстроўваюць дасягненні савецкай архітэктуры ў прамысловым, жыллёвым, грамадскім і сучасным сельскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва, якія не захаваліся. Яны разглядаюцца толькі пры агульнай характарыстыцы развіцця культуры вобласці, горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы праілюстраваны фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі. Том мае паказальнікі — імянны, геаграфічны, храналагічны, а таксама пералік бібліятэк, му-

 зеяў, архіваў вобласці з кароткім апісаннем іх фондаў.

Сістэматызацыя помнікаў у томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыял размяшчаецца па раёнах (у алфавітным парадку іх назваў). Як самастойная тэрытарыяльная адзінка вылучаецца абласны цэнтр, звесткі пра які змешчаны ў пачатку тома. Унутры раёна першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйны цэнтр, а потым — пра помнікі іншых населеных пунктаў (у алфавітным парадку). Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку.

Даты, якія адносяцца да гісторыі дарэвалюцыйнай Расіі да лютага 1917 г., даюцца звычайна ў старым стылі; з 27 лютага (12 сакавіка) 1917 г. і да прыняцця новага стылю з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца ў двух стылях — старым і новым (апошні даецца ў дужках). Даты, пачынаючы з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца па новым каляндарным стылі.

Том падрыхтаваны сектарам Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Навуковае апісанне помнікаў археалогіі зроблена Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Шэраг артыкулаў напісаны аўтарамі іншых устаноў навукі і культуры. У падрыхтоўцы да выдання тома, дапаўненні і ўдакладненні звестак пра помнікі і навуковым рэдагаванні матэрыялаў прымалі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Інстытут мастацтвазнаўства, энтаграфіі і фальклору АН БССР і выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам Гродзенскай вобласці, актывістам Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, а таксама прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за дапамогу кансультацыямі, парадамі і рэцэнзаваннем рукапісаў.




**УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 16 ЖНІЎНЯ 1967 г. ЗА АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ, МУЖНАСЦЬ І СТОЙКАСЦЬ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў БАРАЦЬБЕ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, І ЗА ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР УЗНАГАРОДЖАНА ОРДЭНАМ ЛЕНІНА.**

# ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Раёны**

АСТРАВЕЦКІ
АШМЯНСКІ
БЕРАСТАВІЦКІ
ВАЎКАВЫСКІ
ВОРАНАЎСКІ
ГРОДЗЕНСКІ
ДЗЯТЛАЎСКІ
ЗЭЛЬВЕНСКІ
ІЎЕЎСКІ
КАРЭЛІЦКІ
ЛІДСКІ
МАСТОЎСКІ
НАВАГРУДСКІ
СВІСЛАЦКІ
СЛОНІМСКІ
СМАРГОНСКІ
ШЧУЧЫНСКІ



НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
па колькасці жыхароў
ад 100 000 да 600 000
ад 50 000 да 100 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
па адміністрацыйнаму значэнню
ВІЛЬНЮС
Сталіца саюзнай рэспублікі
ГРОДНА
Цэнтр вобласці
Цэнтры раёнаў
Цэнтры сельскіх Саветаў
па тыпу пасялення
ДРУСКІНІНКАЙ
Горад рэспубліканскага падпарадкавання
СЛОНІМ
Гарады абласнога падпарадкавання
ШЧУЧЫН
Гарады раённага падпарадкавання
Воранава
Паселкі гарадскога тыпу
Каменка
Сельскія населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаўныя
саюзных рэспублік
абласцей
раёнаў
ШЛЯХІ ЗНОСІН
Чыгункі
Бязрэйкавыя дарогі
агульнадзяржаўнага значэння
іншыя
ВІЛЬНЮС
ГРОДНА
ДРУСКІНІНКАЙ
ЛІДА
НАВАГРУДАК
ВАЎКАВЫСК
СЛОНІМ
БАРАНАВІЧЫ
МАСТЫ
ШЧУЧЫН
АШМЯНЫ
СМАРГОНЬ
ВАРЭНА
ШАЛЬЧЫНІНКАЙ
ЭЙШЫШКЕС
НЕМЕНЧЫНЕ
ЛАБРАДЗЕ
ВАЛОЖЫН
НЯСВІЖ
КЛЕЦК
ЛЯХАВІЧЫ
ГАНЦАВІЧЫ
ІВАЦЭВІЧЫ
КОСАВА
ПРУЖАНЫ
СНІДАЛЬ
Воранава
Астравец
Іўе
Дзятлава
Свіслач
Зэльва
Бераставіца
Карэлічы
Мір
Радунь
Ашмяны
Жупраны
Гальшаны
Трабы
Юрацішкі
Ліпнішкі
Бастуны
Бярозаўка
Любча
Ружаны
Камянюкі
Шарашова
Сухопаль
Крыніца
Харава
Сялец
Жытлін
Стайкі
Поразава
Нова Двор
Дабраволя
Вердамічы
Пагранічны
Кватары
Сапоцкін
Калеты
Прывалка
Парэчча
Азёры
Путрышкі
Гожа
Лоўкі
Гінавічы
Васілевічы
Баранавічы
Грандзічы
Каробчыцы
Абухава
Капцёўка
Падлопкі
Квасоўка
Індура
Адэльск
Канюхі
Вял. Эйсманты
Алекшыцы
Макараўцы
Гудзевічы
Зэльвянка
Рось
Рэпля
Мал. Бераставіца
Пархімаўцы
Красносельскі
Шылавічы
Субачы
Ялуцавічы
Краніца
Стар. Гальнка
Сынковічы
Тулава
Ізабелін
Падароск
Дабрасельцы
Слаўцічы
Жыровічы
Азгінавічы
Глоўсевічы
Міжэвічы
Новадзевяткавічы
Падгорная
Малахоўцы
Мал. Кайтаніца
Палонка
Краўцова
Вял. Шылавічы
Азярніца
Парэчча
Кастровічы
Дзераўная
Паўлава
Дзярэчын
Дзянісава
Вял. Азёркі
Мядзвінавічы
Пацавічы
Пескі
Малькавічы
Курылавічы
Правыя Масты
Галубы
Хвінявічы
Дзям'янаўцы
Ораны
Мікелеўшчына
Дубна
Харліца
Гайдавічы
Каменка
Ражанка
Ракавічы
Жалудок
Пескаўцы
Лядск
Плянты
Вял. Мажэйкава
Дэмбрава
Шчанец
Галавінполле
Астрына
Новы Двор
Бакшты
Васілішкі
Гасцілаўцы
Ваверка
Бершты
Першамайская
Матылі
Забалаць
Гіркі
Мясявічы
Больцішкі
Крупава
Дзітва
Тарнова
Ганчары
Беліца
Голдава
Ходараўцы
Жукоўшчына
Дварэц
Руда Яварская
Вензавец
Раготна
Назлоўшчына
Белагрудна
Войневічы
Наваельня
Лезнявічы
Даніловічы
Ятра
Варонча
Валеўка
Райца
Лукі
Вял. Жухавічы
Цырын
Малюшычы
Турэц
Ярэмічы
Заполле
Нарэлічы
Паланая
Рутка 1-я
Кашалёва
Таркачы
Мітраполь
Гарадзечна
Шчорсы
Нягневічы
Пятрэвічы
Налібакі
Асташына
Уселюб
Вераскава
Ацмінава
Зенявічы
Лакудава
Морына
Лелюкі
Лежнявічы
Бакшты
Лазды
Такарышкі
Суботнікі
Геранёны
Пераганцы
Палацкішкі
Канвелішкі
Беняконі
Пагародна
Дворышча
Бердаўка
Дуброўна
Першамайскі
Жырмуны
Доцішкі
Нача
Парэчча
Капчамесціс
Марцынконіс
Валькінінкай
Варэна
Матуйзос
Бутрымонис
Онушкіс
Палукніс
Балтоі-Воке
Тургяляй
Табарышкес
Мядзінінкай
Шумскас
Рудаміна
Рукайняй
Лаворышкес
Буйвідзай
Гедрайчай
Арнёніс 1-ы
Лынтупы
Споды
Падольцы
Кемелішкі
Міхалішкі
Трокенікі
Варняны
Гервяты
Ізабеліна
Гудагай
Каменны Лог
Паляны
Солы
Карані
Мураваная Ашмянка
Кушляны
Бялкоўшчына
Крайванцы
Навасёлкі
Залессе
Кальчуны
Граўжышкі
Баруны
Сінькі
Крэва
Ардашы
Семернікі
Вішнева
Сырваткі
Кодзішкі
Войстам
Свір
Нарач
Буйкі
Маркава
Гарадзілава
Вішнева
Дубіна-Баярская
Паршаі
Сівіца
Камень
Налібакі
Хатава
Шашкі
Аталезь
Раўбічы
Міры
Варацішча
Гарадзея
Сноў
Лань
Шэпічы
Нача
Грыцэвічы
Сінаўка
Галынка
Начы
Курнышкавічы
Любашава
Дзяніскавічы
Хатынічы
Люсіна
Пачапава
Моўчадзь
Гарадзішча
Вольна
Савічы
Арабаўшчына
Крошын
Мілавіды
Альхоўцы
Вострава
Быцень
Даманава
Бусяж
Кушняры
Дабромысль
Волька
Козікі
Квасевічы
Варанілавічы
Лыскава
Паўлава
Вял. Сяло
Рубіцк
вох. Выгонаўскае
вох. Бабровіцкае
ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛ.
Нёман
Шчара
Гаўя
Дзітва
Лебяда
Котра
Іслач
Ятранка
Мышанка
Бярэзіна
Ясельда
Жэгулянка
Вілія
Свіслач
Нарач
Рось
Зальвянка
Мерачанка
Воўка
Беларусь
Пяну
Мажэйка
Вілейка
Шэўчэнкалі
Варапаева
Брэст
Белаазерск
Лунінец
Беласток
Маладзечна
Мінск
Слуцк
55°
54°
53°
24°
26°
МАШТАБ
км 13
0
13
26
39 км

# УВОДЗІНЫ

Гродзенская вобласць размешчана на захадзе Беларускай ССР. На захадзе мяжуе з Польскай Народнай Рэспублікай, на поўначы — з Літоўскай ССР, на паўночным усходзе з Віцебскай вобласцю, на ўсходзе — з Мінскай, на поўдні — з Брэсцкай абласцямі БССР. Утворана 20.9.1944 г. Плошча 25 тыс. км². Насельніцтва 1147,3 тыс. чалавек (1985 г.). Цэнтр вобласці — г. Гродна. Уключае: 17 раёнаў — Астравецкі, Ашмянскі, Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Воранаўскі, Гродзенскі, Дзятлаўскі, Зэльвенскі, Іўеўскі, Карэліцкі, Лідскі, Мастоўскі, Навагрудскі, Свіслацкі, Слонімскі, Смаргонскі, Шчучынскі; 10 гарадоў, у т. л. 5 абласнога падпарадкавання — Гродна, Ваўкавыск, Ліда, Навагрудак, Слонім; 21 гарадскі і 2 рабочыя пасёлкі.

Вобласць размешчана ў заходняй частцы Усходне-Еўрапейскай раўніны. У цэнтральнай частцы знаходзіцца водна-ледавіковая Нёманская нізіна (вышыня ад 80 да 150 м над узроўнем мора). На поўначы распасціраецца Лідская марэнная раўніна, на захадзе і паўднёвым захадзе — Гродзенскае і Ваўкавыскае ўзвышшы, на паўночным усходзе — Ашмянскія грады (вышыня да 320 м), на паўднёвым усходзе — Навагрудскае ўзвышша (вышыня да 323 м — гара Замкавая, найвышэйшы пункт вобласці). Рэкі адносяцца да басейна Нёмана, які з'яўляецца асноўнай воднай магістраллю вобласці (за выключэннем р. Нараў — басейн Віслы). Прытокі Нёмана: правыя Бярэзіна, Гаўя, Дзітва, Лебяда, Котра, Вілія (з Ашмянкай), левыя Уша, Сэрвач, Моўчадзь, Шчара, Зальвянка, Рось, Свіслач. Рэкі выкарыстоўваюцца для лесасплаву і водазабеспячэння, як водапрыёмнікі меліярацыйных сістэм. Азёр мала, найбольшыя — Белае, Рыбніца, Свіцязь (у межах Свіцязянскага ландшафтнага заказніка), Свір і Вішнеўскае (на мяжы з Мінскай вобл.). Пераважаюць мяшаныя хваёва-шыракалістыя лясы. У Свіслацкім р-не — паўночная частка Белавежскай пушчы. На ўсходзе вобласці — частка Налібоцкай пушчы.

Паводле археалагічных звестак засяленне чалавекам тэрыторыі Гродзеншчыны пачалося ў эпоху позняга палеаліту. У 10-м тысячагоддзі да н. э. у басейн верхняга Нёмана з Валыні праз вярхоўе Прыпяці і яе прытокі (р. Случ, Гарынь) праніклі плямёны свідэрскай культуры. Іх крамянёвы інвентар — выцягнутыя лістападобныя наканечнікі стрэл і прылады працы познамадленскага выгляду: сярэдзінныя клінападобныя і бакавыя разцы, канцавыя скрабкі, нажы, праколкі. Асноўным заняткам насельніцтва было паляванне невялікімі групамі, рыбалоўства, збіральніцтва. Паяўленне больш дасканалай паляўнічай зброі прывяло да пастаяннай здабычы ежы і хуткага асваення свабодных тэрыторый. Характэрныя помнікі гэтага часу — стаянкі. Яны выяўлены на берагах азёр Свіцязь і Чарэшля (Навагрудскі р-н), на другой тэрасе Нёмана (каля вёсак Збляны і Беліца Лідскага, Гожа і Пальніца Гродзенскага р-наў). Асноўная сацыяльная ячэйка — мацярынская родавая абшчына — складалася з асобных, з'яднаных кроўнымі сувязямі, парных сем'яў, якія не мелі яшчэ трывалай эканамічнай асновы. Некалькі абшчын складалі племя.

У эпоху мезаліту (9—5-е тысячагоддзі да н. э.) была заселена ўся тэрыторыя Гродзеншчыны. Для гэтага перыяду характэрна авалоданне новымі, больш разнастайнымі прыладамі працы. Вырабляліся пласціністыя, тронкавыя і лістападобныя наканечнікі стрэл, праколкі, свярдзёлкі, разцы і скрабкі розных форм. Паявіліся крамянёвыя прылады працы спецыяльнага прызначэння: разакі, скоблі, нажы з лязом з невялікіх пласцінак-укладышаў. У раннім мезаліце (9—7-е тысячагоддзі да н. э.) у Панямонні захоўвалася культура свідэрскіх плямён. На познамезалітычных стаянках (6—5-е тысячагоддзі да н. э.) знойдзены макраліты — масіўныя каменныя прылады працы (прадаўгаватыя сякеры з аднабаковай апрацоўкай, цёслы, долатападобныя прылады), якія адносяцца да макралітычнай культуры. Адначасова склалася змешаная мікра-макралітычная культура, аб чым сведчыць наяўнасць на пасяленнях масіўнага і дробнага крамянёвага інвентару. Стаянкі гэтага перыяду выяўлены на паверхні другой надпоймавай тэрасы Нёмана каля в. Збляны (Лідскі р-н), на дзюнах паміж правым берагам р. Нёман і воз. Чарэшля, непадалёку ад в. Чарэшля (Навагрудскі р-н), на пясчаных узгорках у міжрэччы Нёмана і

яго левага прытока р. Моўчадзь, каля в. Нясілавічы (Дзятлаўскі р-н) і інш.

Асноўным заняткам насельніцтва заставалася паляванне, вялікае значэнне мелі рыбалоўства і збіральніцтва. Мезалітычныя плямёны, што насялялі тэрыторыю Гродзеншчыны, складаліся з некалькіх мацярынскіх абшчын, аб'яднаных паміж сабой кроўнымі сувязямі. Далейшае развіццё гаспадарчай дзейнасці (удасканаленне прылад працы) і грамадскіх адносін (станаўленне плямён) падрыхтавалі пераход да эпохі неаліту.

Неаліт (новы каменны век) на тэрыторыі Гродзеншчыны пачаўся ў канцы 5-га — 4-м тысячагоддзі да н. э. Для яго характэрна паяўленне керамічнай вытворчасці, шліфаваных прылад працы, у канцы эпохі авалоданне навыкамі жывёлагадоўлі і земляробства. Галоўным заняткам неалітычных плямён аставалася паляванне і рыбалоўства. Стаянкі чалавека размяшчаліся на першай ці другой надпоймавых тэрасах Нёмана і яго прытокаў, на мысах карэнных берагоў ці па краях марэнных узвышшаў, блізкіх да вадаёмаў. Тэрыторыю Гродзеншчыны ў гэты час засялялі плямёны нёманскай культуры. Для яе характэрна наяўнасць своеасаблівай керамікі з грабеньчата-накольчатым арнаментам, хоць адбіткі грэбеня займалі ў арнаментыцы нязначнае месца. На раннім этапе (4-е тысячагоддзе да н. э.) плямёны нёманскай культуры выраблялі вастрадонныя гаршкі жоўташэрага колеру з дамешкамі раслін у цесце. Арнамент складаўся з насечак і адбіткаў грэбеня ці палачкі, ямак рознай формы, наколаў і пракрэсленых ліній. Край венчыка ўпрыгожваўся неглыбокімі насечкамі, пад венчыкам — радам глыбокіх круглых ямак. Крамянёвы інвентар гэтага часу — лістападобныя наканечнікі стрэл, дробныя прылады працы — мікраліты, скрабкі розных форм, сякучыя прылады, у т. л. пікападобныя сякеры. Стаянкі гэтага часу выяўлены каля вёсак. Панямонь (Навагрудскі р-н), Ярэмічы (Карэліцкі р-н) і інш. На сярэднім і познім этапах (3-е тысячагоддзе да н. э.) плямёны нёманскай культуры выраблялі гаршкі са звужанымі шыйкамі. Посуд з раслиннымі дамешкамі і жарствой у цесце быў добра абпалены. У арнаменце паявіліся зігзагі і больш складаныя ўзоры пераважна з разных наколаў. Крамянёвы інвентар папоўніўся трохвугольнымі наканечнікамі стрэл з прамымі і ўвагнутымі асновамі, апрацаванымі пераважна па краях, сякерамі з прамым і шліфаваным лязом, серпападобнымі нажамі і ўкладышамі да іх. Стаянкі гэтых этапаў нёманскай культуры каля былога хутара Бор (Лідскі р-н), вёсак Ніз і Русакова (Слонімскі р-н) і інш. На познім этапе развіцця нёманскай культуры пачалася здабыча крэменю шахтавым спосабам. Крэменездабыўныя шахты і майстэрні — помнікі вытворчага прызначэння — даследаваны на берагах р. Рось (мелавыя адорвені) каля г. п. Краснасельскі і в. Карпаўцы (Ваўкавыскі р-н). Выяўлена некалькі сотень шахтаў круглай і прадаўгаватай формы глыбінёй 6—8 м, шырынёй да 1,5 м. Знойдзены землякопныя прылады працы, зробленыя з рога аленя ці лася. На тэрыторыі шахтаў і каля іх размяшчаліся крэменеапрацоўчыя майстэрні, дзе трапляюцца расшчэпленыя крамяні і загатоўкі сякер. Здабыча крэменю і выраб прылад працы з яго занялалі ў раннім жалезным веку.

У 3-м тысячагоддзі да н. э. на тэрыторыю Гродзеншчыны пранiклі неалітычныя жывёлагадоўчыя плямёны культуры шарападобных амфар. Насельніцтва вырабляла шарападобныя і пласкадонныя амфары, гаршкі, кубкі, міскі, шліфаваныя крамянёвыя сякеры, касцяныя вырабы, бурштынавыя ўпрыгожанні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне і няпоўнае трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. Могільнікі гэтай культуры выяўлены каля г. п. Краснасельскі (Ваўкавыскі р-н) і в. Малыя Ёдкавічы (Бераставіцкі р-н).

Далейшае развіццё ў неаліце атрымала натуральная гаспадарка. Разнастайныя прылады працы, палявання і рыбнай лоўлі (лукі, стрэлы, восці, чаўны, сеткі) давалі магчымасць весці промысел невялікімі групамі. Прымяненне сякучых прылад прывяло да шырокага выкарыстання дрэва пры будаўніцтве жытлаў і гаспадарчых пабудоў. У канцы неаліту паявілася пляценне, прадзенне, верагодна, і ткацтва. Калектыўная праца і спажыванне першабытных неалітычных плямён грунтаваліся на агульнай уласнасці на ўсе асноўныя сродкі здабычы матэрыяльных каштоўнасцей. У гэты перыяд родавая абшчына складалася з асобных парных сем'яў, якія мелі адносную эканамічную незалежнасць.

Бронзавы век на тэрыторыі вобласці пачаўся ў пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. Для яго характэрны развіццё жывёлагадоўлі і земляробства, па-



*Крэменездабыўныя шахты каля в. Карпаўцы Ваўкавыскага раёна.*

шырэнне абмену, паступовая замена мацярынска-родавых адносін патрыярхальна-родавымі з пануючым становішчам мужчыны ў сям'і і родзе. Аддаленасць ад старажытных цэнтраў металургіі абумовіла выкарыстанне тут на больш працяглы час каменных прылад працы, апрацоўка якіх дасягнула высокай дасканаласці. Шырока ўжывалася шліфаванне, свідраванне, пілаванне. У раннім бронзавым веку (2000—1600 гг. да н. э.) на тэрыторыі Панямоння была пашырана прыбалтыйская (вісла-нёманская) культура шнуравой керамікі. Пра гэта сведчаць размешчаныя на пясчаных узвышшах могільнікі, на якіх пераважалі адзінкавыя пахаванні. Нябожчыкаў хавалі ў глыбокіх ямах у скручаным становішчы на баку, побач клалі прылады працы, упрыгожанні, гліняныя гаршкі (могільнік каля г. п. Краснасельскі). Часам у пахаваннях трапляюцца косці свойскіх жывёл. Паселішчаў плямён прыбалтыйскай культуры знойдзена мала. Тонкі культурны пласт і невялікая колькасць знаходак на паселішчах сведчаць, што яны былі часовымі, іх насялялі жывёлагадоўчыя плямёны, якія пераходзілі з месца на месца. Насельніцтва вырабляла каменныя, крамянёвыя і касцяныя прылады працы, упрыгожанні з зубоў жывёлы і бурштыну, гліняныя пласкадонныя гаршкі з акрэсленымі шыйкамі, арнаментаваныя рысамі або адбіткамі шнура. Плямёны бронзавага веку ў Панямонні жылі пераважна на месцах папярэдніх неалітычных паселішчаў. У матэрыялах як ранняга, так і сярэдняга этапаў бронзавага веку прасочваецца ўплыў неалітычных традыцый (Ярэмічы, Русакова). На сярэднім этапе (1500—1200 гг. да н. э.) бронзавага веку насельніцтва Панямоння вырабляла пласкадонныя прафіляваныя гаршкі, асобныя з іх упрыгожваліся адбіткамі шнура на шыйцы. У познім бронзавым веку (з 1100 г. да н. э.) пашырылася культура штрыхаванай керамікі. Рэшткі посуду такой керамікі знойдзены на многіх паселішчах паўночна-заходняй Беларусі. Посуд быў ляпны, танкасценны, даволі вялікіх памераў, паверхня пакрывалася штрыхамі (Паўлавічы і Камлявічы Слонімскага, Славічы Гродзенскага р-наў).Ператварэнне жывёлагадоўлі і першабытнага земляробства на працягу бронзавага веку ў пануючыя формы гаспадаркі, паяўленне медных і бронзавых вырабаў (прылад працы, зброі, упрыгожанняў), якія траплялі на тэрыторыю Беларусі пераважна праз абмен, прывяло да вялікіх змен у грамадскім жыцці. Зараджалася маёмасная няроўнасць, развівалася прыватная ўласнасць. Умацаванне эканамічнай незалежнасці асобных сем'яў паступова падрывала калектыўныя прынцыпы ўнутры роду.



*Раскопкі могільніка плямён культуры шарападобных амфар каля г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.*

У 7 стагоддзі да н. э. на тэрыторыі Гродзеншчыны пачаўся жалезны век. Адкрыццё жалеза было пачаткам тэхнічнага перавароту ў гісторыі першабытнага грамадства. Выплаўка жалеза, выраб рэчаў з яго адыгралі вялікую ролю ў развіцці прадукцыйных сіл. Асновай эканомікі насельніцтва стала ляднае земляробства, развіццё якога павысіла і гаспадарчае значэнне жывёлагадоўлі. Гэта забяспечыла рэгулярнае атрыманне прыбавачнага прадукту, накапленне матэрыяльных каштоўнасцей у родзе, потым у асобных сем'ях. Маёмасная няроўнасць паскорыла працэс распаду першабытнаабшчынных адносін. У пачатку ранняга жалезнага веку ў басейне Нёмана жылі балцкія плямёны культуры штрыхаванай керамікі — нашчадкі мясцовых плямён эпохі бронзавага веку. На першым этапе (7—5 стагоддзі да н. э.) іх гаспадарка і матэрыяльная культура амаль не змяніліся. Паселішчы мала адрозніваліся ад стаянак бронзавага веку, яны былі адкрытымі і размяшчаліся на нізкіх месцах, каля берагоў рэк і азёр, жытлы наземныя, прадаўгаватыя, слупавой канструкцыі. Побач з лядным земляробствам і жывёлагадоўляй значную ролю адыгрывалі паляванне і рыбалоўства. Насельніцтва вырабляла прылады працы з косці, рогу, крэменю, дрэва, ляпны штрыхаваны посуд слоікападобнай формы. На другім этапе (4 ст. да н. э.—1 ст. н. э.) пляцоўкі гарадзішчаў умацоўваліся валамі і равамі, жытлы ў адрозненне ад ранняга этапа былі падзелены на некалькі асобных жылых памяшканняў, у цэнтры кожнага— каменна-глінабітнае агнішча. Разам з касцянымі прыладамі працы выкарыстоўваліся і жалезныя. На трэцім этапе (1—5 стагоддзі н. э.) гарадзішчы ўмацоўваліся валамі з драўлянымі канструкцыямі і равамі; будаваліся невялікія чатырохвугольныя наземныя жытлы з агнішчамі ў цэнтры; пашырыліся жалезныя прылады працы і зброя; асновай гаспадаркі стала ляднае земляробства і жывёлагадоўля. У пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. у плямён культуры штрыхаванай керамікі пачаўся распад патрыярхальна-родавых адносін, аб чым сведчыць паяўленне невялікіх жытлаў. Малыя сем'і імкнуліся выдзеліцца з патрыярхальна-родавай абшчыны і атрымаць гаспадарчую незалежнасць.

У канцы 5—6 ст. н. э. на ўсёй тэрыторыі, дзе раней жылі плямёны культуры штрыхаванай керамікі, пашырылася культура тыпу верхняга пла-

ста Банцараўшчыны (назва ад гарадзішча Банцараўшчына Мінскага р-на). Усе вядомыя паселішчы гэтай культуры дзеляць на 2 тыпы: селішчы і ўмацаваныя гарадзішчы-сховішчы. Гарадзішчы мелі складаную сістэму абарончых збудаванняў — некалькі валоў і равоў, драўляныя сцены. Селішчы паводле размяшчэння дзеляць на 2 групы: селішчы, што знаходзіліся каля гарадзішчаў-сховішчаў, і селішчы, не звязаныя з гарадзішчамі, размешчаныя асобна ад іх. Наземныя жытлы слупавой, радзей зрубнай канструкцыі невялікія, разлічаныя на адну сям'ю. Насельніцтва вырабляла ляпны грубы гладкасценны, слабапрафіляваны слоікападобны посуд, пакрыты ў асобных выпадках расчосамі, своеасаблівыя гліняныя праслiцы біканічных форм з вялікімі адтулінамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне, на раннім этапе ў грунтавых пахавальных ямах, на познім — у круглых і прадаўгаватых курганах.

У 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. паступова знікаюць умацаваныя патрыярхальна-родавыя паселішчы-гарадзішчы. Члены родаў пакідалі іх і сяліліся асобнымі сем'ямі ў месцах найбольш зручных для вядзення гаспадаркі — на невысокіх узгорках, берагах рэк і азёр, дзе былі прыдатныя для скарыстання землі і сенажаці, рыба ў вадаёмах і дзікая жывёла ў лясах. Значна павялічыліся памеры селішчаў, дзе жылі прадстаўнікі ўжо некалькіх родаў. Кроўныя сувязі паступова саступалі месца эканамічным. Узніклі сельскія тэрытарыяльныя абшчыны з манагамнымі сем'ямі. У сельскай гаспадарцы разам з лядным развівалася і ворнае земляробства, паявіліся прылады працы для апрацоўкі зямлі з жалезнымі сашнікамі.

У заходняй частцы верхняга Панямоння і ў міжрэччы Нёмана і Буга знойдзены пахавальныя помнікі — каменныя курганы яцвягаў і ўсходнелітоўскія курганы. У каменных курганах 3—4 стагоддзяў н. э. пахавальны абрад — трупапалажэнне (Апанаўцы Воранаўскага р-на). У канцы 4 — 5 ст. н. э. пераважаў абрад трупаспалення ў ямах і урнах. Пахавальны інвентар у каменных курганах вельмі разнастайны: у мужчынскіх — зброя і рыштунак баявога каня, у жаночых — упрыгожанні і дробныя прылады працы. Самыя познія трупаспаленні ў каменных курганах адносяцца да канца 1-га тысячагоддзя н. э. (Суляцічы Навагрудскага р-на). Усходнелітоўскія курганы сканцэнтраваны пераважна ў басейне Віліі. У найбольш ранніх з іх (4—5 стагоддзі н. э.) пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных грунтавых ямах. Пазней пашырыўся абрад трупаспалення. Пахавальны інвентар адносна багаты: у мужчынскіх пахаваннях знойдзены сякеры, нажы і інш. прылады працы, у жаночых — шыйныя грыўні, фібулы, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі. У курганах 5—8 стагоддзяў шмат зброі і рыштунку баявога каня (Маркіняты Ашмянскага р-на).

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя на тэрыторыю Гродзенскай вобл. праніклі славянскія плямёны — крывічы і дрыгавічы. Крывічы займалі тэрыторыю паўночных, паўночна-ўсходніх і ўсходніх раёнаў. Характэрнымі племяннымі адзнакамі, якія даюць магчымасць удакладніць граніцу рассялення крывічоў, з'яўляюцца бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. Выяўлены гарадзішчы, селішчы, доўгія і круглыя курганы з пахавальным абрадам на раннім этапе трупаспалення, на позні — трупапалажэння. У пахаваннях трапляюцца сякеры, коп'і, нажы, крэсівы, спражкі, гліняны посуд, зроблены на ганчарным крузе, упрыгожанні. Асноўны занятак насельніцтва — земляробства, а таксама жывёлагадоўля, промысел, рамёствы, гандаль. У 7—9 стагоддзях у сацыяльных адносінах крывічы — саюз плямён, у рамках якога фарміраваліся класы, дзяржаўнасць — «княжанне», народнасць.

Дрыгавічы засялілі паўднёва-ўсходнія і паўднёвыя раёны Гродзеншчыны. Этнічна вызначальныя прыкметы дрыгавічоў — зярнёныя пацеркі так званага дрыгавіцкага тыпу. Выяўлены гарадзішчы, селішчы, курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення, з канца 10 ст.— трупапалажэння. Асновай гаспадаркі было земляробства і жывёлагадоўля, дадатковыя заняткі — паляванне, бортніцтва, рыбалоўства, развіваліся рамёствы і гандаль. Дрыгавічы ў сацыяльна-палітычных адносінах — развітая група ўсходніх славян, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне» яшчэ да ўключэння ў склад Старажытнарускай дзяржавы.

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя ва ўсходнеславянскіх плямён, што насялялі тэрыторыю Беларусі, у т. л. і Гродзеншчыну, адбываўся паступовы распад першабытнаабшчыннага ладу. У рамках племянных саюзаў фарміраваліся і развіваліся феадальныя адносіны. Паскорылася развіццё прадукцыйных сіл. На змену ляднаму прыйшло ворнае земляробства ў форме двух- і трохполля. Старажытная патрыярхальная абшчына канчаткова саступіла месца тэрытарыяльнай (сельскай), у аснове якой ляжалі эканамічныя сувязі. Узмацнілася маёмаснае расслаенне насельніцтва, усталёўвалася феадальная ўласнасць на зямлю. Позція гарадзішчы ўяўлялі сабой умацаваныя сядзібы феадалаў — «грады». Рамяство аддзялілася ад земляробства і хутка развівалася. Узніклі і раслі гарады.

У 10 ст. тэрыторыя Гродзеншчыны ўвайшла ў склад раннефеадальнай дзяржавы — Кіеўскай Русі. У яе межах складвалася адзіная старажытнаруская народнасць, што было абумоўлена агульнымі эканамічнымі сувязямі, этнічнай, тэрытарыяльнай, палітычнай, культурнай і моўнай агульнасцю родных усходнеславянскіх плямён. На землях Гродзеншчыны ў мэтах абароны былі пабудаваны ўмацаваныя пункты, многія з якіх сталі цэнтрамі старажытнарускай культуры. Упершыню гарады Гродзеншчыны ўпамінаюцца ў Іпацьеў-

скім летапісе: пад 1128 г.— Гродна, пад 1252 г.— Ваўкавыск, Навагрудак і Слонім, пад 1253 г.— Турыйск (захавалася яго гарадзішча на беразе Нёмана каля в. Турэйск Шчучынскага р-на). Праз іх праходзілі гандлёвыя шляхі з Русі ў Прыбалтыку. Хутка развіваліся ліцейнае, кавальскае, касцярэзнае, ювелірнае рамёствы, ганчарства, разьба па дрэве і інш. Аб занятках прадзеннем і ткацтвам сведчаць знойдзеныя шматлікія праслііцы з чырвонага шыферу. У іх адтулінах трапляюцца рэшткі драўляных верацён (Гродна). Драўляныя часткі ткацкага станка (збоі і чаўнок) знойдзены ў Гродзенскім Старым замку разам з абломкам драўлянага навоя, яго касцянымі галоўкамі і драўляным грэбенем для часання лёну і воўны. Значнае развіццё атрымала апрацоўка каменю, які выкарыстоўваўся пры будаўніцтве замкаў і цэркваў.



*Знаходкі з раскопак замчышча ў Ваўкавыску (злева направа): накладка (12—13 стагоддзі), падвеска (12 ст.), пярсцёнак (13 ст.).*

Верхняе Панямонне (так званая Чорная Русь) у 10—12 стагоддзях з'яўлялася арэнай барацьбы старажытнарускіх дружын Кіеўскага княства з яцвягамі і літвой. Першыя звесткі пра ваенны паход кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча на яцвягаў адносяцца да 983 г. Вядомы паходы кіеўскага князя Яраслава Мудрага на яцвягаў у 1038 г. і літву ў 1040 г. і 1044 г., валынскага князя Яраслава Святаславіча на яцвягаў у 1112 г. У арганізаваным кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам паходзе на Літву ў 1132 г. удзельнічала дружына гродзенскага князя Усевалада Давыдавіча. Гарадзенскае (Гродзенскае) удзельнае княства ўтварылася ў пачатку 12 ст.; з сярэдзіны 13 ст. існавалі Новагародскае (Навагрудскае), Ваўкавыскае, Свіслацкае ўдзельныя княствы. Іх палітычная гісторыя была цесна звязана з Валынскім, Кіеўскім і Полацкім княствамі.

Культура Панямоння ў 10—13 стагоддзях развівалася ў агульным рэчышчы старажытнарускай культуры. З 10 ст. пашырылася пісьменнасць, пра што сведчаць надпісы на амфарах і праслііцах з Навагрудка, Гродна, Ваўкавыска; калекцыя пісалаў-стыло з Ваўкавыска адна з самых багатых у СССР.

У 1230—40-я гады Панямонне з цэнтрам у Навагрудку трапіла пад уплыў літоўскіх князёў, а у 2-й палове 13 ст.— пад іх уладу. Літоўскія князі выкарыстоўвалі феадальныя дружыны Чорнай Русі ў міжусобных войнах і ў барацьбе за ўмацаванне адзінай цэнтралізаванай Літоўскай дзяржавы.

Упамінанне ў летапісах 13 ст. гарадоў Ваўкавыска, Навагрудка, Слоніма звязана з барацьбой паміж вялікім князем літоўскім Міндоўгам [сярэдзіна 1230-х —1263 г.] і галіцка-валынскімі князямі за валоданне верхнім Панямоннем. Міндоўг некаторы час княжыў у Навагрудку, дзе ў 1253 г. каранаваўся і прыняў тытул караля. У 1252 г. войскі галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька Раманавічаў уварваліся ў верхняе Панямонне, у 1253 г. Васілька з пляменнікам Раманам Данілавічам захапіў Гародна (Гродна). Паводле мірнага дагавора 1254 г. Чорная Русь (Гродзенскае, Навагрудскае, Ваўкавыскае і Свіслацкае княствы) перайшла да Рамана Данілавіча, які ажаніўся з дачкой ваўкавыскага князя Глеба Аленай і стаў навагрудскім князем. У 1256 г. яго войскі разам з войскамі князя Глеба і свіслацкага князя Ізяслава ўдзельнічалі ў паходзе Данілы Раманавіча на яцвягаў. У 1258 г. Раман Данілавіч узяты ў палон літоўскімі князямі Войшалкам і Таўцівілам, магчыма, забіты. У адказ на гэта Даніла Раманавіч захапіў Ваўкавыск і ўзяў у палон князя Глеба. Астатнія панямонскія гарады засталіся пад уладай Літвы. Навагрудскім князем стаў Войшалк. Пасля забойства ў 1263 г. Міндоўга вялікім князем літоўскім быў абвешчаны Войшалк [1264—67 гг.]. Неўзабаве ён перадаў вялікае княжанне свайму швагру — галіцкаму князю Шварну Данілавічу. Пры вялікім князю літоўскім Трайдэну [1270—82 гг.] верхняе Панямонне зноў адышло пад уладу Літвы. Галіцкі князь Леў Данілавіч з дапамогай татар спрабаваў вярнуць яго, але адваяваў толькі Турыйск і Слонім. У 1289 г. вялікія літоўскія князі браты Будзівід і Будзікід вярнулі валынскаму князю Мсціславу Давыдавічу Ваўкавыск. У пачатку 14 ст. Валынь увайшла ў Вялікае княства Літоўскае, у складзе якога апынулася ўсё верхняе Панямонне.

Гродзеншчына, як і іншыя заходнерускія землі, працяглы час (з 1230—40-х гадоў) знаходзілася пад пастаянннай пагрозай татара-мангольскага заняволення. Летапісы і іншыя пісьмовыя крыніцы паведамляюць аб паходах татар на Літву і заходнія землі Русі ў 1255, 1274, 1278 гг. і інш. Татара-манголы, якіх часта выкарыстоўвалі мясцовыя князі ў міжусобнай барацьбе, спустошвалі край.

У 2-й палове 13— пачатку 15 ст. Гродзеншчына неаднаразова была арэнай барацьбы з нямецкімі рыцарамі, якія захапілі Жэмайцію і рабілі набегі на іншыя землі Вялікага княства Літоўскага. Аб'яднаныя сілы літоўскіх і заходнерускіх дружын з Гродна, Навагрудка і інш. гарадоў стрымлівалі націск крыжакоў на землі Літвы і Чорнай Русі. У 1284, 1295—96, 1306, 1311, 1314, 1321, 1328, 1341, 1384—85, 1390, 1393, 1394, 1399 гг. тэўтонцы

ўрываліся на Гродзенскую зямлю. У 1314 г. яны асадзілі Навагрудак, але іх спробы авалодаць замкам, абарону якога ўзначаліў гродзенскі староста Давыд, пацярпелі крах. У 1318 г. гродзенскія дружыны нанеслі крыжакам шэраг адчувальных удараў. Дружына Давыда ў 1322—23 гг. разам з пскоўскімі войскамі нанесла цяжкае паражэнне Лівонскаму ордэну пад Псковам і за р. Нарова, а ў 1326 г. удзельнічала ў вялікім польска-літоўскім паходзе на Брандэнбург. З мэтай сумеснай барацьбы супраць нямецкай агрэсіі ў 1385 г. у замку Крэва (Смаргонскі р-н) была падпісана Крэўская унія — пагадненне аб саюзе Вялікага княства Літоўскага і Польшчы; абедзве дзяржавы ўзначаліў вялікі князь літоўскі Ягайла, абвешчаны з 1386 г. і польскім каралём. Аднак мясцовыя феадалы на чале з гродзенскім і трокскім князем Вітаўтам у 1389 г. выступілі супраць узмацнення ўплыву польскіх феадалаў і пашырэння каталіцызму на беларускія землі. На тэрыторыі Гродзеншчыны паміж Вітаўтам і Ягайлам больш за 2 гады вяліся ваенныя дзеянні. Яны скончыліся Востраўскім пагадненнем 1392 г., паводле якога Вялікае княства Літоўскае захоўвала аўтаномію ў саюзе з Польшчай. Вітаўт фактычна быў прызначаны вялікім князем літоўскім. Востраўскае пагадненне з Віленска-Радамскай уніяй 1401 г. стала юрыдычнай асновай саюзных адносін дзяржаў і ўмацавала іх у барацьбе супраць крыжакоў.

15.7.1410 г. каля в. Грунвальд адбылася адна з буйнешых бітваў аб'яднаных войск Польшчы і Вялікага княства Літоўскага супраць войск Тэўтонскага ордэна. У складзе польскіх і літоўскіх войск былі палкі (харугвы) з беларускіх, украінскіх і рускіх зямель, а таксама чэшска-маравскія, валашскія, венгерскія і татарскія атрады. У Грунвальдскай бітве прымалі ўдзел Гарадзенская, Ваўкавыская, Лідская, Новагародская харугвы (палкі). Крыжакі былі разгромлены, іх агрэсія на ўсход спынена.

У 14—15 стагоддзях на Гродзеншчыне, як і на ўсёй Беларусі, зямля належала дзяржаве, феадалам і царкве. Невялікай яе колькасцю валодалі гарады і гараджане. Дзяржаўныя (гаспадарскія) землі, вярхоўным уладальнікам якіх быў вялікі князь (гаспадар), падзяляліся на 2 катэгоры — валасці і гаспадарскія двары. У межах валасцей ворныя землі знаходзіліся ў асабістым карыстанні сялян, астатнія ўгоддзі належалі абшчыне. Валасці з'яўляліся таксама і тэрытарыяльна-адміністрацыйнымі адзінкамі. З развіццём феадальных адносін валасныя землі траплялі ў рукі свецкіх і царкоўных феадалаў. Пасля ўключэння беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага прыватнае землеўладанне расло галоўным чынам за кошт велікакняжацкіх падараванняў. Найбольшыя зямельныя ўладанні на Гродзеншчыне мелі магнаты Гаштольды, Гальшанскія, Радзівілы, Сапегі, Храптовічы, Валовічы, Палубінскія і інш.

Пасля Крэўскай уніі 1385 г. на беларускіх землях пачало насаджацца каталіцкае землеўладанне. Езуіты, кармеліты, францысканцы, брыгіткі, дамініканцы, піяры і інш. каталіцкія манаскія ордэны сталі буйнымі землеўладальнікамі. Гарадзельская унія 1413 г., заключаная Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай, давала новыя прывілеі феадалам Вялікага княства Літоўскага, якія прынялі каталіцтва і польскія гербы. Яны атрымалі пераважнае права займаць дзяржаўныя пасады, пэўныя льготы даваліся каталіцкім установам. У 1424 г. пабудаваны касцёл у Ашмянах, каля 1490 г.— у в. Гожа (Гродзенскі р-н). Зямельныя ўладанні ў Гродне атрымалі ў 1494 г. бернардзінцы, якія пабудавалі тут манастыр, у 1495 г.— віленскі епіскап. Пасля Гарадзельскай уніі Гродзенскае княства ўключана ў Трокскае ваяводства, а Навагрудскае— у Віленскае.

Пашырэнне феадальнай уласнасці на зямлю вяло да запрыгоньвання сялян у Вялікім княстве Літоўскім. Прывілей 1447 г. забараніў феадалам прымаць беглых «чужых» сялян, гарантаваў ім правы на зямельную ўласнасць і суд над залежным ад іх насельніцтвам, што дало пачатак юрыдычнаму афармленню прыгону. Каб павялічыць даходнасць феадальных маёнткаў, прымацаваць сялян да зямлі, праводзілася аграрная рэформа, так званая «валочная памера». У 1557 г. яна была аформлена законам — «Уставай на валокі». На Гродзеншчыне вымярэнне зямлі на валокі пачалося ў 1530—50-я гады ў велікакняжацкіх уладаннях і ўладаннях каралевы Боны. Рэформа садзейнічала ўсталяванню фальваркова-паншчыннай гаспадаркі. Узнікла і пашыралася фальварковая сістэма перш за ўсё на захадзе Беларусі, у т. л. на Гродзеншчыне. Панскі засевак большаў у асноўным за кошт лепшых сялянскіх зямель, захопленых пры вымярэнні на валокі. Развіццё фальварковай гаспадаркі, сельскагаспадарчыя прадукты якой ішлі пераважна на продаж, выклікала пераход ад натуральнай і грашовай рэнты да адработачнай, узмацняла запрыгоньванне сялян. Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 гг. і асабліва 1588 г. заканадаўча замацавалі прыгоннае права.

У 14—16 стагоддзях адбываўся далейшы рост гарадоў, павялічваліся іх памеры і колькасць насельніцтва. У каралеўскім прывілеі 1441 г. сярод 15 найбольш буйных гарадоў Вялікага княства Літоўскага названы Гродна і Навагрудак. На працягу 15 ст. некаторыя населеныя пункты (Ліда, Ашмяны і інш.), якія раней былі крэпасцямі, замкамі, гаспадарчымі дварамі, набылі рысы гандлёва-рамесных цэнтраў. Буйнейшыя гарады і мястэчкі Гродзеншчыны атрымалі самакіраванне ў адпаведнасці з магдэбургскім правам: Гродна з 1391 г. (няпоўнае, з 1496 г. поўнае), Ваўкавыск з 1503 г., Навагрудак з 1511 г., Слонім з 1531 г., Мір з 1579 г., Ліда з 1587 г., Любча з 1590 г., Астрына з 1641 г. Магдэбургскае права, паводле ўско-

сных звестак, мелі таксама Зэльва і Крэва і, магчыма, Ашмяны, Азёры, Масты, Пескі, Скідаль. Жыхары гарадоў займаліся рамёствамі (ганчарнае, кавальскае, ткацкае, гарбарнае, рымарнае, шавецкае, дрэваапрацоўчае). Высокага ўзроўню дасягнула мастацкая разьба па косьці, камені, дрэве, ювелірная справа. Прыкладам дасканалага майстэрства ювеліраў з'яўляецца пераплёт так званага Лаўрышаўскага евангелля 14 ст. Гараджане займаліся таксама рыбалоўствам, паляваннем, бортніцтвам, земляробствам і жывёлагадоўляй. Прынёманскія гарады ў 15—16 стагоддзях усё больш уключаліся ў сферу гандлю, у т. л. еўрапейскага. Гродзенскія купцы падтрымлівалі пастаянныя гандлёвыя сувязі з Вільняй, Коўна, Навагрудкам, Драгічынам. Праз Масты, Ваўкавыск праходзіў тракт з Вільні на Брэст, дзе перасякаліся важныя гандлёвыя шляхі, што звязалі беларускія землі з Украінай, Польшчай і паўднёвай Прыбалтыкай. Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1564—66 гг. тэрыторыя Гродзеншчыны ўваходзіла ў ваяводствы: Навагрудскае (Ваўкавыскі, Навагрудскі, Слонімскі паветы), Віленскае (Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі паветы) і Трокскае (Гродзенскі павет).

Культура Гродзеншчыны ў 13—1-й палове 14 ст. захоўвала рысы старажытнарускай і развівалася ў адносным адзінстве з усходнеславянскай, агульнаславянскай і еўрапейскай культурамі. На працягу 14—16 стагоддзяў сфарміравалася беларуская народнасць. Культура беларускага народа набыла самабытны характар, нацыянальную своеасаблівасць і з прычыны параўнальна высокага ўзроўню развіцця беларускіх зямель адыгрывала важную ролю ў Вялікім княстве Літоўскім. Беларуская мова да канца 17 ст. была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. На ёй вялося справаводства і судаводства, пісаліся статуты, граматы, сеймавыя пастановы, летапісы і хронікі, свецкія і царкоўныя творы. Бібліятэкі і цэнтры рукапіснага мастацтва ў 14—16 стагоддзях існавалі ў Гродне, Навагрудку. Сярод рукапісных кніг вылучаецца Лаўрышаўскае евангелле 14 ст., створанае ў манастыры в. Лаўрышава (Навагрудскі р-н). Ёсць меркаванні, што існаваў Навагрудскі летапіс 13 ст.

Паводле Люблінскай уніі 1569 г. Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Вялікае княства Літоўскае, у складзе якога знаходзіліся беларускія землі, захавала свае вышэйшыя органы ўлады, фінансы, войска, заканадаўства. Аднак пасля уніі на беларускіх землях актывізаваўся каталіцызм. Каталіцкія ордэны пашырылі будаўніцтва касцёлаў, кляштараў, заснавалі школы і з іх дапамогай імкнуліся акаталічыць мясцовае насельніцтва. Паводле ўмоў Брэсцкай уніі 1596 г., заключанай на царкоўным саборы, праваслаўная і каталіцкая цэрквы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай аб'ядноўваліся. Была створана уніяцкая царква на ўмовах прызнання асноўных дагматаў каталіцызму, але пры захаванні праваслаўнай абраднасці. Кіруючыя колы Польшчы і каталіцкае духавенства намерваліся з дапамогай царкоўнай уніі дэнацыяналізаваць і паланізаваць беларускі і ўкраінскі народы, замацавацца на іх землях.



*Гербы гарадоў паводле прывілеяў на магдэбургскае права і пячатак на дакументах 16—18 стагоддзяў (злева направа): Навагрудка, Ліды, Гродна, Слоніма.*

У 2-й палове 16—1-й палове 17 ст. на Гродзеншчыне ішло далейшае развіццё буйнога феадальнага землеўладання. У розны час Радзівілы валодалі Шчучынам, Мірам, Геранёнамі, былі старостамі ў Ашмянах, Лідзе; Сапегі валодалі Свіслаччу, Луннай, Зэльвай, былі старостамі ў Слоніме; Хадкевічам належала Бераставіца і Свіслач. Сялянскія надзелы скарачаліся. Да сярэдзіны 17 ст. паншчына стала асноўным відам павіннасці прыгоннага сялянства, даволі значнай была грашовая рэнта.

У 16—1-й палове 17 ст. да вялікіх гарадоў, у якіх жыло да 10 тыс. чалавек, належала Гродна, да 5 тыс.— Навагрудак, Ліда, Слонім, Ваўкавыск, да 2 тыс.— Ашмяны. Раслі і развіваліся шматлікія мястэчкі: каралеўскія (Азёры, Скідаль, Лунна), прыватнаўладальніцкія (Любча, Зэльва, Смаргонь) і царкоўныя (Жыровічы). Асновай эканамічнага развіцця гарадоў і мястэчак заставаліся рамёствы і гандаль. У Гродне да сярэдзіны 17 ст. налічвалася да 60 відаў рамеснай вытворчасці, існавала 14 цэхаў, якія аб'ядноўвалі ранеснікаў 25 прафесій. У Смаргоні працавалі рамеснікі 24 спецыяльнасцей.

Пасля Люблінскай і асабліва Брэсцкай уній на беларускіх землях узмацніўся нацыянальна-рэлігійны прыгнёт. Супраціўленне каталіцызму і уніяцтву было формай пратэсту сялян і гараджан супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, росту падаткаў, самавольстваў феадалаў. Актыўную ролю ў гэтай барацьбе адыгрывалі брацтвы, якія ў канцы 16—17 ст. узніклі ў Гродне, Слоніме, Навагрудку і інш. месцах. Брацтвы разгарнулі шырокую дзейнасць: адкрывалі школы і друкарні (Гродна, Слонім, Любча), выдавалі кнігі на беларускай мове, вялі барацьбу супраць нацыянальнага прыгнёту. Пад іх уздзеяннем гараджане выступалі супраць царкоўнай уніі і каталіцызму.

З сярэдзіны 16 ст. на Беларусі пашырыліся ідэі Рэфармацыі, да пачатку 17 ст. пратэстанцкія абшчыны існавалі ў Навагрудку, Смаргоні, Міры, Ашмянах, Іўі, Жупранах, Любчы. Сярод вядомых

дзеячаў Рэфармацыі на Гродзеншчыне быў Ян Ліцыній Намыслоўскі, рэктар арыянскай школы ў Іўі ў 1585—93 гг., які ў 1586 г. склаў і выдаў падручнік па логіцы — «Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля». За атэістычныя перакананні ў 1615 г. ён выключаны з сацыніянскай абшчыны. Атэізм прапаведаваў мысліцель-антытрынітарый Каспар Бекеш (1520—79 гг.), які жыў у Гродне.

Кнігадрукаванне, пачатае ў 1517 г. Ф. Скарынай, развівалася і на Гродзеншчыне. У пачатку 17 ст. у Любчы створана і амаль паўвека дзейнічала друкарня, дзе выпушчана больш за 50 выданняў. У 17 ст. працавала друкарня ў Гродне. Кнігі пераважна рэлігійнага характару выдаваліся на старабеларускай, стараславянскай, польскай, лацінскай мовах. Да арыгінальных твораў свецкай гістарычнай літаратуры адносяцца «Дыярыушы» беларускіх грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў-мемуарыстаў Самуіла Маскевіча (каля 1580—1642 гг.) і Багуслава Казіміра Маскевіча (1625—83 гг.), ураджэнцаў в. Сэрвач Карэліцкага р-на.

Вызваленчая вайна ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. супраць феадальна-прыгонніцкага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту ахапіла і тэрыторыю Гродзеншчыны. Жорсткія баі ў канцы 1648 г. разгарнуліся на паўднёвым захадзе Беларусі, паўстанні ўспыхнулі ў раёне Навагрудка і Слоніма. Яны пагражалі зліцца з выступленнямі сялян у Польшчы. Феадалы вымушаны былі накіраваць значныя ваенныя сілы, каб задушыць паўстанні. Войны — руска-польская (1654—67 гг.) і шведска-польская (1656—58 гг.) — прынеслі вялікія разбурэнні і велізарныя людскія страты. У пастанове сейма Рэчы Паспалітай, прынятай у 1661 г., адзначалася, што Гродзенскі павет ператвораны ў руіны і большая частка яго спалена, Слонімскі амаль датла спалены і разрабаваны, Ваўкавыскі ў многіх месцах пагарэлы і г. д.

У Паўночную вайну 1700—21 гг., якую вяла Расія супраць Швецыі за выхад да Балтыйскага мора, тэрыторыя Гродзеншчыны неаднаразова пераходзіла з рук у рукі. У пачатку 1702 г. шведскія войскі занялі і разрабавалі Гродна, navакольныя вёскі і мястэчкі, потым накіраваліся ў Польшчу. У 1705 г. каля Гродна галоўныя сілы рускай арміі (35 тыс. чалавек) злучыліся з саксонскімі войскамі (10 тыс. чалавек) саюзніка Расіі Аўгуста II (кюрфурста Саксоніі і караля Рэчы Паспалітай), якому Пётр I перадаў камандаванне ўсімі войскамі. У студзені 1706 г. шведскія войскі Карла XII пераправіліся цераз Нёман і часткова блакіравалі гарнізон рускіх у Гродне. Аўгуст II паспешліва вывеў свае войскі ў Саксонію, пазней супраць яго рушылі шведы. Каб зберагчы армію, асноўныя сілы рускіх войск адышлі з-пад Гродна. У пачатку 1708 г. шведская армія зноў уступіла ў Гродна і рушыла праз Смаргонь — Радашковічы — Мінск з мэтай разбіць рускія войскі. На тэрыторыі Гродзеншчыны шведы занялі і разбурылі Гродна, Навагрудак, Ліду, Мір, амаль поўнасцю знішчылі Масты, Жыровічы, Карэлічы. Апусцелі многія вёскі Гродзенскай каралеўскай эканоміі, дзе не засявалася амаль 70% сялянскіх зямель. У магнацкім памесці Смаргонь у 1723 г. не апрацоўвалася 33% ворнай зямлі. Многія сялянскія гаспадаркі засталіся без жывёлы.

2-я палова 17 — 1-я палова 18 ст. — перыяд глыбокага эканамічнага заняпаду Гродзеншчыны, як і ўсёй Беларусі. Толькі ў 2-й палове 18 ст. выйшла са стану разарэння большасць гарадоў і мястэчак Гродзеншчыны, павялічылася іх насельніцтва, назіраліся прыкметны ўздым сельскай гаспадаркі і агульнае эканамічнае ажыўленне, зараджаліся элементы капіталізму. У гэты час у Гродне жыло каля 6 тыс. чалавек, у Слоніме больш за 4 тыс. У 1770—80-я гады гродзенскім старостам, падскарбіем Вялікага княства Літоўскага А. Тызенгаўзам заснавана значная коль-



*Гродна. З гравюры 2-й паловы 16 ст.*

касць каралеўскіх мануфактур. Пераважная большасць іх размяшчалася ў Гродне (раён Гараднiцы) — суконная, палатняная, залататкацкая, шаўкаткацкая, панчошная, металічных вырабаў, ружэйная і інш., у Ласосне — тонкасуконная, у Азёрах (Гродзенскі р-н) — суконна-капялюшная. Дзейнічалі мануфактуры ў Карэлічах (цукровая), Слоніме (суконная) і інш. У 2-й палове 18 ст. на ткацкай мануфактуры Радзівілаў у Карэлічах (заснавана ў 2-й палове 17 ст.) створана серыя высокамастацкіх шпалер, прысвечаных роду Радзівілаў. Найбольш буйныя прадпрыемствы мелі станочнае абсталяванне. У 1767 г. па ініцыятыве магната М. Агінскага пачалося будаўніцтва канала, які праз Шчару, Ясельду і Прыпяць злучыў Нёман з Дняпром (скончана ў 1783 г.). Праз палескія балоты быў пракладзены пінска-слонімскі тракт.

У 2-й палове 18 ст. раслі попыт і цэны на збожжа і інш. сельскагаспадарчыя прадукты на ўнутраным і знешнім рынках. Зацікаўленыя ў даходах феадалы павялічвалі пасевы ў сваіх гаспадарках пераважна за кошт скарачэння зямель, якімі карысталіся сяляне. Узраслі эксплуатацыя прыгонных, паншчына. Непамерныя падаткі і павіннасці выклікалі шматлікія хваляванні. У 1750-я гады і асабліва ў 1775—77 гг. адбыліся выступленні сялян у Ялаўскім старостве Ваўкавыскага павета, для падаўлення якіх былі накіраваны войскі; многія ўдзельнікі аддадзены пад суд. У 1750, 1766, 1776 гг. супраць землеўладальнікаў выступілі сяляне Слонімскага староства, хваляванні 1771, 1781, 1785 гг. былі задушаны з дапамогай войск. У 1780 г. адбылося ўзброенае выступленне дзяржаўных сялян у в. Міжэвічы Слонімскага павета, выкліканае непамернымі падаткамі.

Феадальны і нацыянальна-рэлігійны прыгнёт, каталіцкая экспансія стрымлівалі развіццё беларускай культуры. На Гродзеншчыне, як і ў інш. месцах Беларусі, разбураліся помнікі беларускай культуры, закрываліся брацкія школы і друкарні, знішчаліся кнігі на беларускай мове і г. д.

Школьная адукацыя мела вузкасаслоўны характар. У канцы 17—18 ст. пашыраліся каталіцкія і уніяцкія школы і калегіі. Езуіты мелі школы ў Гродне, Навагрудку, піяры — у Шчучыне, Зэльве, Воранаве, Геранёнах, Лідзе, базыльяне — у Навагрудку, Жыровічах. У 1773—75 гг. створана Адукацыйная камісія — першая ў Рэчы Паспалітай установа па кіраўніцтву народнай адукацыяй, якая адкрыла школы ў Гродне, Ваўкавыску, Барунах (Ашмянскі р-н), Навагрудку, Жыровічах (Слонімскі р-н), Лідзе, Шчучыне.

У апошняй чвэрці 18 ст. на Беларусі пашыраліся ідэі асветніцтва. Значны ўплыў на развіццё прыродазнаўчай навукі ў гэты час мела дзейнасць і творы ўраджэнца Гродзенскага павета астранома і асветніка Марціна Пачобута-Адляніцкага (1728—1810 гг.), які заснаваў астранамічную школу ў Вільні. Ураджэнец Лідскага павета Казімір Нарбут (1738—1807 гг.) — прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі — выступаў за вызваленне філасофіі ад схаластыкі і багаслоўя, за развіццё навукі.

З даўніх часоў на Гродзеншчыне развівалася тэатральнае мастацтва. У 16 ст. пры праваслаўных брацтвах і езуіцкіх калегіях існавалі школьныя тэатры, у Навагрудку пры езуіцкім калегіуме. У 17—18 стагоддзях школьныя тэатры дзейнічалі таксама ў Гродне (у 1651 г. тут была пастаўлена беларуская інтэрмедыя Я. Пылінскага пра патрыярхаў Якава і Іосіфа), Слоніме, Лідзе, Жыровічах, Шчучыне, Жодзішках (Смаргонскі р-н). З 2-й паловы 18 ст. магнаты стваралі прыватныя тэатры з аркестрамі, хорамі, балетнымі і опернымі трупамі, якія камплектавалі з прыгонных сялян. У 1765 г. князь Міхал Казімір Агінскі арганізаваў у Слоніме капэлу, да 1771 г.— прыгонны тэатр, у 1781 г.— балетную школу. Сапегі мелі тэатры ў Дзярэчыне і Зэльве, Тышкевічы — у Свіслачы. А. Тызенгаўз стварыў у Гродне тэатр (1769—80 гг.) і першую (1774—80 гг.) на Беларусі і ў Польшчы тэатральную школу, якая рыхтавала пераважна танцоўшчыкаў, а таксама вакалістаў і музыкантаў.

2-я палова 17—18 ст. у Рэчы Паспалітай характарызаваліся палітычнай анархіяй, якую паглыбляла барацьба за ўладу паміж магнацкімі групоўкамі. Прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г. прывяло да ўзброенай барацьбы, у якую ўмяшаліся замежныя дзяржавы. У 1792 г. склалася так званая Таргавіцкая канфедэрацыя — часовы рэакцыйны саюз магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай, накіраваны на ліквідацыю прагрэсіўных рэформ і Канстытуцыі 1791 г. Канфедэраты пры дапамозе рускіх войск захапілі Навагрудак, Слонім і Гродна. 11.6.1792 г. пад Мірам і 3 ліпеня пад Зэльвай рускія войскі нанеслі паражэнне літоўскім войскам. У 1793 г. у выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у ліку ўз'яднаных з Расіяй зямель Беларусі была ўсходняя частка Навагрудскага ваяводства. Гродзенскі павет пасля падзелу пераўтвораны ў ваяводства. У час паўстання 1794 г. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі Гродна ў красавіку было занята паўстанцамі, якія стварылі тут мясцовае кіраванне. У красавіку — маі паўстанцы ўзялі ўладу ў свае рукі ў Ваўкавыску, Слоніме, Навагрудку, Ашмянах, Лідзе. Пасля паражэння паўстання апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Панятоўскі 23.2.1795 г. падпісаў у Гродзенскім Новым замку акт адрачэння ад трона.

У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай 1795 г. уся тэрыторыя Гродзеншчыны ўвайшла ў склад Расійскай імперыі; са снежня 1795 г. уключана ў склад Слонімскай і Віленскай губерняў, якія ў ліпені 1797 г. аб'яднаны ў Літоўскую губерню. 9.9.1801 г. утворана Гродзенская губерня, у якую ўвайшлі 8 паветаў: Гродзенскі, Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Брэсцкі, Пружанскі,

2 Зак. 744

Кобрынскі. У 1843 г. паводле новага адміністрацыйнага падзелу ў Гродзенскую губерню ўключаны Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы; перададзены Лідскі павет у Віленскую губерню, Навагрудскі — у Мінскую губерню.

Улады Расіі правялі шмат мерапрыемстваў з мэтай далучэння ўз'яднанай тэрыторыі да агульнарасійскай гаспадарчай сістэмы. На беларускія гарады, што мелі магдэбургскае права, і мястэчкі — цэнтры паветаў былі пашыраны льготы, вызначаныя Даравальнай граматай гарадам 1785 г. Мясцовыя памешчыкі, якія прысягнулі рускаму ўраду, атрымалі тыя ж правы, што і рускія дваране паводле Даравальнай граматы дваранству 1785 г., за імі пакідаліся маёнткі і прыгонныя. Адначасова, каб умацаваць свае пазіцыі на ўз'яднанай беларускай тэрыторыі, царскі ўрад раздаваў рускім дваранам былыя старосцінскія і канфіскаваныя маёнткі, каралеўскія землі, царкоўныя уладанні разам з прыгоннымі. У Гродзенскай губерні рускім памешчыкам падаравана больш за 17 700 душ сялян. Перамена ўладальнікаў не выклікала істотных змен у сацыяльным і эканамічным становішчы сялян.

Уз'яднанне беларускіх зямель з Расіяй зрабіла вялікі ўплыў на іх далейшае эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае развіццё. Уключэнне іх у агульнарасійскую гаспадарчую сістэму садзейнічала ўмацаванню гандлёвых сувязей, развіццю прамысловасці. У 1799 г. на Гродзеншчыне было 8 буйных мануфактур, з якіх 6 заснаваны пасля 1795 г. Павялічыліся пасяўныя плошчы пад збожжавымі культурамі.

12.6.1812 г. пачалася агрэсія напалеонаўскай Францыі супраць Расіі. На тэрыторыі Гродзенскай губерні ў гэты час размяшчаліся частка войск 1-й рускай арміі пад камандаваннем генерала М. Б. Барклая-дэ-Толі, якая адразу выйшла з-пад удару, і 2-я руская армія (45—48 тыс. чалавек) пад камандаваннем генерала П. І. Баграціёна. Пад націскам намнога большых сіл групы напалеонаўскіх войск (66 тыс.) пад камандаваннем Жэрома Банапарта пачалося адступленне 2-й рускай арміі, якое суправаджалася ар'ергарднымі баямі. На тэрыторыі Гродзеншчыны корпус казакоў (7 тыс.) генерала М. І. Платава вёў баі каля вёсак Гудзевічы, Закрэўшчына, Карэлічы і інш. Асабліва кровапралітныя бітвы адбыліся 27 і 28 чэрвеня каля мястэчка Мір, дзе рускія войскі разбілі напалеонаўскую дывізію генерала Ражнецкага. У ліпені — снежні 1812 г. тэрыторыя вобласці акупіравана французскімі войскамі, якія рабавалі яе гарады і мястэчкі. Супраць акупантаў разгарнулася актыўная партызанская барацьба. Партызанскія атрады дзейнічалі ў вёсках Берштэ (Шчучынскі р-н), Рось, Ізабелін (Ваўкавыскі р-н), мястэчку Свіслач і інш. У пачатку кастрычніка 1812 г. рускія войскі пад камандаваннем адмірала П. В. Чычагова пачалі вызваленне Гродзеншчыны. 8 снежня кавалерыйскі партызанскі атрад Дз. В. Давыдава вызваліў Гродна.



*Від мястэчка Свіслач. З малюнка Н. Орды. 19 ст.*

З пачатку 19 ст. узмацніўся ўплыў прагрэсіўнай грамадскай думкі Расіі і Заходняй Еўропы на перадавую інтэлігенцыю Беларусі. Дэмакратычныя сілы, асабліва студэнцкая моладзь, згуртоўваліся ў тайныя таварыствы. Так, таварыства філаматаў (1817—23 гг., Вільня), якое ставіла мэтай палітычную барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, мела філіял у Свіслацкай гімназіі. У 1825 г. афіцэры Асобнага літоўскага корпуса, які размяшчаўся ў Гродзенскай губерні, па ініцыятыве былога філамата М. І. Рукевіча і з удзелам капітана К. Г. Ігельстрома і паручніка А. І. Вегеліна стварылі тайнае рэвалюцыйнае таварыства «Ваенныя сябры», звязанае з дзекабрыстамі, інтэлігенцыяй Гродна і вучнямі свіслацкай гімназіі. «Ваенныя сябры» 24.12.1825 г. спрабавалі сарваць прысягу Мікалаю І і ўзняць паўстанне ў часцях корпуса, але пацярпелі паражэнне.

Нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1830—31 гг., якое пачалося ў Польшчы, у красавіку 1831 г. ахапіла Ашмянскі павет, у маі — раён Белавежскай пушчы, у чэрвені — Навагрудскі павет. Але шырокія масы не падтрымалі паўстання. У жніўні 1831 г. яно задушана царскімі войскамі.

Грамадскі рух у 1840-я гады, у якім, апрача шляхты, удзельнічалі дробныя чыноўнікі, ваенныя, прадстаўнікі разначыннай інтэлігенцыі, меў антыпрыгонніцкі характар. У Гродне, Ашмянах, Лідзе, Навагрудку, Слоніме дзейнічалі аддзяленні тайнай арганізацыі «Братні саюз літоўскай моладзі» (1846—49 гг.), праграма якога ўключала патрабаванні ліквідацыі саслоўных прывілеяў, вызвалення сялян ад прыгону і надзялення іх зямлёй. Да 1849 г. на Гродзеншчыне дзейнічалі філіялы тайнай арганізацыі «Саюз свабодных братоў».

Рэвалюцыйны настрой, што ахапіў частку грамадства пасля Айчыннай вайны 1812 г., закрануў і Беларусь, даў штуршок росту нацыянальнай самасвядомасці інтэлігенцыі. Значны ўклад у развіццё літаратуры, грамадска-палітычнай і эстэтычнай

думкі ў 1-й палове 19 ст. зрабілі беларускія і польскія пісьменнікі і фалькларысты А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т. Зан, мастакі Я. Траяноўскі, Ю. Карчэўскі, вучоныя А. Снядэцкі, Т. Нарбут, кампазітар М. К. Агінскі і інш., якія жылі і працавалі на Гродзеншчыне.

У 1-й палове 19 ст. Гродзенская губерня па колькасці прамысловых прадпрыемстваў займала першае месца на Беларусі. Прыгонныя і капіталістычныя мануфактуры існавалі ў Ваўкавыску (суконная, у 1828 г. 259 рабочых), у Альбярціне каля Слоніма (дывановая, у 1850 г. 70 рабочых, суконная, у 1858 г. 503 рабочыя), у Карэлічах (цукровая, у 1860 г. 120 рабочых), у Трабах (суконная, у 1813 г. 156 рабочых) і інш.

Нягледзячы на пэўнае развіццё прамысловасці, асновай эканомікі Гродзеншчыны заставалася сельская гаспадарка, якая ў 1850-я гады з-за прыгоннай сістэмы, як і ва ўсёй дзяржаве, была ў крызісным становішчы. З 1844 г. да 1857 г. у Гродзенскай губерні было 8 неўрадлівых гадоў, што ўскладніла цяжкае становішча сялян і выклікала хваляванні. У перадрэформеннае пяцігоддзе (1856—60 гг.) на тэрыторыі губерні адзначаны 24 сялянскія хваляванні.

Сялянская рэформа 1861 г. у Гродзенскай губерні праведзена на аснове Агульнага і мясцовага (для Гродзенскай, Віленскай і часткі Віцебскай губ.) палажэнняў. Сяляне атрымлівалі права на зямлю, якою карысталіся ў часы прыгону. У выпадках, калі сялянскі надзел быў большы за інвентарны (уведзены паводле інвентарных правіл у 1844—49 гг.) і калі ў памешчыка аставалася менш за 1/3 прыдатнай зямлі, дапускаліся адрэзкі.

У большасці сялянскія надзелы былі недастатковымі для вядзення самастойнай гаспадаркі. Таму ўвядзенне палажэнняў на Гродзеншчыне суправаджалася, як і ў інш. раёнах Беларусі, шырокім сялянскім рухам. У адказ на рэформу 1861 г. выступленні сялян адбыліся ў 85 маёнтках губерні. Найбольшыя хваляванні сялян былі ў Ашмянскім, Лідскім, Навагрудскім паветах, яны ахапілі каля 15 тыс. сялян і працягваліся з сярэдзіны сакавіка да пачатку красавіка 1861 г. Выступленне ў Іўеўскім маёнтку задушана ўзброенай сілай, адзін селянін забіты, больш за 100 паранена. У Слонімскім павеце хваляванні ахапілі 8 маёнткаў. У 1862 г. сяляне Гродзеншчыны аказалі масавае супраціўленне ўвядзенню ўстаўных грамат. На пачатак 1863 г. не было падпісана да 90 % грамат.

Паўстанне 1863—64 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве супраць царызму шырока разгарнулася на Гродзеншчыне. У 1861 г. К. С. Каліноўскі і В. А. Урублеўскі стварылі ў Гродне рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю. У час паўстання Каліноўскі з красавіка да чэрвеня 1863 г. быў рэвалюцыйным камісарам Гродзенскай губерні, а Урублеўскі — ваенным кіраўніком паўстанцкіх атрадаў (5 атрадаў, каля 1700 чалавек). Навагрудскую рэвалюцыйную арганізацыю ўзначальваў У. К. Борзабагаты. На Гродзеншчыне паўстанцы дзейнічалі дробнымі атрадамі і былі нячыслоўнымі, мелі падтрымку сялян. У маі — чэрвені 1863 г. яны правялі больш за 20 баёў, двойчы авалодвалі мястэчкам Свіслач, разбройвалі салдат царскай арміі. Самы вялікі бой — Мілавідская бітва — адбыўся каля в. Мілавіды Слонімскага павета. Пад націскам царскіх войск паўстанцы перайшлі з Слонімскага павета ў Ваўкавыскі, дзе былі разбіты. Зімой 1864 г. раскрыта рэвалюцыйная арганізацыя ў Гродне, летам 1864 г.— арганізацыя Навагрудскага павета. Удзельнікі паўстання жорстка пакараны.

Масавыя сялянскія хваляванні пасля абвяшчэння рэформы і паўстанне 1863—64 гг. прымусілі ўрад змяніць некаторыя ўмовы адмены прыгоннага права ў Гродзенскай і іншых заходніх губернях, якія вызначаліся найбольшым уздымам рэвалюцыйнага руху. Паводле ўказа ад 1.3.1863 г. часова абавязаныя адносіны сялян да памешчыкаў спыняліся з 1.5.1863 г., сялян пераводзілі ў разрад уласнікаў, выкупныя плацяжы зменшаны на 20 %. Але ўступкі, вырваныя рэвалюцыйным рухам, не змянілі рабаўніцкага характару рэформы.

Пасля адмены прыгону капіталізм на Беларусі, у т. л. на Гродзеншчыне, пачаў развівацца больш хуткімі тэмпамі. Павялічвалася колькасць прамысловых прадпрыемстваў, раслі гандаль, вытворчасць прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі, развіваўся транспарт. У 1862 г. пабудавана першая на Беларусі чыгуначная лінія Парэчча — Гродна (участак Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі, больш за 30 вёрст). У 1873 г. праз тэрыторыю губерні пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, у 1884 г.— Віленска-Ровенскі (праз г. Ліда), у 1886 г.— Баранавіцка-Беластоцкі ўчасткі чыгунак. Значнае развіццё атрымалі суконная, скураная, тытунёвая прамысловасць. Найбольшая частка прамысловых прадпрыемстваў была сканцэнтравана ў Гродне і Смаргоні. Да ліку буйнейшых належалі тытунёвыя фабрыкі ў Гродне (у 1900 г. 1347 рабочых, аб'ём прадукцыі склаў 2,4 млн. руб.), Ваўкавыску, Лідзе, завод хрусталю ў Лідскім павеце, шоўкакруцільныя фабрыкі ў Слонімскім і Навагрудскім паветах. У гандлёва-эканамічных сувязях важнае месца належала г. Гродна, праз які ажыццяўляўся гандаль з Украінай, Прыбалтыкай, Польшчай і замежнымі краінамі. Гродзенскі рынак быў цесна звязаны з Ваўкавыскім, Мінскім, Віленскім, Маскоўскім, Пецярбургскім рынкамі.

Нягледзячы на значныя зрухі ў развіцці прамысловасці, Гродзеншчына ў 2-й палове 19 ст. заставалася пераважна аграрным раёнам. У. І. Ленін адносіў Гродзенскую губерню канца 1880-х гадоў да ліку губерняў з перавагай капіталістычнай сістэмы ў памешчыцкай гаспадарцы. У пачатку

20 ст. буйным памешчыкам з уладаннямі 500 і больш дзесяцін належала 23,1 % усіх зямель.

З развіццём капіталізму і пераходам яго ў стадыю імперыялізму абвастрылася класавая барацьба. Першыя выступленні рабочых Гродзеншчыны адбыліся ў красавіку — маі 1876 г. на суконнай фабрыцы Пуслоўскага ў Слонімскім павеце. У хваляваннях, выкліканых цяжкімі ўмовамі працы і жыцця, удзельнічала да 400 рабочых. У верасні 1879 г. баставалі рабочыя кравецкіх майстэрняў у Гродне, якія патрабавалі скарачэння рабочага дня. У ліку найбольш буйных выступленняў гэтага часу былі стачка 1500 рабочых на будаўніцтве чыгункі паблізу мястэчка Воранава Лідскага павета (1884 г.), забастоўкі на гарбарных прадпрыемствах Ашмян і Смаргоні. У выніку забастовак у лютым, сакавіку і кастрычніку 1896 г. гарбары Ашмян дамагліся павышэння зарплаты і скарачэння рабочага дня. У 1896—1900 гг. 5 разоў баставалі гарбары Смаргоні, каб палепшыць сваё эканамічнае становішча. У верасні 1899 г. адбылася адна з буйнейшых забастовак рабочых тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага ў Гродне, у якой удзельнічалі 1200 чалавек. Рабочыя Гродзеншчыны прымалі ўдзел і ў палітычных выступленнях: у 1895 г. святкаванне 1-га Мая было арганізавана ў Гродне і Смаргоні.

У 1880—90-я гады ў Гродне, Навагрудку, Смаргоні, Лідзе створаны марксісцкія гурткі. У 1887 г. у Гродне арганізаваны першы падпольны рэвалюцыйны гурток (кіраўнікі М. А. Дземяновіч, С. Ф. Галюн). У сярэдзіне 1890-х гадоў афарміўся сацыял-дэмакратычны камітэт на чале з П. І. Шумавым. З яго левага крыла рэвалюцыйныя сацыял-дэмакраты ўтварылі ў 1897 г. Гродзенскі рабочы камітэт, які праводзіў палітычную агітацыю, выпускаў пракламацыі і адозвы, кіраваў рабочым рухам. З узнікненнем сацыял-дэмакратычных арганізацый рабочы рух станавіўся больш напружаным.

У 1903—04 гг. групы РСДРП паявіліся ў Ашмянах, Лідзе, Слоніме, Смаргоні, Гродне. Іх дзейнасцю кіраваў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП. Рэвалюцыйную работу сярод салдат вяла Гродзенская сацыял-дэмакратычная ваенная арганізацыя, якая ўзнікла ў 1902 г.

Працоўныя Гродзеншчыны прынялі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. Стачкі пратэсту супраць расстрэлу пецярбургскіх рабочых пачаліся 13.1.1905 г. у Смаргоні, 17 студзеня забаставалі рабочыя Гродна, Ваўкавыска, Ліды, Азёр, Скідаля. Забастоўкі прайшлі пад лозунгам «Далоў самадзяржаўе!». Па закліку бальшавікоў летам 1905 г. у Гродне адбыліся палітычныя стачкі салідарнасці з рэвалюцыйнымі рабочымі Іванава-Вазнясенска, Лодзі і Адэсы. У Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. удзельнічалі працоўныя фактычна ўсіх гарадоў і мястэчак. У палітычнай дэманстрацыі ў Гродне ўдзельнічала 5 тыс. рабочых, у Смаргоні рабочыя ўступілі ва ўзброеную барацьбу супраць казакоў і паліцыі. Снежаньскае ўзброенае выступленне маскоўскага пралетарыяту падтрымалі чыгуначнікі Ваўкавыска. Рэвалюцыйны рух у гэты час ахапіў таксама салдат. У лістападзе 1905 г. адбылося выступленне салдат у Гродне. Адным з асноўных іх патрабаванняў было не пасылаць салдат на задушэнне рэвалюцыйных выступленняў. Улады пакаралі 136 салдат — удзельнікаў выступлення, саслалі іх на катаргу або ў дысцыплінарныя батальёны. Па ўсёй губерні адбываліся сялянскія хваляванні. Асабліва масавымі яны былі ў Навагрудскім павеце, дзе выступленні сялян і парабкаў у чэрвені — ліпені 1905 г. і з ліпеня да восені 1906 г. мелі характар усеагульнай забастоўкі і адыгралі значную ролю ў рэвалюцыйным выхаванні сялянства. Выступленні на Гродзеншчыне працягваліся і ў 1907 г. Улетку амаль 2 месяцы змагаліся за свае правы гарбары Смаргоні і дамагліся паляпшэння ўмоў працы і жыцця.



*Дэманстрацыя рабочых у Смаргоні. Кастрычнік 1905 г.*

26.11.1907 г. праведзена аднадзённая палітычная забастоўка рабочых Гродна ў знак пратэсту супраць суда над членамі сацыял-дэмакратычнай фракцыі 2-й Дзяржаўнай думы. Забастоўку падтрымалі металісты, тэкстыльшчыкі і навучэнцы Слоніма, у ёй удзельнічалі больш за 1740 чалавек.

Рабочы клас Гродзеншчыны не спыніў рэвалюцыйнай барацьбы і ў гады рэакцыі. Найбольш працяглымі і ўпартымі ў 1908—09 гг. былі забастоўкі ў адказ на лакауты ў Свіслачы і Смаргоні, якія працягваліся амаль па 3 месяцы і скончыліся частковай перамогай рабочых.

У гады новага рэвалюцыйнага ўздыму рабочы рух набыў шырокі размах. Хваля стачачнага руху пачалася з 1911 г. Па колькасці стачак Гродзенская губерня заняла 4-е месца ў Расіі (пасля Варшаўскай, Уладзімірскай і Маскоўскай губерняў), рабочыя дамагаліся павелічэння заработнай платы, скарачэння рабочага дня, паляпшэння ўмоў працы, выступалі з палітычнымі патрабаваннямі.

У 1-ю сусветную вайну тэрыторыя губерні ў жніўні — верасні 1915 г. акупіравана кайзераўскімі войскамі. Акупанты нанеслі эканоміцы Гродзеншчыны велізарныя страты. Яны рабавалі насельніцтва, увялі прымусовыя работы, непасільныя падаткі. Працоўныя вялі барацьбу з акупантамі пад кіраўніцтвам падпольных партыйных арганізацый.

* *
*

У культурнай спадчыне Беларусі значнае месца займаюць помнікі архітэктуры і выяўленчага мастацтва Гродзеншчыны. Асаблівасці гістарычнага і эканамічнага развіцця краю на працягу стагоддзяў, цесныя кантакты з культурай Рускай дзяржавы і ў пэўнай ступені з краінамі Заходняй Еўропы ўплывалі на развіццё архітэктуры і мастацтва гэтага краю, дзе існавалі трывалыя мастацкія і будаўнічыя мясцовыя традыцыі. Тут атрымалі сваю інтэрпрэтацыю гістарычныя архітэктурна-мастацкія стылі — раманскі, готыка, рэнесанс, барока, класіцызм, мадэрн.

Архітэктура Гродзеншчыны пачала фарміравацца ў рамках Старажытнарускай дзяржавы і ўвабрала характэрныя рысы старажытнарускага дойлідства. З 12—13 стагоддзяў на тэрыторыі Верхняга Панямоння існавалі гарады Гродна, Ваўкавыск, Навагрудак, Слонім, у якіх развівалася самабытная культура. У гэты перыяд закладваліся асновы фартыфікацыйнага дойлідства і горадабудаўніцтва, а таксама манументальнай архітэктуры. Гарады ўзнікалі, як правіла, на высокіх мысах пры зліцці рэк, складаліся з умацаванага цэнтра (дзядзінца) і пасада, так званага вакольнага горада, дзе жылі рамеснікі і гандляры. У архітэктурным абліччы гарадоў галоўную ролю адыгрывалі абарончыя ўмацаванні, якія рабіліся з улікам фартыфікацыйных асаблівасцей мясцовасці. У абарончую сістэму гарадоў уваходзілі і манументальныя храмы, якія звычайна будавалі ў цэнтры дзядзінца. У 12 ст. у Гродне сфарміравалася самабытная, так званая гродзенская школа дойлідства. Захоўваючы традыцыі агульныя з архітэктурай Старажытнарускай дзяржавы, яна набыла свае адметныя рысы. З помнікаў гэтай школы ў Гродне захаваліся Барысаглебская царква па Каложскай гары (12 ст.) і Ніжняя царква на Замкавай гары (12 ст., руіны), Прачысцінская царква (12 ст., рэшткі). Будынкі вызначаліся арыгінальным вырашэннем: адносна невялікая таўшчыня апорных канструкцый, круглая і гранёная формы ўнутраных слупоў; у верхнія часткі сцен і скляпенні ўмуроўвалі керамічныя збаны-галаснікі, што паляпшала акустыку. Галоўнай асаблівасцю гродзенскай школы дойлідства была арыгінальная дэкаратыўная апрацоўка фасадаў. У роўнаслаёвыя сцены з плоскай цэглы (плінфы) умуроўваліся ўстаўкі з рознакаляровых счасаных ці адпаліраваных гранітных і гнейсавых валуноў, укрпаваліся маёлікавыя пліткі (Барысаглебская царква). Ствараліся геаметрычныя кампазіцыі з каляровых паліваных кафляў. Маёлікавыя пліты рознай формы выкарыстоўвалі і ў інтэр'еры для пакрыцця падлогі (Ніжняя царква). Амаль поўнасцю паўтарала тып Гродзенскай Ніжняй царквы складзеная з плінфы царква ў г. Ваўкавыск (не захавалася). Да помнікаў манументальнай архітэктуры гэтага перыяду належала чатырохстоўпная, зальнага тыпу царква ў Навагрудку, пабудаваная ў 12 ст. (цяпер на гэтым месцы Барысаглебская царква).

Перыяд у архітэктуры і мастацтве Гродзеншчыны з 14 да 2-й паловы 17 ст. звязаны з фарміраваннем беларускай народнасці і нацыянальных асаблівасцей яе культуры. Беларуская архітэктура гэтага перыяду развівалася ў цесным кантакце з рускім, усходнееўрапейскім і часткова заходнееўрапейскім мастацтвам, а таксама пад прамым уздзеяннем традыцый мясцовага дойлідства. Працягваўся працэс фарміравання планіровачнай структуры гарадоў. Разрасталіся пасады, іх планіроўка набывала рэгулярны характар. У 15 ст. у большасці гарадоў развіваліся 2 цэнтры: умацаваны замак і гандлёвая плошча. З 2-й паловы 16 ст. гандлёвая плошча з ратушай і крамамі стала кампазіцыйным цэнтрам, вакол якога фарміравалася гарадская забудова.

Пра характар і тыпы гарадскога жылля даюць уяўленне гравюры Гродна канца 16 і 1-й чвэрці 17 ст., карта з малюнкам Любчы 1645 г. Жылая забудова гарадоў была вельмі шчыльнай, дамы тарцовымі фасадамі ставіліся да вуліц. Пераважала драўляная забудова. Дамы простых гараджан — аднаврубныя пабудовы на падклеццях у 1,5—2 паверхі — рабілі з брусоў. Дахі былі двухсхільныя, з гонты або драніцы. Дамы заможнай часткі насельніцтва мелі больш складанае аб'ёмнае вырашэнне: узводзіліся з некалькіх зрубаў, былі 2- і 3-павярховыя, з закрытымі галерэямі на



*Лідскі замак. З малюнка Н. Орды. 19 ст.*

фасадах, кветнікамі, абгароджанымі плотам. Будаваліся дамы фахверкавага тыпу: драўляны каркас з цагляным ці глінабітным запаўненнем. Захаваліся звесткі аб існаванні ў гэты час мураваных жылых дамоў, якія ставілі ў цэнтры горада на гандлёвай плошчы (Гродна).

У 14—16 стагоддзях у архітэктуры Гродзеншчыны пашырыліся стылі готыкі і рэнесансу. Для многіх пабудоў характэрна спалучэнне 2 стыляў: канструкцыі ў формах гатычнай архітэктуры, дэкор у формах рэнесансу. Асноўным тыпам будаўніцтва заставалася абарончае. Менавіта на тэрыторыі Гродзеншчыны пашыраны найбольш старажытныя і лепшыя мураваныя замкавыя збудаванні Беларусі: замкі 13—16 стагоддзяў у Навагрудку, 1-й паловы 14 ст. у Лідзе і ў Крэве (Смаргонскі р-н), 14—16 стагоддзяў у Гродне, канца 15—пачатку 16 ст. у Геранёнах (Іўеўскі р-н), 16 ст. у Любчы (Навагрудскі р-н), 1-й паловы 17 ст. у Гальшанах (Ашмянскі р-н). Адным з выдатных помнікаў архітэктуры Беларусі з'яўляецца замак у г. п. Мір (Карэліцкі р-н), пабудаваны на рубяжы 15—16 стагоддзяў. Замкі мелі аднатыпнае планіровачнае вырашэнне: мураваныя сцены (таўшчыня 2—3 м), шмат'ярусныя абарончыя вежы і брамы, размешчаныя па перыметры. Часам адна з вежаў адводзілася пад жыллё (чатырох'ярусная вежа замка ў в. Крэва). Унутры замкавай тэрыторыі размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Пры будаўніцтве замкаў шырока выкарыстоўвалася буйнапамерная цэгла або мяшаная муроўка з цэглы і бутавага каменю, а таксама трохслойная — 2 рады цаглянай муроўкі з забутоўкай дробным каменнем на вапнавым растворы (замкі ў Навагрудку і Міры). У архітэктурна-стылявым вырашэнні замкаў прасочваюцца рысы раманскага стылю (масіўныя бутавыя сцены, аркатурныя паясы) і готыкі (зубчастыя завяршэнні вежаў, стральчатыя праёмы і інш.). У канцы 16 — пачатку 17 ст. у сістэму замкавых умацаванняў уключаліся мураваныя палацы, адбывалася трансфармацыя іх у палацава-замкавыя комплексы. Да такіх пабудоў адносяцца каралеўскі замак Стэфана Баторыя ў Гродне, палац у Мірскім замку.



*Мірскі замак. З малюнка Н. Орды. 19 ст.*

У культавай архітэктуры 14—16 стагоддзяў пашыраны храмы абарончага тыпу, так званыя цэрквы-крэпасці. Іх архітэктура мае агульныя рысы з рускімі праваслаўнымі цэрквамі. Найчасцей іх будавалі ў месцах, дзе не было фартыфікацыйных умацаванняў, яны выконвалі і культавую і абарончую функцыі. Цэрквы-крэпасці захаваліся ў вёсках Сынковічы (канец 15 — пачатак 16 ст., Зэльвенскі р-н) і Мураванка (так званая Маламажэйкаўская царква, 1-я палова 16 ст., Шчучынскі р-н). Па архітэктурна-планіровачнай структуры яны блізкія да чатырохстоўпных старажытнарускіх храмаў. Выкарыстанне элементаў абарончых збудаванняў (вуглавыя вежы з байніцамі, байніцы над скляпеннямі) унесла шмат новага ў аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю цэркваў, надало ім самабытнасць і арыгінальнасць. Па сваіх мастацка-архітэктурных асаблівасцях цэрквы-крэпасці з'яўляюцца помнікамі позняй готыкі з асобнымі дэкаратыўнымі элементамі рэнесансу. У архітэктуры Сынковіцкай царквы выкарыстаны элементы раманскага стылю: масіўныя сцены і вежы, дэкаратыўны аркатурны паясок. Асаблівасці гатычнай архітэктуры праявіліся ў аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі (высокі дах з вострым вільчыкам), канструкцыйным вырашэнні (стральчатыя праёмы, контрфорсы), а таксама ў вырашэнні інтэр'ераў цэркваў (зорчатыя або крыжовыя скляпенні з дэкаратыўнымі нервюрамі і інш.). У дэкоры фасадаў выкарыстоўваліся элементы рэнесансавай архітэктуры (разнастайныя па форме нішы).

Элементы абарончай архітэктуры характэрны і для інш. пабудоў: кальвінскі збор 16 ст. з масіўнай абарончай вежай-званіцай у Смаргоні і Барысаглебская царква 16 ст. у Навагрудку з 2 вежамі абарончага тыпу на галоўным фасадзе (перабудаваны ў 19 ст.), якая з'яўляецца прыкладам спалучэння гатычных канструкцыйных форм

(контрфорсы, зорчатыя скляпенні, стральчатыя праёмы) з дэкаратыўнымі формамі рэнесансу (трох'ярусны арачны пояс на бакавых фасадах і апсідзе). Рэфарматарскія храмы 16 ст. у Смаргоні і в. Асташына (Навагрудскі р-н, не захаваўся) — бясстоўпныя храмы, былі выкананы ў формах рэнесансу.

Традыцыі рэнесансу былі пашыраны ў дэкаратыўнай трактоўцы інтэр'ераў і надмагільнай скульптуры. У стылі рэнесансу выканана марморовае надмагілле Паўлу Сапегу і тром яго жонкам, пастаўленае ў касцёле в. Гальшаны (Ашмянскі р-н, цяпер захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР). Рэнесансавымі рысамі вызначаецца надмагілле Вольскім у касцёле в. Крамяніца Дольная (Зэльвенскі р-н).

Асноўным кірункам у мастацтве і архітэктуры 17—18 стагоддзяў было барока. Побач з рэнесансавым вырашэннем паявіліся новыя рысы: зварот да алегорыі, вытанчанае спалучэнне розных матэрыялаў, напрыклад, чорнага мармуру з залацістым пясчанікам у надмагіллі Рудаміна Дусяцкага (Навагрудак, фарны касцёл). Зараджэнне новага стылю барока можна прасачыць таксама ў кампазіцыі і дэкоры драўлянага алтара касцёла Яна ў в. Воўпа (Ваўкавыскі р-н, 1-я палова 17 ст.), у аздабленні інтэр'ера касцёла ў Іўі.

Для многіх мясцовых скульптараў і жывапісцаў прыкладам служыла высока прафесіянальнае мастацтва італьянскіх майстроў. Дэкаратыўная лепка ў інтэр'еры касцёла ў в. Міхалішкі (Астравецкі р-н) выканана пад кіраўніцтвам італьянскага мастака Перці (Пярэці). Стукавыя рэльефы гэтага касцёла належаць да лепшых на тэрыторыі Беларусі. Аднак заходнія ўзоры пераносіліся на беларускую глебу ў перапрацаваным выглядзе, з улікам мясцовых традыцый. Першыя помнікі архітэктуры барока на тэрыторыі Гродзеншчыны адносяцца да канца 16 ст. (касцёл у Гродне). Яны створаны пад уплывам італьянскай школы. У далейшым прынцыпы архітэктуры барока зліліся з мясцовымі традыцыямі папярэдніх вякоў. Помнікі гэтага стылю на Гродзеншчыне ва ўсіх тыпах будаўніцтва вельмі своеасаблівыя.

У культавым дойлідстве вылучаліся манументальныя каталіцкія кляштары і касцёлы ў Гродне, Слоніме, Жыровічах. Усе яны мелі аднатыпную планіровачную структуру. Кляштары ўяўлялі сабой ансамблі, абнесеныя, як і феадальныя замкі, магутнымі сценамі. Унутры кляштара ўтвараўся двор, вакол якога групаваліся жылыя карпусы і гаспадарчыя будынкі. Галоўным збудаваннем кляштара з'яўляўся касцёл. Найбольш значныя помнікі гэтага перыяду: кляштары бернардзінцаў і бернардзінак у Слоніме (17 ст.), кляштар брыгітак у Гродне (сярэдзіна 17 ст.), кляштар францысканцаў у в. Гальшаны (Ашмянскі р-н, 17—18 стагоддзі), касцёл у в. Міхалішкі (Астравецкі р-н, сярэдзіна 17 ст.). Для іх архітэктуры характэрны манументальнасць і вертыкальная накіраванасць кампазіцыі, масіўнасць і буйнамаштабнасць форм. Адначасова паявіліся новыя рысы: маляўнічасць аб'ёмаў, асіметрычныя вежачкі, дэкаратыўныя пілястры, складанапрафіляваныя карнізы і ліштвы. Перыяд позняга барока характарызаваўся развіццём так званага віленскага барока. Для помнікаў гэтага кірунку ўласцівы пластычнасць аб'ёмаў, ускладненасць агульнага сілуэта, своеасаблівая канфігурацыя шмат'ярусных вежаў і разнога шчыта на галоўным фасадзе, насычанасць архітэктурна-дэкаратыўнымі формамі. У гэты час у дэкоры інтэр'ераў будынкаў праяўляюцца элементы ракако. Помнікам барока з элементамі ракако з'яўляецца Гродзенскі Новы замак. У стылі ракако аформлены інтэр'ер касцёла ў в. Ішчална Шчучынскага р-на (сярэдзіна 18 ст.). Стукавая скульптура гэтых будынкаў адметна дынамічнасцю кампазіцый, павышанай экзальтацыяй персанажаў. Выключнай выразнасцю вызначаюцца ўпрыгожаныя шматфігурнымі скульптурнымі кампазіцыямі разныя драўляныя алтары і амбон езуіцкага касцёла ў Гродне. Ляпны і маляўнічы дэкор яго інтэр'ера па сваім значэнні, багацці візуальных эфектаў і мастацкай дасканаласці — унікальны помнік барока.

У аздобе інтэр'ераў шырока выкарыстоўвалася драўляная разьба, выкананая народнымі майстрамі. Найбольш яскрава гэта выявілася ў разьбе драўляных алтароў касцёлаў у вёсках Мураваная Ашмянка Ашмянскага, Струбніца Мастоўскага, Новы Двор і Васілішкі Шчучынскага р-наў і інш. Цікава аформлены інтэр'еры францысканскага і бернардзінскага касцёлаў у Гродне, касцёлаў у вёсках Баруны і Гальшаны Ашмянскага р-на.

У перыяд барока на тэрыторыі Гродзеншчыны пашыраецца палацава-сядзібнае будаўніцтва: сядзібы «Станіслававa» і «Папямунь» у Гродне, Шчорсы ў Навагрудскім р-не, палацы ў в. Свяцк (Гродзенскі р-н), Агінскага ў Слоніме (захавалася аўстэрыя), Тызенгаўза ў Гродне (не захаваўся). У архітэктуры палацаў і сядзібных дамоў выкарыстаны высокія мансардавыя дахі, цэнтральныя рызаліты з мансардай, балконы-галерэі. Унутраная планіроўка заснавана на анфіладным прынцыпе ўзаемасувязі памяшканняў з вылучэннем цэнтральнай параднай залы. Стыль барока знайшоў увасабленне ў дэкоры (лепка ў палацы Радзівілаў у Дзятлаве). Палацава-сядзібныя комплексы мелі рэгулярную планіроўку, што праяўлялася ў арганізацыі прысядзібных паркаў. Вялікая ўвага аддавалася сувязі з навакольнай прыродай. У канцы 18 ст. рэгулярныя паркі саступілі месца пейзажным, якія найчасцей ствараліся ў працэсе рэканструкцыі старых паркаў. Таму ў садова-паркавай архітэктуры гэтага перыяду сумяшчаліся элементы розных стыляў. Рысы стылю барока праяўляліся ў жылым і грамадзянскім будаўніцтве (складаная аб'ёмна-прасторавая забудова, маляўнічы сілуэт, разнастайныя дэка-

ратыўныя элементы). Жылая забудова гарадоў у асноўным заставалася драўлянай. З 18 ст. пашырылася будаўніцтва мураваных жылых дамоў або мяшанай канструкцыі, пры якой спалучаліся дрэва і цэгла. Новым тыпам жылля былі мураваныя дамы рамеснікаў і купцоў. Мураванай сцяной дамы падзяляліся на 2 паловы: вытворчую, або гандлёвую, і жылую. Уваход у першую быў з вуліцы, у другую — са двара. Галоўны фасад завяршаўся высокім франтонам, або шчытом плаўнага абрысу і меў ляпныя дэкаратыўныя элементы. Дамы гэтага тыпу ўзводзіліся ў Гродне, Навагрудку, Слоніме і іншых гарадах.

Грамадзянскае будаўніцтва, якое пашыралася, прадстаўлялі розныя тыпы пабудоў: ратушы, гандлёвыя рады, корчмы, тэатры, школы, адміністрацыйныя будынкі. Ратушы, як правіла, узводзіліся на галоўных плошчах гарадоў (Гродна, Слонім). У Гродне ратуша была пабудавана ў 16—17 стагоддзях, а ў 18 ст. узведзена новая ў комплексе з гандлёвымі радамі (не захавалася). Традыцыі ратушнага будаўніцтва трансфармаваліся нязначна, асноўныя змены ажыццяўляліся ў знешнім аздабленні, дзе ўводзіліся элементы стылю, характэрнага для эпохі. Гандлёвыя рады — прысадзістыя карпусы з унутраным гаспадарчым дваром, вылучаліся простымі манументальнымі формамі.

Пашыраным тыпам пабудоў з'яўляліся корчмы. Іх ставілі ў вёсках (найчасцей драўляныя) і ў гарадах (пераважна мураваныя), яны ўяўлялі сабой асобны комплекс: галоўны будынак з грамадскімі і жылымі памяшканнямі, а таксама асобныя карпусы гаспадарчага прызначэння — стайні, карэтная і інш. Найбольш характэрныя мураваныя корчмы ў Гродне — «Раскоша» і «Галеча» (1770-я гады, не захаваліся).

Новае будаўніцтва на Гродзеншчыне звязана з дзейнасцю А. Тызенгаўза. У 2-й палове 18 ст. з будаўніцтвам каралеўскіх мануфактур на ўскраіне Гродна (у Гарадніцы і прыгараднай вёсцы Ласосна) узнік новы ансамбль на аснове тыпавога будаўніцтва і прынцыпу рэгулярнасці. На Гарадніцы ў 1765—80 гг. узведзена 80 будынкаў, якія стварылі шэраг ансамбляў. Былі пабудаваны ветэрынарная (медыцынская), землеробчая, музычная школы, якія па сваёй архітэктуры набліжаліся да палацавых пабудоў. Складаны план і аб'ёмнае вырашэнне мела музычная школа («музычны флігель», або «Крывая афіцына»). У гэтых пабудовах спалучаліся мураваныя і драўляныя элементы: бакавыя і дваровыя сцены рабілі з брусоў, а тарцовую, што выходзіла на вуліцу, муравалі з цэглы і атынкоўвалі. Такія дамы былі абапал вуліцы Раскоша. Забудова Гарадніцы адна з першых на Беларусі, дзе выкарыстаны ідэі тыпавога жыллёвага будаўніцтва. У Варнянах жылыя дамы такога тыпу ўваходзілі ў ансамбль галоўнай плошчы разам з касцёлам і палацам. У сувязі з размахам будаўнічых работ па ініцыятыве Тызенгаўза на Гродзеншчыне была адкрыта будаўнічая школа. З 1774 г. кіраўніцтва ўсім будаўніцтвам і школай ускладзена на італьянскага архітэктара Дж. Сака, які знайшоў на Беларусі сваю другую радзіму. Палацавыя пабудовы і адміністрацыйныя будынкі на Гарадніцы з высокімі мансардавымі дахамі мелі адбітак архітэктуры барока, аднак у кампазіцыі і пластыцы галоўных фасадаў, вырашаных плоскасна з трохвугольным франтонам над цэнтральным рызалітам, сцвярджаліся прынцыпы класіцызму.

Уз'яднанне Беларусі з Расіяй аказала прагрэсіўны ўплыў на эканоміку і культуру Гродзеншчыны. З канца 18 ст. архітэктура і мастацтва краю разам з развіццём народных мясцовых традыцый характарызавалася больш цеснымі сувязямі з перадавой рускай культурай. Значныя змены адбыліся ў горадабудаўніцтве. На гарады Беларусі пашырылася дзеянне заканадаўчых актаў Расійскай імперыі, якія прадугледжвалі агульную арганізацыю гарадоў, абавязвалі забудову ў іх весці па зацверджаным плане. Забудова большасці гарадоў і мястэчак вялася з улікам радыяльнай (Ашмяны) ці лінейнай (Воранава) сістэм планіроўкі, якія склаліся гістарычна. Для буйных гарадоў Гродзеншчыны — Гродна, Навагрудка і Ліды — праектныя планы былі зацверджаны ў апошняй чвэрці 19 ст. Архітэктура гарадскога жылля ўступіла ў новы этап — тыпавое будаўніцтва, характэрнай рысай якога было спалучэнне народных традыцый з прынцыпамі архітэктуры класіцызму. У мураваных жылых дамах пашыраны класічныя франтоны, калонныя порцікі, пілястры, аконныя ліштвы (асабнякі ў Гродне і Навагрудку). У 1-й палове 19 ст. будаўніцтва прыватных дамоў вялося па зацверджаных праектах. Пазапланавая забудова ў Лідзе ў 1830-я гады стала прадметам спецыяльнага разгляду гарадскіх улад.

У вёсках пераважаў вулічны рэгулярны тып планіроўкі. Яго ўзнікненне звязана з аграрнай рэформай 1557 г., якая ахапіла каля 90 % вёсак Гродзенскай эканоміі. У сельскай забудове ўкараніўся тып аднараднага пагоннага двара, пры якім жыллё і гаспадарчыя пабудовы стваралі адзін рад, як правіла, пад агульным дахам. Пашырэнне пагоннага двара на Гродзеншчыне было абумоўлена формай зямельных участкаў — надзелаў, якія палосамі наразаліся перпендыкулярна вуліцы, а таксама этнічнымі традыцыямі.

На развіццё класіцызму ўплывала перадавая руская архітэктура, пашырэнню якой садзейнічалі пецярбургскія і маскоўскія дойліды. У гэтай сувязі варта адзначыць дзейнасць у Слоніме акадэміка архітэктуры А. Чагіна. Уплыў творчасці вядомага рускага архітэктара М. Львова адчуваецца ў архітэктуры касцёла-ратонды ў Лідзе. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя класіцыстычных пабудоў была больш кампактнай. У дамах-сядзібах пераважала плоскаснае вырашэнне фасадаў, у культа-

вым дойлідстве — тэндэнцыя да выразнага члянення аб'ёмаў па ўсёй вышыні. Традыцыйным матывам у архітэктуры станавіліся франтонныя порцікі з калонамі. Архітэктура класіцызму ўзбагаціла і формы драўлянага народнага дойлідства, садзейнічала станаўленню новых мастацкіх традыцый. У афармленні фасадаў шырока выкарыстоўваліся імправізаваныя класічныя ордэрныя дэталі, якія трансфармаваліся адпаведна тэктоніцы драўляных канструкцый. Афармленне інтэр'ераў палацаў, грамадскіх будынкаў і культавых збудаванняў з 1-й паловы 19 ст. пачало таксама падпарадкоўвацца эстэтыцы класіцызму з яе гарманічнай строгасцю форм і прапорцый. У стылі класіцызму выкананы мемарыяльны помнік вучонаму А. Снядэцкаму ў в. Гароднікі Ашмянскага р-на, размаляваны інтэр'еры касцёлаў і цэркваў у вёсках Мікелеўшчына, Дубна, Струбніца Мастоўскага р-на, зроблены драўляныя алтары ў касцёле ў в. Гудагай Астравецкага р-на, іканастасы храмаў у вёсках Бялавічы Мастоўскага, Геранёны Іўеўскага, Рось Ваўкавыскага р-наў і інш. У дэкаратыўных размалёўках 19 ст. стала пашыранай тэхніка грызайль, якая імітавала скульптурныя рэльефы, архітэктурныя формы, выкананыя ў шэрых і карычневых колерах (Троіцкі касцёл у в. Рось Ваўкавыскага р-на, царква ў в. Мікелеўшчына Мастоўскага р-на, касцёл у Ваўкавыску).

У апошняй чвэрці 19 — пачатку 20 ст. архітэктурнае аблічча гарадоў мяняецца. На Гродзеншчыне разгарнулася будаўніцтва значных прамысловых прадпрыемстваў (фабрыка «Нёман» у Гродне, піўзавод у Лідзе, суконная фабрыка ў Слоніме). Гарадскія цэнтры забудоўваліся 1—3-павярховымі мураванымі будынкамі. Аднак дзякуючы буйнамаштабнасці былых дамінантаў захоўвалася вышынна-прасторавая кампазіцыя паселішчаў, што склалася гістарычна. Новаму будаўніцтву садзейнічала развіццё чыгуначнага транспарту. Важнымі элементамі горада становяцца вакзал і вуліца, якая звязала яго з цэнтрам. Будаўніцтва вакзала ў Гродне ў канцы сучаснай вул. Ажэшкі спрыяла яе інтэнсіўнай забудове і добраўпарадкаванню. Адначасова з узнікненнем чыгунак і звязаных з імі прамысловых прадпрыемстваў стыхійна выраслі новыя раёны гарадской беднаты, якія рэзка кантраставалі з выглядам цэнтральных вуліц, што забудоўваліся раскошнымі асабнякамі буржуазіі.

У гэты перыяд архітэктура набывае эклектычныя формы. У сядзібным дойлідстве пашыраўся тып сярэдневяковага замка (сядзіба ў в. Краскі Ваўкавыскага р-на). Пры будаўніцтве цэркваў шырока выкарыстоўваліся інтэрпрэтацыі форм рускай архітэктуры 17 ст., у архітэктуры касцёлаў пераважалі гатычныя рэмінісцэнцыі, стылізацыя пад барока. У афармленні фасадаў адначасова ўжываліся традыцыйныя і новыя будаўнічыя матэрыялы: керамічныя ўстаўкі, каляровае шкло, розныя фактурныя тынкоўкі. Вялікая ўвага аддавалася апрацоўцы інтэр'ераў. Нешматлікія размалёўкі культавых збудаванняў набываюць акадэмічныя формы, імітуюцца стылі былых эпох. Аб гэтым сведчаць размалёўкі касцёлаў у вёсках Жупраны Ашмянскага, Вялікія Эйсманты Бераставіцкага р-наў, у Ваўкавыску і інш. Вядучым кірункам у архітэктуры пачатку 20 ст. становіцца стыль «мадэрн», які шырока прадстаўлены будынкамі ў Гродне (сялянска-пазямельны банк, дом Тэльгейма і інш.). Мемарыяльныя помнікі ўзводзіліся рэдка, мастацкая вартасць іх невысокая. Выключэнне складае помнік Э. Ажэшка ў Гродне (скульптар Р. Зерых), выкананы з вялікай рэалістычнай выразнасцю.

* *
*

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі актывізавалася барацьба працоўных Гродзеншчыны супраць нямецкіх акупантаў. У студзені — лютым 1918 г. амаль на ўсіх прамысловых прадпрыемствах адбыліся стачкі. Пашырыліся выступленні сялян. Рабочыя і сяляне патрабавалі дэмакратычнага міру, устанаўлення Савецкай улады, уз'яднання з Савецкай Расіяй. Барацьбу працоўных супраць акупантаў узначалілі падпольныя камуністычныя арганізацыі, якія летам і восенню 1918 г. пачалі дзейнічаць у Гродне, Ваўкавыску, Навагрудку, Лідзе, Ашмянах, Слоніме, Свіслачы і інш. У ліпені 1918 г.— студзені 1919 г. у Гродне дзейнічаў падпольны камітэт РКП(б) на чале з В. А. Багуцкім. Камітэт узначальваў падпольныя партыйныя арганізацыі Гродна і Гродзенскага павета (102 камуністы), выпускаў газету «Набат», лістоўкі, вёў палітычную работу сярод насельніцтва і нямецкіх салдат, арганізоўваў забастоўкі і мітынгі. Па ініцыятыве камуністаў 8.1.1919 г. адбылася ўсеагульная палітычная забастоўка і дэманстрацыя працоўных Гродна супраць нямецкіх інтэрвентаў; у некаторых населеных пунктах былі арганізаваны баявыя дружыны. 26.1.1919 г. створаны Савет рабочых дэпутатаў у Гродне. На тэрыторыі Гродзеншчыны шырыўся партызанскі рух. Нямецкае камандаванне было вымушана вылучыць спецыяльныя падраздзяленні для барацьбы з партызанамі ў раёне Ліды, Дзятлава, Шчучына. Пасля ануліравання 13.11.1918 г. Савецкім урадам Брэсцкага мірнага дагавора Чырвоная Армія вызваліла ў канцы 1918 — пачатку 1919 гг. усходнюю частку Гродзеншчыны, дзе была ўстаноўлена Савецкая ўлада. Саветы былі створаны ў Смаргоні, Ашмянах, Навагрудку, Слоніме, Лідзе, дзейнічалі валасныя і павятовыя рэвалюцыйныя камітэты.

1.1.1919 г. абвешчана Беларуская ССР. У яе склад увайшлі і вызваленыя паветы Гродзенскай губерні. З лютага 1919 г. у выніку стварэння Літоўска-Беларускай ССР гэтыя паветы ўключаны ў склад Мінскай губерні. Вясной 1919 г. войскі буржуазнай Польшчы, якая пачала інтэрвенцыю

супраць Савецкай Расіі, акупіравалі тэрыторыю Гродзеншчыны. Працоўныя змагаліся супраць акупантаў пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі. У ходзе савецка-польскай вайны Гродзеншчына ў ліпені 1920 г. вызвалена часцямі Чырвонай Арміі Заходняга фронту. Для ажыццяўлення рэвалюцыйных пераўтварэнняў і ўстанаўлення Савецкай улады на вызваленай тэрыторыі створаны Гродзенскі, Навагрудскі, Ашмянскі, Слонімскі, Мірскі рэўкомы. Яны падтрымлівалі рэвалюцыйны парадак і законнасць, дапамагалі фронту, бралі на ўлік фабрыкі, заводы, маёнткі.

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. тэрыторыя Заходняй Беларусі, у т. л. сучаснай Гродзенскай вобл., далучана да буржуазнай Польшчы. Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу яна ўваходзіла ў Беластоцкае (Ваўкавыскі, Гродзенскі, часткова Аўгустоўскі паветы), Віленскае (Ашмянскі павет) і Навагрудскае (Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі, Шчучынскі, часткова Валожынскі паветы) ваяводствы. У Заходняй Беларусі была аднаўлена ўлада буржуазіі і памешчыкаў, праводзілася палітыка жорсткай эксплуатацыі працоўных і нацыянальнага прыгнёту. Больш адсталая ў эканамічных адносінах Заходняя Беларусь была фактычна ператворана ў аграрны прыдатак цэнтральнай Польшчы. У прамысловасці Гродзеншчыны пераважалі дробныя прадпрыемствы па 5—20 рабочых на кожным. Да найбольшых прадпрыемстваў, на якіх працавала больш за 100 рабочых (1926 г.), належалі тытунёвая фабрыка ў Гродне, шклозавод «Нёман» у в. Бярозаўка (цяпер г. п.) Лідскага павета, фабрыка гумавых вырабаў «Ардаль» у Лідзе, кардонная фабрыка «Альбярцін» каля Слоніма, фанерная фабрыка ў Мастах і некаторыя інш. У гады эканамічнага крызісу 1929—33 гг. многія прадпрыемствы закрыты, тысячы рабочых і служачых пазбаўлены работы. На пачатак 1932 г. у Гродне налічвалася 3 тыс. беспрацоўных, у Лідзе — больш за 2 тыс., у Слоніме — больш за 500 чалавек. Цяжкім было становішча сялян. Ва ўмовах панавання буйнога землеўладання аграрнае пытанне было самым складаным. Сяляне прыгняталіся падаткамі і паўфеадальнымі павіннасцямі, беззямеллем ці малазямеллем, высокімі цэнамі на прамысловыя тавары. Так у Навагрудскім ваяводстве ў 1933 г. было 116,2 тыс. сялянскіх гаспадарак плошчай да 5 га зямлі, або 57,7 % агульнай колькасці гаспадарак, і 1030 памешчыцкіх гаспадарак плошчай больш за 100 га зямлі кожная. 5—7 % ад агульнага ліку гаспадарак складалі кулацкія. Большая палавіна кулацкіх гаспадарак належала дробнай шляхце, польскім ваенным і цывільным каланістам-асаднікам, якіх урад сяліў на землях Заходняй Беларусі (у 1921—30 гг. пасялена 4436 асаднікаў). Асаднікі былі ваенна-палітычнай апорай польскага ўрада, душыцелямі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху беларускага народа. Урад буржуазнай Польшчы праводзіў у Заходняй Беларусі вялікадзяржаўную шавіністычную палітыку прымусовай паланізацыі і выкаранення беларускай культуры. Да 1939 г. тут былі закрыты ўсе беларускія школы, гімназіі (у т. л. у Навагрудку), настаўніцкія семінарыі (у т. л. у Барунах і Свіслачы).

Працоўныя Гродзеншчыны амаль 20 гадоў вялі бесперапынную барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР. У 1921—22 гг. у Гродне, Слоніме, Ашмянах дзейнічалі арганізацыі Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, узніклі першыя камуністычныя сельскія ячэйкі. У гэты перыяд рабочыя прамысловых цэнтраў Заходняй Беларусі правялі шэраг забастовак у абарону сваіх класавых інтарэсаў. У 1921—25 гг. разгарнуўся партызанскі рух. Шырокі размах ён набыў у Навагрудскім, Слонімскім, Ашмянскім, Гродзенскім, Лідскім паветах. Пачасціліся выступленні сялян супраць памешчыкаў. Рэвалюцыйная барацьба ўзмацнілася пасля стварэння ў кастрычніку 1923 г. Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). Яна была арганізатарам і кіраўніком барацьбы працоўных, мела падпольныя друкарні, распаўсюджвала сярод насельніцтва перыядычныя выданні, пракламацыі, прапагандавала дасягненні савецкага народа ў сацыялістычным будаўніцтве. З 1924 г. падпольныя арганізацыі КПЗБ дзейнічалі ва ўсіх гарадах, многіх мястэчках і вёсках Гродзеншчыны. З 1924 г. дзейнічалі Беластоцкі, Віленскі, Гродзенскі, Навагрудскі, Слонімска-Баранавіцкі, з 1930-х гадоў — Ваўкавыскі і Лідскі акруговыя камітэты КПЗБ. Баявым памочнікам КПЗБ з'яўляўся Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ). У ліку найбольш вядомых дзеячаў КПЗБ і КСМЗБ на Гродзеншчыне былі С. В. Прытыцкі, П. Корчык (І. К. Лагіновіч), С. А. Кліпцэвіч, П. А. Жалезняковіч, У. З. Царук, Л. І. Родзевіч, Л. Р. Шайкоўскі, Л. М. Янкоўская і інш. Буйнейшымі выступленнямі працоўных Гродзеншчыны былі масавыя мітынгі і дэманстрацыі ў Гродне (1924 г.), Навагрудку (1926), Індуры (1933 г.), Вялікіх Эйсмантах (1935 г.). У 1927 г. некалькі месяцаў баставалі рабочыя запалкавай фабрыкі ў Гродне, у 1929 г.— запалкавай і фанернай фабрык у Гродне, рабочыя шклозавода «Нёман» у Бярозаўцы, лесапільнага і гарбарнага заводаў у Скідалі. Асабліва арганізаваны і ўпарты характар насіла забастовачная барацьба ў 1931—33 гг. У 1931 г. баставалі і дамагліся ўступак ад улад 300 будаўнікоў Слоніма. Буйнейшай у 1933 г. была забастоўка рабочых на фанернай фабрыцы ў Мастах, яна працягвалася каля 2 месяцаў. Масавыя дэманстрацыі беспрацоўных адбыліся ў 1931—33 гг. у Гродне, Лідзе, Слоніме, Навагрудку, Скідалі. Усюды праходзілі выступленні сялян. З іх найбуйнейшыя выступленні, якія суправаджаліся сутычкамі з паліцыяй, адбыліся ў Асташыне (Навагрудскі павет, 1932 г.), Алекшыцах (Гро-

дзенскі павет, 1926, 1930, 1931 гг.), Залессі, Русакове, Какошычах, Чапялёве (Слонімскі павет, 1933 г.) і інш. Пад кіраўніцтвам КПЗБ шырокі размах набыў нацыянальна-вызваленчы рух. Імкненнем да ўз'яднання з БССР была прасякнута дзейнасць рэвалюцыйна-дэмакратычных і нацыянальна-вызваленчых арганізацый Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ, 1925—27 гг.), «Змаганне» (1927—30 гг.), Таварыства беларускай школы (ТБШ, 1921—37 гг.). БСРГ з'яўлялася масавай арганізацыяй, якая аб'ядноўвала працоўных сялян, рабочых, гарадскую беднату, прагрэсіўную інтэлігенцыю. У студзені 1927 г. налічвала каля 120 тыс. членаў. У Слонімскім і Навагрудскім паветах было да 15 тыс. у кожным, у Гродзенскім — да 10 тыс. членаў Грамады. Павятовыя сакратарыяты «Змагання» дзейнічалі ў 1929 г. у Гродне, Лідзе, Свіслачы, Навагрудку, Ашмянах, Слоніме. Вакол іх сфарміраваўся значны актыў, звязаны з масамі працоўных. ТБШ у 1928 г. мела да 30 тыс. членаў, арганізаваных у 500 гурткоў. З 1926 г. у Гродне, Слоніме, Лідзе, Міры дзейнічалі акруговыя ўправы ТБШ.

Каб аслабіць рэвалюцыйны рух, адарваць народныя масы ад КПЗБ, улады буржуазнай Польшчы арганізоўвалі масавыя палітычныя працэсы над членамі КПЗБ і КСМЗБ, у т. л. і на Гродзеншчыне («працэс 72-х» у 1925 г., «працэс 62-х» у 1927 г., «працэс 75-і» ў 1929 г. у Гродне, «працэс 48-і» ў 1927 г. у Слоніме, «працэс 51-го» ў 1927 г. у Ваўкавыску), знявольвалі іх у турмы, у Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. Вялікі ўплыў на нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі рабіла творчасць беларускіх пісьменнікаў М. Танка, П. Пестрака, В. Таўлая, М. Васілька, Л. Родзевіча, М. Машары і інш.

Ва ўмовах наступлення фашысцкай рэакцыі і нарастання пагрозы вайны КПЗБ, у адпаведнасці з рашэннямі VII кангрэса Камінтэрна (1935 г.), накіравала сваю дзейнасць на стварэнне адзінага рабочага і антыфашысцкага фронту. Большасць выступленняў працоўных у 1935—37 гг. праходзіла пад лозунгам адзінага фронту, сведчыла аб росце салідарнасці, аб адзінстве дзеянняў розных, у т. л. непралетарскіх, слаёў насельніцтва. Забастоўка ў студзені — лютым 1936 г. на фабрыцы гумавых вырабаў у Лідзе, палітычнае кіраўніцтва якой ажыццяўляў Лідскі гарком КПЗБ, была падтрымана рабочымі ўсіх прадпрыемстваў горада і закончылася перамогай бастуючых. Масавыя першамайскія дэманстрацыі і мітынгі ў 1936 і 1937 гг. у Гродне, Ваўкавыску, Лідзе, Слоніме і інш. гарадах прайшлі пад лозунгам адзінага рабочага і антыфашысцкага народнага фронту. У іх удзельнічалі рабочыя, беспрацоўныя, рамеснікі, сяляне навакольных вёсак. Першамайскія дэманстрацыі адбыліся ў многіх мястэчках і вёсках Гродзеншчыны. 26.7.1936 г. у Гродне каля 5 тыс. чалавек удзельнічала ў мітынгу і дэманстрацыі пратэсту супраць замаху фашысцкай Германіі на




*Першамайская дэманстрацыя працоўных Гродна. 1937 г.*

тэрыторыю вольнага горада Гданска і рэакцыйнай знешняй палітыкі польскага буржуазна-памешчыцкага ўрада. Пад уплывам рабочага руху ўзмацнілася барацьба сялян супраць камасацыі (звядзенне дробных сялянскіх надзелаў у адзін зямельны ўчастак і высяленне сялян на хутары), ліквідацыі сервітутаў, канфіскацыі маёмасці за падатковую запазычанасць, прымусовых працоўных павіннасцей (шарварак). У жніўні 1937 г. адбылася адна з буйнейшых забастовак сялян Польшчы, у якой удзельнічала каля 10 млн. чалавек. Сяляне Слонімскага і Гродзенскага паветаў падтрымалі забастоўку, на мітынгах выказвалі салідарнасць з барацьбой сялян Польшчы. Шырокая хваля пратэсту ахапіла працоўных Гродзеншчыны ў сувязі з прыгаворам да пакарання смерцю сакратара Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ С. В. Прытыцкага, які па заданню ЦК КПЗБ 27.1.1936 г. у Віленскім акруговым судзе ў час судовага працэсу над 17 рэвалюцыянерамі страляў у правакатара. Актыўная барацьба працоўных Заходняй Беларусі, Польшчы, СССР, Францыі, Чэхаславакіі, ЗША, Англіі і інш. краін у абарону С. В. Прытыцкага прымусіла рэакцыю адступіць. Смяротны прыгавор быў заменены пажыццёвым турэмным зняволеннем.

Пасля нападу ў верасні 1939 г. фашысцкай Германіі на Польшчу Чырвоная Армія па распараджэнню Савецкага ўрада перайшла граніцу і ўзяла пад ахову жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Працоўныя Гродзеншчыны актыўна памагалі Чырвонай Арміі. Яшчэ да падыходу яе часцей у Гродне, Дзятлаве, Поразаве, Скідалі, іншых населеных пунктах былі створаны ваенна-рэвалюцыйныя камітэты і ўзброеныя атрады з рабочых і сялян. 17—20.9.1939 г. Гродзеншчына была вызвалена. На вызваленай тэрыторыі ствараліся гарадскія і павятовыя Часовыя ўпраўленні, у вёсках і валасцях — сялянскія камітэты, атрады Рабочай гвардыі, сялянскай добраахвотнай міліцыі. Яны вырашалі пытанні палітычнага, культурнага і гаспадарчага жыцця. 22.10.1939 г. прайшлі выбары дэпутатаў у Народны сход Заходняй Беларусі,

 які адбыўся 28—30.10.1939 г. у Беластоку. Народны сход абвясціў устанаўленне Савецкай улады на тэрыторыі Заходняй Беларусі і пастанавіў прасіць Вярхоўны Савет СССР і Вярхоўны Савет БССР прыняць Заходнюю Беларусь у склад СССР, аб'яднаць беларускі народ у адзінай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай дзяржаве. 2.11.1939 г. 5-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла закон аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з БССР. 12.11.1939 г. 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета БССР пастанавіла прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР. 4.12.1939 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі было ўтворана 5 абласцей. З утварэннем 15.10.1940 г. раёнаў тэрыторыя Гродзеншчыны ўвайшла ў склад Беластоцкай [Ваўкавыскі, Гродзенскі, Крынкаўскі (пазней Бераставіцкі), Свіслацкі, Скідальскі, Сапоцкінскі р-ны], Баранавіцкай [Валеўскі (пазней Карэліцкі), Васілішкаўскі, Воранаўскі, Дзятлаўскі, Жалудоцкі, Зэльвенскі, Іўеўскі, Казлоўшчынскі, Лідскі, Любчанскі, Мірскі, Мастоўскі, Навагрудскі, Радунскі, Слонімскі, Шчучынскі, Юрацішкаўскі р-ны], Брэсцкай (Поразаўскі р-н), Вілейскай (Астравецкі, Ашмянскі, Смаргонскі р-ны) абласцей. За кароткі час на Гродзеншчыне ажыццёўлены вялікія сацыяльныя, эканамічныя і культурныя пераўтварэнні. Да пачатку 1940 г. у Гродне пушчана 26 прамысловых прадпрыемстваў, пачалося будаўніцтва абутковай фабрыкі, фабрыкі індывідуальнага пашыву, хлебазавода, у Навагрудку ўзводзіліся будынкі хлебазавода, лазні, паліклінікі, бальніцы, фінансавага тэхнікума. Вялікія сацыяльныя пераўтварэнні адбыліся ў вёсцы. Сяляне атрымалі зямлю. У сакавіку 1940 г. у Ваўкавыскім р-не створана 5 калгасаў, у Казлоўшчынскім — 6. Да верасня 1940 г. у Слонімскім р-не было 14 калгасаў, у Скідальскім — 21, у Гродзенскім — 30. Значныя набыткі дасягнуты ў галіне асветы, культуры і медыцыны. У Гродне ў 1940 г. пачалі працаваць першая ў Заходняй Беларусі ВНУ — настаўніцкі інстытут, 6 спецыяльных вучылішчаў і тэхнікумаў, Дом мастацкай самадзейнасці, 25 бібліятэк, 3 кінатэатры, Гродзенскі рускі драматычны тэатр, музей. У Скідальскім р-не былі адкрыты раённы Дом культуры, 2 сельскія бібліятэкі, 15 хат-чытальняў, 2 бальніцы, 3 амбулаторыі, 2 фельчарскія пункты, хуткая дапамога, у 1940/41 навучальным годзе працавала 69 школ. У Слоніме пачалі дзейнічаць 3 бальніцы, радзільны дом, паліклініка, дзіцячы дыспансер і кансультацыя, хуткая дапамога, праведзены набор у двухгадовае медыцынскае вучылішча. Такія перамены адбыліся і ў іншых населеных месцах Гродзеншчыны.

Мірная стваральная праца савецкага народа была перапынена вераломным нападам 22.6.1941 г. фашысцкай Германіі на СССР. З першага дня Вялікай Айчыннай вайны Гродзеншчына стала арэнай жорсткіх баёў супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На Гродзенскім напрамку пры падтрымцы авіяцыі наступалі злучэнні нямецкіх 9-й палявой арміі і 3-й танкавай групы з групы армій «Цэнтр». Савецкія пагранічнікі і чырвонаармейцы мужна супраціўляліся ворагу. На тэрыторыі Гродзенскага р-на каля Сапоцкіна 10 гадзін адбівалі атакі намнога большых сіл праціўніка пагранічнікі 3-й заставы 86-га Аўгустоўскага пагранатрада на чале з начальнікам заставы лейтэнантам В. М. Усавым, які загінуў у гэтых баях. В. М. Усаву пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пагранічнікі заставы (каля в. Галавенчыцы )на чале з старшым лейтэнантам А. М. Сівачовым 11 гадзін стрымлівалі націск нямецка-фашысцкіх войск, знішчылі больш за 60 гітлераўцаў, спалілі 3 танкі; пагранічнікі заставы (каля в. Даргунь) пад камандаваннем старшага лейтэнанта Ф. П. Кірычэнкі змагаліся з ворагам да апошняга патрона. Амаль усе яны загінулі ў няроўных баях. Удзельнікам абароны Гродзеншчыны быў генерал-лейтэнант інжынерных войск Дз. М. Карбышаў, які напярэдадні вайны кіраваў будаўніцтвам умацаванняў каля горада. У першыя гадзіны вайны намеснік камандзіра эскадрыллі 127-га знішчальнага палка старшы палітрук А. С. Данілаў у паветраным баі каля Гродна збіў 5 самалётаў праціўніка, адзін тараніў. У выключна цяжкіх умовах вялі баі ў раёне Гродна і Беластока 3-я (камандуючы генерал-лейтэнант В. І. Кузняцоў) і 10-я (камандуючы генерал-маёр К. Дз. Голубеў) арміі. Цяжкія абарончыя баі ішлі на поўдзень ад Гродна. Стрымаўшы націск гітлераўскіх войск, савецкія войскі спрабавалі зрабіць контрудар па групоўцы, якая наступала з раёна Сувалак. Нямецкае камандаванне было вымушана дадаткова перакінуць сюды 2 армейскія карпусы. У раёне Ліды гераічна змагаліся артылерысты 8-й процітанкавай брыгады (камандзір падпалкоўнік І. С. Стральбіцкі). Некалькі дзён яны стрымлівалі на гэтым напрамку нямецкую 12-ю танкавую дывізію, знішчылі каля 60 танкаў праціўніка. Адважна змагаліся часці Чырвонай Арміі ў раёне Слоніма, Ваўкавыска. У канцы чэрвеня 1941 г., выкарыстаўшы ваенную перавагу, нямецка-фашысцкія захопнікі акупіравалі Гродзеншчыну і ўстанавілі жорсткі рэжым беззаконня, грабяжу, гвалту, крывавага тэрору. У першыя месяцы акупацыі на тэрыторыі сучаснай Гродзенскай вобл. пачалі стварацца партызанскія групы, падпольныя антыфашысцкія арганізацыі, у якія ўваходзілі члены ВКП(б), былыя члены КПЗБ, савецкія актывісты, байцы і камандзіры Чырвонай Арміі, што трапілі ў акружэнне ці ўцяклі з палону, камсамольцы, беспартыйныя. У жніўні 1941 г. пачало дзейнічаць Гродзенскае партыйна-камсамольскае падполле (6 груп; кіраўнікі М. А. Волкаў, В. Д. Разанаў, С. П. Лямаў, М. Н. Багатыроў, Р. І. Святлічны, С. П. Панасюк). У верасні 1941 г. створана Скідальскае антыфашысцкае падполле: у Скідалі 2 групы (кіраўнікі А. Ф. Манкевіч, М. М. Бедыс, С. І. Кемяжук), групы ў вёсках

Бандары (В. А. Сыты, Л. І. Зарко), Крушнікі (С. І. Таранка, М. М. Чарэвіч, В. І. Таранка, А. Р. Ушкевіч). З снежня 1941 г. дзейнічала Лідскае камуністычнае падполле (арганізатары і кіраўнікі М. М. Ігнатаў, А. А. Клімко). У маі 1942 г. на базе Васілішкаўскай, Шчучынскай, Радунскай, Скідальскай раённых арганізацый створана Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя на чале з Баранавіцкім антыфашысцкім камітэтам, у які ўваходзілі Г. М. Картухін (старшыня да ліпеня 1942 г.), А. Ф. Манкевіч (намеснік старшыні, з ліпеня 1942 г. да сакавіка 1943 г. старшыня), А. А. Патапаў (сакратар), Б. І. Гардзейчык, П. В. Жукоўскі, А. І. Іваноў. У канцы 1942 г. актыўна дзейнічалі антыфашысцкія арганізацыі ў Слонімскім, Зэльвенскім, Ваўкавыскім, Свіслацкім р-нах. З лістапада 1943 г. дзейнічала Беластоцкая абласная антыфашысцкая арганізацыя, што ўзнікла на базе асобных антыфашысцкіх арганізацый і груп; у ліку іншых раёнаў яе дзейнасць ахоплівала Гродзенскі і Ваўкавыскі р-ны. Актыўную ролю ў яе рабоце адыгралі В. Е. Самуцін, Д. К. Сукачоў (старшыня камітэта), Я. Р. Бонк, І. С. Целеш і інш. Камуністычнае падполле, партызанскую барацьбу на тэрыторыі Гродзеншчыны супраць акупантаў узначальвалі падпольныя абкомы КП(б)Б: Баранавіцкі (сакавік 1943 г.— ліпень 1944 г.; сакратары В. Я. Чарнышоў, Ф. А. Баранаў), Вілейскі (28.5.1943 г.— ліпень 1944 г.; сакратары І. Ф. Клімаў, А. А. Манахаў), Беластоцкі (27.7.1943 г.— ліпень 1944 г.; сакратар В. Е. Самуцін). Пад іх кіраўніцтвам на Гродзеншчыне дзейнічалі: міжрайпартцэнтры Лідскі (25.4—19.12.1943 г.; кіраўнік Я. Д. Гапееў), Слонімскі (14.8 — снежань 1943 г.; кіраўнік М. Т. Анішчык), Стаўбцоўскі (2.10—19.12.1943 г.; кіраўнік У. З. Царук), Шчучынскі (18.4—снежань 1943 г.; кіраўнік С. П. Шупеня); Лідскі падпольны гарком-райком КП(б)Б (верасень 1943 г.— 7.7.1944 г.; сакратар Я. Д. Гапееў); 21 падпольны райком КП(б)Б. Разам з партыйнымі падпольнымі органамі і пад іх кіраўніцтвам дзейнічалі камсамольскія падпольныя органы: Баранавіцкі (красавік 1943 г.— 10.7.1944 г.; сакратары А. К. Рыбакоў, Ф. А. Башкінцаў), Беластоцкі (чэрвень 1943 г.— 15.7.1944 г.; сакратары Т. М. Стрыжак, П. І. Папоў, В. А. Чыстова), Вілейскі (15.4.1943 г.— 5.7.1944 г.; сакратары П. М. Альшанскі, П. М. Машэраў, В. І. Шымановіч) падпольныя абкомы ЛКСМБ, а таксама 25 райкомаў, 3 міжраённыя цэнтры ЛКСМБ, гарком, гарком-райком. Стварэнне і пашырэнне сеткі партыйных і камсамольскіх арганізацый, узмацненне партыйнага кіраўніцтва партызанскім рухам садзейнічалі росту партызанскіх фарміраванняў. У красавіку 1942 г. створаны партызанскі атрад № 96 («Кастрычніцкі»), які дзейнічаў у Навагрудскім і Дзятлаўскім р-нах, у маі — партызанскія атрады імя М. В. Фрунзе ў Карэліцкім і Арлянскі («Барацьба») у Дзятлаўскім р-нах, у чэрвені — партызанскі атрад імя В. І. Чапаева, што дзейнічаў у Мірскім і Карэліцкім р-нах, у ліпені — партызанскія атрады імя 1 Мая ў Карэліцкім р-не і «Іскра» ў Лідскім р-не; у верасні 1942 г. у Мірскім р-не з груп моладзі створаны партызанскі атрад «Камсамолец» і інш. На базе атрадаў ствараліся партызанскія брыгады, якія з 1943 г. сталі пераважнай формай арганізацыі партызанскіх сіл. На Гродзеншчыне дзейнічалі партызанскія брыгады: Ленінская (створана ў снежні 1942 г., камандзіры Ф. М. Сінічкін, Б. А. Булат, Г. А. Шубін, камісар Р. В. Макараў), Першамайская (створана ў маі 1943 г., камандзір Н. Г. Кавалёў, камісары А. І. Дзеяў, М. І. Ільініч), імя С. М. Кірава (створана ў чэрвені 1943 г., камандзіры Ф. М. Сінічкін, С. П. Васільеў, камісар С. М. Кандакоў), 1-я Баранавіцкая (створана ў лістападзе 1943 г., камандзір С. Ф. Бубін, камісар М. Ц. Цяцерын), «Камсамолец» (створана ў снежні 1943 г., камандзіры І. К. Кузняцоў, Р. М. Панявін, камісар А. І. Дзеяў), імя В. І. Чапаева (створана ў снежні 1943 г., камандзір Р. Л. Кудрын, камісар П. А. Склемін), «25 гадоў БССР» (створана ў снежні 1943 г., камандзір Б. А. Мічурын, камісар



*Партызаны атрада «Грозны» брыгады «25 гадоў БССР» прымаюць прысягу. Вясна 1944 г.*



*Партызаны атрада «Іскра» брыгады імя С. М. Кірава абмяркоўваюць план баявой аперацыі.*



*Воіны Чырвонай Арміі фарсіруюць р. Нёман у раёне Гродна. 1944 г.*

П. І. Смірноў) і інш.; брыгады ўваходзілі ў партызанскія злучэнні. На тэрыторыі сучаснай Гродзенскай вобл. дзейнічалі партызанскія злучэнні: Баранавіцкай (у складзе яго тэрытарыяльныя міжраённыя партызанскія злучэнні Шчучынскай, Лідскай, Слонімскай, Стаўбцоўскай зон) і Беластоцкай абласцей. Усяго на тэрыторыі Гродзеншчыны дзейнічалі 26 партызанскіх брыгад і 9 асобных партызанскіх атрадаў, якія на 1.7.1944 г. налічвалі больш за 17 тыс. чалавек; выходзіла каля 20 падпольных газет — органаў партыйных, камсамольскіх, антыфашысцкіх камітэтаў. Па няпоўных звестках за 3 гады партызанамі, падпольшчыкамі, спецыяльнымі дыверсійнымі групамі на тэрыторыі Гродзеншчыны знішчана больш за 62 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 6 самалётаў, 138 танкаў, 1028 аўтамашын, узарвана больш за 1 тыс. эшалонаў з ваеннымі грузамі і жывой сілай праціўніка, 1134 масты. Б. А. Булату, Ф. Р. Маркаву, Ф. М. Сінічкіну, У. З. Царуку, В. Я. Чарнышову прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Гродзеншчына вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. на другім этапе Беларускай аперацыі, у ходзе Баранавіцка-Слонімскай аперацыі (5—16 ліпеня) войскамі 1-га Беларускага фронту (камандуючы Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі), Беластоцкай аперацыі (5—27 ліпеня) войскамі 2-га Беларускага фронту (камандуючы генерал-палкоўнік Г. Ф. Захараў) і Вільнюскай аперацыі (5—20 ліпеня) войскамі 3-га Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі І. Д. Чарняхоўскі). Удзельнічалі арміі: 28-я (генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі), 48-я (генерал-лейтэнант П. Л. Раманенка), 65-я (генерал-палкоўнік П. І. Батаў), 16-я паветраная (генерал-палкоўнік авіяцыі С. І. Рудэнка), конна-механізаваная група (генерал-лейтэнант І. А. Плііеў) — 1-ы Беларускі фронт; 3-я (генерал-палкоўнік А. В. Гарбатаў), 49-я (генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын), 50-я (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін), 4-я паветраная (генерал-палкоўнік авіяцыі К. А. Вяршынін) — 2-і Беларускі фронт; 5-я (генерал-лейтэнант М. І. Крылоў), 11-я гвардзейская (генерал-лейтэнант К. М. Галіцкі), 5-я гвардзейская танкавая (Маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў), 1-я паветраная (генерал-палкоўнік авіяцыі Ц. Ц. Хрукін), 3-і гвардзейскі механізаваны корпус (генерал-лейтэнант танкавых войск В. Ц. Абухоў) — 3-і Беларускі фронт. 10 ліпеня вызвалены Слонім,



*Від на Гродна ад р. Нёман.*

14 ліпеня — Ваўкавыск, 16 ліпеня — Гродна. 11 злучэнням і часцям Чырвонай Арміі нададзены ганаровыя найменні «Ваўкавыскіх», 17 — «Гродзенскіх», 4 — «Лідскіх», 11 — «Слонімскіх». У баях за вызваленне Гродзеншчыны актыўны ўдзел прымалі партызаны.

За час акупацыі нямецка-фашысцкія захопнікі нанеслі вобласці вялікія людскія і матэрыяльныя страты. У Гродне і раёне загубілі 51 438 чалавек, у т. л. у лагерах Фолюш, Калбасіна 33 тыс. мірных жыхароў і ваеннапалонных, у Слонімскім р-не — 42 тыс. чалавек. Усяго на тэрыторыі вобласці гітлераўцы загубілі 176 530 чалавек. Акупанты разрабавалі маёмасць усіх калгасаў, саўгасаў і МТС, на 80 % разбурылі Ліду, Ваўкавыск, на 30—40 % — Гродна, Слонім, Навагрудак, знішчылі больш за 120 буйных прамысловых прадпрыемстваў. Карнікі спалілі разам з насельніцтвам 24 вёскі, 5 з іх не адрадзіліся.

Пасля вызвалення тэрыторыі Гродзеншчыны ад нямецка-фашысцкіх акупантаў пачалося пад кіраўніцтвам партыйных органаў і з дапамогай усіх народаў краіны аднаўленне народнай гаспадаркі. 20.9.1944 г. утворана Гродзенская вобл. У яе склад увайшлі раёны: Бераставіцкі, Васілішкаўскі, Ваўкавыскі, Воранаўскі, Гродзенскі, Жалудоцкі, Зэльвенскі, Лідскі, Мастоўскі, Поразаўскі, Радунскі, Сапоцкінскі, Свіслацкі, Скідальскі і Шчучынскі. 8.1.1954 г. далучаны Дзятлаўскі, Казлоўшчынскі, Карэліцкі, Любчанскі, Мірскі, Навагрудскі, Слонімскі р-ны былой Баранавіцкай вобл., у студзені 1960 г.— Астравецкі, Ашмянскі, Смаргонскі і Юрацішкаўскі р-ны былой Маладзечанскай вобл.

За кароткі тэрмін была адноўлена прамысловасць вобласці. У 1950 г. узровень вытворчасці 1940 г. перасягнуты на 70 %. За гады першых пасляваенных пяцігодак пабудаваны, рэканструяваны і расшыраны тонкасуконны камбінат, швейная і абутковая фабрыкі ў Гродне, ліцейна-механічны і цэментны заводы ў Ваўкавыску, абутковая фабрыка і завод сельскагаспадарчых машын у Лідзе, цукровы завод у Скідалі і інш. Глыбокія сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні адбыліся ў вёсцы. Да 1952 г. завершана калектывізацыя сельскай гаспадаркі.

З першых дзён вызвалення пачалося аднаўленне, а затым рэканструкцыя і далейшае развіццё гарадоў вобласці. Першы пасляваенны этап развіцця архітэктуры і будаўніцтва (1945—56 гг.) характарызуецца на Гродзеншчыне распрацоўкай генеральных планаў асобных гарадоў, пераважна прамысловых цэнтраў. Праекты ствараліся з улікам планіроўкі гарадоў, што гістарычна склалася, прадугледжваліся мерапрыемствы па карэннай рэканструкцыі, паляпшэнню планіровачнай структуры. Асаблівая ўвага звярталася на функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, кампазіцыйную выразнасць плана, выкарыстанне прыродных умоў, на стварэнне новых гарадскіх цэнтраў. Вядучымі праектнымі арганізацыямі рэспублікі ў гэты час распрацаваны генеральныя планы аднаўлення і развіцця Гродна, Мастоў (Гродзенскі аблпраект), Ліды, Ваўкавыска, Навагрудка (Белдзяржпраект), Смаргоні, Ашмян (Белдзіпрасельбуд) і многіх іншых гарадоў і пасёлкаў вобласці, што дазволіла весці планамерную работу па іх аднаўленню і рэканструкцыі. У сярэдзіне 1950-х гадоў у сувязі з масавым будаўніцтвам грамадскіх будынкаў асаблівая ўвага аддавалася распрацоўцы праектаў забудовы адміністрацыйна-грамадскіх цэнтраў. Размяшчэнне будынкаў райкомаў, райвыканкомаў, Дамоў культуры на галоўных плошчах садзейнічала вылучэнню горадафарміруючай ролі цэнтраў у планіровачнай структуры гарадоў. У гэты час пачалася рэканструкцыя цэнтраў Ваўкавыска, Навагрудка, Слоніма і інш. Цікавым прыкладам вырашэння цэнтральнага ансамбля можа служыць плошча імя Леніна ў Ваўкавыску, якую фарміруюць будынкі Дома культу-



*Слонім. Вуліца Чырвонаармейская.*



*Ліда. Фрагмент сучаснай забудовы.*

ры і кінатэатра, універмага, прадуктовага магазіна і рэстарана «Ваўкавыск».

Другі этап развіцця архітэктуры і будаўніцтва з 2-й паловы 1950-х гадоў адкрыў шырокія перспектывы для развіцця горадабудаўніцтва. Галоўным кірункам стала забудова вялікіх жылых масіваў пераважна на свабодных гарадскіх тэрыторыях. Асноўнымі структурнымі элементамі жылых зон гарадоў сталі жылыя раёны і мікрараёны. Шырокая сетка домабудаўнічых камбінатаў і іншых прадпрыемстваў будаўнічай індустрыі дала магчымасць на аснове тыпавых праектаў разгарнуць буйнаблочнае і буйнапанельнае будаўніцтва. З пачатку 1960-х гадоў у Гродне забудоўваўся мікрараён па вул. Горкага, з сярэдзіны 1960-х гадоў вялася комплексная забудова вялікіх жылых раёнаў па вул. Савецкіх пагранічнікаў і ў Паўночным р-не. Побач з жыллём узводзіліся аб'екты культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва. Прыкладамі індустрыяльнага домабудавання гэтага перыяду можа служыць таксама забудова мікрараёнаў па вул. Сацыялістычнай у Ваўкавыску, па вул. Савецкай у Смаргоні, па вул. Леніна ў Лідзе, Раднікі ў Навагрудку і шмат інш.

Агульная схема размяшчэння прадукцыйных сіл рэспублікі вызначыла напрамкі далейшага развіцця гарадоў. Створаныя на яе аснове новыя генеральныя планы для многіх гарадоў вобласці рэалізавалі перадавыя тэндэнцыі савецкага горадабудаўніцтва: праектаванне вялося паралельна з распрацоўкамі раённай планіроўкі, узбуйняўся маштаб планіровачнага раянавання, большае значэнне надавалася праектаванню водна-зялёных сістэм і ўвязцы іх з зонамі адпачынку. Асаблівая ўвага аддавалася праектаванню гарадскіх цэнтраў, якія вырашаліся як развітыя прасторавыя сістэмы, звязаныя з усімі раёнамі горада. Такія планы былі выкананы Белдзяржпраектам для Гродна (1963 г.), Слоніма (1963 г.), Ліды (1963 г.), Навагрудка (1964 г.) і інш.

Зыходзячы з рацыянальнага выкарыстання прыродных сыравінных і працоўных рэсурсаў былі вызначаны кірункі развіцця вядучых галін народнай гаспадаркі вобласці. Асноўнымі галінамі прамысловасці станавіліся машынабудаванне і металаапрацоўка, хімічная і лёгкая прамысловасць; пачалося будаўніцтва буйных прадпрыемстваў. Намеціўся пераход ад праектавання і будаўніцтва асобных прамысловых прадпрыемстваў да стварэння прамысловых вузлоў і комплексаў — аб'яднанне прадпрыемстваў на агульнай тэрыторыі з кааперацыяй дапаможных і падсобных службаў, інжынерных камунікацый, транспартнай гаспадаркі. Прыкладам комплекснай забудовы можа служыць буйны аб'ект хімічнай прамысловасці — Гродзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот» імя С. В. Прытыцкага. Асаблівасцю прамысловых вузлоў з'яўляецца іх зручная сувязь з цэнтрамі культурна-бытавога абслугоўвання, якія ўключаюць Дамы культуры, бібліятэкі, школы, магазіны і сталовыя, паліклінікі, прафілакторыі, спартыўныя залы і басейны. Гэтыя цэнтры разлічаны на абслугоўванне прамысловых і навакольных жылых раёнаў. Вядзецца будаўніцтва шэрагу прамысловых вузлоў у сярэдніх і малых гарадах, што садзейнічае іх развіццю.

Да 1973 г. закончана распрацоўка і карэкціроўка генпланаў для 9 гарадоў і 22 гарадскіх пасёлкаў вобласці. Для Гродна ажыццёўлены дэталёвая планіроўка і забудова цэнтра, жылога раёна Дзевятаўка, эксперыментальнае праектаванне Прынёманскага р-на. Распрацаваны праекты забудовы магістралі Поўнач — Поўдзень, плошчы Прывакзальнай і праспекта Касманаўтаў, набярэжнай Нёмана, планіроўкі гарадскога парку (былога батанічнага сада) і загараднай зоны адпачынку, а таксама 3 прамысловых вузлоў. Ліда — другі па велічыні горад вобласці — прамысловы і культурны цэнтр усходняй групы раёнаў. Існуючая планіровачная структура горада абумоўлена забудовай, якая склалася гістарычна, а таксама расчлянёнасцю горада чыгуначнымі і аўтамабільнымі магістралямі. Навагрудак — адзін з цікавых гарадоў Беларусі паводле свайго геаграфічнага становішча, гістарычнага мінулага і сучаснага аблічча. Багатая гісторыка-архітэктурная спадчына, што тут захавалася, вызначыла яго як рэгіянальны цэнтр турысцкага характару. Смаргонь, размешчаная на чыгуначнай і аўтамабільнай магістралях, мае неабходныя свабодныя тэрыто-



*Галоўны корпус санаторыя «Наваельня».*

рыі, што дазволіла разгарнуць тут буйное прамысловае будаўніцтва (завод жалезабетонных вырабаў, камбінат сілікатабетонных вырабаў і інш.). Павялічыўся аб'ём жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва. Горад становіцца значным прамысловым цэнтрам. Слонім, размешчаны ў заходняй частцы вобласці на р. Шчара,— адзін з буйнейшых раённых цэнтраў Беларусі з развітой мясцовай прамысловасцю, у некаторых яго частках захавалася аблічча старога горада.

Актуальнай праблемай горадабудаўніцтва на сучасным этапе з'яўляецца далейшае развіццё і рэканструкцыя цэнтраў гарадоў, выкліканая іх ростам і павышэннем іх ролі ў эканамічным, палітычным і культурным жыцці. Вялікія работы па рэканструкцыі цэнтра, упарадкаванню функцыянальнага заніравання тэрыторыі разгарнуліся ў Гродне. Тут рэканструяваны плошчы імя Леніна і Дзекабрыстаў, вуліцы Савецкіх пагранічнікаў і Горкага, праспект Касманаўтаў, завяршаецца рэканструкцыя вуліц Кірава, Карбышава, Чапаева і інш. Прыкладам найбольш удалай забудовы галоўных магістралей іншых гарадоў вобласці з'яўляюцца вуліцы Леніна і Савецкая ў Лідзе, Савецкая ў Навагрудку, Савецкая ў Смаргоні.

Вялікая ўвага пры рэканструкцыі цэнтраў аддаецца рэгенерацыі раёнаў каштоўнай гістарычнай забудовы. Рэстаўрыруюцца не толькі асобныя будынкі, а і цэлыя архітэктурныя ансамблі, кварталы, плошчы і вуліцы, што скላліся гістарычна, а таксама звязаныя з імі творы манументальнага, выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога, садова-паркавага мастацтва і прыродныя ландшафты (Гродна, Навагрудак, Слонім, Ліда, Ваўкавыск і інш.). У выніку рэгенерацыі Савецкая вуліца ў Гродне набыла функцыю галоўнай пешаходнай камунікацыі цэнтра горада. У Лідзе ажыццяўляецца рэканструкцыя гістарычнай зоны — Замкавай Гары.

Карэнныя змены ў побыце вёскі наклалі адбітак на планіроўку сядзіб і аблічча жылля. З канца 1960-х гадоў пачалося будаўніцтва эксперыментальна-паказальных вёсак, дзе па-новаму вырашаюцца функцыянальныя і сацыяльныя задачы. Так, пасёлак Верцялішкі калгаса «Прагрэс» Гродзенскага р-на спраектаваны на свабоднай тэрыторыі, размешчанай паблізу аўтамагістралі, каля якой узведзены грамадскі цэнтр і зона шматкватэрнай бессядзібнай забудовы. Да цэнтра прылягае жылая зона капітальнай забудовы з кватэрамі ў двух узроўнях з невялікімі ўчасткамі. За ёю сфарміравана зона індывідуальнай забудовы з прысядзібнымі ўчасткамі. Пры планіроўцы пасёлка выкарыстаны квартальны і групавы метады размяшчэння забудовы. Адзначаныя асаблівасці арганізацыі жылых зон характэрны і для вёсак Вялікія Эйсманты Бераставіцкага, Луцкаўляны Гродзенскага, Геранёны Іўеўскага, Новы Двор Шчучынскага р-наў



*Забудова бульвара 60-годдзе Кастрычніка ў Гродне.*

і інш. Вар'іраванне розных элементаў аддзелкі і дэкору робяць забудову больш разнастайнай па мастацкім абліччы, захоўваючы рысы індывідуальнасці. Выкарыстоўваюцца рэльефныя і колерныя ўстаўкі тэматычнага і арнаментальнага характару. Павышэнню эстэтычных якасцей архітэктуры сельскага жылля ў многім садзейнічае актыўнае засваенне традыцыйных прыёмаў народнага дойлідства. Важнае месца ў фарміраванні архітэктурна-прасторавага асяроддзя сельскіх населеных пунктаў адводзіцца адміністрацыйна-гандлёва-грамадскаму цэнтру, які выконвае функцыі па абслугоўванню насельніцтва і фарміруе аблічча пасёлка ў цэлым. У некаторых пасёлках асноўным элементам цэнтра з'яўляюцца будынкі культурна-асветных устаноў, напрыклад, Палац культуры на галоўнай сядзібе калгаса імя А. М. Варанецкага ў в. Вялікія Эйсманты Бераставіцкага р-на і інш.

У пасляваенныя гады на Гродзеншчыне хутка развіваецца манументальнае мастацтва. У гарадах, іншых населеных месцах вобласці пастаўлены помнікі дзеячам рэвалюцыйнага руху, навукі, літаратуры і мастацтва, у гонар найважнейшых гістарычных падзей, велічнага подзвігу савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. Устаноўлены помнікі правадыру сусветнага пралетарыяту і стваральніку Савецкай дзяржавы У. І. Леніну. Арыгінальнасцю вызначаюцца помнікі У. І. Лені-



*Гандлёвы цэнтр у в. Гожа Гродзенскага раёна.*

3 Зак. 744

 ну ў Гродне і Скідалі. У гонар знамянальных падзей насыпаны курганы, створаны скульптурныя кампазіцыі, пастаўлены стэлы, абеліскі і інш. У многіх населеных пунктах устаноўлены помнікі землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну [вылучаюцца помнікі ў в. Гасцілаўцы (Лідскі р-н), у в. Гліняны (Гродзенскі р-н)]. Значнае месца займаюць партрэтныя помнікі. Сярод іх — бюсты Героя Савецкага Саюза Маршала Савецкага Саюза В. Д. Сакалоўскага і Героя Савецкага Саюза генерал-лейтэнанта Дз. М. Карбышава ў Гродне, сакратара Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ В. І. Соламавай у в. Лаша (Гродзенскі р-н), партызанкі Л. А. Сечка ў г. п. Любча (Навагрудскі р-н). Вылучаюцца помнікі сакратару Гродзенскага падпольнага райкома КПЗБ М. П. Арцюху ў г. п. Карэлічы, рускаму палкаводцу герою Айчыннай вайны 1812 г. П. І. Баграціёну ў Ваўкавыску, беларускаму рэвалюцыянеру-дэмакрату, кіраўніку паўстання 1863—64 гг. К. Каліноўскаму ў г. п. Свіслач, беларускай паэтэсе Цётцы (Алаізе Пашкевіч) у г. п. Астрына (Шчучынскі р-н), беларускаму паэту і публіцысту Ф. Багушэвічу ў в. Жупраны (Ашмянскі р-н). Цікавым паводле мастацка-архітэктурнага вырашэння з'яўляецца помнік у гонар 850-годдзя Гродна. Помнікі, як правіла, гарманіруюць з прыродным і архітэктурным наваколлем і надаюць населеным пунктам ідэйна-мастацкі акцэнт. У стварэнні помнікаў удзельнічалі беларускія скульптары З. Азгур, В. Даненкаў, Л. Зільбер, Г. Мурамцаў, А. Салятыцкі, В. Церабун і інш.

Гродзенская вобл. сёння — край высокаразвітай буйной прамысловасці і перадавой сельскай гаспадаркі. Каля 200 прамысловых прадпрыемстваў выпрацоўваюць электраэнергію, выпускаюць кавальска-прэсавае абсталяванне, сельскагаспадарчыя машыны, вузлы і дэталі да аўтамабіляў, паперу, кардон, будаўнічыя матэрыялы, тканіны, абутак, харчовыя прадукты і інш. У вобласці развіты машынабудаванне і металаапрацоўка (заводы сельскагаспадарчых машын у Лідзе, «Радыёпрылада», карданных валоў, аўтамабільных агрэгатаў, гандлёвага машынабудавання, тэхналагічнай аснасткі ў Гродне, металаапрацоўчае вытворчае аб'яднанне і завод газавай апаратуры ў Навагрудку, заводы ліцейнага абсталявання, металавырабаў у Ваўкавыску, маторарамонтны ў Слоніме, «Аўтапровад» у Шчучыне і інш.). Высокага ўзроўню дасягнула хімічная прамысловасць (вытворчыя аб'яднанні «Азот» імя С. В. Прытыцкага, «Хімвалакно» імя 60-годдзя СССР у Гродне, лакафарбавы ў Лідзе і інш.). Працуюць прадпрыемствы прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (аб'яднанне «Ваўкавыскцэментнашыфер», заводы зборнага жалезабетону, буйнапанельнага домабудавання, жалезабетонных канструкцый, камбінат будаўнічых матэрыялаў у Гродне, завод жалезабетонных вырабаў у Лідзе, вытворчае аб'яднанне «Смаргоньсілікатабетон» і інш.) і дрэваапрацоўчай (вытворчыя дрэваапрацоўчыя аб'яднанні ў Мастах, Гродне і Лідзе, лесазаводы ў Смаргоні і Поразаве і інш.). Развіты галіны лёгкай прамысловасці: гарбарна-абутковая, тэкстыльная, швейная (гарбарны завод у Гродне, абутковыя фабрыкі ў Гродне і Лідзе, тонкасуконны і прадзільна-ніточнае аб'яднанне імя 25-га з'езда КПСС у Гродне, камвольна-прадзільная фабрыка ў Слоніме і інш.). Вядомы шклозавод «Нёман» (рабочы пасёлак Бярозаўка Лідскага р-на), шклозавод у Гродне. Да ліку буйнейшых прадпрыемстваў харчовай прамысловасці ў вобласці належаць вытворчае аб'яднанне харчоваканцэнтратнай прамысловасці і малочнакансервавы камбінат у Лідзе, малочнакансервавы камбінат дзіцячых прадуктаў у Ваўкавыску, цукровы камбінат у Скідалі, мясакамбінаты ў Гродне, Лідзе, Слоніме, Ваўкавыску, вытворчае аб'яднанне «Лідапівапром», камбінаты хлебапрадуктаў у Скідалі, Лідзе. Працуюць прадпрыемствы па перапрацоўцы малака, агародніны, садавіны. Сельская гаспадарка большай часткі вобласці спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі і свінагадоўлі ў спалучэнні з ільнаводствам і буракаводствам.



*Гродзенскі завод аўтамабільных агрэгатаў.*



*Будынак Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.*

У культурным будаўніцтве асабліва вялікіх поспехаў дасягнула вобласць у пасляваенны перыяд. Працуюць (1984 г.) універсітэт, медыцынскі і сельскагаспадарчы інстытуты, Аддзел рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР (усе ў Гродне), 879 агульнаадукацыйных школ усіх відаў, 27 прафесійна-тэхнічных вучылішч, 19 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, 1054 масавыя бібліятэкі, 947 клубных устаноў, 1046 кінаўстановак, 128 бальнічных устаноў. У 1945 г. у Гродне адноўлены гісторыка-археалагічны музей, у 1977 г. заснаваны Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі. Дзейнічаюць 4 краязнаўчыя музеі (у Ашмянах, Карэлічах, Лідзе, Слоніме), Дзятлаўскі музей народнай славы, Свіслацкі гісторыка-краязнаўчы і Ваўкавыскі ваенна-гістарычны імя П. І. Баграціёна музеі, мемарыяльны Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Працуюць з 1947 г. Гродзенскі абласны драматычны тэатр, з 1980 г. абласны тэатр лялек, пры клубных установах 5300 калектываў і гурткоў мастацкай самадзейнасці, у тым ліку 43 народныя калектывы. Выдаецца 22 газеты, у т. л. абласная «Гродненская правда». У Гродне абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў БССР, Саюза журналістаў БССР, Саюза мастакоў БССР, Саюза архітэктараў БССР.



*Будынак Лідскага краязнаўчага музея.*

**За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і поспехі, дасягнутыя ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі, Гродзенская вобл. 16.8.1967 г. узнагароджана ордэнам Леніна.**

*Літ.:* Ленін У. І. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41). Абезгауз З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века.— Мн., 1971; Абецедарский Л. С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в.— Мн., 1978; Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі...— Мн., 1975; Анісаў С. Р. З гісторыі камсамольскага падполля Заходняй Беларусі.— Мн., 1958; яго ж. За волю і шчасце народа.— Мн., 1959; яго ж. Крутымі шляхамі: Запіскі былога камсамольскага работніка-падпольшчыка.— Мн., 1960; яго ж. Палымянае юнацтва.— Мн., 1969; яго ж. У змаганні гартаваліся.— Мн., 1975; Антипенко Н. А. На главном направлении.— Мн., 1982; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Антифашистский конгресс работников культуры во Львове в 1936 г.: Документы и материалы.— Львов, 1956; Антонович В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. В. 1.— Киев, 1878; Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1973; Арэхва М. С. Рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі ў гады белапольскай акупацыі.— Мн., 1958; Багданскі Я., Бабровіч Л. Аб класавай барацьбе ў Заходняй Беларусі ў часы Беларускай сялянска-работніцкай грамады.— Мн., 1932; Баркоўскі С. 1 Мая на Беларусі.— 3 выд.— Мн., 1932; Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Белогорцев И. Д., Гурин И. И., Кустанович С. М. Развитие городов Белоруссии.— Мн., 1967; Белоруссия в Союзе Советских Республик.— Мн., 1972; Белоруссия в эпоху капитализма. Т. 1. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии.— Мн., 1983; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Белорусская ССР: Административно-территориальное деление на 1 января 1981 года.— 6 изд.— Мн., 1981; Белявцев В. И. Памятные места, связанные с жизнью и деятельностью соратников В. И. Ленина в Белоруссии.— Мн., 1976; Библиотечное дело в БССР. Документы и материалы. 1918—1941.— Мн., 1978; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; яго ж. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Бобровский П. О. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 1—2.— СПб., 1863; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; яго ж. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР. Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1962—72; Браім І. М. Рыбалоўства ў Беларусі: Гісторыка-этнаграфічны нарыс.— Мн., 1976; Брюханов А. И. В штабе партизанского движения.— Мн., 1980; Буг в огне.— 3 изд.— Мн., 1977; Бяляўцаў У. І., У. І. Ленін і Беларусь.— Мн., 1972; В авангарде революционной борьбы: Материалы научно-теоретической конференции, посвященной 50-летию образования КПЗБ и КСМЗБ. 29 ноября 1973 года.— Мн., 1974; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте: Воспоминания активных участников Октябрьской революции.— Мн., 1957; В борьбе и труде: Участие женщин Белоруссии в революционном движении, социалистическом и коммунистическом строительстве.— 2 изд.— Мн., 1977; В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1970; В лесах Белоруссии: Воспоминания советских партизан и немецких антифашистов.— Мн., 1977; В памяти народной: Путеводитель по местам борьбы за установление Советской власти в Белоруссии, за честь, свободу и независимость социалистической родины.— Мн., 1969; В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975; Вайнруб Е. Г. Танк на пьедестале.— Мн., 1979; Валевіч І. Р. Першыя гады Кампартыі Заходняй Беларусі: Успаміны падпольшчыка. 1921—1925 гг.— Мн., 1935; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Великая Отечественная война Советского Союза. 1941—1945. Краткая история.— 2 изд.— М., 1970; Вильнюсское подполье: Воспоминания участников революционного движения в Вильнюсском крае [1920—1939 гг.].— Вильнюс, 1966; Віхраў А. А. Баявы памочнік КПЗБ (1921—1928 гг.).— Мн., 1975; Военно-статистическое обозрение Российской империи, Т. 9. Ч. 3. Гродненская губерния.— СПб., 1849; Вождь, учитель и друг: Воспоминания уроженцев Белоруссии о

В. И. Ленине.— Мн., 1980; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; яго ж. Жилищное строительство в Белорусской ССР.— Мн., 1980; Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Воранава А. І. Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг.— Мн., 1960; Воронин Н. Н.— Древнее Гродно.— М., 1954.— (Материалы и исследования по археологии СССР, № 41); Воронков Ю. Г. Памятники В. И. Ленину в Белоруссии.— Мн., 1976; Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов: Сб. статей и материалов.— М., 1960; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все: Памятники и памятные места революционной и национально-освободительной борьбы трудящихся Западной Белоруссии.— Мн., 1979; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1983—84; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Гашимов М. М., Гриченок Т. А., Фляке Я. В. Волковыск: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978; Гибянский И. Г. Граф Антоний Тизенгауз и гродненские королевские мануфактуры.— П., 1916; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1968—69; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1965—66; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1—5.— Мн., 1972—75; Глинская Т. Ю. КПЗБ — руководитель освободительной борьбы трудящихся Западной Белоруссии. 1924—1928 гг.— Мн., 1965; Годы испытаний и мужества.— Мн., 1973; Горбунов Т. С. Воссоединение белорусского народа в едином Советском социалистическом государстве.— М., 1948; Греков Б. Д. Киевская Русь.— [6 изд.].— М., 1953; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.).— Мн., 1979; Гродненская область Белорусская ССР.— Мн., 1976; Гродненский государственный историко-археологический музей: Путеводитель.— 2 изд.— Мн., 1971; Гродно: (Исторический очерк).— 2 изд.— Мн., 1964; Грушевский А. С. Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв. Старина и борьба за старину.— Киев, 1918; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962; яе ж. Древний Новогрудок: Посад — окольный город.— Л., 1981; Диков П. М. Сведения о лесах Гродненской губернии, собранные Губернским статистическим комитетом в 1882 г.— Гродно, 1882; яго ж. Список землевладений в Гродненской губернии.— Гродно, 1890; Довнар-Запольский М. В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1.— Киев, 1901; Дозорные границы: [Сборник очерков и воспоминаний о пограничниках].— Мн., 1983; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 1—4.— Мн., 1936—54.— Назва т. 1: Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах, т. 2: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі; Дробаў Л. Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971; яго ж. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974; яго ж. Живопись Советской Белоруссии (1917—1975 гг.).— Мн., 1979; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Елатомцева И. М. Монументальная летопись эпохи.— Мн., 1969; Елисеев Е. П. На Белостокском направлении.— М., 1971; Ефремова О. И. Роль ленинской «Искры» в распространении марксизма в Белоруссии.— Мн., 1980; Ешин С. З. Развитие культуры в БССР за годы Советской власти.— Мн., 1970; Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; За край родной: Воспоминания партизан и подпольщиков Барановичской области.— Мн., 1978; Загорульский Э. М. Археология Белоруссии.— Мн., 1965; яго ж. Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.).— Мн., 1977; Зборнік лістовак усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944 гг.).— Мн., 1952; Зверуго Я. Г. Древний Волковыск X—XIV вв.— Мн., 1975; Зельтен Н. А. Архитектура и планировка малых городов Белоруссии.— Мн., 1968; Игнатенко А. П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв.— Мн., 1963; Игнатенко И. М., Мацко А. Н. Дорогой борьбы и созидания: К 40-летию воссоединения Зап. Белоруссии с БССР.— Мн., 1979; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы): (Сб. воспоминаний).— Мн., 1961; Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 года. Последний сейм Речи Посполитой.— М., 1870; Индустриализация Белорусской ССР (1926—1941): Сб. документов и материалов.— Мн., 1975; Иосько М. И., К. Маркс, Ф. Энгельс и революционная Белоруссия.— Мн., 1977; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1, 3.— Мн., 1968, 1976; Искусство Советской Белоруссии.— М.; Л., 1940; Историческое описание г. Гродно.— Гродно, 1860; История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977; История белорусской советской литературы.— Мн., 1977; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 1—6.— М., 1960—65; История гражданской войны в СССР. Т. 1—5.— М., 1938—60; История рабочего класса Белорусской ССР. В 4-х т. Т. 1.— Мн., 1984; Итоги Всесоюзной переписи населения 1970 года. Т. 1—2.— М., 1972; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Каменская Н. В. Белорусский народ в борьбе за Советскую власть (1919—1920 гг.).— Мн., 1963; Карпюк А. Н. След на зямлі: Скарбы і здабыткі маей Гродзеншчыны.— Мн., 1972; Кахаповскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст.— Мн., 1984; Кацер М. С. Белорусская архитектура: Исторический очерк.— Мн., 1956; яго ж. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки.— Мн., 1969; яго ж. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.).— Мн., 1972; Квитницкая Е. Д. Строительство Тызенгауза в Гродно [во 2-й половине XVIII в.].— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1958, т. 11; яе ж. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв.— Там жа. М., 1964, т. 17; Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв.: [Сб. статей].— Мн., 1982; Киселев Т. Я. Советская Белоруссия.— М., 1982; Кісялёў Г. В. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; яго ж. З думай пра Беларусь: Даследаванні і знаходкі з гісторыі беларускай літаратуры і рэвалюцыйнага руху другой паловы XIX стагоддзя.— Мн., 1966; яго ж. Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы.— Мн., 1982; Климов И. Ф., Граков Н. Е. Партизаны Вилейщины.— 2 изд.— Мн., 1970; Кобяк С. В. Под знаменем пролетарской солидарности: Компартия Западной Белоруссии в борьбе за интернациональное сплочение трудящихся (1923—1929 гг.).— Мн., 1979; Козловский П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в.— Мн., 1969; яго ж. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в.— Мн., 1974; яго ж. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в.— Мн., 1982; Комсомол — нашей доблестной партии сын: Из истории Ленинского Коммунистического Союза Молодежи Белоруссии.— Мн., 1960; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962; Коробушкина Т. Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв.— Мн., 1979; Король В. А. Комплексное экспериментально-показательное строительство в селах Белоруссии.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1971, № 4; Короткевич В. Б. Памятники истории и культуры.— Мн., 1978; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983; Краўчанка І. С. Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1950; яго ж. Работа Кампартыі Беларусі ў тылу ворага (1941—1944 гг.).— Мн., 1959; Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 году.— Мн., 1947; Крепак Б. А., Казаков Ю. И. Никто не забыт, ничто не забыто: Памятники жертвам фашизма на территории Белоруссии.— Мн., 1976; Круталевич В. А. Административно-территориальное устройство БССР.— Мн., 1966; яго ж. Рождение Белорусской Советской Республики: (Провозглашение республики. Развертывание национально-государственного строительства. Ноябрь 1918 — февраль 1919 г.).— Мн., 1979; Крыўда Я. Супраць нацыянальнага ўціску і панска-польскай акупацыі.— Вільня, 1932; Кудряшев В. И. Гродно.— М., 1960; Кузняев А. А. На пути к Октябрю: Из истории партийного строительства в Белоруссии 1884—1917 гг.— Мн., 1970; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Купреева А. П. Возрождение народного хозяйства Белоруссии.— Мн., 1976; яе ж. Народы СССР — трудящимся Белоруссии.— Мн., 1981; Ладысеў У. Шлях да свабоды: З гісторыі рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 1919—1939 гг.— Мн., 1978; Лазабееў Р. Я. Лясныя пабрацімы.— Мн., 1972; Лазебников В. С., Поссе В. С. Памятники Коммунистического подполья Белоруссии.— Мн., 1975; Лебедева Н. И. Жилище и хозяйственные постройки Белорусской ССР.— М., 1929; Леонова А. К. Народная деревянная скульптура Белоруссии: Краткий очерк.— Мн., 1977; Лесничий С. П. Далеко за фронтом.— Мн., 1972; Лида: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1980; Липило П. П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1959; Липинский Л. П. Классовая борьба в белорусской деревне. 1907—1914.— Мн., 1981; Липинский Л. П., Лукьянов Е. П. Крестьянское движение в Белоруссии в период между двумя революциями (июнь 1907 — февраль 1917 гг.).— Мн., 1964; іх жа. Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг.).— Мн., 1968; Лочмель И. Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов.— М., 1940; Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно.— 2 изд.— М., 1915; Люди Нарочанского края: Воспоминания участников революционной борьбы и Великой Отечественной войны.— Мн., 1975; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей.— Мн., 1934; Маланьин К. А. Разгром врага в Белоруссии (1944 год).— М., 1961; Мальдзіс А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе: З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры.— Мн., 1969; яго ж. Таямніцы старажытных сховішчаў.— Мн., 1974; Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века.— М., 1974; Манассеин В. С. Исторический очерк Гродненской губернии в военно-политическом отношении за первые сто лет ее существования. [1802—1902].— Гродно, 1902; яго ж. Крестьянский вопрос в Гродненской губернии в XIX столетии.— Гродно, 1902; Мараш Я. Н., Собаль Н. И. Борьба трудящихся Гродненщины за Советскую власть (1918—1939 гг.).— Гродно, 1958; Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии: (Исторический очерк).— Мн., 1967; яго ж. К духовному расцвету.— Мн., 1974; яго ж. Худо-



*4. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Каложскі пасад. Даследавалі ў 1971—73 гг. Я. Г. Звяруга, у 1983—84 гг. А. А. Трусаў. Культурны пласт 0,4—2,2 м светла-шэрага, часам (каля мацерыка) цёмна-шэрага колеру. Выяўлены рэшткі наземных і зямлянкавых жытлаў. У адной з зямлянак знойдзены 4 сашнікі, 3 сярпы, гаршчок 12—14 ст. Сабраны матэрыялы 11—18 ст., пераважна непаліваны керамічны посуд (гаршкі, міскі), невялікая колькасць шкляных і металічных вырабаў. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Рэспубліканскім музеі атэізму і гісторыі рэлігіі.

*Літ.:* Воронин Н. Н. Древнее Гродно.— М., 1954; Чернявский И. М. Архитектурно-археологические исследования в Гродно и Могилёве.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981; Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. Старажытны цэнтр Гродна.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1985, № 1; Грязнов В. Коложская Борисоглебская церковь в г. Гродно.— Вильна, 1893; Раппопорт П. А. Русская архитектура X—XIII вв.: Каталог памятников.— Л., 1982.

*А. К. Краўцэвіч, А. М. Кулагін, А. А. Трусаў.*



*5. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**3. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Антонава, на могілках. Пахаваны 120 савецкіх ваеннапалонных, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна з аўтаматам і дзяўчыны з лаўровым вянком.

**4. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Антонава, на могілках. Пахаваны 490 воінаў, якія загінулі ў баях за Гродна ў ліпені 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**5. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Пл. Леніна, у парку. Пахаваны 46 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Юрый Дзмітрыевіч Іўліеў, Вольга Аляксандраўна Санфірава і сакратар Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ Вольга Іосіфаўна Соламава.

Ю. Дз. Іўліеў нарадзіўся 17.4.1923 г. у Ташкенце ў сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. У 1942 г. скончыў Чкалаўскую авіяцыйную школу. У Вялікую Айчынную вайну ваяваў на Заходнім і 2-м Беларускім франтах, камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка, капітан. За час вайны зрабіў 120 баявых вылетаў. Вызначыўся пры вызваленні Магілёва, Мінска, Гродна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г. Памёр ад ран 11.2.1945 г. Яго імем названы вуліцы ў Гродне і Ташкенце.

В. А. Санфірава нарадзілася 19.4.1917 г. у Куйбышаве. Член КПСС з 1942 г. У 1940 г. скончыла Батайскую авіяцыйную школу. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельніца абароны Каўказа, вызвалення Крыма. У час Беларускай аперацыі 1944 г. як камандзір авіяэскадрыллі ўдзельнічала ў баях за Магілёў, Мінск, Гродна. Зрабіла 630 баявых вылетаў. Загінула 13.12.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.2.1945 г.

В. І. Соламава нарадзілася ў 1920 г. у в. Лаша Гродзенскага р-на ў сялянскай сям'і. Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй Беларусі з БССР працавала настаўніцай, загадчыцай пачатковай школы, у 1940 г. выбрана дэпутатам абласнога Савета. У Вялікую Айчынную вайну памочнік упаўнаважанага ЦК ЛКСМБ па Беластоцкай вобл. (з 1942 г.). Была ўведзена ў склад падпольнага абкома камсамола, зацверджана сакратаром Гродзенскага падпольнага гаркома камсамола. Праводзіла вялікую агітацыйна-прапагандысцкую і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, удзельнічала ў баях з акупантамі. 2.2.1944 г., каб не трапіць жывой у рукі карнікаў, застрэлілася. Яе імем названа вуліца ў Гродне. На месцы гібелі ў в. Канюхі Бераставіцкага р-на, на радзіме і ў Гродне пастаўлены помнікі.



*6. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

У 1949 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам і абеліск, у 1984 г. магіла добраўпарадкавана, запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Тоўсцік А. Камсамольскі камісар.— Маладосць, 1971, № 7.

*Э. М. Савіцкі.*

**6. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Антонава, на могілках. Пахаваны 570 воінаў, партызан і мірных грамадзян, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**7. БУДЫНАК АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА** (архіт., маст.). На скрыжаванні вуліц Маставой і Навазамкавай, на высокім правым беразе р. Нёман. Пабудаваны ў 1977—84 гг. з цэглы і зборнага жалезабетону (архіт. Г. Мачульскі, А. Пархута).

Манументальны пластычны па форме будынак уключае шасцігранны дамінуючы ў агульнай кампазіцыі асноўны аб'ём (галоўная глядзельная зала з вестыбюлем і фае) і П-падобны ў плане трохпавярховы адміністрацыйна-службовы корпус. Вуглы асноўнага аб'ёму вылучаны ўвагнутымі вертыкальнымі пілонамі, якія выступаюць над дахам. Рытм вузкіх

вертыкальных рэбраў паміж пілонамі кантрастуе з круглаватымі лініямі буйных канструкцый фасадаў на ўзроўні 1-га і 2-га паверхаў. У завяршэнні па перыметры будынка праходзіць хвалістая стужка парапета. Цэнтральны ўваход вылучаны пластычна выгнутымі сценкамі і каскадам лесвіц. Над ім размешчана трохфігурная кампазіцыя «Пегас» (скульпт. Л. Зільбер; медзь, выкалатка, вышыня 8 м). Спрошчаны аб'ём службовага корпуса ўзбагачаюць вуглавыя лесвічныя клеткі. Абліцоўка фасадаў светлай пліткай, цагляная муроўка нішаў і баразён надаюць збудаванню візуальную лёгкасць.

Галоўная глядзельная зала (на 700 месцаў) вырашана амфітэатрам з балконам. Беламармуровыя бакавыя лесвіцы звязваюць вестыбюль з двухсветлавым фае і бакавымі кулуарамі. У цокальным паверсе — рэпетыцыйная зала, шэраг артыстычных пакояў, апаратная, склады аб'ёмных дэкарацый. Галоўная глядзельная зала аздоблена драўлянымі панелямі, кесіраванай акустычнай падвеснай столлю, дэкаратыўнай тышкоўкай.



7. *Будынак абласнога драматычнага тэатра.*

Больш сціпла, у светлых танах, дэкарыраваны галоўны вестыбюль, абліцаваны светла-шэрым мармурам. Афармленне фае галоўнай залы вырашана сучаснымі мастацка-дэкаратыўнымі сродкамі. З руставанай плас-

7. *Будынак абласнога драматычнага тэатра. Інтэр'ер фае.*

тыкавай столі звісае вялізная, нібы сталактытавая, люстра з рыфленага белага нёманскага шкла. Сцены апрацаваны светлай рыфленай тынкоўкай.

На франтальнай сцяне фае галоўнай залы створана аб'ёмнае скульптурнае пано, тэматыка якога прысвечана сусветнаму і нацыянальнаму тэатру (маст. І. Пчэльнікаў, І. Лаўрова). Верхняя частка пано ўключае 5 кампазіцый на тэму гісторыі развіцця тэатра: «Народны тэатр», «Класіка», «Тэатр рэвалюцыі», «Новы тэатр», «Тэатр, які аб'ядноўвае ўсе мастацтвы». Ніжэй на пастаментах устаноўлены бюсты Пушкіна, Шэкспіра, Мальера. Паміж бюстамі плакеткі з выявамі дзеячаў беларускай культуры — Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа. Скульптурна-жывапісныя кампазіцыі «Антычная трагедыя», «Дзіянісьеўскае шэсце», «Народны тэатр батлейка», «Рэпетыцыя ў масках» выкананы на сценах кулуараў і над уваходамі ў партэр. Усе кампазіцыі зроблены ў абагуленых формах з выкарыстаннем мяккай разбеленай каларыстычнай палітры і графічнай штрыхоўкі. Малая глядзельная зала на 200 месцаў размешчана на 1-м паверсе службовага корпуса, мае бакавыя кулуары з буфетам, вестыбюль і фае.

Будынак драматычнага тэатра — твор сучаснай савецкай архітэктуры, у якім выявіўся пошук новых выразных сродкаў і арганічнага сінтэзу з манументальным выяўленчым мастацтвам. *А. М. Кулагін.*

**8. БУДЫНАК АКРУГОВАГА СУДА** (архіт., гіст.). Вул. Савецкая, 31. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана адміністрацыйная ўстанова.

Трохпавярховы будынак з цокальным паверхам. Кампазіцыя галоўнага фасада асіметрычная: з паўднёвага боку да яго прымыкае двухпавярховае крыло. Пластыка фасада насычаная: руст, прафіляваныя філёнгі з гірляндамі, лучковыя сандрыкі, арнамент — меандр і дубовыя галінкі. Будынак завершаны атыкам. Бакавая лесвічная клетка вылучана неглыбокім рызалітам з балконам. На дваровым фасадзе — рызаліты лесвічнай клеткі і тарцовых залаў. Планіроўка калідорная. Архітэктура будынка мае стылізатарскі характар, у ёй выкарыстаны формы і прыёмы розных будаўнічых эпох.

У будынку акруговага суда ў час буржуазнай Польшчы праводзіліся палітычныя працэсы над удзельнікамі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У красавіку 1925 г. адбыўся «працэс 72-х» — суд над беларускімі партызанамі, якія ў 1922—23 гг. дзейнічалі ва ўсходніх паветах Беластоцкага ваяводства і ў раёне Белавежскай пушчы. У 1922 г. партызаны разбурылі маёнтак князя Друцкага-Любецкага ў Шчучыне і сядзібу асадніка каля Скідаля, узарвалі чыгуначны мост на р. Котра і інш. Суд прыгаварыў партызан (сялян, рамеснікаў, рабочых) да турэмнага зняволення.

9—21.6.1929 г. ішоў закрыты «працэс 75-ці» над членамі КПЗБ, арыштаванымі ў Косаўскім павеце Палескага ваяводства. Галоўныя абвінавачаныя — М. Л. Паравалоцкі, П. М. Уласавец, А. Р. Свяргун — былі прыгавораны адпаведна да 15, 12 і 10 гадоў турэмнага зняволення, 3 падсудныя — да 8, 7 — да 6, 9 — да 5, 24 — да 4, 10 — да 2 гадоў катаржнай турмы. Прыгавор падсудныя сустрэлі воклічамі: «Прэч крывавую дыктатуру Пілсудскага!», «Няхай жыве сацыялістычная рэвалюцыя!».

У лютым 1938 г. тут адбыўся працэс над Ф. Д. Кавалеўскім, членам КПЗБ з 1925 г., сакратаром Слонімскага раённага і акруговага камітэтаў КПЗБ. Галоўным сведкам абвінавачвання быў начальнік дэфензівы, які назваў Кавалеўскага «агентам Масквы». Пракурор патрабаваў для «гэтага перакананага камуніста» 15 гадоў турэмнага зняволення. У апошнім слове Кавалеўскі заявіў, што буржуазная ўлада ў Польшчы не ўтрымаецца.

*Літ.*: Годы испытаний и мужества.— Мн., 1973; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966.

*Г. Б. Ватковіч, А. М. Кулагін.*

**9. БУДЫНАК МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ** (архіт., гіст.). Вул. Савецкая, 6. Узведзены ў 1735 г. з цэглы.

Двухпавярховы аб'ём вырашаны па схеме, характэрнай для архітэктуры класіцызму. Галоўны фасад вылучаны рустоўкай цэнтральнай часткі 1-га паверха і ўвенчаны трохвугольным франтонам. Бакавыя крылы крапаваны пілястрамі і завершаны ступеньчатымі атыкамі. Сістэма планіроўкі калідорная.

Месца рэвалюцыйных выступленняў навучэнцаў. У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. адбыліся антыўрадавыя выступленні навучэнцаў гімназіі, што пачаліся пад уплывам агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху. Навучэнцы збіраліся на сходкі, выдавалі часопіс «Школа», які рэзка крытыкаваў царскі ўрад і гарадскія ўлады. Найбольш значныя выступленні мелі месца ў дні Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкі і ў лістападзе 1905 г. 22.11. 1905 г. навучэнцы мужчынскай гімназіі аб'явілі агульную забастоўку, якую падтрымала моладзь іншых навучальных устаноў і рабочыя Гродна. Забастоўка працягвалася да пачатку снежня 1905 г., пакуль не былі задаволены асноўныя патрабаванні бастуючых.

Месца працы Арлоўскага Яўстафія Філарэтавіча.

Беларускі гісторык, краязнавец і педагог Я. Ф. Арлоўскі нарадзіўся ў 1862 г. у в. Славенск (цяпер Валожынскага р-на) у сям'і свяшчэнніка. У 1885 г. скончыў Пецярбургскі



8. *Будынак былога акруговага суда. Галоўны фасад.*



9. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. Галоўны фасад.*



9. *Будынак былой мужчынскай гімназіі. План 1-га паверха.*

гісторыка-філалагічны інстытут, да 1913 г. выкладаў у Гродзенскай гімназіі гісторыю і грэчаскую мову. Быў членам Гродзенскага археалагічнага камітэта і Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства. Аўтар прац па гісторыі населеных пунктаў, народнай адукацыі, Айчыннай вайны 1812 г. на Гродзеншчыне, гісторыі цэркваў, манастыроў і інш. Галоўны яго твор прысвечаны гісторыі Гродна — «Гродзенская старажытнасць» (ч. 1, 1910 г.). Надрукаваны таксама «Нарыс гісторыі горада Гродна...» (1889 г.), «Мястэчка Свіслач-Ваўкавыская (Гістарычны нарыс)» (1895 г.), «Да гісторыі народнай адукацыі ў Гродзенскай губерні» (1899 г.), «Гістарычны нарыс Гродзенскай гімназіі» (1901 г.), «Краснастоцкі манастыр. Гістарычны нарыс» (1905 г.), «Гродзенская губерня ў 1812 г.» (1912 г.). У сваёй гістарычнай канцэпцыі Арлоўскі зыходзіў з афіцыйных пазіцый буржуазнай гістарыяграфіі, але з-за багацця фактычнага матэрыялу яго працы захавалі навуковае значэнне.

Памёр 2.12.1913 г. Пахаваны ў Гродне.

*Літ.:* Памяти Е. Ф. Орловского.— Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. Вильна, 1914, кн. 4. *Э. М. Савіцкі, В. М. Чарнатаў.*

**10. БУДЫНАК ПІВАВАРНАГА ЗАВОДА** (архіт.). Вул. Маставая, на правым беразе Нёмана. Пабудаваны ў 1877 г. з цэглы. Заводскі комплекс арганізаваны вакол унутранага двара. Рознавялікія аб'ёмы маюць плоскасныя фасады. Прамавугольныя і лучковыя аконныя праёмы дэкарыраваны броўкамі, клінчатымі перамычкамі. Сцены крапаваны лапаткамі, міжпаверхавымі цягамі, арнаментам спрошчанага геаметрычнага малюнка. Падвальныя памяшканні перакрыты буйнымі цыліндрычнымі скляпеннямі. Будынак піўзавода — помнік прамысловага будаўніцтва.

*А. М. Кулагін.*

**11. БУДЫНАК РЭАЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. 1 Мая, 3. Пабудавана ў 1907 г. з цэглы. Цяпер тут адміністрацыйная ўстанова.

Двухпавярховы атынкаваны будынак, у плане мае складаную, блізкую да Г-падобнай форму. Падзелены на блокі: вучэбны і грамадскага прызначэння. Вучэбны блок — выцягнуты ўздоўж вул. 1 Мая аб'ём. Выразнасць галоўнага фасада дасягаецца строгім рытмам аконных праёмаў. Размяшчэнне класных пакояў аднабаковае. Шырокі светлы калідор, у тарцах якога размешчаны 2 лесвічныя клеткі, выконвае ролю аб'яднальнага звяна. Перпендыкулярна да вучэбнага пастаўлены блок грамадскага прызначэння. На 1-м паверсе яго размешчаны прасторны вестыбюль, гардэроб, адміністрацыйна-гаспадарчыя памяшканні, на 2-м — актавая зала, бібліятэка, сталовая, настаўніцкія пакоі. Пры агульнай з вучэбным блокам сіметрычнай кампазіцыі архітэктурная выразнасць тут дасягаецца выкарыстаннем розных па прапорцыі і маштабу арачных акон. Да тарца блока грамадскага прызначэння прымыкае аб'ём, вырашаны ў адным з ім стылявым ключы, тут размяшчалася гімнастычная зала.

Помнік — прыклад архітэктуры неакласіцызму.

*Літ.:* Орловский Е. Ф. Гродненская старина. Ч. 1.— Гродно, 1910; Чарнатаў В. М. Архітэктура школьных будынкаў.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4. *В. М. Чарнатаў.*

**12. БУДЫНАК СЯЛЯНСКАГА ПАЗЯМЕЛЬНАГА БАНКА** (архіт.). На скрыжаванні вуліц Леніна і Карбышава. Пабудаваны ў 1913 г. з цэглы паводле праекта архіт. Б. Астравумава, цяпер выкарыстоўваецца адміністрацыйнай установай.

Двухпавярховы будынак Г-падобны ў плане. У дэкаратыўным афармленні фасадаў выкарыстана спалучэнне жоўтай цэглы і белых ляпных дэталей. Двухсхільны з чырвонай чарапіцы дах і купал над ім надаюць будынку своеасаблівы каларыт. Першапачатковая планіроўка калідорная, цяпер зменена. У цокалі размяшчаліся архіў, памяшканні санітарна-тэхнічнай службы, сховішча. На 1-м паверсе былі вестыбюль, службовыя пакоі, на 2-м — залы аперацыйная і пасяджэнняў, кватэры адміністратара банка, кур'ера і інш. Па-мастацку выкананы металічныя агароджы ўнутранай лесвіцы і балконаў, казырок над галоўным уваходам.



10. *Будынак піваварнага завода.*

Будынак банка — прыклад архітэктуры стылю «мадэрн». *В. М. Чарнатаў.*

**13. БУДЫНАК ТЭАТРА ТЫЗЕНГАЎЗА** (архіт., гіст.). Вул. Дзяржынскага. Пабудаваны ў 1780-я гады з цэглы. Прызначаўся для каралеўскага манежа. У 1859 г. пасля рэканструкцыі аб'ём будынка павялічаны, план набыў асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У 1940 г. надбудаваны 3-і паверх. У 1975 г. расшырана сцэнічная каробка і глядзельная зала.



11. *Будынак былога рэальнага вучылішча.*



11. *Будынак былога рэальнага вучылішча. План 1-га паверха.*



13. *Будынак былога тэатра Тызенгаўза.*



13. *Будынак былога тэатра Тызенгаўза. План 1-га паверха.*

Трохпавярховы будынак з высокім руставаным цокалем накрыты чатырохсхільным дахам. Галоўны фасад асіметрычны, апрацаваны пілястрамі. Над уваходам у левым крыле — вялікі балкон, які падтрымліваюць 4 калоны. 2 верхнія паверхі завершаны магутнымі карнізамі з сухарыкамі. Вокны высокія, з трохвугольнымі франтонамі. На ўзроўні 3-га паверха дэкаратыўныя люкарны. Правая частка будынка — кубічны аб'ём сцэнічнай каробкі. Глядзельная зала на ўзроўні 1-га і 2-га паверхаў асвятляецца з аднаго боку натуральным святлом. На 1-м паверсе, акрамя залы, невялікае фае, службовыя памяшканні, на 2-м — рэпетыцыйная, грымёрныя. На балкон вядуць 2 лесвіцы: бакавая з партэра і запасная з фае.

У будынку ў 1780 г. працаваў Гродзенскі тэатр Тызенгаўза. Тут у спецыяльнай «танцавальнай зале», якая размяшчалася на верхнім паверсе, вучылі танцам. Сярод танцоўшчыкаў: прыгонныя М. Адамовіч, А. Бжазінскі, Е. Валінскі, А. Дарэўская, М. Карніцкая, Р. Лаўцэвіч, М. Малінская, Д. Пякарская-Сітанская, ураджэнец Ігумена, вядучы Гродзенскага, потым Варшаўскага балета М. Рымінскі. Балетны ансамбль, які дасягнуў высокага прафесійнага ўзроўню, у 1779—80 гг. налічваў больш за 30 чалавек. Спевакоў, музыкантаў і танцоўшчыкаў для тэатра рыхтавалі ў музычнай школе. Гл. артыкул № 54 «Музычная школа».

У канцы 18 і пачатку 20 ст. тут гастралявалі рускія, украінскія трупы А. Даніловіча, М. Барысава, Н. Васільева, польскія В. Багуслаўскага, М. Кажынскага, Я. Шыманскага, Д. Мараўскага, В. Клакоцкага, С. Навакоўскага, Я. Хелмікоўскага. У 1802—09 гг. і 1839—61 гг. у памяшканні дзейнічаў пастаянны гарадскі тэатр, арганізатарам і рэжысёрам якога была вядомая польская драматычная актрыса С. Дэшнер. У 1892 і 1909 гг. на сцэне тэатра выступаў вядомы рускі акцёр П. Арленеў, у 1925—29 гг. тэатр «Рэдута» Ю. Астэрвы. У будынку працавалі: у 1940—41 гг. Дзяржаўны польскі тэатр БССР, у 1945—47 гг.— Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР, у 1947—83 гг.— Гродзенскі абласны драматычны тэатр, з 1984 г.— Гродзенскі абласны тэатр лялек.

Месца першых пасяджэнняў Савета рабочых дэпутатаў Гродна і 1-й сесіі Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных.

У канцы снежня 1918 г.— пачатку 1919 г. на прадпрыемствах Гродна ў Савет былі выбраны 103 дэпутаты. Яго першае пасяджэнне адбылося 26.1.1919 г. ва ўмовах акупацыі горада войскамі кайзераўскай Германіі. Па загаду акупацыйных улад будынак тэатра, дзе сабраліся дэпутаты, быў акружаны, выключана электрычнасць, аднак першае пасяджэнне Савета прайшло арганізавана. У склад прэзідыума выбралі 9 чалавек, з якіх 4 былі камуністамі. Старшынёй Савета дэпутаты выбралі кіраўніка Гродзенскага падпольнага камітэта РКП(б) В. А. Багуцкага (псеўданім «Шпак»). Па яго прапанове дэпутаты ўшанавалі памяць загінуўшых членаў рабочага Савета Вільні. Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй Беларусі з БССР адбыліся выбары ў Гродзенскі гарадскі Савет дэпутатаў працоўных; выбрана 108 дэпутатаў, у т. л. 83 рабочыя; 80 дэпутатаў былі камуністамі. 25 снежня адбылася 1-я сесія Савета, якая выбрала выканком у складзе 12 чалавек; старшыня выканкома камуніст П. І. Ратайка.

У 1958 г. на будынку тэатра ў памяць аб першым пасяджэнні Савета рабочых дэпутатаў г. Гродна і 1-й сесіі Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных устаноўлены мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Плешавеня А. М. За радком мемарыяльнай дошкі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, №4.

*А. Ю. Пятросава, Э. М. Савіцкі, Г. І. Барышаў.*

**14. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст., маст.). Вул. Белуша. Пахаваны савецкія воіны, якія загінулі ў 1939 г.



14 *Помнік на вайсковых могілках па вуліцы Белуша.*



15. *Вайсковыя могілкі па вуліцы Перамогі. Помнік на магіле М. Ц. Курбатава.*

у час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і ў 1944 г. пры вызваленні Гродна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, а таксама савецкія ваеннапалонныя, закатаваныя гітлераўцамі.

Брацкая магіла чырвонаармейцаў. Пахаваны 5 чырвонаармейцаў, якія загінулі 20.9.1939 г. у баі за Гродна. У 1939 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Катачына Уладзіміра Мікалаевіча. Тэхнік-інтэндант У. М. Катачын загінуў у баі 21.9.1939 г. у раёне Гродна. У 1939 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Брацкія магілы савецкіх ваеннапалонных. Пахаваны ваеннапалонныя з лагера смерці, створанага нямецка-фашысцкімі акупантамі ў былых казармах па вул. Чырвонаармейскай. Пасля вызвалення горада камісія па ўстанаўленню злачынстваў акупантаў 22.8.1944 г. ускрыла магілы. Кожная з іх даўжынёй да 50 м, шырынёй і глыбінёй да 2 м, трупы ляжалі ў 3 і 7 радоў. Паводле заключэння камісіі ў 8 магілах закапана каля 6 тыс. чалавек. У 1960 г. на брацкіх магілах пастаўлены помнік: скульптура жанчыны і падлетка.

Магілы савецкіх воінаў. У цэнтры могілак у індывідуальных магілах пахаваны 398 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне Гродна ці памерлі ад ран. У 1958 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

У 1981 г. у цэнтральнай частцы могілак пастаўлены помнік (скульпт. У. Церабун, архіт. А. Каралькоў; бетон, медзь, выкалатка; вышыня 7,5 м). Быццам у ганаровай варце застыла фігура воіна. Дынамічна, як ад парыву ветру, адкінуты шынель. Суровай трактоўцы вобраза адпавядае абагульненасць скульптурных аб'ёмаў. Побач устаноўлены 3 бетонныя блокі з надпісамі-прысвячэннямі.

*Э. М. Савіцкі, Г. М. Ярмоленка.*

**15. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Вул. Перамогі. Пахаваны савецкія воіны, якія загінулі ў 1939 г. у час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і ў 1944 г. пры вызваленні Гродна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза М. Ц. Курбатаў.

Брацкая магіла чырвонаармейцаў. Пахаваны воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі пры вызваленні горада 20.9.1939 г. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Гарнавых Рыгора Аляксандравіча. Р. А. Гарнавых нарадзіўся ў снежні 1904 г. у г. Верхні Уфалей Чэлябінскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС. З 1928 г. у Чырвонай Арміі. У 1935 г. скончыў ваенна-палітычную школу. Быў накіраваны ў Беларускую ваенную акругу. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі. 20.9.1939 г. старшы палітрук атрымаў загад на чале роты захапіць мост цераз Нёман і забяспечыць пераправу асноўных сіл. У баі за мост быў паранены, але застаўся ў страі, выканаў баявую задачу. Загінуў у той жа дзень. Яго імем названа вуліца ў Гродне. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Квітко Фёдара Івanaвіча. Камандзір танкавага батальёна Ф. І. Квітко ўдзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі. Загінуў 20.9.1939 г. у баі за Гродна. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Брацкая магіла савецкіх воінаў. Пахаваны 59 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлена стэла.

Брацкая магіла савецкіх воінаў. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Гродна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Курбатава Міхаіла Ціханавіча. Герой Савецкага Саюза М. Ц. Курбатаў нарадзіўся 15.1.1924 г. у гарадскім пасёлку Магдагачы Амурскай вобл. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце. Памочнік камандзіра ўзвода малодшы сяржант М. Ц. Курбатаў праявіў мужнасць і гераізм пры вызваленні Магілёўшчыны. 23.6.1944 г. узвод пад яго камандаваннем выбіў гітлераўцаў з 5 ліній траншэй, знішчыў мінамёт і кулямёт з разлікамі, у баі за в. Будзіна Чавускага р-на захапіў гармату, з якой знішчыў 18 агнявых кропак і 3 дзоты праціўніка; 18.7.1944 г. М. Ц. Курбатаў разам з байцамі фарсіраваў Нёман і захапіў плацдарм, замяніў загінуўшага камандзіра ўзвода. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла. Гл. таксама артыкулы № 49 «Месца гібелі Курбатава Міхаіла Ціханавіча» і № 65 «Помнік Курбатаву Міхаілу Ціханавічу».

*Літ.*: Сердцем прикоснувшись к подвигу.— Мн., 1970; Калюта І. Абеліск над Нёманам.— Маладосць, 1969, № 9; Шацман В. И., Г. Горновых.— Гродно, 1958; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**16. ВОДАНАПОРНЫЯ ВЕЖЫ** (архіт.). На вул. Свярдлова, 2. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Вышыня вежаў 22 м, дахі васьміхільныя.



16. *Воданапорныя вежы.*



16. *Воданапорныя вежы. Разрэз паўночнай вежы.*

Паўночная вежа пабудавана ў пачатку 20 ст. Цэнтрычнае васьміграннае збудаванне падзелена па вышыні на 6 ярусаў. Фасады вежы багата дэкарыраваны: магутныя карнізы, пілястры, лапаткі, люкарны, спалучэнне чырвонай цэглы і белай тынкоўкі. Вокны 2-га яруса высокія, паўцыркульныя, размешчаны ў неглыбокіх нішах з навершам у выглядзе какошнікаў. У цэнтры вежы ўзвышаецца каркас з трубамі для падачы вады ў рэзервуар, які знаходзіцца на самым верхнім ярусе. Кожны ярус падзелены на 4 звязаныя паміж сабою адсекі, у якіх размяшчаюцца інжынернае абсталяванне і службовыя памяшканні. Перакрыцці драўляныя.

Паўднёвая вежа пабудавана ў канцы 19 ст. Васьм階граннае двух'яруснае збудаванне ўнутры па вышыні падзелена на 4 ярусы. Грані раскрапаваны арачнымі і лучковымі вокнамі і нішамі, вуглы вылучаны лапаткамі. У завяршэнні і паміж ярусамі прафіляваныя карнізы з зубчастым пояскам. Унутраная планіроўка падобная планіроўцы паўночнай вежы.

Воданапорныя вежы — прыклад гаспадарчых збудаванняў, у якіх спалучаны вытворчыя функцыі з выразнай архітэктурай. *А. Ю. Пятросава.*

**17. ГАЛОЎНЫ КОРПУС МЕДЫЦЫНСКАГА ІНСТЫТУТА** (архіт.). Вул. Горкага, 80. Пабудаваны ў 1975 г. з цэглы і бетона (архіт. Л. Вільчко, В. Давыдзёнак). Мае план складанай канфігурацыі. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з пяціпавярховага корпуса, які зблакіраваны крытым пераходам з аднапавярховымі і двух-, трохпавярховымі аб'ёмамі, што разам утвараюць унутраны дворык. Кампазіцыя галоўнага фасада пяціпавярховага корпуса заснавана на рытме гарызантальных міжпавярховых прасценкаў і аконных праёмаў. Асіметрычна размешчаны ўваход акцэнтаваны крывалінейным у плане казырком. Фасады апрацаваны тэразітавай тынкоўкай светлага колеру, цокаль — тынкоўкай здробненым каменем шэрага і чырвонага колераў.

У пяціпавярховым корпусе абапал калідораў размешчаны лабараторыі, лекцыйныя і адміністрацыйныя памяшканні, у аднапавярховых — спартыўная і актавая залы, сталовая, у двух-, трохпавярховых — аўдыторыі. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстана дэкаратыўная тынкоўка, фанера, шпон.

Корпус медыцынскага інстытута — прыклад вучэбных збудаванняў савецкай архітэктуры 1970-х гадоў. *Л. А. Вільчко.*



**16.** *Воданапорныя вежы. План 1-га і 2-га (уверсе), 3-га і 4-га (унізе) ярусаў паўночнай вежы.*



**16.** *Воданапорныя вежы. План 6-га яруса і пакрыцця паўночнай вежы.*



**18.** *Гарадскі асабняк.*

**18. ГАРАДСКІ АСАБНЯК** (архіт.). Тэлеграфны завулак, 15а. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца медустановай.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з высокім двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам з высокім двухсхільным шчытом. Сцены крапаваны лапаткамі, карнізамі, авальнымі нішамі, філёнгамі. Прамавугольныя і арачныя аконныя праёмы дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі, на тарцовых фасадах — трохвугольнымі франтонамі. На 2-м паверсе дваровага фасада вокны гатычнай стральчатай формы з філёнгавым абрамленнем. Цокальны паверх мае самастойны ўваход з боку дваровага фасада. Планіроўка дома калідорная з цэнтральнай міжпаверхавай лесвіцай.

Асабняк — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**19. ДАМЫ ЎРАЧОЎ** (архіт.). Будаваліся па індывідуальных праектах з улікам спецыфікі ўрачэбнай работы. Схема планіроўкі: 1-ы паверх — прыёмныя і ўрачэбна-працэдурныя кабінеты, санітарна-тэхнічныя і гаспадарчыя памяшканні, 2-і — жылыя пакоі.

Дом па вуліцы Леніна, 22. Пабудаваны ў 1911 г. з цэглы. Цяпер жылы дом. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак складаецца з трох аб'ёмаў. Сярэдні — вуглавы, вежападобны, накрыты шатровым дахам. У дэкаратыўным афармленні выкарыстаны керамічныя ўстаўкі, каляровае шкло, фактурная тынкоўка. 2 уваходы вялі ў жылую частку (з боку сучаснай вул. Карбышава) і



**19.** *Дом урача па вуліцы Леніна, 22.*



**19.** *Дом урача па вуліцы Студэнцкай, 6. Галоўны фасад.*

ў прыёмны пакой (з боку сучаснай вул. Леніна). Цяпер планіроўка зменена.

Дом па вуліцы Студэнцкай, 6. Пабудаваны ў 1906 г. з цэглы. Строга сіметрычны двухпавярховы аб'ём з парадным уваходам у цэнтры. Выразнасць дэкаратыўнага афармлення фасадаў дасягнута спалучэннем неатынкаваных плоскасцей сцен, выкладзеных з цэглы, і афарбаваных у белы колер карнізных цяг, пілястраў, аконных ліштваў, а таксама выкарыстаннем каваных, вырашаных у выглядзе перавітых змей, рашотак парапета. Для прыватнай урачэбнай практыкі былі адведзены памяшканні 1-га паверха правага крыла з самастойным тарцовым уваходам, астатнія — пад жыллё.

Дамы ўрачоў — прыклад архітэктуры стылю «мадэрн». *В. М. Чарнатаў.*

**20. ДОМ ВІЦЭ-АДМІНІСТРАТАРА** (архіт.). Пл. Леніна, 2. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы як жылы. Уваходзіў у архітэктурны комплекс Гарадніцы. Цяпер у будынку размешчаны Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР.

Дом двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з вуглавымі рызалітамі, накрыты двухсхільным дахам з вальмамі. Галоўным фасадам выходзіць на плошчу. Да заходняй тарцовай сцяны прыбудаваны аднапавярховы аб'ём, галоўны фасад якога паўтарае элементы афармлення 1-га паверха асноўнага аб'ёму. Галоўны і ўсходні фасады вырашаны аднолькава: праразаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, раскрапаваны шырокімі пілястрамі, нішамі і філёнгамі, карнізным поясам падзелены на 2 паверхі. Больш нізкі верхні паверх насычаны архітэктурным дэкорам. Першапачатковыя планіроўка і аздабленне інтэр'ера не захаваліся.

Будынак — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *С. Г. Багласаў.*

**21. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЎ БАГДАНОВІЧ** Максім Адамавіч (гіст., архіт.). Вул.



*19. Дом урача па вуліцы Студэнцкай, 6. План 1-га паверха.*



*20. Былы дом віцэ-адміністратара.*

Багдановіча, 1. Тут у 1892—96 гг. жыў з бацькамі М. А. Багдановіч — выдатны беларускі паэт, празаік, перакладчык і літаратуразнавец. У 1957 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Драўляны дом прамавугольны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральны ўваход вырашаны верандай, плоскае пакрыццё якой з'яўляецца тэрасай перад мезанінам, накрытым самастойным двухсхільным дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з франтонамі. Вуглы апрацаваны філёнгавымі лапаткамі.

**22. ДОМ, ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ АНТОНАЎ** Аляксей Інакенцьевіч (гіст.). Вул. Антонава, 23.

Савецкі ваенны дзеяч, генерал арміі (1943 г.) А. І. Антонаў нарадзіўся 15.9.1896 г. у сям'і афіцэра. Член КПСС з 1928 г. У арміі з 1916 г., удзельнік 1-й сусветнай вайны. У Чырвонай Арміі з 1919 г., удзельнік Грамадзянскай вайны, начальнік штаба брыгады на Паўднёвым фронце. У 1931 і 1933 гг. скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе і аператыўны факультэт гэтай акадэміі, у 1937 г.— Акадэмію Генеральнага штаба. У Вялікую Айчынную вайну начальнік штаба Паўднёвага, Паўночна-Каўказскага, Закаўказскага франтоў і Чарнаморскай групы войск. З снежня 1942 г. першы намеснік начальніка Генеральнага штаба і начальнік Аператыўнага ўпраўлення (да 1943 г.) Узброеных Сіл СССР, з лютага 1945 г. начальнік Генеральнага штаба. А. І. Антонаў прымаў удзел у распрацоўцы плана Беларускай аперацыі 1944 г. Удзельнік Ялцінскай (1945 г.) і Патсдамскай (1945 г.) канферэнцый. У 1948—49 гг. першы намеснік, у 1950—54 гг. камандуючы войскамі Закаўказскай ваеннай акругі. У 1946—48 гг. і з красавіка 1954 г. першы намеснік начальніка Генеральнага штаба, з мая 1955 г. адначасова начальнік Штаба Аб'яднаных узброеных сіл краін — удзельніц Варшаўскага Дагавору. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—62 гг. Памёр А. І. Антонаў 18.6.1962 г. Пахаваны ў Маскве на Краснай плошчы.

Імем А. І. Антонава названа вуліца ў Гродне.

У 1965 г. на доме, у якім ён нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка. *Э. М. Савіцкі.*

**23. ДОМ ЛЯСНОЙ АДМІНІСТРАЦЫІ** (архіт.). Пл. Леніна, 4б. Пабудаваны ў 1760—80 гг. з цэглы. Уваходзіў у архітэктурны комплекс Гарадніцы. Цяпер выкарыстоўваецца пад жыллё.

Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Вальмавы дах з мансардамі на тарцовых фасадах з'яўляецца асноўным элементам кампазіцыі. 1-ы паверх аддзелены ад 2-га гарызантальным пояскам. Цэнтральныя часткі падоўжных фасадаў вылучаны рызалітамі. Вокны прамавугольныя, завяршальны карніз прафіляваны, з невялікім вынасам. Унутраная планіроўка калідорная, пакоі размешчаны па перыметры будынка.

Будынак — прыклад архітэктуры барока. *І. С. Мельнік.*

**24. ДОМ СУВЯЗІ** (архіт.). Вул. К. Маркса, 29. Пабудаваны ў 1968 г. з цэглы (архіт. Г. Тарасевіч, Л. Вільчко). 5-павярховы вуглавы корпус складанай у плане канфігурацыі, да яго перпендыкулярна прымыкае падоўжнае крыло. Суцэльнае зашкленне на ўсю вышыню вуглавога аб'ёму і мерны рытм вертыкальных лапатак крыла ствараюць выразны кантраст у кампазіцыі галоўнага фасада. Канструкцыйнае вырашэнне будынка заснавана на спалучэнні жалезабетоннага каркаса з цаглянымі сценамі, апрацаванымі тынкоўкай з мармуро-



*21. Дом, дзе жыў М. Багдановіч.*



*22. Дом, дзе нарадзіўся А. І. Антонаў.*

вай крошкай (чырвонага колеру на 1-м паверсе і шэрага на 2—5-м паверхах).

У вуглавым 5-павярховым корпусе размешчаны вестыбюль, холы, вялікая двухсветлавая аперацыйная зала, у крыле — зала міжгароднай тэлефоннай сувязі, магазін філатэліі, службовыя і дапаможныя памяшканні. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны тынкоўка з каменнай і мармуровай крошкай. Тарцовая сцяна аперацыйнай залы аформлена шматфігурным гіпсавым рэльефам на тэму працы (скульпт. В. Даненкаў), лесвіца ўпрыгожана чаканкай (архіт. А. Волкаў).

Дом сувязі — прыклад грамадскіх збудаванняў савецкай архітэктуры 1960-х гадоў. *Л. А. Вільчко.*

**25. ДОМ ТЭХНІКІ** (архіт.). Вул. Горкага, 76. Пабудаваны ў 1982 г. з цэглы (архіт. В. Бажко, У. Праабражэнскі). Размешчаны на рэльефе з перападам вышынь, што адбілася на аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі будынка.

Асноўны корпус прамавугольны ў плане, з боку галоўнага фасада трохпавярховы, з боку дваровага — пяціпавярховы. Да яго прыбудавана двухпавярховае крыло, на слупах-апорах паміж якімі зроблены праезд на ўзроўні 2—4-га паверхаў галоўнага корпуса. Выразнасць пластыкі галоўнага фасада дасягнута кантрастным проціпастаўленнем 2 першых зашклёных паверхаў і глухой сцяны трэцяга, апрацаванага рэльефнымі бетоннымі пліткамі. Галоўны ўваход у цэнтры фасада асноўнага корпуса



25. *Дом тэхнікі. Галоўны фасад.*

акцэнтаваны рызалітам, у якім размешчаны вестыбюль (1-ы паверх), лекцыйная зала (2-і паверх) і кіналекторый (3-і паверх). У прыбудаваным крыле 2 залы: малая выставачная і канферэнц-зала. У галоўным корпусе 2 першыя паверхі заняты адміністрацыйнымі і службовымі пакоямі, на 3—5-м паверхах знаходзіцца вялікая выставачная зала, якая мае верхняе асвятленне.

Дом тэхнікі — прыклад грамадскага збудавання новага тыпу. *Т. І. Чарняўская.*

**26. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт., гіст.). Савецкая пл., 17. Пабудаваны ў 1914 г. з цэглы. Цяпер тут абласная бібліятэка імя Я. Ф. Карскага.

Трохпавярховы неатынкаваны Г-падобны ў плане будынак. Галоўны фасад сіметрычны. Цэнтральную яго частку на 2-м паверсе займае вялікі на 3 праёмы балкон з літай чыгуннай рашоткай. На 3-м паверсе крайнія арачныя праёмы з невялікімі балконамі. Плоскасць фасада крапавана пілястрамі з чыгуннымі вензелямі ў завяршэнні, да ўзроўню 2-га паверха руставаная. У абрысах акон, франтонаў, афармленні бакавых частак галоўнага фасада прасочваюцца рысы стылю «мадэрн». Паўкалонкі ў нішах, ліштвы аконных праёмаў, арнамент карнізаў вырашаны ў псеўдарускім стылі. У левым крыле будынка размешчана драўляная трохмаршавая лесвіца. На 2-м паверсе — зала (цяпер чытальня). Побач з ёй спачатку быў пакой для гульняў (цяпер гардэроб, абанемент і інш. памяшканні бібліятэкі). Паверхам вышэй размяшчаліся жылыя пакоі, сталовая. У афармленні цэнтральнай залы шырока выкарыстаны дэкаратыўная размалёўка і лепка. Залу асвятляюць 5 вялікіх прамавугольных акон. Сцены члянёны пілястрамі з ляпнымі гірляндамі, неглыбокімі нішамі. Малюнак плафонаў паўтарае арнамент сцен. У 2 вуглах залы печы з ляпнымі картушамі. Былы пакой для гульняў падзелены на 2 часткі праёмам, акаймаваным драўлянай разной ліштвай. На столі ляпныя разеткі. Карніз драўляны, арнаментаваны. У вуглах каміны, абкладзеныя карычневымі кафлянымі пліткамі. У памяшканнях 3-га паверха захаваліся печы і ляпныя разеткі на столі.

У гэтым будынку ў 1918—19 гг. працавалі падпольны камітэт РКП(б) і Гродзенскі Савет рабочых дэпутатаў. Гродзенскі камітэт РКП(б) (кіраўнік В. А. Багуцкі) створаны ў ліпені 1918 г. Дзейнічаў да студзеня 1919 г. Узначальваў работу падпольных партыйных ячэек у акупіраваных войскамі кайзераўскай Германіі горадзе і павеце. Члены камітэта на чале з В. А. Багуцкім наладзілі выпуск газеты «Набат», лістовак, вялі сярод насельніцтва і нямецкіх салдат прапагандысцкую работу. Нягледзячы на рэпрэсіі акупацыйных улад, арганізавалі і 8.1.1919 г. правялі палітычную забастоўку і дэманстрацыю працоўных з патрабаваннем устанаўлення Савецкай улады. Камітэт меў сувязь з ЦК РКП(б), Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РКП(б), бальшавіцкімі арганізацыямі Мінска, Вільні, Кампартыяй Літвы і Заходняй Беларусі.

У 1919 г. у гэтым будынку на працягу 3 месяцаў працаваў першы Гродзенскі Савет рабочых дэпутатаў. Выбары ў Савет праходзілі ў канцы снежня 1918 г. — пачатку студзеня 1919 г. пад кіраўніцтвам камуністаў; выбраны 103 дэпутаты, амаль трэць з іх была камуністамі ці спачуваючымі. Першае пасяджэнне Савета адбылося 26.1.1919 г. у будынку сучас-



23. *Дом былой лясной адміністрацыі.*



23. *Дом былой лясной адміністрацыі. План 1-га паверха.*



26. *Жылы дом на Савецкай плошчы, 17.*



26. *Жылы дом на Савецкай плошчы, 17. План 1-га паверха.*

нага абласнога тэатра лялек. Старшынёй Савета выбраны Шпак (партыйны псеўданім В. А. Багуцкага). Адным з першых рашэнняў Савета было ўвядзенне на прадпрыемствах горада васьмігадзіннага рабочага дня. Савет прыняў шэраг іншых жыццёва важных для працоўных горада рашэнняў, але іх ажыццяўленне было сарвана акупацыяй 27.4.1919 г. Гродна войскамі буржуазнай Польшчы. Савет спыніў сваю дзейнасць.

У гонар дзейнасці падпольнага камітэта РКП(б) і Савета, рабочых дэпутатаў у 1958 г. на будынку ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Плешавеня А. М. За радком мемарыяльнай дошкі.— Помнікі гісторы і культуры Беларусі, 1972, № 4.

*А. Ю. Пятросава, Э. М. Савіцкі.*

**27. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ АЖЭШКА** (архіт., гіст.). Адна з цэнтральных вуліц горада. Звязвае Прывакзальную пл. з пл. Леніна. Сфарміравана ў 1760—80 гг. як галоўная вуліца (называлася Раскоша) Гарадніцы — новага раёна горада, дзе размяшчаліся мануфактурныя прадпрыемствы, жылыя і грамадскія будынкі. У 19 ст. пабудаваны дом віцэ-губернатара, жаночая гімназія і інш., у канцы 19 — пачатку 20 ст.— Пакроўская царква, мураваныя жылыя дамы. У савецкі час тут узведзены шэраг адміністрацыйных будынкаў.

Дом № 1. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчаны гарадскія ўстановы, магазін. Трохпавярховы асіметрычны ў плане будынак. Галоўны фасад чляненны на 3 ярусы. Верхні з багатай аздобай аддзелены ад сярэдняга плоскім карнізным поясам, завершаны прафіляваным карнізам. Прамавугольныя вокны з ліштвамі, франтонамі і сандрыкамі. Галоўны фасад мае арачны праезд на вышыні 2 ніжніх паверхаў, аформлены несапраўдным порцікам з 4 пілястрамі і трохвугольным франтонам з балконам на фігурных чыгунных кранштэйнах.

У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы позняга класіцызму.

Дом № 3. Уключае былы дом віцэ-губернатара, пабудаваны з цэглы ў пачатку 19 ст., і дзевяціпавярховы будынак (1966 г., архіт. І. Міхед; рэканструкцыя 1979 г., архіт. І. Еўдакімаў, У. Праабражэнскі, М. Бярэзін). Тут размешчаны выканком абласнога Савета народных дэпутатаў.

Дом віцэ-губернатара — двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Галоўны фасад сіметрычны. Цэнтральная частка вылучана чатырохкалонным порцікам з элементамі дарычнага і карынфскага ордэраў. Пастаўленыя на высокія п'едэсталы калоны падтрымліваюць антаблемент з трохвугольным франтонам. Сцяна галоўнага фасада чляненна філёнгамі, раскрапавана рустам, завершана прафіляваным карнізам. Вокны абрамлены фігурнымі ліштвамі і сандрыкамі. У інтэр'еры вестыбюль з параднай лесвіцай. Планіроўка абодвух паверхаў калідорная. Па баках калідора размешчаны невялікія пакоі, у тарцах — залы. Цяпер планіроўка будынка зменена. Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.



27. *Будынак аблвыканкома.*



27. *Будынак аблвыканкома. План 1-га паверха.*

У гэтым доме ў 1920 г. размяшчаўся Гродзенскі рэвалюцыйны камітэт, праездам спыняўся Ф. Э. Дзяржынскі.

Гродзенскі рэўком створаны 20.7. 1920 г. Кіраваў Саветамі і рэўкомамі паветаў і валасцей губерні. Ажыццявіў шэраг сацыялістычных пераўтварэнняў. Галоўную ўвагу звярнуў на аднаўленне прамысловасці. Былі нацыяналізаваны і ўведзены ў строй тытунёвая і запалкавая фабрыкі, цагельны і 3 лесапільныя заводы, некалькі млыноў, устаноўлены кантроль над прыватнымі прадпрыемствамі, уведзена працоўная павіннасць для ўсіх грамадзян ва ўзросце ад 18 да 45 гадоў. Аддзел народнай адукацыі рэўкома склікаў настаўніцкую канферэнцыю, распрацаваў і прыняў пастановы аб адкрыцці Народнага дома, музычнай школы, школ па ліквідацыі непісьменнасці. Рэўком спыніў дзейнасць у сувязі з акупацыяй (верасень 1920 г.) горада войскамі буржуазнай Польшчы. У 1970 г. у памяць аб дзейнасці рэўкома на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Ф. Э. Дзяржынскі быў у Гродне 1—2.8.1920 г. праездам. Тут ён правёў нараду з работнікамі Гродзенскага рэўкома і гарадской міліцыі. У 1970 г. у памяць аб знаходжанні Ф. Э. Дзяржынскага ў Гродне на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Дзевяціпавярховы будынак прамавугольны ў плане. Галоўны фасад, арыентаваны на вул. Ажэшка, завершаны дэкаратыўным парапетам, у цэнтры якога герб БССР (чаканка, медзь). Першыя 2 паверхі галоўнага фасада абліцаваны шэрым гранітам, астатнія чляненны вертыкальнымі пілонамі. З боку дваровага фасада прыбудаваны трохпавярховы аб'ём (фае залы пасяджэнняў і выставачная). Зала пасяджэнняў мае верхняе дзённае асвятленне пры дапамозе зашклёных ліхтароў. У цэнтры будынка на 1-м паверсе размешчаны вестыбюль з лесвічна-ліфтавым вузлом. У фае над уваходам у залу пасяджэнняў рэльефнае пано «Нараджэнне рэспублікі» (скульпт. Г. Буралкін; гіпс). У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны шэры і белы мармур, дэкаратыўная мурорўка. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу. На 1-м паверсе размешчаны вестыбюль, службовыя памяшканні, на 2—7-м паверхах — рабочыя кабінеты.

Будынак — прыклад адміністрацыйных збудаванняў савецкай архітэктуры.

Дом № 9. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы як лячэбніца. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы. Двухпавярховы асіметрычны ў плане аб'ём. Сіметрычна-восевая кампазіцыя галоўнага фасада падкрэслена 3 рызалітамі, якія завершаны фігурнымі атыкамі. Двух'ярусная будова фасада падкрэслена міжпаверхавым і завяршальным карнізамі з фігурнымі арнаментаванымі кранштэйнамі. Прамавугольныя і паўцыркульныя аконныя праёмы ўпрыгожаны ліштвамі з сандрыкамі, франтонамі, філёнгамі. Цокаль і 1-ы паверх апрацаваны рустам. Планіровачна дом падзелены на 3 секцыі з самастойнымі ўваходамі. Кватэры аб'яднаны вакол міжпаверхавых лесвіц.

Дом — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі позняга класіцызму.



27. *Былы дом віцэ-губернатара. План 1-га паверха.*



27. *Дом-музей Э. Ажэшка.*



27. *Забудова вуліцы Ажэшка. Дом № 15.*



27. *Будынак былой ветэрынарнай школы.*



27. *Будынак былой ветэрынарнай школы. План 1-га паверха.*

Дом № 15. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як жылы. Двухпавярховы будынак накрыты ламаным вальмавым дахам. Вылучаецца складанай формай плана і асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй. Фасады члянёны рызалітамі. З'яўляецца прыкладам архітэктуры стылю «мадэрн».

Дом № 17, Дом-музей Э. Ажэшка. Пабудаваны ў 1979 г. як копія драўлянага дома, у якім у 1894—1910 гг. жыла польская пісьменніца. Цяпер у доме мемарыяльныя пакоі Э. Ажэшка, Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР, аддзел юнацкай літаратуры абласной бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага. У 1953 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка Э. Ажэшка.

Дом № 19. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як жылы. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак пад двухсхільным дахам. Галоўны фасад сіметрычны. Вуглы вылучаны рызалітамі, якія дэкарыраваны пілястрамі: на 1-м і 2-м паверхах — руставанымі, на 3-м — канеліраванымі. Аконныя праёмы прамавугольныя, у фігурных ліштвах, невялікія балкончыкі з ажурнымі агароджамі (чыгуннае ліццё).

Дом № 23, Пакроўская царква. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы на ўшанаванне памяці афіцэраў і ніжніх чыноў 26-й артылерыйскай брыгады, якія загінулі ў руска-японскую вайну 1904—05 гг. Храм трохнефавы, базілікальнага тыпу, дванаццацістаўповы, аднаапсідны. Уваходныя часткі будынка вылучаны высокімі ганкамі, дзверы ўпрыгожаны калонкамі і разнымі трохвугольнымі акантоўкамі. Галоўны паўночна-заходні фасад храма сіметрычны. Над прытворам узвышаецца дзесяціметровая васьміграння званіца, шатровае пакрыццё якой увенчана цыбулепадобным купалам на барабане. Вокны паўцыркульныя з абрамленнямі ў выглядзе какошнікаў. Абапал званіцы ўзвышаюцца невялікія шатры з купаламі. Над алтарнай часткай размяшчаецца 5 купалоў — вялікі цэнтральны і 4 па вуглах вальмавага даху. Купалы цыбулепадобныя на васьмігранных барабанах, упрыгожаных несапраўднымі вокнамі з абрамленнямі ў выглядзе какошнікаў. Над рызніцамі ўзнімаюцца 2 шатры з макаўкамі. Прытвор перакрыты высокімі крыжовымі скляпеннямі. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых калонамі. Столь плоская, упрыгожана 3 размаляванымі плафонамі. Уздоўж сцяны пад вокнамі праходзіць магутны карніз з сухарыкамі. Разны драўляны алтар, размалёўка сцен надаюць інтэр'еру багаты выгляд. Асноўны аб'ём і прытвор раздзелены масіўнымі разнымі дзвярамі. Падлога ў прытворы мазаічная.

Царква — прыклад архітэктуры псеўдарускага стылю.

Дом № 35. Пабудаваны з цэглы на мяжы 19—20 стагоддзяў як жылы, неатынкаваны. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. У цэнтры галоўнага фасада вялікі арачны праезд. Прасценкі дэкарыраваны руставанымі лапаткамі, аконныя праёмы лучковыя. Пад карнізам шырокі аркатурны пояс.

Дом № 37. Пабудаваны каля 1765 г. паводле праекта архіт. Ю. Мёзера. Уваходзіў у ансамбль з 20 тыпавых дамоў, размешчаных сіметрычна абапал вуліцы. Жылыя дамы аднапавярховыя, прамавугольныя ў плане, будаваліся з драўляных брусоў і цэглы. Прызначаўся для наёмных рабочых мануфактур А. Тызенгаўза. Галоўны фасад цагляны, атынкаваны, з сіметрычна размешчанымі невялікімі вокнамі, завершаны франтонам складанай формы. Бакавыя і тыльная сцены драўляныя. Дах двухсхільны, быў накрыты чарапіцай, цяпер часткова перакрыты шыферам і бляхай. Планіровачная структура характэрная для жылых дамоў рамеснікаў: будынак падзелены на вытворчую і жылую часткі. Перакрыцці драўляныя, падшытыя фанерай. Дом — прыклад першай на Беларусі комплекснай тыповай жыллёвай забудовы.

Дом № 20, ветэрынарная школа. Пабудаваны ў 1770-я гады з цэглы, часткова перабудаваны ў канцы 19 ст. У гэтым будынку ў 1775—81 гг. размяшчалася Гродзенская ўрачэбная акадэмія, пазней медыцынская школа. Пры ёй існавалі аддзяленні правінцыяльных лекараў і хірургаў, акушэрак, былі бальніца, кабінет прыродазнаўства. У 1781 г. школа пераведзена ў Вільню, дзе



27. *Пакроўская царква.*



27. *Пакроўская царква. План.*

стала асновай медыцынскага факультэта універсітэта. Цяпер будынак выкарыстоўваецца адміністрацыйнай установай.

Да перабудовы гэта — трохпавярховы ў цэнтральнай частцы аб'ём з аднапавярховымі бакавымі крыламі. Цэнтральная частка накрыта вальмавым дахам, бакавыя — трохсхільнымі. Галоўны фасад фланкіраваны 2 гранёнымі эркерамі, якія раней былі накрыты купаламі. Пасля перабудовы ў самастойныя памяшканні вылучаны бакавыя крылы. Уваходнай частцы нададзены больш развіты характар. Зменены вонкавы выгляд будынка. Руставаная плоскасць сцяны 1-га паверха прарэзана шырокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны 2-га паверха паўцыркульныя, аддзелены шырокімі плоскімі пілястрамі, 2 бакавыя ўпрыгожаны дэкаратыўнымі балконамі. Купалы заменены атыкамі, упрыгожанымі ваеннай геральдыкай. Дах у цэнтральнай частцы значна паніжаны.

Будынак — помнік архітэктуры позняга барока з выкарыстаннем эклектычных элементаў.

Дом № 22, жаночая гімназія. Пабудаваны ў 1893 г. з цэглы, у 1969 г. да трохпавярховага корпуса прыбудаваны чатырохпавярховы. Цяпер тут размешчаны Гродзенскі дзяржаўны універсітэт. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны цэнтральным і 2 бакавымі рызалітамі. Будынак абліцаваны жоўтай цэглай. Выразны рытм аконных праёмаў надае яму строгі характар. Планіроўка з аднабаковым размяшчэннем класных пакояў. Вакол 2 лесвічных клетак — памяшканні лабараторый і тэхнічныя.

Будынак — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

Дом № 28. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У скошаным вуглу будынка размешчаны галоўны ўваход, над ім на ўзроўні 2-га паверха балкон з ажурнай агароджай.



27. *Забудова вуліцы Ажэшка. Дом № 35.*

Планіроўка і забудова вул. Ажэшка з'яўляецца помнікам горадабудаўніцтва.

*С. Г. Багласаў, А. Ю. Пятросава, Э. М. Савіцкі, Т. І. Чарняўская.*

**28. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЗАМКАВАЙ** (архіт.). Знаходзіцца ў цэнтральнай частцы горада, звязвае тэрыторыю былых Старога і Новага замкаў з сучаснай Савецкай пл. Зберагліся жылыя будынкі 19 ст. (№ 9, 11, 12, 13, 14, 16, 17).

Дом № 9. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Будынак трохпавярховы, прамавугольны ў плане. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Плоскасць фасада дэкарыравана пілястрамі са стылізаванымі капітэлямі. На 1-м паверсе прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў, на 2-м — аздоблены сандрыкамі, на 3-м — ляпнымі дэкаратыўнымі элементамі. Пад карнізам — паясок з сухарыкамі.

Дом № 11. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Трохпавярховы будынак далучаны да дома № 9, складае з ім адзіны фронт забудовы. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі без ліштваў.

Дом № 13. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы ў стылі ампір. Завяршае адзіную кампазіцыю дамоў № 9 і 11. Цяпер тут інтэрнат Гродзенскага педагагічнага вучылішча. Трохпавярховы асіметрычны ў плане П-падобны будынак з высокім цокалем, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Развіты ў глыбіню двара. Плоскасць галоўнага фасада чляпёна пілястрамі, каніляраванымі на 2-м і 3-м паверхах і руставанымі на 1-м. Пілястры завершаны іанічнымі капітэлямі. Фасад увенчаны магутным карнізам, дэкарыраваным арнаментам і дэнтыкуламі. У левым крыле скразны праход, закрыты варотамі, у правым — уваход у будынак, размешчаны сіметрычна праходу. Цэнтр вылучаны балконам з узорыстай рашоткай. Планіроўка калідорная. Сувязь паміж паверхамі ажыццяўляецца з дапамогай двухмаршавых лесвіц. Інтэр'еры простыя, без дэкаратыўнай аздобы.

Дом № 17. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты чатырохсхільным дахам. Сцены галоўнага і тарцовага фасадаў падзелены карнізнымі паяскамі. Аконныя праёмы прамавугольныя, з простымі ліштвамі. На 2-м паверсе — невялікія балконы з ажурнымі агароджамі.

Дом № 12. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана фігурным атыкам. Плоскасць галоўнага фасада дэкарыравана руставанымі лапаткамі, карнізам з сухарыкамі, аконнымі ліштвамі з замковым каменем. У дэкаратыўнай аздобе фасада прасочваюцца эклектычныя матывы.



27. *Забудова вуліцы Ажэшка. Дом № 37.*



27. *Забудова вуліцы Ажэшка. Дом № 37. План.*



28. *Забудова вуліцы Замкавай. Дом № 13. Галоўны фасад.*



28. *Забудова вуліцы Замкавай. Дом № 13. План 1-га паверха.*



28. *Забудова вуліцы Замкавай. Дом № 12.*

Дом № 14. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Будынак трохпавярховы, мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У цэнтральнай частцы галоўнага фасада — невялікі рызаліт, завершаны трохвугольным шчытом з люкарнай. Сцены фасада на 1-м і 3-м паверхах прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, на 2-м — паўцыркульнымі.

Дом № 16. Пабудаваны ў 1-й чвэрці 19 ст. з цэглы. Цяпер тут абласны савет педагагічнага таварыства. Будынак двухпавярховы, асіметрычны ў плане, замкнёны па перыметры, развіты ў глыбіню двара. Ва ўнутраны двор вядзе праезная арка, над цэнтральнай часткай якой ляпная гірлянда са стужкамі. 1-ы паверх будынка падзелены на 7 частак з самастойнымі ўваходамі са двара. У цэнтры галоўнага паўночна-заходняга фасада размешчаны несапраўдны порцік дарычнага ордэра, увенчаны трохвугольным франтонам. Фрыз упрыгожаны геральдыкай. Абапал порціка — невялікія балконы з чыгуннымі ўзорыстымі агароджамі. Аконныя праёмы прамавугольныя ў ліштвах. Вертыкальная сувязь ажыццяўляецца пры дапамозе 4 лесвіц. Перакрыцці драўляныя. Унутраная планіроўка зменена ў 1970-я гады.



28. *Забудова вуліцы Замкавай. Дом № 16. Галоўны фасад.*

У ансамблі жылых дамоў па вул. Замкавай прасочваюцца рысы архітэктуры класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**29. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт.). Адна з цэнтральных вуліц горада (былая Дамініканская), паміж пл. Савецкай і вул. Ажэшка. Паводле праекта рэканструкцыі Гродна 1874 г. забудоўвалася толькі муравanымі дамамі, якія належалі пераважна купцам і прадпрыемцам. Многія збудаванні неаднаразова рамантаваліся і перабудоўваліся.

Дом № 1. Пабудаваны ў 18 ст. Двухпавярховы вуглавы П-падобны ў плане будынак пад двухсхільным дахам (спачатку складаўся з 2 самастойных аб'ёмаў). 1-ы паверх выкарыстоўваецца прадпрыемствамі гандлю і бытавога абслугоўвання, 2-і адведзены пад жыллё. Кампазіцыя галоўнага фасада ярусная. 1-ы паверх аддзелены ад 2-га карнізам. Галоўны фасад завершаны высокім двух'ярусным франтонам. У верхняй частцы круглае дахавае акно, у ніжняй — мансардавае памяшканне з прамавугольнымі вокнамі. Дах спачатку быў з чарапіцы, пазней значная частка заменена бляхай.



28. *Забудова вуліцы Замкавай. Дом № 16. План 1-га паверха.*



29. *Забудова вуліцы Савецкай. Дом № 10.*

Дом № 3. Пабудаваны ў 19 ст. У архітэктуры будынка пераважаюць элементы стылю барока. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак пад двухсхільным дахам. 1-ы паверх займаюць прадпрыемствы гандлю, 2-і адведзены пад жыллё. Кампазіцыя галоўнага фасада ярусная, сіметрычная. Паверхі аддзелены гарызантальнай цягай, цэнтральная і флангавыя часткі вылучаны рызалітамі. На 2-м паверсе 3 балконы з чыгуннымі літымі агароджамі. Аконныя і балконныя праёмы 2-га паверха, а таксама размешчаны па цэнтры 1-га паверха праезд — лучковай канфігурацыі. Пабудова спалучае аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю класіцызму і дэкаратыўныя элементы барока.

Дом № 13. Пабудаваны ў 1900 г. Цяпер 1-ы паверх займае прадпрыемства бытавога абслугоўвання, 2 верхнія выкарыстоўваюцца пад жыллё. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак пад двухсхільным дахам. Высокі атык узвышаецца на паўпаверха над суседнім будынкам. У левай частцы фасада праезд у двор. На 2-м і 3-м паверхах па цэнтры размешчаны балконы. Усе праёмы лучковыя з ліштвамі. Развіты карніз невялікага вынасу. Прыклад эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў класіцызму.

Дом № 15. Пабудаваны ў 1895 г. 1-ы паверх займаюць прадпрыемствы гандлю і бытавога абслугоўвання, 2-і і 3-і адведзены пад жыллё. Трохпавярховы будынак з невысокім двухсхільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная, ярусная. Паверхі аддзелены карнізамі і фрызамі з геаметрычным рэльефам. Аконныя праёмы верхніх паверхаў лучковыя з ліштвамі, на 3-м паверсе ліштвы з замком. Прафіляваны завяршальны карніз з невялікім вына-

сам. Прыклад эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў класіцызму.

Дом № 17. Пабудаваны ў 1885 г. На 1-м паверсе размешчаны магазіны, 2-і выкарыстоўваецца пад жыллё. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты невысокім аднасхільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная, ярусная. Паверхі падзелены 2 гарызантальнымі цягамі. У цэнтры праезд у двор. На 2-м паверсе балкон, які аб'ядноўвае 2 праёмы. Вышыня балконнай агароджы роўная адлегласці паміж цягамі. Аконныя праёмы лучковыя, у ліштвах. Завяршальны прафіляваны карніз з невялікім вынасам.

Дом № 23. Пабудаваны ў 1924 г. Цяпер у левай частцы 1-га паверха размешчана прадпрыемства гандлю, астатнія памяшканні выкарыстоўваюцца адміністрацыйнымі ўстановамі. Трохпавярховы будынак прамавугольны ў плане. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Дэкор будынка па складанасці і насычанасці нарастае ад 1-га паверха да 3-га. Цэнтральная і бакавая часткі вылучаны рызалітамі. Парадны ўваход у выглядзе здвоеных арак паўцыркульнага абрысу вышынёй у паўтара паверхі. 1-ы паверх вырашаны як стылабат, 2-і і 3-і аддзелены фрызам з прамежкавым карнізам. Аконныя праёмы 1-га і 2-га паверхаў лучковыя, 3-га — паўцыркульныя. На рызалітах 3-га паверха размешчаны балконы, якія аб'ядноўваюць па 2 здвоеныя праёмы паўцыркульнага абрысу. Гэты матыў пераклікаецца з канфігурацыяй параднага ўвахода. Аконныя праёмы верхняга паверха ўпісаны ў прамавугольныя нішы і аздоблены сандрыкамі, нішы аддзелены ад карніза гарызантальнай цягай. У архітэктуры будынка пераважаюць элементы стылю «мадэрн».

Дом № 25. Пабудаваны ў 1870 г. Цяпер 1-ы паверх заняты прадпрыемствамі гандлю, 2-і адведзены пад жыллё. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з аднасхільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Цэнтральная і вуглавая часткі падкрэслены пілястрамі: на 1-м паверсе шырокімі, на 2-м больш вузкімі. Цокаль скошаны. Паверхі аддзелены 2 прамежкавымі карнізамі. Цэнтральны балкон аб'ядноўвае 2 зблізкаными праёмы. Аконныя праёмы прамавугольнай формы, з скругленымі вугламі, абрамлены ліштвамі. Над праёмамі сандрыкі. Завяршальны карніз прафіляваны, з невялікім вынасам. У архітэктуры пабудовы пераважаюць элементы стылю «мадэрн».

Дом № 31. Пабудаваны ў 1900 г. Цяпер на 1-м паверсе размешчана прадпрыемства гандлю, на астатніх — адміністрацыйныя ўстановы. Будынак у плане складанай канфігурацыі.



29. *Забудова вуліцы Савецкай. Дом № 23.*

Цэнтральная частка трохпавярховая, бакавыя — двухпавярховыя. Пабудова стварае ўражанне некалькіх самастойных аб'ёмаў, дэкор якіх адрозніваецца ў дэталях, але адзіны па стылю і тэматыцы. Цэнтральная частка вылучана руставанымі лапаткамі і мае прадаўжэнне над завяршальным, моцна прафіляваным карнізам. Аконныя праёмы прамавугольныя, на 2-м паверсе сандрыкі, у левай частцы балкон. Скошаны цокаль часткова абліцаваны пліткай і атынкаваны «пад футра». У архітэктуры будынка пераважаюць элементы позняга класіцызму.

Дом № 10. На перасячэнні вуліц Савецкай і К. Цэткін. Пабудаваны ў 1880 г. Цяпер тут размешчаны выканком Гродзенскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Будынак трохпавярховы, у плане складанай формы. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Цэнтральная і бакавыя часткі вылучаны рызалітамі, якія выходзяць за межы завяршальнага карніза. Унізе 3 паўцыркульныя праезды. 1-ы паверх аддзелены ад астатніх 2 гарызантальнымі цягамі. Вокны прамавугольныя ў ліштвах, у цэнтральнай частцы здвоеныя. Архітэктура будынка вырашана ў эклектычных формах.

Дом № 12. Пабудаваны ў 1900 г. Выкарыстоўваецца як жылы дом. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Кампазіцыя галоўнага фасада ярусная, сіметрычная. Паверхі аддзелены карнізамі. Бакавыя часткі вылучаны рызалітамі. У цэнтры 1-га паверха і на рызалітах 3-га балконы з чыгуннымі літымі агароджамі. Балконы 2-га паверха аб'ядноўваюць 3 прамавугольныя праёмы. Усе праёмы 3-га паверха лучковыя з ліштвамі. Завяршае сцены развіты карніз.

Дом № 14. Пабудаваны ў 1843 г. Цяпер тут выканком Ленінскага раённага савета народных дэпутатаў. Двухпавярховы Т-падобны ў плане будынак. Кампазіцыя галоўнага фасада ярусная, сіметрычная. Паверхі аддзелены фрызамі. Цэнтральная частка вылучана 4 пілястрамі, завершана трохвугольным франтонам. Паміж пілястрамі на 2-м паверсе паўцыркульныя аконныя праёмы ў ліштвах, у цэнтры — балкон. Бакавыя часткі вылучаны здвоенымі пілястрамі, паміж якімі размешчаны па 2 зблізкаными акны, і завершаны паўкруглымі франтонамі. Праёмы 1-га паверха прамавугольныя. Завяршальны карніз прафіляваны, з невялікім вынасам. Цокаль абліцаваны керамічнай пліткай.

Дом № 20. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак з аднасхільным дахам. Цяпер тут гасцініца (былы атэль «Еўропа»).

Кампазіцыя галоўнага фасада асіметрычная. У левай частцы, вылучанай рызалітам, знаходзіцца галоўны ўваход і лесвічны блок. 1-ы паверх аддзелены ад 2-га карнізам. Здвоеныя аконныя праёмы 1-га паверха лучковыя, 2-га і 3-га — прамавугольныя. Завяршальны карніз непрафіляваны, з невялікім вынасам. У архітэктуры будынка выкарыстаны элементы стылю «мадэрн».

Забудова вул. Савецкай захавала канструкцыйныя і стылявыя прынцыпы і прыёмы будаўніцтва канца 18 — пачатку 20 ст. Цяпер у запаведнай гістарычнай зоне горада.

*І. С. Мельнік.*

**30. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт., маст.). Вул. Парыжскай камуны, 6, на правым беразе Нёмана. Драўляны кляштар заснаваны ў 1494 г. (1495 г.), мураваны пабудаваны ў 1595—1618 гг. Асобныя дабудовы зроблены ў 18 ст. Уключаў касцёл, вежу-званіцу і жылы корпус; быў абкружаны муравана агароджай, за якой знаходзіліся сад і агарод, двор з гаспадарчымі пабудовамі. Захаваліся касцёл, жылы корпус, званіца, якія звязаны ў адзіны комплекс і ўтвараюць замкнёны ўнутраны дворык.

Касцёл — трохнефавая шасцістаўповая базіліка з моцна выступаючай і паніжанай адносна цэнтральнага нефа паўцыркульнай апсідай, з прытворам і 2 капэламі. Цэнтральны неф накрыты двухсхільным, бакавыя — аднасхільнымі дахамі. У архітэктуры касцёла спалучаюцца стылявыя элементы готыкі (стральчатыя праёмы і ступеньчатыя контрфорсы апсіды, нервюры скляпенняў), рэнесансу і барока (дынамічная групоўка ордэрных форм на галоўным фасадзе і крывалінейны сілуэт верхняга яруса). Галоўны фасад дэкарыраваны развітым антаблементам, пілястрамі карынфскага ордэра, арачнымі нішамі і завершаны трохвугольным франтонам.

Сцены бакавых фасадаў члянёны пілястрамі і спаранымі арачнымі вокнамі. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых 6 апорнымі слупамі. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У 1788 г. аздоба інтэр'ера дапоўнена жывапісам (мастакі А. Грушэцкі і Ф. Міхалкевіч), разьбой па дрэве, чыгунным і бронзавым ліццём, стукавым арнаментам, скульптурай. Скляпенні крыжовыя на падпружных арках, размаляваных ў тэхніцы грызайль (гербы заказчыкаў, раслінны арнамент). Плафоны з фрэскавымі кампазіцыямі. У нішах аркатурнага пояса на паўднёвай сцяне цэнтральнага нефа выявы 12 апосталаў, на паўночнай — 12 дзеячаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Кампазіцыя «Ушэсце Хрыста» размешчана на тымпане арачнага перакрыцця цэнтральнага нефа. Каля паўночнага нефа — амбон у стылі класіцызму, дэкарыраваны лісцем аканта і 4 авальнымі медальёнамі з выявамі евангелістаў (дрэва, накладная разьба). Дзверы і сцены прытвора, што выходзяць у цэнтральны неф, выкананы з ажурнага кованага металу (17 ст.). Над прытворам хоры з арганам, дэкарыраваным разьбой па дрэве. У кампазіцыі ўсіх 14 алтароў (за выключэннем аднаго алтара, зробленага ў 20 ст. мясцовым рэзчыкам І. Болдакам) выкарыстаны элементы карынфскага ордэра, скульптура, алтарныя карціны. Асаблівую мастацкую каштоўнасць маюць скульптурныя і гарэльефныя стукавыя кампазіцыі Ларэтанскай капэлы: «Чатыры евангелісты», «Святое сямейства», «Маленне аб чашы», якія выкананы ў стылі рэнесансу. Трох'ярусны галоўны алтар драўляны, аздоблены стукавай скульптурай і арнаментам. У яго кампазіцыю арганічна ўключаны высокія спараныя вокны апсіды, у якіх захаваліся вітражы. Ярусы алтара вылучаны ступеньчатым пастаментам і раскрапаваным антаблементам, завершаны прамавугольным атыкам. Сцены прэсбітэрыя да ўзроўню акон пакрыты дубовымі панелямі, на іх — драўляныя прамавугольныя пано. Дэкаратыўнае афармленне галоўнага алтара, прэсбітэрыя і цэнтральнага нефа (спалучэнне элементаў рэнесансу, барока і класіцыстычных матываў) дае падставу датаваць інтэр'ер 17 — канцом 18 ст.



30. *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл. Фрагмент галоўнага фасада.*

Ж ы л ы   к о р п у с. Далучаны да паўднёвай сцяны касцёла. Двухпавярховы аб'ём у плане складанай канфігурацыі. Сцены члянёны прамавугольнымі вокнамі, пілястрамі, контрфорсамі. Усходняе і паўднёвае крылы вылучаны буйнымі рызалітамі з трохвугольнымі шчытамі, завершаны двухсхільным чарапічным дахам. Планіроўка галерэйная.

В е ж а - з в а н і ц а прымыкае да галоўнага фасада касцёла з паўднёвага боку. Мае самастойны ўваход і звязана з касцёлам і жылым корпусам. 2 верхнія ярусы званіцы, пера-



30. *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл. Від з боку апсіды.*



30. *Кляштар бернардзінцаў. Падоўжны разрэз касцёла.*



30. *Кляштар бернардзінцаў. План.*



30. *Кляштар бернардзінцаў.*

будаваныя ў 1788 г., выкананы ў стылі позняга барока. Яны маюць складаную фігурную пабудову і маляўнічы сілуэт. У іх пластычным афармленні выкарыстаны выгнутыя паверхні сцен, рэльефныя чляненні, вуглавыя калонкі і валюты. Вежа завершана фігурнай галоўкай са шпілем.

Кляштар — помнік архітэктуры і дэкаратыўнага мастацтва, у якім спалучаюцца прыёмы і формы готыкі, рэнесансу і барока.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Кудряшов В. И. Барокко и классицизм в архитектурном наследии Гродно.— У кн.: Сб. науч. работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР. Мн., 1960, в. 3.

*С. Г. Багласаў, М. М. Яніцкая.*

**31. КЛЯШТАР БРЫГІТАК** (архіт.). На скрыжаванні вуліц К. Маркса і Маладзёжнай. Пабудаваны ў 1634—42 гг. з цэглы. Комплекс уключаў касцёл, жылы корпус, мураваную агароджу з брамамі (захавалася часткова), гаспадарчыя пабудовы (збярогся толькі драўляны лямус), сад, агарод, званіцу-капэлу, якая стаяла асобна, па другі бок вуліцы (не захавалася).

Касцёл. Размешчаны ў паўночнай частцы комплексу. Галоўным паўднёва-заходнім фасадам выходзіць на сучасную вул. Маладзёжную. Аднанефавы двухвежавы храм з паўцыркульнай апсідай, якая пераходзіць у асноўны аб'ём і мае агульны з ім высокі чарапічны дах. Усе фасады расчлянёны на аднолькавую вышыню пілястрамі з карынфскімі капітэлямі, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, маюць адзіны антаблемент. Галоўны фасад мае стройную сіметрычную кампазіцыю са складанай рытмічнай арганізацыяй і трохчасткавым дзяленнем па вертыкалі на цэнтральную плоскасць і 2 вуглавыя вежы. Ніжні ярус галоўнага фасада члянёны плоскімі пілястрамі з карынфскімі капітэлямі, прарэзаны дзвярным і аконным праёмамі, у бакавых частках афармлены



30. *Кляштар бернардзінцаў. Інтэр'ер касцёла.*

арачнымі нішамі для скульптур. Над пілястрамі праходзіць магутны раскрапаваны антаблемент. На плоскасці гэтага яруса размешчаны дэкаратыўны лучковы франтон з лепкай на тымпане. Галоўны фасад завершаны



31. *Кляштар брыгітак. Касцёл. Фрагмент галоўнага фасада.*



31. *Кляштар брыгітак. План.*



31. *Кляштар брыгітак. Касцёл. Падоўжны разрэз.*

аднолькавымі па вышыні атыкам, трохвугольным франтонам і двух'яруснымі дэкаратыўнымі вежачкамі.

Інтэр'ер храма вырашаны як адзіны аб'ём, перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Паўцыркульная апсіда мае аднолькавую з нефам шырыню і вышыню, аддзелена ад яго выступамі-лапаткамі з падпружнай аркай. Над уваходам размешчаны хоры, якія апіраюцца на 2 васьмігранныя слупы. Бакавыя сцены чляны пілястрамі з карынфскімі капітэлямі.

Жылы корпус. Прымыкае да паўднёва-заходняй сцяны касцёла. Прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём з вялікім цэнтральным дваром. Фасады чляняны маленькімі прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах, завершаны шырокім карнізам. Па перыметры будынка (з боку двара) праходзіць светлавы калідор з келлямі. У паўднёва-ўсходнім вуглу корпуса размешчаны вялікі аб'ём, на 1-м паверсе якога была трапезная, на 2-м — бібліятэка. 1-ы паверх перакрыты скляпеннямі, на 2-м скляпеннямі перакрыты толькі калідор, келлі маюць плоскія столі.

Агароджа з брамамі. Уяўляе сабой глухую цагляную атынкаваную сцяну, па вуглах якой былі невялікія шасцігранныя вежы (захаваўся 1-ы



31. *Кляштар брыгітак. Лямус.*



31. *Кляштар брыгітак. План лямуса.*



32. *Кляштар езуітаў. Літаграфія з акварэлі Н. Орды. 19 ст.*

ярус вежы на перакрыжаванні вуліц К. Маркса і Маладзёжнай). Агароджа была прарэзана 4 брамамі (захаваліся 3). Найбольш манументальная брама знаходзіцца перад касцёлам. Захаваліся таксама брамы для пешага люду, уцалела праезная брама гаспадарчага двара. Усе яны аформлены ў стылі барока.

Лямус. Размешчаны ў двары кляштара. Цяпер тут медыцынская ўстанова. Пабудаваны ў 1630-я гады з масіўных драўляных брусоў на бутавым фундаменце. Усе канструкцыйныя элементы звязаны ўрубкамі і драўлянымі клінамі. Спалучаў у сабе функцыі гаспадарчай і жылой пабудовы. 1-ы паверх выкарыстоўваўся як складское памяшканне, на 2-м жылі манахіні (цяпер планіроўка зменена). Пабудова ўяўляе сабой двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём з вальмавым гонтавым дахам. Галоўны фасад аздоблены двух'ярусная арачнай галерэяй. Матыў аркады ствараюць слупы з падкосамі. Ніжнія плоскасці падкосаў і бэлек над імі складаюць суцэльныя паўцыркульныя праёмы.

Кляштар — помнік архітэктуры ранняга барока.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Кудряшов В. И. Барокко и классицизм в архитектурном наследии Гродно.— У кн.: Сб. науч. работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР. Мн., 1960, в. 3. *С. Г. Багласаў.*

**32. КЛЯШТАР ЕЗУІТАЎ** (архіт., маст.). Савецкая пл., 4. Як архітэктурны комплекс пачаў фарміравацца з 1585 г., калі польскі кароль Стэфан Баторый заснаваў езуіцкую калегію. Касцёл і кляштарныя пабудовы ўзведзены ў 1647—63 гг. з цэглы. У комплекс уваходзілі: касцёл, калегіум, бібліятэка, аптэка, жылыя карпусы і гаспадарчыя пабудовы. Кляштарныя пабудовы ўтваралі замкнуты ўнутраны двор і былі злучаны паміж сабой і з касцёлам калідорамі. Гаспадарчыя пабудовы прымыкалі да агароджы. Зберагліся касцёл і будынак аптэкі.

Касцёл (больш позняя назва — фарны). Пабудаваны ў 1647—63 гг.



32. *Кляштар езуітаў. Касцёл.*

У аб'ёмна-планіровачнай кампазіцыі касцёла аб'яднаны сістэма двухвежавай трохнефавай базілікі і крыжовакупальнага храма. Трансепт і цэнтральны неф аднолькавай вышыні і значна вышэй за бакавыя нефы. На ветразях сяродкрыжжа ўстаноўлены светлавы барабан, завершаны высокім купалам з ліхтаром. Па баках паўцыркульнай апсіды прыбудаваны невялікія капліцы з паўсферычнымі купаламі. Галоўны заходні фасад дэкарыраваны ў стылі барока. У сярэдзіне 18 ст. вежы перабудаваны. Цэнтральная плоскасць фасада прарэзана паўцыркульнымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі, падзелена на 3 ярусы суцэльнымі паясамі антаблементаў. 2 ніжнія ярусы раскрапаваны здвоенымі карынфскімі пілястрамі. У першым ярусе вежаў размешчаны арачныя нішы, у якіх устаноўлены скульптурныя выявы апосталаў. Перад уваходам у канцы 19 — пачатку 20 ст. пабудавана шырокая двухмаршавая лесвіца. Бакавыя і тыльны фасады касцёла вырашаны ў стрыманых формах ранняга барока. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі і лучковымі аконнымі праёмамі, раскрапаваны здвоенымі пілястрамі і тонкімі карнізнымі паясамі. Зала храма падзелена на 3 нефы аркадамі на 6 апорных слупах квадратнага сячэння. Заходняя пара слупоў падтрымлівае хоры з арганам, на якія вядуць вінтавыя лесвіцы, размешчаныя ў тоўшчы сцяны. 4 магутныя слупы трансепта з дапамогай ветразяў падтрымліваюць барабан купала, які стварае прасторавую дамінанту інтэр'ера. У крылах трансепта ўбудаваны 2 капліцы. Скляпенні крыжовыя, на падпружных арках. У інтэр'еры ўстаноўлена 13 алтароў (12 драўляных, 1 стукавы), 2 чыгунныя жырандолі (ліццё 18 ст.), 4 драўляныя спавядальні, упрыгожаныя інтарсіяй, разьбой па дрэве і скульптурай, амбон (драўляны), помнік А. Тызенгаўзу (бронза, лабрадарыт), драўляная лаўка, размаляваная ў 17 ст. Дамінантай дэкаратыўнай кампазіцыі інтэр'ера з'яўляецца галоўны алтар (вышынёй 21 м), зроблены ў 1736—38 гг. мясцовымі рэзчыкамі пад кіраўніцтвам Яна Шмідта. У яго трох'яруснай кампазіцыі выкарыстана складаная групоўка калон і пілястраў карынфскага ордэра. У цэнтры 1-га яруса — скульптура святога Ксаверыя, па перыметры алтара — група апосталаў. Тарцы 1-га яруса замыкаюць фігуры святых Канстанцыі і Самуіла.



32. *Кляштар езуітаў. Касцёл. Фрагмент галоўнага алтара.*

У цэнтры 2-га яруса — скульптура Хрыста, абапал якой 10 скульптур (4 евангелістаў і 6 свяціцеляў). У 3-м ярусе знаходзіцца скульптурная алегарычная кампазіцыя, якая адлюстроўвае перамогу дабра над злом. Вянцом алтара з'яўляецца пяціметровая глорыя, што абрамляе высокае акно апсіды. Размешчаныя франтальна да ўваходу двух'ярусныя алтары (каля слупоў цэнтральнага нефа) паўтараюць архітэктурна-дэкаратыўную кампазіцыю галоўнага алтара. Вылучаецца алтар святога Казіміра (у паўднёвай частцы трансепта) з скульптурнымі выявамі гіс-



32. *Кляштар езуітаў. Касцёл. Аксанаметрыя.*



32. *Кляштар езуітаў. Інтэр'ер касцёла.*

тарычных дзеячаў Вялікага княства Літоўскага. Паводле стылю вылучаецца алтар «Маці боская студэнцкая», зроблены ў тэхніцы стука (размаляваны пад шэры мармур) у 1760-я гады. Яго кампазіцыя вырашана ў выглядзе накладнога карынфскага порціка з трохвугольным франтонам. На сценах бакавых нефаў, прэсбітэрыя і барабана размешчаны шырока выступаючы карніз, агароджаны балюстрадай. Прасценкі над аркамі цэнтральнага нефа, трансепта, прэсбітэрыя, ветразі аздоблены 16 прамавугольнымі ляпнымі рамамі з цыклам фрэскавых кампазіцый (1752 г.). У тэхніцы фрэскі размаляваны выявы 4 евангелістаў, размешчаныя на ветразях. Плафон, падпружныя аркі прэсбітэрыя і трансепта аздоблены гратэскавым арнаментам у тэхніцы стука. Плоскасці 14 падпружных арак размаляваны раслінным дэкорам у тэхніцы грызайль. Амбон з высокім балдахінам упрыгожаны накладной арнаментальнай пазалочанай разьбой і скульптурнымі выявамі евангелістаў і анёлаў. У архітэктурна-дэкаратыўным вырашэнні алтароў касцёла прасочваюцца рысы сталага барока, амбона і спавядальняў — ранняга ракако.



32. *Кляштар езуітаў. Касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*



32. *Кляштар езуітаў. Касцёл. Помнік А. Тызенгаўзу.*

Будынак аптэкі. Пабудаваны ў 17—18 стагоддзях. Размешчаны ў паўднёва-заходняй частцы кляштара. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з вальмавым дахам. Асноўны ўваход — з плошчы. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтральная частка вылучана балконам, пілястрамі 2-га паверха і невялікім фігурным франтонам. Сцяна прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў фігурных ліштвах, членёна вузкімі карнізнымі цягамі. Спачатку з боку двара быў калідор, які аб'ядноўваў аптэку з кляштарам. Будынак функцыянальна падзелены на 2 часткі: асноўную — памяшканні 1-га і 2-га паверхаў, якія выходзяць на галоўны фасад, і падсобную — памяшканні, што выходзяць на дваровы фасад і звязаны з кляштарам. На 1-м паверсе скляпенні цыліндрычныя на распалубках, на 2-м — плоскае перакрыцце.




32. *Кляштар езуітаў. Будынак былой аптэкі.*



32. *Кляштар езуітаў. Будынак былой аптэкі. План 1-га паверха.*

Кляштар — помнік архітэктуры і дэкаратыўна-манументальнага мастацтва стыляў барока і ракако.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Коллегиумы Белоруссии XVII в.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1969, № 18; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977.

*С. Г. Багласаў, М. М. Яніцкая.*

**33. КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ** (архіт., маст.). На левым беразе Нёмана. Закладзены ў 1635 г., мураваны. У 18 ст. пасля пажару адноўлены, зменена пластычнае афармленне касцёла і званіцы, перабудавана брама. Рэльеф мясцовасці вызначыў асіметрычную ў плане кампазіцыю комплексу. Уключае касцёл, званіцу, жылы корпус і браму з агароджай (зберагдася часткова).

Касцёл. Трохнефавая бязвежавая базіліка з вялікай паўцыркульнай апсідай, сакрысціямі і хорамі над уваходам. Цэнтральны неф і апсіда вырашаны адзіным аб'ёмам з агульным чарапічным дахам. Бакавыя нефы значна ніжэйшыя за цэнтральны. Галоўны фасад прарэзаны невялікім паўцыркульным уваходным праёмам, членёны шырокімі пілястрамі і завершаны карнізным поясам, які праходзіць суцэльнай цягай. Афармленне 1-га яруса захавалася з 17 ст., 2-і і 3-і ярусы галоўнага фасада, перабудаваныя ў 18 ст., падзелены тонкімі, блізка размешчанымі лапаткамі, аддзелены карнізам. Бакавыя фасады і апсіда прарэзаны лучковымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі, членёны здвоенымі лапаткамі і ўвенчаны карнізнымі паясамі.

Інтэр'ер касцёла мае суцэльную дынамічную прасторавую арганізацыю. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых 6 слупамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Бакавыя нефы раскрываюцца ў цэнтральны невялікімі арачнымі праёмамі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Пры ўваходзе хоры. У інтэр'еры касцёла 7 алтароў (1-я палова 18 — канец 19 ст.). У цэнтральны неф выходзіць рэзны драўляны амбон (1-я палова 18 ст.). Галоўны драўляны алтар, выкананы ў стылі позняга барока (1-я палова 18 ст.), мае двух'ярусную кампазіцыю. Архітэктурныя дэталі імітаваны пад мармур. Упрыгожаны скульптурай і скразной накладной разьбой, асноўным матывам якой з'яўляецца акант. У цэнтры 2-га яруса ў разной фігурнай раме паліхромная гарэльефная кампазіцыя «Стыгматызацыя Францыска» (дрэва). Астатнія алтары мураваныя, атынкаваныя (канец 19 ст.), упрыгожаны

скульптурамі 1-й паловы 18 ст., алтарнымі карцінамі ў сярэбраных абкладах 18 ст. Амбон у стылі ракако ўпрыгожаны гарэльефнымі выявамі 4 евангелістаў, акантам і валютамі. Каронападобны балдахін, увенчаны скульптурай архістраціга Міхаіла, падтрымліваюць скульптурныя выявы 2 анёлаў.

Званіца. Прыбудавана да паўночнай сцяны касцёла і выходзіць на лінію яго галоўнага фасада. Мае квадратную ў плане трох'ярусную сіметрычную кампазіцыю. 1-ы ярус, які прымыкае да сцяны бакавога нефа касцёла, захаваў агульную з 1-м ярусам галоўнага фасада касцёла пластыку 17 ст. Ён прарэзаны маленькімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, расчлянёны шырокімі пілястрамі і карнізнымі паясамі. 2-і і 3-і ярусы, перабудаваныя ў 18 ст., вырашаны ў насычанай рэльефнай пластыцы сталага барока: выразныя буйныя чляненні, маляўнічы сілуэт. Сцены прарэзаны вялікімі паўцыркульнымі і круглымі аконнымі праёмамі, расчлянёны рэльефнымі лапаткамі і развітым карнізам. Увенчвае званіцу высокі фігурны шлем.



**33.** *Кляштар францысканцаў.*



**33.** *Кляштар францысканцаў. План.*

Жылы корпус. Прымыкае да паўднёвай бакавой сцяны касцёла. Двухпавярховы аб'ём няправільнай П-падобнай формы, разам з касцёлам утварае замкнёны дворык у форме няправільнага чатырохвугольніка, у паўночна-заходнім вуглу якога быў праход (закладзены) да пляцоўкі перад галоўным фасадам касцёла. Пластыка фасадаў стрыманая. Сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, расчлянёны пілястрамі і завершаны карнізамі. Планіроўка галерэйная. Калідор праходзіць па ўсім перыметры будынка і аб'яднаны з паўночнай сакрысціяй касцёла. Асноўны планіровачны элемент — розныя па плошчы келлі. У паўднёва-заходнім вуглу корпуса знаходзіцца вялікі ў выглядзе рызаліта аб'ём, дзе былі трапезная і бібліятэка. 1-ы паверх мае скляпеністыя перакрыцці, 2-і — плоскае.

Агароджа і брама. Цагляная сцяна агароджы вышынёй 2—3 м захавалася фрагментарна ў паўночна-заходняй частцы кляштара. Частка сцяны, якая абмяжоўвае дворык перад галоўным фасадам касцёла, члянёна з унутранага боку глыбокімі паўцыркульнымі нішамі. Вонкавая сцяна гладкая. Брама размешчана перад галоўным фасадам касцёла, аформлена ў стылі барока. Мае двух'ярусную кампазіцыю. 1-ы ярус з арачным праходам раскрапаваны спаранымі пілястрамі, 2-і вырашаны ў выглядзе разарванага франтона, сярэдняя частка якога — атык з прамаву-



**33.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Від з боку апсіды.*



**33.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*



**33.** *Кляштар францысканцаў. Інтэр'ер касцёла.*

5 Зак. 744

гольнай нішай для скульптуры. Увенчвае атык трохвугольны франтон.

Кляштар — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Кудряшов В. И. Барокко и классицизм в архитектурном наследии Гродно.— У кн.: Сб. науч. работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР. Мн., 1960, в. 3; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi.— Wilno, [1912], s. 66—68. *С. Г. Багласаў, Г. М. Ярмоленка.*

**34. КРЫТЫ РЫНАК** (архіт.). Вул. Паліграфістаў, 6. Пабудаваны ў 1976 г. з цэглы і жалезабетону.

Складаецца з асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, размешчанага на стылабаце, і двухпавярховага цаглянага адміністрацыйна-бытавога корпуса. У аснове канструкцыйнай схемы асноўнага аб'ёму — вантавае пакрыццё, якое надае збудаванню своеасаблівае архітэктурнае аблічча. Суцэльна зашклёныя фасады асноўнага аб'ёму расчлянёны гарызантальнымі цягамі. Гандлёвыя памяшканні размешчаны абапал абходных галерэй. У будаўніцтве выкарыстаны прагрэсіўныя канструкцыі і матэрыялы. Прыклад гандлёвых збудаванняў новага тыпу. *В. Ф. Валошын.*



33. *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Арган.*



33. *Кляштар францысканцаў. Фрагмент агароджы і брама.*



35. *Курган Славы.*

**35. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На праспекце Касманаўтаў. Насыпаны на ўшанаванне памяці барацьбітоў за Савецкую ўладу, якія загінулі ў час Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, у барацьбе за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, а таксама савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія аддалі жыццё за перамогу над фашызмам у Вялікую Айчынную вайну. Закладзены 17.9.1968 г., адкрыты 17.9.1969 г. Сюды прывезена зямля з усіх раёнаў Гродзеншчыны, з брацкіх магіл воінаў Чырвонай Арміі і партызан, магіл Герояў Савецкага Саюза, пахаваных на тэрыторыі Гродзенскай вобл. Курган мае форму ўсечанага конуса, вышынёй 18 м, дыяметр асновы 56 м, вяршыні 5 м. Курган акантаваны бетонным маналітным кольцам з вонкавай мураванай абліцоўкай. З усходняга боку Кургана — плошча для правядзення мітынгаў, злева — Вечны агонь, справа — пліта з памятным надпісам. Да Кургана вядуць 2 шырокія лесвіцы. У красавіку 1974 г. каля Кургана Славы закладзена алея Герояў. *Э. М. Савіцкі.*

**36. ЛЯМУС** (архіт.). Вул. Дзяржынскага, 1а, на тэрыторыі былой Гарадніцы. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. У 1939 г. пераабсталяваны ў жылы дом. Інтэр'ер зменены адпаведна функцыянальнаму прызначэнню.

Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, з вальмавым дахам і мансардамі на галоўным (усходнім) і бакавых фасадах. Цагляныя коміны высокія, шматступеньчатыя. Усходні фасад сіметрычны, з невялікім рызалітам у цэнтры. Вокны 2-га паверха маленькія, квадратныя, заглыбленыя. Цэнтральныя часткі заходняга, паўночнага і паўднёвага фасадаў гладкія з сіметрычна размешчанымі вокнамі. Унутраныя перагародкі пераважна з дрэва. Лесвіца спачатку вітая, цяпер двухмаршавая, вузкая, драўляная, з высокімі прыступкамі.

Лямус — прыклад гаспадарчай пабудовы, у архітэктуры якой выкарыстаны элементы барока.

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962. *А. Ю. Пятросава.*

**37. МАГІЛА АЖЭШКА** Элізы (гіст.). Вул. Антонава, на могілках.

Польская пісьменніца Эліза Ажэшка (дзявочае прозвішча Паўлоўская) нарадзілася 25.5.1841 г. у маёнтку Мількаўшчына (цяпер Гродзенскі р-н) у багатай шляхецкай сям'і. У 1852—57 гг. выхоўвалася ў манастырскім пансіёне ў Варшаве. У час паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве Э. Ажэшка была сувязной паўстанцкага атрада Р. Траўгута. Некалькі разоў, рызыкуючы жыццём, хавала ў сваім доме Траўгута і дапамагла яму перабрацца ў Варшаву, дзе з кастрычніка 1863 г. ён становіцца фактычным кіраўніком паўстання ў Польшчы. З 1869 г. жыла ў Гродне.

Нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863—64 гг. супраць царызму зрабіла ўплыў на фарміраванне поглядаў Э. Ажэшка і яе творчасць. Літаратурную дзейнасць пачала ў 1866 г. публіцыстычным апавяданнем «Малюнак з галодных гадоў». Аповесці «Пан Граба» (1870 г.) і «Марта» (1873 г.) прысвечаны праблемам выхавання, становішчу жанчыны і яе месцу ў грамадстве. Пра жыццё яўрэйскай беднаты расказваецца ў аповесцях «Элі Маковер» (1875 г.), «Мэір Эзафовіч (1878 г.), у апавяданні «Магутны Самсон». Беларускі край, нацыянальны характар яго лю-



36. *Лямус. Дваровы фасад.*



36. *Лямус. План 1-га паверха.*

дзей паказаны ў аповесцях «Нізіны» (1884 г.), «Дзюрдзі» (1885 г.), «Хам» (1888 г.), апавяданнях «Рэха», «Тадэвуш», «У зімовы вечар». У раманеэпапеі «Над Нёманам» (1887 г.) адлюстравана тагачасная польская рэчаіснасць. Зборнік навел «Gloria victis» (1910 г.) услаўляе герояў паўстання 1863—64 гг. Першая беларуская трупа І. Буйніцкага і Першае таварыства беларускай драмы і камедыі ставілі інсцэніроўкі твораў Э. Ажэшка «У зімовы вечар» і «Хам». У перакладзе на беларускую мову выдадзены «Гэдалі» (1907 г.), «Хам» («Мужык», 1912 г.), «У зімовы вечар. Сцэна з сялянскага жыцця» (1927 г.), «Выбранае» (1975 г.), на рускую — «Творы» (т. 1—5, 1953—54 гг.).

Памерла Эліза Ажэшка 18.5.1910 г. У 1911 г. на магіле, дзе пахаваны Э. Ажэшка і яе муж С. Нагорскі, пастаўлены мармуровы крыж. Адна з вуліц Гродна названа яе імем (гл. таксама артыкул № 62 «Помнік Ажэшка Элізе»).

*Літ.:* Гапава В. І. Эліза Ажэшка: Жыццё і творчасць.— Мн., 1969; Казбярук У. М. Ступені росту.— Мн., 1974; Jankowski E. Eliza Orzeszkowa.— 2 wyd.— Warszawa, 1966. *В. В. Семянюк.*

**38. МАГІЛА ВАСІЛЬКА** Міхася (гіст.). Вул. Антонава, на могілках.

Беларускі савецкі паэт М. Васілёк (Міхаіл Восіпавіч Касцевіч) нарадзіўся 1.11.1905 г. у в. Баброўня Гродзенскага р-на ў сям'і лесніка. З пачаткам 1-й сусветнай вайны бацькі эвакуіраваліся ў Казанскую губерню. У 1921 г. скончыў сярэднюю школу ў г. Казлоў (цяпер Мічурынск). У 1922 г. сям'я вярнулася на Беларусь. За рэвалюцыйную дзейнасць праследаваўся польскімі буржуазнымі ўладамі, неаднойчы быў арыштаваны, зняволены ў турму. Мабілізаваны ў 1939 г. у польскае войска. Калі фашысцкая Германія напала на Польшчу, трапіў у палон. У пачатку Айчыннай вайны ўцёк з палону. Удзельнічаў у партызанскай барацьбе з гітлераўскімі акупантамі, быў сакратаром Скідальскага падпольнага антыфашысцкага камітэта. У пасляваенны час працаваў у абласной газеце «Гродненская правда».

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1926 г. Супрацоўнічаў у часопісе «Маланка» (некаторы час працаваў у рэдакцыі), друкаваўся ў часопісе «Беларускі летапіс», у іншых прагрэсіўных заходнебеларускіх выданнях. У 1929 г. выйшаў першы зборнік паэта «Шум баравы» (канфіскаваны паліцыяй). Падрыхтаваны М. Васільком рукапіс другога зборніка вершаў пры вобыску забраны дэфензівай, там ён загінуў. У 1937 г. паэт выдаў кнігу «З сялянскіх ніў». Гаротная доля працоўнага беларуса, заклік да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне — асноўныя матывы паэзіі М. Васілька да ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Новаму жыццю вызваленага народа, яго светламу лёсу ў братняй сям'і народаў Савецкага Саюза прысвечана пасляваенная творчасць паэта: зборнікі «Выбраныя вершы» (1950 г.), «Выбраныя творы» (1955 г.), «Зоры над Нёманам» (1963 г.), «Вершы» (1973 г.).

М. Васілёк памёр 3.9.1960 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Калеснік У. Час і песні.— Мн., 1962; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *І. Ф. Кудраўцаў.*

**39. МАГІЛА ДАЙНЕКІ** Піліпа Пятровіча (гіст.). Праспект Касманаўтаў, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы П. П. Дайнека нарадзіўся 16.11.1916 г. у в. Дуброва Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У 1958 г. скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. З 1935 г. на савецкай рабоце. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. у партызанах: палітрук роты, камандзір групы, камісар атрада, у лістападзе 1943 г.— ліпені 1944 г. камісар брыгады імя Аляксандра Неўскага, а з студзеня 1944 г. адначасова сакратар Гродзенскага падпольнага райкома КП(б)Б. З ліпеня 1944 г. на партыйнай рабоце ў Гродзенскім і Мастоўскім р-нах. З 1965 г. першы сакратар Гродзенскага райкома КПБ, з 1970 г. загадчык аддзела Гродзенскага абкома КПБ. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1960—61 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1963—71 гг. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 22.3.1966 г. за поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі, павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Ганаровы грамадзянін г. Масты. Памёр 13.2.1979 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.



*37. Помнік на магіле Э. Ажэшка.*

**40. МАГІЛА ДЗЕНШЧЫКОВА** Пятра Іосіфавіча (гіст.). Праспект Касманаўтаў, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы П. І. Дзеншчыкоў нарадзіўся 15.2.1918 г. у г. Цюмень у рабочай сям'і. Член КПСС з 1948 г. Удзельнік Айчыннай вайны. З 1951 г. старшыня калгаса «Авангард» Гродзенскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 8.4.1971 г. за поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1962—65 гг., Вярхоўнага Савета СССР у 1970—74 гг. Памёр 9.1.1980 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла з бюстам. Калгасу «Авангард» нададзена імя П. І. Дзеншчыкова. *Г. Ф. Раманаў.*

**41. МАГІЛА КАВЯЗІНА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.). Вул. Антонава, на могілках.

Беларускі савецкі рэжысёр, мастак, тэатральны дзеяч, заслужаны артыст БССР (1949 г.) М. А. Кавязін нарадзіўся 3.9.1898 г. у г. Жлобін у сям'і чыгуначніка. Вучыўся ў камерцыйным вучылішчы, політэхнічным інстытуце (Мінск). Удзельнічаў у мастацкіх выстаўках Мінска. У 1922—23 гг. быў акцёрам і мастаком у другой вандроўнай трупе Галоўпалітасветы, потым — выкладчыкам малявання ў школе. У 1928 г. Наркамасветы БССР даручыў М. А. Кавязіну стварэнне першага ў рэспубліцы тэатра для дзяцей. У 1928—30 гг. ён праходзіў стажыроўку ў Маскоўскім, потым у Ленінградскім тэатрах юнага гледача. У 1931—37 гг. мастацкі кіраўнік Беларускага тэатра юнага гледача. Паставіў і афарміў спектаклі «На штурм» Я. Маўра (1931 г.), «Наш» М. Зныка (1932 г.), «Вінтоўка № 492116» А. Крона (1933 г.), «Шлях далёкі» М. Шастакова (1934 г.), «Дружына» А. Бруштэйн (1935 г.), «Мікола Гоман» В. Сташэўскага, «Ная» М. Зарэцкага (1936 г.) і інш. У 1938—39 гг. працаваў у Полацкім калгасна-саўгасным тэатры, у 1939—41 гг.— у Белдзяржэстрадзе. Удзельнік Айчыннай вайны ў 1941—44 г. З 1944 г. мастацкі кіраўнік Палескага імя Я. Купалы, з 1946 г. Бабруйскага, з 1947 г. Гродзенскага абласных драматычных тэатраў. Найбольш значныя пастаноўкі: «Без віны вінаватыя» (1945 г.), «Праўда добра, а шчасце лепш» (1947 г.), «Не ўсё кату масленіца» (1948 г.) А. Астроўскага, «Так і будзе» (1945 г.), «Рускае пытанне» (1947 г.) К. Сіманава, «Лісічкі» Л. Хелман (1947 г.), «Дама-невідзімка» П. Кальдэрона (1946 г.), «Чужы цень» (1949 г.), «Вялікая сіла» Б. Рамашова і «Маскоўскі характар» А. Сафронава (1948 г.), «Шчасце» паводле П. Паўленкі, «На дне» М. Горкага (1950 г.) і інш. Работы Кавязіна вызначаліся палымянасцю і эмацыянальнасцю, выразнасцю форм, глыбо-

кім раскрыццём характараў герояў. М. А. Кавязін памёр 9.3.1950 г.

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Есакоў А. Мікола Кавязін.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Нефед В. И. Становление белорусского советского театра. 1917—1941.— Мн., 1965; яго ж. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *У. І. Няфёд.*

**42. МАГІЛА ЛАНСКОВА** Сяргея Мікалаевіча (гіст., архіт.). Вул. Антонава, па могілках.

Рускі ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант (1813 г.) С. М. Ланскоў нарадзіўся ў 1779 г. З 14 гадоў на ваеннай службе. У Руска-пруска-французскую вайну 1806—07 гг. у чыне палкоўніка ўдзельнічаў у бітве пад Ландсбергам і Пройсіш-Эйлау, за мужнасць у баі каля Фрыдланда ўзнагароджаны Георгіеўскім крыжам. У пачатку Айчыннай вайны 1812 г. генерал-маёр Ланскоў камандаваў гусарскім палком, які кватараваў у раёне Гродна, разам з іншымі часцямі прыкрываў адыход 1-й рускай арміі, а потым дарогу на Пецярбург. У канцы 1812 г. на чале кавалерыйскага атрада ўдзельнічаў у вызваленні Полацка і Вільні. У час заграпічных паходаў рускай арміі 1813—14 гг. па выгнанню войск Напалеона з краін Заходняй Еўропы камандаваў асобным артылерыйскім атрадам, вызначыўся ў многіх бітвах, быў цяжка паранены і 18.3.1814 г. памёр. На яго магіле ў 1815 г. пастаўлены помнік — асіметрычная архітэктурная кампазіцыя, выкананая ў стылі ампір. На пастаментах устаноўлены фрагменты канеліраваных мармуровых калон, паміж якімі размешчаны кубак з крыжам.

*Літ.:* Наднёманскія былі.— Мн., [1968]; Орловский Е. Ф. Гродненская губерния в 1812 году: Исторический очерк.— Гродно, 1912.
*Э. М. Савіцкі, А. М. Кулагін.*

**43. МАГІЛА РАЗАНАВА** Васіля Данілавіча (гіст.). Вул. Антонава, на могілках.

Кіраўнік падпольнай антыфашысцкай групы ў Вялікую Айчынную вайну В. Д. Разанаў нарадзіўся ў 1901 г. у Гродне. Напярэдадні вайны і ў перыяд фашысцкай акупацыі працаваў на мясакамбінаце. Стварыў там падпольную групу (да канца 1942 г. налічвала 12 чалавек). Па яго ініцыятыве падпольныя групы былі створаны таксама ў чыгуначным дэпо і на рамонтным заводзе. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, рабілі дыверсіі на прадпрыемствах, Гродзенскім чыгуначным вузле, знішчалі акупантаў і іх памагатых, перадавалі партызанам звесткі разведкі пра ворага, зброю, медыкаменты. 10.7.1944 г. В. Д. Разанаў натрапіў на засаду каля в. Верцялішкі, калі вяртаўся з партызанскага атрада з запасам толу, загінуў у баі. Імем В. Д. Разанава названа вуліца ў Гродне.



*42. Помнік на магіле С. М. Ланскова.*

У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Гродно: (Исторический очерк).— 2 изд.— Мн., 1964; Гродненская область. Белорусская ССР.— Мн., 1976.
*Э. М. Савіцкі.*

**44. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯНАК** (архіт., археал.). Вул. Навазамкавая, 3. Пабудаваны ў 1-й палове 18—19 ст. з цэглы на месцы сярэдневяковага пасада замест згарэлага драўлянага манастыра. У 1979—85 гг. паводле праекта спецыялізаваных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР (архіт. Г. Жаровіна) праведзены рэстаўрацыйныя работы. Цяпер у манастыры Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі.

Комплекс уключаў царкву Раства багародзіцы, жылы і гаспадарчы карпусы, капліцу. На тэрыторыі манастыра захаваліся рэшткі Прачысценскай царквы і пасада.

Царква Раства багародзіцы. Пабудавана ў 1726 г. з цэглы (архіт. І. Фантана). Крыжова-купальны трохнефавы двухвежавы храм. У сілуэце яго дамінуе купал з цыбулепадобнай галоўкай на васьміграннай аснове, размешчаны на светлавым барабане, які апіраецца на вузкія прасценкі ў вуглах сяродкрыжжа. Купал дапаўняюць 2 чацверыковыя вежы над крыламі трансепта, увенчаныя фігурнымі галоўкамі. Да прамавугольнай алтарнай часткі прымыкаюць нізкія аб'ёмы рызніц. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам. Сцены дэкарыраваны пілястрамі, у месцы злучэння аб'ёмаў — здвоенымі і завершаны шырокім прафіляваным карнізам. У інтэр'еры крылы трансепта перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. Сцены завяршае прафіляваны антаблемент з вялікім вынасам карніза. У вуглах асноўнага нефа круглыя шахты вітых лесвіц. У паўночным крыле трансепта знаходзяцца хоры, звязаныя з калідорам 2-га паверха жылога корпуса.

Жылы корпус. Пабудаваны ў 1726—51 гг. (архіт. І. Фантана). Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак, падоўжным крылом прымыкае да царквы і ўтварае невялікі паўадкрыты дворык. Вокны прамавугольныя, размешчаны нерэгулярна. Планіроўка галерэйная. Памяшканні перакрыты крыжовымі, калідор — цыліндрычным скляпеннямі. Сцены гладка атынкаваны.

Капліца. Прыбудавана да ўсходняга тарца жылога корпуса ў 19 ст. Уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём зальнага тыпу. Сцены раўнамерна расчлянёны лапаткамі, падзелены на 2 ярусы шырокім прафіляваным поясам і завершаны стылізаваным антаблементам з трыгліфамі на фрызе і зубчыкамі на карнізе. Усходні тарцовы фасад завершаны франтонам. Вуглы аб'ёму апрацаваны магутнымі руставанымі пілястрамі. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў ніжнім ярусе сцен паміж лапаткамі. На паўднёвым, павернутым да ўвахода ў царкву фасадзе вокны апрацаваны ліштвамі. Інтэр'ер зальны з люстраным скляпеннем. Сцены завершаны прафіляваным карнізам.

Гаспадарчы корпус. Пабудаваны ў 1891 г. з цэглы. Размешчаны ва ўсходняй частцы комплексу. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Плоскасці сцен прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

У архітэктуры манастырскага комплексу адлюстраваны асаблівасці пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

Рэшткі Прачысценскай царквы. Перад галоўным фасадам



*44. Манастыр базыльянак. Царква Раства багародзіцы і жылы корпус.*



*44. Манастыр базыльянак. План.*

царквы Раства багародзіцы. Выяўлены ў 1980 г. Царква пабудавана ў 2-й палове 12 ст. з плінфы на вапне з дамешкам цамянкі. У 15 ст. праведзены значны рамонт вялікапамернай цэглай — пальчаткай. У 1654 г. згарэла. Сцены разабраны, матэрыял часткова выкарыстаны пры будаўніцтве царквы Раства багародзіцы. Царква ўяўляла шасцістаўповы храм з трыма прамавугольнымі апсідамі. Заходняя і сярэдняя пары слупоў размешчаны паралельна прамавугольным лапаткам на ўнутранай і вонкавай паверхнях бакавых фасадаў. Слупы ўсходняй пары крыху меншыя за астатнія, размешчаны наперадзе восі адпаведных лапатак, у пэўнай ступені былі працягам алтарных прасценкаў і адзяляліся ад іх арачнымі праходамі. Царква мела ўваходы ў цэнтры галоўнага, у паўднёвым і паўночным фасадах. Падмурак з невялікіх камянёў на глыбіні 0,6 м. Фасады неатынкаваныя, былі аздоблены кампазіцыямі з маёлікавых плітак і шліфаваных камянёў. У інтэр'еры выкарыстаны галаснікі. Дах быў накрыты свінцовымі пласцінамі.

Захаваліся падмурак ад галоўнага фасада, фрагменты сцен на вышыню 0,5—1 м, ніжнія часткі слупоў, у алтарнай апсідзе — рэшткі сінтрона і прастола, падлогі. У паўднёва-заходняй частцы падлога з маёлікавых плітак, у паўночна-заходняй — з плінфы (магчыма, больш позняга паходжання), у бакавых нефах і апсідах выкладзена з квадратных плітак зялёнага, жоўтага і карычневага колераў, у цэнтральным нефе паміж заходняй і сярэдняй парамі слупоў дэкор падлогі амаль аналагічны арнаменту падлогі Ніжняй царквы ў Старым замку. З невялікіх па памерах плітак рознай формы стваралі палосы, якія абмяжоўвалі асобныя ўчасткі дэкору падлогі.



*44. Манастыр базыльянак. Фрагмент падлогі Прачысценскай царквы.*

Прачысценская царква — помнік гродзенскай школы дойлідства.

Пасад. Даследаваў у 1980—81 гг. І. М. Чарняўскі, у 1983 г. А. К. Краўцэвіч. Культурны пласт 2 м, у многіх месцах пашкоджаны пахаваннямі. Знойдзена вялікая колькасць фрагментаў керамічнага посуду 11—18 стагоддзяў (гаршкі, міскі, збаны; рэйнскі посуд 16 ст., пакрыты салянай палівай; размаляваны посуд 2-й паловы 17 ст.), цэгла 16—18 стагоддзяў (дахоўка, у т. л. «бабровы хвост», 16 ст.), кафля (гаршковая з квадратным вусцем канца 15—16 ст., каробчатая з выявамі раслін, звяроў, анёлаў і інш.), паліхромная з выявай васількоў, металічныя (цвікі, нажы, ключы, падкоўкі для абутку) і шкляныя (келіхі, кварты, шкляніцы) вырабы.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Рэспубліканскім музеі атэізму і гісторыі рэлігіі.

*Літ.:* Памятная книжка Гродненской губернии на 1866 г.— Гродно, 1866; Чарняўскі І. М., Жаровіна Г. П. Нечаканае адкрыццё.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1982, № 4; Чернявский И. М. Пречистенская церковь XII в. в Гродно.— У кн.: Древнерусское государство и славяне. Материалы симпозиума, посвященного 1500-летию Киева. Мн., 1983; Раппопорт П. А. Русская архитектура X—XIII вв.: Каталог памятников.— Л., 1982.

*У. В. Алісейчык, А. К. Краўцэвіч, М. А. Ткачоў, І. М. Чарняўскі.*

**45. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМСАМОЛЬЦАМ - ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Дзяржынскага, 41/2, на будынку гарадскога прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 7. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці членаў скідальскай падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі А. К. Роліка і І. А. Шчаснага, якія ў 1939—41 гг. вучыліся тут у былым рамесным вучылішчы. Схоплены і павешаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 13.9.1942 г.

**46. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАРБЫШАВУ** Дзмітрыю Міхайлавічу (гіст.). Вул. Карбышава, 35. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза генерал-лейтэнанта інжынерных войск Дз. М. Карбышава, які ў чэрвені 1941 г. інспектаваў будаўніцтва ваенных умацаванняў у Беластоцкай вобл. і жыў у гэтым доме. Гл. артыкул № 63 «Помнік Карбышаву Дзмітрыю Міхайлавічу».

**47. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Карбышава, 3, на будынку аддзела ўнутраных спраў Кастрычніцкага райвыканкома. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 3 супрацоўнікаў міліцыі, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў у сярэдзіне 1950-х — пачатку 1960-х гадоў.

**48. МЕСЦА ГІБЕЛІ ГАРНАВЫХ** Рыгора Аляксандравіча (гіст.). Вул. Гарнавых. Старшы палітрук Р. А. Гарнавых загінуў 20.9.1939 г. у час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. У 1965 г. на месцы яго гібелі ўстаноўлены мемарыяльны знак. Гл. артыкул № 15 «Вайсковыя могілкі».

**49. МЕСЦА ГІБЕЛІ КУРБАТАВА** Міхаіла Ціханавіча (гіст.). Вул. Шчаснага, 12. Удзельнік баёў за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, Герой Савецкага Саюза (1945 г.) М. Ц. Курбатаў загінуў у баях за Гродна 18.7.1944 г. У 1965 г. на месцы яго гібелі ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гл. таксама артыкул № 15 «Вайсковыя могілкі».

**50. МЕСЦА ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (гіст.). У раёне вул. Соламавай. Створаны ў ліпені — лістападзе 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі для масавай загубы ваеннапалонных і мірных жыхароў. На плошчы 50 га, абнесенай калючым дротам, было выкапана 96 зямлянак памерам 6×25 м кожная. У іх да восені 1942 г. фашысты ўтрымлівалі савецкіх ваеннапалонных, а потым мірных жыхароў, пераважна старых, жанчын і дзяцей. Ад голаду, непасільнай працы, катаванняў штодня паміралі сотні вязняў. За час існавання праз лагер смерці прайшло 36 тыс. чалавек. Больш за 18 тыс. пахаваны ў 68 ямах-магілах.

У 1965 г. на тэрыторыі былога лагера смерці пастаўлена стэла.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.] — Мн., 1965.

**51. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ** (гіст.). Савецкая пл.

Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. Гродна адышло да буржуазнай Польшчы. Працоўныя горада вялі рашучую барацьбу супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Штогод на плошчы (былая Баторыя) у дзень 1 Мая наладжваліся мітынгі і дэманстрацыі. Асабліва масавай была першамайская дэманстрацыя і мітынг у 1924 г., якія арганізавалі і ўзначалілі гарадскі камітэт КПЗБ. Удзельнікі іх узнялі чырвоны сцяг, гучалі заклікі «Няхай жыве камунізм!». Першамайская дэманстрацыя 1926 г. праходзіла пад лозунгамі адзінства і пралетарскай салідарнасці працоўных. У 1936 г. калону дэманстрантаў узначальвала рабочая міліцыя з чырвонымі павязкамі на рукавах. Дэманстранты неслі рэвалюцыйныя лозунгі і транспаранты, спявалі рэвалюцыйныя песні. Дэманстрацыя 1937 г., у якой прынялі ўдзел члены КПЗБ, КСМЗБ, сяляне навакольных вёсак, прайшла пад ло-

зунгамі: «Патрабуем поўнай амністыі для палітычных зняволеных!».

У 1970 г. на будынку Палаца культуры тэкстыльшчыкаў у памяць аб рэвалюцыйных падзеях устаноўлена мемарыяльная дошка. *Э. М. Савіцкі.*

**52. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ГРОДЗЕНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Гродзенская арганізацыя РСДРП аформілася пасля II з'езда партыі. Уваходзіла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП. Найбольш актыўную дзейнасць разгарнула ў Рэвалюцыю 1905—07 гг. Гродзенскія бальшавікі ўзначалілі ўсеагульную палітычную забастоўку пратэсту 17—21.1.1905 г. супраць расстрэлу рабочых Пецярбурга 9.1.1905 г. Наладжвалі забастоўкі, дэманстрацыі, мітынгі, выдавалі і распаўсюджвалі пракламацыі, адозвы, лістоўкі і інш. рэвалюцыйную літаратуру. 22—23.6. 1905 г. рабочыя шэрагу прадпрыемстваў горада па закліку бальшавікоў не выйшлі на работу ў знак пратэсту супраць крывавай расправы царскіх улад з пралетарыятам Лодзі. У час Кастрычніцкай усеагульнай палітычнай стачкі 1905 г. па закліку Гродзенскай арганізацыі РСДРП 12 кастрычніка спынілі работу чыгуначнікі, іх падтрымалі рабочыя прамысловых прадпрыемстваў, і 19 кастрычніка стачка стала ўсеагульнай, праходзіла пад лозунгамі: «Далоў самадзяржаўе!», «Далоў булыгінскую думу!». Група пашырала свой уплыў і на навучэнцаў горада, асабліва мужчынскай гімназіі, дзе выдаваўся антыўрадавы часопіс «Школа», у кастрычніку — лістападзе адбыліся буйныя хваляванні.

Рэвалюцыйную работу сярод амаль 10 тыс. салдат вяла Гродзенская ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП, якая мела цесныя сувязі з арганізацыямі РСДРП Гродна і Вільні. Найбольш буйное выступленне салдат у Гродне пад яе кіраўніцтвам адбылося 6.11.1905 г., калі салдаты 1-й і 2-й батарэй 26-й артылерыйскай брыгады адмовіліся падпарадкавацца камандзірам і патрабавалі свабоды сходаў, скарачэння тэрміну службы, не пасылаць на разгром рэвалюцыйных выступленняў, спыніць муштру, скасаваць ваенныя суды і г. д. Артылерыстаў падтрымалі іншыя часці гарнізона.

У сярэдзіне 1907 г. арганізацыя РСДРП разгромлена паліцыяй. У гады рэакцыі і новага рэвалюцыйнага ўздыму ў Гродне быў перасыльны пункт партыйнай літаратуры з-за мяжы. Гродзенскія бальшавікі падтрымлівалі сувязі з ЦК РСДРП, стварылі бібліятэку нелегальных выданняў, дастаўлялі ў горад «Рабочую газету», «Звезду», пасылалі сродкі ў фонд «Правды». У час акупацыі Гродна (1915—19 гг.) войскамі кайзераўскай Германіі дзейнічала падпольная камуністычная арганізацыя, у ліпені 1918 г. створаны Гродзенскі падпольны камітэт РКП(б), які ўзначальваў В. А. Багуцкі. Камітэт меў сувязь з ЦК РКП(б), Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РКП(б), бальшавіцкімі арганізацыямі Мінска, Вільні, Кампартыяй Літвы і Заходняй Беларусі, вёў палітычную работу сярод насельніцтва і нямецкіх салдат, ствараў баявыя дружыны. У 1919—39 гг., калі Гродна знаходзілася ў складзе буржуазнай Польшчы, рэвалюцыйную работу ў горадзе ўзначальвала падпольная арганізацыя КПЗБ.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1—3.— Мн., 1962—80; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— 2 изд.— Мн., 1968; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2.— Мн., 1972; Гродно: (Исторический очерк).— 2 изд.— Мн., 1964.

*Э. М. Савіцкі.*

**53. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ГРОДЗЕНСКАЙ РЭВАЛЮЦЫЙНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ** (гіст.).

Арганізацыя створана ў 1861 г. беларускімі рэвалюцыянерамі-дэмакратамі К. Каліноўскім і В. Урублеўскім. Імкнулася аб'яднаць масавы сялянскі рух, накіраваны супраць грабежніцкай рэформы 19.2.1861 г., з вызваленчым рухам, які разгарнуўся ў гэты час у гарадах. Была часткай агульнай арганізацыі «чырвоных» (дэмакратычная плынь у нацыянальна-вызваленчым руху ў Польшчы, Літве, на Беларусі). Бліжэйшыя паплечнікі Каліноўскага па Гродзенскай арганізацыі былі: В. Урублеўскі, Ф. Ражанскі, С. Сангін, браты Э. і Б. Заблоцкія і інш. Гродзенская арганізацыя наладзіла выпуск першай нелегальнай газеты на беларускай мове «Мужыцкая праўда» (1862—63 гг., 7 нумароў), у 1863 г. арганізацыя кіравала паўстаннем у Гродзенскай губерні. Рэвалюцыйным камісарам губерні на той час быў К. Каліноўскі, ваенным кіраўніком паўстанцкіх узброеных сіл — В. Урублеўскі, паўстанцкім цывільным начальнікам — Э. Заблоцкі. Відную ролю адыгрываў А. Гофмейстар, які ўзначальваў паўстанцкую адміністрацыю ў паўднёвых паветах. Арганізацыя спыніла існаванне ў пачатку 1864 г. у выніку рэпрэсій царскіх улад.

*Літ.:* Рэвалюцыйны пад'ём у Літве і Беларусі 1861—1862 гг.— М., 1964.— (Восстание 1863 г. Материалы и документы); Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965.— (Восстание 1863 года. Материалы и документы); Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии.— М., 1963. *Г. В. Кісялёў.*



*54. Будынак былой музычнай школы.*



*54. Будынак былой музычнай школы. План 2-га паверха.*

**54. МУЗЫЧНАЯ ШКОЛА** (Музычны флігель, Крывая афіцына; архіт., гіст.). Пл. Леніна, 2. Пабудавана каля 1765 г. з цэглы. Цяпер жылы дом. Уваходзіла ў ансамбль будынкаў на Гарадніцы — займала паўночны вугал былой Палацавай пл. Захавалася ў перабудаваным (2-я палова 19 ст.— часткова 1-я палова 20 ст.) выглядзе: цалкам зменена планіроўка, мансардавы паверх перароблены ў звычайны, замуравана галерэя 1-га паверха, зроблены балконы.

Будынак — крывалінейны ў плане. Такая форма была абумоўлена своеасаблівасцю архітэктурнага ансамбля плошчы. Спачатку будынак быў двухпавярховы з мансардай, меў калідорную планіроўку. На 1-м і 2-м паверхах размяшчаліся невялікія залы і класы для заняткаў. У мансардзе аналагічнай планіроўкі жылі навучэнцы і настаўнікі. 1-ы паверх меў з боку плошчы арачную галерэю з пандусамі. Сцены будынка былі падзелены шырокімі лапаткамі, філёнгамі пад вокнамі і ўвенчаны карнізамі. Пры перабудове мансарды ў трэці паверх у пластычным афармленні былі выкарыстаны элементы першых двух паверхаў, што дазволіла стварыць суцэльную кампазіцыю фасадаў.

У гэтым будынку ў 1774—80-я гады (па іншых крыніцах да 1769 г.) знаходзілася музычная школа, створаная А. Тызенгаўзам для папаўненняопернай і балетнай труп і аркестра Гродзенскага тэатра. Асноўны склад вучняў — дзеці прыгонных і мяшчан. Школа мела 3 класы, рыхтавала танцоўшчыкаў, вакалістаў і музыкантаў. Хлопчыкаў і дзяўчынак (ва ўзросце 8—10 гадоў) вучылі іграць на скрыпцы, віяланчэлі, кантрабасе, флейце, фагоце, габоі, валторне, трубе і клавікордзе. У праграме былі таксама танец, спевы, нотная грамата,

тэорыя музыкі, кампазіцыя. Выкладаліся пісьмо, арыфметыка, маляванне, французская і італьянская мовы. Навучанне было знясільваючым, да 12 гадзін у суткі. Кіраўнік школы капельмайстар і скрыпач Л. Сітанскі. Сярод педагогаў: Б. і С. Сітанскія, Т. Вежбаловіч, А. Тумін, Е. Баркоўскі, Д. Пташынскі, італьянскі кампазітар і капельмайстар К. Абатэ, італьянскі харэограф Г. Пецінеці. Сярод выкладчыкаў-харэографаў французскі балетмайстар Ф. Г. Ле Ду, прыгонны танцоўшчык А. Рымінскі. У 1780 г. школа пераведзена ў Паставы; існавала да 1785 г.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968.

*С. Г. Багласаў, Г. І. Барышаў.*

**55. НАРОДНЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Дзяржынскага, 1. Пабудаваны ў 1904 г. з цэглы (архіт. М. Раманаў, інж. Л. Лангада). Цяпер гарадскі Дом культуры. Будынак аднапавярховы, з цокалем, у плане складанай формы. Цэнтральная, больш высокая частка галоўнага фасада з глядзельнай залай на 350 месцаў крыху заглыблена і завершана трохвугольным франтонам. У дэкоры выкарыстаны фігурныя атыкі і прафіляваныя карнізы, пілястры, гарызантальны руст, абрамленні аконных і дзвярных праёмаў разнастайных форм. Унутраная планіроўка адпавядала прызначэнню будынка: тут былі пакоі для заняткаў гурткоў, бібліятэка з чытальнай залай.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры эклектычнага кірунку.

*В. М. Чарнатаў.*



56. *Новы замак. Літаграфія з акварэлі Н. Орды. Сярэдзіна 19 ст.*

**56. НОВЫ ЗАМАК,** Каралеўскі палац (архіт., гіст.). Вул. Замкавая, 20. Пабудаваны ў стылі ракако ў 1734—51 гг. на месцы Ніжняга замка. Асноўны праект архіт. М. Д. Пёпельмана, у будаўніцтве ўдзельнічалі архіт. І. Ф. Кнобель, І. Х. Яўх. У 1780-я гады рэканструкцыю палаца праводзіў Дж. Сака. Разбураны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. Адбудаваны ў 1952 г. (архіт. У. Вараксін). Цяпер тут Гродзенскі абком КПБ.

Размешчаны на крутым правым беразе Нёмана, арыентаваны на Стары замак, складае з ім адзіны архітэктурны комплекс. Непасрэдна ў ядро ансамбля ўключаны мураваныя службовыя будынкі, якія ўтвараюць за левым крылом замка гаспадарчы двор. Тут размяшчаліся каралеўская канцылярыя, стайні, карэтныя і інш. службы.

Двухпавярховы палац П-падобны ў плане, складаецца з трох прамавугольных карпусоў. Утвораны пры гэтым курданёр па плаўнай крывой замыкаўся бакавымі аднапавярховымі флігелямі і ажурнай агароджай з галоўнай уязной брамай. Да цэнтральнага корпуса палаца з боку дваровага фасада прымыкала вылучаная ў самастойны аб'ём капэла (праект І. Ф. Кнобеля, не захавалася). Да тарца капэлы была прыбудавана двух'ярусная званіца з гранёным шпілем. Цэнтральны ўваход у будынак вылучаны неглыбокім трохвосевым рызалітам, раскрапаваным падвойнымі пілястрамі з капітэлямі, якія былі дэкарыраваны лепкай у стылі ракако. Тымпан трохвугольнага франтона быў запоўнены па ўсёй плоскасці ляпным картушам. Парадныя памяшканні паслядоўна размяшчаліся па падоўжнай восі плана: шырокі вестыбюль, авальная зала і капэла. Абапал залы разыходзіліся анфілады памяшканняў. Інтэр'еры капэлы, сенатарскай, пасольскай і круглай залаў вылучаліся багаццем дэкаратыўнай апрацоўкі: жывапіс, разьба, стук, лепка, выкананыя ў стылі ракако. У 1780-я гады інтэр'ер размаляваны сюжэтнымі сцэнамі дэкаратарам Манькоўскім. Цэнтральная двухсветлавая зала была перакрыта купалам. У першапачатковым выглядзе захавалася ўязная брама, фланкіраваная манументальнымі пілонамі са скульптурамі сфінксаў.

Месца правядзення Гродзенскага сейма 1793 г. У палацы 17.6—23.11.1793 г. засядаў надзвычайны, апошні сейм Рэчы Паспалітай, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «нямы сейм». У студзені 1793 г. Расія, Прусія і Аўстрыя падпісалі канвенцыю аб 2-м падзеле Рэчы Паспалітай. Каб задушыць апазіцыю і прымусіць сейм зацвердзіць падзел, рускія і прускія войскі акружылі Гродна і замак. 22 ліпеня сейм згадзіўся з далучэннем да Расіі цэнтральнай часткі Беларусі і Правабярэжнай Украіны, але адхіліў патрабаванні Прусіі, якія фактычна вялі да ліквідацыі Польшчы. Толькі 23 верасня пад пагрозай ваенных дзеянняў з боку Прусіі пры ўсеагульным маўчанні дэпутатаў маршалак сейма заявіў пра ратыфікацыю дагавора з Прусіяй. Да яе адышлі спрадвечныя польскія землі — Гданьск, Торунь, Познань. На апошнім пасяджэнні 23 лістапада была прынята без абмеркавання новая канстытуцыя Рэчы Паспалітай.

*Літ.:* Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 года. Последний сейм Речи Посполитой.— М., 1870; Пуле М. де. Станислав Август Понятовский в Гродно и Литве в 1794—1797 гг.— 2 изд.— СПб., 1871; Кудряшов В. И. Гродно.— М., 1960; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Loza S. Architekci



56. *Новы замак. План 1-га паверха.*



56. *Новы замак.*



57. *Будынак былога палаца адміністратара. Цэнтральны корпус.*



57. *Будынак былога палаца адміністратара. План 1-га паверха цэнтральнага корпуса.*

i budowniczowie w Polsce.— Warszawa, 1954, s. 246; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu.— Wilno, 1938—39, s. 350—351. *А. М. Кулагін, Э. М. Савіцкі.*

**57. ПАЛАЦ АДМІНІСТРАТАРА** (архіт.). Вул. М. Горкага, 2/2. Пабудаваны ў 1770—80-я гады з цэглы, перабудаваны ў 19 ст. Уваходзіў у ансамблевую забудову былой Гарадніцы. Характар першапачатковай архітэктуры часткова захаваўся ў паўночным флігелі, фасады якога крапаваны арачнымі нішамі. З усходняга боку абмежаваны ровам і р. Гараднічанка. Цяпер выкарыстоўваецца як вучэбны корпус Гродзенскага медыцынскага інстытута.

Палацавы ансамбль, які складаецца з трох асобных карпусоў, мае характэрную на той час сядзібную схему планіроўкі: курданёр, фланкіраваны прадаўгаватымі аднапаверхновымі флігелямі. За палацам і па яго баках быў разбіты невялікі парк рэгулярнай планіроўкі (часткова захаваўся). Цэнтральны корпус палаца — трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты пакатым вальмавым дахам. Плоскасны галоўны фасад вылучаны ў цэнтры неглыбокім рызалітам, крапаваным буйнымі лапаткамі і завершаны трохвугольным франтонам (не захаваўся). Прамавугольныя аконныя праёмы з трохвугольнымі і лучковымі франтонамі. 1-ы паверх з нізка пасаджанымі вокнамі і цокальным выступам трактуецца як аснова будынка, 2 верхнія аб'яднаны лапаткамі. Планіроўка палаца калідорная. У паўднёвай частцы 1-га паверха захаваліся фрагменты былых перакрыццяў у выглядзе цыліндрычных скляпенняў з распалубкамі. Першапачатковы інтэр'ер зменены.

Архітэктура палацавага ансамбля вырашана ў традыцыях ранняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**58. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «АЗОТ»** імя С. В. Прытыцкага (архіт.). Вул. Гарнавых, 17. Пабудаваны з цэглы ў 1974 г.

Будынак уяўляе сабой трохпавярховы аб'ём, які мае ў плане форму прамавугольніка з унутраным дворыкам. На галоўным фасадзе вертыкальныя рэбры аб'ядноўваюць 2-і і 3-і паверхі. Кансольная навісь над 1-м паверхам і казырок над галоўным уваходам ствараюць зацененую глыбіню. Паводле функцыянальнага прызначэння палац дзеліцца на 2 зоны: глядзельную і клубна-гуртковую, якія маюць самастойныя ўваходы. На 1-м паверсе размешчаны вестыбюль з гардэробам і глядзельная зала на 700 месцаў, на 2-м — фае глядзельнай залы, бар і кіназала на 350 месцаў, на 3-м — танцавальная зала. Клубна-гуртковая зона мае асобны вестыбюль, спартзалу і класныя пакоі для заняткаў гурткоў. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны туф, мармур, фактурная тынкоўка, дрэва. У фае мастацкая размалёўка сцен (мастакі І. Іваноў-Сакачоў і В. Рабаў).

Палац культуры — прыклад універсальнага клубнага збудавання. *С. Ф. Самбук.*

**59. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКАЎ** (архіт.). Савецкая пл., 1. Пабудаваны ў 1958 г. з цэглы. Уяўляе сабой сіметрычны трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак, да тыльнага фасада якога далучаны



58. *Палац культуры вытворчага аб'яднання «Азот» імя С. В. Прытыцкага. План 1-га паверха.*



58. *Палац культуры вытворчага аб'яднання «Азот» імя С. В. Прытыцкага. Галоўны фасад.*

паўкруглы ў плане аб'ём, дзе размешчаны парадная лесвіца і фае. Галоўны фасад вылучаны на ўсю вышыню будынка каланадай карынфскага ордэра, якая ўтварае неглыбокую лоджыю з цэнтральным парталам. Фасад фланкіраваны глухімі прасценкамі, дэкарыраванымі пілястрамі. Планіровачная структура вылучаецца кампактным размяшчэннем памяшканняў. На 1-м паверсе — вестыбюль, фае, злучанае 2 параднымі лесвіцамі з 2-м паверхам, а таксама клубныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя памяшканні, на 2-м — двухсветлавая зала на 400 месцаў з эстрадай-сцэнай, фае, пакоі для работы гурткоў; у тарцовых частках на 3 паверхах знаходзяцца клубныя памяшканні.

Палац — прыклад архітэктуры 1940—50-х гадоў з выкарыстаннем элементаў класічнай спадчыны.

*А. А. Воінаў.*

**60. ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ І ШКОЛЬНІКАЎ** (архіт.). У парку імя 40-годдзя ВЛКСМ. Пабудаваны ў 1975 г. з цэглы (архіт. У. Еўдакімаў). Галоўным фасадам арыентаваны на Савецкую пл. На тэрыторыі пабудаваны стадыён ручных гульняў і спартыўныя пляцоўкі.



60. *Палац піянераў і школьнікаў. Галоўны фасад.*

Рэльеф мясцовасці вызначыў кампазіцыю будынка. Ён складаецца з некалькіх трохпавярховых аб'ёмаў. Фасадныя плоскасці члянёны вертыкальнымі рэбрамі і шырокімі аконнымі праёмамі паміж імі. На галоўным фасадзе дэкаратыўнае пано «Гімн сонцу» (1976 г.; чаканка; скульпт. У. Церабун). На 1-м паверсе размешчаны спартыўная зала, плавальны басейн, на 2-м — бібліятэка і глядзельная зала, на 3-м — абласны музей «Піянерская слава», на ўсіх паверхах — пакоі для заняткаў гурткоў, у падвале — стралковы цір. У фае глядзельнай залы пано «Дзеці народаў свету» (1975 г., рэльеф; скульпт. У. Церабун, А. Салятыцкі).

Палац піянераў і школьнікаў — прыклад шматфункцыянальнага будынка, архітэктура якога добра спалучаецца з навакольным рэльефам мясцовасці.

*С. І. Анікін, Т. І. Чарняўская.*

**61. ПАРК «РУМЛЕВА»** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне жылога мікраёна Прынёманскі-2. Створаны ў 2-й палове 19 ст. Цяпер тут піянерлагер «Румлёва».

Парк пейзажнага тыпу. Размешчаны на высокім плато, абмежаваным з паўночна-ўсходняга боку левым берагам р. Нёман, з паўночна-заходняга — глыбокім ровам. У цэнтры стаяў сядзібны дом (не захаваўся, цяпер на гэтым месцы галоўны корпус піянерлагера), да якога вяла кляновая алея (захавалася часткова). Яна падзяляе парк на 2 палавіны. У паўночна-заходняй частцы густыя пасадкі дрэў вакол круглай у сячэнні шатровай вежы (узведзена ў 1880 г. з бутавага каменю). У цэнтры паўднёва-ўсходняй часткі вялізная паляна, абкружаная асобнымі курцінамі. Цяпер тут стадыён. Сярод пасадак ліпа, таполя, каштан, вяз, клён, бэз.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

*А. М. Кулагін.*

**62. ПОМНІК АЖЭШКА** Элізе (маст.). На скрыжаванні вуліц Ажэшка і Тэ-



58. *Палац культуры вытворчага аб'яднання «Азот» імя С. В. Прытыцкага. Інтэр'ер фае.*



60. *Палац піянераў і школьнікаў. Фрагмент інтэр'ера.*

леграфнай, у скверы. Пастаўлены ў 1929 г. у гарадскім парку. У Вялікую Айчынную вайну жыхары горада збераглі бюст Э. Ажэшка. У 1949 г. пастаўлены на новым месцы, у скверы, непадалёку ад дома, у якім жыла пісьменніца.

Скульптурны партрэт Э. Ажэшка (скульпт. Р. Зерых; шэры паліраваны граніт; вышыня бюста 1,1 м, пастамента 2,85 м). Устаноўлены на складаным па форме шматступеньчатым пастаменце. З дэталёвай дакладнасцю перададзены рысы твару пісьменніцы ў сталыя гады яе жыцця: выразна акрэслены падбародак, лёгкая ўсмешка, зморшчынкі каля вачэй. Высокая прычоска, пышна павязаны шаль надаюць вобразу пісьменніцы рамантычнае адценне. На пастаменце надпіс на польскай мове: «Элізе Ажэшка».

*Г. М. Ярмоленка.*

**63. ПОМНІК КАРБЫШАВУ** Дзмітрыю Міхайлавічу (гіст., маст.). На вул. Міру, перад будынкам сярэдняй школы № 15, якой прысвоена імя героя.

Савецкі военачальнік, генерал-лейтэнант інжынерных войск (1940 г.), доктар ваенных навук, прафесар (1941 г.), Герой Савецкага Саюза (16.8.1946 г.) Дз. М. Карбышаў нарадзіўся 14.10.1880 г. у Омску ў сям'і ваеннага чыноўніка. Член КПСС з 1940 г. У 1898 г. скончыў Омскі кадэцкі корпус, у 1900 г.— Ваеннае інжынернае вучылішча, у 1911 — Нікалаеўскую ваенна-інжынерную акадэмію. Прысвоены правы скончыўшага Ваенную акадэмію Генштаба (1938 г.). Удзельнік руска-японскай і 1-й сусветнай войнаў. У 1911—14 гг. удзельнічаў у рэканструкцыі 7-га форта Брэсцкай крэпасці. З снежня 1917 г. атрадны інжынер Чырвонай гвардыі, з 1918 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1921—23 гг. на адказных пасадах у штабе Украінскай ваеннай акругі, у 1923—26 гг. старшыня ваенна-тэхнічнага камітэта Галоўнага ваенна-інжынернага ўпраўлення РСЧА. З 1926 г. на выкладчыцкай рабоце ў ваенных акадэміях. Аўтар больш як 100 навуковых прац па ваенна-інжынернай справе і ваеннай гісторыі.

У чэрвені 1941 г. Дз. М. Карбышаў інспектаваў будаўніцтва ваенных умацаванняў у раёне Гродна і Беластоцкай вобл. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, адхіліў прапанову вярнуцца ў Маскву, застаўся на фронце. 22—26.6.1941 г. удзельнічаў у абарончых баях у раёне Гродна і Ваўкавыска. Пры выхадзе з акружэння каля Магілёва цяжка кантужаны 8.8.1941 г., трапіў у палон. У фашысцкіх канцлагерах смерці вёў антыфашысцкую прапаганду сярод вязняў. 18.2.1945 г. закатаваны ў канцлагеры Маўтхаўзен. Імем Дз. М. Карбышава названы завод, карабель, планета, вуліцы і школы ў Маскве, Мінску, Брэсце, Гродне, Ваўкавыску, Гомелі, Лідзе, Слоніме і інш. гарадах, яго імя прысвоена школе № 15 у Гродне і калгасу ў Мастоўскім р-не Гродзенскай вобл., дзе ўстаноўлены бюст героя, па-



62. *Помнік Э. Ажэшка.*



63. *Помнік Дз. М. Карбышаву.*



64. *Помнік Я. Купалу.*

стаўлены помнікі ў Маскве, Омску, Брэсце, Кіеве, Харкаве, Таліне, Маўтхаўзене (Аўстрыя). Ганаровы грамадзянін г. Гродна.

Помнік пастаўлены ў 1975 г. (скульпт. А. Салятыцкі; бронза, граніт; вышыня бюста 0,7 м, пастамента 2,1 м). Франтальна вырашаны скульптурны партрэт Дз. М. Карбышава аб'яднаны ў адзіную кампазіцыю з прамавугольным гарызантальным блокам і вертыкальным пастаментам. Партрэтныя рысы героя вырашаны мяккай святлоценявой лепкай. Каларыстычнае вырашэнне помніка заснавана на спалучэнні паліраванага чырвонага граніту з цёмнай бронзай.

*Літ.:* Солдат, герой, ученый.— М., 1961; Голубов С. Когда крепости не сдаются.— М., 1970; Глухаў І. А. Непераможны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 2; яго ж. Легендарны генерал.— Там жа, 1980, № 4; Решин Е. Г. Генерал Карбышев.— 2 изд.— М., 1973. *Э. М. Савіцкі, Г. М. Ярмоленка.*

**64. ПОМНІК КУПАЛУ** Янку (маст.). На вул. Ажэшка, перад будынкам Гродзенскага універсітэта (да 1978 г. педагагічны інстытут). Пастаўлены ў 1964 г. у сувязі з прысваеннем (1957 г.) інстытуту імя Я. Купалы (скульпт. З. Азгур; бронза, бетон; вышыня стэлы 4 м, бюста 1,2 м). Бронзавы скульптурны партрэт народнага паэта ўстаноўлены на кансолі, што ўмацавана на стэле. Рысы твару песняра выкананы з рэалістычнай выразнасцю. На стэле — адлітыя ў метале купалаўскія радкі:

Мілая моладзь, слаўная моладзь
Нашай бязмежнай краіны!
Горы і мора можаш ты здолець,
Сэрцам расплавіць ільдзіны.

Пляцоўка перад помнікам выкладзена плітамі, вакол яе газоны. *Г. М. Ярмоленка.*

**65. ПОМНІК КУРБАТАВУ** МіхаілуЦіханавічу (гіст.). На вул. Шчаснага, перад будынкам завода карданных валоў. Скульптура Героя Савецкага Саюза М. Ц. Курбатава ўстаноўлена ў 1978 г. Гл. таксама артыкул № 15 «Вайсковыя могілкі».

**66. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. У 1950 г. устаноўлена скульптура на пастаменце.



67. *Помнік настаўнікам і вучням.*




66. *Помнік У. І. Леніну.*

**67. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ** (гіст.). Вул. Парыжскай камуны, перад будынкам сярэдняй школы № 1. На ўшанаванне памяці настаўнікаў і вучняў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1981 г. пастаўлена стэла.

**68. ПОМНІК САКАЛОЎСКАМУ** Васілю Данілавічу (гіст., маст.). На скрыжаванні вуліц Савецкай і К. Цэткін.

Савецкі ваенны дзеяч, Маршал Савецкага Саюза (1946 г.), Герой Савецкага Саюза (29.4.1945 г.) В. Д. Сакалоўскі нарадзіўся 9.7.1897 г. у в. Козлікі Беластоцкага павета Гродзенскай губерні (цяпер тэрыторыя ПНР) у сям'і селяніна. Член КПСС з 1931 г. У 1918 г. скончыў настаўніцкую семінарыю, у 1921 г.— Ваенную акадэмію РСЧА. З лютага 1918 г. у Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну на Усходнім, Паўднёвым, Каўказскім, Туркестанскім франтах: камандзір роты, ад'ютант палка, памочнік камандзіра і камандзір палка, старшы памочнік начальніка штаба дывізіі і камандзіра брыгады, начальнік штаба стралковай дывізіі, памочнік начальніка аператыўнага ўпраўлення фронту, начальнік штаба і камандзір дывізіі, камандуючы групай войск Ферганскай і Самаркандскай абласцей. З 1922 г. начальнік штаба стралковай дывізіі, з 1926 г. начальнік штаба стралковага корпуса Паўночна-Каўказскай і Беларускай ваенных акруг. З 1930 г. камандзір стралковай дывізіі БВА, з 1935 г. намеснік начальніка, начальнік штабоў Прыволжскай, Уральскай і Маскоўскай ваенных акруг. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў дзеючай арміі на Заходнім (начальнік штаба Заходняга напрамку, камандуючы фронтам), 1-м Украінскім (начальнік штаба), 1-м Беларускім (1-ы намеснік камандуючага) франтах. У 1945—46 гг. намеснік галоўнакамандуючага Групай савецкіх войск у Германіі і 1-ы намеснік Галоўнаначальствуючага савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі. З 1949 г. 1-ы намеснік ваеннага міністра СССР, у 1952 г. 1-ы намеснік міністра абароны СССР, з 1960 г. генеральны інспектар Групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Член ЦК КПСС у 1952—59 гг., кандыдат у члены ЦК КПСС у 1961—68 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—48 гг. Аўтар публікацый аб Вялікай Айчыннай вайне. В. Д. Сакалоўскі памёр 10.5.1968 г. Пахаваны ў Маскве на Краснай плошчы каля Крамлёўскай сцяны. Яго імем названа вуліца ў Маскве, імя В. Д. Сакалоўскага прысвоена Новачаркаскаму вышэйшаму каманднаму вучылішчу сувязі. У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі яму прысвечана экспазіцыя.

У 1973 г. пастаўлены помнік (скульпт. Г. Мурамцаў, архіт. В. Аладаў; бронза, граніт; вышыня бюста 1,55 м, пастамента 3,7 м). Франтальнае вырашэнне скульптурнага партрэта, маршальская форма з выявамі баявых узнагарод, рэзкія лініі сілуэта надаюць кампазіцыі строгую ўрачыстасць. У вобразе палкаводца падкрэслены валявая сабранасць, мужнасць, энергічнасць. Рысы твару перададзены экспрэсіўнай лепкай. Спа-



68. *Помнік В. Д. Сакалоўскаму.*



70. *Помнік у гонар 850-годдзя г. Гродна.*

лучэнне цёмнай шурпатай паверхні бронзы і гладкай паліроўкі чырвонага граніту ўзмацняе выразнасць помніка. Пляцоўка вакол помніка вышэйшая за ўзровень вуліцы, выкладзена плітамі.

*Літ.:* Полководцы и военачальники Великой Отечественной. В. 1.— 2 изд.— М., 1971.— (Жизнь замечательных людей); Абрамов А. С. У Кремлёвской стены.— 5 изд.— М., 1983; Рычкоў І. А. Выдатны савецкі палкаводзец.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1973, № 2.
*Э. М. Савіцкі, Г. М. Ярмоленка.*

**69. ПОМНІК СОЛАМАВАЙ** Вользе Іосіфаўне (гіст.). Вул. Соламавай, 58, перад будынкам сярэдняй школы № 19. Бюст сакратара Гродзенскага падпольнага гаркома камсамола В. І. Соламавай устаноўлены ў 1977 г. Гл. артыкул № 5 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**70. ПОМНІК У ГОНАР 850-ГОДДЗЯ ГРОДНА** (гіст., маст.). На вул. Лермантава, пры ўваходзе ў парк імя 40-годдзя ВЛКСМ. Устаноўлены ў 1978 г. да 850-годдзя першага ўпамінання Гродна ў Іпацьеўскім летапісе пад 1128 г. Помнік (скульпт. Г. Буралкін, архіт. А. Каралькоў, Г. Пешкаў, інж. В. Навумовіч; бетон, медзь) — два слупы-абеліскі (вышыня 31 м), аб'яднаныя ў верхняй частцы блокам-вітражом з выявай лічбы «850». Каля асновы слупоў з заходняга і ўсходняга бакоў у нішах устаноўлены 2 алегарычныя скульптуры (вышыня 6 м): воін-латнік і жанчына з вышытым ручніком на руках. Да помніка вядзе алея з шырокім газонам і дэкаратыўнымі свяцільнямі. У пачатку алеі ўстаноўлены камень, на плоскасці якога высечана: «850-годдзе».
*Г. М. Ярмоленка.*



70. *Помнік у гонар 850-годдзя г. Гродна. Фрагмент.*

**71. ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). На пл. Савецкай.

Утрыманню Гродна камандаванне нямецка-фашысцкіх войск надавала важнае значэнне. На Гродзенскі напрамак дадаткова былі перакінуты 6 палкоў з Германіі, 50-я пяхотная дывізія і інш. вайсковыя падраздзяленні. У баях за вызваленне горада ўдзельнічалі войскі 31-й арміі (камандуючы генерал-палкоўнік В. В. Глаголеў) 3-га Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі І. Дз. Чарняхоўскі), падраздзяленні 1-й паветранай арміі (камандуючы генерал-палкоўнік авіяцыі Ц. Ц. Хрукін), часці 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) 2-га Беларускага фронту (камандуючы генерал-палкоўнік Г. Ф. Захараў). Бітва за горад пачалася 13 ліпеня. Праз 2 дні ўпартых баёў воіны 6-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі (камандуючы генерал-маёр П. П. Брыкель) 15.7. 1944 г. авалодалі старым крапасным фортам, вытрымалі бесперапынныя шматгадзінныя контратакі гітлераўцаў, прарвалі іх баявыя парадкі. Услед за кавалерыстамі ў Гродна ўварваліся воіны 174-й (палкоўнік М. І. Дзёмін) і 352-й (генерал-маёр М. М. Стрыжэнка) стралковых дывізій 31-й арміі. З поўдня наступалі падраздзяленні 42, 35, 29-й стралковых дывізій 50-й арміі. Да раніцы 16 ліпеня горад быў цалкам ачышчаны ад акупантаў. Занёманская частка вызвалена 23.7.1944 г. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях за вызваленне Гродна, 17 вайсковым часцям і злучэнням нададзены ганаровыя найменні «Гродзенскіх».

У 1968 г. у гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік — танк Т-34.
*Э. М. Савіцкі.*

**72. ПОМНІК УСАВУ** Віктару Міхайлавічу (гіст.). Вул. Фамічова, 16, на тэрыторыі сярэдняй школы № 3. Бюст устаноўлены ў 1980 г.

Герой Савецкага Саюза В. М. Усаў нарадзіўся 8.12.1916 г. у г. Нікапаль Днепрапятроўскай вобл. у сям'і служачага. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1936 г. Начальнік пагранзаставы лейтэнант В. М. Усаў вызначыўся ў Вялікую Айчынную вайну пры абароне дзяржаўнай граніцы СССР на тэрыторыі Беластоцкай вобл. 22.6.1941 г. пагранічнікі заставы пад яго камандаваннем на працягу 10 гадзін адбівалі атакі нямецка-фашысцкіх войск. Загінуў у баі 23.6.1941 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.5.1965 г. Яго імя прысвоена пагранзаставе на заходняй граніцы.

**73. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). На скрыжаванні вуліц Чапаева і Карбышава. Бюст героя Грамадзянскай вайны В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1981 г.

**74. РАДЗІМА ГІНЦБУРГА** Ільі Якаўлевіча (гіст.).

Рускі скульптар, акадэмік пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1911 г.) І. Я. Гінцбург нарадзіўся 15.5.1859 г. У 1886 г. скончыў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Выхаванец і вучань М. М. Антакольскага. Раннія работы Гінцбурга мелі жанравы характар: «Хлопчык, які збіраецца купацца» (1886 г.), «Малады музыкант» (1890 г.), «Першая казка» (1892 г.) і інш. Стварыў галерэю партрэтаў дзеячаў рускай навукі і культуры: Л. М. Талстога, І. С. Тургенева, У. В. Стасава, У. Г. Караленкі, М. Горкага, І. Я. Рэпіна, В. І. Сурыкава, В. В. Верашчагіна, М. М. Антакольскага, І. М. Крамскога, П. І. Чайкоўскага, А. Р. Рубінштэйна, Дз. І. Мендзялеева, І. П. Паўлава і інш. Выканаў шэраг кампазіцый на тэму рэвалюцыі: «Люты 1917 года», «Кастрычнік», «Майскія ўрачыстасці». Аўтар манументальнага надмагілля У. В. Стасаву (1908 г.), помнікаў М. В. Гогалю ў с. Вялікія Сарочынцы Палтаўскай вобл. (1911 г.), І. К. Айвазоўскаму ў Феадосіі (1930 г.). Аўтар крытычных артыкулаў, мемуараў «З майго жыцця» (1908 г.) і «З мінулага» (1924 г.). Памёр 3. 1. 1939 г. у Ленінградзе.

*Літ.:* Скульптор Илья Гинцбург: Воспоминания, статьи, письма.— Л., 1964.
*Г. М. Ярмоленка.*



71. *Помнік у гонар воінаў-вызваліцеляў.*

**75. РАДЗІМА ПАЎЛОЎСКАГА** Мікалая Восіпавіча (гіст.).

Генерал-палкоўнік (1954 г.) М. В. Паўлоўскі нарадзіўся 14.1.1903 г. у сям'і служачага. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з красавіка 1920 г. У 1948 г. скончыў Ваенную акадэмію Генштаба. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце, прымаў удзел у бітвах на Доне, Кубані, за Каўказ, у Наварасійска-Таманскай, Житомірска-Бярдзічаўскай, Яска-Кішынёўскай, Дзебрэцэнскай, Будапешцкай, Венскай, Пражскай і Хінгана-Мукдэнскай аперацыях. Начальнік штаба ўмацаванага раёна, брыгады марской пяхоты, намеснік начальніка штаба 56-й арміі, начальнік штаба 18-й арміі, начальнік аператыўнага аддзела і ўпраўлення штаба 1-га і 2-га Украінскіх і Забайкальскага франтоў. Пасля вайны на адказных пасадах у Савецкай Арміі. Памёр 25.10.1960 г. Яго імем названа вуліца ў Гродне. *Э. М. Савіцкі.*

**76. РАДЗІМА САЛАЎЁВА** Зіновія Пятровіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў аховы здароўя ў СССР і ваенна-санітарнай службы Чырвонай Арміі З. П. Салаўёў нарадзіўся 10.11.1876 г. Член КПСС з 1898 г. У 1904 г. скончыў Казанскі ўніверсітэт. Працаваў земскім урачом. За актыўную рэвалюцыйную дзейнасць шмат разоў быў арыштаваны, у 1909—12 гг. знаходзіўся ў ссылцы. У кастрычніку 1917 г. прымаў удзел ва ўзброеным паўстанні ў Маскве. З 1918 г. намеснік народнага камісара аховы здароўя РСФСР, з 1920 г. начальнік Галоўнага ваенна-санітарнага ўпраўлення Чырвонай Арміі і старшыня Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, з 1923 г. адначасова выкладаў курс сацыяльнай гігіены ў 2-м Маскоўскім універсітэце. Быў ініцыятарам стварэння піянерскага лагера «Артэк». Выдаў шэраг прац па гісторыі медыцыны, вышэйшай медыцынскай адукацыі, па тэарэтычных пытаннях аховы здароўя ў СССР.

Памёр 6.11.1928 г. Яго імя прысвоена 1-й гарадской бальніцы ў Гродне.

*Літ.:* Петров Б. Д., Потулов Б. М., З. П. Соловьев.— М., 1976. *Э. М. Савіцкі.*

**77. РАДЗІМА СУХАДОЛЬСКАГА** Януарыя Іванавіча (гіст.).

Жывапісец-баталіст Я. І. Сухадольскі нарадзіўся 19.9.1797 г. у сям'і збяднелага двараніна. Жывапісам і літаграфіяй пачаў займацца ў 1815 г. у А. Брадоўскага, калі знаходзіўся на ваеннай службе ў Варшаўскім гарнізоне. Удзельнічаў у паўстанні 1830—31 гг., пасля задушэння якога выехаў за мяжу. У Рыме браў урокі жывапісу (паміж 1832—37 гг.) у баталіста Г. Вернэ. Карціны на тэму напалеонаўскіх паходаў прынеслі мастаку вядомасць, што дазволіла яму вярнуцца на радзіму. Вялікае месца ў творчасці Сухадольскага займаюць творы на тэмы ваенных падзей айчыннай гісторыі. У вялікіх шматфігурных кампазіцыях «Узяцце Ачакава» (1853 г.), «Бітва пад Самасьерай» (1860 г.), «Пераход арміі Напалеона цераз Бярэзіну» (1866 г.) і інш. Сухадольскі з дакументальнай дакладнасцю і вялікай сілай мастацкага абагульнення паказаў жахі вайны. Шырока вядомы яго карціны «Узяцце рускімі войскамі крэпасці Карс», «Здача сцягоў пры Джаван-Булаку», «Перамога пад Ялдавай», «Здача крэпасці Абасабад», «Штурм крэпасці Ахалцых», напісаныя на падставе асабістых назіранняў у час руска-іранскай (1826—28 гг.) і руска-турэцкай (1828—29 гг.) войнаў. Цэлы шэраг твораў мастак прысвяціў тэме паўстання 1830—31 гг. Пісаў таксама жанравыя сцэны і пейзажы. Памёр 20.3.1875 г. у Польшчы.

*Літ.:* Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974. *Г. М. Ярмоленка.*



73. *Помнік В. І. Чапаеву.*

**78. РАДЗІМА ЧАХАЎСКОГА** Якуба Аўрамавіча (гіст.).

Вядомы барэц і атлет Я. А. Чахаўскі нарадзіўся 30.12.1879 г. У 1898 г. скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію. Служыў у Гродзенскім гусарскім палку. У лютым 1918 г. выбраны віцэ-старшынёй Усерасійскага саюза барцоў-атлетаў. У пачатку 1920-х гадоў кіраваў фізічнай падрыхтоўкай байцоў Петраградскай ваеннай акругі. Сарэдактар часопіса «Барэц-атлет» — першага савецкага спартыўнага выдання. Я. А. Чахаўскі па праву займае ганаровае месца ў гісторыі рускай цяжкай атлетыкі, з поспехам выступіў у шэрагу чэмпіянатаў па французскай барацьбе. Найбольшую вядомасць атрымаў у сілавых практыкаваннях. Яго рэкордны нумар — перанос на адной руцэ 6 чалавек (міжнародны прыз 1913 г.— ганаровы залаты пояс) — не паўтарыў да гэтага часу ні адзін атлет свету. Ён трымаў на сабе памост з аркестрам у 30 чалавек, падкідваў і прымаў на грудзі двухпудовыя гіры, у стойцы «барцоўскі мост» трымаў на сабе 10 чалавек, прапускаў цераз сябе грузавы аўтамабіль з 20 пасажырамі і інш. Летам 1937 г. выступаў на мінскім стадыёне «Дынама». Я. А. Чахаўскі памёр 31.7.1941 г. у Ленінградзе. *Э. М. Савіцкі.*

**79. СІНАГОГА** (архіт.). Вул. А. Кашавога, 59а. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Цяпер выкарыстоўваецца Гродзенскімі мастацкімі майстэрнямі.

Трохпавярховы квадратны ў плане будынак пад двухсхільным дахам. Галоўны фасад фланкіраваны квадратнымі вежамі з кілепадобнымі завяршэннямі і шлемападобным пакрыццём. Паміж вежамі над 1-м паверхам доўгая галерэя. Фасады дэкарыраваны рустам, кілепадобнымі ліштвамі лучковых і арачных аконных праёмаў. Цэнтральная зала будынка перакрыта крыжовымі скляпеннямі з нервюрнымі перапляценнямі. У яе цэнтры ўстаноўлена кафедра (біма), 4 слупы якой з'яўляюцца апорай сістэмы скляпенняў. Пралёты трактаваны ў выглядзе гатычных стральчатых арак. Інтэр'ер дэкарыраваны ляпным акантавым арнаментам. Усходняя сцяна залы вылучана ў цэнтры пяцігранным выступам, заходняя — галерэяй, якая



79. *Будынак былой сінагогі. Галоўны фасад.*



79. *Будынак былой сінагогі. Фрагменты скляпенняў.*



79. *Будынак былой сінагогі. План 1-га паверха.*

адкрываецца ў залу двухпралётнымі арачнымі праёмамі. Лесвічныя ўваходы на яе зроблены ў бакавых вежах. Бакавыя нефы з шматлікімі паглыбленнямі.

Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**80. СТАРЫ ЗАМАК** (археал., архіт.). У цэнтральнай частцы горада, на беразе Нёмана каля вусця р. Гараднічанка. Сфарміраваўся як комплекс абарончых умацаванняў, культавых і грамадскіх пабудоў 11—19 стагоддзяў. Даследавалі ў 1932—37 гг. Ю. Ядкоўскі, у 1949 г. М. М. Воронін, у 1971 г. М. А. Ткачоў, у 1977 г. А. А. Трусаў, у 1981 г. П. А. Рапапорт і А. А. Трусаў.

Замчышча (дзядзінец старажытнага Гродна). На высокім правым беразе Нёмана, на Замкавай гары. Умацаванае паселішча ўзнікла ў канцы 11 ст., у пачатку 12 ст. згарэла. Пазней становіцца рэзідэнцыяй князя. Тут будуюцца мураваны храм, абарончыя збудаванні, княжацкі палац і двор. Замчышча мае ў плане форму трохвугольніка, павернутага вострым вуглом на захад. Памеры каля 120×80 м, вышыня над узроўнем вады ў рацэ 32 м. Культурны пласт месцамі дасягае 8 м. У час раскопак ускрыты рэшткі драўлянай забудовы і вулічных насцілаў. Знойдзены фрагменты керамікі 11—15 ст., гліняныя гаршкі, плінфа, ключы, замкі, нажы, нажніцы, наканечнікі коп'яў, арбалетных стрэл, сярпы, сякеры, пілы, цуглі, стрэмя, сашнікі, восці, рыбалоўныя кручкі, спражкі, вісочныя кольцы, бранзалеты і інш. вырабы з металу, скураны абутак, касцяныя грабяні, накладкі, гузікі, праколкі 11—15 ст., ліцейныя формы і праслiцы з каменю, драўляныя чарпакі, грабяні, цацкі, дэталі ткацкага станка, верацёны і інш. Унікальная знаходка — касцяная шахматная ладдзя.

Рэшткі княжацкага палаца. Размешчаны ў паўднёвай частцы Старога замка, на самым схіле Замкавай гары. Пабудаваны ў 2-й палове 12 ст. Выяўлены ў 1932 г., даследаваў у 1933 г. Ю. Ядкоўскі, невялікія раскопкі правялі ў 1981 г. П. А. Рапапорт і А. А. Трусаў.

Будынак амаль не захаваўся. Паўночная сцяна даўжынёй 9,7 м захавалася на вышыню 2 м, прарэзана ўваходам шырынёй 1,6 м. Першы паверх складаўся з 2 памяшканняў — вялікага ў заходняй частцы будынка і малога, падзеленага прасценкам на 2 часткі. У заходняй сцяне вялікага памяшкання справа і злева ад увахода знаходзіліся нішы, якія былі перакрыты аркамі. Таўшчыня муроў памяшканняў 1,1—1,2 м, усходняга — 0,6 м, прасценка — 0,7 м. Будынак складзены з плінфы ў тэхніцы раўнарадавай муроўкі. Сярэдні памер цэглы — 4—5×18—20,5×30—31 см. Таўшчыня швоў у муроўцы — 1,5—2 см. Раствор з дамешкам цамянкі. На тарцах цаглін ёсць знакі. Звонку будынак афармлены ў тэхніцы дэкаратыўнай муроўкі і аздоблены гарызантальнымі радамі амаль неапрацаваных камянёў. Неглыбокі (да 35 см) падмурак у культурным пласце 11—13 стагоддзяў, складзены з аднаго рада валуноў. У малым памяшканні палаца над падмуркам зроблена суцэльная цагляная вымастка. У вялікім памяшканні была падлога з разнастайных па форме і колеру паліваных плітак, дах накрыты свінцовымі пласцінамі. У 14—15 стагоддзях уваход палаца адрамантаваны брусковай цэглай, аналагічнай той, з якой пабудаваны Стары замак. Магчыма, што ў гэты час будынак быў прыстасаваны да абароны, пра што сведчаць знойдзеныя каменныя гарматныя ядры.

Рэшткі Ніжняй царквы. Пабудавана каля 1116 ці ў 1128—41 гг. з цэглы. Пасля пажару ў 1183 г. пачалося разбурэнне храма. У час археалагічных раскопак знойдзены ўцалелыя часткі царквы. Раскопкі поўнасцю завершаны ў 1949 г. М. М. Вороніным, які правёў даследаванне помніка. Адкрытыя рэшткі сцен храма, якія захаваліся на вышыню да 3,5 м, ніжнія часткі апор, а таксама фрагменты канструкцый і дэкору дазваляюць меркаваць аб агульным выглядзе помніка і яго інтэр'еры. Храм пабудаваны ў цэнтры замчышча, прамавугольны ў плане (16,8×11,6 м), шасцістаўповы, трохнефавы з паўкруглай апсідай, якая завяршала ўсходнюю частку цэнтральнага нефа. Яшчэ 2 апсіды ў тоўшчы сцен бакавых нефаў. Сцены выкладзены з плінфы і абчасаных валуноў. У верхнюю частку сцен і скляпенні ўмураваны керамічныя збаны-галаснікі. Фасады былі аздоблены шырокімі плоскімі лапаткамі з закругленымі вугламі. Размяшчэнне лапатак на сценах адпавядае размяшчэнню слупоў унутры храма. Слупы — квадратныя ў сячэнні пілоны са зрэзанымі вугламі. 4 заходнія слупы падтрымлівалі купал храма. Ніжняя частка сцен упрыгожана паліраванымі глыбамі граніту і гнейсу шаравата-ружовых, чорна-зялёных, чорна-сініх, карычнявата-шэрых і чырванавата-фіялетавых таноў, верхняя была ўпрыгожана маёлікавымі ўстаўкамі. На адным з аконных прасценкаў захаваўся маёлікавы квадрат з сіметрычна складзеных карычневых (па вертыкалі) і зялёных (па гарызанталі) плітак. Падлога храма была выкладзена звычайным «шахматным» наборам жоўтых, зялёных і карычневых плітак. Унікальны дывановы набор у цэнтральным нефе: у квадраты, абрамленыя перакрыжаваннямі



80. *Стары замак.*



80. *Стары замак. Знакі на цаглінах з княжацкага палаца.*



80. *Стары замак. Раскопкі княжацкага палаца.*

жоўта-зялёных стужак, упісаны жоўтыя кругі з арнаментальнымі крыжамі з лякальнай пліткі. У паўднёвым нефе ўзор падлогі ўзбагачаны перакрыжаванымі палосамі з жоўтых і карычневых плітак у выглядзе хваста ластаўкі. Пліткі выраблялiся мясцовымі майстрамі. Усяго для падлогі выкарыстаны квадратныя пліткі 17 відаў разнастайных памераў. Падлога бабінца была выслана плінфай. Захаваліся дэталі багатага ўпрыгожання алтарнай перагародкі: пазалочаныя медныя лісты з выгравіраванымі выявамі апосталаў у абрамленні кругоў складанага расліннага арнаменту.

Ніжняя царква — помнік археалогіі, архітэктуры і мастацтва 12 ст., які дае магчымасць прасачыць асаблівасці гродзенскай школы дойлідства.

Рэшткі Верхняй царквы. Пабудавана на месцы Ніжняй царквы ў канцы 14 — пачатку 15 ст. з цэглы. Рэшткі царквы выяўлены Ю. Ядкоўскім у час археалагічных раскопак 1932—37 гг. Да цяперашняга часу захаваліся: усходняя палова сцен (вышыня 1—1,5 м), частка паўночнай сцяны з паўночна-заходнім вуглом, унутраны слуп (з 1939 г. зберагаюцца ў асобным павільёне). Уцалелыя часткі царквы дазваляюць меркаваць аб першапачатковым выглядзе будынка і яго памерах. Гэта быў невялікі квадратны ў плане (8,8×8,8 м) бесстаўповы храм са зрэзанымі вугламі і паўкруглай апсідай, шырынёй амаль роўнай шырыні царквы. Сцены не зусім паралельныя і рознай таўшчыні. У муроўцы сцен выкарыстоўваліся 2 тыпы цэглы: тонкая (ад 28×17×4,5 да 29×20×6 см) і «брусковая» (ад 30×15×7 да 31×16×8 см). Таўшчыня «швоў» 1—5 см. Звязвальным рэчывам з'яўляецца белая вапна з нязначным дамешкам пяску і дробнай галькі. Сярэдзіна тоўшчы сцен запоўнена каменнем. У муроўцы ўнутранай паверхні бакавых частак апсіды выяўлены аркі таўшчынёй у 1—2 цагліны. Перакрыцце Верхняй царквы спачатку было драўлянае, пазней зроблена скляпеністае на нервюрах. Пасля перабудовы царква была накрыта чырвонай чарапіцай у форме плоскіх пласцін (шырыня 15, таўшчыня 2 см). Верхняя частка сцен была ўпрыгожана крыжападобнай цэглай.

Рэшткі Верхняй царквы — помнік археалогіі і архітэктуры, якая сфарміравалася пад уплывам гродзенскай школы дойлідства 12 ст.

Палац «Стары замак». На тэрыторыі замчышча. Пабудаваны на мяжы 14—15 стагоддзяў для вялікага князя літоўскага Вітаўта (Верхні, пазней — Стары замак). Уяўляў сабой пяцівежавы нерэгулярны ў плане мураваны будынак гатычнага стылю. Вежы (1 круглая — «стоўп» 13 ст. і 4 квадратныя 14—15 стагоддзяў) умацаваны контрфорсамі. Вежа на паўночным усходзе мела пад'ёмны мост (заменены ў 18 ст. на пастаянны мураваны), які злучаў Верхні і Ніжні замкі. Замак будавалі як абарончы. Пра гэта сведчаць памеры сцен (таўшчыня 3 м, даўжыня больш за 300 м) і акон, павернутых у бок горада, а таксама яр і роў, што аддзялялі замак ад горада, адсутнасць традыцыйнага для палацава-замкавых комплексаў 16 ст. вестыбюля з параднай лесвіцай. Каля 1580 г. замак перабудаваны для караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя паводле праекта італьянскага архітэктара Скота з Пармы. Разбураны ў сярэдзіне 17 ст., адноўлены да 1678 г. У 18—19 стагоддзях надбудаваны 3-і паверх. Цяпер тут размешчаны Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.

На 1-м паверсе палаца, які меў скляпеністыя перакрыцці, размяшчаліся канцылярыя і архіў, скарбніца, кладоўкі і вартоўня, на 2-м — зала і каралеўскія пакоі. Аздабленне пакояў 1-га паверха вельмі сціплае, пакоі 2-га паверха ўпрыгожаны шліфаваным гіпсам, кафляй і разьбой. Падлога выкладзена керамічнымі пліткамі і мармурам. Фасады палаца і асабліва плоскасці франтонаў былі арнаментаваны сграфіта і разьбой. Вокны мелі тонкія ліштвы. Дэкаратыўнае афармленне будынка ў традыцыях рэнесансу. Фігурныя завяршэнні эркераў падкрэслівалі гарманічнасць і выразнасць усяго палацава-замкавага комплексу.

Вакольны горад. Знаходзіўся на паўднёвы ўсход, усход і захад ад дзядзінца. Уключаў тэрыторыю Ніжняга замка, пабудаванага ў 14—15 стагоддзях на паўднёвым усходзе ад дзядзінца. Тут пры земляных работах (1926 г.) на глыбіні 19 м выяўлены драўляныя пабудовы. Выхады старажытнага культурнага пласта адзначаны за 0,2—0,5 км на ўсход ад Старога замка на вуліцах Замкавай і А. Кашавога і на рагу Савецкай пл. (насупраць фарнага касцёла). У 1932 г. выяўлены рэшткі княжацкіх палат (зберагласся паўночная частка). У вопісе Гродна сярэдзіны 16 ст. названа Курганная вул. (за 650 м на паўднёвы ўсход ад Замкавай гары), што сведчыць аб існаванні тут курганнага могільніка, знішчанага пазней пры гарадской забудове. На захад ад Замкавай гары на процілеглым беразе Гараднічанкі знаходзіцца так званае Каложскае плато з рэшткамі Барысаглебскай царквы 12 ст.

Матэрыялы раскопак замчышча і вакольнага горада захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.



80. *Стары замак. Ніжняя царква. План.*



80. *Стары замак. Верхняя царква. План.*

*Літ.:* Соловьев Л. В. Новые раскопки в Гродно и их значение для русской истории.— У кн.: Записки Русского научного ин-та в Белграде. Белград, 1935, в. 13; Раппопорт П. А. Русская архитектура X—XIII вв.: Каталог памятников.— Л., 1982; Воронин Н. Н. Древний Гродно.— М., 1954.— (Материалы и исследования по археологии СССР, № 41). Wojciechowski J. Stary zamek w Grodnie.— Warszawa, 1938; Jodkowski J. Grodno.— Wilno, 1923; яго ж. Grodno wczesnośredniowieczne w świetle prac wykopaliskowych dokonanych na królewskim zamku starym w Grodnie w latach 1932 i 1933.— Warszawa, 1934; Durczewski Z. Stary zamek w Grodnie w świetle wykopaliski, dokonanych w latach 1937—1938.— Grodno, 1939.

*У. В. Алісейчык, Я. Г. Звяруга, А. К. Краўцэвіч, М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў.*




82. *Сядзіба Панямунь. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — капліца; 3 — падпорныя сценкі тэрас.*



82. *Сядзіба Панямунь. Палац.*



82. *Сядзіба Панямунь. Куток парку.*

81. **СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на захад ад горада, на правым беразе Нёмана, на нізкай і шырокай тэрасе. Адкрыў у 1956 г. Л. М. Вазнячук, абследавалі ў 1957 г. Л. С. Клейн, у 1975 г. М. М. Чарняўскі. На паверхні сабраны нажападобныя пласціны, канцавыя скрабкі, разцы, лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл. Раскопкі не праводзіліся. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

82. **СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне горада, на правым беразе Нёмана. Мела назву Панямунь. Пабудавана ў 1771 г. паводле праекта архітэктара Ю. Аляхновіча, перабудавана ў 19 ст. Была загараднай рэзідэнцыяй караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Палацава-паркавы ансамбль абмежаваны з паўднёвага боку ракой, з усходняга і паўночнага — глыбокім ровам. Палац і адкрыты перад ім партэр размешчаны ў глыбіні пейзажнага парку, над стромкім берагам, умацаваным падпорнымі сценкамі тэрас. Парк разбіты перад палацам і па схілах рова. Уезд пазначаны капліцай (сярэдзіна 19 ст.) неагатычнага стылю. Гаспадарчыя і службовыя пабудовы былі вынесены за межыараднай часткі ансамбля і пастаўлены з заходняга боку палаца ў адзін рад. Палац аднапавярховы. Спачатку мураваны, пазней частка разбураных сцен заменена драўлянымі. Збярогся фрагмент вуглавой вежы, якая вылучаецца плаўным абрысам, тонкай і складанай прафіліроўкай карнізаў і абрамленняў, здвоенымі пілястрамі з ажурнымі капітэлямі, гарызантальнай рустоўкай. У цэнтры галоўнага фасада — чатырохкалонная навісь. Дваровы фасад упрыгожаны чатырохкалонным порцікам на высокім цокалі. Перапад у рэльефе забяспечыў двароваму фасаду адкрыццё цокальнага паверха, службовыя памяшканні якога мелі сувязь з памяшканнямі парадкага паверха. Планіроўка дома анфіладная з выхадам у цэнтральную вялікую парадную залу.

Палац — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга барока.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

83. **СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, замыкае вуліцу Ціміразева. Мела назву Станіслававa. Сфарміравана ў 1760—70-я гады паводле праекта італьянскага архітэктара Дж. Сака. Была загараднай рэзідэнцыяй польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Цяпер тут адзін з карпусоў Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута.

У планіроўцы ансамбля захаваліся элементы рэгулярнасці. Цэнтральнае месца займае палац, які знаходзіцца на вяршыні пакатага схілу. Сіметрычна размешчаныя бакавыя флігелі ствараюць парадны курданёр, абнесены з боку ўезда невысокай цаглянай агароджай. За домам — парк радыяльна-прамянёвай планіроўкі. Гаспадарчыя пабудовы размешчаны за заходнім флігелем.

Мураваны палац — прамавугольны двухпавярховы будынак (першапа-



83. *Сядзіба Станіслававa. Палац.*



83. *Сядзіба Станіслававa. Палац. План 1-га паверха.*



83. *Сядзіба Станіслававa. Флігель.*

чаткова аднапавярховы), цэнтральная частка якога аб'ядноўвае парадную групу памяшканняў (вестыбюль, верхнюю і ніжнюю залы). Сярэдзіна галоўнага фасада вылучана рызалітам з філёнгавым фігурным атыкам і тэрасай, цэнтр дваровага фасада — паўкруглым эркерам з манаграмай караля на атыку. Аконныя праёмы дэкарыраваны лучковымі і трохвугольнымі франтонамі, гірляндамі, плоскімі ліштвамі. У дэкоры будынка шырока выкарыстаны раскрапаваныя карнізы, пілястры і паясы. Планіроўка будынка калідорнага тыпу значна зменена. У вестыбюлі захаваліся 2 печы, выкананыя ў стылі неаготыкі, абліцаваныя паліванымі керамічнымі пліткамі цёмна-карычневага колеру (сярэдзіна 19 ст.).

Флігелі — прамавугольныя ў плане аднапавярховыя будынкі пад высокімі чарапічнымі дахамі — меншыя па маштабу, размешчаны на рэльефе ніжэй за палац, маюць падпарадкаванае значэнне.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга барока.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Дооктябрьский период.— Мн., 1969; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Loza S. Architekci i budowniczowie w Polsce.— Warszawa, 1954, s. 266.
*А. М. Кулагін.*

**84. ТЫТУНЁВАЯ ФАБРЫКА** (архіт., гіст.). Вул. Маставая, 39. Пабудавана ў 1860-я гады з цэглы. Яе ўладальнікам быў прадпрыемца і акцыянер Шарашэўскі. З 1947 г. будынак фабрыкі выкарыстоўваецца Гродзенскім тонкасуконным камбінатам.

Будынак былой фабрыкі неаднаразова рэканструяваны. Лаканічная архітэктура яго трохпавярховага фасада, які выходзіць на вуліцу, была сугучна жылой забудове горада. Прамысловае прызначэнне падкрэслена манатонным рытмам прамавугольных аконных праёмаў, адсутнасцю кампазіцыйнага цэнтра і ўваходнага пад'езда (уваход быў зроблены праз аўтаномную прахадную). Асаблівасць планіроўкі — шэраг каркасных цэхаў з тарцовымі лесвіцамі. Сучаснае вырашэнне галоўнага фасада будынка — рытм лапатак у прасценках, трактоўка 3-га паверха як закрытага высокага парапета.

На фабрыцы ў канцы 19 — пачатку 20 ст. адбываліся забастоўкі рабочых. Найбольш буйная з іх праходзіла 28.9.1899 г. Удзельнічала каля 1200 рабочых. Кіраваў забастоўкай Гродзенскі рабочы камітэт на чале з П. І. Шумавым. Рашэнне пачаць забастоўку з мэтай дабіцца павышэння расцэнак і паляпшэння ўмоў працы было прынята 11 верасня на сходцы рабочых (400 чалавек) пераважна папяроснага аддзялення. Быў выбраны забастовачны камітэт, які стварыў грашовы фонд дапамогі бастуючым. Каб спыніць забастоўку, 23 верасня на фабрыцы і ў горадзе ад імя губернатара былі вывешаны аб'явы з пагрозай аб адказнасці. Але рабочы камітэт у спецыяльна выдадзенай у ноч на 24 верасня адозве заклікаў працягваць забастоўку. Тады паліцыя пачала масавыя арышты, 88 жанчын і 3 мужчыны былі зняволены ў губернскую турму. У адказ забаставалі яшчэ 300 чалавек з упаковачнага аддзялення. 28 верасня арыштаваных вызвалілі і забастоўка была спынена. Уладальнік фабрыкі мусіў задаволіць некаторыя патрабаванні рабочых. Забастоўка садзейнічала росту палітычнай свядомасці працоўных горада. У пачатку 20 ст. рэвалюцыйныя выступленні на фабрыцы пашырыліся. Буйныя забастоўкі адбыліся ў снежні 1900 г., снежні 1903 г., студзені, красавіку, чэрвені, кастрычніку 1905 г., лістападзе 1907 г., кастрычніку 1908 г.

Масавыя выступленні рабочых за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне адбыліся ў 1920—30-я гады. Увосень 1930 г. забастоўка працягвалася некалькі месяцаў. У час забастоўкі 1931 г. рабочыя ачапілі фабрыку і не дапусцілі туды штрэйкбрэхераў. Буйнейшая забастоўка адбылася ў сакавіку 1936 г.

*Літ.:* Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. (1772—1903 гг.).— Мн., 1940; Храброва Ф. У рэвалюцыі і працы.— Беларусь, 1958, № 10; Ускоў Я. Старонкі класавага змагання.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1973, № 3; Гродно: (Исторический очерк).— 2 изд.— Мн., 1964. *А. М. Кулагін, Э. М. Савіцкі.*

**85. УЛАДЗІМІРСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Перамогі, 5. Пабудавана ў 1896 г. з цэглы (інж. І. К. Плотнікаў).

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка складаецца з чатырох частак: двух'яруснай (васьмярык на чацверыку) званіцы, прамавугольных у плане бабінца і асноўнага аб'ёму з пяціграннай апсідай. Асноўны аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам, званіца завершана шатром з макаўкай. Сцены будынка прарэзаны арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі, завершаны па перыметры зубчастым поясам, філёнгавым фрызам і прафіляваным карнізам. На бакавых фасадах кілепадобныя франтончыкі. Цокаль вылучаны філёнгавай крапоўкай і прафіляванай цягай. Архітэктура царквы насычана стылізаванымі элементамі дэкору старажытнарускага дойлідства (закамары, кілепадобныя аркі, крыжовыя і арачныя нішы, вуглавыя калонкі, ліштвы акон, шматлікія прафіліроўкі). Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю. Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — драўляны іканастас.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*



84. *Будынак былой тытунёвай фабрыкі.*

**86. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Антонава, на могілках. Пабудавана ў другой палове 19 ст. з цэглы.

Будынак крыжападобны ў плане, аднавежавы, накрыты пакатымі двухсхільнымі дахамі. На тарцах бакавых крылаў і апсіды трохвугольныя франтоны. Атынкаваныя сцены апаясаны карнізам, расчлянёны высокімі арачнымі вокнамі з руставанымі імпастамі. Фасады крапаваны арачнымі і



87. *Царква.*



87. *Царква. План.*

крыжовымі нішамі, эдыкуламі, падаконнай цягай. З боку галоўнага фасада прыбудавана квадратная ў сячэнні двух'ярусная званіца, накрытая пакатым двухсхільным дахам з макаўкай. На 1-м ярусе арачны праём галоўнага ўвахода, 2-і ярус прарэзаны круглымі люкарнамі і праёмамі з бэлькамі для званоў. Да апсіды прымыкае нізкая прыбудова.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**87. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. 1 Мая, 5. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы як лютэранская. Цяпер у будынку Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл.

Аднанефавая аднавежавая пабудова з пяціграннай апсідай і сакрысціямі. Галоўны фасад мае сіметрычную, выцягнутую па вертыкалі дынамічную кампазіцыю. Квадратная ў плане высокая манументальная вежа-званіца выступае з асноўнага аб'ёму. Галоўны ўваход (праз вежу) аформлены вялікім стральчатым парталам, над ім — «акно-ружа». Вежа завершана высокім ламаным па форме вострым шатром. Сцены абведзены шырокім карнізным пояском, умацаваны контрфорсамі. У вокнах бакавых сцен каляровы вітраж з гатычнымі металічнымі пераплётамі. Інтэр'ер храма мае выцягнутую па падоўжнай восі сіметрычную кампазіцыю. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём перакрыты арыгінальным па форме фігурным скляпеннем: цыліндрычнае перакрыцце пераходзіць каля бакавых сцен у плоскую столь на драўляных кранштэйнах. Апсіда раскрываецца ў асноўны аб'ём арачным праёмам. На 2-м паверсе вежы — маленькія хоры.

Будынак царквы — помнік псеўдагатычнай архітэктуры. *С. Г. Багласаў.*

**88. ЦЭНТР МАСТАЦКІХ РАМЁСТВАЎ** (гіст., маст.). Гродна і яго наваколле здаўна былі важным цэнтрам мастацкіх рамёстваў. На тэрыторыі Старога замка і манастыра базыльянак знойдзены кафлі, зробленыя мясцовымі рамеснікамі — ганчарамі 14—19 стагоддзяў. Раннія гаршковыя кафлі мелі круглае вусце і донца дыяметрам 7—8 см, больш познія — каробкападобную румпу і квадратную ўвагнутую вонкавую пласціну з выявамі расліннага, геаметрычнага, зааморфнага характару.

Гродзенскае ткацтва развівалася з 12 ст. У літаратуры ўпамінаецца з 17 ст. Мясцовыя тканіны «ў елачку» знойдзены М. М. Варонівым. Вядомы тэхнікі перабору, закладання і шматнітовай. На базе рамёстваў у 1770-я гады гродзенскі староста А. Тызенгаўз арганізаваў у горадзе і яго наваколлі каралеўскія мануфактуры — 21 прамысловае прадпрыемства: залататкацкае, дывановае, шаўкаткацкае, металічных вырабаў, пацерак, карункавае, паркаленабіўное, ружэйнае, гарматнае, ігральных карт, карэтнае і інш. Працавалі на мануфактурах мясцовыя прыгонныя пад кіраўніцтвам майстроў з Францыі, Бельгіі, Швейцарыі. Мануфактуры шкляных пацерак выраблялі таксама і посуд: шкляныя бакалы, келіхі, шклянкі, пляшкі і штофы ў традыцыйных для Беларусі формах чатырохгранных квартаў. На посудзе рабілі гравіроўку (пейзажы, выявы людзей, птушак, вензелі). Гродзенскія ворсавыя дываны і шпалеры вызначаліся высокай тэхнікай ткацтва і прыгажосцю кампазіцыі, якая складалася з раскіданых па полі букетаў, вазонаў, кошыкаў з кветкамі. Каляровая гама пераважна блакітная і залацістая. Рабілі шаўковыя «літыя» паясы накшталт слуцкіх, але ў адрозненне ад іх арнамент сярэдняй часткі і ўзор па канцах былі ўсходняга характару.

У 18 — пачатку 20 ст. вядомы гродзенскія дываны падвойныя, якія ткалі з воўны ў 4 ніты на шырокіх кроснах (даўжынёй 2 м, шырынёй 1,5 м). Яны запраўляліся на 2 навоі. Кожны навой ствараў фон пэўнага колеру. Толькі ў месцах арнаментальных выяў абодва навоі злучаліся, і колер ніжняга фону ўтвараў узор на фоне верхняга і наадварот. Раслінны і геаметрычны ўзоры спалучаліся з выявамі фігур людзей, птушак, жывёл ці вясельнага карагода. Колеры пераважна чырвона-цагляныя ці залаціста-жоўтыя ў спалучэнні з чорным.

Мастацкае ткацтва, лозапляценне, апрацоўка дрэва пашыраны на Гродзеншчыне і цяпер. Ткуць тут пераборнай, закладной, габеленавай тэхнікамі. Найбольш папулярны ўзор «паласатых» папярочных дываноў і «ў клетку». У апошні час папярочныя палосы чаргуюцца з арнаментам з кветак. Вар'іруюцца зялёны, чорны, малінавы, сіні, жоўты і інш. колеры. Гродзенская фабрыка мастацкіх вырабаў стала цэнтрам, які аб'яднаў мастацкія рамёствы Гродзенскага р-на і часткова вобласці. Шырока прыцягваюцца да працы ткачыхі-надомніцы з розных раёнаў вобласці (больш за 250 чалавек), якія ткуць у мясцовых арнаментальных традыцыях посцілкі, камплекты на крэслы і канапы, сурвэткі, тканіну на спадніцы і інш.

У канцы 60-х гадоў пры Гродзенскай фабрыцы мастацкіх вырабаў адрадзілася вытворчасць лазовых вырабаў. Створаны цэх лозапляцення, які з'яўляецца самым буйным у рэспубліцы. Майстры плятуць рэчы сувенірнага характару (дэкаратыўныя кошыкі, рамачкі для люстэркаў, абажуры, хлебніцы і інш.). Выкарыстоўваюць пляценне рэберна-крыжовае паслойнае, ажурнае ў 1—5 пруткоў пляценне і пляценне вяровачкамі ў 2—5 пруткоў. Вырабы вывозяцца ва ўсе рэспублікі краіны і экспартуюцца за мяжу. Фабрыка мастацкіх вырабаў аб'ядноўвае і майстроў разьбы па дрэве, якімі таксама багата Гродзеншчына. Майстры-рэзчыкі выконваюць па заказах фабрыкі сувенірныя прадметы (фігуркі, пано, маскі, падсвечнікі, жаночыя ўпрыгожанні). Многія ўмельцы займаюцца апрацоўкай металу з бурштынам. Цэх мастацкай вышыўкі фабрыкі выконвае ў асноўным работы па ўпрыгожванню жаночых і мужчынскіх кашуль узорамі беларускага арнаменту, распрацаванымі прафесійнымі мастакамі. Многія ткачыхі, вышывальшчыцы, рэзчыкі па дрэве, майстры лозапляцення Гродзеншчыны ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх саюзных і міжнародных выстаўках народнага і прыкладнога мастацтва, маюць узнагароды, дыпломы. Творы іх захоўваюцца ў калекцыях многіх мастацкіх музеяў.

*Літ.:* Трызна Дз. С. Беларускія дываны і габелены.— Мн., 1981. *Дз. С. Трызна.*

**89. ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ** (архіт.). Па вул. Будзённага. Пабудаваны ў 1868 г. з цэглы. У Вялікую Айчынную вайну разбураны, у 1948 г. адноўлены.

Будынак прамавугольны ў плане, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Спачатку цэнтральная двухпавярховая частка была злучана аднапавярховымі галерэямі з 2 бакавымі таксама аднапавярховымі крыламі. Пры аднаўленчых работах над галерэямі надбудаваны 2-і паверх. Да аднаго з бакавых крылаў прыбудаваны двухпавярховы корпус са службовымі і дапаможнымі памяшканнямі. Складаны па канфігурацыі франтон цэнтральнай часткі набыў форму трохвугольніка. Кампазіцыя фасадаў заснавана на рытме паўкалон, пілястраў тасканскага ордэра, прамавугольных і арачных праёмаў акон. Прасценкі паміж вокнамі дэкарыраваны рустам. У цэнтральнай частцы размешчаны галоўны ўваход, на 1-м паверсе цэнтральнай часткі — вестыбюль, касы, на 2-м паверсе і ў бакавых крылах — залы чакання.

Будынак — прыклад эклектычнай архітэктуры. *В. В. Валошын.*




# АСТРАВЕЦКІ РАЁН

Клюшчаны
Масцяны
Спонды
Варзяны
Падольцы
Кемелішкі
Рытань
Міхалішкі
Быстрыца
Супраненты
Газа
Варона
Чэхі
Трокенікі
Варняны
Слабодка
Дубнікі
Гервяты
Рымдзюны
Малі
Ізабеліна
АСТРАВЕЦ
Палушы
Гудагай
Лазоўка
Дайлідкі

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Земляныя валы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы; помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

## ІІ. АСТРАВЕЦ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Лоша. За 250 км на паўночны ўсход ад Гродна, 4 км ад чыгуначнай станцыі Гудагай (на лініі Маладзечна — Вільнюс), аўтамабільнай дарогай злучаны з Ашмянамі. Аэрапорт. Назву атрымаў ад вострава на правым беразе р. Лоша.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1468 г., калі кіеўскі ваявода М. Гаштольд заснаваў тут касцёл і дамініканскі кляштар. Уваходзіў у Віленскае ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Належаў Гаштольдам, Карыцкім, Корсакам. У 1616 г. на месцы старога ўзведзены новы драўляны касцёл, у 1787 г.— мураваны Казьмадзям'янаўскі касцёл. Паводле люстрацыі 1818 г. дамініканцам належала 30 дамоў, 106 мужчынскіх душ. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, у Віленскім, потым Ашмянскім паветах Віленскай (у 1797—1801 гг. Літоўскай) губерні. У 19 ст. належаў Кастравіцкім і Сыцянкам. У 1886 г. мястэчка, 176 жыхароў, 22 двары. Працавалі бровар, тартак, млын, піларама, цагельня, майстэрня дрэнажных труб. Конная чыгунка звязвала Астравец з станцыяй Слабодка (цяпер Гудагай).

Жыхары Астраўца прымалі ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. У 1905 г. дзейнічала рэвалюцыйнае «Астравецкае таварыства», звязанае з Віленскай арганізацыяй РСДРП. У 1921—39 гг. Астравец у складзе буржуазнай Польшчы, у Ашмянскім павеце Віленскага ваяводства. Працоўныя вялі барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У 1933 г. адбылася забастоўка на цагельні купца Барана. 1 Мая 1933 г. рабочыя вывесілі чырвоныя сцягі, правялі мітынгі. Кіраваў барацьбой рабочы В. І. Падаліс.

З канца 1939 г. у складзе БССР, з 15.1.1940 г. вёска, цэнтр Астравецкага р-на Вілейскай, з 1944 г. Маладзечанскай, з 1960 г. Гродзенскай абласцей. У чэрвені 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 3 мая 1944 г. да 6.7.1944 г. у раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. 3.7.1944 г. партызанская брыгада імя ЦК КП(б)Б вызваліла Астравец і ўтрымлівала яго да падыходу часцей Чырвонай Арміі. З 25.4.1958 г. гарадскі пасёлак. Да 1962 г. і з 1965 г. цэнтр раёна. У 1962—65 гг. уваходзіў у Ашмянскі р-н.



ІІ. *Цэнтральная плошча.*



ІІ. *Дом культуры.*

Аснова планіровачнай структуры пасёлка — прамавугольная сетка вуліц. Паводле генплана 1970 г., распрацаванага ў Гродзенскім філіяле Беларускага дзяржаўнага праектнага інстытута, капітальная забудова трох-, пяціпавярховымі дамамі вядзецца пераважна ў паўночнай частцы. Адміністрацыйны і культурны цэнтр — Цэнтральная пл.— размешчаны на перакрыжаванні вуліц Ленінскай, Кастрычніцкай і К. Маркса. Тут знаходзяцца будынкі райкома КПБ і раённага Дома культуры.

Працуюць хлебазавод, філіял Смаргонскага завода сухога абястлушчанага малака, камбінаты будаўнічых матэрыялаў, бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, аўтабаза. У пасёлку сярэдняя, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, 2 дашкольныя ўстановы, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Астравецкая праўда». Помнікі: У. І. Леніну, воінам і партызанам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваўся помнік архітэктуры 18 ст.— Казьмадзям'янаўскі касцёл.

Зона адпачынку — лесапарк, які раскінуўся на ўсход ад вул. К. Маркса, і вадасховішча на р. Лоша, за 4 км ад Астраўца.

*Літ.:* Мальдзіс А. Астравеччына, край дарагі...: Нарыс. — Мн., 1977.

*А. І. Мальдзіс, А. А. Міцянін.*

**90. ГЕОРГІЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). Вул. Ленінская, 7. Пабудаваны ў 1911 г. з цэглы, неатынкаваны. Прамавугольны ў плане храм з пяціграннай апсідай, бабінцам і невялікім трансептам. Цэнтральная частка галоўнага фасада завершана шчытом, бакавыя — невялікімі вежамі. Сцены расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі. Па баках апсіды і нартэкса размешчаны дапаможныя памяшканні. Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

**91. ЗЕМЛЯНОЕ ЎМАЦАВАННЕ** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка, у паўночнай частцы ўрочышча Выспа, за 0,2 км ад правага берага р. Лоша, на мысе левага берага р. Кегна. Пляцоўка амаль чатырохвугольнай формы, памерам 27×21 м, узвышаецца над ракой на 2,5 м. З боку поля ўмацавана ровам глыбінёй 2 м і шырынёй 10 м. Абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзена шмат бітай цэглы і кафлі. Адносіцца да 15—17 стагоддзяў.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**92. КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). Вул. Камсамольская, 1.



91. *Земляное ўмацаванне. План.*




92. *Казьмадзям'янаўскі касцёл. Фрагмент абклада карціны.*



92. *Казьмадзям'янаўскі касцёл. Алтар.*



92. *Казьмадзям'янаўскі касцёл. План.*

Пабудаваны ў 1787 г. з цэглы. Перабудаваны ў 19 ст.

Храм прамавугольны ў плане, трохнефавы, накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральны неф завершаны апсідай. Галоўны ўваход вылучаны высокім чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам. Плоскасць галоўнага фасада расчлянёна пілястрамі з валютамі. Бакавыя фасады аздоблены шырокімі лапаткамі, прамавугольнымі нішамі. Магутны прафіляваны карніз праходзіць па ўсім перыметры будынка. Аконныя праёмы паўцыркульныя з сандрыкамі. У інтэр'еры цэнтральны неф, які ў 2 разы шырэй за бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Алтар упрыгожаны карцінамі 18—19 стагоддзяў на біблейскія сюжэты, абклады (латунныя, пасярэбраныя і пазалочаныя) якіх з'яўляюцца ўзорам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва таго часу.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem.— Wilno, 1932.

*А. А. Міцянін.*

**93. МАГІЛА КАЛГУШКІНА** Мікалая Сцяпанавіча **І УШАКЕВІЧА** Івана Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Загадчык планавага аддзела Астравецкага райвыканкома М. С. Калгушкін і старшыня былога Дайлідскага сельсавета І. А. Ушакевіч загінулі ў 1950 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**94. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая, 1, на будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1968 г. у памяць аб баявых дзеяннях партызан брыгады імя ЦК КП(б)Б.

Партызанская брыгада імя ЦК КП(б)Б створана ў сакавіку 1943 г. на базе батальёна А. Д. Мядзведзева, сфарміраванага ў кастрычніку 1942 г.; пазней брыгада А. Д. Мядзведзева, якой у лютым 1944 г. нададзена імя ЦК КП(б)Б. Камандзіры А. Д. Мядзведзеў (сакавік 1943 г.— чэрвень 1944 г.), М. Р. Пучкароў (в. а., верасень — кастрычнік 1943 г.), М. І. Фёдараў (чэрвень — ліпень 1944 г.); камісары Ц. М. Бондараў (сакавік — чэрвень 1943 г.), Ф. Я. Воранаў (чэрвень — верасень 1943 г.), М. Р. Пучкароў (верасень 1943 г.— чэрвень 1944 г.), У. П. Шчуцкі (чэрвень — ліпень 1944 г.).

Брыгада дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Астравецкага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Пліскага р-наў Вілейскай вобл., Ушацкага р-на Віцебскай вобл. Партызаны брыгады разграмілі гарнізон у Докшыцах, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», праводзілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, вялі баі па ліквідацыі варожых апорных пунктаў, супраць карнікаў, разам з іншымі партызанскімі брыгадамі абаранялі заходнія рубяжы Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. Да падыходу Чырвонай Арміі з баямі вызвалілі чыгуначную станцыю Гудагай, вёскі Варняны і Міхалішкі Астравецкага р-на. 3.7.1944 г. падышлі да Астраўца. Група аўтаматчыкаў накіравалася ў абход пасёлка і перакрыла дарогу на чыгуначную станцыю Гудагай, 2 атрады наблізіліся да Астраўца з флангаў. Асноўныя сілы з ходу ўварваліся ў пасёлак з боку в. Варняны. У выніку кароткага бою вызвалілі Астравец. 6.7.1944 г. брыгада (338 партызан, атрады 1-ы імя А. Я. Пархоменкі, 2-і імя В. І. Чапаева, 3-і імя Г. К. Жукава, 4-ы імя Дз. А. Фурманава, 5-ы імя Дзянісава) у раёне Астраўца злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

*М. В. Кірэйшын.*

**95. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Камсамольская, 3, на будынку раённага аддзела ўнутраных спраў. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў Астравецкага раённага аддзела міліцыі І. Я. Бяляева, М. К. Васілевіча, М. І. Міхаля, В. П. Пагажэльскага, В. Р. Рагожнікава, А. М. Сташкевіча, І. М. Яфімава, якія загінулі ў 1944—45 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады, а таксама Р. Н. Дайлідовіча і А. М. Шыціка, што загінулі ў 1947 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

*М. В. Кірэйшын.*

**96. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Цэнтральнай пл., насупраць будынка райкома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1968 г.

**97. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст., маст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка. Устаноўлены ў 1975 г. да 30-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй (скульпт.



93. *Помнік на магіле М. С. Калгушкіна і І. А. Ушакевіча.*



97. *Помнік савецкім воінам і партызанам.*

Я. Печкін; бетон з чырвонымі палімерамі; вышыня скульптуры 3,5 м, пастамента 0,6 м).

Двухфігурная скульптурная кампазіцыя — воін са сцягам у імклівым парыве і смяротна паранены салдат — размешчана на невялікім узгорку, да якога вядуць дарожкі з бетонных пліт. Кантраст энергічнай фігуры сцяганосца з трагічна скаванай параненага воіна перадае напружаны драматычны момант паядынку і перамогі над ворагам. Абедзве фігуры вырашаны абагульнена, буйнымі пластычнымі формамі. Злева каля падножжа ўзгорка нізкая выцягнутая па гарызанталі стэла з надпісам-прысвячэннем. Помнік гарманічна звязаны з навакольнай прасторай.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Акартэлі, Спондаўскі сельсавет**

**98. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаным узвышэнні. Памер 40×50 м. Выявіў і абследаваў у 1984 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены мікралітычныя прылады працы (7—6-е тысячагоддзі да н. э.). Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Баброўнікі, Варнянскі сельсавет**

**99. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Будраны, Спондаўскі сельсавет**

**100. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі. 12 насыпаў дыяметрам да 9 м, вышынёй да 1 м. У 1895 г. Ф. В. Пакроўскі раскапаў 10 курганоў. Пахавальны абрад — трупапаленне. Знойдзены перапаленыя косці, сякеры, наканечнікі коп'яў, нож, мініяцюрны гаршчок, бронзавыя ўпрыгожанні і рыштунак каня. Адносіцца да ўсходнелітоўскіх курганоў, датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899.

*М. М. Чарняўскі.*



101. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. План.*



101. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. Інтэр'ер.*



101. *Крыжаўзвіжанскі касцёл.*

**в. Быстрыца, Трокеніцкі сельсавет**

**101. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1760 г. з цэглы.

Аднанефавы будынак з двухвежавым галоўным фасадам і пяціграннай апсідай. Неф і апсіда накрыты агульным дахам. З паўночнага боку да апсіды прылягае нізкая сакрысцыя. Вежы трох'ярусныя (завяршэнні зроблены ў 1926 г.). Ніжні ярус на галоўным фасадзе вылучаны вязкамі пілястраў, сярэдні і верхні скразныя, прарэзаны з 4 бакоў паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, вуглы ярусаў скошаны пад 45° і апрацаваны пілястрамі. Бакавыя плоскасці ніжняга яруса маюць нішы, якія паўтараюць абрысы паўцыркульных аконных праёмаў. Лучковы праём галоўнага ўвахода аздоблены трохвугольным франтонам. Сцены касцёла расчлянёны падвойнымі пілястрамі. Па перыметры будынка — шырокі ступеньчаты карніз.

У інтэр'еры зальная частка перакрыта цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем, апсіда — паўсферычным, сакрысція — крыжовым. Хоры крывалінейныя ў плане, агароджа апрацавана фігурнымі філёнгамі. Фрэскавая размалёўка ў выглядзе раслiннага арнамента. Падлога выкладзена керамічнай пліткай.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.

*А. А. Міцянін.*

**102. МАГІЛА ЯЎСЕЕВА** Трафіма Якаўлевіча (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Грамадзянскай вайны Т. Я. Яўсееў нарадзіўся 13.9.1887 г. у г. Ніжняя Салда (на Урале) у рабочай сям'і. Член КПСС з 1917 г. Удзельнік 1-й сусветнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. Прымаў удзел у фарміраванні Пуцілаўскага стальнога кавалерыйскага палка. Дэлегат VIII з'езда РКП(б) (1919 г.). З чэрвеня 1920 г. на Заходнім фронце, камісар 10-й дывізіі 4-й кавалерыйскай брыгады 3-га коннага корпуса Г. Дз. Гая. Загінуў Т. Я. Яўсееў 10.7.1920 г. у баі за вызваленне Беларусі ад войск буржуазнай Польшчы. Імем Т. Я. Яўсеева названы калгас у Астравецкім р-не, вуліца на радзіме.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Варняны, цэнтр сельсавета**

**103. АРХІТЭКТУРНЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Створаны ў 2-й палове 18 — 1-й палове 19 ст. Ансамбль арганізаваны вакол выцягнутай трапецападобнай у плане плошчы, архітэктурна-планіровачная забудова якой мае сіметрычна-восевы рэгулярны характар. Усе элементы ансамбля аб'яднаны адзінай кампазіцыйнай ідэяй і атрымалі агульнае стылявое вырашэнне. Дамінантай з'яўляецца Георгіеўскі касцёл, што



102. *Помнік на магіле Т. Я. Яўсеева.*

замыкае плошчу з усходняга боку. Касцёл фланкіруюць дом аптэкара і плябанія, якія ўтвараюць перад храмам курданёр з скругленай лініяй агароджы. На заходнім баку плошчы знаходзіўся палацава-паркавы комплекс. Абапал плошчы — рады тыпавой жылой забудовы.



103. *Георгіеўскі касцёл.*



103. *Георгіеўскі касцёл. План.*

Георгіеўскі касцёл. Пабудаваны ў 1767—69 гг. з цэглы (дабудаваны ў 1880 г. і 1903 г.). Будынак двухвежавы, аднанефавы з трансептам, які надае плану форму крыжа. Архітэктурная пластыка і дэкор сканцэнтраваны на галоўным заходнім фасадзе. Яго дынамічная вертыкальная кампазіцыя ствараецца выцягнутымі прапорцыямі вежаў з фігурнымі галоўкамі, атыкавым франтонам і высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Яруснасць галоўнага фасада падкрэслена развітымі крапаванымі карнізамі. Фасад мае ўвагнута-выпуклы абрыс, апрацаваны вязкамі пілястраў, прафіляванымі цягамі, плоскімі ліштвамі. Бакавыя фасады аздоблены здвоенымі пілястрамі. У інтэр'еры неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. Вітая лесвіца пры ўваходзе вядзе на хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.

Плябанія і дом аптэкара. Пабудаваны ў 1770 г. з цэглы. Двухпавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі з высокімі вальмавымі дахамі. Фасады рытмічна расчлянёны шырокімі лапаткамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка анфіладная. Памяшканні 1-га паверха перакрыты крыжовымі скляпеннямі, на 2-м паверсе столь плоская.

Жылыя дамы. На падоўжаных баках плошчы сіметрычна было размешчана па 8 жылых аднапавярховых прамавугольных у плане дамоў (захаваліся часткова), галоўныя фасады якіх злучаны мураванымі сценамі з лучковымі арачнымі праездамі. Будынкі аднатыпныя, накрыты вальмавымі дахамі, маюць мяшаную драўляна-мураваную канструкцыю і аднолькавую планіроўку. Фасады апрацаваны арачнымі нішамі і пілястрамі.

Палацава-паркавы комплекс. Сфарміраваны ў 1-й палове 19 ст. (не захаваўся). Уключаў двухпавярховы мураваны палац, 2 сіметрычныя драўляныя флігелі, што ўтваралі паўадкрыты двор, і парк з вадаёмам. Тэрыторыя парку аддзялялася ад плошчы бутавой агароджай з брамай, ад якой да касцёла вяла ліпавая алея. У парку былі млын, альтанка, на штучным востраве неагатычная вежа (пабудавана ў канцы 19 ст.).

Ансамбль — помнік горадабудаўніцтва, сфарміраваны на аснове прынцыпу рэгулярнай планіроўкі.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977.
*А. М. Кулагін.*

**104. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка камбіната бытавога абслугоўвання. Пахаваны 27 воінаў і партызан, што загінулі ў 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 8-й гвардзейскай механізаванай брыгады 3-га гвардзейскага механізаванага корпуса 3-га Беларускага фронту, якія загінулі 4.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.



103. *Плябанія.*



103. *Плябанія. План.*



103. *Жылы дом.*



103. *Жылы дом. План.*



105. *Помнік В. І. Чапаеву.*

**105. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка праўлення калгаса. Скульптура В. І. Чапаева ўстаноўлена ў 1974 г.

**в. Варона, Варнянскі сельсавет**

**106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля скрыжавання дарог Вільнюс — Полацк, Астравец — Быстрыца. Пахаваны 59 воінаў, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі Быстрыцкага і Варнянскага сельсаветаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. На ім дошка з імёнамі 18 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.



106. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**107. ГЕОРГІЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы.

Будынак прамавугольны ў плане, накрыты высокім двухсхільным дахам. З паўночна-ўсходняга боку да касцёла прымыкае квадратная ў плане сакрысція (пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст.). Галоўны фасад касцёла завершаны трох'ярусным атыкавым франтонам. Ніжні прамавугольны ярус з'яўляецца асновай фігурнага шчыта і вежачкі, якія ўзвышаюцца над вільчыкам даху. Плоскасць галоўнага фасада прарэзана лучковым уваходным праёмам і невялікім прамавугольным акном у ніжнім ярусе франтона. Бакавыя сцены расчлянёны пілонамі, вырашанымі накшталт контрфорсаў, вуглы будынка апрацаваны шырокімі пілястрамі. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Сцены расчлянёны пілястрамі, над імі — фрэскавыя выявы апосталаў. У алтарнай сцяне невялікая ніша і фрэскавая выява перспектыўнага алтара з калонамі іанічнага ордэра, антаблементам і конхай над ім. Размалёўка столі імітуе купал. Пры ўваходзе — хоры. Драўляная агарожа хораў размалявана (нішы з разеткамі).

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока. *А. А. Міцянін.*

**108. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка праўлення калгаса. Скульптура К. Маркса ўстаноўлена ў 1971 г.

**в. Вялікія Свіранкі, Падольскі сельсавет**

**109. ГЕОРГІЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Будынак прамавугольны ў плане, з пяціграннай апсідай, накрыты двухсхільным дахам, які пераходзіць над апсідай у вальмавы. З боку галоўнага фасада фланкіраваны 2 аб'ёмамі, якія выступаюць за плоскасці сцен, але не выходзяць за межы агульнага даху. Гэта ствараe ламаную плоскасць фасада і разарваны франтон. Над франтонам невялікі васьміграны барабан, накрыты шатром. Сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі і ашаляваны ў ніжняй частцы вертыкальна, у верхняй — гарызантальна. У інтэр'еры сцены расчлянёны пілястрамі з філёнгамі ў ніжніх частках, ашаляваны гарызантальна. Столь плоская на падугах, аддзелена ад сцен тонкім карнізам. Па баках нартэкса калодзежападобныя памяшканні: з правага па вітай лесвіцы можна трапіць на хоры, з левага — у паддашкавае памяшканне.

На поўдзень ад касцёла знаходзіцца двух'ярусная квадратная ў плане званіца (пабудавана ў 1910-я г.). Ніжні ярус складзены з валуноў, верхні — цагляны, прарэзаны з кожнага боку 2 высокімі паўцыркульнымі праёмамі. Дах шатровы.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока. *А. А. Міцянін.*

**в. Газа, Міхалішкаўскі сельсавет**

**110. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 19 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гервяты, цэнтр сельсавета**

**111. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



107. *Георгіеўскі касцёл. Галоўны фасад.*



107. *Георгіеўскі касцёл. План.*

**112. ТРОЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1903 г. з цэглы.

Храм — трохнефавая базіліка з трансептам і вежай пасярэдзіне галоўнага фасада. Цэнтральны неф накрыты двухсхільным чарапічным дахам, які ў месцы перасячэння з дахам трансепта ўтварае крыж. Дахі над бакавымі нефамі аднасхільныя. Фундамент будынка абліцаваны гранітнымі плітамі. Характэрным элементам архітэктуры касцёла з'яўляюцца шматступеньчатыя контрфорсы, якія пераходзяць у аркбутаны. Плоскасці контрфорсаў апрацаваны стральчатымі і прамавугольнымі нішамі. Сцены касцёла прарэзаны вузкімі спаранымі стральчатымі аконнымі праёмамі ў нішах. Уваходны партал — перспектыўны, стральчаты. Унутры храм дзеліцца на нефы 5 парамі складанапрафіляваных калон на высокіх васьмігранных п'едэсталах. Сцены бакавых нефаў расчлянёны адпаведна калонам пілястрамі. Аконныя праёмы цэнтральнага нефа ў трохвугольных нішах. Скляпенні крыжовыя, з дэкаратыўнымі нервюрамі.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. А. Міцянін.*

**в. Гіры, Гервяцкі сельсавет**

**113. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 7 жыхароў вёсак Гіры, Кністушкі, Віктасіна, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Гудагай, цэнтр сельсавета**

**114. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне пасёлка, недалёка ад школы. Пахаваны больш за 200 ваеннапалонных, якія памерлі ў канцы 1942 г. ад голаду і непасільнай працы пры пракладцы чыгуначнай веткі ў раёне станцыі Гудагай. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**115. КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт., маст.). На ўсходняй ускраіне вёскі,



112. *Троіцкі касцёл. План.*



112. *Троіцкі касцёл.*



109. *Георгіеўскі касцёл.*



109. *Георгіеўскі касцёл. План.*



112. *Троіцкі касцёл. Бакавы фасад.*

на могілках. Пабудаваны ў 1764 г. з дрэва пры кляштары кармелітаў. Асноўны высокі прамавугольны ў плане аб'ём (фундамент складзены з валуноў і атынкаваны) і пяцігранная апсіда накрыты агульным дахам з вальмамі над алтаром. Да галоўнага фасада, які вылучаны трохвугольным франтонам, прыбудаваны ўваходны тамбур, па баках апсіды нізкія сакрысціі. Франтон гарызантальна ашаляваны, у верхняй частцы 2 спараныя лучковыя аконныя праёмы аб'яднаны шырокай ліштвай. Раней касцёл быў двухвежавы: па баках франтона ўзвышаліся 2 чацверыкі з гранёнымі купалкамі. Сцены касцёла вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і завершаны прафіляваным карнізам. Вокны прамавугольныя. Уваходныя дзверы аздоблены дэкаратыўнай шалёўкай.

Інтэр'ер зальны, столь плоская, падшыўная. Над уваходам вялікія хоры з арганам. Ніжняя частка сцен аддзелена невялікім ступеньчатым карнізам, ашалявана вертыкальна, верхняя — гарызантальна. У інтэр'еры 3 драўляныя алтары канца 18 ст., выкананыя ў стылі ранняга класіцызму. Алтары трохчастквавыя, аформлены іанічнымі калонамі. Капітэлі і кіёты пазалочаны. Галоўны алтар упрыгожаны драўлянай скульптурай.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока.
*А. А. Міцянін, Л. Г. Лапцэвіч.*


**115.** *Касцёл маці боскай. Фрагмент аргана.*


**115.** *Касцёл маці боскай.*


**115.** *Касцёл маці боскай. План.*

**в. Гуры, Ізабелінскі сельсавет**

**116. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка трохвугольнай формы ўзвышаецца над полем на 7 м. Найбольшая даўжыня 48 м. Схілы стромкія, у паўночнай і паўднёва-заходняй частках захаваліся рэшткі тэрасы шырынёй каля 1,5 м. Абследавалі ў 1954 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дайлідкі, Ізабелінскі сельсавет**

**117. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛГУШКІНУ** Мікалаю Сцяпанавічу *і* **УШАКЕВІЧУ** Івану Аляксандравічу (гіст.). На будынку праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці загадчыка планавага аддзела Астравецкага райвыканкома М. С. Калгушкіна і старшыні былога Дайлідскага сельсавета І. А. Ушакевіча, забітых у 1950 г. ворагамі Савецкай улады на вясковым сходзе.

**в. Дубнікі, Варнянскі сельсавет**

**118. ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ СЯНКЕВІЧ** Генрык (гіст.). На ўскраіне вёскі, у былым маёнтку. У 20 ст. дом, у якім жыў пісьменнік, перабудаваны. Сюды ў 1880-я гады прыязджаў польскі пісьменнік Г. Сянкевіч (1846—1916 гг.), працаваў над раманам «Пан Валадыеўскі» (1887—88 гг.) пра барацьбу з турэцкім нашэсцем у 1672—73 гг. Сваякі і знаёмыя Г. Сянкевіча, якія жылі ў вёсцы, з'явіліся прататыпамі герояў яго гістарычных твораў. Тут у пісьменніка ўзнікла задума рамана «Патоп» (1884—86 гг.), прысвечанага барацьбе польскага народа супраць шведскай інтэрвенцыі.
*А. І. Мальдзіс.*

**в. Жукойні, Падольскі сельсавет**

**119. МАГІЛА ГІМБІЦКАГА** Канстанціна Андрэевіча (гіст.). У цэнтры вёскі, на тэрыторыі амбулаторнага ўчастка. Першы старшыня былога Жукойніцкага сельсавета К. А. Гімбіцкі закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ігнацова, Трокеніцкі сельсавет**

**120. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, недалёка ад хутара Лінамаргі, ва ўрочышчы Замкоўка, у лесе. Вышыня над суседнім Доўгім балотам 20—25 м. Пляцоўка авальная, слаба акрэсленая, даўжыня з захаду на ўсход да 80 м. Па краях рэшткі вала, з усходняга і заходняга бакоў сляды апоўзлага рова. Адкрыў у 19 ст. К. П. Тышкевіч, абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Караняты, Падольскі сельсавет**

**121. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,8 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча. Вышыня над поплавам безназоўнага ручая 5,5 м. Пляцоўка авальнай формы, памерам 45×30 м, выцягнута з усходу на захад. З боку поля рэшткі вала. Абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Каценавічы, Міхалішкаўскі сельсавет**

**122. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, 0,2 км справа ад дарогі да


**116.** *Гарадзішча. План.*


**121.** *Гарадзішча. План.*

р. Вілія, на ўскрайку лесу. 4 курганы дыяметрам 7—14 м, вышынёй 0,9—1,4 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кемелішкі, цэнтр сельсавета**

**123. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1781 г. з дрэва. Прамавугольны ў плане храм з пяціграннай апсідай, трансептам і вузкім нартэксам. З поўначы да апсіды прылягае невысокая сакрысція. Галоўны фасад вылучаны ганкам з 4 калонкамі і двух'яруснымі вежачкамі з высокімі шатрамі над бабінцам. Унутры асноўнае памяшканне падзелена 6 слупамі. Каля касцёла трох'ярусная званіца. Касцёл — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**124. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 350 мірных савецкіх грамадзян, расстраляных 16.10.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1958 г. устаноўлена надмагілле.

**в. Клюшчаны, Спондаўскі сельсавет**

**125. КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане храм з пяціграннай алтарнай апсідай, па баках якой — сакрысціі. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам і чацверыковымі вежамі з высокімі шатрамі. Пры ўваходзе — невысокі тамбур. Сцены ашаляваны вертыкальна. Унутры асноўнае памяшканне падзелена 4 слупамі. Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі неаготыкі. *Т. В. Габрусь.*

**в. Лоша, Гудагайскі сельсавет**

**126. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,3 км на паўночны ўсход ад моста цераз р. Лоша, на краі лесу. 74 насыпы дыяметрам 5—15 м, вышынёй да 1,5 м, большасць пашкоджана ямамі. Вакол курганоў, якія найбольш захаваліся, прасочваюцца раўкі, ёсць насыпы, абкладзеныя камянямі. Раскопкі праводзілі ў 1892 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1933 г. У. Галубовіч, абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены перапаленыя косці, вугаль, абломкі гліняных гаршкоў, прасліцы, жалезныя нажы, іголкі, сякера і наканечнік кап'я, а таксама ўпрыгожанні — шыйныя грыўні, бранзалеты і інш. Адносіцца да ўсходнелітоўскіх курганоў, датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Случайная археологическая экскурсия в верховья р. Вилейки.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX археологического съезда. Вильна, 1893; Hołubowicz W. Pięć lat pracy terenowej Muzeum Archeologicznego Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie (1933—1937).— У кн.: Rocznik Archeologiczny. Wilno, 1937, t. 1. *М. М. Чарняўскі.*

**127. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, за 250 м на ўсход ад старога Граблеўскага пераезда, на ўзлессі, абапал дарогі. 21 насып дыяметрам 6—18 м, вышынёй да 1,7 м. Значная частка курганоў пашкоджана ямамі. Адзін курган у 1892 г. раскапаў Ф. В. Пакроўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены абломкі гліняных гаршка. У іншых насыпах мясцовыя жыхары знаходзілі сякеры і наканечнікі коп'яў. Абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Адносіцца да ўсходнелітоўскіх курганоў, датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Малыя Свіранкі, Падольскі сельсавет**

**128. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад лясной дарогі. 5 насыпаў дыяметрам 8—13 м, вышынёй 0,6—1,7 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**129. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,7 км на ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Сарочча, у лесе. 5 насыпаў дыяметрам 7—10 м, вышынёй 0,8—1,0 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Мацкі, Гервяцкі сельсавет**

**130. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Дворнае, на ўзлессі. 25 насыпаў дыяметрам да 12 м, вышынёй 0,5—1,5 м, выцягнутых з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Па краях насыпы месцамі абкладзены буйнымі валунамі, камяні трапляюцца і ў саміх курганах. Абследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Міхалішкі, цэнтр сельсавета**

**131. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У паўночна-ўсходняй частцы вёскі, на левым беразе р. Вілія. Пабудаваны ў 1653 г. (архіт. К. Пенс) з цэглы на месцы драўлянага касцёла пры кляштары аўгусцінцаў.

Касцёл двухвежавы, аднанефавы. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з паўночнага ўсходу прымыкае пяцігранная апсіда з 2 невысокімі сакрысціямі. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Галоўны фасад падзелены на 2 ярусы простым карнізам, завершаны чацверыкамі вежаў з чатырохсхільнымі шатровымі дахамі і атыкавым франтонам паміж імі. Нязначны перапад вышынь зальнай часткі, апсіды і вежаў стварае ступеньчатасць сілуэта будынка. Пры ўваходзе невысокі паўкруглы аб'ём накрыты конусападобным дахам. Сцены прарэзаны вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі і раскрапаваны філёнгавымі нішамі. З паўночнага



**123.** *Касцёл.*



**126.** *Курганны могільнік. План.*



**127.** *Курганны могільнік. План.*



131. *Міхайлаўскі касцёл.*



131. *Міхайлаўскі касцёл. План.*

заходу да бакавога фасада касцёла прымыкае невысокае памяшканне гаспадарчага прызначэння.

У інтэр'еры асноўны аб'ём мае цыліндрычнае перакрыцце з распалубкамі на падпружных арках, якія пераходзяць у магутныя пілястры. Алтарная частка з паўцыркульнымі арачнымі праёмамі. Пад хорамі размешчаны 2 уваходы ў ніжнія ярусы вежаў, дзе знаходзяцца капліцы. Сцены паўкруглага аб'ёму члянёны 6 паўцыркульнымі нішамі для скульптур. У аздабленні інтэр'ера прымаў удзел італьянскі мастак П. Перці (Пярэці). У дэкаратыўным убранстве, сканцэнтраваным на паверхні сцен цэнтральнага аб'ёму, дамінуюць бела-блакітныя стукавыя барэльефы з выявамі святых і пышны раслінны арнамент, які, нібы карункі, накінуты на сцены і аб'ядноўвае ўвесь дэкор у адзінае пластычнае цэлае. Асаблівым багаццем вылучаецца аздоба двух'яруснага галоўнага алтара з вітымі калонкамі. На карнізе першага трохчасткавага яруса фігуры ўкленчаных епіскапаў, у цэнтры фігуры 2 анёлаў. У навершы алтара рэльеф «Новазапаветная Тройца». Галоўны алтар, як і 8 іншых, абрамлены акантам, з пругкіх завіткоў якога нібы вырастаюць галовы драконаў, сірэн і іншых фантастычных істот. На шырокіх сценавых пілонах гарэльефы 12 апосталаў. Пастаўленыя на квадратныя кансолі з маскаронамі розных тыпаў і памераў, яны амаль поўнасцю аддзелены ад сцен і ствараюць эфект руху. У прасценках паміж пілонамі знаходзяцца стукавыя алтары ў пышных барочных абрамленнях (картушы, раслінная арнаментыка, гірлянды з лісцяў, кветак і фруктаў). 2 бакавыя алтары з вітымі калонкамі і пілястрамі, якія падтрымліваюць падпружную арку. У ляпных рамах алтарныя карціны: «Святая сям'я» ў сярэбраным з пазалотай абкладзе (пачатак 18 ст.) і «Маці боская Ружанцова» (пачатак 19 ст.). Побач з карцінамі — сюжэтныя барэльефы. Амбон, упрыгожаны пазалочаным раслінным арнаментам, падтрымліваецца ўнізе разным арлом, які трымае ў кіпцюрах картуш з гербам Бжастоўскіх. Балдахін драўляны, разны, у выглядзе кароны. Па-майстэрску выкананы каваныя жалезныя рашоткі ў капліцах св. Іосіфа (18 ст.) і Хрыста (19 ст.).

Касцёл — помнік архітэктуры сталага барока.

*Л. Г. Лапцэвіч, А. А. Міцянін.*

**132. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць Дома куль-



131. *Міхайлаўскі касцёл. Інтэр'ер. Барэльефная кампазіцыя.*



131. *Міхайлаўскі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*

туры. На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нідзяны, Варнянскі сельсавет**

**133. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Віршупка. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўночна-заходнім выступе ўзвышэння, якое абмежавана з поўначы, усходу і захаду р. Сянканка і ручаём, з поўдня — ровападобнымі паніжэннямі. Пляцоўка вышынёй да 5 м, шырынёй 32 м, у плане авальная, выцягнута з паўднёвага захаду на паўночны ўсход на 54 м. З паўднёва-ўсходняга боку падножжа гарадзішча захаваліся рэшткі абарончага рову шырынёй да 3,5 м і глыбінёй да 1,5 м. Выявіў у 1984 г. В. У. Стэх. Раскопкі не праводзіліся. *В. У. Стэх.*

**в. Падкасцёлак,**
**Спондаўскі сельсавет**

**134. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўскрайку лесу. 5 курганоў дыяметрам 8—9 м, вышынёй 0,8—1,6 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Падольцы, цэнтр сельсавета**

**135. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Палушы, Астравецкі сельсавет**

**136. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, за 50 м на поўнач ад дарогі на Гудагай, на ўзлессі. 11 насыпаў дыяметрам да 9 м, вышынёй да 1 м. Вакол іх прасочваюцца раўкі. Даследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены жалезныя нажы, сярпы, наканечнікі коп'яў, рэшткі рыштунку каня. Аднosіцца да ўсходнелітоўскіх курганоў, датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э.

**в. Перавознікі,**
**Кемелішкаўскі сельсавет**

**137. КУРГАН** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, за 50 м на захад ад безназоўнага ручая, які ўпадае ў р. Вілія. Адкрыў у канцы 19 ст. К. П. Тышкевіч, абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Захаваўся 1 курган (раней было 45 насыпаў) дыяметрам 9 м, вышынёй 0,9 м.

**в. Пільвіны, Падольскі сельсавет**

**138. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**138а.** Могільнік-1. За 1,3 км на поўдзень ад вёскі, за 0,7 км на поўнач ад правага берага р. Вілія, на месцы хутара Якубішкі, у лесе. 22 насыпы вышынёй да 1,6 м, дыяметрам 6—12 м, выцягнуты з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход на 280 м (раней было 36 курганоў). Вакол насыпаў раўкі. Адкрыў і раскапаў 14 курганоў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены жалезныя шылы, сярпы, нож, наканечнік кап'я, спражкі, фібула, глінянае прасліца, бронзавыя ўпрыгожанні, рэшткі рыштунку каня. Адносіцца да ўсходнелітоўскіх курганоў, датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

**138б.** Могільнік-2. За 0,3 км на захад ад вёскі. 13 насыпаў дыяметрам 9—14 м, вышынёй 0,8—1,6 м. Большасць курганоў пашкоджана. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899.
*Я. Г. Звяруга, М. М. Чарняўскі.*

**в. Савішкі,**
**Кемелішкаўскі сельсавет**

**139. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, на высокім правым беразе р. Вілія, у лесе. 8 насыпаў дыяметрам 5—17 м, вышынёй да 2 м. Каля асноў некаторых з іх прасочваюцца каменныя абкладкі і раўкі. Частка насыпаў пашкоджана ямамі. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *М. М. Чарняўскі.*



**138а.** *Курганны могільнік-1. План.*



**139.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Сарочча, Падольскі сельсавет**

**140. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Пінікала. За 0,5 км на захад ад вёскі, паміж р. Вілія (правы бераг) і дарогай у в. Малыя Свіранкі. Займае мысавую паўднёва-ўсходнюю частку ўзвышша, ад якога аддзелена ровам шырынёй 25—30 м і глыбінёй 3,5—4,5 м. Пляцоўка памерам 155×40 м выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. З боку ракі яна прыўзнята на 3—4 м у паўднёвай частцы і на 5—6 м у паўночнай. Культурны пласт прасочваецца слаба. Выявіў у 1981 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Сідарышкі,**
**Падольскі сельсавет**

**141. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Зязюлька, у лесе. 23 насыпы дыяметрам 8—12 м, вышынёй 1,0—1,8 м. У 1895 г. Ф. В. Пакроўскі даследаваў 10 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены перапаленыя косці, рэчы з рыштунку каня і конніка, жалезныя нажы, сярпы, наканечнік кап'я, глінянае прасліца, бронзавыя ўпрыгожанні. У 1975 г. абследаваў М. М. Чарняўскі. У 1976—77 гг. Я. Г. Звяруга раскапаў 7 курганоў. Ва ўсіх насыпах знойдзены трупаспаленні. У 2 курганах выяўлены косці коней. Пахавальны інвентар: жалезныя цуглі, медныя кольцы, пласціны, заклёпкі. Датуецца канцом 1-га — пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э., адносіцца да ўсходнелітоўскіх курганоў.

*Літ.:* Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении.— М., 1899; Зверуго Я. Г. Исследования Верхненеманского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977.
*Я. Г. Звяруга, М. М. Чарняўскі.*

**в. Трокенікі, цэнтр сельсавета**

**142. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка праўлення калгаса імя Куйбышава. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, і супрацоўнікаў Астравецкага раённага аддзела міліцыі М. І. Міхаля і А. М. Сташкевіча, якія загінулі ад рук ворагаў Савецкай улады, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



143. *Сядзібны дом.*

**143. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на высокім узгорку. Створана ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. Цяпер тут праўленне калгаса імя Куйбышава. Комплекс уключае сядзібны дом, службовы флігель, стайню і невялікі парк эканамічнага тыпу. Пладовыя сады абмежаваны пасадкамі дрэў мясцовых парод (клён, ліпа, каштан).

Сядзібны дом пабудаваны ў пачатку 20 ст. Аднапавярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак з мансардай накрыты высокім дахам з «заломам». Над галоўным уваходам і на тарцах — фігурныя ўвагнута-выпуклыя франтоны, аздобленыя валютамі, люкарнамі. Фасады пазбаўлены дэкору. Аконныя праёмы прамавугольныя. Планіроўка анфіладная. Вітая металічная лесвіца вядзе на мансардавы паверх, які мае выхад на балкон.




143. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — гаспадарчыя пабудовы.*

Сядзіба — помнік архітэктуры неабарока. *А. М. Кулагін.*

**в. Чэхі, Гервяцкі сельсавет**

**144. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ядабор, Спондаўскі сельсавет**

**145. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 9 курганоў дыяметрам 7—12 м, вышынёй 0,8—2,0 м. Два насыпы пашкоджаны. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**146. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 3 насыпы дыяметрам 7—10 м, вышынёй 1,0—1,7 м. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

# АШМЯНСКІ РАЁН




Цудзенішкі
Каменны Лог
Гродзі
Ашмяны
Погіры
Паляны
Жупраны
Мураваная Ашмянка
Рудзішкі
Талмінава
Кракоўка
АШМЯНЫ
Крайванцы
Кальчуны
Навасёлкі
Масцвілішкі
Куцавічы
Анжадава
Граўжышкі
Гінеўцы
Баруны
Клявіца
Шчапанавічы
Каменка
Гальшаны
Семернікі
Гарэцкаўшчына
Доргішкі

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

 Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

 дасавецкага перыяду

## III. АШМЯНЫ

Горад, цэнтр раёна, на р. Ашмянка (басейн Нёмана). За 220 км на паўночны ўсход ад Гродна, 17 км ад чыгуначнай станцыі Ашмяны на лініі Маладзечна — Вільнюс, на аўтамабільнай дарозе Маладзечна — Вільнюс. Аэрапорт.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1340-х гадоў як населены пункт Віленскага княства і крэпасць вялікіх князёў літоўскіх. У 1384—85 гг. тэўтонскія рыцары асаджалі Ашмяны, але ўзяць не здолелі; у 1402 г. яны зноў напалі на ваколіцы Ашмян. З 1413 г. горад у складзе Віленскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Да сярэдзіны 15 ст. Ашмяны былі адной з рэзідэнцый вялікіх князёў літоўскіх. У Ашмянах у ноч на 1.9.1432 г. быў зроблены дзяржаўны пераварот: група літоўскіх феадалаў, падтрыманых польскай знаццю, пасля няўдалага замаху на вялікага князя Свідрыгайлу абвясціла вялікім князем Жыгімонта Кейстутавіча. Свідрыгайла ўцёк і пачаў барацьбу супраць групоўкі Жыгімонта. 9.12. 1432 г. пад Ашмянамі войска Свідрыгайлы было разбіта. Барацьба працягвалася некалькі гадоў і скончылася паражэннем Свідрыгайлы. У 1519 г. Ашмяны былі ўзяты рускім войскам. З 1566 г. цэнтр павета. Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст даў Ашмянам гарадскія правы і вольнасці, валоку зямлі на ўтрыманне шпіталя і іншыя прывілеі. Тут адбываліся павятовыя шляхецкія сеймікі, засядалі земскі і гродскі суды Ашмянскага павета. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. паблізу горада рускія войскі і казакі на чале з В. Шчарбатавым і І. Залатарэнкам разбілі ў ліпені 1655 г. войскі Вялікага княства Літоўскага і адкрылі дарогу на Вільню. Раён Ашмян знаходзіўся пад уладай рускіх ваявод да 1661 г. У 1661 г. з-за разбурэнняў і збяднення насельніцтва горад вызвалены сеймам на 4 гады ад падаткаў, акрамя чопавага і пошлінных збораў. У Паўночную вайну 1700—21 гг. Ашмяны 9.5.1702 г. заняты і разрабаваны шведскім войскам. У 1791 г. 852 жыхары (з іх 10 % рамеснікаў), 142 дамы. У 1792 г. гораду пацверджана магдэбургскае права. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, павятовы цэнтр Віленскай, у 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. зноў Віленскай губерняў. У чэрвені 1812 г. заняты французскай арміяй. 23.11.1812 г. у Ашмяны ўварваўся рускі кавалерыйскі атрад палкоўніка А. М. Сяславіна і заняў частку горада, але быў вымушаны адступіць. Праз Ашмяны ўцякаў Напалеон у Францыю. 26.11.1812 г. рускія войскі пад камандаваннем генерала Я. І. Чапліца выбілі французаў з Ашмян. У 1-й палове 19 ст. Ашмяны ў якасці староства 25 гадоў (да 1843 г.) знаходзіліся ва ўладанні прыватных асоб, у 1837 г. узяты пад кіраванне ўрадам. У 1811 г. у горадзе 1830, у 1897 г.— 7214 (з іх 47,3 % пісьменных), у 1914 г.— 8200 жыхароў. У канцы 19 ст. было 10 прадпрыемстваў для перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны (4 гарбарныя, вінакурны, мінеральных водаў, медаварны, саладаварны заводы, тытунёвая фабрыка, млын), на якіх працавалі 382 рабочыя. У 1904 г. было таксама 47 рамесных майстэрняў, 670 рамеснікаў, пераважна гарбароў. У час паўстання 1830—31 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ў ваколіцах Ашмян дзейнічалі паўстанцкія атрады. У 1846—49 гг. тут было аддзяленне тайнай арганізацыі «Саюз свабодных братоў». У час паўстання 1863—64 гг. каля Ашмян дзейнічалі паўстанцкія атрады С. Мінейкі, Г. Чаховіча і К. Ясевіча. У лютым, сакавіку і кастрычніку 1896 г. баставалі гарбары, якія патрабавалі павышэння заработнай платы і скарачэння рабочага дня. Толькі пасля трэцяй забастоўкі іх патрабаванні былі задаволены. З 1895 г. у горадзе дзейнічала рабочая арганізацыя сацыял-дэмакратычнага кірунку, якая працавала пад кіраўніцтвам «Рабочага саюза Літвы». Пад яе ўплывам у 1896 г. прайшлі 28 стачак, рэвалюцыйныя маёўкі. Адкрытыя палітычныя выступленні рабочых адбыліся таксама ў 1902 г. і ў студзені 1905 г. У 1905 г. у Ашмянах створана арганізацыя РСДРП, якая кіравала барацьбой працоўных.



III. *Забудова вуліцы Чырвонаармейскай.*

У 1-ю сусветную вайну з верасня 1915 г. да студзеня 1919 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. Тут у 1918 г. дзейнічала падпольная бальшавіцкая арганізацыя. Пасля вызвалення Чырвонай Арміяй у студзені 1919 г. Ашмяны ўвайшлі ў склад Літоўскай Савецкай Рэспублікі, у канцы лютага 1919 г.— Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У пачатку мая 1919 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. У ліпені 1920 г. часці Чырвонай Арміі вызвалілі горад. Паводле мірнага дагавору паміж Савецкай Расіяй і Літвой 12.7.1920 г. Ашмяны адыходзілі да Літвы. Дагавор быў ратыфікаваны пазней, і прадаўжалася савецка-польская вайна, таму практычная перадача Ашмян Літве не адбылася. 2.10.1920 г. зноў захоплены войскамі буржуазнай Польшчы. У кастрычніку 1920 г.— сакавіку 1922 г. уваходзілі ў Сярэднюю Літву, 3,4 тыс. жыхароў (1921 г.). У 1922—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Віленскага ваяводства. Дзейнічалі падпольныя арганізацыі КПЗБ і КСМЗБ, з 1929 г.— падпольны райком КПЗБ. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939 г.) Ашмяны з 1940 г.— раённы цэнтр Вілейскай, з 1944 г.— Маладзечанскай, з 1960 г.— Гродзенскай абласцей. З 25.6.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (28.9. 1943 г.— 8.7.1944 г.) і ЛКСМБ (5.9. 1943 г.— 8.7.1944 г.).

Гісторыя горадабудаўнічага развіцця Ашмян пачынаецца з сярэдзіны 14 ст., калі існавалі Старыя і Новыя Ашмяны. У Новых Ашмянах (цяпер левабярэжная частка горада) была рэзідэнцыя князя — драўляны палац,



III. *Фрагмент забудовы вуліцы Барунскай.*

абнесены землянымі валамі. Старыя Ашмяны — невялікае пасяленне з драўляным кляштарам на правым беразе ракі — належалі з 1505 г. францысканцам. Горад развіваўся ў асноўным на левым беразе. Тут на перасячэнні галоўнай восевай магістралі (сучасная вул. Савецкая) і старажытнага тракту (сучасная вул. Барунская) узнік грамадска-гандлёвы цэнтр і рыначная плошча з ратушай. У 18 ст. жылая забудова была драўляная, дамы ставілі ўздоўж вузкіх надзелаў тарцамі да вуліцы. Асабліва цесна забудоўвалі ўчасткі вуліц, якія прылягалі да квадратнай у плане плошчы. На яе паўночным і заходнім баках размяшчаліся жылыя дамы, насупраць іх — старосцінская карчма і 2 касцёлы: драўляны дамініканскі (пабудаваны ў 1667 г., згарэў у 1797 г.) і мураваны парафіяльны (пасля перабудовы ў 1904 г. у стылі неабарока першапачатковы выгляд касцёла быў страчаны, не збярогся). У цэнтры плошчы стаяла невялікая драўляная ратуша. За карчмой і касцёламі ў раёне вуліц Барунскай і Замкавай, што вялі да ракі, знаходзіліся земская і гарадская канцылярыі, земскі і гродскі суды, паштовы двор, кавярня. У 18 ст. на месцы замка (Замкавая вул.) была рэзідэнцыя старосты. Сярод шырокага двара, агароджанага плотам, стаяў драўляны пяціпакаёвы дом з гонтавым дахам.

У 19 ст. пачалі забудоўваць правы бераг Ашмянкі. Забудова вялася квартальная, пераважна драўляная, аднапавярховая. У 1822 г. тут пабудаваны мураваны францысканскі кляштар у стылі класіцызму (захавалася сцены касцёла). У пачатку 20 ст. ў цэнтры пастаўлены прыватнаўласніцкія мураваныя жылыя дамы (вул. Барунская), а таксама драўляныя баракі для гарадской беднаты.



III. *Жылыя дамы па вуліцы Савецкай.*

Сучасная забудова Ашмян ажыццяўляецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1979 г. Гродзенскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект». На вул. Савецкай узведзены будынкі райвыканкома, дзяржбанка, міжкалгасбуда, Дома сувязі, рэстарана. У цэнтры Ашмян і па вул. Чырвонаармейскай пабудаваны 2—5-павярховыя жылыя дамы. Працуюць ільнокамбінат, масласырзавод, філіял Лідскага мясакамбіната, заводы дражджавы (пабудаваны ў 1878—80 гг.), харчовых канцэнтратаў, пластмас. У горадзе сельскагаспадарчы тэхнікум, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 4 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат), рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 4 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, кінатэатр, 4 бібліятэкі, краязнаўчы музей імя Ф. Багушэвіча. Зялёныя насаджэнні цягнуцца ўздоўж ракі праз увесь горад і злучаюцца з лесапаркам. Помнікі: У. І. Леніну; на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан; барацьбітам за Савецкую ўладу і інш. Выдаецца раённая газета «Красное знамя».

Зона адпачынку — берагі р. Ашмянка.

*Літ.:* Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2.— Мн., 1940; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957; Директивы командования фронтов Красной Армии (1917—1922 гг.). Т. 3.— М., 1974; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. Baliński M. Wielkie Księztwo Litewskie.— Warszawa, 1846; Jankowski Cz. Powiat Oszmiański: Materjaly do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 1.— Petersburg, 1896.

*А. П. Грыцкевіч, У. В. Алісейчык, А. К. Краўцэвіч.*

**147. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у гарадскім парку. Пахавана больш за 300 воінаў, якія загінулі пры вызваленні Ашмян, і партызаны брыгады імя М. Ф. Гастэлы, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943—44 гг.

Да 4.7.1944 г. войскі 12-й гвардзейскай арміі (камандуючы генерал-палкоўнік К. М. Галіцкі) 3-га Беларускага фронту выйшлі на былую граніцу з Польшчай. Тут у раёне населеных пунктаў Краснае, Гарадок, Маладзечна, Крэва захаваліся старыя ўмацаванні, якія гітлераўцы ператварылі ў першую лінію (Жупраны — Баруны — Багданаў) сваёй абароны на р. Ашмянка. Злучэнні 2-й арміі выйшлі на рубеж пад канец дня 6 ліпеня. Раніцай 7 ліпеня пасля



147. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

бомбавага ўдару і паўгадзіннай артылерыйскай падрыхтоўкі савецкія войскі пайшлі ў наступленне, да 14 гадзін прарвалі фронт на многіх участках. Аднак далейшае наступленне было спынена інтэнсіўным агнём і контратакамі праціўніка. Наступленне войск Чырвонай Арміі ўзнавілася ў 18 гадзін, абарона ворага была прарвана на ўсім фронце, завязаліся баі за Ашмяны і Гальшаны. Да ночы 7.7.1944 г. войскі 2-й арміі разграмілі гарнізоны ў апорных пунктах гітлераўцаў і вызвалілі Ашмяны.

У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии 1944.— 2 изд.— М., 1974; Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973.

*В. Б. Караткевіч.*

**148. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Я. Коласа, на могілках. Пахаваны 82 воіны і партызаны, якія загінулі летам 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў 1945 г. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**149. ДОМ, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЛАСЯ КАНСПІРАТЫЎНАЯ КВАТЭРА РАЙКОМА КПЗБ** (гіст.). Вул. Галяса, 2.

У 1920—23 гг. у Ашмянах дзейнічалі падпольныя камуністычныя арганізацыі, якія падпарадкоўваліся Віленскаму акруговаму камітэту Кампартыі Літвы. У пачатку 1924 г. у Ашмянскім павеце ўзніклі ячэйкі КПЗБ, якія ўзначальвалі рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух. У вёсках Гальшаны, Навасяды, Міхайлоўшчына, Крэва і інш. былі гурткі Беларускай сялянска-рабочай грамады (у 1926 г. 539 членаў, у 1927 г. толькі ў Гальшанах 250 членаў). Амаль ва ўсе гурткі ўваходзілі камуністы. У студзені 1927 г. у сувязі з рэпрэсіямі супраць Грамады былі



149. *Дом, дзе знаходзілася канспіратыўная кватэра райкома КПЗБ.*

пазбаўлены волі члены КПЗБ А. П. Сцефановіч, П. І. Страшкевіч, І. А. Яблонскі, У. М. Страх, П. А. Балыш і інш. Пасля выхаду з турмы ў канцы 1928 г. яны аднавілі ў павеце работу ячэек КПЗБ. У 1929 г. была створана партыйная арганізацыя ў Ашмянах. У яе ўвайшлі М. В. Галяс, П. С. Такарэвіч, А. А. Русецкі, П. І. Страшкевіч, У. М. Страх, А. П. Сцефановіч і інш. Першая раённая канферэнцыя КПЗБ адбылася ў жніўні 1929 г. каля гарадскіх могілак. На ёй быў выбраны Ашмянскі падпольны райком КПЗБ у складзе М. В. Галяса (сакратар), К. І. Радзевіча, А. А. Русецкага, С. П. Пакульневіча, П. С. Такарэвіча. Райком дзейнічаў пад кіраўніцтвам Віленскага акруговага камітэта КПЗБ. Канспіратыўная кватэра райкома знаходзілася ў доме А. Я. Фёдарава па Водным завулку, 7 (цяпер вул. Галяса, 2). Літаратура захоўвалася ў Павішнях у Галяса, у Гальшанах у С. Шчуцкага і ў Багушэўскім лесе каля Крэва.

Пад кіраўніцтвам райкома КПЗБ у Ашмянах быў адкрыты рабочы клуб, створаны агульнагарадскі прафсаюз будаўнікоў і гарбароў (больш за 150 членаў, кіраўнік П. С. Такарэвіч). Летам 1929 г. у горадзе адбыўся мнагалюдны мітынг, на якім выступаў дэпутат сейма П. С. Крынчык. Паліцыя і асаднікі хацелі разагнаць дэманстрантаў, але арганізаваныя райкомам баявыя дружыны рабочых і сялян перашкодзілі ім. Буйная дэманстрацыя працоўных адбылася 1.5. 1930 г. Паспяхова былі праведзены 2 забастоўкі будаўнікоў і гарбароў. Райком кіраваў таксама работай камуністаў у вёсках павета, дзе праводзіліся тайныя сходы, прымаліся рэзалюцыі пратэсту супраць камасацыі, падаткаў, адработкаў, шарваркаў. Такія сходы адбыліся ў Гальшанах, Міхайлоўшчыне, Крэве, Суцькаве, Загарнятах і інш. вёсках.

У першым складзе райком працаваў да 1931 г. У студзені 1931 г. ЦК КПЗБ прыняў рашэнне аб стварэнні Ашмянскага акруговага камітэта КПЗБ.

*Літ.:* У суровыя гады падполля.— Мн., 1958; Вильнюсское подполье: Воспоминания участников революционного движения [1920—1939 гг.].— Вильнюс, 1966; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979.
*В. Б. Караткевіч.*

**150. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ РЭЎКОМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 96. Тут у гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі знаходзіўся Ашмянскі павятовы рэвалюцыйны камітэт.

10.11.1918 г. у акупіраваных германскімі войскамі Ашмянах пачала дзейнічаць падпольная ячэйка сацыял-дэмакратаў-інтэрнацыяналістаў, якая з 27 снежня стала называцца камуністычнай. З набліжэннем войск Чырвонай Арміі бальшавікі пры дапамозе ваенкома Маладзечанскага ваеннага Савета актывізавалі сваю дзейнасць і па меры вызвалення тэрыторыі Ашмянскага павета з 29.12.1918 г. пачалі арганізоўваць валасныя рэўкомы. У снежні 1918 г. у Ашмянах быў створаны павятовы рэўком, у які ўваходзілі М. П. Волаў, К. І. Лютастанскі, А. Р. Маўшанзон, І. К. Пісаржэўскі, К. Л. Стасюліс. 21—22.2. 1919 г. адбылася Ашмянская павятовая партыйная канферэнцыя, прысутнічала 17 дэлегатаў. Бальшавікі пры актыўнай падтрымцы працоўных правялі выбары ў Саветы. У склад павятовага выканкома, які дзейнічаў у лютым — маі 1919 г., уваходзілі В. В. Чыжэўскі (старшыня), Ю. Балыш, М. Басалыга, П. С. Віршч, В. У. Дудко, Р. В. Дудко, І. Я. Козел, Я. В. Казлоў, І. В. Царык. З прычыны інтэрвенцыі войск буржуазна-памешчыцкай Польшчы органы Савецкай улады ў маі 1919 г. спынілі дзейнасць, адноўлены ў ліпені 1920 г. пасля выгнання акупантаў. З ліпеня да кастрычніка 1920 г. у Ашмянах дзейнічаў павятовы рэўком, у склад якога ўваходзілі С. І. Мундаў (старшыня), Блумфельд, В. Васілеўскі, І. І. Станцэліс, Ф. П. Трукшын, Б. Шувалаў.

Рэўком усталёўваў рэвалюцыйны парадак, праводзіў работу па аднаўленню прамысловых прадпрыемстваў, наладжваў культурна-асветную работу. 16.8.1920 г. увёў картачную сістэму, каб забяспечыць насельніцтва хлебам, мануфактурай, запалкамі і інш. У верасні ў горадзе адкрыты беларуская і яўрэйская школы. Больш за 300 дзяцей павета былі ўладкаваны ў дзіцячыя дамы.

*Літ.:* Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 2.— Мн., 1971; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957; Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г.— июль 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1961. *В. Б. Караткевіч.*



150. *Дом, дзе размяшчаўся рэўком.*

**151. КАРЧМА** (архіт.). Вул. Чырвонаармейская, 25. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы дом. Складаецца з П-падобнага ў плане будынка карчмы і прамавугольнай у плане гаспадарчай пабудовы, якія ўтвараюць унутраны заезны двор. Будынак карчмы — аднапавярховы, на бутавым фундаменце, накрыты паўвальмавым дахам. Сцены звонку ашаляваны, расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і аканіцамі. Памяшканні перакрыты плоскай дашчанай столлю па бэльках. Быў падзелены на 2 часткі (цяпер планіроўка зменена). У інтэр'еры захаваліся грубкі, абліцаваныя арнаментаванай кафляй.

Карчма — помнік традыцыйнай грамадзянскай пабудовы, у архітэктуры якой выкарыстаны прыёмы народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**152. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМІНСКАМУ** Аляксандру Аляксандравічу (гіст.). Вул. Савецкая, 58, на будынку аддзела ўнутраных спраў Ашмянскага райвыканкома. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыка і разведчыка ў Вялікую Айчынную вайну А. А. Камінскага, які ў 1939—41 гг. працаваў апе-



151. *Будынак былой карчмы.*



154. *Помнік барацьбітам за Савецкую ўладу.*

ратыўным упаўнаважаным Ашмянскага раённага аддзела міліцыі.

**153. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ АШМЯНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Арганізацыя створана ў 1905 г., уваходзіла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП (пазней Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Абласны Саюз РСДРП Літвы і Беларусі), з восені 1905 г. у складзе Віленскай акруговай арганізацыі РСДРП. Падтрымлівала сувязі з Гродзенскай, Лідскай, Смаргонскай, Свянцянскай арганізацыямі РСДРП. У чэрвені 1906 г. налічвала 145 чалавек. Арганізацыя падзялялася на заводскую і рамесніцкую сходкі, мела 7 гурткоў, у т. л. 5 заводскіх, салдацкую групу. Найбольш актыўна дзейнічала ў перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг. Члены арганізацыі выдавалі і распаўсюджвалі пракламацыі, лістоўкі і адозвы, арганізоўвалі сходы, мітынгі, дэманстрацыі, вялі палітычную прапаганду і агітацыю сярод рабочых, рамеснікаў, салдат, навучэнцаў, сялян павета. Найбольш буйныя выступленні працоўных Ашмян былі падрыхтаваны членамі арганізацыі ў 1905 г. Так, 21 ліпеня адбыўся сход з удзелам каля 300 рабочых, які скончыўся масавай дэманстрацыяй, 25 ліпеня — масавая дэманстрацыя пратэсту супраць расстрэлу царызмам пралетарыяў Адэсы. Дэманстрацыя працягвалася паўтары гадзіны пад аховай узброенага атрада рабочых. Напярэдадні 1 Мая 1906 г. былі праведзены 4 сходы. У студзені і чэрвені 1906 г. арганізацыя пасылала сваіх прадстаўнікоў на 1-ю і 3-ю канферэнцыі Віленскай акруговай арганізацыі РСДРП.

У перыяд рэакцыі Ашмянская арганізацыя РСДРП разгромлена.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3.— Мн., 1953; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955. *Э. М. Савіцкі.*

**154. ПОМНІК БАРАЦЬБІТАМ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. На ўшанаванне памяці 40 чалавек, якія загінулі ў 1939—47 гг. за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных Заходняй Беларусі і ўз'яднанне яе з БССР, у Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, за сацыялістычнае пераўтварэнне вёскі, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**155. ПОМНІК КАСМАДЗЯМ'ЯНСКАЙ** Зоі (гіст.). На вул. Савецкай, каля сярэдняй школы № 1. Скульптура савецкай партызанкі, Героя Савецкага Саюза З. Касмадзям'янскай устаноўлена ў 1966 г.

**156. ПОМНІК КАШАВОМУ** Алегу (гіст.). У завулку Міцкевіча, каля будынка школы-інтэрната. Скульптура аднаго з стваральнікаў падпольнай камсамольскай арганізацыі «Маладая гвардыя» ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза А. Кашавога ўстаноўлена ў 1962 г.

**157. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. 17 Верасня. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1983 г.

**158. РАДЗІМА КАРЧЭЎСКАГА** Юльяна (гіст.).

Жывапісец Ю. Карчэўскі нарадзіўся ў снежні 1806 г. у сям'і адваката. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі, Літвы і Польшчы. У 1824 г. скончыў філасофскі факультэт Віленскага універсітэта, у 1824—26 гг. вывучаў права ў Пецярбургскім універсітэце, адначасова вучыўся жывапісу ў Я. Рустэма. Пісаў жанравыя і гістарычныя карціны: «Руская хуткая пошта», «Яўрэйскае пахаванне», «Турак на кані», «Ян III пад Венай» (апошнія 2 карціны захоўваліся ў 2-й палове 19 ст. у галерэі А. Храптовіча ў Шчорсах). З 1829 г. жыў у Рыме, дзе напісаў шэраг пейзажаў і жанравых сцэн. Работы Ю. Карчэўскага вызначаюцца тэхнічнай дасканаласцю, дакладным паказам нацыянальных тыпаў. Памёр Ю. Карчэўскі ў студзені 1833 г.

*Літ.:* Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**159. ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Крыжова-купальны храм з прамавугольнай апсідай. Над сяродкрыжжам васьміграннны барабан з шатровым завяршэннем. Крылы будынка накрыты двухсхільнымі дахамі. Тры ўваходы (галоўны і 2 бакавыя) вырашаны манументальнымі парталамі з кілепадобнымі аркамі. Сцены расчлянёны лапаткамі. Аконныя праёмы лучковыя, з ліштвамі. У дэкоры фасадаў выкарыстаны аркатурны пояс. У інтэр'еры над уваходам — хоры.



157. *Помнік У. І. Леніну.*

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**чыгуначная станцыя Ашмяны, Жупранскі сельсавет**

**160. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У прывакзальным скверы. На ўшанаванне памяці воінаў-землякоў — Р. В. Петухова і В. С. Швабовіча, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Баруны, цэнтр сельсавета**

**161. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН** (архіт., маст., гіст.). У цэнтры вёскі. Складаецца з царквы і манастырскага корпуса, якія разам з мураванай агароджай і вежай-званіцай стварае ўнутраны квадратны ў плане двор. Перад царквой — мураваная капліца.

Царква. Будавалася ў 1747—63 гг. з цэглы (архіт. А. Асікевіч). Трохнефавая двухвежавая (захавалася 1 вежа) прамавугольная ў плане базіліка з паўкруглай апсідай.

Пластычна вырашаны галоўны фасад, завершаны высокім фігурным франтонам з бакавымі валютамі. Уваходны партал арачны, фланкіраваны канеліраванымі пілястрамі і завершаны фігурным франтонам. Вежа квад-



159. *Царква.*

ратная ў плане, трох'ярусная. Сцены храма расчлянёны пілястрамі, прарэзаны вялікімі нішамі, у верхняй частцы — лучковымі аконнымі праёмамі.

Ва ўнутранай прасторы цэнтральны неф вышэй і шырэй за бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Перакрыцце апрацавана шырокім прафіляваным карнізам і ўмацавана падпружнымі аркамі. Бакавыя нефы адкрываюцца ў цэнтральны арачнымі праёмамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. У паўднёвай частцы царквы размешчаны хоры, якія падтрымліваюцца аркадай. Па баках алтарнай часткі ў аб'ёмах бакавых нефаў вылучаны рызніцы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі.



161. *Манастыр базыльян. Царква.*



161. *Манастыр базыльян. Царква. План.*




161. *Манастыр базыльян. Схема планіроўкі: 1 — царква; 2 — манастырскі корпус; 3 — вежа-званіца; 4 — капліца.*

У інтэр'еры 3 стукавыя алтары і амбон. Галоўны алтар двух'ярусны, на высокім цокалі. Першы ярус з 6 калон з карынфскімі капітэлямі і разарваным складана прафіляваным антаблементам. Архітэктурныя формы другога яруса больш лёгкія і спрошчаныя. Усходні алтар нагадвае галоўны, заходні выканаlittleны пазней, дэкарыраваны сціпла. Пяцігранны амбон зроблены ў стылі ракако, вылучаецца багатым афармленнем наверша.

У ансамбль з храмам уваходзяць вежа-званіца і агароджа з 2 брамамі. Званіца квадратная ў плане, двух'ярусная, завершана фігурнай галоўкай з люкарнамі. Грані дэкарыраваны пілястрамі. Часткі агароджы, якія прымыкаюць да царквы, расчлянёны лапаткамі і філёнгамі. Брамы арачныя, завершаны трохвугольнымі франтонамі з прафіляванымі карнізамі.

Царква і вежа-званіца — помнік архітэктуры позняга барока.

Манастырскі корпус. Пабудаваны ў 1773—93 гг. з цэглы. У выніку аднаўленчых работ у канцы 19 ст. архітэктура корпуса набыла рысы класіцызму. Будынак Т-падобны ў плане, двухпавярховы. Падоўжныя плоскасці сцен раўнамерна расчлянёны лапаткамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Планіроўка галерэйная, з шэрагам памяшканняў, перакрытых цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Калідор перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

У пачатку 19 ст. тут працавала публічная шасцікласная школа базыльян. Выпускнікамі Барунскай школы былі польскія пісьменнікі Антон Адынец, Ігнацій Ходзька, Юльян Корсак.



161. *Манастыр базыльян. Манастырскі корпус. План 1-га паверха.*

А. Э. Адынец (1804—85 гг.). Глядзі артыкул № 175 «Радзіма Адынца Антона Эдварда».

І. Ходзька (1794—1861 гг.) нарадзіўся ў в. Заблочына Вілейскага павета. У гісторыі літаратуры вядомы як аўтар шматтомных твораў «Лі-



161. *Манастыр базыльян. Царква. Фрагмент дэкору галоўнага алтара.*



161. *Манастыр базыльян. Царква. Галоўны алтар.*



161. *Манастыр базыльян. Манастырскі корпус.*

тоўскія малюнкі» і «Літоўскія паданні», створаных пераважна на беларускім матэрыяле. Апісаў у сваіх апавяданнях норавы ў Барунскай школе.

Ю. Корсак (1806—55 гг.) нарадзіўся ў Слоніме. Выдаў 2 зборнікі вершаў (1830 і 1840 гг.), перакладаў на польскую мову творы Гарацыя, Байрана, Гётэ, Шылера, Дантэ («Боская камедыя»), Шэкспіра («Рамео і Джульета»).

У 1920 г. С. А. Рак-Міхайлоўскі, вядомы дзеяч КПЗБ, Беларускай сялянска-рабочай грамады і Таварыства беларускай школы стварыў у манастырскім корпусе беларускую настаўніцкую семінарыю і быў яе дырэктарам. У семінарыі вучыліся многія дзеячы рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Закрыта польскімі буржуазнымі ўладамі ў 1922 г.

Капліца. На плошчы перад царквой. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. Цэнтрычны двух'ярусны аб'ём (чацвярык на васьмерыку). Другі ярус — скразная вежачка з 4 лучковымі праёмамі. Збудаванне завершана невялікай цыліндрычнай галоўкай. Вакол капліцы мураваная агароджа з брамай.



161. *Манастыр базыльян. Капліца. Галоўны фасад (чарцёж).*



161. *Манастыр базыльян. Капліца. План.*

Базыльянскі манастыр — помнік манументальнай культавай архітэктуры стылю барока.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Morelowski M. Znaczenie baroku wilenskiego XVIII stolecia.— Wilno, 1940.

*У. В. Алісейчык, Л. Г. Лапцэвіч, А. І. Мальдзіс.*

**162. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Будзёнаўка, Кальчунскі сельсавет**

**163. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці землякоў: былога сакратара Ашмянскага райкома КПЗБ М. В. Галяса і члена КПЗБ С. П. Пакульневіча, камсамольцаў Ч. М. Галяса, Л. С. Пакульневіча, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі каля хутара Шэйкі 20.9.1941 г., а таксама жыхара вёскі А. М. Спірыды, які загінуў на фронце ў 1945 г., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**в. Габрыялаўшчына, Кальчунскі сельсавет**

**164. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 4 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гальшаны, цэнтр сельсавета**

**165. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**165а.** Гарадзішча. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток р. Гальшанка), на мысе. З поўдня гарадзішча абмежавана шырокім ровам, з паўночнага ўсходу і поўначы — валамі вышынёй 2 м і стромкімі падрэзанымі схіламі. Пляцоўка гарадзішча прамавугольная ў плане з закругленымі вугламі, памерам 70×80 м. Адкрыў і даследаваў у канцы 19 ст. В. Савіцкі, даследаваў у 1966 і 1970 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт ад 0,4 м каля цэнтра пляцоўкі да 1,5 м каля вала. Хаця рэшткаў жытлаў выявіць не ўдалося (дрэва не захавалася), бясспрэчна, што яны былі наземныя, бо ніякіх значных паглыбленняў у мацярык не прасочана. Ускрыты рэшткі печаў-каменак. Знойдзены наканечнікі стрэл, шпоры, фрагменты пласціністых даспехаў, рэчы з рыштунку воіна, металічныя амулеты ў выглядзе ключыка, сякеркі, бразготак, посуду, а таксама прылады працы, фрагменты шклянога посуду. Адносіцца да ранняга сярэднявечча, датуецца 12—14 стагоддзямі.



**165а.** *Гарадзішча. План.*

**165б.** Селішча. Прымыкае да гарадзішча з заходняга і паўночна-ўсходняга бакоў. Плошча каля 1 га. Выявіў і абследаваў у 1970-я гады Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены вялікая колькасць ляпной і ганчарнай керамікі, гліняныя праслíцы, бронзавая бразготка, бурштынавая шасцігранная пацерка. Адносіцца да ранняга сярэднявечча, датуецца 12—14 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Я. Г. Звяруга.*

**166. КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі, на скрыжаванні вуліц 17 Верасня і Ашмянскай. Комплекс уключае будынкі касцёла і жылога корпуса.

Касцёл Іаана Хрысціцеля. Галоўным (паўднёва-ўсходнім) фасадам выходзіць на вул. 17 Верасня.



**166.** *Кляштар францысканцаў.*




**166.** *Кляштар францысканцаў. План: 1 — касцёл; 2 — жылы корпус.*

Пабудаваны ў 1618 г. з цэглы, перабудаваны ў 18 ст. Прамавугольная ў плане трохнефавая базіліка. Галоўны двух'ярусны фасад мае выразную ступеньчатую кампазіцыю. Ніжні ярус падзелены вязкамі пілястраў на 3 часткі, якія адпавядаюць цэнтральнаму і бакавым нефам. Другі ярус фасада аддзелены ад ніжняга шырокім раскрапаваным карнізам. Ступеньчаты пераход да другога яруса падкрэслены бакавымі валютамі. Кампазіцыю завяршае фігурны франтон. Бакавыя сцены цэнтральнага найбольш высокага нефа апрацаваны спаранымі пілястрамі, расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, сцены бакавых нефаў прарэзаны аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах. Кампазіцыя і пластыка алтарнага аб'ёму мае рысы барока: фігурны франтон, крапоўка пілястрамі. Унутраная прастора касцёла падзелена 8 слупамі на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі. Слупы апрацаваны парнымі пілястрамі, грані распалубак — ляпнымі нервюрамі. Сцены цэнтральнага нефа завершаны вузкай галерэяй з драўлянай балюстрадай. Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — фрэска ў алтарнай частцы, выкананая ў 2-й палове 18 ст. Плоская алтарная сцяна сродкамі жывапісу ілюзорна ператворана ў паўкруглую апсіду, упрыгожаную барочным алтаром.



166. *Кляштар францысканцаў. Касцёл Іаана Хрысціцеля.*



166. *Кляштар францысканцаў. Касцёл Іаана Хрысціцеля. Галоўны фасад.*

Ж ы л ы к о р п у с. Пабудаваны ў 17 ст. П-падобны ў плане мураваны двухпавярховы будынак, прымыкае да касцёла з паўднёва-заходняга боку. У паўночным вуглу выступае шасціграння вежа. Планіроўка галерэйнага тыпу з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, памяшканні — рознага тыпу скляпеннямі: цыліндрычнымі, цыліндрычнымі з распалубкамі, крыжовымі. У 1-м паверсе корпуса размяшчалася вялікая трапезная. Фасады і інтэр'ер будынка пазбаўлены дэкору.

Кляштар францысканцаў — помнік манументальнай культавай архітэктуры стылю барока.

*Літ.:* M o r e l o w s k i M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu.— Wilno, 1938—39.

*У. В. Алісейчык, Л. Г. Лапцэвіч.*

**167. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, на левым беразе р. Гальшанка. Даследаваў у 1982 г. А. К. Краўцэвіч. Культурны пласт ад 0,4 (на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі) да 1,4 м (каля плошчы). Знойдзены гаршкі, макотры, накрыўкі, талеркі, збаны, кубкі, фрагменты гаршковай, каробчатай тэракотавай і паліванай кафлі з раслінным і геаметрычным арнаментам канца 15—16 ст. Сярод знаходак — металічныя цвікі, падкоўкі, нажы, спражкі, шкляныя кілішкі, бутэлькі, кварты. Большая частка знаходак датуецца 17—18 ст. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Ашмянскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

*А. К. Краўцэвіч.*

**168. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**169. РАДЗІМА СТРЫЕЎСКАГА** Канстанціна Канстанцінавіча (гіст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч К. К. Стрыеўскі нарадзіўся 20.9.1885 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1902 г. З адзінаццаці гадоў працаваў рабочым у Рызе. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. Пасля рэвалюцыі на падпольнай рабоце ў Вялікім Усцюгу, Маскве, Астрахані. З 1916 г. у арміі. Удзельнік Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г., член Петраградскага Савета. У 1918—19 гг. камісар харчавання ў Петраградзе, у 1919—21 гг. начальнік харчовага забеспячэння Паўночна-Усходняга, Заходняга, Петраградскага, Каўказскага франтоў. З 1923 г. старшыня Саюза металістаў у Маскве, з 1927 г.— Маскоўскага Саўнаргаса, Савета прафсаюзаў Маскоўскай вобл., з 1930 г.— ВСНГ РСФСР, з 1932 г. нарком лёгкай прамысловасці РСФСР, з 1934 г. старшыня ЦК Саюза рабочых цяжкага машынабудавання. Кандыдат у члены ЦК, у 1924—25 гг. і з 1934 г. член ЦК ВКП(б), у 1927—34 гг. быў членам ВЦВК і ЦВК СССР.

К. К. Стрыеўскі памёр 21.4.1938 г.

*Літ.:* М а л к и н Б., П о ч е б у т Г., К. К. Стриевский.— У кн.: Герои Октября. Л., 1967, т. 2.

*В. В. Семянюк.*

**170. РУІНЫ ЗАМКА** (архіт.). На паўднёвы ўсход ад вёскі, на высокім беразе р. Луста. Пабудаваны ў канцы 16 — пачатку 17 ст. з цэглы. Абарончыя збудаванні — валы, бастыёны і сістэма абваднення знаходзіліся на значнай адлегласці ад замка. Неаднаразова быў разбураны, перабудаваны ў 18 — пачатку 20 ст., што значна змяніла яго знешні выгляд і аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю (страчаны галерэі, надбрамная вежа, дэкаратыўнае афармленне сцен, прыбудаваны да паўночна-заходняга і паўднёва-ўсходняга карпусоў 2 пяцігранныя вежачкі). У выніку абследавання помніка ў 1981—83 гг. архітэктурна-археалагічнай экспедыцыяй Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР выяўлены 3 розначасовыя этапы будаўніцтва, якія адрозніваюцца характарам выкарыстанай



170. *Руіны замка. Скляпенні залы.*

цэглы, вапнавага раствору і тэхнікай муроўкі.

Замак — трохпавярховае прамавугольнае ў плане збудаванне (94,9×78,4 м). Яго карпусы з 4 шасціграннымі шатровымі вежамі ўтваралі замкнёны амаль квадратны двор (65,4×57,4 м). Арачны праезд зроблены ў шматграннай надбрамнай вежы, якая была ўбудавана ў паўночна-ўсходні корпус. У тоўшчы заходняй грані надбрамнай вежы знаходзілася вітая лесвіца. Насупраць брамы пасярэдзіне паўднёва-заходняга корпуса размяшчалася аднанефавая капліца (18,6×6,3 м). Сцены замка мелі фігурную муроўку з лепкай, былі расчлянёны вялікімі вокнамі. На ўзроўні другога паверха паўночна-ўсходняга корпуса з боку двара праходзіла адкрытая галерэя. Пад замкам размяшчаліся вялікія скляпеністыя падвалы. Інтэр'еры былі багата аздоблены. Сцены ўпрыгожаны жывапісам. Значную дэкаратыўную ролю адыгрывалі кафляныя печы, стукавая лепка на столі і камінах (ляпная столь захавалася на другім і першым паверхах паўночнай вежы), а таксама падлога з керамічных тэракотавых, паліваных зялёных і карычневых крыжа-, зоркападобных, прамавугольных і квадратных плітак.

Замак — помнік абарончага дойлідства ў стыліман'ерызму.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 5.— М., 1967; Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; B a l i ń s k i M., L i p i ń s k i T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. Baliński M. Wielkie Księztwo Litewskie.— Warszawa, 1846; M o r e l o w s k i M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu.— Wilno, 1938—39; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3.— Warszawa, 1882. *М. А. Ткачоў, І. М. Чарняўскі.*



170. *Руіны замка. Фрагмент скляпення вежы.*

**в. Гардзіеўцы, Крайванцаўскі сельсавет**

**171. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка бібліятэкі. На ўшанаванне памяці 4 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Гароднікі, Кальчунскі сельсавет**

**172. МАГІЛА СНЯДЭЦКАГА** Анджэя (гіст., маст.). На могілках.

Хімік, урач, філосаф і асветнік А. Снядэцкі нарадзіўся 30.11.1768 г. у мястэчку Жнін Гнезненскага ваяводства (Польшча) у сям'і дробнага прадпрыемца. Вучыўся ў Кракаўскім, Падуанскім, Эдынбургскім універсітэтах. Працаваў у Віленскім універсітэце: у 1797—1822 гг. прафесар хіміі, у 1826—32 гг.— медыцыны. З 1832 г. прафесар Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Галоўная праца Снядэцкага — «Тэорыя арганічных істот» (т. 1—2, 1804—11 гг.). Напісаў падручнік па хіміі. У 1816—22 гг. быў рэдактарам віленскай газеты «Wiadomości brukowe» («Вулічныя паведамленні»), у якой адлюстроўваў цяжкае становішча сялян, выступаў супраць прыгону. Прапагандаваў асновы сацыяльнай гігіены. Творы выдадзены ў кн. «Выбраныя творы прагрэсіўных польскіх мысліцеляў» (т. 1, М., 1956 г.).



**172.** *Помнік на магіле А. Снядэцкага.*

А. Снядэцкі памёр 28.4.1838 г. На магіле вучонага ў 1839 г. пастаўлена надмагілле (белы мармур), выкананае па заказу сына. Уяўляе сабой увенчаную крыжам урну на прамавугольным пастаменце. Вышыня пастамента 1,6 м, урны з крыжам 1,37 м. Надмагілле аздоблена выразанымі ў камені лаўровымі лістамі і медальёнам з эмблемамі хіміка і медыка. На 3 гранях пастамента высечаны эпітафіі, на чацвёртай — герб Снядэцкіх.

*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**173. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. Прамавугольны ў плане зруб з трохграннай апсідай накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Галоўны фасад завершаны чатырохграннай вежачкай. Гарызантальна ашаляваныя сцены зруба расчлянёны вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі і арачнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры над уваходам — хоры. Царква — помнік архітэктуры з выкарыстаннем традыцый народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*



**170.** *Руіны замка. Жылы корпус і вежа.*

**в. Гарэцкаўшчына, Семярніцкі сельсавет**

**174. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 4 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган.

**в. Гейстуны, Барунскі сельсавет**

**175. РАДЗІМА АДЫНЦА** Антона Эдварда (гіст.).

Польскі паэт, перакладчык, мемуарыст, выдавец і грамадскі дзеяч А. Э. Адынец (псеўданім Інацэнты Старушкевіч) нарадзіўся 25 (па інш. крыніцах 22).1.1804 г. Скончыў школу базыльян у Барунах, Віленскі універсітэт (1823 г.) са ступенню магістра права. Ва універсітэце пасябраваў з А. Міцкевічам, Я. Чачотам і І. Дамейкам. У 1821 г. стаў членам тайнага таварыства філарэтаў, для якога напісаў «Песню філарэтаў». У 1823 г. арыштаваны. У 1829—37 гг. жыў за мяжой, пераважна ў Дрэздэне. Разам з А. Міцкевічам падарожнічаў па Германіі і Італіі, наведаў І. В. Гётэ. Свае ўражанні апісаў у мемуарах «Пісьмы з падарожжа» (1875—78 гг.). У 1837 г. вярнуўся на радзіму. З 1838 г. у Вільні. З 1841 г. па 1859 г. рэдактар газеты «Kurier Litewski» («Літоўскі веснік», з 1865 г. «Виленский вестник»). З 1866 г. у Варшаве.

Як паэт дэбютаваў у 1822 г. Аўтар вершаваных драм «Феліцыта, або Карфагенскія мучанікі» (1849 г.) і «Барбара Радзівілаўна» (1860 г.), мемуараў «Успаміны з мінулага...» (1884 г.), дзе ёсць многа беларускага матэрыялу. Перакладаў на польскую мову творы А. С. Пушкіна, Дж. Г. Байрана, Ф. Шылера. Паслядоўнік рамантычнай паэзіі А. Міцкевіча. Даследаваў і выкарыстоўваў беларускі фальклор. Прытрымліваўся памяркоўных поглядаў. Напісаў некалькі вершаў у «Альбом» А. Вярыгі-Дарэўскага (выдадзены ў 1858 г.).

А. Э. Адынец памёр 15.1.1885 г.

*А. І. Мальдзіс.*



173. *Царква. Галоўны фасад.*



177. *Георгіеўскі касцёл і званіца.*



177. *Георгіеўскі касцёл. План.*

**в. Гінеўцы, Барунскі сельсавет**

**176. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Граўжышкі, цэнтр сельсавета**

**177. ГЕОРГІЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з дрэва.

Выцягнуты па падоўжнай восі прамавугольны ў плане аб'ём з пяціграннай алтарнай часткай, трансептам, 2 сакрысціямі і нартэксам. Накрыты адзіным двухсхільным гонтавым дахам. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана шырокім карнізам з прафіляваным фрызам. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны вертыкальнымі сцяжкамі і завершаны прафіляваным карнізам. У верхняй частцы сцен размешчаны лучковыя вокны з прычолкамі на разных кранштэйнах.

У інтэр'еры апсіда і неф перакрыты люстраным скляпеннем. Столь бакавых частак — плоская, падтрымліваецца 2 калонамі. Папярочная бэлька ў алтарным праёме ўпрыгожана разным рэльефным арнаментам у выглядзе вінаграднай галінкі. Сцены вертыкальна ашаляваны. Захаваліся 3 драўляныя алтары 2-й паловы 19 ст., выкананыя ў стылі неабарока. Побач з касцёлам размешчана квадратная ў плане трох'ярусная драўляная званіца, пабудаваная ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Сцены ашаляваны.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Cz. 1.— Petersburg, 1896; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi.— 3 wyd.— Wilno, 1909. *У. В. Алісейчык.*



178. *Курган Памяці.*

**178. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. насыпаны Курган, на вяршыні яго ўстаноўлена скульптура воіна.

**179. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Скульптура Уладзімір Ульянаў-гімназіст устаноўлена ў 1967 г.

**в. Гродзі, Палянскі сельсавет**

**180. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля клуба. На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Дзебясі, Кальчунскі сельсавет**

**181. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Доргішкі, Семярніцкі сельсавет**

**182. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



182. *Помнік землякам.*

**в. Жупраны, цэнтр сельсавета**

**183. МАГІЛА БАГУШЭВІЧА** Францішка Бенядзікта Казіміравіча (гіст.). На могілках.

Беларускі паэт, празаік і публіцыст, пачынальнік крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры Ф. Б. К. Багушэвіч нарадзіўся 9.3. 1840 г. у былым фальварку Свіраны Віленскага павета (цяпер Вільнюскі р-н Літоўскай ССР). Паходзіў са абяднелай шляхты. З 1852 г. да 1861 г. вучыўся ў Віленскай гімназіі. У 1861 г. паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, але быў выключаны з 1-га курса за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Вярнуўся на радзіму і працаваў настаўнікам у в. Доцішкі Лідскага павета (цяпер Воранаўскі р-н). Прымаў удзел у паўстанні 1863—64 гг., у баях у Аўгустоўскіх лясах паранены. Сяляне выратавалі яго ад карнікаў. Каб пазбегнуць рэпрэсій, пераехаў на Украіну, дзе ў 1868 г. скончыў Ежынскі юрыдычны ліцэй. Працаваў судовым следчым у розных гарадах Украіны, у Валагодскай губерні. З 1874 г. жыў у Канатопе, там ажаніўся з мінчанкай Габрыэлай Шклёнік. У 1884 г. пераехаў у Вільню, працаваў адвакатам у акруговым судзе. Тут у Ф. Багушэвіча ўстанавіліся цесныя творчыя сувязі з Э. Ажэшкай, Я. Карловічам, М. Федароўскім, А. Ельскім. У 1898 г. па стану здароўя пакінуў службу і пераехаў у Кушляны (Смаргонскі р-н), дзе і памёр 15.4.1900 г.

У 1891 г. у Кракаве пад псеўданімам Мацей Бурачок быў выдадзены зборнік вершаў «Дудка беларуская», у 1892 г.— апавяданне «Тралялёначка». У 1894 г. у Познані выйшаў зборнік «Смык беларускі» пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава. У 1886—90 гг. паэт друкаваўся пад псеўданімамі Demos, Vester, ten і інш. у польскім часопісе «Kraj» («Край»), які выдаваўся ў Пецярбургу. У сваіх допісах і артыкулах абараняў інтарэсы працоўнага сялянства і гарадской бедноты. Не ўсе творы Багушэвіча дайшлі да нас. Яго кнігу «Беларускія апавяданні Бурачка», падрыхтаваную да друку ў 1899 г., не прапусціла царская цэнзура. Не знойдзены да гэтага часу зборнік вершаў «Скрыпка беларуская», які павінен быў выйсці пасля смерці паэта. Праз усю творчасць Ф. Багушэвіча праходзіла тэма барацьбы за нацыянальную самабытнасць. Як паэт пераважна сацыяльнай тэматыкі, адлюстраваў важнейшыя супярэчнасці эпохі, праўдзіва паказаў наспяванне бунтарскіх настрояў беларускага сялянства. Ён зрабіў вялікі ўплыў на далейшае развіццё беларускай літаратуры. Творы неаднаразова выдаваліся ў наш час («Выбраныя творы», 1952 г.; «Творы», 1967 г.; «Вершы», 1976 г.). Імя Ф. Багушэвіча прысвоена Ашмянскаму краязнаўчаму музею, калгасу ў Жупранах, дзе паэту пастаўлены помнік.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай паэта (архіт. К. Асадаў, скульпт. В. Даненкаў, В. Пятраеў). Гл. артыкулы № 185 «Помнік Багушэвічу Францішку Бенядзікту Казіміравічу», № 1427 «Сядзіба Багушэвіча Францішка» (Смаргонскі р-н).

*Літ.:* Кісялёў Г. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; яго ж. З думай пра Беларусь.— Мн., 1966; Майхрович С. К. Жизнь и творчество Ф. Богушевича.— Мн., 1961; Навуменка І. Я. Пісьменнікі-дэмакраты.— Мн., 1967; Пачынальнікі.— Мн., 1977. *В. Б. Караткевіч.*

**184. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі, на ўзвышшы. Будаўніцтва мураванага касцёла пачата ў 1854 г., але неўзабаве прыпынена, скончана ў 1890-я гады.

Будынак прамавугольны ў плане, трохнефавы. Да галоўнага (паўднёва-ўсходняга) фасада прыбудавана трох'ярусная вежа, завершаная васьміграннным аб'ёмам са стральчатымі праёмамі і шатром. Сцяна абапал вежы завершана прамавугольным атыкам. Вуглы асноўнага аб'ёму і вежы дэкарыраваны лапаткамі з арачнымі стральчатымі нішамі, увенчаны дэкаратыўнымі вежачкамі. Сцены завершаны карнізам з фрызам (2 рады ступеньчатых зубцоў). Плоскасці сцен дэкарыраваны шырокім аркатурным поясам, прарэзаны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер падзелены на 3 нефы васьміграннымі філёнгавымі слупамі на высокіх пастаментах. Цэнтральны неф



184. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*



184. *Петрапаўлаўскі касцёл. Інтэр'ер.*



184. *Петрапаўлаўскі касцёл.*



184. *Петрапаўлаўскі касцёл. Фрагмент размалёўкі скляпенняў.*

значна шырэйшы за бакавыя, заканчваецца алтарнай часткай. У аб'ёмах бакавых нефаў, абапал алтара, вылучаны сакрысціі. Над уваходам — хоры з арганам. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Скляпенні ўмацаваны папярочнымі і падоўжнымі падпружнымі аркамі і пакрыты паліхромнай размалёўкай з элементамі гатычнага арнаменту. Размалёўка конхі апсіды імітуе нервюры. У крапаваным антаблеменце алтара — выява Саваофа. Аркі нефаў упрыгожаны прамавугольнымі кесонамі з разеткамі, скляпеністыя пралёты цэнтральнага нефа — арнаментам і выявамі анёлаў. Размалёўка выканана ў чырвона-карычневых, бэжавых, зялёных і сініх танах. Злева ад увахода размешчана белая мармуровая пліта з надпісам: «Францішку Багушэвічу, 1840—1900, прыяцелі».

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю.

*Літ.:* J a n k o w s k i Cz. Powiat Oszmiański. Cz. 1.— Petersburg, 1896.

*У. В. Алісейчык, Л. Г. Лапцэвіч.*

**185. ПОМНІК БАГУШЭВІЧУ** Францішку Бенядзікту Казіміравічу (маст.). На плошчы ў скверы. Пастаўлены ў 1958 г. на ўшанаванне памяці беларускага паэта, празаіка і публіцыста, дэмакрата, пачынальніка крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры Ф. Багушэвіча (скульпт. З. Азгур; бронза, чырвоны граніт; вышыня пастамента 2,16 м, бюста 0,9 м).

Пагрудны бюст на пастаменце з 2 неапрацаваных гранітных глыб. Рысы твару перададзены з партрэтным падабенствам: высокі лоб, шырокая барада, вусы, цвёрды сканцэнтраваны позірк. Сурдут з высокай засцежкай, накінуты на плечы плашч дапаўняюць характарыстыку вобраза. Каля помніка — кветнікі і дэкаратыўныя кусты.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**186. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Зарэчча, Жупранскі сельсавет**

**187. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Ашмянка, каля моста.

Тут у пачатку ліпеня 1944 г. група аўтаматчыкаў 97-й Віцебскай стралковай дывізіі на чале з камандзірам узвода старшым сяржантам Дз. І. Гарбуновым пасля 20-кіламетровага рэйду захапіла мост цераз р. Ашмянка. У выніку падраздзяленні дывізіі без перашкод пераправіліся цераз рэчку і 7 ліпеня вызвалілі Ашмяны.

Дзмітрый Іванавіч Г а р б у н о ў нарадзіўся 24.10.1924 г. у с. Бішава Апастаўскага р-на Татарскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір стралковага ўзвода, старшы сяржант Дз. І. Гарбуноў вызначыўся ў баях на тэрыторыі Беларусі пры фарсіраванні рэк Лучоса, Сухадроўка, Бярэзіна, Ашмянка і вызваленні Вільнюса. У баях за горад знішчыў і ўзяў у палон некалькі дзесяткаў фашыстаў, узняў у цэнтры горада чырвоны сцяг. Загінуў у баі пры вызваленні г. Каўнас 28.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. На радзіме Дз. І. Гарбунову пастаўлены помнік, яго імем названы калгас і вуліца ў с. Бішава.

У 1974 г. у гонар савецкіх воінаў, якія вызвалілі г. Ашмяны і Ашмянскі р-н ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна (архіт. В. Лысікаў, скульпт. І. Астрамовіч).

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Зялёны Бор, Барунскі сельсавет**

**188. РАДЗІМА МІНЕЙКІ** Зыгмунта Станіслававіча (гіст.).

Кіраўнік паўстання 1863—64 гг. у Ашмянскім павеце, археолаг і мемуарыст З. С. Мінейка (М і н е й к а - Г а з д а в а, псеўданім Б а р а в ы) нарадзіўся ў 1840 г. (паводле інш. звестак у Вільні) у сям'і прагрэсіўна настроенай шляхты. Разам з беларускім паэтам Ф. Багушэвічам вучыўся ў Віленскай гімназіі, потым у інжынернай ваеннай школе ў Пецярбургу. Вясной 1861 г. разам з інш. членамі ашмянскага таварыства «Пянтковічаў» распаўсюджваў нелегальныя беларускія выданні. Каб пазбегнуць арышту, выехаў за мяжу. У пачатку 1863 г. вярнуўся на радзіму. У час паўстання 1863—64 гг. з'яўляўся ваенным начальнікам Ашмянскага павета. Атрад, які дзейнічаў пад яго камандаваннем, дыслацыраваўся ў лясах каля Гальшан і Бакштаў, у Налібоцкай пушчы, правёў пяўдалы бой каля в. Расолішкі. Здраднікамі быў выдадзены царскім уладам і прыгавораны спачатку да павешання, потым да 12 гадоў катаржных работ у Нерчынскіх рудніках. Па шляху ў Сібір З. С. Мінейка ўцёк. У 1868 г. у Парыжы скончыў Акадэмію Генеральнага штаба. Удзельнік Парыжскай камуны. Як інжынер будаваў чыгункі і масты ў Балгарыі, Турцыі, Грэцыі. У 1876 г. пачаў археалагічныя пошукі старажытнагрэчаскага храма ў Дадоне і неўзабаве знайшоў яго. У 1880 г. апублікаваў этналагічную карту Эпіра. За навуковыя заслугі ў 1910 г. З. С. Мінейку прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Грэцыі. У час Балканскай вайны 1912—13 гг. распрацаваў стратэгічны план, кіруючыся якім грэчаскія войскі паспяхова штурмавалі горад Салонікі і



185. *Помнік Ф. Багушэвічу.*



186. *Помнік землякам.*



187. *Помнік савецкім воінам.*

непрыступную крэпасць Яніна. У апошнія гады жыцця пісаў мемуары («З тайгі да Акропаля. Успаміны гадоў 1848—1866», Варшава, 1971 г.). Быў выбраны ганаровым доктарам Львоўскага універсітэта. З. С. Мінейка памёр 27.12.1925 г. у Грэцыі.

*Літ.:* Кісялёў Г. В. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; Митина Н. П. Во глубине сибирских руд.— М., 1966.

*А. І. Мальдзіс.*

**в. Каменны Лог, цэнтр сельсавета**

**189. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы перад будынкам праўлення калгаса «Ураджай». На ўшанаванне памяці 4 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Клявіца,**
**Граўжышкаўскі сельсавет**

**190. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі Вільнюс — Ашмяны, у лесе. 26 курганоў дыяметрам ад 5 да 12 м, вышынёй 0,3—1,5 м. Адкрыў і абследаваў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1974 г. абследавала А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.



190. *Курганны могільнік. План.*

**191. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Верхаполле, у лесе. 8 курганоў дыяметрам 6—14 м, вышынёй 0,5—1,2 м. У 2 пашкоджаных насыпах прасочваюцца каменныя вымасткі. Выявіў і абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**192. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку каля клуба. На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**в. Крайванцы, цэнтр сельсавета**

**193. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 35 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Кракоўка, Палянскі сельсавет**

**194. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад Домам культуры. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Куцавічы,**
**Навасёлкаўскі сельсавет**

**195. КАПЛІЦА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Аднаэрубны аб'ём накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над трохграннай алтарнай часткай. З боку галоўнага фасада двух'ярусная званіца. Другі ярус каркасны, накрыты чатырохсхільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Сцены бакавых фасадаў капліцы прарэзаны лучковымі праёмамі.

Капліца — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Людвікаўшчына,**
**Кальчунскі сельсавет**

**196. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1963 г.

**в. Маркіняты,**
**Семярніцкі сельсавет**

**197. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўскраіне вёскі, на левым беразе р. Клява. 7 насыпаў вышынёй 0,4—0,7 м, дыяметрам 6—8 м. Адкрыў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, даследаваў у 1913 г. П. С. Рыкаў, абследавала ў 1974 г. А. Г. Калечыц. Раскапаны 4 курганы. Знойдзены рэшткі трупапалення на грунце і ў гаршках, а таксама сякеры, ромбападобныя і ланцэтападобныя наканечнікі коп'яў, нажы, шпоры, спражкі, бронзавыя ўпрыгожанні і дэталі конскай збруі. Датуецца 10—12 стагоддзямі, адносіцца да культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Матэрыялы раскопак П. С. Рыкава не захаваліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*А. Г. Калечыц.*

**в. Масцвілішкі,**
**Навасёлкаўскі сельсавет**

**198. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Міхайлоўшчына,**
**Семярніцкі сельсавет**

**199. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку каля клуба. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**200. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Клява. Сфарміравана ў 19 ст.

Сядзібны дом размешчаны на ўзгорку ў парку, які засаджаны пладовымі дрэвамі і расчлянёны перпендыкулярнымі ліпавымі алеямі. Прамавугольны ў плане драўляны будынак. У цэнтры галоўнага фасада — мансарда з галерэяй на мураваных слупах. Пад'езды да дома ажыццяўляліся праз 2 брамы. За домам разбіты невялікі пейзажны сквер. Гаспадарчыя пабудовы (свірны, млын, спіртзавод) размешчаны каля ракі; выкананы ў формах прамысловай архітэк-



195. *Капліца.*



**200.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — брамы; 3 — пейзажны сквер; 4 — эканамічны парк; 5 — гаспадарчыя пабудовы.*

туры пачатку 20 ст. Будынак спіртзавода (1907 г.) цаглянай муроўкі з украпваннямі бутавага каменю.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**в. Мураваная Ашмянка, цэнтр сельсавета**

**201. БУДЫНАК ДРУКАРНІ** (гіст., архіт.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пабудаваны ў канцы 16 ст. з буйнапамернай цэглы (32×16×7 см). Будынак быў прамавугольны ў плане (35,5×20 м). Часткова захаваліся падвал, цоколь і сцены верхняга паверха. Падвал меў цыліндрычныя скляпенні, цоколь — крыжовыя. У сярэдзіне 19 ст., калі будынак перараблялі ў палац, быў дабудаваны верхні паверх у стылі класіцызму. Арачныя вокны цоколя былі закладзены, сцены па перыметры рытмічна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. З 19 — пачатку 20 ст. захаваліся алея, якая вяла да палаца, і прыдарожная капліца. У літаратуры ёсць звесткі, што ў памяць аб будаўніцтве каля ўвахода ў сядзібу быў умураваны камень з датамі «1590—1843». У падвале і цокальным паверсе будынка размяшчалася друкарня, заснаваная стольнікам літоўскім, ваяводам полацкім, старостам ваўкавыскім, шарашоўскім і лепельскім Мікалаем Дарагастайскім (каля 1530—97 гг.). Друкарня дасягнула росквіту ў пачатку 17 ст., калі Мураванай Ашмянкай валодаў сын Мікалая Крыштоф Дарагастайскі (1562—1615 гг.) — стольнік літоўскі, маршалак вялікі літоўскі з 1597 г., староста мсцібаўскі, ваўкавыскі, шарашоўскі і лепельскі. К. Дарагастайскі быў аўтарам першай у Рэчы Паспалітай працы па анатоміі і фізіялогіі каня «Гіпіка», выдадзенай у гэтай друкарні. У 17—18 стагоддзях кніга была шырока вядома на Беларусі і перавыдавалася 7 разоў. У 1615 г. тут надрукавана кніга В. Салінарыуса «Цэнзура».



**201.** *Будынак друкарні. Фрагмент скляпення цокальнага паверха.*

Друкарня — помнік гісторыі і дойлідства Беларусі.

*Літ.:* Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem.— Wilno, 1932; Gloger Z. Geografia historyczna ziem dawnej Polski. — Kraków, 1900; Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Cz. 1.— Petersburg, 1896. *У. В. Алісейчык, В. Б. Караткевіч.*

**202. КАСЦЁЛ ДЗЕВЫ МАРЫІ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны з дрэва ў канцы 18 — пачатку 19 ст. на месцы драўлянага касцёла 1650 г. Паднаўляўся ў 1841 і 1874 гг.

Выцягнуты ў плане аб'ём з пяціграннай алтарнай часткай, трансептам, 2 сакрысціямі. Накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай, выступы трансепта — больш нізкімі двухсхільнымі дахамі. Усе франтоны ўвенчаны шлемападобнымі галоўкамі на васьмігранных барабанах. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер зальны. Асноўнае памяшканне і выступы трансепта перакрыты люстранымі скляпеннямі. Перакрыцце асноўнага аб'ёму ўмацавана 2 папярочнымі рэбрамі і бэлькай. Хоры адкрываюцца ў асноўнае памяшканне двухпралётным арачным праёмам. Сцены і столь гарызантальна ашаляваны. Інтэр'ер упрыгожаны выкананай у 2-й палове 19 ст. паліхромнай размалёўкай: гірлянды з лісцяў аканта, лілей і стужак з літургічнымі надпісамі, фігуры арханёлаў, арнамент з залатых каласоў, зялёных і сініх гронак вінаграду. У верхняй частцы сцен — вузкі арнаментальны фрыз. З разныя драўляныя алтары зроблены ў стылі позняга барока. Галоўны на невысокім цоколі, двух'ярусны, з трохвугольным завяршэннем упрыгожаны драўляным разным абрамленнем з завіткоў-валют, ракайляў, казачных раслін, паўфігур атлантаў з царскімі каронамі-капітэлямі на галаве і фігурак укленчаных анёлаў (фланкіруюць другі ярус і наверша алтара). На капітэлях і ракайлях захавалася першапачатковая пазалота. Бакавыя алтары па кампазіцыі нагадваюць галоўны, але меншыя памерам і больш сціплыя па дэкору.

Побач з касцёлам стаіць драўляная квадратная ў плане званіца, пабудаваная ў канцы 18 — 1-й палове 19 ст. Ніжні, больш шырокі ярус,— зрубны, з цэнтральным праходам і 2 аднолькавымі бакавымі памяшканнямі. Верхні ярус — каркасны, квадратны ў плане, скразны. Стойкі каркаса падтрымліваюць чатырохгранную шатровую страху, увенчаную шлемападобнай галоўкай на васьміграннай аснове.

Касцёл і званіца — помнік архітэктуры з выкарыстаннем элементаў



**202.** *Касцёл Дзевы Марыі і званіца.*



**202.** *Касцёл Дзевы Марыі. План.*



**202.** *Касцёл Дзевы Марыі. Галоўны алтар.*



210. *Магіла ахвяр фашызму.*

барока і класіцызму, традыцый народнага драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Cz. 1.— Petersburg, 1896; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi.— 3 wyd.— Wilno, s. a.

*У. В. Алісейчык, Л. Г. Лапцэвіч.*

**203. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасёлкі, цэнтр сельсавета**

**204. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 17 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасяды, Гальшанскі сельсавет**

**205. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 150 м на паўднёвы ўсход ад могілак. Пахаваны 44 мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў лістападзе 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паляны, цэнтр сельсавета**

**206. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 8 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Погіры, Каменналогскі сельсавет**

**207. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 7 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Рудзішкі, Муравана-Ашмянкаўскі сельсавет**

**208. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган.

**в. Семернікі, цэнтр сельсавета**

**209. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Талмінава, Палянскі сельсавет**

**210. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, каля лесу. Пахаваны 700 мірных жыхароў г. Ашмяны і раёна, якіх 23.11. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**211. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). З левага боку шашы Ашмяны — Вільнюс, каля павароту на вёску. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Цудзенішкі, Каменналогскі сельсавет**

**212. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 5 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Шчапанавічы, Граўжышкаўскі сельсавет**

**213. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Жыжняны. Пляцоўка авальная, памерам 95×47 м. З усходняга боку прасочваюцца рэшткі вала вышынёй каля 2 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавала ў 1974 г. А. Г. Калечыц. У шурфах прасочаны культурны пласт 1,2 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная кераміка. Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца не пазней 3—4 ст. н. э.



213. *Гарадзішча. План.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.

*А. Г. Калечыц.*

**214. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган.

**в. Ягелаўшчына, Палянскі сельсавет**

**215. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ройста. Насыпаны ў 1967 г. на магіле 353 жыхароў г. Ашмяны (старых, жанчын, дзяцей), якіх 4.7. 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі. Каля падножжа Кургана пастаўлены абеліск.

**216. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Люгоўшчына. Пахаваны 573 мірныя жыхары г. Ашмяны, якіх 3—4.7.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

# БЕРАСТАВІЦКІ РАЁН







Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Жылыя дамы, забудова вуліц савецкага перыяду

 Культавая архітэктура

 Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## IV. ВЯЛІКАЯ БЕРАСТАВІЦА

Гарадскі пасёлак, цэнтр Бераставіцкага р-на, на р. Бераставічанка (басейн Нёмана). За 63 км на поўдзень ад Гродна, 10 км ад чыгуначнай станцыі Бераставіца на лініі Масты — Бераставіца, на аўтамабільнай дарозе Гродна — Бераставіца — Ваўкавыск.

У 16 ст. належала вялікаму князю Вялікага княства Літоўскага Аляксандру, пазней — магнатам Хадкевічам, Мнішкам, Патоцкім, Касакоўскім. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. у складзе Расіі, мястэчка Гродзенскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У сярэдзіне 19 ст. было 1037 жыхароў, 179 будынкаў, прыходскае вучылішча, 15 крам. У 1900 г. — 1786 жыхароў, 396 будынкаў (229 жылых), 2 фарбавальні. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны — 2516 жыхароў, 6 дробных прадпрыемстваў. У 1915 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг. — войскамі буржуазнай Польшчы. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў жніўні 1920 г. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Гродзенскага павета Беластоцкага ваяводства. У 1925—38 гг. тут дзейнічалі падпольныя райкомы КПЗБ і КСМЗБ. З 1939 г. у складзе БССР, вёска ў Крынкаўскім р-не Беластоцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі партызанская брыгада імя Кастуся Каліноўскага (з лістапада 1943 г.), у красавіку — жніўні 1944 г. Крынкаўскі падпольны райком ЛКСМБ. З 1944 г. цэнтр раёна, з 1947 г. гарадскі пасёлак. У 1962—66 гг. Вялікая Бераставіца ўваходзіла ў Свіслацкі р-н.

Планіроўка пасёлка радыяльная. Галоўныя вуліцы — Савецкая, Леніна, Дзяржынскага і Чырвонаармейская — сыходзяцца на цэнтральнай плошчы, дзе ў 18—19 стагоддзях стаялі ратуша, крамы. Ад цэнтра рэльеф мясцовасці рэзка паніжаецца на поўнач да р. Бераставічанка, якая аддзяляе ад асноўнай гістарычнай часткі пасёлка сучасны зарэчны жылы раён. Цэнтральная плошча гістарычна сфарміравалася як грамадскі і гандлёвы



IV. *Забудова вуліцы Савецкай.*



IV. *Будынак сярэдняй школы.*

цэнтр. Да Вялікай Айчыннай вайны тут размяшчаўся рынак, ад якога захаваўся драўляны будынак заезнага двара (2-я палова 19 ст.). На плошчы размешчаны будынкі райкома партыі, райвыканкома, універмага, прадмага, рэстарана, кінатэатра, разбіты сквер. Сярод аднапавярховай індывідуальнай забудовы — сучасныя грамадскія і жылыя будынкі. Па вул. Савецкай пабудаваны Дом культуры, 48-кватэрны жылы дом з магазінам, 32-кватэрны жылы дом, у зарэчным раёне — 2-, 3- і 4-павярховыя жылыя дамы.

Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны пераважна ў паўднёвай і ўсходняй частках пасёлка: птушкафабрыка, халадзільнік, лесапільня і інш. У цэнтры пасёлка — масласырзавод, хлебазавод. Ёсць камбінат бытавога абслугоўвання. Працуюць сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «За камунізм». У пасёлку помнікі: У. І. Леніну, С. В. Прытыцкаму, на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У паўночна-ўсходняй частцы цэнтральнай плошчы збярогся помнік архітэктуры 17—18 стагоддзяў — касцёл кармелітаў.

Зона адпачынку — парк уздоўж ракі.

*У. В. Алісейчык, Э. М. Савіцкі.*

**217. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Партызанская, у скверы. Пахаваны 474 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**218. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Паўночная ўскраіна пасёлка. Пахаваны 116 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — генерал-маёр Іван Пракопавіч Міхайлін.

І. П. Міхайлін кадравы ваенны. У Чырвонай Арміі з першых дзён яе стварэння. Член КПСС з 1917 г. У 1930-я гады камандзір дывізіі Маскоўскай ваеннай акругі, камандзір корпуса, начальнік інжынерных войск Чырвонай Арміі. З 1940 г. намеснік



IV. *Будынкі сярэдняга прафесійна-тэхнічнага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі.*



219. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

камандуючага Заходняй асобай ваеннай акругай. Загінуў 23.6.1941 г. на заходняй граніцы. У Вялікай Бераставіцы яго імем названа вуліца.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны ў жалобе і сувораўца. *Т. Р. Чуракова.*

**219. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Цэнтральная плошча, у скверы. Пахаваны 192 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 269-й Рагачоўскай Чырванасцяжнай стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**220. ЗАЕЗНЫ ДВОР** (архіт.). Вул. Чырвонаармейская, 10. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Цяпер жылы дом. П-падобны ў плане аднапавярховы будынак на бутавым фундаменце, накрыты двухсхільным дахам. Сцены ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі, члянёны прамавугольнымі вокнамі. Галоўны фасад ашаляваны, завершаны высокім трохвугольным шчытом, дэкарыраваным фігурнай шалёўкай. Да тыльнага фасада прымыкае гаспадарчы корпус, які ўтварае замкнёны ўнутраны двор.

Заезны двор — помнік грамадзянскай архітэктуры з рысамі народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**221. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры пасёлка, на скрыжаванні вуліц Леніна і Матросава. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы, абліцаваны каменнымі блокамі.

Прамавугольны ў плане трохнефавы будынак з пяціграннай алтарнай часткай, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад вырашаны трох'яруснай вежай-званіцай з шатровым завяршэннем. Сцены ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі, прарэзаны рознавялікімі стральчатымі аконнымі праёмамі. Каларыстычнае вырашэнне пабудовы дасягаецца спалучэннем фактурнай каменнай абліцоўкі сцен і атынкаваных элементаў архітэктурнага дэкору: лапатак, карнізаў, ліштваў, нішаў.

Касцёл — помнік архітэктуры несапраўднай готыкі. *А. М. Кулагін.*

**222. КАСЦЁЛ КАРМЕЛІТАЎ** (архіт.). На цэнтральнай плошчы. Пабудаваны ў 1620 г. з цэглы, у сярэдзіне 18 ст. часткова перароблены, з 1866 г. праваслаўная царква.

Крыжовая ў плане трохнефавая базіліка з трансептам, паўкруглай апсідай і 2 нізкімі сакрысціямі па баках алтарнай часткі. Галоўны заходні фасад падзелены пілястрамі на 3 часткі, завершаны ступеньчатым атыкам. Сярэдняя павышаная частка атыка ўвенчана франтонам з авальнай нішай у цэнтры. Бакавыя фасады і апсіда раўнамерна расчляняны пілястрамі і лапаткамі, лучковымі аконнымі праёмамі. Будынак апяразвае раскрапаваны антаблемент. Унутраная прастора расчлянёна 4 масіўнымі слупамі на 3 нефы. Цэнтральны павышаны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках і конхай у алтарнай частцы. Бакавыя нефы адкрываюцца ў цэнтральны арачнымі праёмамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. У заходняй частцы асноўнага аб'ёму — бабінец, па баках якога 2 шахты з лесвіцамі на хоры і дах. Пад будынкам крыпта.

Касцёл — помнік архітэктуры барока. *У. В. Алісейчык.*

**223. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**224. ПОМНІК ПРЫТЫЦКАМУ** Сяргею Восіпавічу (гіст., маст.). На вул. Міхайліна, каля будынка сярэдняй школы.



220. *Былы заезны двор.*



222. *Касцёл кармелітаў.*

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну С. В. Прытыцкі нарадзіўся 19.1.1913 г. у в. Гаркавічы Беластоцкага ваяводства ПНР у сям'і селяніна-бедняка. Батрачыў. Рана далучыўся да рэвалюцыйнай барацьбы. Член КСМЗБ з 1930 г., член КПСС з 1932 г. У 1934—35 гг. вучыўся ў партыйнай школе КПЗБ у Мінску. Быў сакратаром Крынкаўскага раённага, Гродзенскага акруговага камітэтаў КСМЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць у маі — кастрычніку 1933 г. зняволены ў гродзенскую турму. У 1933—34 гг. член Слонімскага акруговага камітэта камсамола. Вясной 1933 г. арганізаваў кампанію салідарнасці з бастуючымі тэкстыльшчыкамі Беластока, кіраваў стачкамі лясных рабочых у Саколкаўскім, Гродзенскім і Слонімскім паветах (1933—34 гг.). З 1935 г. сакратар Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ. Па даручэнню ЦК КПЗБ 27.1.1936 г. на судовым працэсе над 17 рэвалюцыянерамі ў Віленскім акруговым судзе страляў у правакатара, быў цяжка паранены і арыштаваны. У чэрвені 1936 г. прыгавораны да пакарання смерцю. Працоўныя Заходняй Беларусі, Польшчы, СССР, Чэхаславакіі, Англіі, Францыі, ЗША і іншых краін узняліся на абарону С. В. Прытыцкага. Прыгавор заменены пажыццёвым турэмным зняволеннем. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй у 1939 г. выбраны дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі, дзе выступіў з дакладам аб устанаўленні Савецкай улады на вызваленай тэрыторыі. Па даручэнню і як член Паўнамоцнай камісіі Народнага сходу на 5-й (Нечарговай) сесіі Вярхоўнага Савета СССР выступіў з заявай аб уключэнні Заходняй Беларусі ў СССР і аб'яднанні яе з БССР. З 1939 г. намеснік старшыні Беластоцкага аблвыканкома. У чэрвені — жніўні 1941 г. удзельнічаў у стварэнні абарончых збудаванняў вакол Магілёва і фарміраванні народнага апалчэння ў Гомелі. З жніўня 1941 г. у палітупраўленні Цэнтральнага фронту. У сакавіку 1942 г.— красавіку 1944 г. другі сакратар ЦК ЛКСМБ, з сакавіка 1944 г. намеснік начальніка, начальнік Польскага штаба партызанскага руху. У 1948 г. скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б). У 1949—52 гг., 1953—62 гг. першы сакратар Гродзенскага, Баранавіцкага, Маладзечанскага, Мінскага абкомаў КПБ, у 1952—53 гг. намеснік загадчыка аддзела ЦК КПБ, у 1962—68 гг. сакратар ЦК КПБ, старшыня Камітэта партыйна-дзяржаўнага кантролю ЦК КПБ і СМ БССР, намеснік старшыні СМ БССР. З 1968 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Член ЦК КПСС з 1961 г. Член ЦК КПБ з 1949 г., член Бюро ЦК КПБ з 1960 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1940 г., Вярхоўнага Савета БССР з 1940 г. Аўтар успамінаў аб рэвалюцыйнай барацьбе ў Заходняй Беларусі «У імя шчасця працоўнага народа» (у кнізе «У суровыя гады падполля», 1958 г.), «Асобае заданне» (у кнізе «Вільнюскае падполле», 1966 г.), «Па заданню партыі» (у кнізе «Гады выпрабаванняў і мужнасці», 1973 г.), а таксама «Вясна абнаўлення» (у кнізе «Пад сцягам Вялікага Кастрычніка. Савецкія рэспублікі за сорак гадоў», 1957 г.), «Партызанскі рух на Гродзеншчыне» (у кнізе «Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны», 1959 г.) і інш. Памёр С. В. Прытыцкі 13.6.1971 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названы плошча ў Мінску, вуліцы ў Мінску, Гродне, Баранавічах, Маладзечне, вытворчае аб'яднанне «Азот» у Гродне, завод у Саколцы (ПНР), калгасы ў Бераставіцкім і Маладзечанскім р-нах, школа ў Вялікай Бераставіцы, ваенна-патрыятычны музей школы № 20 г. Мінска. У Мінску на доме, дзе жыў С. В. Прытыцкі, устаноўлена мемарыяльная дошка. Яму прысвечаны раздзел экспазіцыі ў Дзяржаўным музеі БССР, мемарыяльная зала ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. На радзіме створаны музей.



222. *Касцёл кармелітаў. Фрагмент скляпення.*



222. *Касцёл кармелітаў. План.*

У 1977 г. С. В. Прытыцкаму пастаўлены помнік (скульпт. А. Салятыцкі; бетон) — паплечны партрэтны бюст (вышыня 1,6 м) на прамавугольным пастаменце. Натхнёны валявы твар, смелы погляд перадаюць мужны характар камуніста-барацьбіта.

*Літ.:* Анісаў С. Р. Крутымі шляхамі: Запіскі былога камсамольскага работніка-падпольшчыка.— Мн., 1960; Вотковић Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979; Денисевич А. Ю. Орлиное племя.— Мн., 1972; Жизнь, отданная народу.— Мн., 1978.

*Г. Б. Ватковіч.*

**в. Алекшыцы, цэнтр сельсавета**

**225. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Альшчына. За 1 км на ўсход ад вёскі, з правага боку ад дарогі на Гродна, у забалочанай мясцовасці. Пляцоўка па форме блізкая да чатырохвугольніка. Даўжыня трох бакоў 150 м, аднаго — 130 м. З паўночнага ўсходу, паўднёвага ўсходу і паўднёвага захаду балота, уздоўж паўночна-заходняга боку роў шырынёй каля 10 м. Уезд на пляцоўку ў выглядзе насыпу даўжынёй каля 90 м з паўднёвага захаду. З паўночнага захаду праз роў праходзіць больш вузкі праезд. Па вуглах пляцоўкі 4 выступы прамавугольнай ці блізкай да яе формы. Памеры трох выступаў 10×20 м, аднаго (усходняга) 20×20 м. Усходні і паўночны выступы прымыкаюць да пляцоўкі, заходні і паўднёвы за 40 і 20 м ад яе і злучаны з пляцоўкай насыпамі шырынёй 15—20 м. Паміж выступамі ўздоўж паўднёва-заходняга боку пляцоўкі — сажалка прамавугольнай формы (60×20 м). Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга.



225. *Гарадзішча. План.*

Гарадзішча адносіцца да тыпу сярэдневяковых умацаванняў.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды IX Археологического съезда в Вильне. 1893. М., 1895, т. 1.

*Я. Г. Зверуга.*

**226. МЕСЦА МІТЫНГУ СЯЛЯН** (гіст.). 21.8.1930 г. у в. Алекшыцы адбыўся трохтысячны антываенны мітынг сялян. На ім выступілі кіраўнікі рэвалюцыйна-вызваленчай арганізацыі працоўных Заходняй Беларусі «Змаганне» дэпутаты польскага сейма I. С. Дварчанін і Ф. I. Валынец. Яны гаварылі аб прычынах цяжкага становішча рабочых і сялян у буржуазнай Польшчы, аб нацыянальным прыгнёце і жорсткім паліцэйскім тэроры, заклікалі сялян да барацьбы з эксплуататарамі, супраць падрыхтоўкі сусветнага імперыялізму да ваеннага нападу на СССР. У падтрымку прамоўцаў удзельнікі мітынгу скандзіравалі: «Далоў паліцыю!», «Няхай жыве СССР!». Паліцэйскія спрабавалі разагнаць мітынг, але не здолелі. Сяляне, узброеныя камянямі і каламі, пачалі наступаць на паліцэйскіх. Тады яны адкрылі стральбу. Было забіта 2 і каля 30 чалавек паранена. На наступны дзень з Гродна прыбыў карны атрад, які пачаў «уціхамірванне» ў Алекшыцах і навакольных вёсках. У Алекшыцах арыштавана 60 чалавек. Многія сяляне пасля катаванняў у паліцыі былі асуджаны. Арыштаваны і засуджаны I. С. Дварчанін, Ф. I. Валынец.

*Літ.:* Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966.

*Г. Б. Ватковіч.*

**в. Берастам́вічаны, Бераставіцкі пасялковы Савет**

**227. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля клуба. У гонар 36 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Верхаўляны, Алекшыцкі сельсавет**

**228. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, за р. Шэпша, на невялікім узвышшы. Памер (па грэбені вала) з поўначы на поўдзень 31 м, з захаду на ўсход 27,5 м. Пляцоўка авальная, абкружана валам вышынёй 2—3 м. Уезд з заходняга боку. Паміж валам і пляцоўкай з усходняга, паўднёвага і заходняга бакоў знаходзіцца роў, з паўночнага — яма. Адкрыў і абследаваў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1973 г. абследаваў Я. Г. Зверуга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды IX Археологического съезда в Вильне. 1893. М., 1895, т. 1.

*Я. Г. Зверуга.*



229. *Забудова цэнтральнай сядзібы калгаса імя А. М. Варанецкага. Адміністрацыйна-грамадскія будынкі.*

**в. Вялікія Эйсманты, цэнтр Эйсмантаўскага сельсавета**

**229. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ КАЛГАСА ІМЯ А. М. ВАРАНЕЦКАГА** (архіт.). За 28 км на паўночны ўсход ад Вялікай Бераставіцы, за 50 км ад Гродна, 38 км ад чыгуначнай станцыі Бераставіца.

Забудова пачалася ў 1968 г. паводле генеральнага плана, распрацаванага Гродзенскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект». Тэрыторыя забудовы ў плане трохвугольная. Цэнтральная восевая вуліца падзяляе яе на 2 зоны: паўночна-заходнюю — жылую і паўднёва-ўсходнюю — паркавую, дзе размешчаны спартыўны комплекс, сярэдняя школа, Дом піянераў і школьнікаў. Архітэктурна-кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца плошча; тут узведзены двухпавярховы адміністрацыйны будынак, клуб, гандлёвы цэнтр з магазінам, сталовай, лазнева-пральны камбінат, камбінат бытавога абслугоўвання. Дамінанта плошчы — Г-падобны ў плане двухпавярховы будынак клуба з глядзельнай залай на 500 месцаў, пабудаваны паводле



229. *Забудова цэнтральнай сядзібы калгаса імя А. М. Варанецкага. Жылыя дамы.*



229. *Забудова цэнтральнай сядзібы калгаса імя А. М. Варанецкага. Схема планіроўкі.*

эксперыментальнага праекта. Перад будынкам — дэкаратыўны вадаём, пляцоўка выкладзена буйнымі бетоннымі плітамі. Недалёка ад плошчы помнік архітэктуры 19 ст.— касцёл Яна Непамука.

Жылая забудова складаецца з індывідуальных дамоў, двухпавярховых чатырохкватэрных (кожная кватэра на 2 узроўнях) і трохкватэрных секцыйных дамоў. Асаблівасць забудовы — комплексныя гаспадарчыя зоны. У пасёлку дзіцячы сад-яслі на 90 месцаў, бальніца.

Цэнтральная сядзіба калгаса — прыклад сучаснай планіроўкі і забудовы сельскага пасёлка новага тыпу з функцыянальным занiраваннем тэрыторыі. *У. В. Алісейчык.*

230. **КАСЦЁЛ ЯНА НЕПАМУКА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1850 г. з цэглы.

Прамавугольны ў плане аб'ём з кубападобнай алтарнай часткай, да якой далучаны невялікія бакавыя сакрысціі. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным порцікам і трохвугольным франтонам. Па баках уваходнага партала арачныя нішы. Унутраная прастора 4 парамі драўляных слупоў падзелена на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з размалёўкай, бакавыя — плоскай столлю. Інтэр'ер асвятляецца стральчатымі аконнымі праёмамі. Алтар цэнтральнага нефа драўляны, вырашаны ў стылі несапраўднай готыкі, бакавых — з элементамі класіцызму і барока. Над уваходам хоры з арганам.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры з выкарыстаннем элементаў класіцызму і готыкі. *А. М. Кулагін*

**в. Гарбачы, Кватарскі сельсавет**

231. **ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1860 г. з цэглы. Да цэнтральнага кубападобнага аб'ёму па падоўжнай планіровачнай восі далучаны бабінец і паўцыркульная апсіда. У цэнтры і па вуглах пакатага шатровага даху — цыбулепадобныя купалы на барабанах. Галоўны ўваход вылучаны кілепадобным франтонам. У архітэктурным дэкоры фасадаў — лапаткі, какошнікі, цягі, нішы, карнізы. Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Гольні, Алекшыцкі сельсавет**

232. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — абеліск, скульптуры партызана і дзяўчыны, якая ўскладае кветкі, і 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Грыцавічы,**
**Пагранічанскі пасялковы Савет**

233. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 34 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Ёдзічы,**
**Бераставіцкі пасялковы Савет**

234. **ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 21 партызана, якія загінулі тут 9.4.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1983 г. пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Жорнаўка, Канюхоўскі сельсавет**

235. **МЕСЦА БОЮ 1944 г.** (гіст.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі.



230. *Касцёл Яна Непамука.*



230. *Касцёл Яна Непамука. Від на хоры.*



230. *Касцёл Яна Непамука. Інтэр'ер.*

У Вялікую Айчынную вайну 1.2. 1944 г. у вёску для сустрэчы з сувязнымі і гутаркі з жыхарамі прыбылі сакратар Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ В. І. Соламава і член Гродзенскага падпольнага райкома КП(б)Б В. Ф. Бібіч. 2.2.1944 г. гітлераўцы, даведаўшыся пра гэта, акружылі вёску. В. Ф. Бібіч загінуў. В. І. Соламава адстрэльвалася, пакуль не скончыліся патроны, апошні пакінула для сябе.

Пахаваны падпольшчыкі ў Гродне. На месцы іх гібелі ў 1948 г. пастаўлены абеліск. У 1981 г. у цэнтры в. Канюхі ўстаноўлены бюст В. І. Соламавай.

*Літ.:* Тоўсцік А. Камсамольскі камісар.— Маладосць, 1971, № 7.

*Т. Р. Чуракова.*

**в. Канюхі, цэнтр сельсавета**

**236. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 112 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**237. ПОМНІК СОЛАМАВАЙ** Вользе Іосіфаўне (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Скульптурны бюст сакратара Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ В. І. Соламавай пастаўлены ў 1981 г. Гл. артыкулы № 235 «Месца бою 1944 г.» і № 5 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан».

**в. Карпаўцы, Пархімаўскі сельсавет**

**238. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля клуба. На ўшанаванне памяці землякоў — 34 воінаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 8 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Клепачы, Пагранічанскі пасялковы Савет**

**239. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на ўзвышаным правым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Царковішча. Захавалася каля 10 магіл. Выявіў у 1937 г. А. Лявіцкі, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. На некаторых камянях ёсць крыжападобныя знакі. Раскопкі не праводзіліся.




232. *Помнік землякам.*



242. *Помнік землякам.*

**240. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва.

Складаецца з прамавугольных зрубаў бабінца, асноўнага аб'ёму і апсіды з рызніцай. Зрубы аб'яднаны агульным двухсхільным дахам, у цэнтры якога цыбулепадобны купал на васьмігранным барабане, над апсідай — невялікая макаўка. На плоскаснавырашаных фасадах вылучаюцца прамавугольныя аконныя праёмы з разнымі ліштвамі. Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю, над бабінцам — хоры.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**в. Краснае, Пагранічанскі пасялковы Савет**

**241. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Лішкі, Макараўскі сельсавет**

**242. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, у калгасным садзе. Пастаўлены ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 52 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (скульпт. П. Цомпель, А. Веліксонаў, архіт. Ю. Казакоў; бетон; вышыня скульптуры 5 м).

Цэнтрам архітэктурна-скульптурнай кампазіцыі з'яўляецца скульптура босага вязня. Парывіста ўскінутыя ўверх нібы звязаныя рукі, рашучы позірк перадаюць пратэст, нязломную волю да барацьбы. Невялікая пляцоўка, на якой устаноўлена скульптура, выкладзена бетоннымі плітамі. У яе правай частцы 3 прамавугольныя пліты з імёнамі загінуўшых. Да пляцоўкі ад вуліцы вядзе невялікая лесвіца.

*В. В. Церашчатава.*

**в. Макараўцы, цэнтр сельсавета**

**243. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У заходняй частцы вёскі, каля дарогі Індура — Малая Бераставіца. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з дрэва.

Прамавугольныя ў плане асноўны аб'ём і алтарны зруб накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Над стыкамі аб'ёмаў — трохвугольныя застрэшнікі. Галоўны фасад завершаны франтонам. Сцены вертыкальна ашаляваны, з вузкімі нашчыльнікамі, умацаваны сцяжкамі, завершаны аркатурным поясам. Тымпан франтона ашаляваны «ў елку». У верхняй частцы сцен прамавугольныя аконныя праёмы.

Унутраная прастора зальная. У паўночна-ўсходнім вуглу — лесвіца на хоры. Столь плоская. У інтэр'еры 3 драўляныя алтары. Галоўны двух'ярусны, расчлянёны 4 калонамі карынфскага ордэра і спаранымі пілястрамі, упрыгожаны накладной арнаментальнай разьбой, стукавай паліхромнай скульптурай (выявы святых Пятра і Паўла). У кампазіцыі алтара выкарыстаны стылявыя прыёмы барока (раскрапаваны антаблемент, разарваны франтон) і класіцызму. Бакавыя алтары падобныя на галоўны.

На поўдзень ад касцёла стаіць мураваная званіца.

Касцёл — помнік архітэктуры ранняга класіцызму. *У. В. Алісейчык.*



243. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. Галоўны фасад.*



243. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. План.*

**244. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і дзяўчынкі.

**в. Малая Бераставіца, цэнтр сельсавета**

**245. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦІТАШВІЛІ** Геронцію Несцеравічу (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Устаноўлена ў 1982 г. на ўшанаванне памяці камандзіра 230-й мотастралковай дывізіі палкоўніка Г. Н. Цітаішвілі, які загінуў тут у ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**246. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 88 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**247. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы.



243. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. Хоры.*



244. *Помнік землякам.*

Будынак аднапавярховы, атынкаваны. Складаецца з цэнтральнага аб'ёму і драўлянай бакавой прыбудоўкі. Пластычную выразнасць будынку надае мансардавы дах цэнтральнага аб'ёму. Бакавая прыбудоўка накрыта паўвальмавым дахам. Галоўны ўваход вылучаны ганкам з навіссю на 4 слупах. Унутраная планіроўка анфіладна-калідорная.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры барока. *У. В. Алісейчык.*

**в. Масаляны, Алекшыцкі сельсавет**

**248. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 20 м ад дарогі Алекшыцы — Эйсман-



243. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. Алтары.*



247. *Сядзібны дом. Бакавая прыбудоўка.*



247. *Сядзібны дом. План.*

ты, у садзе. На ўшанаванне памяці 28 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**249. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт., маст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1796 г. з каменю і цэглы.



249. *Царква Раства багародзіцы.*



249. *Царква Раства багародзіцы. План.*

Храм падоўжна-восевай кампазіцыі. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прыбудавана алтарная частка, за якой размешчаны больш нізкі паўкруглы аб'ём рызніцы. Галоўны двух'ярусны фасад вылучаны рызалітам з трохвугольным франтонам. Верхні ярус — чатырохгранная вежа з валютамі і шатровым завяршэннем (у 2-й палове 19 ст. завяршэнне перабудавана, зроблены дэкаратыўныя галоўкі). Ніжні ярус аздоблены элементамі ордэрнай пластыкі. Вокны галоўнага фасада прамавугольныя, бакавых — лучковыя. Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю. У заходняй частцы асноўнага аб'ёму вылучаны бабінец з хорамі, якія раскрываюцца ў залу 3 арачнымі праёмамі. Сцены падзелены пілястрамі са спрошчанымі капітэлямі. У інтэр'еры драўляны двух'ярусны іканастас (канец 19 ст.) лаканічны па кампазіцыйнай будове і дэкору: расчлянёны паўкалонамі карынфскага ордэра, прафіляваным карнізам. Верхні ярус абрамлены пазалочанай арнаментальнай разьбой (перапляценне акантавага ліста).

Царква — помнік архітэктуры позняга барока з элементамі класіцызму.

*У. В. Алісейчык, В. В. Церашчатава.*

**в. Муравана, Алекшыцкі сельсавет**

**250. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Створана ў 2-й палове 19 ст. Цяпер тут размешчана навучальная ўстанова.

У сіметрычна-восевай планіроўцы сядзібы вылучаны 3 зоны: жылая, гаспадарчая і паркавая. Цэнтр комплексу — мураваны двухпавярховы сядзібны дом. Перад яго галоўным фасадам — прамавугольны парадны партэр, да якога вядзе ўязная дубовая алея. Перад домам сіметрычна размешчаны 2 драўляныя атынкаваныя флігелі — аднапавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі з вальмавымі дахамі і вокнамі ў разных ліштвах. За сядзібным домам — лесапарк з 3 сажалкамі і каналам, сістэмай алей. З гаспадарчых пабудоў захаваўся млын (1874 г.) — прамавугольны ў плане мураваны будынак, накрыты высокім двухсхільным чарапічным дахам.



249. *Царква Раства багародзіцы. Хоры.*



250. *Сядзіба. Схема планіроўкі.*



250. *Сядзібны дом.*



250. *Сядзібны дом. План.*

С я д з і б н ы  д о м прамавугольны ў плане. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная, трохчасткавая. Цэнтральная частка вылучана 4 пілястрамі, антабламентам і франтонам. Фрыз упрыгожваюць трыгліфы, характэрныя для ампіра разеткі і рэльефныя выявы антычных атрыбутаў (вянкі, пучок маланак Зеўса, рымскі шлем, лук і калчан са стрэламі, ліктарскія сякеркі). У верхняй частцы сцен паміж пілястрамі — тонкі ляпны арнамент. Галоўны ўваход з навіссю на 4 калонах (не збярогся) размяшчаўся па цэнтральнай восі будынка. Вокны прамавугольныя з прафіляванымі ліштвамі. Унутраная планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў. Ва ўсходняй частцы будынка — лесвічная клетка. Перакрыцці памяшканняў плоскія, на 1-м паверсе ў адным пакоі крыжовае скляпенне. Першапачатковы інтэр'ер не захаваўся.



250. *Сядзіба. Куток парку.*

Парк разбіты вакол прамавугольных сажалак, размешчаных франтальна сядзібнаму дому. Самая вялікая з іх з астраўком — па цэнтральнай восі сядзібы прымыкае да ляснога масіву. Сажалкі злучае канал, які абмяжоўвае парк з паўночнага боку. Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў: ліпа, таполі, клён, вольха, ёсць арэшнік, белая акацыя.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Паплаўцы, Бераставіцкі пасялковы Савет**

**251. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 52 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Пархімаўцы, цэнтр сельсавета**

**252. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. Горкага, у скверы. На ўшанаванне памяці 12 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры партызана, дзяўчынкі, што ўскладае кветкі, і стэла.

**в. Паўлюшкі, Кватарскі сельсавет**

**253. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 33 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Пыхоўчыцы, Алекшыцкі сельсавет**

**254. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 32 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Рымуцеўцы, Эйсмантаўскі сельсавет**

**255. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 40 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Стары Дворац, Пархімаўскі сельсавет**

**256. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 11 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Цэяроўка, Пагранічанскі пасялковы Савет**

**257. МАГІЛА АНОХІНА** Ільі Няфёдавіча (гіст.). За 6 км на захад ад вёскі.

Савецкі пагранічнік І. Н. Анохін нарадзіўся ў 1924 г. у г. Серпухаў Маскоўскай вобл. Працаваў рабочым на заводзе. На пагранзаставе быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. 21.10.1946 г. яфрэйтар І. Н. Анохін узначальваў пагранічны нарад. Каля шашы Ваўкавыск — Беласток выявіў банду ворагаў Савецкай улады, якая прарывалася за мяжу, і праследаваў яе да падыходу падмацавання. Быў смяротна паранены.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефным партрэтам І. Н. Анохіна.

*Т. Р. Чуракова.*




261. *Помнік землякам.*

**258. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі на фронце, закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1949 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Шаляпкі, Бераставіцкі пасялковы Савет**

**259. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 53 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Эймінаўцы, Пархімаўскі сельсавет**

**260. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 26 аднавяскоўцаў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ярмолічы, Эйсмантаўскі сельсавет**

**261. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 25 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

# ВАЎКАВЫСКІ РАЁН




Воўпа
Плябанаўцы
Рэпля
Рось
Вярэйкі
Краснасельскі
Майсеевічы
Мачуліна
Субачы
Шылавічы
ВАЎКАВЫСК
Войткавічы
Раднікі
Гнезна
Хацькоўцы
Ізабелін
Улезлы
Каменіца
Падароск

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, (барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## V. ВАЎКАВЫСК

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Рось, за 85 км ад Гродна. Вузел чыгунак на Баранавічы, Масты, Бераставіцу, Свіслач і аўтамабільных дарог на Масты, Слонім, Бераставіцу, Ружаны. Аэрапорт. Назва горада ад р. Ваўкавыя.

Ваўкавыск (летапісны Волковыескъ) узнік у канцы 10 ст. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. як крэпасць на заходняй мяжы старажытнарускай дзяржавы. У 1-й палове 12 ст. Ваўкавыск набыў рысы горада. Захаваліся дзядзінец (Шведская Гара) і вакольны горад (Замчышча). Каля іх знаходзіліся неўмацаваныя паселішчы. Археалагічныя даследаванні сведчаць аб высокім узроўні развіцця розных рамёстваў (асабліва апрацоўка жалеза і разьба па косці), гандлёвых сувязях з Падняпроўем і Валынню. У 13 ст. горад з'яўляўся аб'ектам барацьбы паміж галіцка-валынскімі і літоўскімі князямі. У 1256 г. ваўкавыскі князь Глеб разам з навагародскім князем Раманам і свіслацкім князем Ізяславам удзельнічаў у паходзе на яцвягаў. З пачатку 14 ст. Ваўкавыск у складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1410 г. горад быў захоплены і спалены тэўтонскімі рыцарамі. З 1507 г. цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. У 1503 г. атрымаў магдэбургскае права. У час войнаў сярэдзіны 17 — пачатку 18 ст. неаднаразова спалены. У 1762 г. у Ваўкавыску было 112 дамоў, у 1792 г.— 2172 жыхары, 362 дамы. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета.

У Айчынную вайну 1812 г. з чэрвеня да 15 лістапада акупіраваны і разбураны напалеонаўскімі войскамі. Пасля вызвалення ў ім засталося 702 жыхары, 48 дамоў. Горад хутка аднаўлены. У 1825 г. колькасць насельніцтва павялічылася да 1685 чалавек, дамоў на 193. Былі адкрыты 5 прамысловых прадпрыемстваў. У сярэдзіне 19 ст. (1849 г.) у Ваўкавыску 2267 жыхароў, 461 дом (у т. л. 5 цагляных), 4 прамысловыя прадпрыемствы (56 рабочых), 48 рамеснікаў, прыходскае вучылішча, бальніца. Паводле перапісу 1897 г.— 10 323 жыхары (пісьменных 57,6 %), у 1914 г.— 16 757 жыхароў, 1160 дамоў (у т. л. 263 цагляныя). У 1904 г. на 22 фабрыках працавалі 200 рабочых. У пачатку 20 ст. Ваўкавыск стаў буйным чыгуначным вузлом, штогод перавозілася да 26 млн. пудоў грузаў, да 10 тыс. пасажыраў, пры чыгуначнай станцыі былі майстэрні. Першае вялікае рэвалюцыйнае выступленне пралетарыяту адбылося ў 1904 г., калі ўсе рабочыя не выйшлі на працу і святкавалі 1 Мая. Працоўныя горада ўдзельнічалі ў Рэвалюцыі 1905—07 гг. У час Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкі і Снежаньскага ўзброенага паўстання дзейнічаў стачачны камітэт, які ўзяў пад свой кантроль чыгуначную станцыю і не прапускаў вайсковыя саставы. З восені 1915 г. Ваўкавыск акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. 24.7.1920 г. вызвалены Чырвонай Арміяй, 25.7.1920 г. створаны рэўком. 27.9.1920 г. горад зноў акупіраваны польскімі войскамі. Да верасня 1939 г. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Беластоцкага ваяводства. У горадзе дзейнічалі акруговыя камітэты КПЗБ і КСМЗБ, арганізацыя КПЗБ на чале з гаркомам, у 1925 г. створаны камуністычныя ячэйкі ў мясцовым вайсковым гарнізоне. У 1939 г. у Ваўкавыску 16,7 тыс. жыхароў, чыгуналіцейны завод, 2 пільні, 2 цагельні, мясакамбінат і інш. дробныя прадпрыемствы. З канца 1939 г. у складзе БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр раёна. З чэрвеня 1941 г. да 14.7. 1944 г. акупіраваны і на 80 % разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Фашысты загубілі тут каля 20 тыс. чалавек. З 28.11.1943 г. да 16.7.1944 г. у раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ.

Сучасны Ваўкавыск складаецца з 2 частак — паўночна-ўсходняй (уласна горад) і паўднёва-заходняй (каля чыгуначнай станцыі Ваўкавыск-Цэнтральны). Паводле генплана 1978 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) прадугледжваецца развіццё горада, грамадскага цэнтра ў паўднё-



V. *Плошча Леніна.*



V. *Забудова вуліцы Савецкай*

ва-заходнім напрамку з вылучэннем 4 жылых раёнаў: цэнтральнага, заходняга, усходняга, паўднёвага, стварэнне зоны адпачынку са штучнымі вадаёмамі на р. Ваўкавыя. Цэнтр — пл. Леніна. Адміністрацыйна-грамадскія будынкі размешчаны па вуліцах Савецкай, Леніна, Першамайскай, Жолудзева, Кастрычніцкай. У цэнтральнай частцы будуюцца шматпавярховыя дамы. Новы мікрараён ствараецца па вул. Сацыялістычнай.

У горадзе: малочнакансервавы камбінат дзіцячых прадуктаў, мясакамбінат, кансервавы завод, хлебазавод, заводы ліцейнага абсталявання і металавырабаў, «Ваўкавыскцэментнашыфер» (г. п. Краснасельскі), вытворчыя аб'яднанні будаўнічых матэрыялаў і птушкагадоўлі. Працуюць 2 сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы (саўгас-тэхнікум, педагагічнае вучылішча), 6 сярэдніх, 2 рабочай моладзі, музычная, 2 дзіцячаюнацкія спартыўныя школы, 10 дашкольных устаноў, 4 бібліятэкі, ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна, Дом культуры, 3 клубы, 3 кінатэатры, стадыён, 4 бальнічныя ўстановы, 2 дыспансеры, дзіцячы санаторый «Ваўкавыск», санітарна-эпідэміялагічная станцыя, 3 аптэкі, метэастанцыя. Выдаецца газета «Знамя Октября».

Помнікі: У. І. Леніну; П. І. Баграціёну; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на брацкай магіле 4302 савецкіх ваеннапалонных; на магіле больш як 4 тыс. жыхароў Ваўкавыска і раёна, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі і інш.




262. *Помнік на брацкай магіле савецкіх ваеннапалонных.*



263. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Зона адпачынку — уздоўж рэк Рось і Ваўкавыя, лесапарк «Сасновы Бор», у раёне вадасховішча.

*Літ.:* Булгаковский Д. Исторический очерк Волковысского, уездного города Гродненской губернии.— Вильна, 1882; Зверуго Я. Г. Древний Волковыск X—XIV вв.— Мн., 1975; Тарасенко В. Р. Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Гашимов М. М., Гриченок Т. А., Флякс Я. В. Волковыск: Историко-экономический очерк.— Мн., 1978.

*Я. Г. Звяруга, Э. М. Савіцкі, Т. І. Чарняўская.*

**262. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Мядзведзева. У чэрвені 1941 г. гітлераўцы стварылі ў горадзе лагер для ваеннапалонных. Зняволеных трымалі пад адкрытым небам, марылі голадам, прымушалі выконваць непасільныя работы. Гітлераўцы закатавалі ў лагеры 4302 ваеннапалонных. У 1950 г. за 0,5 км ад былога лагера ваеннапалонных на магіле закатаваных вязняў пастаўлены абеліск.

**263. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Жолудзева, каля аўтавакзала. Пахаваны Героі Савецкага Саюза Віктар Васілевіч Еўдакімаў і Віктар Рыгоравіч Жолудзеў, камандуючы артылерыяй 40-га стралковага корпуса палкоўнік Сяргей Афанасьевіч Мядзведзеў, які загінуў у баі 21.7.1944 г.

В. В. Еўдакімаў нарадзіўся 14.8.1911 г. у г. Краснадар. Член КПСС з 1941 г. Скончыў Сталінградскае авіяцыйнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік баёў пад Масквой, Сталінградам, Курскам, у Польшчы і Усходняй Прусіі. Камандзір эскадрыллі авіяпалка далёкага дзеяння гвардыі маёр В. В. Еўдакімаў зрабіў 231 баявы вылет, вызначыўся пры вызваленні Беларусі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.8.1944 г. Памёр ад ран 20.9.1945 г. Імем В. В. Еўдакімава названа вул. у Ваўкавыску.

В. Р. Жолудзеў нарадзіўся 22.3. 1905 г. у г. Угліч Яраслаўскай вобл. З рабочых. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1921 г. У 1929 г. скончыў камандныя курсы, у 1930—1934 гг.— курсы ўдасканалення каманднага саставу, у 1938—40 гг. вучыўся ў Ваеннай акадэміі імя Фрунзе. У Вялікую Айчынную вайну на Паўднёва-Заходнім, Данскім, Сталінградскім, Цэнтральным, Бранскім і 1-м Беларускім франтах. Камандзір 35-га стралковага корпуса генерал-маёр В. Р. Жолудзеў вызначыўся ў Беларускай аперацыі 1944 г. У чэрвені 1944 г. корпус пад яго камандаваннем фарсіраваў р. Друць каля в. Азяраны Рагачоўскага р-на, прарваў варожую абарону, у імклівым наступленні перарэзаў шашу Магілёў — Бабруйск, фарсіраваў рэкі Ольса і Бярэзіна, удзельнічаў у вызваленні Мінска. Загінуў у баі каля г. Ваўкавыск 21.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 11.11. 1944 г. Імем В. Р. Жолудзева названа вуліца ў Ваўкавыску, каля будынка школы № 1 устаноўлены бюст героя.

У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск і ўстаноўлены надмагіллі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**264. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Жолудзева, у скверы. Пахаваны 38 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**265. БРАЦКАЯ МАГІЛА СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны 3 супра-



264. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

цоўнікі міліцыі, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў у 1945 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**266. БРАЦКАЯ МАГІЛА СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны 2 супрацоўнікі міліцыі, якія загінулі ў 1944, 1948 г. пры выкананні службовых абавязкаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**267. ВАЦЛАЎСКІ КАСЦЕЛ** (архіт., маст.). На вул. К. Маркса. Пабудаваны ў 1846—48 гг. з цэглы. Тэрыторыя абнесена агароджай з бутавага каменю і металічнай рашоткі. Галоўны ўваход вылучаны трохпралётнай мураванай аркай. Храм у плане прамавугольнай формы. Усходняя частка з прамавугольнай апсідай і 2 сакрысціямі. У заходняй частцы абапал галоўнага ўвахода — 2 невялікія памяшканні, над якімі размешчаны хоры. Галоўны (заходні) фасад двухвежавы. Цэнтральная яго частка вылучана чатырма пілястрамі, бакавыя вырашаны як асновы аднаярусных чатырохгранных вежаў, фланкіраваны пілястрамі і завершаны трыгліфным фрызам і карнізам з сухарыкамі. Паміж вежамі атык крывалінейнага абрысу. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны пілястрамі і дэкарыраваны арачнымі паяскамі, якія абрамляюць паўцыркульныя аконныя праёмы.

У інтэр'еры 2 рады калон (па 3 у кожным) утвараюць 3 нефы. Перакрыцце бэлечнае. Цэнтральны алтар вылучаны 4 калонкамі і дэкарыраваны скульптурай (св. Пётр і Павел; 19 ст., дрэва), ляпным арнаментам і размалёўкай. 2 бакавыя алтары па канструкцыйным вырашэнні паўтараюць цэнтральны, аздоблены вітражамі.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*



267. *Вацлаўскі касцёл.*



267. *Вацлаўскі касцёл. План.*



267. *Вацлаўскі касцёл. Інтэр'ер.*

**268. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай М у р а в е л ь н і к. На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада. За 0,5 км на ўсход ад гарадзішча Шведская Гара. Пляцоўка авальная ў плане, памерам 60×120 м. Умацавана па перыметры валам вышынёй да 3 м. У паўднёва-заходняй частцы вала прасочваецца ўезд. У паўднёвай частцы пляцоўкі — упадзіна памерам 20×35 м, глыбінёй 5—6 м. Абследаваў у 1959 г. П. А. Рапапорт, даследаваў у 1965—71 гг. Я. Г. Зверуга. Раскапана 1024 м² плошчы. Культурны пласт да 2 м толькі каля вала. Выяўлены абпаленыя камяні і гліна, прасочаны рэшткі паўзямлянкавых жытлаў, знойдзены наканечнік кап'я, шпоры з шыпам у выглядзе круглага стрыжня, наканечнікі стрэл — ланцэтападобны, двухшыпавы, ромбападобны і трохгранны з простым упорам, гліняныя і шыферныя праслíцы, кераміка, вырабы з косці, рогу і дрэва і інш. Адносіцца да 10—11 стагоддзяў, належала ўсходнім славянам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* З в е р у г о Я. Г. Древний Волковыск. X—XIV вв.— Мн., 1975.

*Я. Г. Зверуга.*

**269. ГАРАДЗІШЧА І ЗАМЧЫШЧА** (археал.).

**269а.** Г а р а д з і ш ч а. Вядома пад назвай Ш в е д с к а я Г а р а. На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада. Вышыня 28—32,5 м. Пляцоўка амаль круглай формы, памерам 55×50 м, абкружана магутным валам вышынёй да 7 м. З паўднёвага боку вала ёсць уезд. Даследавалі ў 1925 г. Ю. Ядкоўскі, у 1954 г. В. Р. Тарасенка, у 1965—66 гг. Я. Г. Зверуга. Ускрыта 540 м² плошчы. Культурны пласт ад 0,6 м у цэнтральнай частцы пляцоўкі да 3,5 м каля вала. Адкрыты паўзямлянкавыя і наземныя жытлы ў выглядзе рэшткаў драўляных зрубаў памерам 4×3,5 м з печамі-каменкамі. У культурным пласце знойдзены ганчарная кераміка, жалезныя шпоры, цёслы, разнастайныя наканечнікі стрэл, наканечнікі коп'яў, вырабы з косці і рогу, шкла і бурштыну, сельскагаспадарчыя прылады і інш. Адносіцца да 10 — пачат-



268. *Гарадзішча.*



268. *Гарадзішча. План.*



269. *Гарадзішча і замчышча. План.*

ку 14 ст., дзядзінец старажытнаруска-га Ваўкавыска.

**269б.** Замчышча. На захад ад гарадзішча Шведская Гара. Пляцоўка ў плане блізкая да трапецыі, прымыкае да гарадзішча. З боку поля ўмацавана валам вышынёй да 5 м. Даследавалі ў 1925 г. Ю. Ядкоўскі, у 1948—58 гг. Г. І. Пех, у 1954—56 гг. В. Р. Тарасенка, у 1959 г. П. А. Рапапорт, у 1965, 1967 гг. Я. Г. Звяруга, у 1966 г. М. К. Каргер. Раскапана 2196 м². Культурны пласт 0,3—2,1 м. Выяўлены рэшткі падмурка старажытнай царквы, жытлаў паўзямлянкавага тыпу з печамі-каменкамі ў вуглу. Знойдзены вырабы з жалеза (рэчы з рыштунку конніка і каня, нажы, рэшткі замкоў, ключы, рыбалоўныя кручкі і сякеры, нажніцы), вырабы з рогу і косці, шкла і бурштыну, каляровых металаў, арабскі дырхем. Адносіцца да канца 10—14 ст., з'яўляецца вакольным горадам старажытнага Ваўкавыска.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Ленінградскім аддзяленні Інстытута археалогіі АН СССР, Інстытуце гісторыі АН БССР і Ваўкавыскім ваенна-гістарычным музеі імя П. І. Баграціёна.

*Літ.:* Тарасенко В. Р. Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Каргер М. К. К вопросу о памятниках зодчества XII в. в Волковыске.— У кн.: Славяне и Русь. М., 1968; Зверуго Я. Г. Древний Волковыск X—XIV вв.— Мн., 1975.

*Я. Г. Звяруга.*

**270. ДОМ, НАД ЯКІМ БЫЎ УЗНЯТЫ СЦЯГ ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). Вул. Савецкая, 94.

Развіваючы наступленне на Беластоцкім напрамку, воіны 40-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту 13.7.1944 г. выйшлі на падступы да Ваўкавыска. Гітлераўцы імкнуліся ўтрымаць горад, перакінулі сюды 2 пяхотныя дывізіі. У ноч на 14 ліпеня пачаліся цяжкія баі. Штурмавая група пад камандаваннем маёра А. І. Барычэўскага першай уварвалася ў Ваўкавыск, захапіла цэнтр горада і ўтрымлівала яго да падыходу асноўных сіл батальёна; знішчыла каля 200 салдат і афіцэраў, 50 агнявых кропак і 8 процітанкавых гармат ворага. З паўночнага ўсходу горад штурмавалі воіны 169, 5, 129-й стралковых дывізій. На гэтым участку вораг аказаў асабліва ўпартае супраціўленне. У вулічных баях праціўнік страціў да 3000 салдат і афіцэраў. Першымі ў горад з паўночнага ўсходу ўварваліся воіны 457-га гвардзейскага стралковага палка Л. Сядоў і А. Хабараў. Яны ўзнялі над домам № 94 па вул. Савецкай чырвоны сцяг вызвалення. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях за вызваленне Ваўкавыска, А. І. Барычэўскаму, С. М. Крыпіну, Г. М. Мядзведзеву, К. Б. Нуржанаву, А. М. Раю прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 11 вайсковым часцям і злучэнням пададзена ганаровае найменне «Ваўкавыскіх».

У 1965 г. на доме, над якім быў узняты сцяг, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *М. М. Казлоўская.*

**271. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА АНТЫФАШЫСЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА КАМІТЭТА** (гіст.). Вул. Польная, 7.

З лютага 1942 г. да лютага 1944 г. у доме Р. П. Дзямідка знаходзілася явачная кватэра падпольнага антыфашысцкага камітэта. Камітэт створаны ў лютым 1942 г. з мясцовых патрыётаў. Старшыня М. М. Уладыка, члены М. І. Паўлоўскі, Ф. А. Курза, А. А. Васіцкі, С. Ф. Пілат, В. І. Крачко і В. І. Сарока. Падпольшчыкі збіралі зброю, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, рабілі дыверсіі на дарогах, падарвалі цягнік каля чыгуначнай станцыі Рось, кампрэсар на цэментным заводзе ў г. п. Краснасельскі, вызвалялі ваеннапалонных з Ваўкавыскага лагера смерці. У 1943 г. гітлераўцы арыштавалі і расстралялі старшыню камітэта М. М. Уладыку. Камітэт узначаліў М. І. Паўлоўскі. У лютым 1944 г. яшчэ некалькі членаў камітэта былі арыштаваны. Астатнія працягвалі барацьбу ў партызанскіх атрадах.

У 1976 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975. *М. М. Казлоўская.*

**272. МАГІЛА БАРЫСІКА** Мікалая Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Малодшы лейтэнант міліцыі М. Р. Барысік загінуў у 1947 г. пры выкананні службовых абавязкаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**273. МАГІЛА МУДРЭНКІ** Якава Кірылавіча (гіст.). На могілках. Камандзір 475-га армейскага мінамётнага палка падпалкоўнік Я. К. Мудрэнка загінуў 14.7.1944 г. у баі за вызваленне Ваўкавыска. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — абеліск і гармата. Імем Я. К. Мудрэнкі ў Ваўкавыску названа вуліца.

**274. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад горада, ва ўрочышчы Парахоўня. У 3 магілах пахаваны больш за 4 тыс. жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — мясцовыя актывісты, расстраляныя ў пачатку ліпеня 1941 г., члены Нізянскай падпольнай камсамольскай арганізацыі, расстраляныя гітлераўцамі ў 1942 г. У 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызанкі, у 1966 г. на магілах пастаўлены абеліскі. Гл. таксама артыкул № 338 «Мемарыяльная дошка ў гонар камсамольцаў-падпольшчыкаў».

**275. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Савецкая, 46. Устаноўлена ў 1966 г. на ўшанаванне памяці 10 су-



**269а.** *Гарадзішча Шведская Гара.*

працоўнікаў міліцыі, якія загінулі ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады ў 1945—47 гг.

**276. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Вул. Жолудзева, 1. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку райвыканкома, дзе ў снежні 1939 г. адбыўся арганізацыйны сход Ваўкавыскай раённай партыйнай арганізацыі, на якім быў выбраны Ваўкавыскі райком КП(б)Б (сакратар І. М. Бляеў).

**277. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РАЙКОМА ЛКСМБ** (гіст.). Вул. Жолудзева, 1. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку райвыканкома, дзе ў студзені 1940 г. адбылася камсамольская канферэнцыя, на якой выбраны Ваўкавыскі райком ЛКСМБ (сакратар П. І. Андросаў).

**278. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Жолудзева. Устаноўлена ў 1967 г. 25—26.6.1941 г. воіны 3-й (камандуючы генерал-лейтэнант В. І. Кузняцоў) і 10-й (камандуючы генерал-маёр К. Дз. Голубеў) армій Заходняга фронту абаранялі горад ад нямецка-фашысцкіх войск. У арганізацыі абароны і вывадзе часцей армій з акружэння ўдзельнічаў генерал-лейтэнант інжынерных войск Дз. М. Карбышаў.

**279. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УЛАДЫКУ** Мікалаю Міхайлавічу (гіст.). На будынку канторы вагоннага дэпо. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці арганізатара і старшыні Ваўкавыскага антыфашысцкага падпольнага камітэта М. М. Уладыкі, які ў 1939—41 гг. працаваў цесляром у вагонным дэпо.

**280. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ ВАЎКАВЫСКАГА ПАВЯТОВАГА РЭЎКОМА** (гіст.). Рэўком створаны 25.7.1920 г. Члены: А. І. Зонін (старшыня), А. М. Айон, А. М. Гайліт (намеснік), П. А. Ляхоўскі, П. І. Карасёў, М. І. Слесарскі, І. А. Шкулепа, А. П. Якубчык, Р. П. Міхале, М. П. Крумін, Д. І. Уткес, Д. М. Пузырэўскі, І. І. Хмяльніцкі, В. С. Манчык, М. М. Іваноў, В. А. Aгановіч, І. С. Ражанскі, К. У. Шэўчык. 26 ліпеня адбылося першае пасяджэнне, на якім былі прыняты загад аб пераходзе ўлады ў павеце да рэўкома, зварот да грамадзян горада і вёсак, план стварэння валасных рэўкомаў і інш. Рэўком праводзіў вялікую работу па наладжванню разбуранай гаспадаркі. Была адноўлена работа механічнага завода, узяты на ўлік 82 маёнткі, у верасні 1920 г. у валасцях створаны харчовыя аддзелы. Пад кіраўніцтвам рэўкома былі арганізаваны прафсаюзы: будаўнікоў (119 чалавек), гарбароў (129), харчавікоў (59), савецкіх служачых (509). 6 жніўня ў горадзе адкрыты рабочы дом імя Леніна. У Ваўкавыску за месяц было праведзена 4 суботнікі. Дзейнасць рэўкома перапынена 23.9. 1920 г., калі Чырвоная Армія вымушана была пакінуць Ваўкавыск. Рэўком эвакуіраваўся на ўсход і спыніў сваю работу 12.10.1920 г.



270. *Дом, над якім быў узняты сцяг вызвалення.*



285. *Помнік У. І. Леніну.*

*Літ.:* Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 2.— Мн., 1971; Петриков П. Т. Ревкомы Белоруссии.— Мн., 1975; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957.
*М. М. Казлоўская, В. Б. Караткевіч.*

**281. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ ПРАЦОЎНЫХ У 1905 г.** (гіст.). Пад уплывам агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху, агітацыйна-прапагандысцкай дзейнасці бальшавікоў працоўныя Ваўкавыска прынялі актыўны ўдзел у 1-й рускай рэвалюцыі 1905—07 гг. У знак пратэсту супраць крывавай расправы царызму з пралетарыятам Пецярбурга працоўныя Ваўкавыска 16.1.1905 г. правялі аднадзённую забастоўку. Найбольш масавы характар рэвалюцыйны рух у горадзе набыў у час Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкі і Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. Тут адбыліся мітынгі, дэманстрацыі рабочых, не працавалі прадпрыемствы, навучальныя ўстановы. Усё жыццё горада ўзяў пад свой кантроль стачачны камітэт. 8 снежня з мэтай падтрымкі маскоўскага пралетарыяту на чыгуначнай станцыі Ваўкавыск быў створаны часовы камітэт Баранавіцкага аддзялення Усерасійскага чыгуначнага саюза служачых. У перыяд з 8 па 14.12. 1905 г. станцыя цалкам знаходзілася пад кантролем камітэта. Яго члены адхілілі ад работы начальніка станцыі, іншых службовых асоб, кіравалі рухам паяздоў, затрымлівалі вайсковыя саставы.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962.
*Э. М. Савіцкі.*

**282. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры горада, на вул. Леніна. Пабудавана ў 1874 г. з цэглы. Асноўны аб'ём храма васьмігранны, да яго далучаны прамавугольныя ў плане апсіда і бабінец. На галоўным фасадзе шасцігранная аднаярусная званіца, завершаная шатром з галоў-

кай. Сцены асноўнага аб'ёму прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, аздобленымі какошнікамі, апсіды і бабінца — прамавугольнымі. Інтэр'ер зальны, столь плоская. Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

283. **ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Жолудзева. 14.7.1944 г. воіны 40-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту авалодалі важным апорным пунктам ворага і буйным чыгуначным вузлом г. Ваўкавыск. 11 часцям і злучэнням, якія вызначыліся ў баях за вызваленне горада, нададзена найменне «Ваўкавыскіх». У 1967 г. у гонар вызвалення горада пастаўлены абеліск.

284. **ПОМНІК ЖОЛУДЗЕВУ** Віктару Рыгоравічу (гіст.). На вул. Школьнай, каля сярэдняй школы № 1. Бюст Героя Савецкага Саюза В. Р. Жолудзева ўстаноўлены ў 1976 г. Гл. таксама артыкул № 263 «Брацкая магіла савецкіх воінаў».

285. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

286. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.) На вул. Жолудзева, каля сярэдняй школы № 5. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

287. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. імя 129-й Арлоўскай дывізіі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

288. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Школьнай, каля сярэдняй школы № 1. Помнік У. І. Леніну ўстаноўлены ў 1965 г.

289. **СЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад гарадзішча Шведская Гара, на беразе вадасховішча. Выявіў у 1949 г. Г. І. Пех, абследавалі ў 1951 г. С. А. Тараканава, у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Пры зачыстцы культурнага пласта знойдзена кераміка: ляпная штрыхаваная першых стагоддзяў н. э., гладкасценная слоікавай формы 5—7 стагоддзяў, ганчарная з лінейным і хвалістым арнаментам, падобная па форме і арнаментацыі на посуд з гарадзішча Шведская Гара і Замчышча. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Тараканова С. А. Археологическая разведка по Неману.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М., 1955, в. 57.

*Я. Г. Звяруга.*

290. **СТАЯНКА** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, на выступе правабярэжнай пясчанай тэрасы р. Рось, вышынёй 2 м. За 0,3 км на поўдзень ад моста цераз раку. Памер 80×150 м. Вядома з 1922 г., абследаваў у 1984 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены абломкі ляпных пласкадонных гаршкоў са штрыхаванай паверхняй і крамянёвыя нажы, скрабкі, праколкі. Адносіцца да позняга бронзавага веку, датуецца 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным археалагічным музеі ў Варшаве (ПНР) і ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*



**291.** *Сядзібны дом.*



**291.** *Сядзібны дом. План.*



**291.** *Помнік П. І. Баграціёну.*

291. **СЯДЗІБНЫ ДОМ** (Дом Баграціёна; архіт., гіст.). Вул. Баграціёна, 10. Пабудаваны ў 1805 г. У 2-й палове 19 ст. тут была гарадская бальніца, потым прытулак для састарэлых. У пачатку 20 ст. належаў прыватным уладальнікам. У Вялікую Айчынную вайну разбураны. У 1949 г. адноўлены, унутраная планіроўка зменена. З 1949 г. у доме размешчаны Ваўкавыскі ваенна-гістарычны музей, з 1953 г. імя П. І. Баграціёна.

Прамавугольны ў плане драўляны аднапавярховы будынак накрыты высокім вальмавым дахам. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтральная частка з мансардай вылучана чатырохкалонным мураваным порцікам, завершаным франтонам крывалінейнага абрысу. Мансарда выходзіць на галоўны фасад шырокім балконам з драўлянай агароджай. Планіроўка анфіладная, у цэнтры — вестыбюль з лесвіцай.

У Айчынную вайну 1812 г. з 10 да 17 чэрвеня ў доме знаходзілася штаб-кватэра камандуючага 2-й Заходняй арміяй П. І. Баграціёна.

Пётр Іванавіч Баграціён — князь, рускі генерал ад інфантэрыі (1809 г.), герой Айчыннай вайны 1812 г. Нарадзіўся ў 1765 г. у г. Кізляр у сям'і палкоўніка. На ваеннай службе з 1782 г. Служыў на Каўказе, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1787—91 гг. і Польскай кампаніі 1793—94 гг. Асабліва вызначыўся ў Італьянскім і Швейцарскім паходах А. В. Суворава (1799 г.), у пераходзе цераз Альпы. У час вайны з Францыяй 1805—07 гг. узначальваў ар'ергард рускай арміі, вызначыўся пры Шэнграбене, Прэйсіш-Эйлау і Фрыдландзе. З сакавіка 1812 г. камандаваў 2-й Заходняй арміяй, якая размяшчалася на тэрыторыі Беларусі. 17.6.1812 г. умелым манеўрам вывеў армію з-пад удару намнога большых сіл ворага ў напрамку Зэльва — Слонім — Навагрудак — Нясвіж — Слуцк — Бабруйск — Магілёў на злучэнне з 1-й Заходняй арміяй пад Смаленскам. У баях на тэрыторыі Беларусі каля Воранаў, Закрэўшчыны, Гудзевіч, Карэліч, Міра, Раманава, Салтанаўкі рускія войскі пад камандаваннем Баграціёна нанеслі значныя страты праціўніку. Ваенны талент Баграціёна асабліва праявіўся пад Нясвіжам і Нова-Быхавам, калі ён бліскучымі манеўрамі выратоўваў рускую армію ад разгрому. У Барадзінскай бітве 1812 г. камандаваў левым крылом рускіх войск, быў цяжка паранены, 12.9.1812 г. памёр у с. Сімы Уладзімірскай губерні. У 1839 г. прах перанесены на Барадзінскае поле. Імем П. І. Баграціёна названа вуліца ў Ваўкавыску.

У 1957 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка, перад домам пастаўлены бюст П. І. Баграціёна.

*Літ.:* Генерал Багратион: Сб. документов и материалов.— Л., 1945; Ростунов И. И., П. И. Багратион: Очерк полководческой деятельности.— М., 1957; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г.— Мн., 1962; Орловский Е. Ф. Гродненская губерния в 1812 году: Исторический очерк.— Гродно, 1912.

*Э. М. Савіцкі, Т. І. Чарняўская.*

**в. Андрэевічы, Гнезнаўскі сельсавет**

**292. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СЯЎКО** Паўлу Антонавічу (гіст.). На будынку чыгуначнай станцыі. Устаноўлена ў 1975 г. П. А. Сяўко працаваў на чыгуначнай станцыі Андрэевічы, актыўна змагаўся за ўстанаўленне Савецкай улады ў Заходняй Беларусі. У 1940 г. выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, у 1947 г.— дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. У 1948 г. забіты ворагамі Савецкай улады.

**в. Ашмянцы, Ваўкавыскі сельсавет**

**293. КУРГАН** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад ускраіны вёскі, сярод поля. Насып амаль круглай формы. Дыяметр каля асновы з поўначы на поўдзень 23,5 м, з захаду на ўсход 22 м, вышыня 4,1 м. З паўднёва-ўсходняга боку насып пашкоджаны. У агаленнях, а месцамі і пад дзёрнам прасочана каменная вымастка. Каля асновы ляжаць вялікія камяні. Выявіў і абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Біскупцы, Ваўкавыскі сельсавет**

**294. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, у двары васьмігадовай школы. Пахаваны 2 воіны, якіх расстралялі ў чэрвені 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Воўпа, цэнтр сельсавета**

**295. КАСЦЁЛ ЯНА** (архіт., маст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1773 г. з дрэва (на месцы касцёла 16 ст.).

Касцёл двухвежавы, прамавугольны ў плане з выступаючымі пяцісценнымі крыламі трансепта. Алтарная частка знаходзіцца ў асноўным аб'ёме. Пры галоўным уваходзе — тамбур, да якога з 2 бакоў далучаны невялікія службовыя памяшканні. Галоўны (паўднёва-заходні) фасад вылучаны аднаяруснымі квадратнымі ў плане вежамі, паміж якімі трохвугольны франтон. Вежы завершаны невысокімі купаламі, франтон — галоўкай на чацверыку. Невялікая галоўка размешчана над алтарнай часткай. Бакавыя фасады расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі і прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Сцены гарызантальна ашаляваны, вуглы расшыты пад руст. Дах двухсхільны, ламаны.

Інтэр'ер зальны, плоская бэлечная столь пафарбавана ў блакітны колер з разеткамі, сцены — пад чырвоную цэглу. Алтары драўляныя, разныя. Галоўны аднасіцца да 1-й паловы 17 ст. (у 2-й палове 18 ст. перанесены з касцёла 16 ст.), 2 бакавыя — да 2-й паловы 18 ст. Галоўны алтар двух'ярусны, з развітым прафіляваным антаблементам і высокім цокалем. 1-ы ярус вылучаны 4 калонамі карынфскага ордэра, 2 сярэднія калоны дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой у выглядзе вінаграднай лазы з гронкамі, бакавыя гладкія, пакрыты пазалотай. 1-ы ярус галоўнага алтара завершаны трохвугольным франтонам, у тымпане якога гарэльефная выява Саваофа. 2-і ярус кампазіцыйна паўтарае 1-ы, дадаткова афармлены 2 калонамі. Абапал калон — драўляныя паліхромныя скульптуры св. Пятра і Паўла. Завяршаецца алтар арнаментальным фрызам. 1-ы і 2-і ярусы дэкарыраваны скразной арабескавай разьбой. Цокалі калон і скульптур дэкарыраваны гарэльефнымі выявамі галовак анёлаў.

Касцёл — помнік народнага дойлідства з элементамі архітэктуры барока.

*В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*

**296. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.



295. *Касцёл Яна.*



295. *Касцёл Яна. План.*

**297. СЕЛІШЧА** (археал.). На абодвух берагах р. Ваўпянка, пачынаючы ад моста ў межах вёскі і да моста цераз раку. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Сярод ганчарнай керамікі трапляюцца фрагменты посуду з дамешкай жарствы ў гліне. Датуецца 11—13 стагоддзямі і больш познім часам. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Вярэйкі, цэнтр сельсавета**

**298. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны малодшы сяржант Ф. Ф. Пятроў, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. На ўшанаванне памяці воіна і аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — стэла і скульптура воіна.

**в. Глядневічы, Воўпаўскі сельсавет**

**299. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена ганчарная кераміка, пераважна познасярэдневяковая, трапляюцца абломкі пасудзін з дамешкай жарствы ў гліне. Датуецца 11—13 стагоддзямі і больш познім часам. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Гнезна, цэнтр сельсавета**

**300. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры старой часткі вёскі, на вул. Школьнай. Пабудаваны ў 1527 г. з цэглы, неатынкаваны, рэстаўрыраваны ў 1840 і 1930 гг.

Аднанефавы аднавежавы прамавугольны ў плане будынак, з усходу завершаны трохграннай апсідай, з захаду — квадратным у плане прытворам, над якім знаходзіцца васьмігранная двух'ярусная вежа. Накрыты двухсхільным дахам, з вальмамі над алтаром. Тарэц даху на галоўным фасадзе закрыты ступеньчатым атыкам. Сцены ўмацаваны контрфорсамі. Галоўны фасад аздоблены плоскімі нішамі і аркамі рознага абрысу. Уваход афармлены арачным парталам, абапал якога 2 плоскія стральчатыя аркі. Такія ж 3 аркі над парталам. Верхняя частка прытвора і сцен асноўнага аб'ёму прарэзана 2 радамі невялікіх квадратных праёмаў — прадухаў. Вежа завершана тонкапра-

філяваным карнізным поясам. Каля яе асновы — 3 паўцыркульныя аконныя праёмы, абрамленыя плоскімі кілепадобнымі аркамі. На бакавых фасадах паміж контрфорсамі размешчаны высокія стральчатыя аконныя праёмы, фланкіраваныя 2 плоскімі прамавугольнымі нішамі. У інтэр'еры плоскае драўлянае перакрыццё. Ва ўсходняй частцы, над уваходам, размешчаны хоры на 2 круглых калонках. У тоўшчы паўночнай сцяны знаходзіцца лесвіца, якая вядзе на хоры. Унутраная прастора вежы падзелена на 4 ярусы, злучаныя драўлянай лесвіцай.



**300.** *Міхайлаўскі касцёл.*



**300.** *Міхайлаўскі касцёл. План.*



**300.** *Міхайлаўскі касцёл. Падоўжны разрэз.*

Храм — помнік архітэктуры з рысамі готыкі і элементамі рэнесансу.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *Т. І. Чарняўская.*

**301. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў 2-й палове 19 ст. Уключае сядзібны дом, 2 флігелі, гаспадарчую пабудову, пейзажны парк (захаваўся часткова), 2 мураваныя брамы (з боку дарогі і парку).

Сядзібны дом. Аднапавярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак. З боку дваровага (заходняга) фасада мае паўпадвальны паверх. У цэнтры галоўнага фасада — мансарда з шырокім балконам на 4 масіўных слупах, якія ўтвараюць арачны порцік. З паўднёвага тарцовага фасада да дома далучаны невялікі пяцісценны алькеж. Унутраная планіроўка анфіладнага тыпу, часткова зменена. Цяпер у сядзібным доме размешчаны выканком Гнезнаўскага сельскага Савета народных дэпутатаў. Аднапавярховыя мураваныя флігелі прамавугольныя ў плане, размешчаны абапал галоўнага фасада сядзібнага дома.

Парк. Абмежаваны з паўночнага боку р. Нятупа (прыток р. Рось), з паўднёвага боку — дарогай. Падзяляецца на 2 часткі: заходнюю пейзажную з штучнай сажалкай, якая звязана каналам з ракой, і ўсходнюю рэгулярную з партэрам перад сядзібным домам. У парку растуць пераважна лісцевыя пароды дрэў. Да ўсходняй часткі парку прымыкае пладовы сад.

Гаспадарчая пабудова. Мураваны аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак. Размешчаны на поўдзень ад паркавай алеі з брамай, дзе спачатку быў гаспадарчы двор. Галоўны фасад дэкарыраваны лапаткамі, паміж якімі невялікія паўцыркульныя праёмы акон. Дах вальмавы. У цэнтры фасада галоўны ўваход вылучаны вялікім арачным праёмам. У тарцах — дадатковыя ўваходы.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Грыбаўцы, Рэплеўскі сельсавет**

**302. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 24 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Данілаўцы, Роскі пасялковы Савет**

**303. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧЫ, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.).

**303а.** Курганны могільнік. За 0,7 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Старына. Зберагліся 3 насыпы вышынёй 0,6 м, дыяметрам да 12 м. Абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**303б.** Селішча-1. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі ў в. Старына. Адкрыла і даследавала ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Датуецца 2-й паловай 1-га — пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э.

**303в.** Селішча-2. За 0,2 км на захад ад вёскі, на беразе р. Рось. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі, жалезныя тыглі. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

**303г.** Каменныя магілы. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, злева каля дарогі ў в. Дубаўцы. Памеры ўсходняй часткі, што захавалася, 80×20—25 м. Добра прасочваецца каля 30 магіл. Выявіў у 1983 г. В. У. Шаблюк, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*Я. Г. Звяруга.*

**в. Драгічаны, Ізабелінскі сельсавет**

**304. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дубаўцы, Роскі пасялковы Савет**

**305. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка канторы раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.




**301.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2 — флігелі; 3 — сад; 4 — брамы; 5 — сажалка; 6 — гаспадарчая пабудова.*



312. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**306. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Рось. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена кераміка і абломкі кафлі з палівай і без яе. Датуецца 11—14 стагоддзямі і больш познім часам. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Ендрыхаўцы, Роскі пасялковы Савет**

**307. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

**308. РАДЗІМА ЖУКОЎСКАГА** Станіслава Юльянавіча (гіст.).

Жывапісец, акадэмік жывапісу (1907 г.) С. Ю. Жукоўскі нарадзіўся 1.5.1873 г. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Расіі, Польшчы і Беларусі. Вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, ваяння і дойлідства (1892—1901 гг.). Член таварыства перасоўных выставак (з 1904 г.), актыўны член Саюза рускіх мастакоў. Жыў у Маскве. Кіраваў сваёй прыватнай школай. Пісаў пейзажы, нацюрморты, інтэр'еры. Найбольш вядомыя творы С. Ю. Жукоўскага «Нёман» (1895 г.), «Месячная ноч» (1899 г.), «Старая сядзіба. Май», «Восень. Дача» (абедзве 1910 г.), «Сажалка», «Радасны май» (абедзве 1912 г.), «Вёска на беразе возера», «Сакавік» (абедзве 1914 г.), «Зімовая ноч» (1919 г.), «Рака Вілейка» (1932 г.). У 1923 г. С. Ю. Жукоўскі пераехаў у Польшчу, працаваў у Варшаве. Сярод лепшых работ гэтага перыяду — інтэр'еры Лазенкаўскага палаца ў Варшаве. 39 твораў мастака знаходзяцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

С. Ю. Жукоўскі памёр у 1944 г. у нямецка-фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры ў Прушкаве (Польшча). У 1983 г. у гонар мастака на будынку канторы ўчастка племзавода «Рось» устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Л. Г. Лапцэвіч.*



313. *Міхайлаўская царква. План.*

**в. Жарна, Вярэйкаўскі сельсавет**

**309. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,9 км на ўсход ад вёскі, на ўзвышаным месцы. Захавалася каля 70 магіл, якія абазначаны пастаўленымі тарцом камянямі, радзей — каменнымі вянкамі або вымасткамі. На многіх надмагільных камянях крыжападобныя знакі. Выявіў і абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Замасцяны, Воўпаўскі сельсавет**

**310. СЕЛІШЧА** (археал.). На левым беразе р. Рось, паміж вёскай і ракой. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. У абрыве ракі прасочваецца культурны пласт цёмна-шэрага колеру 0,4—0,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка, у т. л. абломкі посуду з дамешкай жарствы ў гліне. Датуецца 11—14 стагоддзямі і больш позним часам. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Ізабелін, цэнтр сельсавета**

**311. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 212 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**312. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 252 воіны 5-й і 169-й стралковых дывізій, якія загінулі 13—14.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 27 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**313. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы (у 1863 і 1924 гг. часткова перабудавана).

Царква ў плане — выцягнуты прамавугольнік з прыбудаваным у 1924 г. да галоўнага фасада драўляным тамбурам. Галоўны фасад завершаны чатырохграннай вежай-званіцай з шатровым верхам і цыбулепадобнай галоўкай. Сцены бакавых фасадаў дэкарыраваны пілястрамі, паміж якімі лучковыя аконныя праёмы. Інтэр'ер зальны. Перакрыцце бэлечнае, драўлянае, у тамбуры мураваныя крыжовыя скляпенні. У тоўшчы сцяны тамбура знаходзіцца лесвіца, якая вядзе на званіцу. Алтарная частка аддзелена ад асноўнай 2 капітальнымі сценамі. Пры ўваходзе вузкі тамбур, утвораны мураванымі ўнутранымі сценамі. Над тамбурам невялікія хоры.

Царква — помнік народнага дойлідства з элементамі барока.

*Т. І. Чарняўская.*

**314. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1778 г. з цэглы.

Будынак прамавугольны ў плане, у паўночна-заходняй частцы — паў-



314. *Петрапаўлаўскі касцёл.*



314. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*

цыркульная апсіда. Галоўны (паўднёва-ўсходні) фасад аднавежавы, расчлянёны 4 пілястрамі і завершаны антаблементам з развітым карнізам. Васьмігранная вежа-званіца ўзвышаецца над трапецападобным франтонам (завяршэнне вежы не захавалася). Плоскасці сцен бакавых фасадаў расчлянёны пілястрамі і лучковымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны, мае плоскае драўлянае перакрыцце. Пры ўваходзе — 2 масіўныя калоны, якія падтрымліваюць хоры. Перад калонамі знаходзіцца невялікі тамбур, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Абапал тамбура размешчаны службовыя памяшканні. Дэкаратыўнае ўбранства інтэр'ера не захавалася.

Храм — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Кавалі, Воўпаўскі сельсавет**

**315. СЕЛІШЧА** (археал.). У межах вёскі і паблізу яе, на паўночным беразе вадасховішча. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена ганчарная (пераважна познасярэдневяковая) кераміка. Такая ж кераміка трапляецца за 0,3 км на поўдзень ад вёскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Калантаі, Субацкі сельсавет**

**316. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 21 жыхар, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**317. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана сям'я партызана атрада імя А. В. Суворава І. П. Жаўранка — жонка і 4 дзяцей, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 24.7.1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**318. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, злева ад дарогі ў в. Лічыцы. Выявіў у 1984 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзена ганчарная (пераважна познасярэдневяковая) кераміка, прасочаны рэшткі наземных жытлаў і печаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Калядзічы, Ваўкавыскі сельсавет**

**319. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Канюхі, Падароскі сельсавет**

**320. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 10 жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў чэрвені 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.



322. *Помнік падпольшчыкам.*

**в. Карпаўцы,**
**Краснасельскі пасялковы Савет**

**321. КРЭМЕНЕЗДАБЫЎНЫЯ ШАХТЫ І КРЭМЕНЕАПРАЦОЎЧЫЯ МАЙСТЭРНІ** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Даследавалі ў 1967—70 гг. Н. М. Гурына, у 1973 г. М. М. Чарняўскі, у 1979 г. В. П. Чамеза. Знойдзена некалькі тысяч крамянёвых адшчэпаў і загатовак сякер. У шахтах глыбінёй да 6 м выяўлены асколкі крамянёвых канкрэцый і пасаваныя землякопныя інструменты з рагоў аленяў. Адносяцца да позняга неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гурина Н. Н. Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР.— Л., 1976; Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979. *М. М. Чарняўскі.*

**322. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У красавіку 1942 г. у вёсцы была арганізавана падпольная камсамольская арганізацыя. У яе ўваходзілі Васіль Сарока (сакратар), Іван і Павел Васілеўскія, Сяргей Васільчук, Уладзімір Кухта, Мікалай і Уладзімір Севярыны. У гэты ж час у вёсцы дзейнічала падпольная піянерская арганізацыя «Піянерскі тайнік» (15 чалавек). Кіраўнікі Мікалай Сарока, з лютага 1944 г. Валодзя Сяргейка; члены Уладзімір Белабоцкі, Міхаіл Васілеўскі, Анатоль і Іван Верацілы, Мікалай Зыбка, Уладзімір Касіла, Іван Кухта, Іван Севярын, Леанід Седзянеўскі, Ніна і Іван Хамко, Іван Радзецкі і інш. Падпольшчыкі рабілі дыверсіі на камунікацыях ворага, псавалі тэлефонную сувязь, падрывалі цягнікі, збіралі зброю, медыкаменты для партызан, распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. У маі 1943 г. правялі некалькі дыверсій на Ваўкавыскім цэментным заводзе. Падпольныя камсамольская і піянерская арганізацыі дзейнічалі да ліпеня 1944 г.

У 1964 г. у гонар падпольшчыкаў на сродкі камсамольцаў раёна пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975. *М. М. Казлоўская.*

**в. Косіна, Субацкі сельсавет**

**323. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўскраіне вёскі. У канцы 19 ст. тут знойдзены ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і некалькі фрагментаў ганчарных пасудзін, характэрных для ранняга сярэдневякоўя. У 1964 г. селішча абследаваў Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Краскі, Падароскі сельсавет**

**324. СЯДЗІБА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р.



324. *Сядзібны дом.*

Зальвянка. Сфарміравана ў 19 — пачатку 20 ст. Уключае сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы, парк, сажалку. Уся тэрыторыя (50,2 га) падзелена на 2 часткі: паўночна-заходнюю, якую займае лесапарк, і паўднёва-ўсходнюю, дзе размешчаны асноўныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы, вакол іх — пейзажны парк. Кампазіцыйны цэнтр — сядзібны дом, арыентаваны галоўным фасадам на поўдзень. Уязную алею перасякае р. Зальвянка. Цяпер тут дзіцячы санаторый.

Сядзібны дом. Складаецца з драўлянага аднапавярховага і мураванага двухпавярховага аб'ёмаў. Драўляны пабудаваны ў 1839 г. Прамавугольны ў плане на высокім цокалі будынак з анфіладнай планіроўкай жылых памяшканняў. Да яго ўсходняга тарца ў 1905 г. прыбудаваны мураваны аб'ём. У плане складанай формы, калідорнай сістэмы планіроўкі. Асноўны акцэнт кампазіцыі — круглая вежа, размешчаная з боку галоўнага фасада мураванага будынка. Другая, меншая вежа (афармленне дымахода), знаходзіцца на стыку драўлянага і мураванага аб'ёмаў. У агульнай кампазіцыі і дэкаратыўнай аздобе сядзібнага дома выкарыстаны элементы эклектычнай архітэктуры.

Парк пейзажнага тыпу. Плошча каля 6 га. Паводле планіровачнай кампазіцыі падзяляецца на 3 часткі: партэрную перад галоўным фасадам сядзібнага дома, прагулачную на пакатым паўднёва-ўсходнім схіле ўзгорка і лесапаркавую — на ўзгорку. Партэрная частка з газонамі і кветнікамі, па яе баках — адзіночныя дрэвы. Прагулачная частка парку — сістэма адкрытых палян, дэкаратыўных груп дрэў і свабодна спланаваных алей. Каля сядзібнага дома расце некалькі экзотаў: лох сярэбраны, хвоя веймутава, лістоўніца еўрапейская, акацыя белая, ламанос вінаградалісты, скумпія, конскі каштан звычайны і інш. Лесапаркавая частка — хваёвы лес з прагулачнымі алеямі, якія выходзяць да сядзібнага дома. Тут таксама растуць экзоты: елка блакітная, акацыя белая, уксуснае дрэва і інш.

Прыклад сядзібна-паркавага мастацтва.

Літ.: Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *Т. І. Чарняўская.*

**г. п. Краснасельскі, цэнтр пасялковага Савета**

**325. КРЭМЕНЕЗДАБЫЎНЫЯ ШАХТЫ** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад пасёлка, на беразе р. Рось. У каменным і бронзавым вяках (3-е — 1-я палова 1-га тысячагоддзя да н. э.) тут здабывалі крэмень для вырабу прылад працы, пераважна сякер. Выявіў у 1920 г. Б. Рыдзеўскі, даследавалі З. Шміт (1920—24 гг.), Н. М. Гурына (1961—64 гг.), М. М. Чарняўскі (1962 г.). Шахты былі ў папярочніку да 1,5 м, глыбінёй 6—8 м, мелі падбоі і штрэкі, асобныя з іх злучаны паміж сабой. Здабыча крамянёвых канкрэцый вялася рагавымі прыладамі — кайламі, свідраванымі кіркамі, капалкамі, малаткамі-даўбенькамі.

На дне адной з шахтаў выяўлена пахаванне культуры шнуравой керамікі ранняга бронзавага веку (пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.). Нябожчык быў пахаваны скурчаным на правым баку, галавой на поўдзень. Побач з ім знойдзены добра абпалены пласкадонны ляпны гаршчок шэрага колеру, з дамешкамі пяску ў цесце. Пад венчыкам арнамент у выглядзе наразной елачкі. Тут жа знойдзена касцяная іголка з вялікім вушкам. Большая частка помніка знішчана кар'ерамі. Захаваўся толькі ўчастак з шахтамі на ўсходнім краі лінзы № 2 (90×70 м), за 0,5 км на поўдзень ад пасёлка (больш за 30 шахтаў).

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Дзяржаўным музеі БССР.

Літ.: Чарняўскі М. М. Старажытныя шахты па здабычы крэменю.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1963, № 3; Гурина Н. Н. Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР.— Л., 1976. *М. М. Чарняўскі.*

**326. МАЙСТЭРНЯ** (археал.). За 1 км на поўдзень ад пасёлка, на левым беразе р. Рось, ва ўрочышчы Тры Сасны. Выявіла ў 1958 г. і абследавала ў 1966 г. Н. М. Гурына, абследавала ў 1978 г. В. Л. Ліпніцкая. У 1983 г. даследавала В. Л. Ліпніцкая. Раскоп № 1 плошчай 84 м² быў закладзены каля старых хвой на захад ад аўтамабільнай дарогі Ваўкавыск — Краснасельскі; раскоп № 2 плошчай 30 м² на палосе паміж пасадкамі бяроз і хвой, за 0,4 км на захад ад дарогі. Культурны пласт не мае выразных граніц, знаходкі трапіліся на глыбіні 0,1—0,5 м. У раскопе № 1 знойдзена 2499 крамянёў (2203 адшчэпы, 130 пласцін, 16 нуклеусаў, у т. л. 4 двухпляцовачныя, 2 аднапляцовачныя і інш.). У раскопе № 2 знойдзены 5 нуклеусаў, 22 сколы, 27 краявых адшчэпаў, 57 адшчэпаў даўжынёй 5 см, 303 даўжынёй 3—4 см, 798 лусак, 69 пласцін. Сярод іншых знаходак: масіўная праколка, разец, адбойнік, 8 фрагментаў керамікі і 84 кавалкі абгарэлага крэменю. Блізкае размяшчэнне помніка каля крэменездабыўных шахтаў дазваляе аднесці яго да майстэрняў па апрацоўцы крэменю. Помнік адносіцца да бронзавага веку, датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. Л. Ліпніцкая.*



325. *Крэменездабыўныя шахты. Рагавыя прылады працы.*



324. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



326. *Майстэрня. Крамянёвы інвентар.*



328. *Паселішча. Крамянёвы інвентар.*

**327. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На адміністрацыйным будынку цэментнага завода. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці 15 рабочых завода, якія былі расстраляны або закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну.

**328. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад пасёлка, на левым беразе р. Рось, каля ўрочышча Піскаўшчына, на мысе. Выявіў і даследаваў у 1984 г. В. Я. Кудрашоў. Культурны пласт 0,25 м прасочаны на плошчы каля 0,3 га.

Знойдзена 7649 крамянёвых вырабаў і 821 фрагмент керамікі, у т. л. разцы (2 косарэтушныя, 4 на зламанай пласцінцы, 5 двухгранных, скрабкі (7 простых канцавых, 10 канцавых з рэтушшу бакавых краёў, 2 з перахватам і 1 кругляваты), сякеры (5 авальных, лінзападобных у сячэнні, з плоскай рэтушшу па краях і на лязе), цёслы (6 з жалабкаватым лязом), адшчэпы (55 з краявой, крутой ці плоскай рэтушшу, 3 з процілеглай рэтушшу бакавых краёў, 10 з падчоскай), 321 ядрышча (прызматычныя адна- і двухпляцовачныя, са скошанымі процілеглымі пляцоўкамі, тарцовыя клінападобнай формы) і інш. Большая частка керамічных вырабаў — фрагменты слабапрафіляваных пласкадонных пасудзін з хвалістым арнаментам на плечыках. Знойдзены рэшткі пласкадонных неарнаментаваных таўстасценных ляпных гаршкоў са слядамі згладжвання паверхні, з дамешкай буйназярністага кварцу ў гліне, а таксама фрагменты ляпнога посуду з прамым венчыкам, арнаментаванага авальнымі і капытападобнымі адбіткамі.

На паселішчы выяўлены 7 агнішчаў (дыяметр 0,5—0,8 м, глыбіня 0,15 м), запоўненых камянямі, вуголлем і фрагментамі керамікі. Побач з імі ўскрыты 3 гаспадарчыя ямы і паглыбленне ў выглядзе прадаўгаватага авала. У яме ў паўночна-ўсходняй частцы раскопу дыяметрам 1 м і глыбінёй 0,9 м быў цьмяна-шэры гумусаваны пясок з праппастакам вуголля на дне, знойдзены 61 крамянёвы выраб (ядрышчы, адбойнікі, адшчэпы, асколкі, краявыя сколы), 46 фрагментаў керамікі, 40 абломкаў граніту, абломкі зубоў жывёлін. У паўднёва-ўсходняй частцы раскопу, у светла-жоўтым пяску, на 0,2 м ніжэй асновы культурнага пласта выяўлена вялікая колькасць (каля 300 прадметаў на 1 м$^2$) крамянёвых пласцінак, адшчэпаў, лусак, ядрышчаў. Верагодна, тут было рабочае месца майстра. Паселішча адносіцца да бронзавага веку, датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. Я. Кудрашоў.*

**в. Крываносаўцы, Роскі пасялковы Савет**

**329. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 29 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Кузьмічы, Вярэйкаўскі сельсавет**

**330. ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Прамавугольная ў плане. Галоўны паўночна-заходні фасад мае трохвугольнае завяршэнне. Над ім — невысокая званіца (чацвярык), накрытая шатровым дахам. Уваход афармлены стральчатай аркай. Сцены бакавых фасадаў прарэзаны 3 стральчатымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны. Пры ўваходзе 2 квадратныя ў плане калоны, адна з іх падтрымлівае невялікія хоры. Перакрыцце — цыліндрычнае скляпенне — дэкарыравана ляпнымі нервюрамі, якія ствараюць зоркавы малюнак і надаюць інтэр'еру храма маляўнічы выгляд.

Царква — помнік архітэктуры неаготыкі.

**в. Кутнікі, Ваўкавыскі сельсавет**

**331. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на паўночны захад ад вёскі. У 2 магілах пахаваны 366 жыхароў в. Шавулічы, якіх расстралялі 7.7.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Лазы, Роскі пасялковы Савет**

**332. КУРГАН, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). Курган. Мясцовая назва Гарадок. За 1,8 км на паўночны захад ад вёскі, сярод поля. Дыяметр



**330.** *Царква Аляксандра Неўскага.*



**330.** *Царква Аляксандра Неўскага. План.*



**330.** *Царква Аляксандра Неўскага. Фрагмент скляпенняў.*



**330.** *Царква Аляксандра Неўскага. Фрагмент скляпенняў.*

насыпу каля асновы 21 м (пляцоўкі 12 м), вышыня 3,0—3,5 м. Раней схілы былі абкладзены камянямі (часткова захаваліся). Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга.

Каменныя магілы. За 0,7 км на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, за невялікім балотам. Памеры часткі, што захавалася, 60×40 м (больш за 100 магіл). На асобных камянях крыжападобныя знакі. Выявіў і абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Лічыцы, Субацкі сельсавет**

**333. СТАЯНКА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на невялікім перарэзаным канавай выступе правабярэжнай тэрасы р. Рось вышынёй над поймай 2 м. Выцягнута ўздоўж краю тэрасы на 130 м, шырыня 60 м. Выявіў і абследаваў у 1984 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце каля 0,5 м знойдзены крамянёвыя невялікія нуклеусы, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі, кароткія ланцэтападобныя вастрыі. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—6-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Малая Лапеніца,**
**Ваўкавыскі сельсавет**

**334. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 55 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Мацвееўцы,**
**Ізабелінскі сельсавет**

**335. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мінеўшчына,**
**Краснасельскі пасялковы Савет**

**336. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 150 м на поўнач ад вёскі, на ўскрайку лесу. Захавалася каля 170 магіл. З захаду, поўначы, усходу абмежаваны ровам шырынёй 3—5 м, з паўднёвага боку — балотам. Роў шырынёй 3 м перасякае могільнік па дыяганалі. Надмагільных камянёў са знакамі (пераважна крыжападобнымі) менш за 10 % ад агульнай колькасці пахаванняў. Выявіў у 1980 г. М. У. Вераціла, у 1981—82 гг. А. В. Квяткоўская раскапала 26 магіл з рознай арыенціроўкай нябожчыкаў. Пахавальны інвентар: кераміка, жалезныя цвікі і наканечнік стралы, медныя кольцы. У адной магіле 2 медныя кольцы ляжалі пад чэрапам. Адносяцца да позняга сярэдневякоўя.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Квятковская А. В. Работы в Гродненской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Мсцібава, Гнезнаўскі сельсавет**

**337. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Альшанка. Пляцоўка круглая, дыяметрам 30 м, умацавана 2 валамі. Унутраны вал вышынёй каля 5 м, прарэзаны з усходняга боку да асновы ўездам. За 120—150 м на поўдзень і паўднёвы захад ад унутранага вала, дзе мясцовасць узвышаецца, цягнецца доўгі вонкавы вал вышынёй 1—1,5 м, абодва канцы якога абмежаваны балотам. Перад валам захаваліся абрысы рова. Гарадзішча абследавалі ў 1951 г. С. А. Тараканава, у 1959 г. П. А. Рапапорт, даследаваў у 1974 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,2—0,4 м ускрыты на плошчы 96 м². У цэнтры пляцоўкі, на глыбіні 1,9 м выяўлены калодзеж, зруб якога (1,55×1,55 м) зроблены з плах. У культурным пласце знойдзена ганчарная кераміка 12—13 стагоддзяў і больш позняга часу. П. А. Рапапортам выказана думка, што гарадзішча — рэшткі замка валынскага баярына Мсцібога, які ўпамінаецца ў 1202 г.; мястэчка Мсцібава да 16 ст. называлася Мсцібогавым Гарадком. Умацаванні гарадзішча выкарыстоўваліся і ў больш позні час (17—18 стагоддзі).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Тараканова С. А. Археологическая разведка по Неману.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М., 1955, в. 57; Раппопорт П. А. Мстибогов городок.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии. М., 1962, в. 87; Зверуго Я. Г. Исследования в Верхнем Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Нізяны, Ізабелінскі сельсавет**

**338. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАМСАМОЛЬЦАЎ-ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1966 г.

У верасні 1941 г. камсамольцы вёсак Нізяны і Паўлаўшчына арганізавалі падпольную групу. У яе склад уваходзілі 12 чалавек (кіраўнік групы Мікалай Амшэй). Патрыёты збіралі зброю і перадавалі партызанам, псавалі тэлефонную сувязь, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро. У красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты арыштавалі падпольшчыкаў і пасля катаванняў расстралялі. Пахаваны ў Ваўкавыску, ва ўрочышчы Парахоўня. Гл. таксама артыкул № 274 «Магілы ахвяр фашызму».



334. *Помнік землякам.*

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975.

*М. М. Казлоўская.*

**339. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.) У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 28 воінаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 12 падпольшчыкаў Нізянскай камсамольскай арганізацыі, расстраляных у 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 3 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Падароск, цэнтр сельсавета**

**340. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1975 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**341. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.) У цэнтры вёскі. Пахаваны 160 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — 11 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і 148, што загінулі ці памерлі ад ран у ліпені 1944 г. Тут таксама пахаваны старшыня Ваўкавыскага антыфашысцкага камітэта М. М. Уладыка, закатаваны гітлераўцамі ў жніўні 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**342. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе



337. *Гарадзішча. План.*

р. Зальвянка. Сфарміравана ў сярэдзіне 19 ст. Уключае мураваны дом, парк, некалькі мураваных і драўляных гаспадарчых пабудоў. Тэрыторыя абкружана мураванай агароджай (захавалася часткова) з 2 уездамі — з боку шашы (аформлены манументальнай брамай) і з паўночнага боку па цэнтральнай восі дома. На процілеглым баку шашы — спіртзавод, пабудаваны ў 1862 г. з цэглы, і драўляны вадзяны млын.

Сядзібны дом. Аднапавярховы прамавугольны ў плане з невялікай драўлянай прыбудовай з боку дваровага фасада. Цэнтральная частка галоўнага фасада з мансардай вылучана чатырохкалонным порцікам, які завяршаецца трохвугольным франтонам, акаймаваным прафіляваным карнізам з сухарыкамі. Будынак накрыты двухсхільным дахам з паўвальмамі па тарцах. З боку дваровага фасада сіметрычна цэнтральнаму порціку знаходзіцца шырокая тэраса. Па цэнтральнай восі галоўнага ўвахода размешчаны вестыбюль з лесвіцай на мансарду. Жылыя памяшканні анфіладнай планіроўкі (цяпер планіроўка часткова зменена).

Парк. Захаваўся часткова. Складаецца з 2 частак — партэрнай (перад сядзібным домам) і пейзажнай (у паўночнай частцы сядзібы), якія кампазіцыйна аб'яднаны 2 узаемна перпендыкулярнымі алеямі. Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў: клён, ліпа, акацыя, бяроза, ясень.

Прыклад сядзібна-паркавага мастацтва з выкарыстаннем элементаў класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*




342. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— сядзібны дом; 2— лазня; 3— гаспадарчыя пабудовы; 4— кузня; 5— майстэрні; 6— брама.*



342. *Сядзіба. Брама.*



342. *Сядзібны дом.*

**в. Падрось. Краснасельскі пасялковы Савет**

**343. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Рось, ва ўрочышчы Піскож. Акрамя курганоў, уключае плоскія магілы, абстаўленыя вялікімі камянямі. Насыпы дыяметрам 4—6 м, вышынёй 0,4—0,9 м. У 1936 г. даследавана 13 курганоў і 7 магіл. У некаторых курганах па краях былі каменныя вянкі, унутры — авальныя ці прамавугольныя вымасткі памерам 1,1—2,2×2,3—4,4 м. У 3 насыпах пахавальны абрад трупаспаленне, у астатніх — трупапалажэнне. Нябожчыкі ляжалі ў выцягнутым становішчы галавой на захад, паўднёвы захад ці паўночны ўсход. Рукі выцягнуты ўздоўж тулава ці сагнуты ў локцях. Пахаванні адзіночныя, адно — калектыўнае (жанчына і 2 дзяцей). Знойдзены ўпрыгожанні (скроневыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты, пацеркі, фібула), прылады працы (2 жалезныя нажы, шыфернае праслiца, абломак жалезнага сярпа). Памеры каменнага пакрыцця плоскіх магіл: даўжыня 2,5—3,4 м, шырыня 1,3—2,0 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад. Пахавальны інвентар амаль такі, як і ў курганах. Могільнік датуецца 11—12 стагоддзямі. Належаў або мяшанаму дрыгавіцка-мазавецкаму насельніцтву, або, што больш верагодна, дрыгавічам, якія зазналі ўплыў з боку заходніх суседзяў.

*Літ.:* Jaskanis D. Materiały z badań wczesnośredniowiecznego cmentarzyska w miejscowości Podroś koło Wołkowyska w BSSR.— У кн.: Rocznik Białostocki. Białystok, 1962, t. 3. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Петакі, Краснасельскі пасялковы Савет**

**344. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Зяруга. Знойдзена ганчарная кераміка, у т. л. абломкі посуду з дамешкай жарствы ў гліне. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Плябанаўцы, Роскі пасялковы савет**

**345. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Савецкая Беларусь». Пахаваны воін, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. На ўшанаванне яго памяці і землякоў, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла і скульптура воіна.

**346. СЕЛІШЧА** (археал.). Паміж вёскай і берагам р. Рось. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1975 г. Я. Г. Зяруга. Знойдзена разнастайная ганчарная кераміка, у т. л. з дамешкай жарствы ў гліне. Датуецца 11—14 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Раднікі, Шылавіцкі сельсавет**

**347. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Талькаўцы». Пахаваны 47 воінаў, якія за-



347. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

гінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 26 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Раманаўка, Ізабелінскі сельсавет**

**348. РАДЗІМА АБРАМЧУКА** Мікалая Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. І. Абрамчук нарадзіўся 20.11.1910 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. У Чырвонай Арміі з 1931 г. У 1936 г. скончыў ваенную школу лётчыкаў у г. Энгельс. У Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Заходнім, Сталінградскім і 1-м Украінскім франтах. Камандзір эскадрыллі 894-га знішчальнага авіяцыйнага палка М. І. Абрамчук зрабіў 300 баявых вылетаў, збіў 16 самалётаў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 9.10.1943 г. Да 1954 г. служыў у Савецкай Арміі, падпалкоўнік. Памёр 1.2.1974 г. у Кіеве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**г. п. Рось, цэнтр пасялковага Савета**

**349. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Пахаваны 392 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. Сярод пахаваных — воіны 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры фарсіраванні р. Рось, пры вызваленні гарадскога пасёлка і навакольных населеных пунктаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**350. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САРОКУ** Аляксандру Ігнатавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 15, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці старшыні Роскага сельскага Савета А. І. Сарокі, расстралянага нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г.

**351. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка канторы племзавода «Рось». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1957 г.

**352. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры племзавода «Рось». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**353. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**354. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка племзавода «Рось». Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1957 г.

**355. ТРОЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У цэнтральнай частцы пасёлка. Пабудаваны ў 1801 г. з цэглы. На паўднёвы ўсход ад касцёла асобна пастаўлена двух'ярусная мураваная званіца, пабудаваная ў 1908 г. Храм — прамавугольны ў плане будынак з нязначна выступаючым трансептам і паўцыркульнай апсідай. Галоўны (паўднёвы) фасад завершаны трыгліфным фрызам з развітым карнізам, над якім атыкавы франтон з паўкруглым аконным праёмам у тымпане. Бакавыя фасады дэкарыраваны рустоўкай і завершаны прафіляваным карнізам. Інтэр'ер зальны, перакрыцце — драўляныя цыліндрычныя скляпенні. Уздоўж бакавых сцен праходзіць галерэя з драўлянай агароджай. Сцены завершаны масіўным карнізам з сухарыкамі. У інтэр'еры над уваходам — хоры на 4 круглых у плане калонках. На сценах, скляпеннях асноўнага аб'ёму і алтарнай часткі размешчаны жывапісныя кампазіцыі на біблейскія тэмы і дэкаратыўна-архітэктурная размалёўка, якая стварае ілюзорнае ўяўленне прасторы. Драўляны разны алтар двух'ярусны, расчлянёны калонамі карынфскага ордэра, дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой і скульптурай.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

*В. В. Герашчатава, Т. І. Чарняўская.*



355. *Троіцкі касцёл. Інтэр'ер.*

**в. Рэпля, цэнтр сельсавета**

**356. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЗЕЙКУ** Уладзіміру Юр'евічу (гіст.). У цэнтры вёскі, на будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1974 г. на ўшанаванне памяці старшыні Рэплеўскага сельсавета У. Ю. Казейкі, расстралянага нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г.

**357. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — стэла і скульптура воіна.

**в. Тупічаны, Воўпаўскі сельсавет**

**358. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй і паўночнай ускраінах вёскі. У 1958 г. даследавала Ф. Д. Гурэвіч,



355. *Троіцкі касцёл.*



355. *Троіцкі касцёл. План.*




357. *Помнік землякам.*

якая знайшла ганчарную кераміку, у т. л. абломкі пасудзін з дамешкай жарствы ў гліне. У 1966 г. пры абследаванні М. М. Чарняўскі ў выдуве пясчанай дзюны знайшоў ляпную кераміку з дамешкай жарствы ў гліне, пакрытую лёгкай штрыхоўкай. У 1973 г. селішча абследаваў Я. Г.




359. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — былыя сядзібныя дамы; 2 — гаспадарчая пабудова; 3 — жылы корпус санаторыя «Рось».*



359. *Былы сядзібны дом.*

Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*Я. Г. Звяруга.*

**в. Цеалін,**
**Краснасельскі пасялковы Савет**

**359. ПАРК** (архіт.). У вёсцы, на левым беразе р. Рось. Сфарміраваны ў 19 ст. Плошча каля 8 га. Належыць санаторыю «Рось» (да 1983 г. дом адпачынку). Захаваліся 2 мураваныя сядзібныя дамы (перабудаваны ў 1940-я гады для санаторыя). Парк пейзажнага тыпу з элементамі рэгулярнай планіроўкі. З поўначы і ўсходу абмежаваны 2 каналамі, якія запаўняюцца вадой р. Рось. Мае трохчасткавую кампазіцыю. Першая частка — на вяршыні ўзгорка, паміж 2 сіметрычна пастаўленымі сядзібнымі дамамі, уяўляе сабой партэр з кветнікамі, кустамі, адзіночнымі пасадкамі дрэў. Другая частка — на пакатых схілах узгорка. Тут на розных узроўнях праходзяць 3 паўкальцавыя алеі, аб'яднаныя лесвіцамі, якія вядуць да партэра. Трэцяя частка, размешчаная ў нізкай пойме ракі і абмежаваная каналамі, мае маляўнічую планіроўку з шырокімі палянамі і групамі дрэў. Пераважаюць лісцевыя пароды — клён, ліпа. Цэнтр кампазіцыі — галоўная алея, якая пачынаецца ад вяршыні ўзгорка, праходзіць перпендыкулярна паўкальцавым алеям праз усю паркавую тэрыторыю, аб'ядноўваючы 3 яе часткі.

Прыклад садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975.
*Т. І. Чарняўская.*

**в. Чырвоны Груд,**
**Вярэйкаўскі сельсавет**

**360. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі 16.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх



359. *Алея парку.*




360. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 28 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — абеліск і скульптуры партызана і дзяўчыны, якая ўскладае кветкі.

**361. МАГІЛА ПЯТРУЧАК** Веры Іванаўны (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Сацыялістычнай Працы В. І. Пятручак нарадзілася 28.8.1926 г. у в. Соцы Беластоцкага ваяводства (ПНР). З 1946 г. палявод, з 1952 г. свінарка саўгаса «Ваўкавыскі», у 1965—75 гг.— саўгаса «Чырванагрудскі». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1966 г. за поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967—71 гг. Памерла 2.11.1975 г. У 1978 г. на магіле ўстаноўлены бюст В. І. Пятручак.

**в. Шавулічы (не існуе),**
**Ваўкавыскі сельсавет**

**362. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Шавулічы знаходзілася за 9 км на поўнач ад Ваўкавыска. 7.7.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 366 яе жыхароў і спалілі вёску (77 двароў). Вёска не адрадзілася. У 1954—67 гг. на месцы спаленай вёскі пастаўлены скульптура партызана і партызанкі, стэла і 5 абеліскаў. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Шылавічы, цэнтр сельсавета**

**363. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У двары сярэдняй школы. Пахаваны 284 воіны 169-й стралковай дывізіі і іншых часцей 3-й арміі, 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 16—17 ліпеня 1944 г. у баях супраць нямецка-

фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — 3 партызаны, што загінулі ў 1943 г. пры разгроме варожага гарнізона. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

364. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**пас. Юбілейны, Ваўкавыскі сельсавет**

365. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СТРУГУ** Сцяпану Францавічу (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1977 г. на ўшанаванне памяці дэпутата Народнага сходу Заходняй Беларусі С. Ф. Струга, які 28.10.1939 адкрыў у Беластоку пасяджэнне Народнага сходу, прыняўшага пастанову аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанні яе з БССР.

**в. Ярылаўка, Гнезнаўскі сельсавет**

366. **ДОМ, У ЯКІМ ЖЫЎ КАМЕНСКІ** Антон Іосіфавіч (гіст.).

Беларускі і польскі графік і жывапісец А. І. Каменскі нарадзіўся 21.7.1860 г. у Вільні. У 1882—85 гг. вучыўся ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. У 1885—90 гг. жыў у радавым маёнтку Ярылаўка, у 1890-я гады — у Парыжы. У канцы 1890-х гадоў вярнуўся на радзіму, супрацоўнічаў у варшаўскіх і віленскіх часопісах, рабіў ілюстрацыі да твораў рускіх і польскіх пісьменнікаў, у т. л. Э. Ажэшкі. Стварыў серыю графічных лістоў «Дух рэвалюцыянера», прысвечаных Рэвалюцыі 1905—07 гг. («Перастрэлка», «Шпіён», «Мітынг», «Агітатар», «Стачка» і інш.), малюнак «Сходка рускай сацыялістычнай моладзі» (1891 г.). Жыццё і праца беларусаў адлюстравана ў серыі літаграфій «Белавежская пушча» («Дарога ў пушчы», «Старыя дубы», «Беларусачка», «Беларус і літвін», «Падвода», «Вячоркі» і інш.). Сярод работ карціны «Няскончаная праца» (1895 г.), цыкл алегарычных кампазіцый «Песні аб жыцці» (1898 г.), «Двор Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве» (1921 г.), шэраг партрэтаў польскіх мастакоў. Памёр 10.9.1933 г.

*Літ.:* Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974.




# ВОРАНАЎСКІ РАЁН

Бенякoні
Любарты
Канвелішкі
Бальценікелі
Паляцкішкі
Утканы
ВОРАНАВА
Пераганцы
Доцішкі
Пагародна
Нача
Старая Казакоўшчына
Бастуны
Радунь
Гарадзішча
Тракелі
Жырмуны
Старыя Смільгіні
Гіркі
Пашкавічы
Праважа
Пеляса
Больцішкі
Забалаць
Місявічы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## VI. ВОРАНАВА

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. За 133 км на паўночны ўсход ад Гродна, 1 км ад чыгуначнай станцыі Воранава на лініі Ліда — Вільнюс, на аўтамабільнай дарозе Ліда — Вільнюс. Аэрапорт.

У 16—18 стагоддзях Воранава ў Вялікім княстве Літоўскім, належала феадалам Гаштольдам, Сцыпіёнам, Зарэцкім. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Лідскага павета Слонімскай, Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У сярэдзіне 19 ст. у мястэчку каля 50 двароў, 330 жыхароў, у 1897 г.— 1574 жыхары. З 1921 г. у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Лідскага павета Навагрудскага ваяводства, з канца 1939 г. у БССР. З 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Баранавіцкай, з 1944 г. Гродзенскай абласцей. З чэрвеня 1941 г. да 11.7. 1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія расстралялі тут каля 2640 чалавек. На тэрыторыі раёна дзейнічаў падпольны райком ЛКСМБ (1.12.1943 г.— 7.7.1944 г.).

Размешчана на ўзгорку ўздоўж старажытнага тракту Ліда — Вільнюс (сучасная вул. Савецкая). На вяршыні ўзгорка склаўся гістарычны цэнтр пасялення — цэнтральная плошча, у забудове якой дамінаваў драўляны касцёл Фадзея Апостала. Жылая забудова драўляная, аднапавярховая, развівалася абапал асноўнай магістралі. У 19 — пачатку 20 ст. у паўднёвай і цэнтральнай частках забудавана некалькі вуліц (перпендыкулярна да асноўнай), узведзена некалькі мураваных дамоў у стылі неакласіцызму. Кардынальныя змены ў вобліку гарадскога пасёлка адбыліся ў 1960—70-я гады. Паводле генеральнага плана 1966 г., распрацаванага Гродзенскімі абласнымі праектнымі майстэрнямі, на Цэнтральнай плошчы ўзведзены будынкі райкома КПБ, райвыканкома, Дом культуры, універмаг, магазін прамтавараў, Дом быту, рэстаран, якія надалі забудове пасёлка сучасны выгляд. Плошча значна расшырана, добраўпарадкавана. У паўднёва-заходняй частцы Воранава пабудаваны новыя мікраёны з сучаснымі 3—4-павярховымі жылымі дамамі і аўтастанцыя (вул. Юбілейная).

У пасёлку малочны завод, хлебазавод, вінзавод, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. Працуюць сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, школа-інтэрнат, сярэдняя, рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Пастаўлены помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, на 2 магілах ахвяр фашызму. Выдаецца раённая газета «Ленинское знамя».



VI. *Дом культуры.*

Зона адпачынку — парк у цэнтры пасёлка і вадасховішча на р. Жыжма.
*У. В. Алісейчык, Э. М. Савіцкі.*

**367. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы.

Пахаваны 192 воіны і 7 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 36-га гвардзейскага стралковага корпуса 11-й гвардзейскай арміі і 71-га стралковага корпуса 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі 8—11.7. 1944 г. пры вызваленні горада і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тут пахаваны таксама Герой Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Канарчык.

А. І. Канарчык нарадзіўся 16.12. 1904 г. у с. Пірагоўка Вінькавецкага р-на Хмяльніцкай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў брыгадзірам трактарнага атрада. У Чырвонай Арміі ў 1926—30 гг. і з 1933 г. Скончыў курсы малодшых камандзіраў (1933 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся ў баях за вызваленне Магілёўскай вобл. У чэрвені 1944 г. асобны матарызаваны пантонна-маставы батальён, якім камандаваў маёр А. І. Канарчык, навёў пад агнём праціўніка каля в. Дабрэйка Шклоўскага р-на пераправу цераз Дняпро, што забяспечыла імклівае наступленне савецкіх войск. За гэту аперацыю батальёну прысвоена ганаровае найменне «Верхнеднепроўскі». Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.7. 1944 г. Загінуў 24.8.1944 г. каля в. Барташуны Воранаўскага р-на. Імем А. І. Канарчыка названа вуліца ў Воранаве, школа на радзіме.

У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам, перад ёю дошкі з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**368. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, злева ад шашы Воранава — Ліда. Пахаваны 1834 жыхары Вільнюса і Воранава, расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі 14.11. 1941 г. і 11.5.1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**369. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка, каля чыгункі. Пахаваны 800 жыхароў г. Вільнюса, якіх нямецка-фашысцкія акупанты прывезлі на чыгуначную станцыю Воранава і 14.11.1941 г. расстралялі. Да месца загубы выводзілі па 20 чалавек. Спачатку расстрэльвалі жанчын і дзяцей, потым мужчын. Параненых кідалі ў ямы. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Э. М. Савіцкі.*

**370. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля чыгуначнага пераезда. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялі-



VI. *Цэнтральная плошча.*



372. *Помнік У. І. Леніну.*

кую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**371. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Савецкая, 39. Установлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 6 супрацоўнікаў Воранаўскага раённага аддзела міліцыі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады.

**372. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, перад будынкам райкома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1961 г.



367. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Апонаўцы, Забалацкі сельсавет**

**373. МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Могліцы, на пакатым узвышшы, выцягнутым з усходу на захад. Памер 150×80 м. Пахаванні (больш за 200) адзначаны буйнымі камянямі. Адкрыў і даследаваў у 1888—89 гг. Э. А. Вольтэр, даследавалі ў 1891 г. В. Шукевіч, у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Ускрыта 57 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыбінёй 1,3 м. Знойдзены пражскі грош 14 ст., дэнарый Вітаўта (Вялікае княства Літоўскае) з надпісам «печать» на адным баку і выявай кап'я і крыжа на другім (пачатак 15 ст.). Належаў балцкаму насельніцтву, датуецца канцом 14 — пачаткам 15 стагоддзя.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962; Спицын А. А. Литовские древности.— У кн.: Tauta ir žodis. Kaunas, 1925, t. 3.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Барташуны, Пераганцаўскі сельсавет**

**374. МЕСЦА ГІБЕЛІ КАНАРЧЫКА** Аляксандра Іванавіча (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Герой Савецкага Саюза А. І. Канарчык загінуў 24.8. 1944 г. каля в. Барташуны. Пахаваны ў г. п. Воранава (гл. артыкул № 367 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»). У 1985 г. на месцы гібелі насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла з выявай вечнага агню і надпісам-прысвячэннем. У в. Наўянка Воранаўскага р-на ў 1985 г. устаноўлены бронзавы бюст А. І. Канарчыка (скульпт. У. Церабун, А. Салятыцкі).

**в. Бастуны, цэнтр сельсавета**

**375. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 50 м ад чыгуначнай станцыі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Беняконі, цэнтр сельсавета**

**376. КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1900—06 гг. з цэглы.

Двухвежавая трохнефавая базіліка з трансептам, роўным па вышыні цэнтральнаму нефу, які мае паўцыркульнае алтарнае завяршэнне. Бакавыя нефы больш нізкія, з боку галоўнага фасада завершаны магутнымі трох'яруснымі вежамі-званіцамі, а па баках алтара — прамавугольнымі сакрысціямі. Паўцыркульная алтарная частка касцёла абкружана больш нізкай прыбудовай, што надае ёй арыгінальнае ступеньчатае вырашэнне. Цэнтральны неф і трансепт накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі двухсхільнымі дахамі, з трохвугольнымі

франтонамі на тарцах, бакавыя нефы — аднасхільнымі дахамі. Над алтарнай часткай дах конусападобны, над вежамі шпілі. Аконныя праёмы прамавугольныя, з паўцыркульнымі імпастамі. Верхні ярус алтара асветлены вялікімі люнетамі. Сцены аздоблены плоскімі і руставанымі пілястрамі, філёнгавымі нішамі, сандрыкамі і інш., завершаны развітымі багата прафіляванымі антаблементамі. Інтэр'ер двухсветлавы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі неабарока і неакласіцызму. *Т. В. Габрусь.*



376. *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Выгляд з боку алтарнай часткі.*



376. *Касцёл Іаана Хрысціцеля.*

**в. Больценікі, Беняконскі сельсавет**

**377. ПАРК** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Закладзены ў 2-й палове 18 — пачатку 19 ст. Плошча каля 10 га. Займае амаль квадратны ў плане ўзгорысты ўчастак, які абмежаваны з поўначы полем, з захаду і ўсходу пасадкамі дрэў, з поўдня старой ліпавай алеяй. У паўночнаўсходняй частцы парку на самым высокім месцы размешчаны сядзібны дом, пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы ў стылі неаготыкі. Адсюль адкрываецца маляўнічы краявід. Цяпер парк належыць саўгасу імя А. Міцкевіча.

Парк пейзажнага тыпу. Яго кампазіцыю фарміруюць асобныя групы дрэў і кустоў, адкрытая прастора паляны, суцэльныя пасадкі. Заходні схіл ад дома да паляны, выцягнутай уздоўж лагчыны, афармлены 2 штучнымі тэрасамі. Вялікае значэнне ў фарміраванні ландшафту курцін маюць экзоты, якіх у парку больш за 60 відаў і форм: унікальныя ў БССР 2 экземпляры клёну вастралістага далоненадрэзнага, вольха шэрая лопасцевая, аксаміт амурскі, клёны (ясенялісты, прырэчны, татарскі, палявы, серабрысты, явар і яго пурпуровалістая форма), піхта белая, елкі (канадская, Энгельмана, калючая блакітная), хвоя веймутава, лістоўніца еўрапейская, туя заходняя і інш. Гісторыя парку звязана з імем А. Міцкевіча, які гасціў у тутэйшым маёнтку па запрашэнню Марылі Верашчакі.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *У. В. Алісейчык.*



377. *Парк. Сядзібны дом.*



377. *Куток парку.*

**в. Больцішкі, цэнтр сельсавета**

**378. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У скверы, каля клуба. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гайцюнішкі,**
**Канвелішскі сельсавет**

**379. ДОМ-КРЭПАСЦЬ** (архіт.). У паўднёвай частцы вёскі, на левым беразе р. Жыжма. Пабудаваны ў 1611—12 гг. з цэглы будаўнікам і начальнікам каралеўскіх збудаванняў у Вільні П. Нонхартам разам з інжынерамфартыфікатарам Ван Дадэнам. Цяпер у доме размешчана бальніца.

Будынак — прамавугольны ў плане, двухпавярховы, пад высокім вальмавым дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны трохпавярховай прамавугольнай у плане вежай з уваходам у выглядзе невысокага кубічнага аб'ёму з арачнымі праёмамі і тэрасай (наверсе), які прыбудаваны пазней. 4 вуглавыя вежы круглыя, накрыты шатрамі. Кожная вежа з вузкімі вокнамі-байніцамі, што дазваляла абаронцам з усіх бакоў кантраляваць подступы да дома. Фасады амаль не маюць дэкаратыўнага ўбранства. Тоўстыя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка дома анфіладная. Цэнтральную частку будынка займае вестыбюльная група памяшканняў з 2 лесвіцамі. Галоўная лесвіца звязвае вестыбюль з 2-м паверхам, дапаможная вядзе на



379. *Дом-крэпасць.*

гарышча. Большасць памяшканняў мае плоскія перакрыцці. Частка гаспадарчых памяшканняў 1-га паверха перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, у вежы — крыжовымі скляпеннямі. Памяшканні, размешчаныя ў вуглавых вежах, перакрыты сферычнымі купаламі. На скляпеннях захаваліся дэкаратыўныя нервюры. Пад домам шырокі сямікамерны падвал, у якім быў калодзеж. На 1-м паверсе размяшчаліся службы і казарма для невялікага гарнізона, на верхніх — жылыя памяшканні.



379. *Дом-крэпасць. Галоўны фасад.*



379. *Дом-крэпасць. План 1-га паверха.*



379. *Дом-крэпасць. План 2-га паверха.*



379. *Дом-крэпасць. План падвала.*

Дом-крэпасць — унікальны помнік грамадзянскай архітэктуры Беларусі.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии. Архитектура XIV—XVIII вв.— У кн.: Всеобщая история архитектуры. М., 1968, т. 6; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *У. В. Алісейчык.*

**380. КАПЛІЦА** (архіт.). У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі, каля дарогі. Пабудавана ў 1633 г. з цэглы як пахавальня сям'і Нонхартаў. Асталіся руіны. Прамавугольны ў плане будынак і такая ж алтарная частка. Асноўны аб'ём быў накрыты чарапічным вальмавым дахам. Сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, завершаны шырокім прафіляваным карнізам і ўмацаваны магутнымі контрфорсамі, схілы якіх накрыты чарапіцай. У інтэр'еры асноўны аб'ём быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.

Капліца — помнік архітэктуры, у якім выкарыстаны элементы рэнесансу і готыкі.

**в. Гарадзішча,**
**Радунскі пасялковы Савет**

**381. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Шведскі Вал. У цэнтры вёскі, каля р. Радунька. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, даўжыня па лініі паўднёвы захад — паўночны ўсход 85 м, шырыня 60 м. Умацавана чатырохвугольным у плане земляным валам вышынёй з боку пляцоўкі 3 м, з вонкавага — каля 5 м і ровам глыбінёй ад 1,5—2 м да 2,5—3 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі. Абследавалі ў 1928 г. П. Тарасенка, у 1938 г. У. Галубовіч, у 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,4—0,5 м. На паверхні пляцоўкі і ў агаленнях знойдзены абломкі ганчарнага посуду. Раскопкі не праводзіліся. Датуецца 15—16 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *А. Р. Мітрафанаў.*



381. *Гарадзішча. План.*

**в. Гародна,**
**Пагародзенскі сельсавет**

**382. ПАРК** (архіт.). У цэнтры вёскі. Закладзены ў канцы 18 ст. Рэгулярнага тыпу. Цэнтрам кампазіцыі быў мураваны сядзібны дом (не зберогся), пастаўлены на невялікай тэрасе. Па падоўжнай планіровачнай восі (усход — захад) размешчаны ўязная брама ў выглядзе 2 мураваных пілонаў, алея, абсаджаная дрэвамі, плошча перад домам. За будынкам знаходзяцца прамавугольны партэр і вузкі штучны вадаём, абсаджаны дрэвамі мясцовых парод. Раней перспектыву завяршала мураваная капліца (не зберагласся), ад якой да партэра вяла вакол сажалкі кругавая дарожка. Па баках партэра сіметрычна размяшчаліся падзеленыя алеямі 4 баскеты з пладовымі дрэвамі. Цяпер на месцы баскетаў маляўнічыя паляны з дэкаратыўнымі групамі дрэў і кустоў. У паўночнай частцы парку захаваліся сцены касцёла, пабудаванага ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы ў стылі ракако. Касцёл — аднанефавы двухвежавы будынак з двухпавярховай квадратнай у плане прыбудовай з боку апсіды. Галоўны фасад мае ўвагнутую форму, раскрапаваны шматслойнымі пілястрамі і ракайльнымі капітэлямі, завершаны фігур-



382. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — касцёл; 3 — брама.*



382. *Парк. Сажалка.*

ным шчытом з выявай герба ўладальніка сядзібы. Уваход вырашаны лучковым парталам, над ім — акно. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі аконнымі праёмамі з размалёўкай авальнай формы ў завяршэнні і буйнымі контрфорсамі. Унутры прастора касцёла была перакрыта крыжовымі скляпеннямі са здвоенымі падпружнымі аркамі, якія на сценах пераходзілі ў пілястры з ракайльнымі капітэлямі. Акцэнтам інтэр'ера з'яўляўся алтар, кампазіцыйна падобны да галоўнага фасада будынка: пілястры з лепкай на капітэлях абрамлялі арку, над якой быў картуш з гербам уладальніка сядзібы. Над уваходам знаходзіліся хоры з увагнутавыпуклай агароджай на фігурных слупах. Дзверы абапал алтара вялі ў калідор, а з яго ў прыбудову.

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975.

*У. В. Алісейчык, А. М. Кулагін.*

**383. ПОМНІК СУВЯЗІСТКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

24.1.1945 г. на пост 10-га асобнага батальёна паветранага назірання, апавяшчэння і сувязі, які размяшчаўся каля вёскі, напала каля 30 бандытаў з мэтай захапіць зброю. Баявы разлік паста — 5 дзяўчат-сувязістак — некалькі гадзін вёў няроўны бой. Бандыты ўварваліся на пост толькі пасля таго, як 4 сувязісткі былі забіты і 1 цяжка паранена.

У 1975 г. на месцы бою пастаўлены помнік (аўтар В. К. Каравашкін) — вертыкальная стэла і 2 бетонныя блокі, скампанаваныя ў форме стылізаванай рымскай лічбы IV, на трохступеньчатым стылабаце. На плоскасцях стэлы і блокаў — барэльефная выява ордэна Айчыннай вайны, рэльефная выява дзяўчыны-сувязісткі і надпіс-прысвячэнне.

*Э. М. Савіцкі.*



383. *Помнік сувязісткам.*



386. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Дварчаны, Забалацкі сельсавет**

**384. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Карначыха. У 1885—95 гг. даследавалі В. А. Шукевіч і Э. А. Вольтэр. Пад каменнымі вымасткамі або каменна-землянымі насыпамі ў ямах (глыбіня да 1,5 м) выяўлены трупапалажэнні галавой на захад. Знойдзены прылады працы (сякеры, нажы, крэсівы, тачыльныя брускі), упрыгожанні (пярсцёнкі, завушніцы, скроневыя кольцы, бранзалеты, пацеркі, пласціны ад налобных павязак), абломкі гліняных гаршкоў. У 1982 г. могільнік абследавалі А. В. Квяткоўская, у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Датуецца 13—14 стагоддзямі і больш познім часам.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Доцішкі, цэнтр сельсавета**

**385. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. На ўшанаванне памяці воіна і 9 жыхароў вёскі, што загінулі ў барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных Заходняй Беларусі і ўз'яднанне яе з БССР, а таксама ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дубінцы, Гіркаўскі сельсавет**

**386. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Дубінская Гара. Пахаваны 28 воінаў 17-й стралковай дывізіі 21-га стралковага корпуса Заходняга фронту, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1941 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жырмуны, цэнтр сельсавета**

**387. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1789 г. з дрэва.

Прамавугольны ў плане будынак з трансептам і пяціграннай алтарнай часткай. Асноўны аб'ём і крылы трансепта накрыты двухсхільнымі дахамі з франтонамі на тарцах. Галоўны заходні фасад, цэнтральная частка якога аформлена 2 мураванымі калонамі, завершаны франтонам з васьміграннай вежачкай. Сцены вертыкальна ашаляваны, расчлянёны пілястрамі і завершаны развітым антаблементам. Вокны паўцыркульныя. Унутраная прастора касцёла падзелена калонамі дарычнага ордэра на 3 нефы. Бакавыя нефы з галерэямі, якія адкрываюцца ў цэнтральны неф арачнымі праёмамі. У заходняй частцы — хоры. У паўднёвым крыле трансепта вылучана сакрысцыя. Галоўны алтар выкананы ў дарычным ордэры.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**388. МАГІЛЫ ГРЫНЦЭВІЧА** Юзафа Адамавіча **І ЯНЭЛЯ** Антона Іосіфа-



387. *Касцёл.*



387. *Касцёл. План.*

віча (гіст.). На могілках. Пахаваны былы старшыня Пагародзенскага сельсавета Ю. А. Грынцэвіч, расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 г., і савецкі актывіст А. І. Янэль, якога расстралялі гітлераўцы летам 1943 г. У 1967 г. на магілах устаноўлены мемарыяльныя знакі.

**389. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці актывістаў Ю. А. Грынцэвіча і А. І. Янэля, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 і 1943 гг., а таксама М. М. Захарэвіч і В. В. Высоцкай, якіх загубілі ў 1945 г. ворагі Савецкай улады, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**390. РАДЗІМА ПАДЧАШЫНСКАГА** Карла Іванавіча (гіст.).

Архітэктар, прадстаўнік класіцызму К. І. Падчашынскі, творчая дзейнасць якога звязана з Беларуссю, Літвой і Польшчай, нарадзіўся 7.11. 1790 г. Адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце (1813—14 гг.), пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1814—16 гг.). У 1817—19 гг. вучыўся ў Італіі і Парыжы ў Ж. Б. Рандле і Ж. Н. Л. Дзюрана. Вярнуўшыся на радзіму, К. І. Падчашынскі да 1831 г. узначальваў кафедру архітэктуры Віленскага універсітэта. Паводле яго праектаў пабудаваны: калонная зала універсітэта (1817 г.) і евангелічна-рэфармацкая царква (1830—35 гг.) у Вільні, палац (1824—28 гг.) у с. Яшунай Віленскай губерні, палац (1830-я гады) у в. Жылічы Магілёўскай губерні. Супрацоўнічаў з В. П. Стасавым у будаўніцтве (1825—32 гг.) палаца генерал-губернатара ў Вільні. К. І. Падчашынскі памёр 26.3.1860 г.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Забалаць, цэнтр сельсавета**

**391. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На вул. Партызанскай. Пабудаваны ў 1803—12 гг. з цэглы. У 20 ст. чарапічны дах заменены бляшаным, паўцыркульныя вокны перароблены ў стральчатыя.

Касцёл складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і прыбудаваных да яго з усходу званіцы, з захаду 2 сакрысцій. Званіца падзелена карнізамі на 3 ярусы. Ніжні ярус званіцы і вуглы астатніх аб'ёмаў руставаныя, другі ярус званіцы пазбаўлены дэкору, верхні апрацаваны філёнгамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, званіца завершана вежачкай на 8 калонках (надбудавана ў 20 ст.). Інтэр'ер зальны. У асноўным памяшканні столь плоская, у сакрысціях крыжовыя скляпенні. Алтарная частка аддзелена ад асноўнай мураванымі кулісамі. Над уваходам хоры на 4 драўляных калонках. Сцены расчлянёны пілястрамі, завершаны спрошчаным антаблементам. У аздобе інтэр'ера выкарыстана ілюзорная размалёўка ў выглядзе чатырохкалоннага мураванага алтара (з выявамі святых Пятра і Паўла) і двухкалонных бакавых алтароў. У час рамонту касцёла ў 1939 г. былі размаляваны таксама іншыя сцены і столь. Жывапіс падкрэслівае ордэрны характар пластыкі.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

*У. В. Алісейчык.*



389. *Помнік савецкім актывістам.*

**в. Запрудзяны, Забалацкі сельсавет**

**392. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



391. *Петрапаўлаўскі касцёл.*

**в. Канвелішкі, цэнтр сельсавета**

**393. КАСЦЁЛ СЭРЦА ІСУСА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1916 г. з дрэва. Складаецца з роўных па вышыні прамавугольнага ў плане асноўнага зруба, выцягнутай пяціграннай алтарнай апсіды і квадратнага ў плане бабінца. Па баках апсіды і бабінца роўна са сценамі асноўнага аб'ёму прыбудаваны дапаможныя памяшканні. Над бабінцам узвышаецца стромкая двух'ярусная чацверыковая вежа-званіца з вастраверхім шатром. Абапал яе над прыбудовамі зроблены аналагічныя, але меншыя па памерах вежы. На галоўным фасадзе — 3 уваходы, афармленыя арачнымі парталамі з вокнамі-«ружамі» над імі. Астатнія праёмы з паўцыркульнымі імпастамі. Сцены гарызантальна ашаляваны. Інтэр'ер падзелены 6 слупамі на 3 нефы. Над бакавымі нефамі — абхадныя галерэі. Столь плоская, перакрыцці бэлечныя. Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Куклі, Місявіцкі сельсавет**

**394. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). Мясцовая назва Баярскія магілы. За 0,5 км на захад ад вёскі, сярод поля. Захавалася 12 магіл. Выявіла ў 1982 г. А. В. Квяткоўская, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Надмагільных камянёў вельмі мала. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Навасады, Місявіцкі сельсавет**

**395. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На тэрыторыі школы. Пахаваны 3 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Нача, цэнтр сельсавета**

**396. МАГІЛА НАРБУТА** Тэадора (гіст.). У цэнтры вёскі, каля касцёла.

Гісторык, археолаг, этнограф, краязнавец, ваенны інжынер Т. (Фёдар Яўхімавіч) Нарбут нарадзіўся 8.11. 1784 г. у маёнтку Шаўры ў сям'і



391. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*

шляхціча. Пасля сканчэння Віленскага універсітэта ў 1803 г. на службе ў Пецярбургу, ваенны інжынер. Удзельнічаў у складзе рускіх войск у руска-пруска-французскай вайне 1806—07 гг. і руска-шведскай вайне 1808—09 гг. Праектаваў Бабруйскую крэпасць і ўдзельнічаў у яе будаўніцтве. У час ваенаа-інжынерных сапёрных работ паміж Дняпром і Сожам Т. Нарбут выпадкова выявіў курганныя пахаванні, што стала яго пажыццёвым захапленнем. Даследаваў археалагічныя аб'екты пад Старым Быхавам, Магілёвам, Рагачовам. З 1812 г. у адстаўцы, жыў на радзіме, вёў археалагічныя раскопкі каля Ліды, Навагрудка, Друскінінкая, Шаўроў. Лічыў курганы старажытнымі магіламі, якія належалі невядомаму народу, што жыў тут перад «русінамі». Аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (т. 1—9, 1835—41 гг.), якую напісаў з феадальна-манархічных пазіцый, падзеі давёў да 1569 г. Некрытычна адносіўся да гістарычных крыніц, ідэалізаваў Вялікае княства Літоўскае 16 ст. як залаты век у гісторыі Літвы і Беларусі. Адмоўна ставіўся да палітыкі польскіх феадалаў у Вялікім княстве Літоўскім, але адводзіў вялікую ролю каталіцкай царкве і польскай культуры ў жыцці Беларусі і Літвы. Апублікаваў шэраг гістарычных крыніц, у т. л. «Хроніку Быхаўца» (1846 г.). Аўтар артыкулаў «Даследаванне літоўскіх старажытнасцей», у якіх перадаваў мясцовыя легенды, асабліва тыя, што тлумачаць геаграфічныя назвы. Збіраў этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы, цікавіўся мясцовай геральдыкай. У Шаўрах сабраў вялікую бібліятэку, дзе было шмат рукапісаў, дакументаў, меў багатую археалагічную калекцыю.

За спачуванне паўстанню 1863—64 гг. і актыўны ўдзел у ім сына Людвіга Т. Нарбут быў высланы ў Вільню. Памёр 26.11.1864 г.

*Літ.:* Каханоўскі Г. А. Тодар Нарбут — археолаг і краязнаўца.— Беларусь, 1976, № 7; Очерки истории исторической науки в СССР. Т. 1.— М., 1955.

*Г. А. Каханоўскі.*

**397. МАГІЛА ШУКЕВІЧА** Вандаліна Аляксандравіча (гіст., архіт.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Ланкішкі.

Беларускі археолаг, этнограф, краязнавец, антраполаг і фалькларыст, член-карэспандэнт Кракаўскай Акадэміі навук В. А. Шукевіч нарадзіўся 10.12.1852 г. у в. Нача. Вучыўся ў Вільні. Пад уплывам лекцый прафесара Іосіфа Юндзіла па прыродазнаўству захапіўся праблемамі антрапалогіі, старажытнай гісторыі і заалогіі. З 1872 г. жыў у в. Нача, праводзіў сельскагаспадарчыя доследы, заснаваў агранамічны гурток. З 1883 г. даследаваў грунтавыя і курганныя могільнікі каля вёсак Нача, Пузелі (Пузельская Гара), Апонаўцы, Гаворскія, Тоўцішкі, Сабакінцы (цяпер Першамайск), Нарбутова, Клябанія (Воранаўскі р-н), Дварчаны, Вензаўшчына, Сырні, Чарнішкі (Шчучынскі р-н). Першы з беларускіх археолагаў раскапаў курганы (16) і каменныя магілы (376) тыпу жальнікаў 13—14 стагоддзяў. На тэрыторыі Лідскага павета раскапаў 120 каменных магіл, 170 пахаванняў. Даследаваў таксама помнікі археалогіі каля Віцебска, Лепеля, Радашковіч, воз. Дрысвяты. Удзельнік правядзення IX Археалагічнага з'езда ў Вільні (1893 г.). Член Віленскага таварыства сяброў навук, Варшаўскага краязнаўчага таварыства. Сабраў багатыя калекцыі археалагічных, нумізматычных, сфрагістычных прадметаў, матэрыялаў антрапалогіі. Рэчы з раскопак перадаў у музеі Пецярбурга, Масквы, Кракава, Варшавы, Вільні. Аўтар артыкулаў «Каменныя курганы ў Лідскім павеце» (1899 г.), «Двары, замкі, палацы», «Даўнія каралеўскія лясы ў Літве» (1911 г.), «Нарысы з Белай Русі» (1912 г.), а таксама гісторыка-эканамічных нарысаў пра развіццё роднага краю. Запісаў шмат беларускіх легенд, песень, прымавак і прыказак. В. А. Шукевіч памёр 1.12.1919 г. Пахаваны ў родавай пахавальні Шукевічаў. Прамавугольны ў плане (7,8×5,4 м) мураваны будынак накрыты двухсхільным дахам. На галоўным фасадзе порцік з трохвугольным франтонам. Уваход аформлены прамавугольным парталам. Сцены ўзведзены з бутавага каменю з дамешкамі дробных каменьчыкаў (муроўка «з ізюмам»). Калоны, ніжняя частка і завяршэнне сцен выкананы з цэглы, атынкаваны. Вокны паўкруглыя. Пад будынкам зроблена крыпта, перакрытая скляпеннем. Будынак значна пашкоджаны.

*Літ.:* Talko-Hryncewicz J. W. Szukiewicz.— Przegląd Archeologiczny, 1919, zesz. 3—4; яго ж. W. Szukiewicz jako prehistoryk Litwy.— Wiadomości Archeologiczne, 1920, t. 5, zesz. 1—2; Niemojewski A., W. Szukiewicz.— Myśl Niepodległa, 1920, № 481.

*Т. В. Габрусь, Г. А. Каханоўскі.*

**398. МАГІЛА ЮНДЗІЛА** Станіслава Баніфацыя (гіст.). У цэнтры вёскі, каля касцёла.

Вучоны ў галіне батанікі, заалогіі і прыродазнаўства, адзін з першых даследчыкаў раслінасці Беларусі, доктар філасофіі (1798 г.), доктар багаслоўя (1800 г.), прафесар батанікі і заалогіі (з 1802 г.) С. Б. Юндзіл нарадзіўся 6.5.1761 г. у в. Ясяніцы. Першапачатковую адукацыю атрымаў у маёнтку бацькоў. Скончыў духоўную школу ў Лідзе (1779 г.), настаўнічаў у піярскіх школах. З 1781 г. у Вільні, слухач філасофскіх курсаў Віленскага універсітэта. Займаўся вывучэннем батанікі, заалогіі, анатоміі, сабраў багатую заалагічную калекцыю, гербарый (загінулі ў 1830—31 гг.).



399. *Помнік землякам.*

З 1792 г. за мяжой (Аўстрыя, Венгрыя, Германія), вывучаў мінералогію, металургію, ветэрынарную справу, пазнаёміўся з арганізацыяй батанічных садоў. У 1797 г. вярнуўся ў Вільню, працаваў на кафедры прыродазнаўства Віленскага універсітэта; з 1802 г. прафесар батанікі і заалогіі. Заснаваў батанічны сад, мінералагічны і прыродазнаўчы кабінеты. Вывучаў флору і карысныя выкапні (солі, торф) Беларусі і Літвы. Вёў асветніцкую работу, выкладаў батаніку і заалогію ў школе. Аўтар падручнікаў, навуковых прац па батаніцы і заалогіі. Памёр 18.4.1847 г. На магіле пастаўлены помнік — гранітная пліта крыжам у завяршэнні.

*Літ.:* Encyklopedyja powszechna. T. 13.— Warszawa, 1863; Русский биографический словарь.— СПб., 1912.

*В. М. Удальцоў.*

**399. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, за 0,3 км ад будынка клуба. На ўшанаванне памяці 7 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 2 савецка-партыйных работнікаў, забітых ворагамі Савецкай улады, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**400. СТАЯНКА** (археал.). За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Плітніца, на дзюне, сярод затарфаванага левабярэжнага поплаву р. Нача, на месцы раскапанага В. Шукевічам могільніка ранняга жалезнага веку. Адкрыў у пачатку 20 ст. В. Шукевіч, абследаваў у 1967 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка позняга бронзавага веку. Датуецца 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*



*405. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі.*

**в. Пасека Дварчаны,
Забалацкі сельсавет**

**401. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 19 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1942 г. Сярод пахаваных сям'я партызана Ф. А. Родзіка (4 чалавекі). У 1983 г. на сродкі камсамольцаў раёна на магіле пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем.



*407. Помнік землякам.*

**в. Пашкавічы,
Радунскі пасялковы Савет**

**402. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, справа ад дарогі на Ліду. Захавалася 60 магіл. Памер 15×20 м. Могільнік абнесены валам вышынёй 0,7—0,8 м, шырынёй 1,5 м. Большасць надмагільных камянёў знесена. Выявіла ў 1982 г. А. В. Квяткоўская, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пузелі, Нацкі сельсавет**

**403. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,7 км ад вёскі, ва ўрочышчы Пяцкушкі. Даследавалі ў 1884—88 гг. В. А. Шукевіч, З. Глогер і Э. А. Вольтэр, якія выявілі адзіночныя пахаванні па абраду трупапалажэння ў ямах глыбінёй да 1,5 м, галавой на захад (зрэдку на поўнач). Пахавальны інвентар: жалезныя нажы, крэсівы, спражкі, кольцы, бронзавыя пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты, тачыльныя камяні. Прадметы ўзбраення (сякера, кап'ё) — адзінкавыя. Найбольш характэрныя знаходкі — галаўны ўбор з бронзавых ці сярэбраных пласцін і шкляных пацерак (у адным выпадку з бронзавымі бразготкамі і спіралькамі). Захавалася каля 50 магіл. Абследавалі ў 1982 г. А. В. Квяткоўская, у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Датуюцца 13—14 стагоддзямі і больш познім часам.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**г. п. Радунь,
цэнтр пасялковага Савета**

**404. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЙНЫХ І САВЕЦКІХ РАБОТНІКАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы. Пахаваны 11 партыйных і савецкіх работнікаў, якія забіты ў 1945—48 гг. ворагамі Савецкай улады. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**405. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І СУПРАЦОЎНІКАЎ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы. Пахаваны 52 воіны і 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 12-га гвардзейскага палка 88-й дывізіі 31-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі 13.7.1944 г. у баях за вызваленне пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 20 супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі, што загінулі на тэрыторыі раёна ў 1944—45 гг. пры ліквідацыі бандаў ворагаў Савецкай улады.

У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. М. Удальцоў.*

**406. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 1137 мясцовых жыхароў, у т. л. 314 жанчын і 298 дзяцей, якіх вясной 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. Многіх з іх фашысты пакідалі ў яму і закапалі жывымі. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.



*410. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**407. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці



*411. Касцёл.*



*411. Касцёл. План.*

жыхароў пасёлка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1954 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Сабалюнцы, Нацкі сельсавет**

**408. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, у лесе на невялікім узвышшы. Захавалася каля 15 магіл. Выявіла ў 1982 г. А. В. Квяткоўская, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Амаль усе надмагільныя камяні звезены. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Смільгіні, Забалацкі сельсавет**

**409. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка аддзялення сувязі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тракелі, Бастунскі сельсавет**

**410. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км ад будынка сярэдняй школы. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**411. КАСЦЁЛ** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудаваны ў 1809 г. з дрэва. У 1928 г. у час капітальнага рамонту сцены звонку і ўнутры ашаляваны, у 1950-я гады гонтавы дах заменены бляшаным. Побач з касцёлам (на поўнач ад яго) драўляная двух'ярусная каркасная званіца.

Будынак касцёла складаецца з аднолькавых па вышыні бабінца, асноўнай часткі і алтарнай прыбудовы, якія ствараюць выцягнуты па цэнтральнай восі суцэльны монументальны аб'ём, накрыты агульным вальмавым дахам. 2 сакрысціі, прыбудаваныя ў месцы злучэння асноўнай і алтарнай частак, пластычна звязаны з імі двухсхільнымі дахамі. Інтэр'ер зальны. Столь плоская, у алтарнай частцы — цыліндрычнае скляпенне. Над уваходам хоры на 4 калонках. Драўляны алтар выкананы ў спрошчаных барочных формах.

Касцёл — помнік архітэктуры, у якім выкарыстаны элементы барока і класіцызму. *У. В. Алісейчык.*



412. *Курганны могільнік. План.*

**в. Чыжаўск, Канвелішскі сельсавет**

**412. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, абапал дарогі ў в. Міхалішкі, на беразе ручая, па якім праходзіць граніца паміж БССР і Літоўскай ССР. 70 насыпаў вышынёй ад 0,5 да 1,5 м, дыяметрам ад 5 да 8 м. Абследаваў у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Шаўры, Нацкі сельсавет**

**413. РАДЗІМА НАРБУТА** Людвіга Тэадоравіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. на Беларусі і ў Літве Л. Т. Нарбут нарадзіўся 31.8.1832 г. у маёнтку Шаўры ў сям'і вядомага гісторыка і археолага Т. Нарбута. Вучыўся ў Лідскім вучылішчы і Віленскай гімназіі. У 1850 г. за рэвалюцыйную дзейнасць сасланы радавым на Каўказ. Удзельнічаў у Крымскай вайне 1853—56 гг. У канцы 1850-х гадоў атрымаў афіцэрскі чын, выйшаў у адстаўку і пасяліўся на радзіме. У час падрыхтоўкі паўстання прыхільнік партыі «чырвоных». У 1863 г. паўстанцкія ўлады прызначылі яго ваенным начальнікам Лідскага павета, а пазней прысвоілі яму званне палкоўніка. Л. Нарбут сфарміраваў адзін з першых на Беларусі паўстанцкі атрад, з якім на працягу 3 месяцаў (люты — красавік) вёў паспяховую барацьбу супраць царскіх карнікаў. Атрад дзейнічаў каля Начы, Дубічаў, у Рудніцкай і Гродзенскай пушчах. Л. Нарбут патрабаваў ад памешчыкаў выканання паўстанцкіх маніфестаў па аграрным пытанні, карыстаўся падтрымкай сялян. У атрадзе Л. Т. Нарбута знаходзіліся мастак М. Э. Андрыёлі і, па некаторых звестках, пісьменнік Ф. Багушэвіч. Л. Т. Нарбут загінуў 22.4.1863 г. у баі каля Дубічаў (цяпер Дубічай Варэнскага р-на Літоўскай ССР), дзе і пахаваны.

*Літ.:* К і с я л ё ў Г. В. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965.—(Восстание 1863 года. Материалы и документы); K o w a l e w s k a Z. Dzieje powstania lidzkiego: Wspomnienie o Ludwiku Narbucie.— Wilno, 1934. *Г. В. Кісялёў.*

# ГРОДЗЕНСКІ РАЁН




Прывалка
Калеты
Парэчча
Сапоцкін
Васілевічы
Гожа
Рыбніца
Нов. Руда
Рацічы
Лойкі
Белае
Сухары
Гінавічы
Багушоўка
Грандзічы
Верцялішкі
Азёры
Падлабенне
Путрышкі
Баранавічы
ГРОДНА
Малахавічы
Жытомля
Галавачы
Каробчыцы
Абухава
Гліняны
СКІДАЛЬ
Каўпакі
Капцёўка
Партызанская
Навасёлкі
Квасоўка
Падліпкі
Свіслач
Сухая Даліна
Індура
Луцкаўляны
Адэльск

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

**в. Абухава, цэнтр сельсавета**

414. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Агароднікі, Абухаўскі сельсавет**

415. **СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе безыменнага ручая, у месцы ўпадзення яго ў р. Котра. Даўжыня селішча ўздоўж ручая 50 м. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. У культурным пласце да 0,5 м знойдзены абпаленыя камяні, кавалкі глінянай абмазкі, ганчарная кераміка. Датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Адамавічы, Баранавіцкі сельсавет**

416. **КАСЦЁЛ ТЭКЛІ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1854 г. з цэглы.

Будынак прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Над асноўным аб'ёмам квадратная ў плане двух'ярусная званіца, завершаная чатырохгранным шатром. Над цэнтральным уваходам скульптурная выява св. Тэклі. Сцены храма атынкаваны, дэкарыраваны пілястрамі і прарэзаны арачнымі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Інтэр'ер зальны, столь плоская. Прэсбітэрый і хоры аддзелены ад асноўнай прасторы сценамі з арачнымі праёмамі. У храме 3 алтары.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*І. С. Мельнік.*



416. *Касцёл Тэклі.*

**в. Адэльск, цэнтр сельсавета**

417. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля крыніцы. Вышыня над поплавам р. Адлянка 5 м. Плошча 1,5 га. Добра захавалася ўсходняя частка гарадзішча. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

418. **КАСЦЁЛ УШЭСЦЯ** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1-й палове 18 ст. з дрэва. У 1898 г. сцены звонку і ўнутры ашаляваны.

Асноўны аб'ём прамавугольны ў плане, трохнефавы, з 2 невялікімі бакавымі прыбудоўкамі. Цэнтральны неф і роўная з ім па шырыні апсіда накрыта агульным вальмавым дахам з дэкаратыўнай фігурнай вежай. Бакавыя нефы маюць аднасхільныя пакрыцці. Сцены прарэзаны здвоенымі паўцыркульнымі і невялікімі круглымі аконнымі праёмамі, расчлянёны вертыкальнымі сцяжкамі і завершаны шырокім карнізам. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі прасторавую кампазіцыю.

Касцёл — помнік народнага дойлідства.

*В. Р. Слюнчанка.*

419. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1959 г.

**в. Азёры, цэнтр сельсавета**

420. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 72 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



418. *Касцёл Ушэсця.*



418. *Касцёл Ушэсця. План.*




420. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

421. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі ў в. Новая Руда. 5 насыпаў вышынёй 0,5—0,8 м, дыяметрам 6—12 м. Выявіла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

422. **СТАЯНКІ** (археал.). Вядомы пад назвай Азёры.

422а. Стаянка-1. На ўсходняй ускраіне вёскі, на заходнім беразе воз. Рыбніца. Абследавалі ў 1958 г. Л. С. Клейн, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м, зверху разараны. Знойдзены позненеалітычная кераміка і шматлікія крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да позняга этапа нёманскай культуры (3-е тысячагоддзе да н. э.).

422б. Стаянка-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, на заходнім беразе воз. Рыбніца. Абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. На паверхні трапляюцца ножападобныя пласціны, канцавыя скрабкі, лістападобныя наканечнікі стрэл і іншыя крамянёвыя прылады. Адносіцца да эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.). Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.

*М. М. Чарняўскі.*

**423. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю.

Квадратны ў плане асноўны аб'ём з прамавугольнай апсідай, да якога праз вузкую галерэю далучана трох'ярусная званіца, накрыты чатырохсхільным дахам з галоўкай на васьміграшным барабане, званіца — шатровым з галоўкай, галерэя — двухсхільным. Фасады дэкарыраваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, паяскамі, ліштвамі паўцыркульных аконных праёмаў. Бакавыя фасады асноўнага аб'ёму ўпрыгожаны неглыбокімі нішамі ў форме какошніка. У нішах здвоеныя вокны. Дэкаратыўныя дэталі атынкаваны і пабелены. Інтэр'ер зальны. Плоскае бэлечнае перакрыцце падтрымліваецца 4 масіўнымі квадратнымі калонамі.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

*І. С. Мельнік.*

**в. Бабіна, Парэцкі сельсавет**

**424. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 11 жыхароў вёскі (старыя, жанчыны, дзеці), якіх 11.1.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**425. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі. У 2 магілах пахаваны воіны, якія загінулі 24.6.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і парашутыст-дэсантнік, што загінуў зімой 1944 г. У 1965 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Баля-Сольная, Баранавіцкі сельсавет**

**426. СТАЯНКІ** (археал.).

**426а.** Стаянка-1. На паўночнаўсходняй ускраіне вёскі, на кліне чатырохметровай поймы паміж левым берагам ручая і нізкай левабярэжнай поймай р. Нёман. Памер 10×30 м. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,5 м трапляюцца крамянёвыя вырабы і фрагменты керамікі бронзавага веку, якія датуюцца 2-м тысячагоддзем да н. э.



423. *Царква Ушэсця. Бакавы фасад.*



431. *Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**426б.** Стаянка-2. У вёсцы, на кліне высокай (дзевяціметровай) тэрасы паміж правым берагам ручая і ніжэйшай тэрасай. Памер 50×150 м. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя вырабы палеалітычнага і мезалітычнага часу — аднапляцовачныя нуклеусы, канцавыя скрабкі, клінападобныя разцы, скоблі, праколкі, прылады сякучых форм.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Бандары, Скідальскі сельсавет**

**427. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 50 жыхароў в. Сіні Камень, якіх 18.7.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**428. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 36 жыхароў в. Дземша, якіх 18.7.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Беражаны, Лойкаўскі сельсавет**

**429. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе Нёмана. Плошча каля 2000 м². Адкрылі ў пачатку 20 ст. В. Серашэўскі і Ю. Ядкоўскі, абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,2—0,3 м. На паверхні сабраны грубая ляпная кераміка, глінянае прасліца і іншыя рэчы. Датуецца сярэдзінай і 2-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Васілевічы, цэнтр сельсавета**

**430. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны савецкія воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Верцялішкі, цэнтр сельсавета**

**431. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 91 воін, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях пры вызваленні Верцялішак і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1983 г. на магіле ўзведзены мемарыяльны комплекс — скульптура жанчыны, якая ўвасабляе Радзіму-маці, і сцяна з гарэльефнымі выявамі баявых эпізодаў. Перад скульптурай запалены Вечны агонь.

**432. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ КАЛГАСА «ПРАГРЭС»** (архіт.). Вёска размешчана за 13 км на ўсход ад Гродна, на аўтамагістралі Гродна — Вільнюс.

Будаўніцтва пачата ў 1967 г. паводле генплана (Белдзіпрасельбуд; карэкціроўка 1980 г.; архіт. В. Емяльянаў, Г. Заборскі, старшыня калгаса Ф. Сянько). Архітэктурна-планіровачную структуру забудовы вызначаюць вуліцы Маладзёжная (удоўж магістралі Гродна — Вільнюс) і Юбілейная (злучае цэнтр пасёлка з зонай індывідуальных жылых дамоў), якія з прылеглымі да іх вуліцамі ўтвараюць некалькі кварталаў. Кампазіцыйным ядром забудовы з'яўляецца грамадска-адміністрацыйны і культурна-гандлёвы цэнтр. Аснова яго — прамавугольная, раскрытая ў бок аўтамагістралі, плошча. Яе ансамбль утвараюць адміністрацыйны будынак праўлення калгаса і выканкома сельскага Савета, Дом культуры (з глядзельнай залай на 360 месцаў, пакоямі для гурткоў мастацкай самадзейнасці і закрытым плавальным басейнам), а таксама прамтаварны і прадуктовы магазіны, сталовая-рэстаран, Дом быту, гасцініца. Ансамбль забудовы завяршаецца 4-павярховым жылым домам для маладых спецыялістаў. На плошчы дэкаратыўны басейн з фантанамі, у афармленні якіх выкарыстаны глыбы каляровага шкла. З паўночнага ўсходу да плошчы прымыкае парк з танцавальнай і спартыўнай пляцоўкамі. Побач з паркам будынкі дзіцячага сада-ясляў, урачэбнага пункта і музычнай школы.



432. *Забудова вёскі Верцялішкі. Дэкаратыўны басейн.*

Пасёлак забудаваны 4 тыпамі дамоў: 2-павярховымі 4- і 8-кватэрнымі (вул. Маладзёжная), 1—2-кватэрнымі з кватэрамі ў 2 узроўнях (вул. Юбілейная), 2-павярховымі 4- і 8-кватэрнымі з асобнымі ўваходамі, а таксама секцыйнымі 8-кватэрнымі палепшанай планіроўкі (вул. Паркавая). Дапаўняюць сілуэт забудовы 4- і 5-павярховыя жылыя дамы, якія рытмічна ўключаны ў кампазіцыю. У дамах з кватэрамі ў 2 узроўнях на 1-м паверсе прыхожая, кухня, агульныя і бытавыя памяшканні, на 2-м — спальня і невялікі кабінет, балкон. На 1-м паверсе з агульнага пакоя выхад на тэрасу. З прыхожай 1-га паверха на 2-і вядзе шырокая лесвіца. Да дома прымыкае кладоўка, пад ёю — склеп. Пры будаўніцтве жылых дамоў выкарыстаны мясцовыя матэрыялы: дрэва, камень, рознакаляровая цэгла. На вуліцах растуць дэкаратыўныя дрэвы і кустарнікі, разбіты кветнікі і газоны. Частка вуліц, тратуары і падыходы да дамоў заасфальтаваны. Працуюць цэнтралізаваныя сістэмы вада-, цепла- і электразабеспячэння.

Гаспадарчая зона ў паўночна-заходняй частцы вёскі. Тут палігон жалезабетонных вырабаў, лесасушылка, лесапільны цэх, дрэваапрацоўчая майстэрня, завод па перапрацоўцы агародніны і фруктаў з фруктасховішчам, завод вітаміннай сяннoй мукі з камбікормавым цэхам, цяпліца.

Па сваёй планіровачнай структуры і забудове Верцялішкі з'яўляюцца пасёлкам новага тыпу, у якім удала вырашаны пытанні размяшчэння жылля, вытворчых і культурна-бытавых пабудоў, арганізацыі працы, адпачынку і абслугоўвання сельскага насельніцтва. Планіровачнае вырашэнне і забудова в. Верцялішкі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР 1971 г.

*Літ.:* Соколовский В. Э., Алимов Р. Н. Архитектура нового белорусского села.— Мн., 1979.

*В. Б. Ангелаў, В. Н. Емяльянаў.*



432. *Забудова вёскі Верцялішкі. Схема генплана.*

**в. Галавачы, Скідальскі сельсавет**

**433. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Па-



432. *Жылая забудова вёскі Верцялішкі.*

хаваны У. Ф. Самойла — былы сакратар Скідальскага падпольнага райкома, член Гродзенскага акругкома КПЗБ, кіраўнік падпольнай антыфашысцкай групы, якая дзейнічала ў вёсцы ў Вялікую Айчынную вайну, і 5 членаў групы, расстраляных 22.5. 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

434. **КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1881 г. з цэглы, атынкавана.

Будынак прамавугольны ў плане з пяцігранпай апсідай і двух'яруснай званіцай. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам, у цэнтры якога галоўка на васьміграпным барабане, апсіда — вальмавым дахам, званіца — васьмігранным шатром з галоўкай. Фасады дэкарыраваны сухарыкамі і кілепадобнымі аркамі, какошнікамі. Вокны паўцыркульнай і прамавугольнай формы. Інтэр'ер зальнага тыпу. Перакрыцце — драўлянае карабавае скляпенне.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *І. С. Мельнік.*

435. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 177 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — мемарыяльная сцяна, на якой белыя мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых, і стэла з барэльефнай выявай 2 воінаў.

**в. Галавенчыцы, Васілевіцкі сельсавет**

436. **ПОМНІК САВЕЦКІМ ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на месцы былой пагранічнай заставы. 22.6.1941 г. на працягу 11 гадзін пагранічнікі заставы на чале з старшым лейтэнантам А. М. Сівачовым стрымлівалі націск нямецка-фашысцкіх войск, спалілі 3 танкі, знішчылі больш за 60 гітлераўцаў. У няроўным баі ўсе пагранічнікі, акрамя аднаго, загінулі. У 1968 г. на ўшанаванне памяці пагранічнікаў пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

*Літ.:* Линьков Л. Сердце Александра Сивачева.— У кн.: Тревожная служба. М., 1966. *Э. М. Савіцкі.*



434. *Крыжаўзвіжанская царква.*

**в. Галынка, Сапоцкінскі пасялковы Савет**

437. **КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы, атынкаваны.

Крыжападобны ў плане будынак. У заходняй яго частцы над галоўным уваходам узвышаецца двух'ярусная званіца, увенчаная васьміграннай вежай з шатровым пакрыццём. Над сяродкрыжжам чатырохсхільны дах з невялікай чатырохграннай вежачкай, завершанай шатром. Неф і крылы трансепта накрыты двухсхільнымі дахамі. Сцены прарэзаны адзіночнымі і здвоенымі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах.

У інтэр'еры аб'ёмы перакрыты драўлянымі стральчатымі скляпеннямі, над сяродкрыжжам — самкнутае чатырохграннае скляпенне. Хоры на 2 васьмігранных драўляных калонах.

Касцёл — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *І. С. Мельнік.*

**в. Гарны, Квасоўскі сельсавет**

438. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,1 км ад клуба. На ўшанаванне памяці 11 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем на руках і стэла.

**в. Гліняны, Скідальскі сельсавет**

439. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і 2 стэлы.

**в. Гожа, цэнтр сельсавета**

440. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 62 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



435. *Помнік землякам.*


436. *Помнік савецкім пагранічнікам.*

441. **КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з бутавага каменю.

Храм прамавугольны ў плане. Галоўны фасад увенчаны 2 васьміграннымі вежамі з шатровымі завяршэннямі. Асноўны аб'ём будынка накрыты двухсхільным дахам, алтарная частка — вальмавым. Плоскасці сцен прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны паўкруглымі нішамі, пілястрамі, паяскамі, прафіляванымі карнізамі. Мастацкая выразнасць дасягнута спалучэннем фактурнай паверхні бутавай муроўкі і белых атынкаваных элементаў дэкору. Інтэр'ер зальнага тыпу. 6 квадратных у плане калон дзеляць унутраную прастору на 3 нефы, цэнтральны — удвая шырэй за бакавыя. Сцены дэкарыраваны пілястрамі.

Касцёл — помнік архітэктуры з элементамі неаготыкі. *І. С. Мельнік.*

442. **СЕЛІШЧА** (археал.). На правым беразе р. Гажанка, у месцы ўпадзення яе ў Нёман. Даўжыня ўздоўж берага 0,3 км. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт больш за 0,6 м. Знойдзена ганчарная кераміка з лінейным арнаментам. Датуецца 11—14 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

443. **СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Гродна — Друскінінкай, на краі высокай тэрасы. Выявіў у канцы 19 ст. З. Глогер, даследавалі ў пачатку 20 ст. Ю. Ядкоўскі, у 1976 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт захаваўся толькі на самым краі тэрасы. Знойдзены прызматычныя нуклеусы, лістападобныя наканечнікі стрэл, скрабкі і інш. Яны адносяцца да эпохі мезаліту. Стаянка датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— Вильна, 1895. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Грандзічы, цэнтр сельсавета**

444. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 130 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.


439. *Помнік землякам.*

**в. Гушчыцы, Абухаўскі сельсавет**

445. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 44 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай твараў воіна, партызана і партызанкі.

**в. Даргунь, Сапоцкінскі пасялковы Савет**

446. **ПОМНІК САВЕЦКІМ ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. 22.6. 1941 г. пагранічнікі заставы на чале


437. *Касцёл.*



442. *Селішча. План.*


441. *Касцёл. Галоўны фасад.*



*444. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

з старшым лейтэнантам Ф. П. Кірычэнкам на працягу некалькіх гадзін стрымлівалі націск гітлераўскіх войск. Пагранічнікі змагаліся да апошняга патрона, і амаль усе загінулі ў няроўным баі. У 1960 г. на месцы былой пагранічнай заставы пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам. *Э. М. Савіцкі.*

**в. Дарошавічы, Квасоўскі сельсавет**

**447. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля клуба. На ўшанаванне памяці 52 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Дземша (не існуе), Скідальскі сельсавет**

**448. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Дземша знаходзілася за 4,5 км на паўночны ўсход ад в. Бандары. 18.7.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 36 жыхароў вёскі, спалілі ўсе пабудовы (36 двароў).

**в. Жылічы, Капцёўскі сельсавет**

**449. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Славічы. Пляцоўка мае форму квадрата памерам 50×50 м. Абследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—74 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт не выяўлены. На пляцоўцы і па-за яе межамі знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі. Датуецца 11—14 стагоддзямі. Відавочна, гэта абарончае збудаванне. Раскопкі не праводзіліся.



*445. Помнік землякам.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— Вильна, 1895; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Жытомля, Верцяліпшкаўскі сельсавет**

**450. БЛАГАВЕШЧАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 17 — пачатку 18 ст. з дрэва. У 19 ст. сцены гарызантальна ашаляваны, перабудаваны верхнія часткі апсіды і званіцы, устаноўлены іканастас.

Выцягнуты па падоўжнай восі будынак царквы складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, апсіды і двух'ярусная званіцы (васьмярык на чацверыку), завершанай галоўкай. Бакавыя сцены асноўнага аб'ёму і апсіды прарэзаны вялікімі аконнымі праёмамі. Будынак апраразвае разны падкарнізны фрыз. У інтэр'еры драўляныя слупы дзеляць аб'ём на 3 нефы. Цэнтральны перакрыты плоскай столлю, бакавыя — нахільнай.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *В. Р. Слюнчанка.*

**451. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 80 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і падлетка.

**в. Загараны, Баранавіцкі сельсавет**

**452. МЕСЦА БОЮ 1944 г.** (гіст.). Паўночна-ўсходняя ўскраіна вёскі. У ліпені 1944 г. у час баёў за вызваленне Гродзенскай вобл. ад нямецка-фашысцкіх акупантаў воіны 455-га Верхнедняпроўскага палка 42-й Смаленскай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту захапілі плацдарм на правым беразе Нёмана і замацаваліся ў руінах форта. На працягу 3 дзён (18—20 ліпеня) адбівалі контратакі праціўніка, нанеслі яму значныя страты. У 1967 г. на месцы бою пастаўлены абеліск. *Э. М. Савіцкі.*

**в. Загорцы, Абухаўскі сельсавет**

**453. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 28 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены абеліск.

**в. Запур'е, Парэцкі сельсавет**

**454. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 48 жыхароў вёскі, у т. л. 18 дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў, якіх 18.9. 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



*451. Помнік землякам.*

**в. Зарачанка, Лойкаўскі сельсавет**

**455. КАСЦЁЛ МАРЫІ** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы на бутавым фундаменце.

Касцёл аднанефавы, прамавугольны ў плане. Сакрысціі і трохгранная апсіда злёгку выступаюць за межы асноўнага аб'ёму. У заходняй частцы храма, над галоўным уваходам двух'ярусная квадратная ў сячэнні вежа, завершаная шасцігранным шпілем. Дах двухсхільны, над апсідай вальмавы. Плоскасці атынкаваных сцен пра-



*450. Благавешчанская царква.*



*450. Благавешчанская царква. План.*



452. *Помнік на месцы бою 1944 г.*

рэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі. Над парталам галоўнага ўвахода — скульптурная выява святой. Інтэр'ер зальнага тыпу. Сцены дэкарыраваны пілястрамі. Зашкленне вітражнае.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *І. С. Мельнік.*

**в. Зарубічы, Капцёўскі сельсавет**

**456. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАГАЧЭЎСКАМУ** Казіміру Юр'евічу (гіст.) У цэнтры вёскі. Устаноўлена ў 1968 г. на доме, дзе ён жыў. К. Ю. Рагачэўскі нарадзіўся ў 1907 г. Юнаком уступіў у члены КПЗБ, быў сакратаром Індурскага падпольнага



455. *Касцёл Марыі. Галоўны фасад.*

райкома КПЗБ. За актыўную рэвалюцыйную дзейнасць неаднойчы быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы. У 1928 г. прыгавораны да паўтарагадовага турэмнага зняволення. У 1933 г. пры чарговым арышце застрэліўся.

**в. Зарыца, Грандзіцкі сельсавет**

**457. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. У гонар воінаў, якія ў час баёў за Гродна фарсіравалі тут у ліпені 1944 г. р. Нёман, у 1977 г. пастаўлена стэла.

**в. Індура, цэнтр сельсавета**

**458. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 186 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**459. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на высокім мысе. Мае 2 пляцоўкі. Унутраная, амаль круглая ў плане, дыяметрам 16—18 м, умацавана валам вышынёй каля 2 м. За валам прасочваецца роў. Вонкавая пляцоўка авальная, памерам 45×48 м, таксама абкружана валам вышынёй да 3 м. У паўднёва-заходняй частцы гарадзішча, паміж унутраным і вонкавым валамі прасочаны невялікі адрэзак трэцяга (прамежкавага) вала вышынёй 1 м. З паўночнага боку ўнутранага вала — 2 уезды. З паўночна-заходняга (вонкавага) боку — адзін уезд, каля якога знаходзіцца яма дыяметрам каля 12 м (відавочна, рэшткі студні). Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, даследавалі ў 1955 г. К. Т. Кавальская, у 1959 г. П. А. Рапапорт, у 1974 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт на ўнутранай і вонкавай пляцоўках 0,7—0,8 м. Знойдзены разнастайныя прылады працы і прадметы рыштунку воіна, рэшткі хатняга інвентару і адзення, косці свойскіх і дзікіх жывёл, зярняты збожжавых, рэшткі аздобленай керамікі. Гарадзішча датуецца 11—13 стагоддзямі. Было, відаць, сядзібай феадала. Выяўленыя ў культурным пласце рэчы блізкія да знаходак з раскопак Старога замка ў Гродне.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962; Раппопорт П. А. Военное зодчество западно-русских земель X—XIV вв.— Л., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 140). *Я. Г. Звяруга.*

**460. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1825 г. з цэглы. У 1901—04 гг. да паўночнага і паўднёвага фасадаў прыбудаваны



458. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

вежы, з усходняга боку зроблена прыбудова, якая ўключае трансепт, апсіду і сакрысціі.

Касцёл складаецца з трохнефавага асноўнага аб'ёму з нізкім двухсхільным дахам, шырокага трансепта, маленькай паўцыркульнай апсіды з бакавымі прыбудоўкамі і 2 рознавялікіх вежаў. Яны завершаны фігурнымі шлемамі з шатровымі ліхтарамі. Асноўны аб'ём захаваў пластычнае афармленне пачатку 19 ст. Галоўны фасад аформлены магутным чатырохкалонным порцікам з атыкам і вялікім паўцыркульным праёмам. Сцены па ўсім перыметры апяразаны дарычным антаблементам і члянёны пілястрамі. Вокны паўцыркульныя, вялікія, у тонкіх прафіляваных ліштвах. Інтэр'ер касцёла мае выцягнутую па падоўжнай восі крыжападобную ў



459. *Гарадзішча. План.*

плане кампазіцыю. Скляпенні ў асноўным аб'ёме крыжовыя, у трансепце столь плоская. Сцены расчлянёны пілястрамі. У апсідзе і каля ўсходняй сцяны трансепта ўстаноўлены 3 алтары, выкананыя ў стылі позняга класіцызму.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. У пазнейшых прыбудовах выкарыстаны элементы стылізатарскіх напрамкаў пачатку 20 ст.

*В. Р. Слюнчанка.*

**в. Кавалічы, Індурскі сельсавет**

**461. РАДЗІМА ГРЫГАРОВІЧА** Міхаіла Фролавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Грыгаровіч нарадзіўся 19.9.1897 г. у сям'і селяніна-бедняка. Член КПСС з 1920 г. Генерал-маёр (1940 г.). Прымаў удзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі. З кастрычніка 1917 г. чырвонагвардзеец, з 1918 г. ў Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну ваяваў на Заходнім фронце, удзельнічаў у разгроме бандаў Булак-Балаховіча на Беларусі, Антонава на Тамбоўшчыне, басмачоў у Сярэдняй Азіі. У Вялікую Айчынную вайну камандзір стралковага корпуса, з красавіка 1944 г. на 1-м Украінскім фронце. Вызначыўся на Львоўскім напрамку. Корпус на чале з М. Ф. Грыгаровічам прарваў абарону ворага, зайшоў у тыл акружанай бродскай групоўкі праціўніка, удзельнічаў у яе знішчэнні, 27.7.1944 г. захапіў паўночна-ўсходнюю частку Львова. За час наступлення часці корпуса вызвалілі каля 100 населеных пунктаў. М. Ф. Грыгаровіч удзельнічаў у вызваленні Чэхаславакіі і Венгрыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.4.1945 г. Памёр 24.11. 1946 г. у Маскве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**в. Кавальцы, Капцёўскі сельсавет**

**462. СТАЯНКА, КРЭМЕНЕАПРАЦОЎЧАЯ МАЙСТЭРНЯ** (археал.).

**462а.** Стаянка. За 0,7 км на поўдзень ад вусця р. Горніца, на краі 18-метровай левабярэжнай тэрасы Нёмана. Шырыня 50—60 м, даўжыня каля 300 м. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,2—0,3 м, перакрыты пяском. Знойдзены крамянёвыя вырабы: канцавыя скрабкі, масіўныя разцы, нуклеусы, лістападобныя наканечнікі стрэл. Адносіцца да эпохі палеаліту.

**462б.** Крэменеапрацоўчая майстэрня. За 1 км на поўдзень ад в. Кавальцы, на мысе 18-метровай левабярэжнай тэрасы Нёмана, абмежаваным з поўначы правым берагам р. Горніца. Памер 100×300 м. Выявіў у 1970 г. Г. І. Гарэцкі, абследаваў у 1975 г. і 1977 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт захаваўся на глыбіні да 0,25—0,3 м. Знойдзена вялікая колькасць крамянёвых пласцінак, адшчэпаў, нуклеусаў. Адносіцца да каменнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Капцёўка, цэнтр сельсавета**

**463. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі ў скверы. Пахаваны 44 воіны і 6 партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 42-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каробчыцы, цэнтр сельсавета**

**464. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 240 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне Гродна і раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і каскай у руках.

**в. Каўпакі, Капцёўскі сельсавет**

**465. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, за 50 м справа ад дарогі ў в. Круглыны. 20 курганоў, дыяметр круглых 4,2—8,1 м, вышыня 0,6—1,1 м, памеры прадаўгаватага 9×6 м, вышыня 0,8 м. Адкрыў у 1973 г. і ў 1975 г. раскапаў 12 курганоў (11 круглых і 1 прадаўгаваты) Я. Г. Звяруга. Ва ўсіх курганах пад дзірваном знойдзены «вымасткі» з даволі шчыльна пакладзеных камянёў розных памераў. Найбольш буйныя камяні былі размешчаны па краях. Прамежкі запоўнены жоўтым, шэра-жоўтым, часцей шэрым гумусавым пяском. Пахаванні ва ўсіх курганах, відавочна, па абраду трупапалажэння. Арыенціроўка касцякоў не ўстаноўлена, таму што захаваліся нязначныя рэшткі. Месцы пахаванняў вызначаліся пераважна па плямах больш цёмнай, тлустай зямлі, нешматлікіх рэчах. Пахавальны інвентар бедны: 2 трохпацерка-



460. *Троіцкі касцёл.*



460. *Троіцкі касцёл. План.*




465. *Курганны могільнік. План.*



467. *Праабражэнская царква. Бакавы фасад.*

выя скроневыя кольцы, каля 2 дзесяткаў пярсцёнкападобных скроневых кольцаў, 5 шкляных пацерак, авальнае крэсіва, мініяцюрны нож, а таксама невялікая колькасць ганчарнай керамікі. Могільнік належаў балцкім плямёнам, датуецца 11—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Раскопки курганов в Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976.
*Я. Г. Звяруга.*

**в. Квасоўка, цэнтр сельсавета**

**466. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА РАМЯСТВА** (гіст.). Вёска здаўна вядома вырабамі ручнога ткацтва і мастацкай апрацоўкі дрэва. Тут ткалі ў мясцовых арнаментальных традыцыях посцілкі, дываны, іншыя прадметы хатняга ўжытку. Многія жыхары памайстэрску апрацоўвалі дрэва, рабілі прыгожа аздоблены посуд, удзельнічалі ў афармленні культавых збудаванняў. Гэтае майстэрства захавалася да нашых дзён. Мясцовыя ўмельцы працуюць як надомнікі ад Гродзенскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, удзельнічаюць у выстаўках народнай творчасці.
*Дз. С. Трызна.*

**в. Коматава, Абухаўскі сельсавет**

**467. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі, на беразе р. Нёман. Пабудавана ў 1844 г. з дрэва. Аднazрубная, прамавугольная ў плане падоўжнавосевай кампазіцыі. Накрыта двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай, чатырохвугольная званіца — васьміграннымшатром з галоўкай. Над алтарнай часткай — галоўка на васьмігранным барабане. Фасады ашаляваны і ўмацаваны лапаткамі, сцены прарэзаны здвоенымі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры асноўнае памяшканне падзелена драўлянымі чатырохвугольнымі калонамі на 3 нефы. Перакрыцце плоскае, на драўляных бэльках. Сцены размаляваны алеем.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.
*І. С. Мельнік.*




468. *Селішча. План.*

**468. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля сучасных могілак, уздоўж правага берага Нёмана. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. У абрывах берага прасочаны культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены рэшткі ляпной штрыхаванай (6—2 ст. да н. э.) і ганчарнай (11—14 стст.) керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*Я. Г. Звяруга.*

**в. Кукалі, Грандзіцкі сельсавет**

**469. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе р. Нёман. Плошча каля 0,5 га. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3 м. На паверхні сабрана ганчарная кераміка з дамешкай жарствы ў цесце. Датуецца 11—14 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Лаша, Індурскі сельсавет**

**470. МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ДОШКІ СОЛАМАВАЙ** Вользе Іосіфаўне **І ГРЫГАРОВІЧУ** Міхаілу Фролавічу (гіст.). На будынку школы. Мемарыяльная дошка В. І. Соламавай устаноўлена ў 1968 г. Ушаноўвае памяць сакратара Гродзенскага падпольнага гаркома ЛКСМБ В. І. Соламавай, якая ў 1927—34 гг. вучылася ў гэтай школе. Мемарыяльная дошка М. Ф. Грыгаровічу ўстаноўлена ў 1977 г. Ушаноўвае памяць земляка, Героя Савецкага Саюза генерал-маёра М. Ф. Грыгаровіча.

**471. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1822 г. з дрэва на бутавым цокалі.

Аднazрубная, падоўжна-восевай кампазіцыі. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным пакатым дахам з вальмай над алтарнай часткай, з заходняга боку прымыкае амаль квадратная ў плане двух'ярусная званіца, завершаная чатырохгранным шатром з цыбулепадобнай галоўкай. Над алтарнай часткай — шлемападобная галоўка. Сцены ашаляваны, прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі сандрыкамі, вуглы ўмацаваны лапаткамі. Франтон галоўнага фасада ўпрыгожаны разьбой.

У інтэр'еры 8 драўляных калон дзеляць аб'ём храма на 3 нефы. Перакрыцце драўлянае, плоскае. Алтарная частка адгароджана ад асноўнага аб'ёму іканастасам. Хоры з драўлянай балюстрадай. Царква абнесена бутавай агароджай з двух'яруснай брамай-званіцай.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.
*І. С. Мельнік.*

**472. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ І СОЛАМАВАЙ** Вользе Іосіфаўне (гіст., маст.). У скверы перад клубам. На ўшанаванне памяці 53 землякоў вёсак Лаша, Сухая Даліна і Кавалічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1958 г. устаноўлена мемарыяльная пліта. У 1967 г. на агульным з ёй стылабаце пастаўлены скульптурны помнік В. І. Соламавай (скульпт. В. Даненкаў; бетон з мармуравай крошкай; вышыня 4,5 м).

Скульптурная паўфігура Соламавай нібы вырастае з квадратнага ў плане пастамента. Разварот корпуса, накінуты на плечы шынель, рашучы жэст рукі з аўтаматам надаюць кампазіцыі



**471.** *Мікалаеўская царква.*



**471.** *Мікалаеўская царква. Брама-званіца.*



472. *Помнік землякам і В. І. Саламавай.*

дынамізм, ствараюць вобраз мужнай гераіні. Гл. артыкул № 5 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан» (Гродна). *Г. М. Ярмоленка.*

**473. РАДЗІМА КАРСКАГА** Яўхіма Фёдаравіча (гіст.).

Савецкі філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі, этнограф, акадэмік Петраградскай Акадэміі навук (1916 г.; член-карэспандэнт з 1901 г.), правадзейны член Інстытута беларускай культуры (1922 г.), Чэшскай Акадэміі навук (1929 г.) Я. Ф. Карскі нарадзіўся 20.12.1860 г. у сям'і настаўніка. У 1885 г. скончыў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут, пасля працаваў настаўнікам у Вільні. З 1894 г. прафесар, у 1905—10 гг. рэктар Варшаўскага, з 1917 г. прафесар Петраградскага універсітэтаў. У 1905—17 гг. рэдактар «Русского филологического вестника», з 1920 г.— «Известий Отделения русского языка и словесности Российской Академии наук».

Аўтар прац па дыялекталогіі, сучаснай беларускай літаратурнай мове, гісторыі беларускай мовы, фальклоры, гісторыі беларускай літаратуры і інш. Вынікі сваёй шматгадовай працы ў галіне беларускага мовазнаўства, фалькларыстыкі, этнаграфіі і літаратуры Я. Ф. Карскі апублікаваў у трохтомніку «Беларусы» (7 выпускаў, 1903—22 гг.), у якім упершыню ў гісторыі беларускай культуры абагуліў, прывёў у пэўную сістэму вялікі, але разрозненны фактычны матэрыял, даў яму навуковую інтэрпрэтацыю і паклаў пачатак навуковай філалогіі і этнаграфіі беларусаў. Вядомы і як знаўца славянскай палеаграфіі («Славянская кірылаўская палеаграфія», 1928 г. і інш.), выдаў старажытныя помнікі, у т. л. «Лаўрэнцьеўскі летапіс», «Рускую праўду» і інш., даў ім палеаграфічны і лінгвістычны аналіз.

Памёр Я. Ф. Карскі 29.4.1931 г.

На будынку Лашанскай васьмігадовай школы, якой прысвоена імя Я. Ф. Карскага, у 1958 г. устаноўлена мемарыяльная дошка вучонаму, у 1964 г. тут створаны мемарыяльны музей, дзе экспануюцца яго працы, фотакопіі рукапісаў, аўтографы, асабістыя рэчы і інш. Яго імем названы Гродзенская абласная бібліятэка, вуліца ў Гродне.

*Літ.:* Баркоўскі В. І. Заснавальнік беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі.— Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, 1961, в. 8; Бандарчык В. К., Я. Ф. Карскі.— У яго кн.: Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст. Мн, 1970; яго ж. Изучение культуры белорусского народа Е. Ф. Карским.— У кн: Очерки истории русской этнографии, фольклористики и антропологии. М., 1971; Ляпунов Б. М. Очерк жизни и деятельности акад. Карского.— Известия АН СССР, 1932, № 3; Рамановіч Я. М., Юрэвіч А. К. Бібліяграфія прац Я. Ф. Карскага.— Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, 1961, в. 8. *В. К. Бандарчык.*

**в. Луцкаўляны, Індурскі сельсавет**

**474. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 52 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малая Капліца, Путрышкаўскі сельсавет**

**475. РАДЗІМА ЛЕГАТОВІЧА** Ігната Сямёнавіча (гіст.).

Беларускі і польскі паэт і педагог І. С. Легатовіч нарадзіўся 30.7.1796 г. Скончыў дамініканскую школу ў Гродне і Віленскі універсітэт. З 1817 г. выкладаў лацінскую мову і літаратуру ў Мінскай гімназіі, у 1839—46 гг. працаваў наглядчыкам павятовых вучылішчаў у Лепелі, Полацку, Вількаміры. Страціўшы зрок, пакінуў службу. Жыў у Мінску.



477. *Помнік у гонар партызан Беларусі.*



478. *Помнік на месцы масавай загубы савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян.*

Асноўныя жанры творчасці — эпіграмы («Эпіграмы», Вільня, 1848 г.) і дыдактычныя двухрадкоўі-максімы («Апафтэгмы», Вільня, 1854 г.). Пяру паэта належыць эпіграма рэзка антыпрыгонніцкага характару на губернскага прадвадзіцеля дваранства Оштарпа. Вядомы адзіны беларускі верш І. С. Легатовіча «Скажы, вяльможны пане...». За надрукаванне гэтага верша віленскі альманах «Bojan» («Баян») быў канфіскаваны.

Памёр І. С. Легатовіч 28.9.1867 г. *Г. Ф. Раманаў.*

**в. Навасёлкі, Азёрскі сельсавет**

**476. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, за 150 м ад аўтамабільнай дарогі Гродна — Астрына. Пахаваны 67 жыхароў в. Шкленск, якіх 18.7.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі, а вёску (17 двароў) спалілі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**477. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН БЕЛАРУСІ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на 37-м км аўтамабільнай дарогі Азёры — Астрына. У гонар партызан Беларусі ў 1951 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана на высокім пастаменце.

**в. Навумавічы, Баранавіцкі сельсавет**

**478. МЕСЦА МАСАВАЙ ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). За 2,5 км на захад ад вёскі, на 9-м км злева ад шашы Гродна — Сапоцкін. Тут у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія акупанты праводзілі масавыя расстрэлы савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў Гродна і навакольных вёсак. Па няпоўных звестках яны загубілі тут больш за

3 тыс. чалавек. Трупы ахвяр закопвалі ў равах каля форта. Каб замесці сляды сваіх злачынстваў, акупанты перад наступленнем у 1944 г. Савецкай Арміі спальвалі трупы.

У 1960 г. на месцы расстрэлаў пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе. *Э. М. Савіцкі.*

**в. Нямнова, Васілевіцкі сельсавет**

**479. АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ** (гіст.). Паміж в. Чарток Сапоцкінскага пасялковага Савета і в. Нямнова ў Гродзенскім р-не БССР і на паўночным ўсходзе ПНР. Канал атрымаў назву ад г. Аўгустоў, дзе знаходзяцца галоўныя шлюзы. Пабудаваны ў 1824—33 гг. пад кіраўніцтвам генерал-інжынера М. Малецкага. Будаўніцтвам канала вырашалася задача стварэння воднага шляху з басейна Дняпра да портаў Балтыйскага мора. Злучае Нёман з р. Бебжа (басейн Віслы), а ў Гродзенскім р-не рэчышчам даўжынёй 6 км р. Чорная Ганча з Нёманам. Агульная даўжыня канала 102,4 км, на тэрыторыі БССР — 22 км. Сярэдняя глыбіня 1,8 м. Налічвае 18 шлюзаў, 4 шлюзы і 2 плаціны ў БССР. З развіццём чыгуначнай сеткі значэнне канала як транспартнай артэрыі страчана, выкарыстоўваецца для лесасплаву і ў мэтах турызму. З'яўляецца помнікам гідратэхнічнага будаўніцтва.

*Літ.:* Живописная Россия. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905. *Э. М. Савіцкі.*

**в. Падліпкі, Адэльскі сельсавет**

**480. ПОМНІК ФУРСЕНКУ** Івану Сямёнавічу (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пастаўлены ў 1969 г. на месцы подзвігу Героя Савецкага Саюза І. С. Фурсенкі. Гл. артыкул № 593 «Брацкія могілкі савецкіх воінаў і партызан» (Дзятлаўскі р-н).

**в. Партызанская,**
**Скідальскі сельсавет**

**481. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У скверы, у цэнтры вёскі. У 2 магілах (у адной жанчыны і дзеці, у другой мужчыны) пахаваны 488 жыхароў вёскі, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі 14.7. 1943 г. У 1960 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і ўстаноўлена надмагільная пліта.



*482. Касцёл.*



*487. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Парэчча, цэнтр сельсавета**

**482. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1806 г. з дрэва.

Храм крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі. Цэнтральны аб'ём з пяціграннай апсідай перакрыжоўваецца з трансептам, вуглы якога скошаны. Усе аб'ёмы накрыты вальмавымі дахамі, над якімі ўзвышаюцца 5 чатырохгранных шатровых галовак на невысокіх калонках. Сцены ашаляваны і прарэзаны стральчатымі вокнамі, вуглы дэкарыраваны пілястрамі. Інтэр'ер — глыбінна-прасторавай кампазіцыі. Левае крыло трансепта адгароджана ад асноўнага аб'ёму. Алтары выкананы ў стылі неабарока.

Храм — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі неаготыкі. *І. С. Мельнік.*

**чыгуначная станцыя Парэчча,**

**Парэцкі сельсавет**

**483. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля чыгуначнага вакзала. Пахаваны 170 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні в. Парэчча і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Прыгодзічы,**
**Путрышкаўскі сельсавет**

**484. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Нёмана. Плошча каля 0,7 га. Абследавалі ў 1955—58 гг. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт каля 0,3 м. Знойдзена ганчарная кераміка. Датуецца 11—14 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Пужычы, Абухаўскі сельсавет**

**485. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**485а.** Селішча-1. На паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Котра. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт 0,2 м. На плошчы каля 0,5 га сабраны фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі.

**485б.** Селішча-2. За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, у месцы ўпадзення р. Котра ў р. Нёман. Абследавалі ў 1955—56 гг. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт 0,1 м. На плошчы 0,6 га сабраны крамянёвыя адшчэпы і фрагменты штрыхаванай керамікі. Датуецца ранним жалезным векам.

**485в.** Селішча-3. За 0,1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе р. Нёман. Плошча каля 0,3 га. Абследавалі ў 1955—56 гг. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт 0,3 м. Сабраны рэшткі ляпной і ганчарнай керамікі. Датуецца ранним жалезным векам і эпохай Кіеўскай Русі. Раскопкі селішчаў не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *Я. Г. Зверуга.*

**486. СТАЯНКА** (археал.). За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, на мысе тэрасы паміж правым берагам р. Нёман і левым р. Котра. Памер 200×180 м, большасць плошчы пад лесапасадкамі. Выявіла ў 1957 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1965 і 1976 гг. М. М. Чарняўскі. Сярод сабранага матэрыялу вылучаюцца крамянёвыя прылады, зробленыя з ножападобных пласцінак, наканечнікі стрэл, разцы. Стаянка існавала ў мезаліце і пэўны час у неаліце. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Путрышкі, цэнтр сельсавета**

**487. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана больш за 100 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі і навакольных населеных



489. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**488. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). За 350 м на ўсход ад вёскі, у лесе. Тут 24—28.6. 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі больш за 300 жыхароў навакольных вёсак, у т. л. савецкіх работнікаў і актывістаў калгаснага руху. У 1967 г. на месцы загубы пастаўлена стэла.

**в. Рыбніца, Парэцкі сельсавет**

**489. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**490. СЕЛІШЧА** (археал.). За 4 км на захад ад вёскі, на паўночным беразе воз. Рыбніца, у месцы ўпадзення ў яго р. Страеўка (Стрыяўлянка). Плошча каля 1 га. Адкрыла і абследавала ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт не выяўлены. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі і адзін фрагмент ляпнога гаршка з адбіткамі травы. Датуецца апошнімі стагоддзямі 1-га тысячагоддзя да н. э. і эпохай Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

## VII. САПОЦКІН

Гарадскі пасёлак, цэнтр саўгаса «Сапоцкінскі». За 22 км на паўночны захад ад Гродна.

Вядомы як мястэчка з 16 ст., уваходзіў у Гродзенскі павет Трокскага, з 1793 г. Гродзенскага ваяводстваў Вялікага княства Літоўскага. З канца 18 ст. тут штогод адбываліся даволі значныя кірмашы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) у складзе Усходняй Прусіі, з 1807 г. у Варшаўскім герцагстве. Паводле рашэнняў Венскага кангрэсу 1814—15 гг. адышоў да Расіі, з 1837 г. мястэчка Аўгустоўскай, з 1867 г. Сувалкаўскай губерняў. У канцы 19 ст. у Сапоцкіне каля 4 тыс. жыхароў, дробныя прадпрыемствы па вырабу кафлі, цэментных пліт, шкла, масла. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, у Аўгустоўскім павеце Беластоцкага ваяводства. З канца 1939 г. у БССР, з 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 22.6.1941 да 15.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (верасень 1943 г.— 13.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.12.1943 г.— 13.7.1944 г.). З 22.9.1944 г. цэнтр раёна ў Гродзенскай вобл., з 10.3.1959 г. гарадскі пасёлак у Гродзенскім р-не.

У жылой забудове пераважаюць дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. У 1971 г. Гроднаграмадзянпраект распрацаваў генплан, які прадугледжвае развіццё пасёлка ў заходнім напрамку. У планіровачнай структуры вылучана зона 2—4-павярховых шматкватэрных будынкаў у цэнтральнай частцы пасёлка. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Асноўная кампазіцыйная вось — вул. Гродзенская, на якой склаўся адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр. Тут узведзены адміністрацыйныя і гандлёвыя будынкі: пасялковага Савета, Дом культуры, адміністрацыйны будынак саўгаса, Дом быту, універмаг, гасцініца. Вытворчая зона размешчана ў паўночна-ўсходняй частцы пасёлка (хлебапякарня, участак саўгаса) і часткова ў паўночнай (лесазавод). Перспектывы прамысловага развіцця звязаны пераважна з перапрацоўкай сельскагаспадарчай сыравіны.

У пасёлку ёсць прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, сярэдняя школа, яслі-сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Помнікі: У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, савецкіх пагранічнікаў, на магіле ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — парк.

*Літ.:* Города и поселения в уездах, имеющие 2000 и более жителей.— СПб., 1905.

*А. М. Кулагін, Э. М. Савіцкі.*

**491. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 637 воінаў і 3 партызаны, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 50-й арміі 3-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**492. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). За 6 км на захад ад пасёлка. Пахаваны 18 пагранічнікаў, якія загінулі ў першыя



**VII.** *Фрагмент забудовы вуліцы Гродзенскай.*



491. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

дні Вялікай Айчыннай вайны ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Віктар Міхайлавіч Усаў.

В. М. Усаў нарадзіўся 8.12.1916 г. у г. Нікапаль Днепрапятроўскай вобл. у сям'і рабочага. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1936 г. Скончыў Харкаўскае ваеннае вучылішча (1940 г.). У Вялікую Айчынную вайну начальнік пагранічнай заставы лейтэнант В. М. Усаў вызначыўся ў баях на тэрыторыі Беластоцкай вобл. 22.6.1941 г. застава пад яго камандаваннем на працягу 10 гадзін адбівала атакі ворага. У час баёў В. М. Усаў быў 5 разоў паранены, але заставаўся ў страі. Загінуў 23.6.1941 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.5.1965 г. Яго імем названа вуліца ў Нікапалі і Гродне, імя героя прысвоена пагранзаставе ў Гродзенскай вобл.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечна в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**493. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1868 г. з цэглы як фамільная пахавальня.

Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём пад высокім двухсхільным дахам. Трохвугольны шчыт галоўнага фасада завершаны чатырохграннай вежачкай з пакатым пакрыццём. Уваход і ніша над ім, бакавыя аконныя праёмы ў стральчатых арках. Сцены атынкаваны з украпваннем дробнага друзу, на шэрым фоне якога вылучаюцца пабеленыя вертыкальныя і гарызантальныя цягі, ліштвы праёмаў. Памяшканне перакрыта плоскай столлю на падугах.

Капліца — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**494. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1893 г. з цэглы як фамільная пахавальня.

Прамавугольны ў плане кампактны аб'ём пад двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны трапецападобным шчытом з вуглавымі васьмігараннымі шатровымі вежачкамі і крапаваны слаістымі арачнымі нішамі. Стральчаты праём галоўнага ўвахода фланкіраваны і завершаны эдыкуламі. Бакавыя фасады расчлянёны 4 стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутры капліца перакрыта плоскай драўлянай столлю на падугах. Алтарная сцяна ў інтэр'еры дэкарыравана плоскім чатырохпілястравым порцікам з трохвугольным франтонам.

Капліца — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**495. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне пасёлка. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 1,8 м, дыяметрам 5 м. Адкрыў і даследаваў у 1908 г. С. Крукоўскі, абследаваў у 1972 г. Я. Г. Зверуга. С. Крукоўскі раскапаў 15 насыпаў, адзін з якіх быў прадаўгаваты. Пры раскопках ускрыта каменная скрыня памерам 3,5×3 м, вышынёй 1,45 м. У ёй ляжалі перапаленыя косці. На грунце пад скрыняй прасочаны рэшткі вогнішча, над скрыняй у насыпе — перапаленыя косці, камяні і попел. Побач са скрыняй знойдзены абпаленыя 5 нажоў, 2 падковападобныя спражкі, рэшткі бронзавых упрыгожанняў, шкляныя пацеркі, ганчарная кераміка з дамешкай жарствы ў цесце (10 гаршкоў), арнаментаваная лініямі. У астатніх курганах трапляюцца пахаванні па абраду трупаспалення ў каменных скрынях і гаршках, знойдзены посуд з абпаленымі касцямі і такімі ж рэчамі, як і ў прадаўгаватым кургане. Апрача іх, знойдзены жалезныя наканечнікі коп'яў, бронзавыя бранзалеты, рэшткі вітых шыйных грыўняў, бронзавыя падвескі з арнаментам у выглядзе кружка і інш.



493, 494. *Капліцы на могілках.*

Датуецца 10—11 стагоддзямі, належаў балцкім плямёнам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.

*Літ.:* Спицын А. А. Литовские древности.— У кн.: Tauta ir Žodis. Kaunas, 1925, t. 3. *Я. Г. Зверуга.*

**496. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 70 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 15.6.1944 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**497. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Гродзенскай, перад будынкам выканкома Савета народных дэпутатаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.

**в. Свіслач, Квасоўскі сельсавет**

**498. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Побач з канторай саўгаса «Свіслач». Пахаваны 118 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне Гродзенскай вобл. ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Павел Сяргеевіч Садакоў.

П. С. Садакоў нарадзіўся 11.10. 1916 г. у в. Чучы Ленінскага райсавета г. Кірава ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1938 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з лютага 1942 г. Вызначыўся ў час Беларускай аперацыі 1944 г. 5—6 ліпеня каля в. Пяцігодка Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. разлік гарматы на чале з старшым сяржантам П. С. Садаковым удзельнічаў у адбіцці 11 контратак праціўніка, знішчыў 2 варожыя гарматы, больш за 100 гітлераўцаў. Загінуў 21.7.1944 г. у баі за в. Карозічы Гродзенскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названы вуліцы ў саўгасе «Даронічы» Ленінскага райсавета г. Кірава і ў в. Пасягова Кіраўскай вобл. На будынку школы № 7 г. Кірава, дзе вучыўся герой, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

*Літ.:* Навечна в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**499. МАГІЛА ПІХУНА** Леаніда Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны член КПЗБ Л. С. Піхун, забіты ў 1936 г. польскай дэфензівай. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**500. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). Размешчаны на беразе р. Свіслач. Пабудаваны ў канцы 19 ст. Цокаль, тамбур і галерэя складзены з вапняку, астатнія аб'ёмы — з цэглы.

Будынак трохпавярховы, з падвалам. Пластычнае вырашэнне дома заснавана на кантрасце розных па вы-

шыні сцен з складаным па форме дахам. Вуглы будынка аформлены контрфорсамі. З боку дваровага фасада — галерэя, плоскі дах якой з'яўляецца балконам для памяшканняў 2-га паверха. Аконныя праёмы прамавугольныя. Лесвіцы, што злучаюць паверхі, размешчаны на тарцах будынка. Перакрыцці драўляныя, плоскія. Пачатковае афармленне інтэр'ера не захавалася.



500. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



500. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*



500. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

Сядзібны дом — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

*С. Г. Багласаў, В. Р. Слюнчанка.*

**в. Свяцк,**
**Сапоцкінскі пасялковы Савет**

**501. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). За 20 км на паўночны захад ад Гродна, у маляўнічай узгорыстай мясцовасці. Створаны паводле праекта архіт. Дж. Сака для магнатаў Валовічаў. Фарміраванне палацава-паркавага ансамбля адбывалася ў 2 этапы: першы — будаўніцтва і афармленне інтэр'ера палаца ў раннекласіцыстычным стылі (1779 г.) пад кіраўніцтвам Дж. Сака; другі — дапаўненне агульнай кампазіцыі бакавымі флігелямі з круглаватымі галерэямі-каланадамі (пачатак 19 ст.). Рэканструяваны ў 1930-я гады. Цяпер выкарыстоўваецца санаторыем «Свяцк».

Цэнтральны корпус — двухпавярховы мураваны будынак з высокім мансардавым дахам. Галоўны фасад члянёны 3 рызалітамі. Дваровы фасад мае ў сярэдзіне пяціграннны эркер, які дэкарыраваны пілястрамі і завершаны гранёным шатровым дахам. У дэкоры экстэр'ера будынка выкарыстаны дробныя пілястры, парталы ўваходаў, вузкія рызаліты. Планіроўка 1-га паверха калідорная, 2-га — анфіладная. У цэнтральнай частцы сканцэнтравана група парадных памяшканняў разнастайнай формы. Некаторыя пакоі са зрэзанымі ці закругленымі вугламі. Цэнтральнае месца ў планіроўцы займае парад-




501. *Палацава-паркавы ансамбль. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — капліца; 3 — гаспадарчыя пабудовы.*



501. *Цэнтральны корпус палаца. Галоўны фасад.*



501. *Цэнтральны корпус палаца. Дваровы фасад.*

ная лесвіца. Апрацоўка інтэр'ера палаца значна багацей за вонкавы дэкор. Элементы інтэр'ера (панелі, каміны, дзверы, люстры, супрапорты, кансолі, вазоны) створаны Дж. Сака. Вылучаецца дэкаратыўная апрацоўка бельэтажа: калоны, пілястры, ліштвы нішаў і праёмаў. Сцены ўпрыгожвала арнаментальная стукавая лепка. Шэраг залаў быў дэкарыраваны жывапісам рамантычнага характару — пейзажы з руінамі, антычныя збудаванні.

Парк пейзажнага тыпу закладзены ў канцы 18 — пачатку 19 ст. (плошча 12 га; у апошні час значна перапланаваны). Перасечаны штучнымі вадаёмамі, сажалкамі і каналамі. У парку насупраць палаца капліца, пабудаваная ў 19 ст. у стылі неаготыкі.

Палацава-паркавы ансамбль — помнік пераходнай архітэктуры ад барока да класіцызму.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*



501. *Фрагмент цэнтральнага корпуса палаца, галерэя і бакавы флігель.*



501. *Палац. План 1-га паверха.*



501. *Капліца.*

**в. Селіванаўцы,**
**Лойкаўскі сельсавет**

**502. ПРААБРАЖЭНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудаваны ў 1899 г. з бутавага каменю.

Прамавугольны ў плане, з двухсхільным, над алтарнай часткай вальмавым дахамі. Франтон паўночнага, галоўнага фасада ўсечаны, над ім драўляная званіца з чатырохсхільным дахам. Плоскасці бакавых сцен прарэзаны паўцыркульнымі вокнамі ў ліштвах. Галоўны фасад упрыгожаны 2 паўцыркульнымі нішамі. Мастацкая выразнасць дасягаецца за кошт кантрасту бутавай муроўкі з белымі атынкаванымі дэталямі дэкору (паўцыркульныя нішы, вуглавы руст, аконныя ліштвы). У інтэр'еры 4 круглыя ў плане калоны дзеляць прастору на 3 нефы. Перакрыццё плоскае, драўлянае. 3 арачныя праёмы хораў аддзелены ад асноўнай прасторы драўлянай балюстрадай.

Касцёл — помнік народнага дойлідства. *І. С. Мельнік.*



502. *Праабражэнскі касцёл.*




504. *Селішча. План.*

**в. Сіні Камень (не існуе),**
**Скідальскі сельсавет**

**503. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сіні Камень знаходзілася за 4 км на паўночны ўсход ад в. Бандары. 18.7.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 50 жыхароў (з 87), спалілі ўсе жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы (57 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Сіўкава,**
**Верцялішкаўскі сельсавет**

**504. СЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, на беразе р. Нёман. Плошча 0,5 га. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Сабраны фрагменты ганчарнай керамікі: кавалак жоўтаглінянага гаршка, арнаментаванага буйной хваляй, і абломкі гаршкоў з лінейна-хвалістым арнаментам. Датуецца 11—14 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *Я. Г. Звяруга.*

## VIII. СКІДАЛЬ

Горад на р. Скідалька (басейн Нёмана), цэнтр саўгаса «Скідальскі». За 30 км на паўднёвы ўсход ад Гродна, чыгуначная станцыя на лініі Гродна — Масты, на аўтамабільнай дарозе Гродна — Ліда.

У Вялікім княстве Літоўскім — велікакняжацкае мястэчка. У 16—18 стагоддзях у Гродзенскай эканоміі, з 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Гродзенскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. З 1814 г. тут праводзіўся кірмаш. У 1833 г.— 1277 жыхароў, 218 драўляных будынкаў. У 1897 г. у Скідалі 2790 жыхароў, 482 будынкі (цагляных 77), народнае вучылішча, сельская бальніца. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны на 16 дробных прадпрыемствах працавалі 72 рабочыя. У 1915 г. захоплены войскамі кайзераўскай Германіі, пазней — войскамі буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. мястэчка, цэнтр гміны ў Гродзенскім павеце Беластоцкага ваяводства буржуазнай Польшчы. Дзейнічаў падрайком КПЗБ, у 1931—33 гг. адбыліся вы-

ступленні беспрацоўных. У час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь рабочыя і сяляне Скідальскай гміны 17.9.1939 г. раззброілі і арыштавалі паліцыю, асаднікаў. Створаны паўстанцамі рэўком утрымліваў уладу да падыходу Чырвонай Арміі. У канцы 1939 г. Скідаль увайшоў у склад Беластоцкай вобл. БССР. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З чэрвеня 1941 г. да 14.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у раёне дзейнічала антыфашысцкае падполле, падпольныя райкомы КП(б)Б (28.11. 1943 г.— 26.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.9. 1943 г.— 26.7.1944 г.). З снежня 1962 г. у Гродзенскім р-не, з 30.1.1974 г. горад.

Генплан Скідаля распрацаваны ў 1968 г., новы — у 1973 г. Мінскім філіялам навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Горад мае рэгулярную квартальную планіроўку. Галоўныя вуліцы — Леніна, Кастрычніцкая, Гагарына, Зялёная, Інтэрнацыянальная. Забудова малапавярховая, пераважна сядзібнага тыпу. Цэнтр вылучаны прамавугольным скверам, у якім пастаўлены помнік У. І. Леніну. Новае жыллёвае будаўніцтва вядзецца ў 3 мікрараёнах — Цэнтральным, Заводскім і Паўднёвым. У Паўднёвым намячаецца перспектыўнае развіццё горада з фарміраваннем яго цэнтра на вул. Вакзальнай. У структуру забудовы паўночна-ўсходняй часткі ўваходзіць парк пейзажнага тыпу планіроўкі (19 ст.).

З будаўніцтвам цукровага камбіната (1946—51 гг.) узнік буйны заводскі раён з гандлёвым цэнтрам. У горадзе працуюць таксама камбінат хлебапрадуктаў, млынкамбінат, каўбасны цэх, прамкамбінат, палігон жалезабетонных вырабаў, кафляны завод, 2 камбінаты бытавога абслугоўвання, хімічны цэх камбіната будматэрыялаў, лясніцтва. У горадзе 3 сярэднія, 2 рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, пяць дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Палац культуры, Дом культуры, клуб, кінатэатр, 3 бібліятэкі, Гродзенскі абласны музей камсамольскай славы, бальніца. Помнікі: У. І. Леніну, на магілах камсамольцаў-падпольшчыкаў, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.

Зона адпачынку — гарадскі парк і берагі р. Скідалькі.

*А. М. Кулагін, Э. М. Савіцкі.*

**505. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 1138 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Міхаіл Адальбертавіч Гакель, Валянцін Васілевіч Фацін, Іван Рыгоравіч Шарамет, Уладзімір Георгіевіч Шчогалеў, сакратар Скідальскага падпольнага райкома камсамола Клаўдзія Іванаўна Чычкова.



**505.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

М. А. Гакель нарадзіўся ў 1918 г. у Растове-на-Доне. Член КПСС. У Чырвонай Арміі з 1939 г. З чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Закаўказскім, Паўночна-Каўказскім, 2-м Беларускім франтах. Камандзір аддзялення разведчыкаў, старшы сяржант М. А. Гакель вызначыўся ў баях за вызваленне Крыма і ў Беларускай аперацыі 1944 г., праявіў мужнасць, адвагу, вынаходлівасць. Знішчыў больш за 100 і ўзяў у палон 60 гітлераўцаў. Загінуў у баі 22.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

В. В. Фацін нарадзіўся 9.4.1921 г. у Маскве. Кандыдат у члены КПСС. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Стралковы батальён, якім камандаваў гвардыі капітан В. В. Фацін, вызначыўся ў баях за вызваленне Магілёўскай вобл. 28.6. 1944 г. батальён пераправіўся цераз Дняпро, прарваў абарону праціўніка, у Магілёве вёў рукапашныя баі, захапіў 16 гармат, 2 самаходныя ўстаноўкі «фердынанд», 200 аўтамашын, 8 складаў, паланіў штаб дывізіі, 2 генералаў, 35 афіцэраў, больш за 500 салдат. В. В. Фацін загінуў у баі 17.7. 1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

І. Р. Шарамет нарадзіўся 6.3. 1924 г. у с. Траянаў Житомірскага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. На фронце з 1944 г. Вызначыўся ў час баёў за вызваленне Гродзенскай вобл. 14.7.1944 г. стралок радавы І. Р. Шарамет з групай байцоў пераправіўся цераз р. Нёман. Група захапіла і ўтрымлівала плацдарм каля в. Лунна. Загінуў у баі за гэты плацдарм. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем І. Р. Шарамета названа вуліца, імя героя прысвоена школе ў в. Лунна, камсамольскай арганізацыі Гродзенскай швейнай фабрыкі.

У. Г. Шчогалеў нарадзіўся 12.6. 1921 г. у г. п. Радзіца-Крылоўка Бранскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1943 г. Скончыў ваеннае вучылішча лётчыкаў у 1942 г. На фронце з лютага 1942 г. За час баёў камандзір эскадрыллі капітан У. Г. Шчогалеў зрабіў 346 баявых вылетаў, правёў 52 паветраныя баі, збіў 16 самалётаў праціўніка. Загінуў 29.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.8.1945 г. Імем У. Г. Шчогалева названы вуліца і піянерская дружына ў Скідалі.

К. І. Чычкова нарадзілася ў 1918 г. у в. Снежкава Тамбоўскай вобл. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны працавала сакратаром райкома камсамола. У 1943 г. скончыла спецыяльную школу і была заслана на тэрыторыю акупіраванага Скідальскага р-на. Як сакратар Скідальскага падпольнага райкома ЛКСМБ К. І. Чычкова праводзіла вялікую арганізатарскую і агітацыйна-прапагандысцкую работу, складала тэксты лістовак і адозваў да насельніцтва. Удзельнічала ў баях, пусціла пад адхон 8 варожых эшалонаў. 11.5.1944 г. пры выкананні баявога задання была акружана гітлераўцамі і, каб не трапіць у палон, застрэлілася. Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені. Імем К. І. Чычковай названа вуліца ў Скідалі.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**506. БУДЫНАК, У ЯКІМ БЫЛА СТВОРАНА ПЕРШАЯ Ў СКІДАЛІ АРГАНІЗАЦЫЯ ЛКСМБ** (гіст.). Вул. Леніна, 64. Тут у кастрычніку 1940 г. была створана першая ў Скідалі арганізацыя ЛКСМБ. У гонар гэтай падзеі ў 1966 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**507. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад горада, у лесе. Пахаваны 27 жыхароў в. Кашубінцы і 13 жыхароў в. Залесяны, якіх 22.4.1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1964 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**508. МАГІЛА КАМСАМОЛЬЦАЎ-ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). За 1 км ад усходняй ускраіны горада. Пахаваны члены Скідальскага камсамольскага падполля У. С. Кізевіч, І. А. Сеўрук, А. К. Ролік, І. А. Шчасны, А. І. Зелянкоўскі, І. М. Сініца.

Падпольная камсамольская арганізацыя ў Скідалі была створана ў верасні 1941 г. па ініцыятыве былога члена КПЗБ А. Ф. Манкевіча. Члены арганізацыі вялі палітычную



508. *Помнік на магіле камсамольцаў-падпольшчыкаў.*

работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, перадавалі партызанам зброю, разведвальныя звесткі, медыкаменты, прадукты, адзенне. Па даносу здрадніка гітлераўцы арыштавалі падпольшчыкаў і 13.9.1942 г. пасля жорсткіх катаванняў загубілі іх. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Верхось В. П., Гарелик А. Л. Это было в Скиделе.— 3 изд.— Мн., 1973. *Э. М. Савіцкі.*

**509. МАГІЛА КАМСАМОЛЬЦАЎ-ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада, злева ад шашы Гродна — Шчучын. Пахаваны члены Скідальскага камсамольскага падполля М. С. Дзелянкоўскі і Ф. І. Макарчук, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты 13.9.1942 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**510. МЕСЦА ЎЗБРОЕНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН У 1939 г.** (гіст.).

Пасля таго, як 1.9.1939 г. фашысцкая Германія напала на Польшчу, Чырвоная Армія 17.9.1939 г. паводле распараджэння ўрада СССР перайшла савецка-польскую граніцу, каб узяць пад абарону насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У гэты дзень рабочыя і сяляне Скідальскай гміны стварылі рэўком, у склад якога ўвайшлі былыя члены КПЗБ Ф. Бубен, М. Літвін, А. Мазалеўскі, І. Мышка, Б. Олех, П. Цярэшка і Г. Шагун. Паўстанцы і партызаны раззброілі і арыштавалі паліцыю, польскіх афіцэраў, асаднікаў і інш., занялі ўправу гміны, пошту, чыгуначную станцыю, раззброілі вайсковы эшалон, вывесілі чырвоныя сцягі. Уся ўлада ў гміне перайшла ў рукі рэўкома. Партызаны захапілі ў мястэчку Лунна мост цераз Нёман і на працягу 4 дзён да падыходу часцей Чырвонай Арміі ўтрымлівалі яго. З прыходам савецкіх войск партызанскія атрады былі пераўтвораны ў атрады рабочай гвардыі, рэўком — у часовае ўпраўленне. *І. П. Хаўратовіч.*

**511. ПАРК** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада. Закладзены ў сярэдзіне 19 ст. Цяпер належыць саўгасу «Скідальскі».

Парк плошчай 4,8 га спланаваны на перасечаным рэльефе. Рака падзяляе яго на 2 часткі: усходнюю — лесапаркавую і заходнюю — рэгулярна-пейзажную з 2 каналамі. Уваход афармлены мураванай брамай у выглядзе 2 круглых вежаў з шатровымі вярхамі і стральчатымі праёмамі. Тэрыторыя парку абмежавана алеямі. Сярод пасадак ліпа, таполя, граб, каштан, елка і інш. У фарміраванні курцін выкарыстаны шэраг экзотаў:



513. *Помнік У. І. Леніну.*

хвоя веймутава, ліпа амерыканская буйналістая, айва японская, ясень звычайны ніцы і інш.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**512. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай. На ўшанаванне памяці 8 членаў Скідальскага камсамольскага падполля, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі 13.9.1942 г., у 1966 г. пастаўлена стэла з гарэльефнай выявай юнака са сцягам.

*Літ.:* Верхось В. П., Гарелик А. Л. Это было в Скиделе.— 3 изд.— Мн., 1973.

**513. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры горада, у



511. *Парк. Брама.*




511. *Парк. Схема планіроўкі.*



511. *Куток парку.*



512. *Помнік камсамольцам-падпольшчыкам.*

скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**514. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). З даўніх часоў тут плялі з лазы і саломкі хатнія рэчы (кашы, лубкі, гарцы і інш.), выразалі з дрэва лыжкі, міскі і інш. Гэтыя рамёствы па розных прычынах прыйшлі ў заняпад. У пачатку 1960-х гадоў адроджаны. Многія жыхары Скідаля і навакольных вёсак (Навасёлкі, Чэрліна, Ласосна і інш.) працуюць надомнікамі ад Гродзенскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, дзе створаны цэх па вырабу рэчаў з лазы. Асартымент шырокі — жаночыя сумачкі, хлебніцы, абажуры і інш. Яны карыстаюцца попытам у краіне і ідуць на экспарт. Цікавыя і прыгожыя таксама вырабы з саломкі, асабліва традыцыйныя шкатулкі авальнай ці прамавугольнай формы, аздобленыя вітай залацістай нефарбаванай саломкай. Майстры па апрацоўцы дрэва вырабляюць сувеніры (брошкі, кулоны і інш.) часта ў спалучэнні з бурштынам. *Дз. С. Трызна.*

**в. Славічы, Капцёўскі сельсавет**

**515. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля ўпадзення ў р. Нёман безыменнага ручая. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. На плошчы 1000 м² сабрана ляпная (штрыхаваная, шурпатая і гладкасценная) і ганчарная кераміка. Пры зачыстцы схілаў яра, па якім працякае ручай, прасочаны культурны пласт 0,3—0,4 м. У ім знойдзена шмат крэменю і рэшткаў керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Солы, Капцёўскі сельсавет**

**516. СЕЛІШЧА** (археал.). На тэрыторыі вёскі, на левым высокім беразе р. Нёман. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,8 м. Выяўлены гліняная абмазка, крамянёвыя адшчэпы і фрагменты штрыхаванай керамікі. У 1973—75 гг. былі знойдзены рэшткі ганчарнага посуду. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі (канец 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачатак 1-га тысячагоддзя н. э.) і раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**517. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Нёман, на краі тэрасы вышынёй 8,5 м над узроўнем ракі. Памеры 45×38 м. Абследаваў у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,8 м. Знойдзены фрагменты танкасценнай штрыхаванай керамікі і крамянёвыя адшчэпы (1-я палова 1-га тысячагоддзя да н. э.). Адносіцца да бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Стральцы, Скідальскі сельсавет**

**518. БРАЦКАЯ МАГІЛА АКТЫВІСТАЎ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ** (гіст.). На могілках. 29.7.1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 3 арганізатараў калгаса імя В. І. Чкалава. Сярод пахаваных — старшыня калгаса Л. А. Якусевіч. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**519. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 367 землякоў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама былі спалены ці расстраляны гітлераўцамі, у 1968 г. пастаўлены помнік (скульпт. А. Волкаў; бетон; вышыня мемарыяльнай сцяны 2 м, стэлы 10 м).

На ступеньчатым стылабаце пастаўлена мемарыяльная сцяна з рэльефнымі выявамі твараў воіна і партызана. У правай частцы стылабата як сімвал вечнай памяці і славы народу-пераможцу — стэла са скразной зоркай уверсе і надпісам-прысвячэннем. З левага боку — нахіленая пліта (7×1 м), на якой 10 мармуровых дошак з імёнамі загінуўшых.

*Г. М. Ярмоленка.*



519. *Помнік землякам.*

**в. Сухая Даліна, Індурскі сельсавет**

**520. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 72 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Ханявічы, Скідальскі сельсавет**

**521. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 34 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Шкленск (не існуе), Азёрскі сельсавет**

**522. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Шкленск знаходзілася за 2 км на поўдзень ад в. Навасёлкі, на 37-м км шашы Гродна — Астрына. 18.7.1943 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 67 жыхароў і спалілі вёску (17 двароў). Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.




# ДЗЯТЛАЎСКІ РАЁН

Нагародавічы
Ахонава
Жукоўшчына
Погіры
Дзям'янаўцы
Таркачы
Зарой
Хвінявічы
Парэчча
Раклевічы
Лезнявічы
ДЗЯТЛАВА
Наваельня
Пацаўшчына
Змяёўцы
Данілавічы
Вензавец
Дварэц
Руда Яварская
Васявічы
Мядзвінавічы
Сачыўляны
Раготна
Гербелевічы
Казлоўшчына
Дзянісава
Падвялікае
Маськаўцы
Белагурна
Горка
Войневічы
Пруд

- Цэнтр раёна
- Цэнтры сельсаветаў
- Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы
- Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы
- Цэнтры рамёстваў
- Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду
- Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)
- Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)
- Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)
- Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы
- Палацы, сядзібы, асабнякі
- Культавая архітэктура

## IX. ДЗЯТЛАВА

Гарадскі пасёлак, цэнтр р-на. За 148 км на паўднёвы ўсход ад Гродна, 13 км ад чыгуначнай станцыі Навасельня (на лініі Баранавічы — Ліда). Аўтамабільнымі дарогамі злучана са Слонімам, Лідай, Навагрудкам.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1498 г. як уладанне князёў Астрожскіх у Вялікім княстве Літоўскім. У 1778 г. было 168 двароў. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Слонімскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. Паводле перапісу 1897 г. у Дзятлаве было 3979 жыхароў, 872 будынкі, народнае вучылішча, царкоўнапрыходская школа. У 1914 г. працавалі ватная фабрыка, 5 медаварняў, лесапільня, цагельня і 2 гарбарныя заводы. З 1915 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг.— буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Навагрудскага павета. З канца 1939 г. у складзе БССР, з 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (20.8.1943 г.— 15.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.6.1943 г.— 15.7.1944 г.), выдавалася падпольная газета «Знамя свободы». У 1962—65 гг. Дзятлава ў Слонімскім р-не.

Аснова горадабудаўнічай структуры Дзятлава — 3 вуліцы, якія вядуць на Ліду, Навагрудак і Слонім. Вакол іх фарміравалася забудова. Паводле генплана 1981 г., распрацаванага Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва, прадугледжана развіццё пасёлка ў паўднёва-ўсходнім напрамку, фарміраванне 5-павярховай жылой забудовы ва ўсходняй, індывідуальнай — у паўднёва-ўсходняй частках. Планіровачная структура вуліц прамавугольная. Пераважае індывідуальная сядзібная забудова. Капітальнае шматпавярховае будаўніцтва ажыццяўляецца ў раёне вуліц Перамогі, Першамайскай, Савецкай, Кастрычніцкай, Чапаева, Чырвонаармейскай. Уздоўж галоўных вуліц — Леніна і Савецкай — размешчаны грамадскія ўстановы і амаль усе гандлёвыя прадпрыемствы. Прамавугольную ў плане цэнтральную плошчу 17 Верасня з усходняга боку абмяжоўваюць двухпавярховыя мураваныя дамы 17—19 стагоддзяў, з захаду — двухпавярховыя будынкі гасцініцы і універмага, з поўдня — чатырохпавярховы камбінат бытавога абслугоўвання. Па вул. Савецкай размешчаны будынак вузла сувязі, па вул. Камсамольскай — будынкі кінатэатра, гарсавета і музея народнай славы. У заходняй частцы пасёлка па вул. Школьнай размешчаны раённы Дом культуры і стадыён. У цэнтры Дзятлава — парк культуры і адпачынку.



IX. *Фрагмент забудовы плошчы 17 Верасня.*

Прамысловы раён склаўся ў паўночнай частцы Дзятлава, каля магістралі Ліда — Слонім. Працуюць сырзавод, хлебазавод, завод металавырабаў, камбінат бытавога абслугоўвання, аддзяленне Дзяржкамсельгастэхнікі, мэблевы цэх аб'яднання «Гроднамэбля». У пасёлку 3 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат), завочная рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, раённая бальніца. Выдаецца раённая газета «Перамога». Помнікі: на брацкіх магілках савецкіх воінаў і партызан, на брацкай магіле падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на магіле дзяцей з інтэрнацыянальнага піянерскага лагера, што памерлі ад голаду і хвароб у гады нямецка-фашысцкай акупацыі, і інш. Захаваўся помнік архітэктуры 17 ст.— касцёл Успення багародзіцы. Зона адпачынку — парк і ўзбярэжжа р. Дзятлаўкі.

*А. А. Міцянін, Э. М. Савіцкі.*

**523. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Някрасава, на могілках. Пахаваны 10 членаў Дзятлаўскага падпольнага антыфашысцкага камітэта, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну.

Дзятлаўскі падпольны антыфашысцкі камітэт створаны ў 1943 г. Дзейнічаў да мая 1944 г. Кіраўнік камітэта — былы ўдзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі Р. П. Русін. Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. Для Ленінскай партызанскай брыгады збіралі зброю, прадукты, здабывалі паперу, медыкаменты, разведданыя аб ворагу. У канцы красавіка 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі арыштавалі Р. П. Русіна і членаў антыфашысцкага камітэта М. І. Архіпцава, Б. В. Гульніцкага, П. Д. Гурскага, І. К. Каско, І. Р. Кашко, Ф. С. Паўловіча, С. Плыгіна, В. Г. Сцяцко і А. Дз. Хадаркевіча і пасля катаванняў 1.6.1944 г. расстралялі.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла. Імем Р. П. Русіна названа вуліца ў Дзятлаве. *Г. І. Дулеба.*

**524. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку «50 год СССР», каля развілкі дарог на Ліду, Навагрудак, Слонім. Пахаваны 14 воінаў, што загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. Каля асновы абеліска — 6 пліт на ўшанаванне памяці 1080 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з ворагам, а таксама 7916 мірных жыхароў Дзятлаўскага р-на, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. *Г. І. Дулеба.*

**525. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Перамогі, на тэрыторыі раённай бальніцы. Пахаваны 12 воінаў і 2 парты-

заны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**526. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Міцкевіча, у парку культуры і адпачынку. Пахаваны 64 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі пры вызваленні пасёлка, а таксама Героі Савецкага Саюза Павел Гаўрылавіч Пятроў і Ян Янавіч Фогель.

На досвітку 9.7.1944 г. часці 3-й арміі 2-га Беларускага фронту разгарнулі наступленне на Дзятлава. На подступах да пасёлка і ў пасёлку гітлераўцы аказалі моцнае супраціўленне. Аднак воіны 120-й гвардзейскай Рагачоўскай ордэнаў Суворава і Кутузава (камандзір генерал-маёр Я. Я. Фогель), 269-й Рагачоўскай Чырванасцяжнай (камандзір генерал-маёр А. Ф. Кубасаў) і 283-й Гомельскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава (камандзір палкоўнік В. А. Канавалаў) стралковых дывізій прарвалі абарону ворага і пасля жорсткіх вулічных баёў 9.7.1944 г. авалодалі Дзятлавам.

П. Г. Пятроў нарадзіўся 30.8. 1906 г. у с. Мальцава Юргінскага р-на Кемераўскай вобл. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1937 г. У Чырвонай Арміі з 1924 г. У 1927 г. скончыў Омскую пяхотную школу, у 1943 г.— курсы ўдасканалення каманднага саставу. З 1941 г. на Закаўказскім, Паўночна-Каўказскім, Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Намеснік камандзіра 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі палкоўнік П. Г. Пятроў вызначыўся пры вызваленні г. Беласток. 26.7.1944 г. 336-ы гвардзейскі стралковы полк пад яго камандаваннем адбіў 7 контратак, знішчыў гарнізон праціўніка ў в. Кур'яны і ўварваўся на паўднёва-ўсходнюю ўскраіну Беластока. 27.7.1944 г. горад быў поўнасцю вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. 30.7.1944 г. П. Г. Пятроў быў цяжка паранены. Памёр ад ран 27.8.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.4. 1945 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Дзятлава.

Я. Я. Фогель нарадзіўся 24.12. 1898 г. у с. Дурэ Валміерскага р-на Латвійскай ССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1914 г. У 1933 г. скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе. У Чырвонай Арміі з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1943 г. на Бранскім, Цэнтральным, Беларускім і 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся пры вызваленні Беларусі. У 1944 г. у час Беларускай наступальнай аперацыі 120-я гвардзейская стралковая дывізія пад камандаваннем генерал-маёра Я. Я. Фогеля з 24 чэрвеня да 8 ліпеня 1944 г. прайшла з баямі ад р. Друць да Навагрудка, вызваліла 250 населеных пунктаў, узяла ў палон больш за 2800 гітлераўцаў, захапіла шмат баявой тэхнікі і зброі праціўніка. Я. Я. Фогель памёр 9.7.1944 г. ад ран. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.4.1945 г. Яго імем названы вуліцы ў г. Валміера Латвійскай ССР, г. п. Дзятлава і Мінску.

У 1958 г. на могілках пастаўлены помнікі — скульптуры воіна і жанчыны з аўтаматам, 20 надмагільных пліт з імёнамі загінуўшых, абеліскі П. Г. Пятрову і Я. Я. Фогелю.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*



*526. Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*



*524. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**527. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1813 г. з каменю, абломкаў чарапіцы і цэглы. Уяўляе сабой цэласны аб'ём з паўцыркульнай апсідай. Будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны (паўднёва-ўсходні) фасад вылучаны чатырохкалонным порцікам спрошчанага дарычнага ордэра з трохвугольным франтонам. Над франтонам і алтарнай часткай невялікія квадратныя ў плане вежачкі. Бакавыя фасады прарэзаны аконнымі праёмамі, аздобленымі шырокімі ліштвамі. У інтэр'еры сцены атынкаваны. На паўкруглай сцяне апсіды — фрэскавая размалёўка, якая імітуе алтар.

Капліца — помнік архітэктуры класіцызму. *А. А. Міцянін.*

**528. КАСЦЁЛ УСПЕННЯ БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт., маст.). У цэнтры пасёлка, на былой Рыначнай пл. (цяпер пл. 17 Верасня). Пабудаваны ў 1646 г. з цэглы.

Касцёл двухвежавы, зальнага тыпу. Вежы надбудаваны ў 1-й палове 18 ст.



*527. Капліца. Галоўны фасад.*



*527. Капліца. План.*

Да алтарнай часткі прымыкаюць невялікія сакрысціі. Паўцыркульная апсіда займае каля 1/3 аб'ёму. Касцёл накрыты двухсхільным дахам (над апсідай конусападобны). Галоўны фасад фланкіраваны трох'яруснымі вежамі і завершаны фігурным шчытом, што прыкрывае тарэц даху. Плоскасць фасада расчлянёна на 3 часткі пілястрамі, у сярэдняй — галоўны ўваход. Вокны і нішы абрамлены ліштвамі. У нішах скульптуры святых, галоўкі анёлаў і херувімаў. Сцены будынка ўмацаваны контрфорсамі, плоскасці паміж імі прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. Па перыметры будынка праходзіць шырокі карніз.

У інтэр'еры сцены расчлянёны шырокімі неглыбокімі пілястрамі і магутным карнізам. Алтарная частка аддзелена ад залы высокім арачным праёмам. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у апсідзе — крыжовыя. Хоры адгароджаны парапетам складанай канфігурацыі, расчлянёны на 3 часткі пілястрамі. У заходняй вежы 2 вітыя лесвіцы: адна на хоры, другая на верхнія ярусы.

Галоўны алтар двух'ярусны, расчлянёны пілястрамі і калонамі карынфскага ордэра, завершаны раскрапаваным антаблементам. Асноўны дэкор сканцэнтраваны на сярэдняй частцы алтара, дзе размешчана 6 скульптур святых (дрэва, таніроўка). Карнізны пояс упрыгожваюць дэкаратыўныя вазы і картушы. Завяршае алтар ляпны картуш. 2 невялікія бакавыя алтары дэкарыраваны стукавай лепкай і скульптурай. У стылі ракако выраташы амбон. Сярод арнаментальных матываў — акантавы ліст, геральдычныя знакі, ракавіны. На хорах устаноўлены арган, упрыгожаны накладной разьбой па дрэве, пазалотай.

Касцёл — помнік архітэктуры барока.

*А. А. Міцянін, В. В. Церашчатава.*

**529. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, справа ад дарогі Дзятлава — Савічы — Раготна. Пахаваны 3 тыс. жыхароў пасёлка, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў жніўні 1942 г. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**530. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад пасёлка, злева ад дарогі на Навагрудак. Пахаваны 2800 жыхароў пасёлка, якіх загубілі ў красавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**531. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад пасёлка, справа ад дарогі на Навагрудак. Пахаваны 300 мірных жыхароў пасёлка і Дзятлаўскага р-на, якіх у ліпені 1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**532. ПАЛАЦ** (архіт.). На заходняй ускраіне пасёлка, на левым беразе р. Дзятлаўка. Пабудаваны ў 1751 г. з цэглы на месцы замка 16 ст. Выкарыстоўваецца медустановай.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак на высокім цокалі. Спачатку быў завершаны высокім вальмавым дахам і фланкіраваны па баках 2 трох'яруснымі вежамі з шатровымі завяршэннямі. Цэнтральны галоўны фасад вылучаны трохчасткавым рызалітам з крапаваным лучковым франтонам. У тымпане франтона гербавы картуш князёў Радзівілаў. Рызаліт раскрапаваны 4 пілястрамі, паміж якімі на другім паверсе размешчаны арачныя нішы з ракавінамі ў завяршэнні. Па перыметры будынка праходзяць прафіляваныя міжпаверхавы і завяршальны карнізы. Фасады рытмічна раскрапаваны плоскімі канеліраванымі пілястрамі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны паўцыркульнымі аркамі, сандрыкамі хвалістых і ламаных абрысаў. У дэкоры галоўнага фасада выкарыстаны ракавіны, завіткі, лісты аканта, гірлянды, драпіроўкі, медальёны, геральдычныя знакі. Тыя ж арнаментальныя матывы выкарыстаны ў больш сціплым дэкоры бакавых і дваровага фасадаў. У цэнтры дваровага фасада выступае прамавугольны рызаліт, першапачаткова ўпрыгожаны фігурным атыкам. Вуглы будынка ўмацаваны контрфорсамі. Спачатку планіроўка будынка была анфіладная. Цэнтральнае месца займала двухмаршавая лесвіца і парадная двухсветлавая зала. Інтэр'ер пры рэканструкцыі 1831 г. зменены.

У канцы 18 ст. вакол палаца разбіты парк. За палацам па падоўжнай восі ансамбля — авальная сажалка. Парк упрыгожвала архітэктура малых форм: масткі, павільёны.

Палац — помнік архітэктуры позняга барока.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белорус-



528. *Касцёл Успення багародзіцы. Галоўны фасад.*



528. *Касцёл Успення багародзіцы. План.*



528. *Касцёл Успення багародзіцы. Амбон.*

сии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

**533. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Першамайскай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**534. ПОМНІК ФІЛІДОВІЧУ** Іосіфу Юр'евічу (гіст., маст.). У скверы, на скрыжаванні вуліц Чырвонаармейскай і Першамайскай. Пастаўлены ў 1980 г. на ўшанаванне памяці І. Ю. Філідовіча, які ў канцы 1942 г. паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна.

У канцы 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ў час карнай экспедыцыі супраць партызан Ленінскай брыгады даведаліся пра партызанскі шпіталь, які знаходзіўся ў Ліпічанскай пушчы. Паказаць шпіталь узяўся пад пагрозай расстрэлу родных селянін в. Пушча Ліпічанская І. Ю. Філідовіч. Ён завёў ворагаў у балота. Фашысты забілі патрыёта. Партызанскі шпіталь яны не знайшлі. Імем І. Ю. Філідовіча названа вуліца ў Дзятлаве.

Помнік (скульпт. А. Салятыцкі; сілумін, граніт; вышыня скульптуры 3,8 м, пастамента 0,6 м) устаноўлены на прамавугольным пастаменце. Фігура селяніна ў кажусе з адхінутым ветрам крысом крыху нахілена наперад. Галоўная ўвага скульптара сканцэнтравана на твары, у рысах якога перададзены мужнасць, рашучасць патрыёта.

*Літ.:* Борисов Н. В. Они повторили подвиг Сусанина.— М., 1969.
*Л. Г. Лапцэвіч, А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Абелькавічы, Дварэцкі сельсавет**

**535. КУРГАН** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Вялікае Поле. Насып прамавугольны памерам 8×2,5 м, вышынёй 1,5 м. Абследавалі ў 1952 г. У. С. Астапаў, у 1974 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Агароднікі, Мяляхавіцкі сельсавет**

**536. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**536а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Замкавая Гара. За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, на крайнім заходнім участку ўзвышша. Пляцоўка памерам 20×20 м аддзелена ад узвышша паўкруглым ровам глыбінёй 3—6 м, шырынёй 15—18 м. Мае схіл на захад у бок р. Зальвянка. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1951 г. У. С. Астапаў, у 1965 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Напэўна, з'яўлялася сядзібай феадала. Раскопкі не праводзіліся.

**536б.** Курганны могільнік. За 250 м на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Жыхуцькава Поле. 3 насыпы дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— Вильна, 1895; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*П. Ф. Лысенка.*

**в. Азяраны, Дварэцкі сельсавет**

**537. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1928 г. з дрэва. Цэнтрычнае квадратнае ў плане збудаванне пад чатырохсхільным гонтавым дахам з невялікай шатровай вежачкай. Унутраная прастора асвятляецца невялікімі лучковымі люкарнамі. Капліца — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**538. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.



532. *Палац.*



532. *Палац. План 1-га паверха.*



532. *Палац. Фрагмент галоўнага фасада.*



528. *Касцёл Успення багародзіцы. Выгляд з боку апсіды.*



534. *Помнік І. Ю. Філідовічу.*

в. Апаліна-Басіна, Вензавецкі сельсавет

539. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Зара». На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Ахонава, Таркачоўскі сельсавет

540. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 95 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.



537. *Капліца.*

в. Белагурна, цэнтр Мяляхавіцкага сельсавета

541. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 83 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Боркі, Раготнаўскі сельсавет

542. **СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. Комплекс уключаў сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы (не збераглiся) і невялікі парк пейзажнага тыпу (захаваўся фрагментарна).

Драўляны аднапавярховы прамавугольны ў плане сядзібны дом накрыты высокім мансардавым дахам. Галоўны паўднёва-ўсходні фасад вылучаны порцікам з трохвугольным франтонам. Сцены будынка дэкарыраваны плоскімі лапаткамі і рустам па вуглах. Планіроўка анфіладная. Вітая лесвіца з вестыбюля вядзе на мансардавы паверх. Пад будынкам мураваны падвал, перакрыты цыліндрычным скляпеннем.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

в. Varакомшчына, Данілавіцкі сельсавет

543. **БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 партызан, якія загінулі ў красавіку 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Ведравічы, Данілавіцкі сельсавет

544. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 6 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

в. Вензавец, цэнтр сельсавета

545. **ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1875 г. з цэглы і бутавага каменю. Складаецца з кубападобнага асноўнага аб'ёму, трох'яруснай шатровай званіцы і паўцыркульнай алтарнай часткі. У архітэктурным дэкоры выкарыстаны элементы старажытнарускага культавага дойлідства: какошнікі, кілепадобныя і паўкруглыя ліштвы, лапаткі, карнізы. Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

546. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Чырвоны Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.



542. *Сядзіба. Куток парку.*

в. Войневічы, цэнтр сельсавета

547. **КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Насып вышынёй 1,8 м, дыяметрам 11—12 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. П. Ф. Лысенка.

548. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 14 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

549. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Запаветы Ільіча». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

550. **ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1897 г. з дрэва. Аднazрубная пабудова з двухсхільным дахам. Над алтарнай часткай цыбулепадобная галоўка на вась-



545. *Петрапаўлаўская царква.*



552. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

мігранным барабане. Галоўны ўваход вырашаны ганкам з навіссю на 2 слупах. Гарызантальна ашаляваныя фасады рытмічна чляянёны прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах і вертыкальнымі бэлькамі-сцяжкамі ў прасценках, цокальны пояс над высокім бутавым фундаментам ашаляваны вертыкальна. Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**в. Вялікая Воля, Рудаяварскі сельсавет**

**551. ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). На могілках. Пабудавана ў 1866 г. з дрэва.

Будынак царквы адназрубны, пастаўлены на нізкім фундаменце з бутавага каменю. Квадратны ў плане зруб накрыты двухсхільным гонтавым дахам з вальмамі над трохсценнай апсідай. Да галоўнага фасада далучана вежа-званіца (васьмярык на чацверыку) з цыбулепадобным гранёным купалам. Фасады вертыкальна ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі вокнамі з шырокімі ліштвамі. Галоўны фасад і вежа дэкарыраваны арнаментам. У інтэр'еры — аднаярусны іканастас, расчлянёны 4 паўкалонамі (канец 19 ст.).

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*А. А. Міцянін.*

**552. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля моста цераз р. Шчара. Пахаваны 364 мірныя жыхары, пераважна жанчыны і дзеці, якіх 16.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сагналі на ўскраіну вёскі і расстралялі. Жывёлу і маёмасць гітлераўцы вывезлі ў Германію, вёску спалілі (104 двары). У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны ў жалобе і падлетка.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965. *Г. І. Дулеба.*

**в. Вялікія Краглі, Жукоўшчынскі сельсавет**

**553. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гарадкі, Дзянісаўскі сельсавет**

**554. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 336 мірных жыхароў. На досвітку 13.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акружылі вёску, сагналі жыхароў нібыта для праверкі дакументаў і расстралялі, а вёску (48 двароў) спалілі. Выратаваліся толькі некалькі чалавек. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Гезгалы, Жукоўшчынскі сельсавет**

**555. ПОМНІК ПЕРАМОГІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1984 г. у гонар Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне пастаўлены абеліск.



558. *Помнік землякам.*

**556. СТАЯНКА** (археал.). За 1,7 км на паўночны захад ад вёскі, на выступе левабярэжнай тэрасы р. Моўчадзь (вышыня над узроўнем ракі 5 м). Выявіў і абследаваў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. На плошчы памерам 30×70 м культурны пласт да 0,3 м, у ім знойдзены шматлікія расшчэпленыя крамяні, у т. л. апрацаваныя рэтушшу вырабы. Трапляюцца дробныя фрагменты арнаментаванай ляпной керамікі з раслліннымі дамешкамі ў гліне. Стаянка адносіцца да эпохі неаліту, датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Горка, Раготнаўскі сельсавет**

**557. ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Храм падоўжна-восевай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі: двух'ярусная шатровая званіца, бабінец, асноўны аб'ём, квадратная ў плане апсіда. Асноўны аб'ём завершаны цыбулепадобным купалам на цыліндрычным барабане, устаноўленым над пакатым чатырохсхільным дахам. Над шатром званіцы таксама цыбулепадобная галоўка на цыліндрычным барабане. Здвоеныя арачныя вокны з броўкамі і складанымі фігурнымі ліштвамі. У дэкоры атынкаваных фасадаў выкарыстаны лапаткі, зубчастыя франтоны і фрызы, кілепадобныя аркі-нішы. Галоўны ўваход вырашаны ганкам з лесвіцай і навіссю кілепадобнай формы. У інтэр'еры цэнтральная зала абмежавана буйной аркадай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*



551. *Георгіеўская царква. План.*



557. *Георгіеўская царква.*



559. *Стэла ў памяць аб выступленні сялян у 1907 г.*

**558. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

**в. Данілавічы, цэнтр сельсавета**

**559. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН 1907 г.** (гіст.). У Рэвалюцыю 1905—07 гг. барацьба сялян Беларусі супраць памешчыкаў і царскіх улад абвастрылася. Адно з буйнейшых хваляванняў адбылося вясной 1907 г. у в. Данілавічы Навагрудскага павета Мінскай губерні. Сяляне самавольна захапілі частку зямлі мясцовага памешчыка і падзялілі яе паміж сабой. Царскія ўлады накіравалі ў вёску атрад паліцыі, якому вяскоўцы аказалі ўзброенае супраціўленне. У выніку сутычкі загінулі 3, паранены 12 сялян.

У 1977 г. у памяць аб выступленні сялян у цэнтры вёскі пастаўлена стэла.

*Літ.:* Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2.— Мн., 1972; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 3.— Мн., 1953.

*Г. І. Дулеба.*

**560. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Даўгялавічы, Раготнаўскі сельсавет**

**561. КУРГАН** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Забалацце. Вышыня насыпу 1,4 м, дыяметр 10 м. Абследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Дварэц, цэнтр сельсавета**

**562. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Моўчадзь, каля моста. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва.

Двухпавярховае збудаванне пастаўлена на высокім бутавым цокалі. З паўночнага захаду да яго прыбудаваны драўляны аднапавярховы аб'ём з турбінай. Высокі двухсхільны дах значна навісае над уваходам. Галоўны паўднёва-заходні фасад мае сіметрычна-восевую кампазіцыю. Сцены пабудовы прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на 1-м паверсе з каванымі кратамі. У інтэр'еры сцены гладкія, неатынкаваныя. Паверхі звязаны вуглавой лесвіцай і праёмам у драўляным перакрыцці. Цяпер жорны прыводзяцца ў рух ад электрапрывода.

Млын — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*



562. *Вадзяны млын.*



562. *Вадзяны млын. План.*

**563. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1904 г. з цэглы. Двухвежавая трохнефавая базіліка. Цэнтральны неф накрыты двухсхільным дахам, бакавыя — аднасхільнымі. Галоўны заходні фасад дэкарыраваны рустам, філёнгамі, ліштвамі арачных праёмаў, лучковымі франтонамі, карнізам. У завяршэнні фасада 2 бакавыя вежы з фігурнымі купаламі. Цэнтральны шчыт з паўцыркульным франтонам і бакавымі валютамі. Усе элементы дэкору і архітэктурныя абломы выканаены цаглянай муроўкай без тынкоўкі. Унутраная прастора падзелена слупамі на нефы, перакрыцці скляпеністыя.

Касцёл — помнік архітэктуры неабарока. *А. М. Кулагін.*

**564. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Аб'ёмна-прасторавая



563. *Касцёл.*

кампазіцыя складаецца з двух'яруснай званіцы, бабінца, кубападобнага асноўнага аб'ёму і прамавугольнай у плане апсіды. Званіца завершана гранёным паўсферычным купалам з галоўкай, асноўны аб'ём — двухсхільным дахам і цыбулепадобным купалам на васьміграннным барабане. У вонкавым дэкоры выкарыстаны прафіляваныя карніз і фрыз, руставаныя броўкі і філёнгі арачных аконных праёмаў.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**565. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

**в. Дзям'янаўцы, цэнтр сельсавета**

**566. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**566а.** Курганны могільнік. За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе, каля развілкі дарог на в. Шэршні. 7 круглых (вышыня 0,8—1,2 м, дыяметр 8—12 м) і 1 прадаўгаваты курган (памеры 30×1,5 м, вышыня 1,8 м). Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**566б.** Селішча. На заходняй ускраіне вёскі, на левым карэнным беразе р. Нёман. Вышыня над поплавам ракі 2,5 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Пад дзёрнам у абрыве прасочваецца культурны пласт чорнага колеру, у ім выяўлены вугалле, рэшткі ляпной і ганчарнай керамікі. Датуецца 6—8 і 15—16 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследаванняў селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**568.** *Помнік У. І. Леніну.*

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *П. Ф. Лысенка.*

**567. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дзянісава, цэнтр сельсавета**

**568. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Слава працы». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Дубраўка, Парэцкі сельсавет**

**569. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. 13.10.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 99 жыхароў вёскі, спалілі амаль усе пабудовы (уцалела некалькі хат). У 1972 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**в. Дукрава, Мяляхавіцкі сельсавет**

**570. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км ад вёскі, каля дарогі ў в. Студзяроўшчына, у 5-м квартале Наваельніцкага лясніцтва. 3 насыпы вышынёй 1,4—1,5 м, дыяметрам 8—12 м. Каля асновы прасочваюцца сляды раўкоў. Абследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Жукоўшчына, цэнтр сельсавета**

**571. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «1 Мая». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Жыбарты, Парэцкі сельсавет**

**572. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1819 г. Ад сядзібнага комплексу захаваўся жылы дом (выкарыстоўваецца медустановай), фрагменты алей пейзажнага парку і сажалка.

Сядзібны дом — мураваны аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам. Высокі паўпадвальны паверх з бутавага каменю. Фасады атынкаваны, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны карнізам простага профілю.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры з рысамі класіцызму.

**в. Жыхі, Мяляхавіцкі сельсавет**

**573. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,4 км ад вёскі ва ўрочышчы Руніца, каля дарогі ў вёску Івязь. 3 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 8—15 м. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.



**564.** *Пакроўская царква.*



**572.** *Сядзіба. Куток парку.*



**572.** *Сядзібны дом.*



574. *Помнік землякам.*

**в. Засецце, Дзятлаўскі сельсавет**

**574. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 22 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

## Х. КАЗЛОЎШЧЫНА

Гарадскі пасёлак, цэнтр пасялковага Савета. За 20 км на поўдзень ад Дзятлава, 30 км ад чыгуначнай станцыі Слонім, на лініі Баранавічы — Ваўкавыск, на аўтамабільнай дарозе Слонім — Дзятлава.

У 16 ст. уваходзіла ў Навагрудскае ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Слонімскага павета. У 1921—39 гг. знаходзілася ў складзе буржуазнай Польшчы. Мястэчка мела сядзібную забудову, якая фарміравалася вакол цэнтральнай плошчы, дзе размяшчаліся Успенская царква і панская сядзіба з паркам. З канца 1939 г. у БССР. З 1940 г. цэнтр Казлоўшчынскага р-на Баранавіцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 13.7. 1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 24—25.11.1941 г. недалёка ад пасёлка акупанты расстралялі 770 мірных грамадзян. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (верасень 1943 г.— 15.7.1944 г.) і ЛКСМБ (чэрвень 1943 г.— 15.7.1944 г.). Выдавалася газета «Народный мститель» — орган падпольнага райкома КП(б)Б.

З 1958 г. гарадскі пасёлак, з 1960 г. уваходзіць у склад Дзятлаўскага р-на.

Праект планіроўкі пасёлка распрацаваны ў 1973 г. праектнай арганізацыяй «ГродНаграмадзянпраект». Галоўнай планіровачнай воссю пасёлка з'яўляецца вул. Леніна. Пры яе зліцці з вуліцамі 60-годдзя Кастрычніка і Савецкай сфарміравалася плошча, абмежаваная будынкамі сельскіх прафесійна-тэхнічных вучылішчаў № 12 і № 15, універмага, царквы, аднапавярховых магазінаў. За выключэннем цэнтра забудова пасёлка пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Працуюць дрэваапрацоўчы камбінат, млын, вінзавод, хлебапякарня, камбінат бытавога абслугоўвання, 2 сельскія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, сярэдняя школа, яслі-сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, аддзяленне сувязі. Помнікі: У. І. Леніну; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан; землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і інш. Захаваўся помнік архітэктуры пачатку 20 ст.— Успенская царква. Зона адпачынку — парк культуры і адпачынку.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944 гг.).— Мн., 1976.
*А. М. Кулагін, Г. М. Новікава.*

**575. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна. Пахаваны 176 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 129-й стралковай дывізіі 40-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка і навакольных населеных пунктаў, а таксама адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. у Вялікую Айчынную вайну Рыгор Георгіевіч Іўліеў.

Р. Г. Іўліеў нарадзіўся 6.8.1909 г. у в. Вішанкі Рузскага р-на Маскоўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. У 1934 г. скончыў Маскоўскі палітэхнікум. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., камандзір батальёна. З верасня 1942 г. камісар атрада «Перамога» Ленінскай партызанскай брыгады, з снежня 1943 г.— партызанскай брыгады «Перамога» Баранавіцкага партызанскага злучэння. Адначасова з верасня да 10.12.1943 г. сакратар Казлоўшчынскага, з 10.12.1943 г.— Зэльвенскага падпольных райкомаў КП(б)Б Баранавіцкай вобласці. Загінуў у баі 19.6. 1944 г.

У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Шубин Г. А. Из истории всенародной борьбы против немецко-фашистских оккупантов в западных областях Белоруссии (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Волгоград, 1972; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975. *Г. І. Дулеба.*



575. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**576. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад пасёлка, справа ад дарогі на Слонім, у лесе. Пахаваны 770 жыхароў пасёлка, якіх расстралялі 24—25.11.1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**577. МАГІЛА ВАЛЬКОВА** Мікалая Іванавіча (гіст.). Вул. Леніна. У цэнтры пасёлка. Палкоўнік Чырвонай Арміі М. І. Валькоў загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле ўстаноўлена пліта. Яго імем названа вуліца ў пасёлку.

**578. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Леніна, у парку культуры і адпачынку. Пахавана сям'я партызана з в. Войневічы — В. Чараховіч, яго жонка, сын-партызан, трое малалетніх дзяцей, якіх у красавіку 1944 г. расстралялі ў вёсцы нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**579. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Леніна, у парку, каля сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці жыхароў пасёлка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**580. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у цэнтры пасёлка. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.

**581. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Храм трохзрубны, уключае асноўны аб'ём, бабінец з двух'ярусная званіцай над ім і прамавугольную ў плане апсіду з прыбудоўкамі па баках. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Званіца завершана цыбулепадобным купалам, апсіда — васьмігранным барабанам з галоўкамі. Фасады гарызантальна ашаляваны, рытмічна чляняны лучковымі вокнамі і вертыкальнымі сцяжкамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Колкі, Дзянісаўскі сельсавет**

**582. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на перакрыжаванні лясных дарог. 5 насыпаў вышынёй 1,1—1,4 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіў і абследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Коцькі, Дварэцкі сельсавет**

**583. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 2500 жыхароў Дзятлаўскага і суседніх раёнаў, якіх восенню 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



579. *Помнік землякам.*



580. *Помнік У. І. Леніну.*

**584. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,45 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 2500 мірных жыхароў Дзятлаўскага і суседніх раёнаў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі восенню 1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**585. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, злева ад дарогі Дварэц — Наваельня, у лесе. Пахаваны 3000 мірных жыхароў Дзятлаўскага і суседніх раёнаў, якіх восенню 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лапушна, Лезнявіцкі сельсавет**

**586. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1908 г. з цэглы як фамільная пахавальня ўладальнікаў маёнтка.

Прамавугольнае ў плане кампактнае збудаванне накрыта двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным дарычным порцікам. Сцены рытмічна раскрапаваны пілястрамі, карнізам і фрызам з трыгліфамі, прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны сандрыкамі. У інтэр'еры над уваходам — хоры з вінтавой металічнай лесвіцай. Столь плоская па бэльках, скрыжаванні якіх утвараюць нішы, аздобленыя накладнымі дэкаратыўнымі разеткамі. Падлога мазаічная з керамічнай пліткі. Ніжняя частка сцен абліцавана драўлянымі панелямі.

Капліца — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**587. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Гвардыя». На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

**в. Латышы, Парэцкі сельсавет**

**588. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Нёман. Выявіў у 1964 г. і абследаваў у 1970 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце 0,2 м знойдзены крамянёвыя нуклеусы, скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл, фрагменты керамікі, у т. л. і ранняй штрыхаванай. Адносіцца да бронзавага веку. Датуецца 2-м — 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чернявский М. М. Исследование древних поселений Понеманья.— У кн.: Археологические открытия 1970 года. М., 1971. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Малдавічы, Гербелевіцкі сельсавет**

**589. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Слонім — Дзятлава. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Маркавічы, Войневіцкі сельсавет**

**590. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4—0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на краі невысокага



581. *Успенская царква.*




582. *Курганны могільнік. План.*



594. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

плато. 3 курганы вышынёй 1,1—1,4 м, дыяметрам 7—8 м. Выявіў у 1963 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Маськаўцы,**
**Дзянісаўскі сельсавет**

**591. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля дарогі Дзятлава — Слонім. Пахаваны 2500 мірных жыхароў г. п. Казлоўшчына, якіх 21.11.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Міроўшчына,**
**Вензавецкі сельсавет**

**592. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.



595. *Касцёл. Выгляд з боку апсіды.*

**г. п. Наваельня,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**593. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Дзятлаўскай, у парку санаторыя «Наваельня». Пахаваны 150 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 169-й і 269-й стралковых Рагачоўскіх Чырванасцяжных дывізій 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Наваельні і навакольных населеных пунктаў, а таксама Герой Савецкага Саюза Іван Сямёнавіч Фурсенка.

І. С. Фурсенка нарадзіўся ў 1918 г. у с. Дняпроўка Каменка-Дняпроўскага р-на Запарожскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір гарматы старшы сяржант І. С. Фурсенка вызначыўся ў баі каля в. Падлінкі Гродзенскага р-на. 23.7.1944 г. з разлікам гарматы на працягу 7 гадзін стрымліваў націск праціўніка, знішчыў 5 варожых танкаў і больш за 20 гітлераўцаў. За гады вайны разлік пад камандаваннем І. С. Фурсенкі збіў 14 самалётаў ворага. Памёр ад ран 29.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названа вуліца ў с. Новадняпроўка, у г. Каменка-Дняпроўская ўстаноўлена стэла з барэльефным партрэтам героя.

У 1955 г. на могілках пастаўлены помнікі — скульптуры 2 воінаў і 67 абеліскаў.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**594. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Лясной і Першамайскай, у парку. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 169-й і 269-й стралковых Рагачоўскіх Чырванасцяжных дывізій 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка і бліжэйшых населеных пунктаў.

У 1955 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў і 18 пліт з імёнамі загінуўшых.

*Г. І. Дулеба.*

**595. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пабудаваны ў 1936 г. з дрэва. Складаецца з асноўнага зруба, да якога далучаны квадратны ў плане бабінец і пяцігранная апсіда з сакрысціямі. Сілуэт будынка ўзбагачаюць розныя па форме дахі. Неашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і змацаваны сцяжкамі.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства.

**596. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля чыгуначнага вакзала. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1964 г.

**597. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя трохчастковая: да кубападобнага асноўнага аб'ёму з пакатым чатырохсхільным дахам па падоўжнай восі далучаны бабінец і апсіда. Над дахам — цыбулепадобны купал на гранёным барабане. У дэкаратыўнай апрацоўцы фасадаў — пілястры, кілепадобныя ліштвы арачных праёмаў, фігурны фрыз, нішы.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Нагародавічы,**
**Жукоўшчынскі сельсавет**

**598. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Храм трох-



597. *Царква.*



598. *Мікалаеўская царква.*



599. *Помнік землякам.*

зрубны: прамавугольныя ў плане бабінец, асноўны аб'ём і пяцігранная апсіда з прыдзелам. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Пакрыццё апсіды вальмавае. Над бабінцам чатырохгранная вежачка з макаўкай, над асноўным аб'ёмам цыбулепадобны купал на васьміграннным барабане. Фасады вертыкальна ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Унутры плоская бэлечная столь падтрымліваецца 4 слупамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**599. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

**в. Накрышкі, Парэцкі сельсавет**

**600. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1886 г. з бутавага каменю.

Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Архітэктурная выразнасць збудавання дасягаецца спалучэннем мастацкай муроўкі сцен з атынкаванымі і пабеленымі элементамі дэкору: пілястрамі, карнізамі, ліштвамі высокіх арачных праёмаў. Да галоўнага фасада далучаны каркасны ашаляваны бабінец. У інтэр'еры пры ўваходзе хоры на 2 слупах і бакавая лесвіца.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Нянадавічы, Дзянісаўскі сельсавет**

**601. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Храм аднавежавы з пяціграннай апсідай і бакавымі прыбудоўкамі, накрыты двухсхільным дахам. З боку галоўнага фасада трох'ярусная шатровая вежа-званіца, у першым ярусе якой уваход. Фасады дэкарыраваны філёнгамі, карнізамі, цягамі, ліштвамі арачных праёмаў.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Нясілавічы, Жукоўшчынскі сельсавет**

**602. СТАЯНКІ** (археал.).

**602а.** Стаянка-1. На паўночнай ускраіне вёскі, на краі пашкоджанай кар'ерам дзюны. Адкрыла ў 1959 г. Н. М. Гурына, у 1982 г. М. М. Чарняўскі раскапаў 100 м² плошчы. У культурным пласце да 0,3 м выяўлены крамянёвыя ланцэтападобныя вастрыі, трапецыі, скрабкі, разцы. Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**602б.** Стаянка-2. За 1,5 км на захад ад вёскі, на паўднёва-заходнім краі поймавай дзюны. Плошча каля 2 га. Адкрыла ў 1959 г. Н. М. Гурына, у 1982 г. М. М. Чарняўскі раскапаў 900 м² плошчы. Культурны пласт на значнай частцы стаянкі развеяны. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, кераміка з грабеньчатым, накольчатым і шнуравым арнаментам. Стаянка адносіцца да каменнага і бронзавага вякоў, датуецца 6—1-м тысячагоддзямі да н. э.

**602в.** Стаянка-3. За 0,2 км на поўдзень ад стаянкі-2, на мысе надпоймавай тэрасы. Памер 300×50 м. Адкрыла і даследавала шурфоўкай у 1959 г. Н. М. Гурына. У 1977 і 1982 гг. М. М. Чарняўскі раскапаў 100 м² плошчы. У культурным пласце да 0,6 м выяўлены агнішчы, крамянёвыя прылады працы, фрагменты керамікі з грабеньчатым і насечкавым арнаментам. Адносіцца да ранняга неаліту, датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гурына Н. Н. Новые данные о каменном веке северо-западной Белоруссии.— У кн.: Палеолит и неолит СССР. М.; Л., 1965, т. 5; Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Погіры, Жукоўшчынскі сельсавет**

**603. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДВАРЧАНІНУ** Ігнату Сымонавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, на жылым доме. Устаноўлена ў 1983 г.

Беларускі грамадскі і культурна-асветны дзеяч, літаратуразнавец І. С. Дварчанін нарадзіўся 27.5.1895 г. у в. Погіры. У 1912—15 гг. працаваў настаўнікам у в. Хмяльніца Слонімскага павета. У 1915—17 гг. знаходзіўся на армейскай службе, вёў рэвалюцыйную работу сярод салдат. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі І. С. Дварчанін працаваў (з 1918 г.) у Беларускім нацыянальным камісарыяце, супрацоўнічаў у яго друкаваным органе — газеце «Дзянніца». У 1919—21 гг. у Дзятлаве, Вільні, Рызе, Дзвінску займаўся культурна-асветнай дзейнасцю. У 1925 г. скончыў Пражскі універсітэт, атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. У час навучання ва універсітэце працаваў у прагрэсіўных арганізацыях беларускага зямляцтва, разам з У. Жылкам выдаваў часопісы «Перавясла», «Прамень». З 1926 г. працаваў выкладчыкам Віленскай гімназіі, быў сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства. Супрацоўнічаў у часопісе «Родныя гоні» і прагрэсіўных газетах. Склаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)» (1927 г.) для сярэдніх школ. У сваіх публіцыстычных творах абараняў інтарэсы працоўных Заходняй Беларусі, выкрываў антынародную палітыку буржуазнай Польшчы. Актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Быў намеснікам старшыні рэвалю-



600. *Царква.*



601. *Царква.*



610. *Помнік землякам.*

цыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызваленчай арганізацыі «Змаганне». У 1928 г. выбраны паслом у польскі сейм. Уваходзіў у склад кіраўніцтва Таварыства беларускай школы (1928 г.). У 1930 г. арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы і прыгавораны да 8 гадоў турмы. У выніку абмену палітвязнямі паміж Польшчай і СССР у 1932 г. прыехаў у Мінск. Працаваў у Акадэміі навук БССР. Памёр І. С. Дварчанін 8.12.1937 г.

*Літ.:* Пяткевіч А. Сцежкамі роднага краю.— У кн.: Нанёманскія былі: Зб. артыкулаў і нарысаў. Мн., 1968.

*Г. І. Дулеба.*

**604. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны.

**в. Пруд, Войневіцкі сельсавет**

**605. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Масцішча. 19 курганоў вышынёй 1—1,6 м, дыяметрам 8—12 м. Каля асноў некаторых насыпаў — раўкі. Адкрыў і абследаваў у 1951 г. У. С. Астапаў, абследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.




605. *Курганны могільнік. План.*

**в. Пушча Ліпічанская, Дзям'янавіцкі сельсавет**

**606. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Пацаўшчына. Пахавана сям'я жыхара вёскі І. П. Пархача (5 чалавек), якую 14.12. 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Раготна, цэнтр сельсавета**

**607. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад фланкіраваны чатырохграннымі вежамі-званіцамі (паўразбураны) і вылучаны шасцікалонным порцікам. Фасады рытмічна члянёны лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках. На трохвугольным франтоне порціка і гранях вежаў — арачныя нішы і аконныя праёмы.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

**608. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 жыхароў вёскі, якіх у снежні 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**609. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**в. Раклевічы, Дзятлаўскі сельсавет**

**610. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**в. Руда Яварская, цэнтр сельсавета**

**611. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва. Кампазіцыя ўключае прамавугольныя зрубы бабінца, асноўнага аб'ёму, пяцігранцай алтарнай часткі з сакрысціямі. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца пабудаваная над бабінцам чацверыковая вежа-званіца з шатровым дахам. Над вальмавым дахам алтарнай часткі — шатровая вежачка на чацверыковым барабане. Унутры пры ўваходзе — хоры на 4 слупах і лесвіца.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**612. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 10 мірных жыхароў, якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



621. *Помнік на месцы партызанскага лагера.*

**в. Саннікі, Раготнаўскі сельсавет**

**613. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Т а л е р к а. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на марэнным астанцы. Вышыня над наваколлем 20—30 м. Пляцоўка дыяметрам каля 33 м, з слаба прыкметнымі слядамі абарончых валоў. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сачыўляны, Гербелевіцкі сельсавет**

**614. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 82 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Стараельня, Лезнявіцкі сельсавет**

**615. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На левым беразе р. Ятранка, за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад



621. *Зямлянкі на месцы будынка партызанскага лагера.*

чыгуначнага моста. Захаваліся 2 насыпы даўжынёй 25 м, шырынёй 8 м і вышынёй да 1.8 м. Абследавалі ў 1951—52 гг. У. С. Астапаў, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**616. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 43 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сямёнавічы, Раготнаўскі сельсавет**

**617. МАГІЛА ЖЫХА** Івана Васілевіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны партызан І. В. Жых, які загінуў 16.4.1944 г. пры выкананні баявога задання. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Талявічы, Войневіцкі сельсавет**

**618. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы. 2 насыпы вышынёй 0,4 м, дыяметрам 6—7 м. Абследавалі ў 1951—52 гг. У. С. Астапаў, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Таркачы, цэнтр сельсавета**

**619. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Беларусь». На ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**в. Трахімавічы, Дзянісаўскі сельсавет**

**620. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 142 жыхары вёскі, якіх 16.12.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**621. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ЛАГЕРА** (гіст.). У лесе, за 1 км ад вёскі, каля дома адпачынку «Рэчанька». Тут з мая 1943 г. да ліпеня 1944 г. дыслацыраваўся партызанскі атрад «Непераможны» Ленінскай партызанскай брыгады Баранавіцкага злучэння.

Атрад створаны ў чэрвені 1943 г. на базе дыверсійнай групы «Пракопа» (П. М. Герасімчыка). Камандзір атрада П. М. Герасімчык, камісары Б. Ахметаў, С. С. Касцярэнка (загінуў), П. В. Рашчактаеў.

Атрад дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Казлоўшчынскага, Дзятлаўскага і іншых раёнаў. Партызаны рабілі дыверсіі на чыгуначных участках Баранавічы — Ваўкавыск — Ліда, Баранавічы — Ліда, вялі адкрытыя і засадныя баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, праводзілі агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва. З 1.12.1943 г. да 1.6.1944 г. партызаны атрада пусцілі пад адхон больш за 30 эшалонаў, падарвалі каля 150 вагонаў з жывой сілай і баявой тэхнікай праціўніка. Разам з падпольшчыкамі народныя мсціўцы спалілі папяровую фабрыку, узарвалі шашэйны мост, плаціну і абсталяванне электрастанцыі ў Слоніме. 15.7. 1944 г. атрад (377 партызан) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1967 г. на месцы дыслакацыі атрада ўстаноўлена стэла, адноўлена 7 партызанскіх зямлянак.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Шубин Г. А. Из истории всенародной борьбы против немецко-фашистских оккупантов в западных областях Белоруссии (июнь 1941 — июль 1944 гг.).— Волгоград, 1972. *Г. І. Дулеба.*

**в. Хадзяўляны, Дзятлаўскі сельсавет**

**622. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Харашкі, Мляхавіцкі сельсавет**

**623. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 10 актывістаў — арганізатараў калгаса «Камунар», якіх 6.8.1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хвінявічы, Парэцкі сельсавет**

**624. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Парэчча». На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Шаршні, Дзям'янавіцкі сельсавет**

**625. МАГІЛА БЕЛУША** Міхаіла Юльянавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны партызан М. Ю. Белуш, які загінуў пры выкананні баявога задання ў верасні 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Явар, Гербелевіцкі сельсавет**

**626. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бетонных блокаў. Будынак трох'ярусная кампазіцыі. Складаецца з прамавугольных у плане, накрытых двухсхільнымі дахамі аб'ёмаў прытвора, бабінца, асноўнага аб'ёму і апсіды з прыбудоўкай. У завяршэнні храма — макаўка на двух'ярусным чацверыковым барабане.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры.




# ЗЭЛЬВЕНСКІ РАЁН

Вострава
Дзярэчын
Крывічы
Старая Галынка
Ялуцавічы
Крамяніца
Снежная
Конна
Грыцкавічы
ЗЭЛЬВА
Вішнеўка
Чырвонае Сяло
Сынковічы
Тулава
Каралін
Міжэрычы
Кашалі
Рудзевічы
Дабрасельцы
Цяглевічы
Манцякі
Славацічы

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

 Помнікі і месцы воінскай славы

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

## XI. ЗЭЛЬВА

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчана на р. Зальвянка (прыток Нёмана). За 132 км на паўднёвы ўсход ад Гродна, чыгуначная станцыя на лініі Баранавічы — Ваўкавыск. Аўтамабільнымі дарогамі злучана са Слонімам, Мастамі, Ваўкавыскам.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 16 ст., належала Сапегам, уваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Ваўкавыскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1831 г. за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—31 гг. Зэльва канфіскавана і перададзена ў казну. На той час у мястэчку было 1126 жыхароў, 19 цагляных і 122 драўляныя будынкі, 84 крамы. У 1897 г.— 2803 жыхары, 938 будынкаў, народнае вучылішча, лячэбніца, піваварня, медаварня і свечачная майстэрня. У пачатку 20 ст. адкрыты лесапільна-габлявальны завод (у 1914 г. — 65 рабочых). У 1915 г. Зэльва акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919 г.— буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка ў Ваўкавыскім павеце Беластоцкага ваяводства. З канца 1939 г. у складзе БССР. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна ў Баранавіцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 12.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (10.12.1943 г.— 13.7. 1944 г.) і ЛКСМБ (18.12.1943 г.—13.7. 1944 г.). З 20.9.1944 г. у Гродзенскай вобл., з 1962 г. у Ваўкавыскім р-не, з 1966 г. цэнтр Зэльвенскага раёна.

Сучасны пасёлак добраўпарадкаваны. У цэнтры — плошча са скверам. Тут размешчаны адміністрацыйныя, культурна-асветныя ўстановы, магазіны. Да плошчы прылягаюць вуліцы Савецкая і Перамогі, якія з'яўляюцца асновай планіровачнай структуры. Вул. Перамогі злучае цэнтр з паркавай зонай каля р. Зальвянка. Жылая зона падзелена на цэнтральны раён з індывідуальнай забудовай і паўднёвы мікрараён, забудаваны цаглянымі 2—5-павярховымі дамамі.



**XI.** *Цэнтральная плошча.*

Прамысловая зона ў заходняй і паўночнай частках пасёлка. Працуюць малочны завод, асфальтавы завод, прамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», 2 будаўнічыя арганізацыі.

У пасёлку сярэдняя, санаторна-лясная, сярэдняя завочная, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, 3 дашкольныя ўстановы. Выдаецца газета «Праца». Помнікі на брацкіх магілах савецкіх воінаў і ахвяр фашызму, савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Зберагліся помнікі архітэктуры: Троіцкая царква (19 ст.) і касцёл Дзевы Марыі (пач. 20 ст.).

Зона адпачынку — на берагах р. Зальвянка, вадасховішча.

*А. Ю. Пятросава, Э. М. Савіцкі.*

**627. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На тэрыторыі раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941 г., і 4 мірныя жыхары, расстраляныя ў ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сярод пахаваных — старшыня Тулаўскага сельсавета Іван Дробчык. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**628. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 496 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі пры вызваленні Зэльвы і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У ліпені 1944 г. воіны 169-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту вялі цяжкія баі з праціўнікам на подступах да Зэльвы, у ноч на 12 ліпеня яны фарсіравалі



**XI.** *Дом культуры.*



**XI.** *Забудова мікрараёна.*



628. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан. Здымак 1984 г.*

р. Зальвянка. Сіламі 434-га і 556-га палкоў дывізіі пачаўся штурм пасёлка з поўначы і поўдня. Раніцай пасёлак быў вызвалены.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі, у 1985 г. помнік рэканструяваны. *М. М. Казлоўская.*



630. *Касцёл Дзевы Марыі. Галоўны фасад.*



630. *Касцёл Дзевы Марыі. План.*

**629. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**629а.** Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на паўднёвы захад ад гарадскога пасёлка, ва ўрочышчы Гарадзішча (раней тут быў хутар пад такой назвай). Пляцоўка авальная, памерам 65×30 м, выцягнута з усходу на захад. Умацавана з усходу ровам і валам, з захаду — 3 равамі і 2 валамі. З трох бакоў (поўначы, захаду, поўдня) тэраса вышынёй 5—10 м. Выявіў і абследаваў у 1973 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт каля 0,5—0,6 м. Раскопкі не праводзіліся.

**629б.** К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 0,3 км на паўночны захад ад гарадзішча. 22 насыпы дыяметрам 4—11 м, вышынёй 0,5—1,8 м. У 1973 г. Я. Г. Звяруга раскапаў 1 курган з пахавальным абрадам трупаспалення на ўзроўні старажытнага гарызонта. Знойдзены рэшткі вялікай глінянай пасудзіны тыпу жароўні.

*Літ.:* З в е р у г о Я. Г. Работы в Верхнем Понеманье.— Археологические открытия 1973 года. М., 1974. *Я. Г. Звяруга.*

**630. КАСЦЁЛ ДЗЕВЫ МАРЫІ** (архіт.). На вул. 50 год ВЛКСМ. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Касцёл трохнефавы, двухвежавы, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Накрыты высокім вальмавым дахам, які ўтварае з боку галоўнага фасада паміж вежамі двухступеньчатую навісь. 2 высокія двух'ярусныя чатырохгранныя вежы завершаны шпілямі. Над апсідай невысокая вежачка каркаснай канструкцыі, увенчаная двух'ярусным шпілем. Уваходная частка касцёла вылучана экзанартэксам у выглядзе адкрытай галерэі з шырокімі паўцыркульнымі і вузкімі стральчатымі праёмамі. Цэнтральны стральчаты партал вылучаны вімпергам. Пяціграння апсіда і бакавыя сцены ўмацаваны контрфорсамі. Сцены прарэзаны спічастымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер падзелены 6 васьміграннымі калонамі на 3 нефы. Помнік архітэктуры неаготыкі. *А. Ю. Пятросава.*

**631. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. 17 верасня, 54, на будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1972 г. на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў міліцыі В. Н. Кліменцьева, А. Я. Супрунова і У. Я. Шугало, якія загінулі 3.3. 1952 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

**632. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Цэнтральнай пл. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1980 г.

**633. ПОМНІКІ ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.).

**633а.** На вул. Булака, каля канторы раённага аб'яднання Дзяржкамсельгастэхнікі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.




632. *Помнік У. І. Леніну на Цэнтральнай плошчы.*

**633б.** На вул. Пушкіна, каля будынка райваенкамата. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**634. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На скрыжаванні вуліц Кастрычніцкай і Савецкай. Пабудавана ў 19 ст.



634. *Троіцкая царква. Галоўны фасад.*



634. *Троіцкая царква. План.*

з цэглы (на фундаменце драўлянай царквы 1443 г.).

Царква аднанефавая, з прамавугольным у плане асноўным аб'ёмам, квадратнай званіцай і паўкруглай апсідай. Дах двухсхільны. Пад ім па перыметры праходзіць карніз. Аконныя праёмы прамавугольныя. Званіца невысокая, двух'ярусная, з паўцыркульнымі вокнамі і шатровым дахам, над якім узвышаецца невялікі купал на круглым барабане. Унутраная планіроўка амаль поўнасцю змянена. Над уваходам размешчаны хоры з драўлянай агароджай, упрыгожанай разным геаметрычным арнаментам. Алтарная частка вылучана 2 выступамі-пілонамі ў форме порцікаў на 3 калонах. Столь плоская, падшыўная.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

*А. Ю. Пятросава.*



637. *Сядзібны дом.*



637. *Сядзібны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*



637. *Сядзібны дом. План.*

**в. Алексічы, Дзярэчынскі сельсавет**

**635. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 400 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. Сярод пахаваных — воіны 120-й гвардзейскай і 129-й стралковых дывізій 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1-й палове ліпеня 1944 г. пры вызваленні в. Алексічы і навакольных населеных пунктаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**636. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 171 воін, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Аляксандраўшчына, Каралінскі сельсавет**

**637. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана школа.

Аднапавярховы будынак мае складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Уваходная частка вылучана рызалітам з мансардай. Бакавыя крылы ўпрыгожаны трохграннымі эркерамі. У дэкоры фасадаў выкарыстаны руст, плоскія пілястры, лапаткі, прафіляваны карніз з сухарыкамі. Дзвярныя і аконныя праёмы ўпрыгожаны арачнымі ліштвамі і паўкалонамі. Унутраная планіроўка зменена.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры неакласіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Бародзічы, Зэльвенскі сельсавет**

**638. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля Дома культуры. Пахаваны 7 воінаў 169-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 11—12.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**639. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 17 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**640. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Барукі, Галынкаўскі сельсавет**

**641. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**641а.** Селішча-1. У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Шчара. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1965 г. В. Р. Супрун і М. М. Чарняўскі, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні і ў абрывах берага знойдзены рэшткі гладкасценных гаршкоў і посуду з расчосамі. Раскопкі не праводзіліся.

**641б.** Селішча-2. На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Плошча каля 0,5 га. Абследавалі ў 1965 г. В. Р. Супрун і М. М. Чарняўскі, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі з насечкай у верхняй частцы і ляпных гладкасценных гаршкоў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім раённым краязнаўчым музеі.

*Л. Д. Побаль.*



638. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Бібікі, Дзярэчынскі сельсавет**

**642. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 71 земляка з вёсак Бібікі, Валькевічы, Грабава, Даўгаполічы, Крывічы, Марачы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.



639. *Курган Памяці.*



642. *Помнік землякам.*

**в. Бярэжкі, Зэльвенскі сельсавет**

**643. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 52 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 8 жыхароў вёскі, расстраляных гітлераўцамі 25.6.1941 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Валькевічы, Дзярэчынскі сельсавет**

**644. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на гары Гарадзішча. 7 насыпаў вышынёй 1 м, дыяметрам 3—4 м. Курганы каля асновы абкладзены камянямі. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вострава, Галынкаўскі сельсавет**

**645. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 67 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**646. ЦАРКВА ЯНА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы, абнесена агароджай з бутавага каменю. Прамавугольныя ў плане асноўны аб'ём і апсіда з рызніцамі па баках накрыты чатырохсхільнымі дахамі з галоўкамі ў цэнтры. Галоўны фасад завершаны чатырохграннай званіцай з шатровым дахам і галоўкай. Сцены асноўнага аб'ёму прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах, тарцовая сцяна апсіды дэкарыравана 3 паўцыркульнымі нішамі. Вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны лапаткамі. Інтэр'ер зальны, столь плоская.

Царква — помнік народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Горна, Каралінскі сельсавет**

**647. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у ліпені 1941 г. На ўшанаванне яго памяці, а таксама 21 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Дзярэчын, цэнтр сельсавета**

**648. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 154 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 129-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі.

10.7.1944 г. 129-я стралковая дывізія фарсіравала р. Шчара каля в. Гарадкі Дзятлаўскага р-на і пасля кароткай перагрупоўкі сіл працягвала праследаваць праціўніка ў напрамку г. Ваўкавыск. 11.7.1944 г., нягледзячы на жорсткае супраціўленне ворага, часці дывізіі штурмам авалодалі в. Дзярэчын.

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка. *Г. І. Дулеба.*

**649. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Шчара, ва ўрочышчы Падгор'е (Падкапцоўе). Памер пляцоўкі 40×38 м. Адкрыў і абследаваў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт у агаленнях 0,3—0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

**650. КАСЦЁЛ УШЭСЦЯ** (архіт.). У паўночна-ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Аднавежавы трохнефавы храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Над нартэксам узвышаецца вежа з востраканцовым шпілем, якая з'яўляецца цэнтральнай воссю фасада. Па вуглах ступеньчатага франтона размешчаны маленькія вежачкі. Уваходны партал афармлены стральчатай аркай. Над ім знаходзіцца акно-ружа. Сцены касцёла ўмацаваны контрфорсамі (пяціграннай высокай апсіды — двухступеньчатымі), прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі з ажурнымі кратамі і каляровымі вітражамі. Па перыметры праходзіць карніз з сухарыкамі. У інтэр'еры — паўцыркульныя скляпенні, выкапаныя з дрэва (захаваліся часткова).

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. Ю. Пятросава.*

**651. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахавана больш за 2 тыс. мірных жыхароў, якіх у чэрвені 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**652. МАГІЛА БУЛАКА** Паўла Іванавіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. у Вялікую Айчынную вайну П. І. Булак нарадзіўся 25.10.1902 г. у в. Вострава Зэльвенскага р-на ў



646. *Царква Яна.*



650. *Касцёл Ушэсця. План.*

сялянскай сям'і. У ліпені 1927 г. уступіў у члены КПЗБ, вёў актыўную падпольную работу, арганізоўваў дэманстрацыі і забастоўкі. Быў выбраны членам Дзярэчынскага падпольнага райкома КПЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць зняволены ўладамі буржуазнай Польшчы ў 1930—35 гг., 1936—39 гг. У 1939—41 гг. працаваў сакратаром Галынкаўскага сельсавета. У ліпені 1941 г. стварыў партызанскую групу з ліку мясцовага насельніцтва і воінаў Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне. У маі 1942 г. на базе групы створаны партызанскі атрад, потым брыгада «Перамога» (камандзір П. І. Булак, снежань 1943 г.— ліпень 1944 г.). У 1944—64 гг. на савецкай і гаспадарчай рабоце, быў старшынёй Зэльвенскага райвыканкома. Памёр 21.8.1970 г. Яго імем названа вуліца ў Зэльве.

У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975.
*М. М. Казлоўская.*

**653. МАГІЛА ГАМПЕРА** Ермалая Ермалаевіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік Айчыннай вайны 1812 г. генерал-маёр Е. Е. Гампер нарадзіўся ў 1759 г. На ваеннай службе з 16 гадоў. У Айчынную вайну 1812 г. камандаваў корпусам у Дунайскай арміі. Узнагароджаны залатой шпагай з алмазамі. Памёр 25.11.1814 г.

У 1815 г. установлена надмагільная пліта.

**654. ПОМНІК ЧАРНЯХОЎСКАМУ** Івану Данілавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Светлы шлях». Бюст двойчы Героя Савецкага Саюза, генерала арміі, камандуючага войскамі 3-га Беларускага фронту ў Вялікую Айчынную вайну І. Д. Чарняхоўскага ўстаноўлены ў 1957 г.

**655. СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Кампазіцыя будынка складаецца з асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, прамавугольнай (звонку, унутры паўкруглай) апсіды і бабінца. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з купалам на драўляным светлавым васьміграннным барабане ў цэнтры і 4 галоўкамі па вуглах. Сцены будынка завершаны развітым карнізам з сухарыкамі. Паўцыркульныя аконныя праёмы размешчаны ў верхняй частцы, дэкарыраваны броўкамі ў выглядзе какошнікаў. У інтэр'еры 4 слупы падтрымліваюць канструкцыю сферычнага купала на ветразях. Над уваходам размешчаны хоры, якія адкрываюцца ў зальнае памяшканне арачным праёмам. Вуглавыя часткі перакрыты крыжовымі скляпеннямі (астатнія падшыты плоскай столлю). Алтарная і падкупальная часткі ўпрыгожаны фрэскавай размалёўкай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Залацеева, Дзярэчынскі сельсавет**

**656. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 3 воіны 1457-га стралковага палка 169-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 64 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Збляны, Каралінскі сельсавет**

**657. РАДЗІМА ЖЭБРАКА** Антона Раманавіча (гіст.).

Беларускі савецкі генетык і селекцыянер, акадэмік АН БССР (1940 г.), доктар біялагічных навук, прафесар (1936 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.) А. Р. Жэбрак нарадзіўся 27.12.1901 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1925 г. скончыў Маскоўскую сельскагаспадарчую акадэмію імя К. А. Ціміразева, у 1929 г.— Інстытут чырвонай прафесуры. У 1930—31 гг. спецыялізаваўся па генетыцы ў ЗША і Германіі. У 1931—36 гг. прафесар, загадчык кафедры генетыкі і селекцыі Акадэміі сацыялістычнага земляробства (Масква), у 1934—48 гг. прафесар, загадчык кафедры генетыкі Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя К. А. Ціміразева. У 1945—46 гг. загадчык аддзела Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б). У 1947 г. прэзідэнт АН БССР. У 1948—49 гг. прафесар Маскоўскага лесатэхнічнага інстытута. З 1949 г. працаваў загадчыкам кафедры Маскоўскага фармацэўтычнага інстытута. У 1953—65 гг. кіраваў работамі па эксперыментальнай поліплаідыі ў Інстытуце біялогіі АН БССР, з 1963 г. у Аддзеле генетыкі і цыталогіі АН БССР.

Навуковыя даследаванні А. Р. Жэбрака прысвечаны гібрыдызацыі, поліплаідыі і селекцыі пераважна пшаніцы і грэчкі. Упершыню ў свеце атрымаў гібрыдныя пладавітыя формы ад скрыжавання многіх відаў пшаніцы. Скрыжоўваў амфідыплоіды пшаніцы як паміж сабою, так і з зыходнымі формамі, прааналізаваў філагенію пшаніцы і вёў перспектыўную селекцыю пшаніцы на павышэнне імунітэту да хвароб і шкоднікаў, павелічэнне колькасці бялку, памераў зярняўкі, коласа. Апублікаваў больш за 70 навуковых прац, у т. л. «Катэгорыі генетыкі ў свеце дыялектычнага матэрыялізму» (1936 г.), «Сінтэз новых відаў пшаніц» (1944 г.), «Поліплаідныя віды пшаніц» (1957 г.), «Новы сорт грэчкі для БССР» і «Курс батанікі» (1959 г.). Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. У 1945 г. удзельнічаў у рабоце канферэнцыі ў Сан-Францыска (ЗША) і ў ліку іншых дэлегатаў БССР падпісаў Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Памёр 20.5.1965 г. у Маскве.

*Літ.:* А. Р. Жебрак.— Генетика, 1965, № 2; Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; Хотылёва Л. В. Академик А. Р. Жебрак.— У кн.: Полиплоидия и селекция. Мн., 1972.
*Г. І. Дулеба, М. М. Казлоўская.*

**в. Івашкавічы, Каралінскі сельсавет**

**658. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ, СЕЛІШЧА** (археал.).

**658а.** Каменныя магілы. У вёсцы, на поўдзень і паўднёвы ўсход ад разбуранай у 1-ю сусветную вайну царквы. Захавалася каля 250 магіл з надмагільнымі каменнымі вымасткамі і пастаўленымі тарцом камянямі. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**658б.** Селішча. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым бе-



655. *Спаса-Праабражэнская царква.*



660. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, помнік землякам.*

разе р. Зальвянка. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1981 г. В. У. Шаблюк. Ускрыта жытла з рэшткамі печы, абліцаванай разнастайнай кафляй (у т. л. гербавай). Магчыма, тут знаходзілася сядзіба феадала. Датуецца 16—17 стагоддзямі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шаблюк В. В. Изучение средневековых селищ на р. Зельвянке.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Казловічы, Сынковіцкі сельсавет**

**659. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у Вялікую Айчынную вайну. На ўшанаванне яго памяці, а таксама 83 жыхароў вёсак Елка, Казловічы, Сынковічы, Шулякі і Ярнева, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Каралін, цэнтр сельсавета**

**660. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 35 воінаў, што загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне іх памяці, а таксама 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Кашалі, Каралінскі сельсавет**

**661. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**661а.** Гарадзішча. За 2 км на захад ад вёскі, на ўскраіне лесу. Займае высокі (больш за 20 м) узгорак. З трох бакоў крутыя схілы, з чацвёртага — роў. Валы адсутнічаюць. Пляцоўка авальная, памерам 65×40 м, мае значны (каля 5 м) нахіл на ўсход. Выявіў у 1968 г. В. В. Сядоў, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Зяруга. Культурны пласт ва ўсходняй частцы 0,6 м, у цэнтральнай і заходняй частках выражаны вельмі слаба. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка 9—12 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

**661б.** Селішча. На беразе перасохлай р. Барсучынка (правы прыток р. Зальвянкі), якая працякала каля падножжа гарадзішча. Выявіў і абследаваў у 1968 г. В. В. Сядоў. Знойдзена кераміка 11—12 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Седов В. В. Исследования в Гродненском Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1968 года. М., 1969. *Я. Г. Зяруга.*

**в. Клепачы, Тулаўскі сельсавет**

**662. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.).

**662а.** Каменныя магілы-1. У вёсцы. На плошчы памерам 100×30 м каля 70 магіл, пазначаных каменнымі вымасткамі, гарызантальна пакладзенымі плітамі ці вертыкальна пастаўленымі камянямі. Выявіла і абследавала ў 1962 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Зяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**662б.** Каменныя магілы-2. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад дарогі. Захаваліся 50 магіл, якія параслі лесам. На асобных камянях крыжападобныя знакі. Выявіла і абследавала ў 1981 г. А. В.




664. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



667. *Юр'еўскі касцёл. План.*



667. *Юр'еўскі касцёл. Бакавы фасад.*

Квяткоўская. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**в. Клімавічы, Галынкаўскі сельсавет**

**663. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, каля будынка праўлення калгаса. Захаваліся 2 курганы вышынёй 1,2 м, дыяметрам каля 8 м. Каля асновы курганоў — раўкі. Адкрыў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Князева, Крамяніцкі сельсавет**

**664. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Конна, Зэльвенскі сельсавет**

**665. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Воін Чырвонай Арміі А. П. Белякоў загінуў у чэрвені 1941 г. На ўшанаванне яго памяці, а таксама 37 аднавяскоўцаў, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Крамяніца, цэнтр сельсавета**

**666. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

На ўшанаванне памяці 6 савецкіх актывістаў, якія загінулі ў 1947—49 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і стэла з барэльефнай выявай воінаў.

**667. ЮР'ЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1617 г. з цэглы. У канцы 18 ст. да асноўнага аб'ёму прыбудаваны бабінец.

Аднанефавы бязвежавы храм. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і апсіда з паўкруглым завяршэннем накрыты дахамі з агульным вільчыкам. Галоўны фасад завершаны ступеньчатым франтонам, тымпан якога чляпёны плоскімі пілястрамі і аздоблены неглыбокімі нішамі. Сцены ўмацаваны 6 контрфорсамі. Вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Унутраная прастора зальнага тыпу перакрыта зорчатымі нервюрнымі скляпеннямі. Цэтральны і 2 бакавыя алтары дэкарыраваны калонамі карынфскага ордэра, прафіляванымі карнізамі. Дэкаратыўная размалёўка ўпрыгожвае імпасты арачных праёмаў. На хорах устаноўлены арган. Скульптурнае надмагілле фундатараў касцёла Вольскіх выканана ў традыцыях рэнесансу. На мармуровай пліце, размешчанай у нішы, гарэльефныя выявы Міколы ў рыцарскіх даспехах і Барбары ў манаскім адзенні. Кампазіцыя афармлена калонамі, валютамі над бакавымі нішамі, картушам з гербамі.

Касцёл — помнік архітэктуры рэнесансу.

*А. К. Лявонава, А. Ю. Пятросава.*



667. *Юр'еўскі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*



667. *Юр'еўскі касцёл. Надмагілле.*

**в. Крамяніца Дольная, Ялуцавіцкі сельсавет**

**668. ПОМНІК МІЧУРЫНУ** Івану Уладзіміравічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя І. У. Мічурына. Бюст І. У. Мічурына ўстаноўлены ў 1963 г.

**в. Луконіца, Галынкаўскі сельсавет**

**669. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пабудаваны ў 1782 г. з цэглы. Захаваўся часткова.

Касцёл аднанефавы, з пяціграннай апсідай і сакрысціяй з паўночнага боку. Галоўны фасад завершаны вялікім шмат'ярусным франтонам, які аздоблены магутным карнізам, здвоенымі пілястрамі з капітэлямі карынфскага ордэра. Плоскасці сцен прарэзаны невялікімі паўцыркульнымі вокнамі, уваходны партал лучковы. Тарэц апсіды з плоскімі пілястрамі па вуглах завершаны атыкам, дабудаваным у пачатку 20 ст. Побач з касцёлам трох'ярусная званіца. Ніжні і верхні ярусы ўпрыгожаны плоскімі пілястрамі па вуглах, завершаны карнізамі. Дах шатровы, крывалінейнага абрысу.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Мадзейкі, Ялуцавіцкі сельсавет**

**670. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Манцякі, Славаціцкі сельсавет**

**671. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў 1941 г., і 4 воіны, што загінулі 15.7.1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 39 землякоў у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**672. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1979 г.



669. *Міхайлаўскі касцёл.*



669. *Міхайлаўскі касцёл. План.*

**в. Мештавічы, Тулаўскі сельсавет**

**673. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 278 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 11—13.7.1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Міжэрычы, Тулаўскі сельсавет**

**674. БЛАГАВЕШЧАНСКІ КАСЦЕЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1912 г. з цэглы.

Аднанефавы аднавежавы храм з развітым трансептам і трохграннай апсідай. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана трох'яруснай вежай-званіцай з невысокім шатровым дахам, бакавыя дэкарыраваны зубчастымі атыкавымі сценкамі. Тарцы трансепта завершаны франтонамі зубчастага профілю. Сцены храма ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі і прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі. Другі ярус вежы і тарцы трансепта дэкарыраваны шырокім аркатурным поясам. У інтэр'еры — плоская столь.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. Ю. Пятросава.*

**675. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 20 землякоў з вёсак Клепачы, Міжэрычы, Шэйкі, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1952 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**676. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У парку. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1979 г.



670. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



671. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, помнік землякам.*

**в. Навасёлкі, Каралінскі сельсавет**

**677. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ, СТАЯНКА** (археал.).

**677а.** Курганны могільнік. За 0,6 км на поўдзень ад вёскі, у пойме р. Зальвянка. 10 насыпаў вышынёй 0,5—0,6 м, дыяметрам каля 5 м. Абследаваў у 1973 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**677б.** Селішча. За 0,3 км на захад ад вёскі, на высокім правым беразе р. Зальвянка. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, даследаваў у 1981—82 гг. В. У. Шаблюк. Знойдзены: разнастайная кераміка (гаршкі, міскі, збаны, патэльні і інш.), металічныя рэчы (нажы, сярпы, замкі, ключы, цвікі, кольцы), вырабы з гліны (грузікі да сетак, праслііцы), манеты Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і г. Рыгі, абломкі аконнага шкла і вялікая колькасць кафлі (пераважна з раслінным арнаментам). Помнік датуецца 15—18 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**677в.** Каменныя магілы. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, даследавала ў 1981 г. А. В. Квяткоўская. Захавалася 90 магіл. Раскапана 16 пахаванняў па абраду трупапалажэння на глыбіні 0,75—1,1 м пад трохраднымі каменнымі абкладкамі прамавугольнай ці авальнай формы. У галавах — вялікі абчасаны з бакоў камень, у нагах — камень меньшых памераў. Нябожчыкі ляжалі на спіне, арыенціроўка розная. Пахавальны інвентар: жалезны нож, бронзавыя бразготкі, манета, рэшткі трох гаршкоў (2 ляпных і ганчарнага) з перапаленымі касцямі. Магілы адносяцца да позняга сярэднявечча. Матэрыялы захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шаблюк В. В. Изучение средневековых селищ на р. Зельвянке.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983; Квятковская А. В. Раскопки средневековых могильников в Гродненской области.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983. *Я. Г. Звяруга.*

**677г.** Стаянка. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Зальвянка. Памеры 200×40 м. Выявіў і абследаваў у 1969 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены ляпная кераміка і крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да нёманскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Новая Галынка, Галынкаўскі сельсавет**

**678. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 5 воінаў, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На ўшанаванне іх памяці, а таксама 60 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з рэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Пустаборы, Галынкаўскі сельсавет**

**679. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). На ўскраіне могілак. Каля 50 пахаванняў з надмагільнымі вымасткамі авальнай ці прамавугольнай формы або з тарцом пастаўленымі каменнымі плітамі. Выявіў у 1966 г. В. В. Сядоў, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**680. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі Галынка — Зэльва. 17 курганоў, 5 з іх даўжынёй ад 10 да 20 м, шырынёй 6—8 м, вышынёй больш за 1 м, астатнія круглыя, дыяметрам 5—7 м, вышынёй 1,2 м (адзін дыяметрам 11 м). Каля асновы курганоў захаваліся раўкі. Адкрыла і абследавала ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследавалі ў 1966 г. В. В. Сядоў, у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пятрэвічы, Каралінскі сельсавет**

**681. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны камандзір Чырвонай Арміі Кавалёў і 16 мірных жыхароў, якіх у чэрвені 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Росцевічы, Каралінскі сельсавет**

**682. СЕЛІШЧА, КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.).

**682а.** Селішча. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Зальвянка. Адкрыў у 1980 г. М. М. Чарняўскі, даследаваў у 1982 г. В. У. Шаблюк. Выяўлены невялікая (памерам 3×2,2 м) гаспадарчая пабудова з вялікай колькасцю шлаку і частка дома з кафлянай печчу. Кафля

чырвонага і зялёнага колераў, з раслінным і геральдычным арнаментам. Знойдзены жалезныя нажы, бронзавая заколка, гліняныя люлькі, манеты 16—17 стагоддзяў (соліды і барацінкі). Адносіцца да позняга феадалізму. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

682б. Каменныя магілы. За 0,15 км на ўсход ад селішча, у лесе. Каля 20 магіл, пазначаных каменнымі вымасткамі. На асобных плітах крыжападобныя знакі. Выявіў у 1980 г. М. М. Чарняўскі. У 1981 г. А. В. Квяткоўская раскапала 2 магілы з авальнымі абкладкамі. Пахаванні знаходзіліся на глыбіні 1,1 м і 1,3 м. Нябожчыкі ляжалі на спіне, галавой на захад. Рэчы не знойдзены.

*Літ.:* Квятковская А. В. Раскопки средневековых могильников в Гродненской области.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983; Шаблюк В. В. Исследования в зоне Зельвянского водохранилища.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
*Я. Г. Звяруга.*

**в. Рудзевічы, Дабрасельскі сельсавет**

**683. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 21 земляка з вёсак Дабрасельцы, Рудзевічы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Славацічы, цэнтр сельсавета**

**684. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 68 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г., і 2 воіны, што загінулі 14.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 117 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**685. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з цэглы.

Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, прылягаюць паўкруглая апсіда і рызніца. Сцены асноўнага аб'ёму члянёны плоскімі лапаткамі, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Галоўны фасад завершаны трохвугольным драўляным франтонам. Над дахам узвышаецца чацверыковая вежачка з невысокім шатром. Інтэр'ер зальны, з плоскай столлю.

Царква — помнік народнага дойлідства.



*684. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, помнік землякам.*

**в. Снежная, Галынкаўскі сельсавет**

**686. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Зара». Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі 13—14.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 46 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**687. МОГІЛЬНІК З КАМЕННЫМІ МАГІЛАМІ** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, на ўзвышшы. 50 магіл памерам 2×3 м, на пляцоўцы плошчай 400 м². Захаваліся камяні, пастаўленыя на тарцы, а таксама ка-



*678. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, помнік землякам.*



*685. Царква.*



688. *Вадзяны млын.*

менны мур авальнай формы, памерам 2×1 м. Адкрыла і абследавала ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старая Галынка, цэнтр Галынкаўскага сельсавета**

688. **ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з бутавага каменю і цэглы. Цяпер млын на электрычным прыводзе.

Будынак аднапавярховы, з мансардай. Галоўны фасад сіметрычны, завершаны трохвугольным франтонам, які ўпрыгожаны здвоенымі пілястрамі, прарэзаны прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах. Вокны даху лучковага абрысу. Астатнія фасады без дэкаратыўных элементаў, неатынкаваныя. У інтэр'еры справа ад увахода размешчана лесвіца, якая вядзе ў цокальны паверх, дзе ўстаноўлены жорны і механізм для падачы мукі на мансарду.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

689. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 386 жыхароў вёскі, якіх 21.1.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старое Сяло, Галынкаўскі сельсавет**

690. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 22 землякоў з вёсак Варонічы і Старое Сяло, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Сынковічы, цэнтр сельсавета**

691. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 407 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх за-



692. *Царква-крэпасць. Аксанаметрыя.*



692. *Царква-крэпасць.*



692. *Царква-крэпасць. Папярочны разрэз.*



692. *Царква-крэпасць. План.*



692. *Царква-крэпасць. Скляпенне апсіды.*

хопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

692. **ЦАРКВА-КРЭПАСЦЬ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 15 — пачатку 16 ст. з цэглы. Пазней быў прыбудаваны бабінец. У час рамонту ў 1880—81 гг. быў заменены дах і дабудаваны купал над апсідай, разабраны купал над цэнтральнай часткай храма.

Трохнефавы чатырохстоўпны трохапсідны храм зальнага тыпу (у плане — перакошаны прамавугольнік) фланкіраваны па вуглах 4 баявымі вежамі (заходнія гранёныя, усходнія круглыя) з цаглянымі вітымі лесвіцамі ўнутры. Мае пояс машыкуляў па версе сцен, накрыты высокім двухсхільным дахам з вострымі тарцовымі шчытамі. Шчыт на галоўным фасадзе аздоблены ярусамі розных па форме плоскіх атынкаваных нішаў. Знадворку апсіды аб'яднаны ўверсе ў адну і накрыты агульным высокім дахам. У інтэр'еры 4 васьміграннныя слупы дзеляць прастору на роўныя пралёты, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі з дэкаратыўнымі нервюрамі. Цэнтральная і паўночная апсіды таксама перакрыты крыжовымі скляпеннямі, паўднёвая — зорчатым. Сцены ў інтэр'еры атынкаваны і расчлянёны прамавугольнымі лапаткамі, якія аб'яднаны са слупамі падпружнымі аркамі.

Царква — помнік абарончага дойлідства.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954.

*С. Г. Багласаў.*

**в. Тулава, цэнтр сельсавета**

693. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога». Пахавана каля 20 воінаў, якія загінулі 13—14.6.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 6 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

**в. Угрынь Малая, Дзярэчынскі сельсавет**

694. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 60 землякоў з вёсак Пяляжынь, Савічы, Угрынь Малая, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў.

**в. Цяглевічы, Дабрасельскі сельсавет**

695. **ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. Скульптура Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлена ў 1981 г.

**в. Чырвонае Сяло, Сынковіцкі сельсавет**

696. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў, а таксама 93 землякоў з вёсак Дзешкавічы, Дранаўцы, Раўтовічы, Чырвонае Сяло, Ярнева, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну,



692. *Царква-крэпасць. Скляпенні бакавога нефа.*

у 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Шэйкі, Тулаўскі сельсавет**

697. **КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,15 км на поўдзень ад вёскі, злева ад дарогі, на ўзгорку сярод поля. 30 пахаванняў з надмагільнымі каменнымі плітамі (вертыкальнымі і гарызантальнымі) і каменнымі абкладкамі. Выявіла і абследавала ў 1981 г. А. В. Квяткоўская, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ялуцавічы, цэнтр сельсавета**

698. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя І. У. Мічурына. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Янаўшчына, Тулаўскі сельсавет**

699. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі 12—13.7.1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.




# ІЎЕЎСКІ РАЁН

Трабы
Брагі
Жамыслаўль
Геранёны
Залесаўшчына
Суботнікі
Чарнелі
Жылі
Сураж
Юрацішкі
Такарышкі
Камянчане
Ліпнішкі
Расолішкі
Бачэшнікі
Лаздуны
Урцішкі
Бакшты
Вял. Князікоўцы
ІЎЕ
Круплі
Каменная Слабада
Лежневічы
Морына
Лелюкі
Чапунь
Мікалаева

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

 Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

## XII. ІЎЕ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. За 158 км на ўсход ад Гродна, 10 км ад чыгуначнай станцыі Гаўя на лініі Ліда — Маладзечна, на р. Іўянка. Вузел аўтамабільных дарог на Мінск, Ліду, Навагрудак.

Вядома з 15 ст. як маёнтак П. Мандзігерда, з 2-й паловы 16 ст. мястэчка ў Вялікім княстве Літоўскім. Да пачатку 17 ст. у Іўі існавала арыянская школа, у 1585—93 гг. рэктарам яе быў мысліцель-гуманіст і педагог Ян Ліцыній Намыслоўскі. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Ашмянскага павета. У сярэдзіне 19 ст. было 134 двары, звыш 750 жыхароў. Належала графам Замойскім. У 1861 г. у адказ на сялянскую рэформу тут адбылося выступленне сялян. Паводле перапісу 1897 г. у Іўі 3653 жыхары, народнае вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства. З канца 1939 г. у складзе БССР. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (11.7.1943 г.— 6.7.1944 г.) і ЛКСМБ (студзень 1943 г.— 6.7.1944 г.).

Планіровачная структура Іўя склалася гістарычна, абумоўлена размяшчэннем на перакрыжаванні дарог на Мінск, Ліду і Навагрудак. Цяпер гэта галоўныя вуліцы — К. Маркса, 1 Мая, Леніна. Яны з'яўляюцца ядром забудовы пасёлка. На скрыжаванні галоўных вуліц знаходзіцца Камсамольская пл. (былая Гандлёвая). Генеральны план забудовы Іўя распрацаваны ў 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, у 1980 г. складзены праект дэталёвай планіроўкі цэнтра. Планіроўка квартальная. Адміністрацыйна-грамадскі і гандлёвы цэнтр фарміруецца вакол Камсамольскай пл., на якой размешчаны будынкі райкома КПБ, Дома Саветаў, Дома культуры, Дома быту, універмага. У цэнтральнай частцы забудова капітальная, пераважна цагляная, двухпавярховая. У апрацоўцы большай часткі мураваных будынкаў шырока выкарыстана цагляная прафіліроўка і арнаментыка (забудова вул. 1 Мая). На ўскраінах пасёлка — аднапавярховая жылая забудова сядзібнага тыпу. На паўночным захадзе, па вул. 50 гадоў Кастрычніка створаны мікрараён, забудаваны трох-, пяціпавярховымі жылымі дамамі, размешчаны гасцініца, дзіцячы камбінат, школа з стадыёнам. Новае жыллёвае будаўніцтва вядзецца таксама ва ўсходняй частцы. Прамысловая зона на поўначы пасёлка. Працуюць кансервавы і малочны заводы, хлебазавод, лясгас. У Іўі васьмігадовая школа-інтэрнат, сярэдняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Путь Ильича». Помнікі: У. І. Леніну, на 3 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры — кляштар бернардзінцаў (17—18 стагоддзі), мячэць (канец 19 ст.).

Зона адпачынку — штучнае возера ў пойме ракі (паблізу цэнтра), стары парк з сажалкамі.

*С. Г. Багласаў, Э. М. Савіцкі, С. Ф. Самбук.*

**700. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**701. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Камсамольская пл. Пахаваны 52 воіны і партызаны, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 32-й Смаленскай кавалерыйскай дывізіі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 3-га Беларускага фронту і партызаны брыгады «Уперад». Пасля вызвалення 7.7.1944 г. воінамі дывізіі г. п. Іўе, трапілі ў акружэнне рэшткі разбітых вайсковых падраздзяленняў праціўніка. Для ліквідацыі іх 10.7.1944 г. створаны з ліку партызан брыгады «Уперад» знішчаль-



**XII.** *Дом культуры.*



**XII.** *Камсамольская плошча. Фрагмент забудовы.*



**XII.** *Фрагмент забудовы вуліцы 1 Мая.*



701. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ны атрад, які разграміў групоўкі ворага. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*М. Б. Батвіннік.*

**702. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Піянерская. Пахаваны 40 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**703. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, на правым беразе р. Іўянка. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 110 м. Умацавана кальцавым валам вышынёй 3 м, шырынёй 12—15 м. Паўночная частка гарадзішча разбурана ў 17 ст. пры будаўніцтве касцёла, паўднёвая, усходняя і заходняя захаваліся добра. Адкрыў і абследаваў у 1973 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**704. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт., маст.). Вул. К. Маркса, 43. Пабудаваны ў 1600—33 гг. з цэглы.

Складаецца з Петрапаўлаўскага касцёла і жылога корпуса (захаваліся заходняе і часткова ўсходняе крылы будынка). Кляштар аддзелены ад вуліцы насыпам, які меў абарончае значэнне.

К а с ц ё л. Трохнефавы двухвежавы храм. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, больш нізкая пяцігранная апсіда — шматсхільным. Пластыка фасадаў простая і строгая. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю, падзелены карнізам на 2 часткі: ніжнюю, аздобленую тонкімі пілястрамі, і верхнюю — 2 чацверыковыя вежы і фігурны атыкавы франтон паміж імі. У 2-й палове 18 ст. на галоўным заходнім фасадзе часткова зменены франтон і надбудаваны вежы, якія набылі выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі і ўвенчаны фігурнымі галоўкамі. У 19 ст. да паўночнай сцяны касцёла прыбудавана капліца. Цэнтральны ўваход вырашаны лучковым праёмам, над ім — вялікае паўцыркульнае акно. Абапал увахода размешчаны маленькія прамавугольныя вокны. Бакавыя сцены касцёла гладкія, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і завершаны тонкім карнізам. Апсіда і вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Інтэр'ер асноўнага памяшкання падзелены 4 слупамі на 3 нефы. Над уваходнай часткай выгнутыя ў плане хоры (пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст.). Нефы і апсіда аднолькавай вышыні, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У інтэр'еры 6 алтароў (галоўны і 5 бакавых) 2-й паловы 18 ст. Галоўны алтар мураваны, двух'ярусны, раскрапаваны калонамі і пілястрамі, размаляваны пад мармур, завершаны шырокім карнізным поясам з лучковым франтонам. У алтарных праёмах размешчаны скульптуры св. Пятра і св. Паўла, у цэнтры — «Распяцце» (гіпс, паліхромія). Бакавыя алтары драўляныя, дэкарыраваны арнаментальнай разьбой і скульптурамі. Сцены і скляпенні размаляваны ў 1-й палове 20 ст. Каларыстычная гама — карычнявата-чырвоная і шэра-блакітная.

Ж ы л ы к о р п у с. Двухпавярховы будынак, накрыты вальмавым дахам, утвараў прамавугольны ў плане ўнутраны двор, па перыметры якога з трох бакоў праходзіў калідор, злучаны з апсідай. Вуглавыя памяшканні выступалі з агульнага прамавугольнага абрысу плана. Ва ўнутраны двор вёў арачны праезд каля паўночна-заходняга вугла касцёла.

Сцены корпуса прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны карнізам. У інтэр'еры ўсход-



702. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



704. *Кляштар бернардзінцаў.*

няга крыла будынка мастацкую каштоўнасць мае абліцоўка печы тэракотавай кафляй 17 ст. з раслінным і геаметрычным арнаментам.

Кляштар — помнік архітэктуры ранняга барока.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977.

*С. Г. Багласаў, В. В. Церашчатава.*

**705. МАГІЛА МУДРАКОВА** Паўла Гаўрылавіча (гіст.). На могілках. Старшыня Ліпнішкаўскага сельсавета П. Г. Мудракоў (1913 г. нараджэння) загублены ў 1946 г. ворагамі Савецкай улады. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**706. МАГІЛА САЙКО** Адама Самсонавіча (гіст.). На могілках. Старшыня былога Галімшчанскага сельсавета А. С. Сайко (1907 г. нараджэння) загублены ў 1947 г. ворагамі Савецкай улады. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**707. МАГІЛЫ ЗАБАРЫ** Мікалая Рыгоравіча **І РАШНУПЛІНА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін М. Р. Забара (1920 г. нараджэння) загублены ў 1946 г. ворагамі Савецкай улады. Савецкі воін М. А. Рашнуплін (1918 г. нараджэння) загублены ў 1946 г. ворагамі Савецкай улады. У 1965 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**708. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У асобных магілах пахаваны 5 савецкіх воінаў (прозвішчы не ўстаноўлены), загубленых



**704.** *Кляштар бернардзінцаў. Фрагмент абліцоўкі печы ў жылым корпусе.*



**704.** *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл. Від з боку апсіды.*



**704.** *Касцёл. Галоўны алтар.*



**704.** *Кляштар бернардзінцаў. План касцёла і ўсходняга крыла жылога корпуса.*



**704.** *Кляштар бернардзінцаў. Заходняе крыло жылога корпуса. План 1-га паверха.*



**704.** *Касцёл. Падоўжны разрэз.*

ворагамі Савецкай улады. У 1965 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**709. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). На будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Установлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці 7 супрацоўнікаў раённага аддзела міліцыі, якія загінулі ў 1945—53 гг. пры выкананні службовых абавязкаў.

**710. МЕСЦА СЯЛЯНСКІХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ У 1861 г.** (гіст.). Пачаліся ў сакавіку ў маёнтку Іўе ў адказ на сялянскую рэформу 1861 г. Сяляне пад кіраўніцтвам С. Ёдкі адмовіліся выконваць паншчыну, падпарадкоўвацца мясцовай адміністрацыі. 29 сакавіка ў Іўі адбылася маніфестацыя (удзельнічала больш за 500 чалавек). Да канца сакавіка хваляванні ахапілі маёнткі Лаздунь, Лугаполле, Ліпнішкі, Якунь, Гольча, Бачнопаль, Баравая, Юрацішкі, Такардзішкі, Варыня і інш. 9 красавіка ў мястэчку Іўе сабралася каля 3 тыс. сялян. Узначальвалі хваляванні І. Сапацека, І. Стасусь, В. Акуліч, І. Лагун, Восіп і Вікенцій Гарбачы, якія тлумачылі палажэнні рэформы ў інтарэсах сялян. Паўстанцы грамілі дамы багацеяў і збівалі паліцэйскіх. На задушэнне выступленняў былі накіраваны рэгулярныя войскі.

1 красавіка акружаныя 3 ротамі Рэвельскага і ротай Эстляндскага пяхотных палкоў сяляне не далі ўзяць сваіх кіраўнікоў. Назаўтра супраць паўстанцаў былі накіраваны казакі. У выніку сутычкі 100 сялян паранена, 1 забіты, кіраўнікі паўстання і шмат сялян арыштаваны.

Новы ўздым хваляванняў адзначаны ў чэрвені — ліпені. У Ашмянскім і Лідскім паветах па афіцыйных звестках не выконвалі паншчыну каля 2 тыс. двароў, прыкладна 9—12 тыс. чалавек. Улады адказалі на гэта новымі рэпрэсіямі.

Іўеўскае выступленне, у якім удзельнічала больш за 15 тыс. чалавек, ахапіла да 40 маёнткаў у Ашмянскім і Лідскім паветах Віленскай і Навагрудскім павеце Мінскай губерняў.

*Літ.:* Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862 гг.): Документы и материалы.— Мн., 1959; Отмена крепостного права: Доклады министров внутренних дел о проведении крестьянской реформы 1861—1862.— М.; Л., 1950. *М. М. Зайцаў.*

**711. МЯЧЭЦЬ** (архіт.). Вул. Савецкая, 76. Пабудавана ў 1884 г. з дрэва.

Прамавугольны ў плане зруб з невялікім пяціграННым выступам на бакавой сцяне. Дах шатровы. Сцены гарызантальна ашаляваны. Вокны прамавугольныя ў простых ліштвах. Галоўны фасад вылучаны высокім порцікам на 4 круглых слупах з выгнутымі падкосамі. Порцік з нязначным вынасам, займае ўсю плоскасць сцяны. У пачатку 20 ст. ніжняя яго частка ў цэнтры закрыта шалёўкай, прыбудаваны ганак. Увенчана мячэць трох'яруснай вежай з канічным верхам (мінарэт). Першы ярус абнесены каванай агароджай, упрыгожанай раслінным арнаментам. Унутры памяшканне падзелена перагародкай на 2 часткі з асобнымі ўваходамі. Столь плоская.

Мячэць — помнік архітэктуры, у якім праявіліся традыцыі народнага дойлідства. *С. Г. Багласаў.*

**712. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.

**в. Бакшты, цэнтр сельсавета**

**713. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 77 воінаў і 31 партызан. Сярод пахаваных — воіны 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралковай дывізіі, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г., а таксама партызаны брыгады «Няўлоўныя» і асобнага атрада «Слаўны», якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна. У 1964 г.



**711.** *Мячэць. Галоўны фасад.*



**711.** *Мячэць. План.*



**713.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *М. К. Кошалеў.*

**714. ПОМНІК У ГОНАР ЛІДСКАГА МІЖРАЁННАГА ПАДПОЛЬНАГА ПАРТЦЭНТРА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКІХ БРЫГАД** (гіст.). Каля будынка клуба.

Лідскі міжрайпартцэнтр дзейнічаў з 25.4.1943 г. да 19.12.1943 г. Кіраўнік — член Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б Я. Д. Гапееў. У зону дзейнасці міжрайпартцэнтра па арганізацыі партыйнай работы ўваходзілі г. Ліда, Воранаўскі, Іўеўскі, Лідскі, Любчанскі, Навагрудскі, Радунскі, Юрацішкаўскі раёны Баранавіцкай вобл.

У гэтай зоне пад кіраўніцтвам міжрайпартцэнтра і Баранавіцкага абкома КП(б)Б вялі барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі партызанскія брыгады: імя С. М. Кірава (камандзіры Ф. М. Сінічкін — чэрвень — кастрычнік 1943 г., С. П. Васільеў — лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г., камісар С. М. Кандакоў), імя Ф. Э. Дзяржынскага (камандзір К. Ф. Шашкін, камісар Я. П. Ляхаў), 1-я Баранавіцкая (камандзір С. Ф. Бубін, камісар М. Т. Цяцерын), імя В. І. Чапаева (камандзір Р. Л. Кудрын, камісар П. А. Склемін), «Уперад» (камандзіры Б. А. Булат — лістапад 1943 г.— чэрвень 1944 г., Ф. Г. Камароў — в. а. у чэрвені — ліпені 1944 г., камісар М. В. Пронькін), імя Аляксандра Неўскага (камандзір А. Г. Байкоў, камісар М. М. Гаўрылаў), асобная брыгада «Няўлоўныя» (камандзір



*714. Помнік у гонар Лідскага міжраённага падпольнага партцэнтра КП(б)Б і партызанскіх брыгад.*

М. С. Пруднікаў, з ліпеня 1943 г.— А. Р. Марозаў) і асобны атрад «Слаўны» (камандзіры А. П. Шастакоў, з чэрвеня 1944 г.— К. А. Мадэй).

У 1969 г. у гонар Лідскага міжрайпартцэнтра КП(б)Б і партызанскіх брыгад пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; За край родной.— Мн., 1978.



*719. Мікалаеўскі касцёл. Від з боку апсіды.*

**в. Барава, Лелюкінскі сельсавет**

**715. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**в. Белы Бераг, Бакштаўскі сельсавет**

**716. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 28 жыхароў в. Юраўскія, якіх загубілі ў 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі.

**717. МАГІЛА ЧЭРНІК** Марыі Мікалаеўны **І ЧЭРНІКА** Мікалая Лук'янавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны дэпутат Вярхоўнага Савета СССР М. М. Чэрнік і яе сын, сакратар пярвічнай камсамольскай арганізацыі М. Л. Чэрнік. М. М. Чэрнік нарадзілася ў 1904 г. у в. Белы Бераг у сялянскай сям'і. У 1939 г. вылучана членам выбарчай камісіі па выбарах у Народны сход, у 1940 г. выбрана дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. 11.8. 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі М. М. і М. Л. Чэрнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*М. К. Кошалеў.*



*719. Мікалаеўскі касцёл.*



*719. Мікалаеўскі касцёл. План.*

**в. Геранёны, цэнтр сельсавета**

**718. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Савецкі воін загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла са стылізаванай выявай зоркі ў верхняй частцы. Каля падножжа запалены Вечны агонь.

**719. МІКАЛАЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі, побач з замкам. Пабудаваны ў 1519 г. з цэглы як капліца. Неаднойчы быў разбураны і перабудаваны. У 2-й палове 18 ст. зменена афармленне інтэр'ера, у 1883 г. да апсіды прыбудаваны 2 сіметрычныя сакрысціі і тамбур, рэканструяваны алтарная частка і фасады.

Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, пяцігранная апсіды з бакавымі прамавугольнымі сакрысціямі і тамбура. Усе аб'ёмы накрыты двухсхільнымі дахамі. Над апсідай двухсхільны дах пераходзіць у вальмавы. Сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. Галоўны фасад двух'ярусны. Першы ярус расчлянёны пілястрамі і фланкіраваны контрфорсамі. Другі ярус аддзелены ад першага карнізам, расчлянёны плоскімі лапаткамі і прарэзаны ў цэнтральнай частцы прамавугольным акном. Інтэр'ер касцёла зальны. Скляпенні ў асноўным памяшканні і ў апсідзе лучковыя, у сакрысціях столі плоскія. Хоры (пры ўваходзе) крывалінейныя ў плане. Мураваныя алтары (цэнтральны і 2 бакавыя) выкананы ў стылі класіцызму. Цэнтральны алтар двух'ярусны, расчлянёны калонамі карынфскага ордэра і аформлены драўлянай паліхромнай скульптурай, гарэльефнай кампазіцыяй і жывапісам. 2 бакавыя алтары па канструкцыйных асаблівасцях і дэкору паўтараюць цэнтральны. Дэкор аргана (драўляная скульптура і накладная разьба) зроблены ў стылі ракако. Сюжэтныя і арнаментальныя матывы размалёўкі сцен і арачных праёмаў выкананы ў 1934 г.

У архітэктуры касцёла выкарыстаны элементы позняга барока і класіцызму.

*С. Г. Багласаў, В. В. Церашчатава.*



*720. Руіны замка. Рэшткі абарончага вала.*



720. *Руіны замка. З акварэлі Н. Орды.*

**720. РУІНЫ ЗАМКА** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі, злева ад дарогі Ліпнішкі — Геранёны. Замак быў пабудаваны на рубяжы 15—16 стагоддзяў з каменю на вапнавым растворы, на штучнай земляной выспе. Падмурак вышынёй да 1 м з вялікіх камянёў на вапне. Сцены таўшчынёй 1,4 м утваралі квадратнае ў плане збудаванне (27×27 м) з цыліндрычнымі вежамі (дыяметр 8 м) па вуглах. Вежы і сцены складзены з каменю, звонку абліцаваны цэглай. Паміж двума ніжнімі ярусамі вежаў было скляпеністае перакрыцце. Байніцы стральчатага абрысу вышынёй 1 м і шырынёй 0,6 м. Як мяркуюць, у канцы 16 ст. да паўднёвай сцяны замка быў прыбудаваны двухпавярховы мураваны палац (у 1565 г. быў яшчэ драўляны), які з боку дзядзінца меў 12 акон, спічасты дах з флюгерам у выглядзе бусла ў цэнтры і бляшанымі зоркамі па вуглах. На 1-м паверсе палаца размяшчаліся службовыя памяшканні, была печ, абліцаваная зялёнай кафляй, на 2-м — жылыя памяшканні. Дахі вежаў, палаца і над бакавым ходам замкавых сцен з чарапіцы. На дзядзінцы перад палацам знаходзіліся студня, пякарня, вяндлярня і інш. гаспадарчыя пабудовы.

Замак быў абкружаны абарончым валам (вышыня 9—10 м, шырыня ў аснове 15 м), умацаваным з унутранага боку мураванай сцяной (таўшчыня 1,25 м, вышыня 4,5 м), 2 равамі (вонкавы даўжынёй 700 м) з вадою. На кожным рагу ўнутранага вала падпорная сцяна пераходзіла ў сямікантовыя двух'ярусныя вежырандэлі са сценамі таўшчынёй 1,75 м.

Праезд у замак размяшчаўся ў ніжнім ярусе паўднёва-ўсходняй вежы-брамы са сценамі таўшчынёй каля 2,2 м. Траплялі да брамы па часткова падымальным драўляным мосце, перакінутым цераз роў. У 1519 г. пабудаваны мураваны касцёл, які быў абкружаны мураванай сцяной, ён прымыкаў непасрэдна да абарончага вала перад брамай, з'яўляўся дадатковай перашкодай на шляху ў замак.

Помнік палацава-замкавай архітэктуры.

*Літ.:* Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978. *М. А. Ткачоў.*

**в. Дуды, Марынскі сельсавет**

**721. КАСЦЁЛ МАРЫІ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1772 г. з дрэва.

Двухвежавы аднанефавы храм. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму прымыкаюць пяцігранная апсіда з сакрысціямі, бабінец і вежы. Асноўны аб'ём і апсіда аднолькавай вышыні, аб'яднаны агульным двухсхільным дахам, які над апсідай пераходзіць у вальмавы. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Паміж 2 квадратнымі ў плане трох'яруснымі вежамі заглыблена цэнтральная плоскасць, завершаная франтонам. Вежы накрыты высокімі чатырохграннымі шатрамі з трохвугольнымі франтонамі каля асноў. У інтэр'еры асноўнае памяшканне і апсіда аднолькавай вышыні, перакрыты корабавымі скляпеннямі, размаляванымі ў стылі «мадэрн». Сцены гарызантальна ашаляваны. Над бабінцам і ў другім ярусе вежаў — хоры з арганам. Цэнтральны алтар двух'ярусны з калонамі карынфскага ордэра, мае тонка прафіляваны разны антаблемент з пазалочанай арнаментальнай разьбой расліннага малюнка. Кампа-



721. *Касцёл Марыі. Галоўны фасад.*



721. *Касцёл Марыі. План.*



721. *Касцёл Марыі. Галоўны алтар.*



722. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

зіцыя і дэкор бакавых алтароў паўтараюць цэнтральны. Амбон драўляны, упрыгожаны рэльефнай пазалочанай разьбой.

Касцёл — помнік архітэктуры барока. *С. Г. Багласаў, В. В. Церашчатава.*

**в. Жамыслаўль,**
**Суботніцкі сельсавет**

**722. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Перад будынкам канторы саўгаса «Жамыслаўль». Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**723. СЯДЗІБА** (архіт., маст.). На левым беразе р. Гаўя. Цяпер тут кантора саўгаса. Створана ў 1870-я гады. Уключае палац, 2 флігелі, парк з альтанкай, свіран і інш. гаспадарчыя пабудовы. Планіровачнае ядро ансамбля — мураваныя палац і 2 сіметрычныя двухпавярховыя флігелі, якія ўтвараюць парадны партэр. Цэнтральную алею перад палацам замыкаюць мураваныя брама і альтанка.

Палац двухпавярховы прамавугольны ў плане, завершаны масіўным кубічным бельведэрам з руставаным парапетам і арачнымі аконнымі праёмамі. У цэнтры галоўнага фасада прамавугольны рызаліт з лоджыяй, у цэнтры дваровага — чатырохкалонны порцік. У вырашэнні фасадаў выкарыстаны карынфскі ордэр. З тарцовых бакоў выступаюць нізкія прыбудовы з адкрытымі тэрасамі над імі. Планіроўка мяшаная, анфіладна-калідорная, з квадратнай залай у цэнтры. Зберагліся 3 кафляныя печы.

Парк пейзажнага тыпу, плошча каля 7 га, падзелены ракой на 2 часткі. Растуць кедр сібірскі, клён вast-



723. *Сядзіба. Алея парку.*



723. *Сядзіба. Свіран.*




723. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — флігелі; 3 — свіран; 4 — іншыя гаспадарчыя пабудовы; 5 — альтанка; 6 — брама і альтанка.*



723. *Сядзіба. План палаца.*



723. *Сядзіба. Галоўны фасад палаца.*



725. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

ралісты Швэдлера, бяроза далекарлійская і інш.

Мураваны аднапавярховы свіран (пачатак 19 ст.) — характэрны тып гаспадарчай пабудовы з галерэяй-аркадай уздоўж галоўнага фасада. У канцы 19 ст. было зроблена спіртасховішча ў выглядзе васьміграннага ў плане цэнтрычнага збудавання (не зберагло́ся).

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры з рысамі позняга класіцызму.
*А. М. Кулагін.*

**в. Заберазь, Бакштаўскі сельсавет**

**724. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ЮРАЦІШКАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). Устаноўлена ў 1979 г. на доме, дзе ў Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся падпольны райком КП(б)Б.

Юрацішкаўскі падпольны райком КП(б)Б арганізаваны Баранавіцкім падпольным абкомам КП(б)Б 6.7. 1943 г., зацверджаны 15.9.1943 г. Дзейнічаў да 7.7.1944 г. Сакратары М. М. Гаўрылаў (першы), В. С. Бярэзенцаў (другі сакратар; 3.1.1944 г.— 7.7. 1944 г.). Падпольны райком базіраваўся ў партызанскай брыгадзе імя Аляксандра Неўскага (створана ў красавіку 1944 г. на базе аднайменнага атрада; камандзір А. Г. Байкоў, камісар М. М. Гаўрылаў). Вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, выдаваў газету «Большевик», каардынаваў дзейнасць партызанскіх атрадаў.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.
*М. Б. Батвіннік.*



727. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Косці,**
**Юрацішкаўскі пасялковы Савет**

**725. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 жыхары в. Матыкаўшчына, якіх у 1943 г. закатавалі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**726. ПОМНІК ЗАСЛОНАВУ** Канстанціну Сяргеевічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. С. Заслонава. Бюст Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Красоўшчына,**
**Ліпнішкаўскі сельсавет**

**727. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У вёсцы, каля дарогі Гродна — Мінск. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам.

**728. ПОМНІК КОЛАСУ** Якубу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Я. Коласа. Скульптура Якуба Коласа ўстаноўлена ў 1975 г.

**в. Крывічы, Марынскі сельсавет**

**729. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, у лесе. Захаваліся 2 насыпы вышынёй 1.5 м, дыяметрам 10 м. Адкрыла ў 1962 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследавала ў 1974 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лаздуны, цэнтр сельсавета**

**730. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя С. М. Кірава. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1978 г.

**731. СЯМЁНАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1904 г. з цэглы і бутавага каменю, неатынкаваны. Трохнефавая двухвежавая базіліка з пяцігранняй апсідай. Двух'ярусныя чацверыковыя вежы завершаны высокімі шатрамі, паміж вежамі трохвугольны шчыт. Дзвярныя праёмы і скразныя праёмы вежаў з паўцыркульнымі завяршэннямі. Дэкаратыўныя дэталі (пілястры, аркатурныя паясы) з цэглы. Унутры — цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, над уваходам — хоры. Каля касцёла мураваная агароджа з брамай.

Касцёл — помнік архітэктуры псеўдараманскага стылю.
*Т. В. Габрусь.*

**в. Лелюкі, цэнтр сельсавета**

**732. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 11 землякоў з Лелюкінскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ліпнішкі, цэнтр сельсавета**

**733. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**734. КАЗІМІРАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы і граніту.

Прамавугольны ў плане будынак з трохграннай апсідай і квадратным у плане бабінцам, над якім узвышаецца высокая васьмігранная вежа, завершаная спічастым шатром з люкарнамі. Па баках асноўнага аб'ёму сіметрычна прыбудаваны невялікія сакрысціі, якія звонку нагадваюць крылы трансепта. Сцены абліцаваны гранітам, умацаваны плоскімі контрфорсамі. Праёмы стральчатыя. Галоўны ўваход акцэнтаваны фігурным парталам. Унутры будынак падзелены слупамі на 3 нефы. Сцены атынкаваны і раскрапаваны падвойнымі пілястрамі. Скляпенні крыжовыя. Над уваходам — хоры з арганам.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.
*Т. В. Габрусь.*



731. *Сямёнаўскі касцёл.*



733. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**735. КАПЛІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля павароту дарогі з Іўя ў в. Геранёны. Пабудавана ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне накрыта чатырохсхільным дахам. Ярусы падзелены карнізным поясам. Першы ярус вырашаны як маналітны аб'ём, дэкарыраваны неглыбокімі прамавугольнымі нішамі, другі — скразны, прарэзаны праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі, упрыгожаны тонкім пояском і маленькімі нішамі. У цэнтры другога яруса ўстаноўлена драўляная паліхромная скульптура.

Капліца — помнік архітэктуры неакласіцызму. *С. Г. Багласаў.*



734. *Казіміраўскі касцёл. Галоўны фасад.*

**736. МЕСЦА СЯЛЯНСКІХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ У 1856—62 гг.** (гіст.). 30.7. 1856 г. Сенат адхіліў прашэнне сялян маёнтка Ліпнішкі аб зацвярджэнні іх у мяшчанскім званні. У адказ сяляне адмовіліся выконваць паншчыну, за што былі падвергнуты паліцэйскай экзекуцыі, 8 чалавек, у т. л. адстаўны унтэр-афіцэр Рамук, які падаваў прашэнне ў Пецярбургу на імя імператара, арыштаваны і кінуты ў турму.

У 1861 г. сяляне (каля 2 тыс. чалавек) удзельнічалі ў Іўеўскіх выступленнях. Асабліва напружаны характар барацьба набыла ўлетку і ўвосень 1862 г. На задушэнне хваляванняў была накіравана рота Сафійскага пяхотнага палка, якая з 20 чэрвеня да канца кастрычніка 1862 г. стаяла ў Ліпнішках. Па загаду віленскага губернатара ў вёску выехала камісія, якая 18.10.1862 г. арыштавала яшчэ 12 сялян. Жыхары маёнтка паводле «Палажэнняў 19 лютага» вымушаліся да выканання ўсіх павіннасцей часовааабавязаных сялян.

*Літ.:* Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862 гг.): Документы и материалы.— Мн., 1959. *М. М. Зайцаў.*

**в. Мікалаева, Лелюкінскі сельсавет**

**737. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на выцягнутым уздоўж правага берага р. Нёман астанцы тэрасы вышынёй каля 9 м, на захад і ўсход ад могілак. Памер 100×300 м. Выявіў і абследаваў у 1955 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1970 г. М. М. Чарняўскі. Трапляюцца крамянёвыя вырабы эпохі мезаліту (дзяржанвыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, рэтушаваныя ножападобныя пласцінкі), ва ўсходняй частцы стаянкі — знаходкі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Морына, цэнтр сельсавета**

**738. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 6 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



739. *Мікалаеўская царква. План.*

**739. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Да квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму далучаны апсіда з бакавымі прыбудовамі і бабінец, у другім ярусе якога — званіца, накрытая двухсхільным дахам. Асноўны аб'ём раздзелены на 2 ярусы поясам, які на бакавых фасадах утварае шчыты. Верхні ярус накрыты пакатым шатром і завершаны гранёнай фігурнай вежай. Сцены гарызантальна ашаляваны, аздоблены лапаткамі, ліштвамі, філёнгамі.

Царква — помнік традыцыйнага драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**740. СТАЯНКА** (археал.). За 0,3 км ад заходняй ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Стрыхвайна, на краі чатырохметровай правабярэжнай тэрасы Нё-



735. *Капліца.*



739. *Мікалаеўская царква.*



743. *Помнік землякам.*

мана. Шырыня помніка 30—40 м. Выявіў у 1970 г. Г. І. Гарэцкі, абследаваў у 1972 г. А. І. Ігліцкі. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены рэтушаваныя нажападобныя пласцінкі, канцавыя скрабкі, лістападобныя наканечнікі стрэл. Адносіцца да эпохі мезаліту. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*М. М. Чарняўскі.*



745. *Касцёл.*

**в. Новая Вергань, Геранёнскі сельсавет**

**741. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 4 курганы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 6—10 м. Адкрыла і абследавала ў 1974 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пятровічы, Іўеўскі сельсавет**

**742. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 савецкія ваеннапалонныя і мірныя жыхары (колькасць не ўстаноўлена), загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Расолішкі, Бакштаўскі сельсавет**

**743. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 82 землякоў з вёсак Расолішкі, Белы Бераг, Сябрынь і Юраўскія, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стоневічы, Морынскі сельсавет**

**744. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Хаваншчына. Пахаваны 2524 мірныя жыхары, расстраляныя 12.5.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Суботнікі, цэнтр сельсавета**

**745. КАСЦЁЛ** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудаваны ў 1907 г. з цэглы, неатынкаваны. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, пяцігранная апсіда — вальмавым, сіметрычныя сакрысціі — двухсхільнымі дахамі. Масіўная трох'ярусная вежа на галоўным фасадзе завершана высокім шатром. Сцены рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі, аконныя праёмы маюць стральчатыя і арачныя завяршэнні. Па баках вежы — невялікія гранёныя аб'ёмы. Унутры касцёл падзелены слупамі на 3 нефы, цэнтральны значна шырэйшы за бакавыя. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі. Над уваходам — хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.
*Т. В. Габрусь.*

**746. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 19 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну і ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады, у 1967 г. пастаўлена стэла, у 1984 г. помнік рэканструяваны, пастаўлена скульптура воіна ў жалобе.

**в. Сурвілішкі, Трабскі сельсавет**

**747. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці воінаў 24-й Самара-Ульянаўскай Жалезнай стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Напярэдадні вайны дывізія дыслацыравалася ў Заходняй Асобай ваеннай акрузе. 25—29.6.1941 г. воіны дывізіі (камандзір генерал-маёр К. М. Галіцкі) вялі на поўдзень ад рубяжа Трабы — Суботнікі цяжкія баі супраць 19-й танкавай дывізіі нямецка-фашысцкіх войск, падбілі больш за 100 танкаў, знішчылі некалькі тысяч салдат і афіцэраў, збілі 8 самалётаў праціўніка. 29 чэрвеня дывізія пачала адыходзіць на ўсход. Прайшла з баямі 500 км па тылах ворага, 14.7.1941 г. выйшла з акружэння за 80 км на паўночны захад ад Мазыра, захаваўшы 2/3 асабовага складу.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973.
*М. К. Кошалеў.*

**748. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На могілках. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з дрэва.

Храм крыжападобны ў плане. Складаецца з аднолькавых па вышыні прамавугольнага асноўнага аб'ёму, вузкага трансепта і пяціграннай апсіды, да якой прылягаюць нізкія сакрысціі. Асноўны аб'ём і апсіда аб'яднаны агульным двухсхільным да-



748. *Троіцкі касцёл.*



748. *Троіцкі касцёл. План.*



750. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

хам з вальмамі над алтарнай часткай. Сцены прарэзаны лучковымі і круглымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах і завершаны шырокім карнізам, які праходзіць па перыметры асноўнага аб'ёму, трансепта і апсіды. Галоўны фасад расчлянёны 2 тонкімі пілястрамі на 3 часткі. Цэнтральная з уваходным лучковым праёмам і акном ашалявана гарызантальна, бакавыя — вертыкальна. Галоўны фасад завершаны фігурным франтонам. Тымпан франтона ашаляваны гарызантальна, прарэзаны лучковым праёмам, дэкарыраваны пілястрамі, якія візуальна прадаўжаюць пілястры сцен галоўнага фасада. Інтэр'ер зальны. Над уваходам — хоры, якія раскрываюцца ў асноўнае памяшканне арачным праёмам; арган аформлены ў стылі барока. Сцены вертыкальна ашаляваны. Столь плоская, падшыўная, з закругленымі вугламі. Часткова захаваліся 2 алтары ў трансепце, выкананыя ў стылі барока. Яны аформлены калонамі і пілястрамі карынфскага ордэра, разным арнаментам расліннага характару, галоўкамі пуцці.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока.

*С. Г. Багласаў.*



752. *Касцёл Раства багародзіцы.*

**в. Такарышкі, цэнтр сельсавета**

**749. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 партызан і камандзір Чырвонай Арміі (прозвішча не ўстаноўлена), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Трабы, цэнтр сельсавета**

**750. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 6-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі імя А. Я. Пархоменкі і партызаны брыгады імя Аляксандра Неўскага. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973. *М. К. Кошалеў.*

**751. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Замкавая Гара. У вёсцы, на левым беразе р. Клява. Займае частку прыроднага ўзвышша, з поўначы, поўдня і захаду абмежаванага ярамі. Пляцоўка прамавугольная, умацавана валам, які ў некалькіх месцах перарываецца. Выявіў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1974 г. А. Г. Калечыц, у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893.

**752. КАСЦЁЛ РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухвежавы прамавугольны ў плане храм з пяціграннай апсідай і невялікім трансептам. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, трох'ярусныя вежы — высокімі шатрамі. Крылы трансепта прылягаюць адначасова да асноўнага аб'ёму і апсіды, накрыты двухсхільнымі дахамі, якія з трох бакоў закрыты шчытамі. Сцены рытмічна расчлянёны контрфорсамі і стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутры касцёл падзелены слупамі на 3 нефы. Цэнтральны перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Над уваходам — хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *Т. В. Габрусь.*

**753. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1784 г. з дрэва. У канцы 19 — пачатку 20 ст. часткова перабудавана. У пачатку 20 ст. перад галоўным фасадам па падоўжнай восі царквы пабудавана двух'ярусная зрубная брама-званіца, накрытая нізкім чатырохсхільным дахам, завершаным васьмігранным шатром.

Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды, рызніц і бабінца. Асноўны аб'ём і апсіда аб'яднаны агульным двухсхільным дахам з вальмай над апсідай і трохвугольнымі навісямі ў месцах злучэння аб'ёмаў. Сцены гарызантальна ашаляваны, прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аздобленымі арачнымі ліштвамі. Галоўны фасад падзелены карнізным поясам, завершаны блізкім да трохвугольніка франтонам ламанага абрысу, над якім у цэнтры і па вуглах узвышаюцца дэкаратыўныя гранёныя галоўкі. Такая ж галоўка над апсідай. Інтэр'ер царквы зальны. Над уваходам — хоры.



753. *Петрапаўлаўская царква і брама-званіца.*



753. *Петрапаўлаўская царква. План.*



757. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і актывістаў.*

Столь усіх памяшканняў плоская, падшыўная. Іканастас драўляны, разны, двух'ярусны, завершаны ажурнай разьбой расліннага малюнка. У кампазіцыю ўключаны жывапісныя палотны на рэлігійныя тэмы (алей).

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*С. Г. Багласаў, В. В. Церашчатава.*

**754. РАДЗІМА КЛІНЦЭВІЧА** Сямёна Аляксандравіча (гіст.). Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі С. А. Клінцэвіч нарадзіўся 15.6. 1898 г. у сялянскай сям'і. Член КПЗБ з 1924 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны, змагаўся з контррэвалюцыйнымі бандамі ў Саратаўскай губерні. У 1922—23 гг. у Заходняй Беларусі, член Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. 16.3.1928 г. па даручэнню ЦК КПЗБ знішчыў у Вільні правакатара. Быў схоплены і ў 1929 г. прыгавораны да пажыццёвай катаргі. У выніку абмену палітзняволенымі з 1932 г. у СССР. Жыў і працаваў у Мінску. Памёр С. А. Клінцэвіч 3.3. 1943 г.

*Літ.:* У суровыя гады падполля.— Мн., 1958. *М. К. Кошалеў.*

**в. Чапунь, Лежневіцкі сельсавет**

**755. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 32 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юраўскія (не існуе), Бакштаўскі сельсавет**

**756. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Юраўскія знаходзілася за 3 км на ўсход ад в. Белы Бераг. У 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 28 мірных жыхароў, спалілі 5 двароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**г. п. Юрацішкі, цэнтр пасялковага Савета**

**757. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На перакрыжаванні вуліц Савецкай і Кастрычніцкай. Пахаваны 77 воінаў, партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і савецкіх актывістаў, што загінулі ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**758. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва. Царква трохзрубная: прамавугольны ў плане асноўны аб'ём, пяціграннная апсіда і квадратны ў плане бабінец. Зрубы аднолькавай вышыні, завершаны агульнай прафіляванай цягай карніза. Асноўны аб'ём і апсіда накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай і трохвугольнымі навісямі ў месцах злучэння зрубаў. Па баках апсіды нізкія сіметрычныя прыбудовы, размешчаныя на адной лініі з бакавымі сценамі асноўнага зруба. Бабінец завершаны чацверыковай шатровай званіцай з галоўкай. Сцены гарызантальна ашаляваны і аздоблены шырокімі лапаткамі.



758. *Мікалаеўская царква.*



761. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**759. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Савецкай і Камсамольскай. 7.7.1944 г. воіны 32-й кавалерыйскай Смаленскай Чырванасцяжнай дывізіі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 3-га Беларускага фронту вызвалілі пасёлак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У баях за Юрацішкі ўдзельнічалі партызаны брыгады імя Аляксандра Неўскага (камандзір А. Г. Байкоў, камісар М. М. Гаўрылаў), якія 6 ліпеня сумесна з групай разведчыкаў Чырвонай Арміі нанеслі моцныя ўдары па ворагу на чыгуначнай станцыі Юрацішкі.

У 1960 г. у гонар вызвалення пасёлка пастаўлены абеліск.

*М. К. Кошалеў.*

**760. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры пасёлка, у парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1941 г.

**в. Ятаўтовічы, Іўеўскі сельсавет**

**761. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад шашы Мінск — Гродна. Пахаваны астанкі мірных жыхароў, якіх 22.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. Загінулі 96 чалавек — старыя, жанчыны, дзеці; згарэлі 34 двары. У 1961 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.




# КАРЭЛІЦКІ РАЁН




 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Цэнтры рамёстваў

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і месцы воінскай славы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

 Культавая архітэктура

 Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

 Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIII. КАРЭЛІЧЫ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Рутка (басейн Нёмана), за 194 км на ўсход ад Гродна, 42 км ад чыгуначнай станцыі Гарадзея (на лініі Мінск — Баранавічы), на аўтамабільнай дарозе Навагрудак — Мінск. Аэрапорт.

Вядомы з 14 ст. З пачатку 16 ст. у складзе Навагрудскага павета Навагрудскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Спачатку ў велікакняжацкім валоданні, потым належалі князям Чартарыйскім, з 17 ст.— Радзівілам. У 1505 г. спалены крымскімі татарамі, у 1655 і 1706 гг.— шведамі. З 1736 г. тут працавала магнацкая мануфактура тканых габеленаў, дзе выкарыстоўвалася праца наёмных работнікаў. Вядомы тканыя партрэты Радзівілаў. У 1757 г. у мястэчку 163 дамы, 28 крам. Штогод 1 кастрычніка ў Карэлічах адкрываўся кірмаш. У 18 ст. жыхары штогод плацілі чынш уладальніку і выконвалі 12 дзён шарварку з чвэрці валокі зямлі.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) Карэлічы ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага павета. З 1828 г. належалі князям Вітгенштэйнам. Жыхары мястэчка ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64 гг. У 1897 г. у мястэчку было 2559 жыхароў, школа, у 1900 г.— 38 крам. У 1905—07 гг. адбыліся рэвалюцыйныя выступленні жыхароў. У 1-ю сусветную вайну праз Карэлічы праходзіла лінія фронту. У кастрычніку 1915 г. захоплены войскамі кайзераўскай Германіі. Вызвалены Чырвонай Арміяй 22.12. 1918 г. У красавіку 1919 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. Савецкая ўлада адноўлена ў ліпені 1920 г. У 1920—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Навагрудскага павета. З канца 1939 г. у складзе БССР, з 1940 г. цэнтр раёна ў Баранавіцкай вобл.

З чэрвеня 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень 1943 г.— 10.7.1944 г.) і ЛКСМБ (14.12.1943 г.— 10.7.1944 г.).

У 1954—62 гг. раённы цэнтр Гродзенскай вобл. У снежні 1962 г. Карэліцкі р-н быў скасаваны, яго тэрыторыя ўключана ў склад Навагрудскага р-на. У 1965 г. раён адноўлены. З 30.4.1958 г. гарадскі пасёлак.

Цэнтральная плошча знаходзіцца на высокім месцы складанага ўзгорыстага рэльефу. На ёй размешчаны раённы Дом культуры, Дом Саветаў, музычная школа, магазіны, бібліятэка, краязнаўчы музей. Жылая зона падзяляецца на 3 часткі: цэнтральную (вуліцы 1 Мая, Гастэлы, Савецкая) з малапавярховай забудовай, паўднёва-ўсходнюю і паўночна-ўсходнюю, дзе вядзецца будаўніцтва секцыйных 4—5-павярховых дамоў (вул. Ю. Гагарына).

Прамысловы раён у паўночнай частцы пасёлка. Тут знаходзяцца завод масла і сухога малака, хлебазавод, ільнозавод, птушкакамбінат, камбінат бытавога абслугоўвання, карамельны цэх Навагрудскага хлебакамбіната, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. Працуюць сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, сярэдняя і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, яслі-сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, краязнаўчы музей, бальніца. Выдаецца газета «Полымя». Помнікі: савецкім воінам і партызанам, якія загінулі пры вызваленні р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, работнікам міліцыі, што загінулі пры выкананні службовых абавязкаў, сакратару Карэліцкага падпольнага райкома КСМЗБ М. П. Арцюху. Захаваўся помнік архітэктуры 19 ст.— Петрапаўлаўская царква.

Зона адпачынку — маляўнічы парк, берагі р. Рутка.

*Літ.:* Чернышев В. Е. Во главе народных масс против фашистских захватчиков.— У кн.: Непокоренная Белоруссия. М., 1963; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Т. 1.— Мн., 1968. *А. П. Грыцкевіч, А. Ю. Пятросава.*

**762. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Вул. 8 Сакавіка, на паўночна-заходняй ускраіне пасёлка.

Пахаваны 87 воінаў, якія загінулі пры вызваленні Карэліч ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі, і 6 партызан, што загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр Я. Я. Фогель), 41-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, Міхаіл Андрэевіч Белуш, які закрыў сваім целам амбразуру варожага дота.

М. А. Белуш нарадзіўся ў 1924 г. у в. Руда Ліпічанская Мастоўскага р-на. У Вялікую Айчынную вайну партызан атрада «Кастрычнік» Першамайскай партызанскай брыгады. 16.6.1944 г. пры разгроме варожага гарнізона ў в. Купіск Навагрудскага р-на закрыў сваім целам амбразуру дота. Імем М. А. Белуша названы вуліцы ў Гродне, Карэлічах і Мастах, на месцы гібелі пастаўлены абеліск. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск. *М. В. Кірэйшын.*

**763. МАГІЛА ЖАЛЕЗНЯКОВІЧА** Паўла Арсенавіча (гіст.). На могілках.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі П. А. Жалезняковіч нарадзіўся 27.9.1906 г. у в. Лешня Капыльскага р-на Мінскай вобл. у сям'і свяшчэнніка. У 1920 г. бацькі пераехалі на жыхарства ў Карэліцкі р-н. З 1923 г. П. А. Жалезняковіч актыўна ўключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. У 1924 г. уступіў у КПЗБ. У 1926 г. арыштаваны і ў 1928 г. асуджаны на пажыццёвае турэмнае зняволенне. Вызвалены ў верасні 1939 г. З 1939 г. да 1941 г. працаваў старшынёй Турэцкага сельсавета, сакратаром Мірскага райвыканкома.



**XIII.** *Вуліца Гагарына. Фрагмент жылой забудовы.*



**XIII.** *Вуліца Савецкая.*



**XIII.** *Цэнтральная плошча.*

У Вялікую Айчынную вайну камісар 1-га асобнага камсамольскага атрада (з снежня 1943 г. атрад партызанскай брыгады «Камсамолец»).

Пасля вайны П. А. Жалезняковіч працаваў старшынёй Мірскага райвыканкома, у 1949—52 гг.— першым сакратаром Мірскага, з 1952 г.— Любчанскага, з 1956 г.— Карэліцкага райкомаў КПБ. У 1963—68 гг. старшыня Карэліцкага пасялковага Савета. У 1959—66 гг. член Рэвізійнай камісіі КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. Памёр 6.11.1971 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Брыль Я. Сэрца камуніста: Нарыс.— Мн., 1957. *М. В. Кірэйшын.*

**764. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 1-й БАРАНАВІЦКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). Вул. 8 Сакавіка, 16. Устаноўлена ў 1965 г. Гл. артыкул № 863 «Помнік у гонар партызан».

**765. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. 8 Сакавіка.

Узведзены ў 1972 г. (архіт. В. Ягадніцкі) на ўшанаванне памяці 227 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 1864 жыхароў раёна, што аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

Мемарыял — прамавугольны ўчастак, абмежаваны з трох бакоў насыпнымі валамі. У цэнтры — курган, на вышыні якога ўстаноўлена зорка і стэла. Уздоўж валоў — 19 трохгранных бетонных стэл з імёнамі загінуўшых.

**766. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. 8 Сакавіка. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Храм сіметрычна-восевай аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі: прамавугольны ў плане бабінец са званіцай над ім, кубападобны асноўны аб'ём з бакавымі тамбурамі і паўкруглая апсіда з прыбудоўкамі. Асноўны двух'ярусны аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам і завершаны васьміградным светлавым барабанам з гранёным сферычным купалам і макаўкай. Фасады дэкарыраваны рустам, пілястрамі, прафіляваным карнізам, філёнгамі, ліштвамі аконных праёмаў. Галоўны і бакавыя ўваходы арачныя. У інтэр'еры — цэнтральная зала з адкрытым светлавым барабанам, які падтрымліваюць 4 калоны і ветразевыя скляпенні, іканастас больш позняй работы (1-я палова 20 ст.).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**767. ПОМНІК АРЦЮХУ** Мікалаю Пятровічу (маст.). На вул. Савецкай, у скверы. Пастаўлены ў 1972 г. на ўшанаванне памяці сакратара Карэліцкага падпольнага райкома КСМЗБ (скульпт. Г. Мурамцаў; сілумін, бетон; вышыня бюста 0,8 м, пастамента 2,6 м).

Паплечны партрэтны бюст пастаўлены на высокім прамавугольным пастаменце. Гордая пастава галавы, высокі адкрыты лоб, мяккія рысы твару надаюць партрэту выразнасць, стрыманую дынамічнасць. Сродкамі пластыкі раскрываецца цэласнасць характару юнака-змагара, перакананага ў правільнасці выбару свайго жыццёвага шляху. Гл. таксама артыкул № 794 «Магіла Арцюха Мікалая Пятровіча». *Л. Г. Лапцэвіч.*



*767. Помнік М. П. Арцюху.*

**768. ПОМНІК СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). На вул. Гастэлы, каля будынка аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. На ўшанаванне памяці супрацоўнікаў міліцыі А. Е. Парфёнава, К. К. Збрылевіча, Я. Г. Судзярэнкі, Ф. К. Таболы, Я. І. Гальперына, І. К. Захарчука, А. М. Зуева, якія загінулі ў 1944—50 гг. пры выкананні службовых абавязкаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *М. В. Кірэйшын.*

**769. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА ТКАЦТВА** (гіст.). Вядомы пад назвай «Карэліцкія шпалеры». Мясцовыя прыгонныя ткачы ў 2-й палове 17 ст. — 1-й пало-




*765. Мемарыяльны комплекс савецкім воінам і партызанам, помнік землякам.*



*766. Петрапаўлаўская царква*

ве 19 ст. на Карэліцкай ткацкай мануфактуры князёў Радзівілаў, якая ўзнікла на базе традыцыйнага народнага ткацтва, па кардонах прыдворных мастакоў Ю. і Р. Гескіх, Скажыцкага ткалі высокамастацкія шпалеры. Сюжэты і кампазіцыі пераносілі на шпалеры з карцін А. ван Вестэрфельда, Дэль Бена і інш. Працавалі тут і замежныя майстры-ткачы. Частка шпалераў упрыгожвала залы Нясвіжскага замка Радзівілаў («Узяцце ў палон С. М. Крычэўскага пад Лоевам у 1649 годзе», «Парад пад Заблудавам» і інш.). На некаторых шпалерах выяўлены меткі — прозвішчы мясцовых ткачых — Настассі Маркевіч і Марыі Кулакоўскай. У Айчынную вайну 1812 г. частка шпалераў з гэтай серыі знішчана, частка захоўваецца ў мастацкіх музеях СССР і ПНР.

У савецкі час ткачыхі ткуць посцілкі, дываны, абрусы, ручнікі ў традыцыях народнага ткацтва Гродзеншчыны. Пераважаюць кампазіцыі «ў палосы» гладкія і ўзорыстыя, якія чаргуюцца. Колеры мажорныя, кантрастныя (чорны, чырвоны, зялёны, жоўты, сіні, розных адценняў). Асабліва сярод вырабаў карэліцкіх майстроў вылучаюцца ажурныя тканыя і вышываныя на рамах абрусы. Разнастайныя ўзоры пляцення сеткі робяць з аднатонных ільняных нітак, паверх якіх вышываюць насцілам ці верхашвом рознакаляровымі баваўнянымі льнянымі і шаўковымі ніткамі буйныя раслінныя і геаметрычныя арнаменты. Яркія каляровыя ўзоры на цёмным ці светлым фоне надаюць вырабам мажорны настрой. Часта ўжываюць ткачыхі традыцыйны ўзор «вазона з кветкамі». Карэліцкія майстры ўдзельнічаюць у мастацкіх выстаўках.

*Літ.:* Беларускія народныя тканіны ў зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР: Каталог.— Мн., 1979; Трызна Д. С. Беларускія дываны і габелены.— Мн., 1981. *Дз. С. Трызна.*

**в. Асташын, Луцкі сельсавет**

**770. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Аюцавічы, Мірскі пасялковы Савет**

**771. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 103 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптурная група: воін і дзяўчынка.

**в. Баранавічы, Малюшыцкі сельсавет**

**772. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 18 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — 13 партызан атрадаў імя М. В. Фрунзе і імя І. В. Сталіна 1-й Баранавіцкай партызанскай брыгады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Беражна, Мірскі пасялковы Савет**

**773. КАЗАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў другой палове 19 ст. з цэглы. Храм прамавугольны ў плане, з чатырохграннай апсідай. Над бабінцам васьміграння званіца, завершаная шлемападобным купалам. Цэнтральны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, на вільчыку якога ўзвышаецца цыбулепадобны купал на васьмерыку. Фасады атынкаваны, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, упрыгожаны дэкаратыўнымі нішамі.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**774. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 127 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызан.

**в. Беразавец, Турэцкі сельсавет**

**775. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Сэрвач, на ўзвышшы, сярод поймeнных балот. Пляцоўка памерам 95×60 м, вышынёй 8—9 м. Пашкоджана ямамі. Паўночны схіл ступеньчаты, стромкі, заходні — пакаты. З боку ракі прасочваецца роў глыбінёй 1,8 м, шырынёй каля 20 м. Адкрыў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Варонча, цэнтр сельсавета**

**776. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 17 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама 17 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў час акупацыі раёна. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**777. БУДЫНАК БРОВАРА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, у пейзажным парку. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы як сядзібны дом, у 1898 г. перабудаваны пад бровар. Неаднойчы рэканструяваны (1940, 1952, 1972 гг.).



**773.** *Казанская царква.*



**775.** *Гарадзішча. План.*



**777.** *Будынак бровара. Галоўны фасад.*



**777.** *Будынак бровара. План.*

Будынак асіметрычны, шматаб'ёмны, накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана рызалітам з трохвугольным франтонам і высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў цагляных ліштвах. Фасады рытмічна падзелены пілястрамі, карнізамі з сухарыкамі. Па аб'ёму і вышыні вылучаецца асноўная зала, дзе размешчана тэхналагічнае абсталяванне.

Будынак — помнік архітэктуры з выкарыстаннем элементаў неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**778. КАСЦЁЛ ГАННЫ** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1773 г. з цэглы.

Трохнефавы двухвежавы безапсідны храм. Дамінуюць 2 трох'ярусныя вежы з паўцыркульнымі праёмамі (завяршэнне не захавалася). Галоўны фасад вылучаны дарычным порцікам з трохчвэртнымі калонамі, аздоблены рустам, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, бакавыя фасады — стральчатымі, бакавыя паўкруглыя прыбудовы — лучковымі і круглымі. У інтэр'еры часткова захаваліся цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. У алтарнай частцы — насценная размалёўка.

Касцёл — помнік архітэктуры з элементамі барока, класіцызму і неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Вышкава, Луцкі сельсавет**

**779. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Вялікая Вобрына, Ярэміцкі сельсавет**

**780. МАГІЛА КОВАЛЯ У. А. І ПУРЫКА П. М.** (гіст.). На могілках.

У адну з сакавіцкіх начэй 1943 г. партызаны атрада «Камсамолец» партызанскай брыгады імя Г. К. Жукава У. А. Коваль і П. М. Пурык (1921 года нараджэння), выконваючы чарговае баявое заданне, вымушаны былі зайсці ў в. Вялікая Вобрына. На досвітку ў вёску ўварваўся фашысцкі карны атрад. Партызаны праз акно адкрылі па ворагу кулямётны агонь. Завязаўся няроўны бой. Карнікі акружылі хату і падпалілі, прапаноўвалі камсамольцам здацца, але яны працягвалі гераічна змагацца, пакуль не загінулі.

У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*У. У. Бянько.*



778. *Касцёл Ганны. План.*

**781. РАДЗІМА ЦАРУКА** Уладзіміра Зянонавіча (гіст.).

Дзеяч рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. у Вялікую Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза У. З. Царук нарадзіўся 8.12.1899 г. у сялянскай сям'і. Чл. КПСС з 1924 г. У 1917 г. сакратар рэўкома на радзіме. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Палітрук роты 10-га Мінскага палка ВЧК на Заходнім фронце. З 1920 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі, арганізоўваў падпольныя ячэйкі ў в. Ярэмічы, В. Вобрына, Лядкі, Турэц, Сіняўская Слабада. З 1924 г. сакратар Мірскага падпольнага райкома КПЗБ. У 1926 г. за рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы і засуджаны на пажыццёвае турэмнае зняволенне. Вызвалены з турмы ў верасні 1939 г. Да 1941 г. на савецкай рабоце. У Вялікую Айчынную вайну намеснік упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Баранавіцкай вобл. З ліпеня 1943 г. да ліпеня 1944 г. член Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б, у кастрычніку — снежні 1943 г. кіраўнік Стаўбцоўскага падпольнага міжрайпартцэнтра, у кастрычніку 1943 г.— ліпені 1944 г. сакратар Стаўбцоўскага падпольнага райкома КП(б)Б, камандзір Стаўбцоўскага партызанскага злучэння. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны працаваў сакратаром Стаўбцоўскага райкома КП(б)Б, намеснікам старшыні Баранавіцкага аблвыканкома, старшынёй Баранавіцкага гарвыканкома. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—54 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1940—57 гг. Памёр У. З. Царук 27.1.1957 г. Пахаваны ў г. Баранавічы. Яго імем названы вуліца ў Баранавічах, калгас у Карэліцкім р-не; у в. Ярэмічы ўстаноўлены бюст У. З. Царука, на радзіме створаны мемарыяльны музей.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Вялікая Мядзвядка, Мірскі пасялковы Савет**

**782. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 35 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**783. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва.

Адназрубны выцягнуты па падоўжнай восі храм. Накрыты двухсхільным высокім дахам з франтонам на галоўным фасадзе, над якім узвышаецца чацверыковая вежа, завершаная шатром з галоўкай. Такая ж галоўка над апсідай. Аконныя праёмы лучковыя, шырокія, над уваходам і ў алтарнай частцы паўцыркульныя, са складанымі пераплётамі. У інтэр'еры ў маляўнічым арнаменце іканастаса выкарыстаны элементы псеўдарускага стылю.

Царква — помнік народнага дойлідства з элементамі класіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Вялікая Слабада, Турэцкі сельсавет**

**784. ПОМНІК ДЗІМІТРОВУ** Георгію Міхайлавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Бюст дзеяча балгарскага і міжнароднага рабочага руху Г. М. Дзімітрова ўстаноўлены ў 1967 г.

**785. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 107 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.



783. *Царква Ушэсця.*



783. *Царква Ушэсця. План.*

**в. Вялікія Жухавічы,**
**цэнтр Жухавіцкага сельсавета**

**786. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана да 1745 г. з дрэва. Побач у канцы 19 ст. пастаўлена мураваная двух'ярусная званіца з шатровым дахам, завершаным галоўкай на чатырохгранным барабане.

Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём, квадратны бабінец і пяціграннная апсіда храма аб'яднаны агульным вальмавым дахам, які стварае па баках глыбокія навісі. У цэнтры вільчыка галоўка на шасціграннымі барабане. Па баках апсіды прылягаюць нізкія прыбудовы рызніц з пакатымі аднасхільнымі дахамі. З заходняга боку прыбудаваны тамбур пад двухсхільным дахам. У інтэр'еры — 6 слупоў квадратнага сячэння. Над уваходам хоры з разной драўлянай агароджай.

Царква — помнік народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**787. РАДЗІМА ВАРАВЫ** Уладзіміра Аляксеевіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт У. А. Варава нарадзіўся 14.7.1895 г. Чл. КПЗБ з 1923 г. У 1920 г. працаваў у Жухавіцкім валасным рэўкоме, у Наркамземе БССР, вучыўся ў Мінскім палітэхнікуме. З 1921 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі. Рэдагаваў газету рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку «Жыццё беларуса» — орган сеймавага пасольскага клуба Беларускай сялянска-рабочай грамады, выступаў з артыкуламі ў падпольным друку. У 1925 г. вярнуўся ў БССР. Працаваў намеснікам рэдактара слуцкай акруговай газеты «Вясковы будаўнік», у Мінскім акруговым зямельным аддзеле. У 1927 г. прымаў удзел у стварэнні літаратурнага аб'яднання беларускіх савецкіх пісьменнікаў — «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна». Пісаў вершы, апавяданні, нарысы, фельетоны, у якіх выкрываў мяшчанства, адлюстроўваў класавую барацьбу ў тагачаснай вёсцы. Забіты ворагамі Савецкай улады 4.5.1929 г.

*Літ.:* Гісторыя беларускай савецкай літаратуры.— Мн., 1965. *М. В. Кірэйшын.*



786. *Петрапаўлаўская царква.*



786. *Петрапаўлаўская царква. План.*




788. *Помнік землякам.*

**в. Вялікія Тупалы,**
**Малюшыцкі сельсавет**

**788. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — стэла з імёнамі загінуўшых і скульптура воіна.

**в. Горная Рута,**
**Паланаеўскі сельсавет**

**789. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 99 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**790. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Маяк». Бюст В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Далматаўшчына, Луцкі сельсавет**

**791. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Дольная Рута,**
**Паланаеўскі сельсавет**

**792. УСЯСВЯЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1935 г. з цэглы. Аднанефавы храм накрыты вальмавым дахам з цыбулепадобным купалам на васьмерыку. Уваход вылучаны двухкалонным порцікам. Над бабінцам — аднаярусная званіца з высокім шатровым завяршэннем, цэнтральнай і 4 бакавымі галоўкамі. Сцены прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Царква — помнік архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн».

**в. Забердава, Райцаўскі сельсавет**

**793. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 130 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Заполле, цэнтр сельсавета**

**794. МАГІЛА АРЦЮХА** Мікалая Пятровіча (гіст.). На могілках.

М. П. Арцюх нарадзіўся ў 1913 г. у сялянскай сям'і. Член КСМЗБ з 1929 г. Вучыўся ў Запольскай школе. У 1929 г. арганізаваў забастоўку вучняў, якія патрабавалі выкладаць на беларускай мове. Члены камсамольскай ячэйкі на чале з М. П. Арцюхом распаўсюджвалі лістоўкі, падпольную літаратуру, на майскія і кастрычніцкія святы вывешвалі ў людных месцах чырвоныя сцягі. З 1932 г. М. П. Арцюх сакратар Карэліцкага падпольнага райкома КСМЗБ. Загінуў 22.5. 1933 г. у перастрэлцы з агентамі дэфензівы.



792. *Усясвяцкая царква.*



794. *Помнік на магіле М. П. Арцюха.*

У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск з партрэтным барэльефам.

*Літ.:* Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все.— Мн., 1979.

*М. В. Кірэйшын.*

**795. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 81 земляка — жыхароў вёсак Заполле, Лясок, Краснае, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.



795. *Помнік землякам.*

**796. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1957 г.

**797. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з дрэва. Двухзрубны храм з пяціграннай апсідай. Уваходная частка вылучана порцікам з франтонам. Высокі двухсхільны дах над апсідай утварае значную навісь. Над асноўным аб'ёмам узвышаецца чацвярык, завершаны шатром. Сцены ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры прастора ўваходнага тамбура аддзелена ад асноўнага аб'ёму шырокім лучковым праёмам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

### в. Кайшоўка, Цырынскі сельсавет

**798. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 105 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла з гарэльефнай выявай воіна.

**799. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

### в. Кальчычы, Паланаеўскі сельсавет

**800. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Да асноўнага аб'ёму прымыкаюць 2 аднапавярховыя крылы. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Сістэма планіроўкі анфіладная. У жылых памяшканнях столь плоская, на драўляных бэльках. Пад будынкам — падвал.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры з элементамі класіцызму.

*А. Ю. Пятросава.*

### в. Кожава, Жухавіцкі сельсавет

**801. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

### в. Крынкі, Турэцкі сельсавет

**802. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 82 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — 3 стэлы, аб'яднаныя агульным пастаментам. На 2 бакавых стэлах — гарэльефныя выявы воіна і партызана.



796. *Помнік У. І. Леніну.*

### в. Крышылоўшчына, Луцкі сельсавет

**803. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

### в. Лукі, цэнтр сельсавета

**804. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**805. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1966 г.

**806. ПОМНІК У ГОНАР СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ КАМУНЫ** (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса «Сцяг Леніна».

У лютым 1919 г. у в. Лукі была створана першая на Гродзеншчыне сельскагаспадарчая працоўная камуна «Праца» імя Уладзіміра Ульянава-



797. *Царква. План.*

Леніна. Размяшчалася ў былым панскім маёнтку. Старшынёй камуны быў выбраны мясцовы жыхар, былы піцерскі рабочы, член РСДРП з 1904 г. Васіль Канстанцінавіч Бучацкі. У красавіку 1919 г. камуністы Навагрудскага павета разам з В. К. Бучацкім сабраліся ў мястэчку Мір на партыйную канферэнцыю. У час яе работы ў мястэчку ўспыхнуў контррэвалюцыйны мяцеж. В. К. Бучацкі быў забіты. Камуна праіснавала да акупацыі павета ў канцы красавіка 1919 г. войскамі буржуазнай Польшчы. Камунары зaхавалі сцяг камуны. У верасні 1939 г. з гэтым сцягам вяскоўцы сустрэлі Чырвоную Армію. У вёсцы быў арганізаваны калгас «Сцяг Леніна».

У 1979 г. у сувязі з 60-годдзем стварэння сельскагаспадарчай камуны «Праца» імя Уладзіміра Ульянава-Леніна ўстаноўлены памятны знак.

*У. У. Бяньestablished*

**в. Любанічы, Луцкі сельсавет**

**807. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане зруб храма з пяціграннай апсідай накрыты пакатым чатырохсхільным дахам з цыбулепадобным купалам на светлавым чацверыку. Уваходная частка вылучана порцікам на 2 слупах. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Унутраная прастора падзелена 6 слупамі на 3 нефы.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Лядкі, Ярэміцкі сельсавет**

**808. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКА, САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны камсамолец-падпольшчык Уладзімір Малышка, забіты агентамі дэфензівы ў 1939 г., 4 савецкія воіны, партызан і 7 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



807. *Успенская царква.*

**в. Маласельцы, Турэцкі сельсавет**

**809. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі ва ўрочышчы Кругліца, за 0,3 км ад р. Уша. Выявіў і абследаваў у 1973 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя вырабы — скрабкі, разцы, рэзальныя прылады мезалітычнай і неалітычнай эпохі. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Малыя Жухавічы, Жухавіцкі сельсавет**

**810. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 70 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні в. Малыя Жухавічы і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 23 гвардзейскай Глухаўска-Рэчыцкай танкавай брыгады 2-га Беларускага фронту.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**811. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**812. ЦАРКВА ІААНА ПРАДЦЕЧЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Аднaзрубны будынак накрыты чатырохсхільным дахам. Дамінантай кампазіцыі храма з'яўляецца званіца з высокім шатровым дахам, завершаным невялікім цыбулепадобным купалам. Над алтарнай часткай высокі чатырохгранны барабан з галоўкай. Сцены прарэзаны вузкімі аконнымі праёмамі ў ліштвах з сандрыкамі. Фасады крапаваны плоскімі лапаткамі і ўпрыгожаны арнаментальным фрызам. У бабінцы над уваходам размешчаны невысокія хоры на 2 драўляных слупах.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Малюшычы, цэнтр сельсавета**

**813. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**814. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе. Абапал — 2 стэлы з імёнамі землякоў.

**815. ПОМНІК ФОГЕЛЮ** Яну Янавічу (гіст.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Тут 8.7.1944 г. быў смяротна паранены Герой Савецкага Саюза, камандзір 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі генерал-маёр Я. Я. Фогель. У 1976 г. на гэтым месцы пастаўлены памятны знак.

**816. РАДЗІМА ЧАЧОТА** Яна Тадэвушавіча (гіст.).

Беларускі і польскі паэт, фалькларыст Ян Чачот нарадзіўся 17.7.1796 г. у сям'і дробнага шляхціца. У 1815 г. скончыў дамініканскую школу ў Навагрудку, вучыўся ў Віленскім універсітэце ў 1815—16 гг. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў тайных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Пісаў для іх сходаў беларускія вершы і песні (у т. л. на прыезд А. Міцкевіча), драматычныя сцэнкі. Сябар А. Міцкевіча, Т. Зана, І. Дамейкі, зрабіў уплыў на іх творчасць сваімі прарамантычнымі баладамі, заснаванымі на беларускім фальклоры. За выступленні, накіраваныя супраць царызму, у 1823 г. арыштаваны і сасланы ў Уфу, потым — у Цвер.



812. *Царква Іаана Прадцечы.*



812. *Царква Іаана Прадцечы. План.*

Вярнуўшыся ў 1833 г., працаваў канторшчыкам, гувернёрам і бібліятэкарам на Лепельшчыне і Навагрудчыне. Я. Чачот сабраў і апублікаваў 6 зборнікаў «Сялянскія песенькі» (Вільня, 1837—46 гг.), куды ўвайшло каля тысячы беларускіх народных песень у перакладзе на польскую мову і ў арыгінале, напісаў каля 30 павучальных вершаў на беларускай мове, у якіх заклікаў шляхту гуманна адносіцца да прыгонных сялян, паляпшаць іх побыт. Даследаваў беларускую мову і фальклор. Пісаў вершы і крытычныя артыкулы на польскай мове. Я. Чачот памёр 23.8.1847 г. у Друскеніках (цяпер Друскенінкай Літоўскай ССР), пахаваны ў Ротніцы каля Друскенінкая.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969.

*А. І. Мальдзіс.*

## XIV. МІР

Гарадскі пасёлак. Размешчаны на р. Міранка, за 26 км на паўднёвы ўсход ад Карэліч, 220 км ад Гродна, на аўтамабільнай дарозе Навагрудак — Мінск, за 17 км ад чыгуначнай станцыі Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1395 г., калі крыжакі захапілі і разрабавалі Мір. З 16 ст. уваходзіў у Навагрудкі павет Навагрудскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. З 1434 г. належаў Гедыголдавічам, з канца 15 ст.— Ільінічам, з 1568 г.— Радзівілам, з 1589 г. у складзе Нясвіжскай ардынацыі як цэнтр самастойнай адзінкі (Мірскае графства). У 1579 г. атрымаў прывілей, паводле якога вызначаны чынш і іншыя павіннасці мяшчан, уведзены некаторыя правы гарадскога кіравання. Мірскія мяшчане выбіралі войта, якога зацвярджаў уладальнік горада.

Археалагічныя раскопкі пасёлка ў 1982—84 гг. праводзіў А. К. Краўцэвіч. Культурны пласт 1—3,5 м. Верхняя яго частка 0,6—1,45 м датуецца 18—20 стагоддзямі, ніжэй залягае пласт 0,15—1 м, які адносіцца да 16—17 стагоддзяў. Найбольш старажытныя наслаенні 0,4—0,9 м выяўлены ў заходняй частцы гарадскога пасёлка непадалёку ад Мікалаеўскага касцёла. Яны датуюцца канцом 14—16 ст. Каля сквера ў цэнтры пасёлка знойдзены рэшткі вялікага мураванага будынка 17 ст., магчыма, ратушы. На паўднёвай ускраіне адкапаны падмурак будынка з ніжняй часткай кафлянай печы 2-й паловы 17 ст., побач — напаўразбураны ганчарны горан 18 ст. Археалагічная калекцыя складаецца з керамічных, шкляных, металічных, касцяных вырабаў. Асартымент керамічнага посуду ўключае гаршкі, макотры, міскі, талеркі, збаны, кубкі і інш. Найбольш старажытная кафля — гаршковая, датуецца 15—16 стагоддзямі. Для ўпрыгожвання карабковай кафлі 16—17 стагоддзяў выкарыстоўвалі раслінны, геаметрычны, геральдычны, зааморфны і рэлігійны арнаменты. Калекцыя шкляных вырабаў складаецца са шкляніц, чарак, келіхаў, кварт, пляшак, пацерак, кругляга і прамавугольнага аконнага шкла. З металічных вырабаў знойдзены падковы, абутковыя падкоўкі, цвікі, нажы, скабяныя вырабы, 2 манетныя скарбы канца 17 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Карэліцкім гісторыка-краязнаўчым музеі і Музеі старажытнай беларускай культуры ІМЭФ АН БССР.

У 16 ст. на рыначнай плошчы пабудаваны Троіцкая царква, Мікалаеўскі касцёл. У 17—18 стагоддзях Мір — буйны гандлёвы цэнтр. У 1638 г. было 477 дамоў. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. часткова спалены, у верасні 1655 г. узяты рускімі войскамі, у 1677 г.— 295 дамоў. У Паўночную вайну (1700—21 гг.) Мір у 1706 г. быў захоплены шведскімі войскамі, а населеныя і шматзабудаваныя прадмесці спалены. У 2-й палове 17 ст. працавалі ткацкая і шавецкая мануфактуры, мануфактура па вырабу дываноў, 2 разы на год праводзіліся чатырохтыднёвыя кірмашы. У 2-й палове 18 ст. у Міры пасяліліся цыганы, тут была рэзідэнцыя цыганскага старшыні (караля) Вялікага княства Літоўскага, якому кароль Радзівіл (Пане Каханку) даў прывілей на вядзенне цыганскіх спраў і суд над імі.

У канцы 18 ст. у пасёлку 418 дамоў. У 1795 г. пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага павета Мінскай губерні. 27—28.6.1812 г. каля Міра адбылася бітва казацкага корпуса пад камандаваннем М. І. Платава 2-й рускай арміі з напалеонаўскімі войскамі. Руская кавалерыя нанесла паражэнне ворагу. 29—30.10.1812 г. каля Міра адбыліся баі рускіх войск П. В. Чычагова з праціўнікам. З 1828 г. у валоданні князёў Вітгенштэйнаў.

Паводле плана 1831 г. на прамавугольную гандлёвую плошчу мястэчка выходзілі 5 вуліц. У 1897 г. 280 двароў, 5401 жыхар, мужчынскае і жаночае сельскія вучылішчы. У 1-ю сусветную вайну мястэчка ў прыфрантавой палосе. 28—29.10(10—11.11). 1917 г. у Міры адбыўся 2-і з'езд 3-га Сібірскага корпуса 2-й арміі, які выказаўся за падтрымку Савецкай улады. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага да 18.12. 1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у красавіку 1919— 20 гг.— буржуазнай Польшчы. У ліпені 1920 г. Мір вызвалены Чырвонай Арміяй, але ў пачатку кастрычніка зноў быў заняты польскімі войскамі. У 1920—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Нясвіжскага павета. У Міры і навакольных вёсках дзейнічала арганізацыя КПЗБ (Мірскі падраён КПЗБ). З канца 1939 г. у складзе БССР. З 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з 26.6. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (26.11.1943 г.— 10.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.10.1943 г.— 10.7.1944 г.), камсамольскае падполле. Выдавалася газета «Сцяг свабоды» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. З 8.1.1954 г. цэнтр раёна Гродзенскай вобл., з 17.12.1956 г. у Карэліцкім р-не.

Планіровачная структура сучаснага пасёлка прамавугольная. Паводле генплана, распрацаванага ў 1971 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам па будаўніцтву ў вёсцы, вядуцца работы па яе ўдасканаленню. Новы генеральны план 1980 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) прадугледжвае лінейнае развіццё пасёлка ў паўночным напрамку, упарадкаванне існуючай забудовы і сістэмы культурна-бытавых аб'ектаў. Адміністрацыйна-грамадскі і гандлёвы цэнтр пасёлка гістарычна склаўся на цэнтральнай плошчы. Тут размешчаны будынкі пасялковага Савета, універмага, рэстарана, аддзялення сувязі, сталовай. Галоўная вул. Чырвонаармейская праходзіць праз цэнтр пасёлка і з'яўляецца часткай аўтамабільнай дарогі Мінск — Брэст.

У пасёлку працуюць маслазавод, хлебазавод, спіртзавод, птушкафабрыка, камбінат бытавога абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя і музычная школы, дзіцячыя яслі-сад, 2 бібліятэкі, Дом культуры, бальніца. Помнікі: на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан; абеліскі на 3 брацкіх магілах ахвяр фашызму. Захаваліся помнікі архітэктуры 16—19 ст.— Мірскі замак. Троіцкая царква, Мікалаеўскі касцёл.

Зона адпачынку — на берагах вадасховішча р. Міранка.

*Літ.:* Кравцевич А. К. Исследование позднесредневековых поселений городского типа.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.

*А. П. Грыцкевіч, С. Ф. Самбук, А. К. Краўцэвіч.*

**817. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская. Пахаваны 41 воін і 5 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

У ноч на 22.3.1944 г. партызаны брыгады імя Г. К. Жукава (камандзір Р. Л. Васілевіч, камісар А. З. Гайсараў) і брыгады «Камсамолец» (камандзір Р. М. Панявін, камісар А. І. Дзеяў) пад камандаваннем каман-



817. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

дзіра партызанскага злучэння Стаўбцоўскай зоны У. З. Царука разграмілі буйны варожы гарнізон у Міры. Ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пасёлак вызвалены 7.7.1944 г. часцямі 41-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту.

У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975. *М. В. Кірэйшын.*

**818. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Танкістаў, каля сярэдняй школы. Пахавана больш за 1600 савецкіх грамадзян, якіх у лістападзе 1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



818. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**819. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая. Пахавана каля 700 савецкіх грамадзян, якіх у лістападзе 1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**820. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад пасёлка ва ўрочышчы Яблонаўшчына. Пахаваны 750 жыхароў пасёлка, якіх у чэрвені 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**821. МІКАЛАЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На вул. Чырвонаармейскай. Пабудаваны ў 1599—1605 гг. з цэглы на месцы драўлянага (1587 г.), адноўлены ў 1710 г., у 1865 г. прыстасаваны пад царкву.

Трохнефавая аднавежавая базіліка. Цэнтральны неф з паўкруглым прэсбітэрыем раней быў завершаны на галоўным фасадзе вялікай квадратнай у плане чатырох'яруснай вежай абарончага характару з шатровым дахам (захаваўся 1-ы ярус). Ярусы вежы падзяляліся прафіляванымі карнізамі і былі аздоблены глыбокімі нішамі. Да бакавых нефаў на галоўным фасадзе прылягаюць круглыя ў плане вежачкі з вітымі ўсходамі, з боку алтарнай часткі — закругленыя ў плане сакрысціі. Бакавыя фасады прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэннем. Дзверы аздоблены мастацкай акоўкай. Унутраная прастора расчлянёна слупамі на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі.

Касцёл — помнік манументальнай архітэктуры з элементамі рэнесансу. *С. Ф. Самбук.*

**822. ПАЛАЦАВА-ЗАМКАВЫ КОМПЛЕКС** (архіт., гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка. Уключае замак, палац (захаваўся часткова), парк і капліцу-пахавальню. Пабудаваны ў пачатку 16 ст. з цэглы магнацкім родам Ільінічаў. З 1568 г. належаў Радзівілам, потым Вітгенштэйнам, Святаполк-Мірскім.

З а м а к блізкі ў плане да квадрата са стараной каля 75 м, па вуглах мае пяціпавярховыя вежы вышынёй 25—27 м, якія выходзяць за межы сцен. Пасярэдзіне заходняй сцяны — пятая, шасціпавярховая вежа з уязной брамай, перад якой былі падымальны мост і барбакан. У гэтай вежы размяшчалася герса, прыстасаваная для падвескі звана, на 2-м ярусе — капліца, у падзямеллі — турма. Вежы да $^1/_2$—$^1/_3$ вышыні маюць чатырохграннае сячэнне, вышэй — васьміграннае, накрыты шатрамі. Дэкаратыўнае вырашэнне заснавана на кантрасце чырвоных цагляных сцен і белых атынкаваных нішаў з разнастайнымі арачнымі завяршэннямі. Найбольш багата аздоблена паўднёва-заходняя вежа. Паміж сабою вежы злучаны тоўстымі сценамі (вышыня з падмуркам каля 13 м, таўшчыня ўнізе 3 м). Замак быў абкружаны землянымі валамі вышынёй каля 10 м і ровам з вадою. У двары да паўднёвай і ўсходняй сцен у сярэдзіне 16 ст. быў прыбудаваны палац — аднапавярховы корпус з скляпеністымі памяшканнямі і падваламі. Да 1616 г. надбудаваны яшчэ 2 паверхі ў стылі рэнесансу. Палац меў каля 40 пакояў, аздобленых лепкай. На працягу стагоддзяў замак шмат разоў асаджалі і штурмавалі. У выніку асад 1655, 1706, 1794, 1812 гг. значна разбураны. 27—28.6.1812 г. каля замка адбыўся бой паміж французскай кавалерыяй маршала Даву і ар'ергардам 2-й рускай арміі Баграціёна — казацкай конніцай М. І. Платава. Была ўзарвана паўночна-ўсходняя вежа, разбураны і спалены палац. З 1969 г. замак знаходзіцца ў стадыі кансервацыі і рэстаўрацыі.

Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі замка праводзілі ў 1912 г. Ю. Ядкоўскі, у 1972 г. М. А. Ткачоў, у 1980—84 гг. А. А. Трусаў (у 1982 г. разам з І. М. Чарняўскім). Замак пабудаваны на гліняна-пясчанай падсыпцы таўшчынёй 0,2—1 м. Раней тут было паселішча 2-й паловы 15 ст. Культурны пласт замчышча ад 0,2 м



821. *Мікалаеўскі касцёл. Від з боку апсіды.*



821. *Мікалаеўскі касцёл. План.*



**822.** *Палацава-замкавы комплекс. Схема планіроўкі: 1 — замак; 2 — капліца-пахавальня.*

каля валоў да 2 м каля сцен. У выніку раскопак устаноўлена, што з тэракотавай і зялёнай паліванай кафлі выкладваліся печы ў службовых памяшканнях і жытлах прыслугі, з паліхромнай кафлі — печы княжацкіх пакояў. Выкарыстоўвалі сцянныя, кутнія, гзымсавыя, паясковыя кафлі, кафлю-чарапіцу, а таксама кафлю-медальён. Знадворныя пласціны ўпрыгожваліся раслінным (васількі, гронкі вінаграду, ваза з кветкай, стылізаваныя расліны), геаметрычным (квадраты, ромбы), геральдычным (радзівілаўскі арол), рэлігійным (анёлы), заамарфным (ільвы, хімеры, рыбы) і сюжэтным (кампазіцыя з коннікам і анёлам) арнаментамі. Керамічныя вырабы прадстаўлены люлькамі, бытавым посудам (гаршкі, макотры, міскі, талеркі, рынкі, збаны, кубкі), будаўнічай керамікай (вялікапамерная цэгла, чарапіца з дэкаратыўным шыпам, плоская і хвалістая). Калекцыя шкляных вырабаў складаецца са шкляніц, квартаў, пляшак, келіхаў, чарак. Знойдзена вялікая колькасць металічных вырабаў: нажы, падковы, абутковыя падкоўкі, цвікі, спражкі, шпоры, відэльцы, ключы, замкі, манеты, фрагмент алавянага блюда з радавым знакам Радзівілаў, дзвярныя і аконныя завесы.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Музеі старажытнай беларускай культуры ІМЭФ АН БССР.

**822.** *Замак.*

Парк. Закладзены ў 17 ст. каля замка. Агульная плошча 16,2 га. Падзелены на 2 кампазіцыйныя часткі — ніжнюю і верхнюю. У ніжняй (паўднёвай) створаны штучны вадаём, вакол якога хваёвыя алеі, што аддзяляюць парк ад фруктовага саду. Верхняя (паўночная) частка выцягнута ўздоўж вадаёма — натуральны ландшафт са свабоднай пейзажнай планіроўкай, уключае замак, які гарманічна ўпісваецца ў кампазіцыю парку і з'яўляецца яго асноўным элементам. Галоўны прагулачны маршрут пачынаецца ад сцен замка, праходзіць цераз дамбу, па хваёвай алеі, па беразе вадаёма і падводзіць да палаца. Адсюль адкрываюцца перспектывы на замак, капліцу і парк. У паўночнай частцы 3 прагулачныя маршруты. Першы пракладзены па найбольш густой частцы масіву. З зацененай дарожкі праз пэўныя інтэрвалы адкрываюцца перспектывы на прыбярэжны луг, адзіночныя дрэвы, вадаём і процілеглы бераг. Другі перасякае выступы паркавага масіву, выходзіць на ўскраек і зноў вядзе ў глыб масіву. Трэці праходзіць па прыбярэжным лузе, з яго адкрываюцца перспектывы на замак, капліцу і палацавы фасад.



822. *Замак. Паўночна-заходняя і ўязная (справа) вежы.*



822. *Замак. Галоўны фасад.*



822. *Замак. Падоўжны разрэз.*

Асноўныя паркавыя насаджэнні сканцэнтраваны ў паўночнай зоне. Лісцевыя пароды дрэў растуць у масівах, хваёвыя — асобнымі купкамі. У парку шмат экзотаў: піхты Фразера і сібірская, лістоўніцы сібірская і еўрапейская, елкі Энгельмана і калючая, хвоі чорная і веймутава, кедр сібірскі, дугласія шэрая, дэйцыя цудоўная, чаромха Маака, дуб звычайны пірамідальны і інш.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

Капліца-пахавальня размешчана ў замкавым парку. Пабудавана з цэглы ў 1904 г. паводле праекта архіт. Р. Марфельда для князёў Святаполк-Мірскіх. Будынак — асіметрычны ў плане, кампактны вертыкальны аб'ём, завершаны ў паўночнай частцы пяціграннай апсідай, у паўднёвай — прытворам. Над бакавым уваходам, вылучаным спецыяльнай прыбудовай, узвышаецца вежа-званіца, пастаўленая асіметрычна адносна цэнтральнай восі. На галоўнай фасаднай плоскасці — маляўнічае мазаічнае пано з выявай Спаса. На фасадзе званіцы — цынкавы картуш з выявай фамільнага герба.



822. *Капліца-пахавальня.*

Капліца — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

Палацава-замкавы комплекс — унікальнае збудаванне беларускай архітэктуры, у якім адлюстраваны стылі готыкі і рэнесансу, сумяшчаюцца рысы абарончай і палацавай архітэктуры.

*Літ.:* Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Трусаў А. А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1980, № 4; яго ж. Археологическое изучение архитектурных памятников Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1982; яго ж. Работы архитектурно-археологической экспедиции.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.

*А. Я. Міцянін, С. Ф. Самбук, А. А. Трусаў, А. К. Краўцэвіч.*

**823. РАДЗІМА ІЛЬІНСКАГА** Аляксандра Канстанцінавіча (гіст.). Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР (1953 г.) А. К. Ільінскі нарадзіўся 20.10.1903 г. Член КПСС з 1945 г. У 1926 г. скончыў Беларускую драматычную студыю ў Маскве. Творчую дзейнасць пачаў у 1919 г. у Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі. Працаваў у Мінскім тэатры рэвалюцыйнай сатыры, Беларускім першым дзяржаўным тэатры, з 1926 г. у Беларускім другім тэатры (з снежня 1944 г. тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску), у 1941—46 гг. мастацкі кіраўнік гэтага тэатра. У Вялікую Айчынную вайну разам з калектывам тэатра ў г. Уральск, потым у г. Арэхава-Зуева.

А. К. Ільінскі — акцёр шырокага творчага дыяпазону. Яго мастацтва вызначалася яркім камедыйным талентам, народнасцю, глыбінёй нацыянальных фарбаў, высокай акцёрскай тэхнікай, жыццёвай праўдзівасцю. Валодаў майстэрствам сцэнічнай імправізацыі. Стварыў шэраг шматгранных, па-сапраўднаму народных вобразаў: Дзяменя, дзед Талаш («Вайна вайне», «У пушчах Палесся» Я. Коласа), Несцерка («Несцерка» В. Вольскага; Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г.), Харкевіч («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), дзяк Бацяноўскі («Навальніца будзе» паводле трылогіі Я. Коласа «На ростанях»), Пытляваны («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы), Гукан («Сэрца на далоні» паводле рамана І. Шамякіна) і інш. Шырока вядомы як выканаўца роляў класічнага рэпертуару: Рабінзон,

Аркашка Шчасліўцаў, Ахаў («Беспасажніца», «Лес», «Не ўсё кату масленіца» А. Астроўскага), Хлестакоў («Рэвізор» М. Гогаля), Печанегаў, Барон («Ворагі», «На дне» М. Горкага), Палоній і Першы далакоп («Гамлет» У. Шэкспіра) і інш. Ролі ў п'есах рускай савецкай драматургіі: Швандзя («Любоў Яравая» К. Транёва), Капітон Ягоравіч («Шануй бацьку свайго» В. Лаўрэнцьева), Фаюнін («Нашэсце» Л. Лявонава) і інш. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1955—63 гг. А. К. Ільінскі памёр 18.3. 1967 г. Яго імем названа вуліца ў Віцебску; на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка. Творчы шлях акцёра адлюстраваны ў дакументальным фільме «Жыццё на сцэне» («Беларусьфільм», 1966 г.).

*Літ.:* Скібнеўскі А. Народны артыст СССР А. К. Ільінскі.— Мн., 1954; Майстры беларускай сцэны.— Мн., 1960; Няфёд У. І. Гісторыя беларускага тэатра.— Мн., 1982. *У. У. Бянько.*



824. *Троіцкая царква. План.*

**824. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. 17 Верасня. Пабудавана ў 1533—50 гг. з цэглы, у 1865 г. пасля пажару перабудавана.

Пяцікупальны крыжападобны ў плане храм складаецца з асноўнага аб'ёму, паўкруглай алтарнай апсіды і прамавугольнага ў плане бабінца (прыбудаваны ў 1875 г.). У 1870-я гады над бабінцам надбудавана драўляная двух'ярусная званіца, накрытая васьмігранным шатром з галоўкай, і 5 несапраўдных купалоў над асноўным аб'ёмам. Плоскія паверхні сцен прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і люнетамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *С. Ф. Самбук.*

**825. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). У Міры з 15 ст. выраблялі гаршковую, потым місачную, з канца 16 ст. плоскую тэракотавую і паліваную кафлю з геральдычнымі знакамі, геаметрычным і раслінным арнаментам. Была наладжана вытворчасць бытавога керамічнага посуду, які вызначаўся простымі формамі, палівай зялёнага ці карычневага колераў. З сярэдзіны 20 ст. вырабы аздаблялі паясамі фляндроўкі. Цяпер у пасёлку вырабляюць чырвонагліняны паліваны посуд, аздоблены хвалістымі пяскамі, нанесенымі белай ці блакітнай глінай. Мірскі посуд экспануецца ў Дзяржаўным музеі БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. *Я. М. Сахута.*



826. *Міхайлаўская царква. План.*

**в. Міратычы, Райцаўскі сельсавет**

**826. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва.

Трохнефавы храм з пяціграннай апсідай. Рознавялікія зрубы аб'яднаны адзіным двухсхільным дахам з застрэшкамі ў месцах злучэння аб'ёмаў і вальмай над апсідай. Сцены вертыкальна ашаляваны. Галоўны фасад сіметрычнай кампазіцыі завершаны трохвугольным франтонам. Уваход вылучаны масіўнымі лучковымі дзвярамі, над якімі — аконны праём. Каля царквы каркасная двух'ярусная званіца з шатровым завяршэннем. Верхні ярус — адкрытая галерэя.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**827. ПОМНІК КОЛАСУ Якубу** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Бюст Я. Коласа ўстаноўлены ў 1967 г.



824. *Троіцкая царква.*



827. *Помнік Я. Коласу.*

**в. Мядзвядка, Жухавіцкі сельсавет**

**828. РАДЗІМА ДАМЕЙКІ** Ігната Іпалітавіча (гіст.).

Геолаг, натураліст, ганаровы член Польскай АН і многіх іншых еўрапейскіх АН І. І. Дамейка нарадзіўся 3.7.1802 г. (паводле іншых крыніц — 22.8.1802 г.). Паходзіў з малазаможнай шляхты. Скончыў (1816 г.) Шчучынскі калегіум, Віленскі універсітэт. Сябра А. Міцкевіча, разам з ім прыязджаў у Мядзвядку. А. Міцкевіч увасобіў І. І. Дамейку ў вобразе Жэготы (3-я частка паэмы «Дзяды»), а Мядзвядку ўвекавечыў у сцэне дуэлі Дамейкі і Давейкі (паэма «Пан Тадэвуш»). У 1823 г. арыштаваны як член нелегальнага таварыства філаматаў. Удзельнік паўстання 1830—31 гг. у Польшчы і на Беларусі, пасля яго разгрому інтэрніраваны прускімі ўладамі. У 1837 г. скончыў горнае вучылішча ў Парыжы. У 1838 г. пераехаў у Чылі, узначаліў у г. Какімба заснаваную ім школу хіміі і мінералогіі. З 1839 г. прафесар мінералогіі, геалогіі і фізікі ў Чылійскім універсітэце (Сант'яга). У 1839—40 гг. даследаваў Берагавыя Кардыльеры Андаў і Чылійска-Аргенцінскія Анды, пустыню Атакама і Араўканію. Зрабіў значны ўклад у вывучэнне мінералаў, стварыў багаты мінералагічны кабінет, дзе налічвалася больш за 6 тыс. узораў карысных выкапняў, садзейнічаў развіццю геалагічных навук у Чылі. Аўтар каля 130 навуковых прац па геалогіі, тэктоніцы, мінералогіі, гісторыі Араўканіі і іншых праблемах: «Араўканія і яе жыхары» (1845 г., віленскае выданне 1860 г.), «Элементы мінералогіі» (1845 г.), «Аб падняцці ўзбярэжжа Чылі» (1857 г.),



832. *Помнік землякам.*



834. *Сядзіба. Куток парку.*



834. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1— свіран; 2—7— іншыя гаспадарчыя пабудовы; 8— сучасныя пабудовы; 9— капліца-пахавальня.*

«Нарыс пра металаносныя радовішчы Чылі» (1876 г.) і інш. У 1884 г. наведаў радзіму, пасадзіў у Крошыне разам з А. Адынцом 2 дубкі і паклаў памятны камень. Памёр 23.1.1889 г. у Сант'яга. Яго імем названы хрыбет у Андах, рабочы пасёлак у Чылі, мінерал дамейкіт, выкапнёвы слімак, фіялка. У Чылі выдадзены пяцітомны збор яго прац, у Польшчы — трохтомныя мемуары «Мае падарожжы» (1962—63 г.).

*Літ.:* Грыцкевич В. П. Путешествия наших земляков.— Мн., 1968; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969. *А. І. Мальдзіс.*

**в. Новае Сяло, Ярэміцкі сельсавет**

**829. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 256 жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў час акупацыі р-на (1941—44 гг.). У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, жанчына з дзіцем на руках і стары.

**830. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны астанкі 75 мірных жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пагарэлка, Ярэміцкі сельсавет**

**831. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Пагор'е, Запольскі сельсавет**

**832. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 109 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Палужжа, Карэліцкі пасялковы Савет**

**833. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 159 жыхароў г. п. Карэлічы, вёсак Горныя Руткавічы, Новыя Руткавічы, Палужжа, Равіны, Савашы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлена стэла.

**пас. Першамайскі, Ярэміцкі сельсавет**

**834. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка. Сфарміравана ў канцы 19 — пачатку 20 стст.

Сядзібны комплекс уключаў парк, вадаём, двухпавярховы палац, пабудаваны накшталт абарончага замка (размяшчаўся на беразе ракі, не збярогся), капліцу-пахавальню, свіран, стайню і інш. гаспадарчыя пабудовы (уцалелі часткова). Трохпавярховы мураваны будынак свірана прамавугольнай у плане формы, накрыты невысокім паўвальмавым дахам. Сцены члянёны па гарызанталі паясамі. Аконныя праёмы невялікія, прамавугольныя, без ліштваў. Стайня пабудавана з цэглы, сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Франтон галоўнага фасада завершаны зубцамі і крапаваны плоскімі лапаткамі. Аконныя праёмы паўцыркульныя з ліштвамі. У дэкоры выкарыстаны элементы неаготыкі. Сядзібныя пабудовы абкружаны паркам пейзажнага тыпу. У афармленні курцін выкарыстаны пераважна мясцовыя пароды дрэў: таполя, ліпа, клён і інш. Галоўная алея абсаджана ліпамі. У парку размешчана капліца-пахавальня — невялікі прамавугольны ў плане напалову ўрыты ў зямлю склеп.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры з элементамі неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Плужыны, Райцаўскі сельсавет**

**835. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, у развілцы дарог на вёскі Валеўка

і Забердава. 13 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 3—5 м параслі кустамі і дрэвамі. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пясочная, Жухавіцкі сельсавет**

**836. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, злева ад шашы Карэлічы — Мір. На ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск і 2 стэлы.

**в. Радунь, Жухавіцкі сельсавет**

**837. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Райца, цэнтр сельсавета**

**838. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). На цэнтральнай вуліцы. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, на высокім цокалі. Дах вальмавы. Сцены атынкаваны, на другім паверсе крапаваны па вуглах пілястрамі. Аконныя праёмы прамавугольныя. 1-ы і 2-і паверхі будынка падзелены шырокім карнізам. Ад цокаля з боку тарцовай часткі складзеная з бутавага каменю шырокая сцяна з цаглянымі варотамі ў форме стральчатай аркі. Ад аркі ўверх вядзе мураваная лесвіца. Уваходы ў дом з 2 узроўняў ад бакавой сцяны. Інтэр'ер зменены.

Будынак — помнік жылой архітэктуры з рысамі рамантызму.

*А. Ю. Пятросава.*



838. *Жылы дом.*



838. *Жылы дом. План 1-га паверха.*



839. *Помнікі землякам і М. Ф. Гастэлу.*

**839. ПОМНІКІ ЗЕМЛЯКАМ І ГАСТЭЛУ** Мікалаю Францавічу (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, у парку.

У Вялікую Айчынную вайну 182 землякі загінулі на франтах, 6 — у партызанскай барацьбе супраць ворага, 35 жыхароў загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў час акупацыі. У 1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых устаноўлены 6 размешчаных франтальна на адной восі стэл. На іх імёны 223 загінуўшых. Перад стэламі за 13 м ад іх — помнік вядомаму савецкаму лётчыку, Герою Савецкага Саюза М. Ф. Гастэлу, імя якога прысвоена мясцоваму калгасу.

Помнік (бетон; вышыня 5 м) — прызматычнай формы звужаны ўнізе абеліск, на зрэзанай вяршыні якога ўстаноўлены бюст М. Ф. Гастэлы. Сродкамі пластыкі перададзены момант здзяйснення подзвігу, калі лётчык накіраваў свой самалёт у скопішча варожых танкаў і аўтамашын.

*М. В. Кірэйшын, Л. Г. Лапцэвіч.*

**840. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). У парку. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва. Цяпер у ім размешчана бальніца.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. З боку дваровага фасада пазней далучана вялікая прыбудова. Сцены атынкаваны і дэкарыраваны пілястрамі, прарэзаны вузкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр галоўнага паўднёва-ўсходняга фасада вылучаны чатырохкалонным порцікам. Унутраная планіроўка анфiладная, пры рэканструкцыі зменена.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**хутар Рудзьма, Ярэміцкі сельсавет**

**841. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 29 партызан брыгады імя Г. К. Жукава і 2 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Селішча, Малюшыцкі сельсавет**

**842. РАДЗІМА КАРАТЫНСКАГА** Вінцэся Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі і польскі пісьменнік і журналіст В. А. Каратынскі нарадзіўся 15.8.1831 г. Адукацыю набыў самастойна. Працаваў хатнім настаўнікам, сакратаром у паэта Ул. Сыракомлі. Друкаваўся з 1856 г. З 1857 г. супрацоўнік газеты «Kurier Wileński» («Віленскі кур'ер») і часопіса «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»).



840. *Сядзібны дом.*



840. *Сядзібны дом. План.*



841. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

З 1866 г. жыў у Варшаве. Друкаваў артыкулы са звесткамі пра Беларусь у розных перыядычных выданнях. Аўтар беларускіх вершаў «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела», «У альбом А. Вярыгі-Дарэўскага», элегіі «Туга на чужой старане». Зборнік беларускіх твораў В. А. Каратынскага, які ён рыхтаваў да выдання разам з беларускімі творамі У. Сыракомлі, не збярогся. У літаратуры выказваецца меркаванне, што В. А. Каратынскі быў аўтарам беларускай «Гутаркі старога дзеда». Дэмакратычныя погляды В. А. Каратынскага найбольш выявіліся ў польскіх творах пра жыццё беларускай вёскі — у вершаваным зборніку «Чым хата багата, тым рада» (1857 г.), паэме «Таміла» (1858 г.). Даследаваў жыццё і творчасць А. Міцкевіча і С. Рыпінскага. Выдаў 10-томны збор твораў У. Сыракомлі (1872 г.). Выступаў за рэалістычнае мастацтва, супраць тэорыі «мастацтва для мастацтва». Памёр у Варшаве 7.2.1891 г.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969.
*А. І. Мальдзіс.*

**в. Сёгда, Райцаўскі сельсавет**

**843. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Замак, на ўзвышшы. Пляцоўка авальная, памерам 53×25 м, узвышаецца над поймай р. Сэрвач на 27 м. З паўночнага ўсходу захаваліся рэшткі вала вышынёй 2,5 м, з поўдня — вал вышынёй каля 2 м. Усходні край пляцоўкі мае прыступку, якая размешчана на 5 м ніжэй пляцоўкі гарадзішча. Заходні і паўночны схілы — стромкія (да 45°), астатнія пакатыя. Адкрыла ў 1957 г. Ф. Д. Гурэвіч, даследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,45 м прасочаны каля асновы гарадзішча з усходняга боку. Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, абломкі таўстасценнага дрэнна абпаленага посуду з дамешкай жарствы, а таксама рэшткі танкасценнага посуду з арнаментам у выглядзе чакана, фрагменты мініяцюрных ляпных гаршкоў з дамешкай пяску ў цесце. Ганчарны посуд добра апрацаваны. Абломкі жоўта-чырвоных танкасценных гаршкоў з нязначнай дамешкай жарствы і слюды. Венчык даволі рэзка адагнуты, месцамі мае жалабок з унутранага боку. Кераміка арнаментавана лініяй і вастраграднай хваляй. Арнамент выціснуты пальцам. Гарадзішча належала балта-славянскаму насельніцтву, датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э. і 12—13 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*У. Дз. Будзько.*

**в. Сімакава, Мірскі пасялковы Савет**

**844. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**в. Сіняўская Слабада, Ярэміцкі сельсавет**

**845. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 18 воінаў і 56 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — лётчыкі 22-га гвардзейскага Севастопальскага авіяцыйнага палка далёкага дзеяння.

У ліпені 1943 г. партызаны брыгады імя Г. К. Жукава (камандзір С. С. Ключко, камісар В. С. Самусевіч) і асобна дзейны кавалерыйскі атрад Дз. А. Дзенісенкі вялі жорсткія баі супраць гітлераўцаў. Галоўныя сілы партызан вымушаны былі адысці ў напрамку Турэц — Сіняўская Слабада. Каля в. Сіняўская Слабада пры пераправе цераз Нёман партызаны пад камандаваннем М. Трубілкі і кавалерыйскі атрад на чале з Дз. А. Дзенісенкам амаль суткі стрымлівалі націск ворага.

У 1952 г. на брацкіх могілках пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии, 1941—1944.— Мн., 1970.
*М. В. Кірэйшын.*

**в. Скорычы, Ярэміцкі сельсавет**

**846. РАДЗІМА МІЛЮЦЯ Алеся** (гіст.). Беларускі паэт А. Мілюць (Аляксандр Макаравіч) нарадзіўся 23.9.1908 г. у сялянскай сям'і. Адукацыю набыў самастойна. З 1928 г. друкаваўся ў прагрэсіўных заходнебеларускіх газетах і часопісах. У сваіх вершах апяваў прыгажосць роднага краю, паказваў бяспраўнае становішча сялян Заходняй Беларусі, заклікаў да грамадзянскай актыўнасці. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР паэт услаўляў сацыялістычныя пераўтварэнні. У Вялікую Айчынную вайну ў Чырвонай Арміі. Загінуў 26.10.1944 г. у Усходняй Прусіі. Асобныя вершы паэта змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949 г.), «Сцягі і паходні» (1965 г.), «Крывёю сэрца» (1967 г.).

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*М. В. Кірэйшын.*



845. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Скрышава, Райцаўскі сельсавет**

**847. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на ўзгорку. 3 насыпы вышынёй да 2 м, дыяметрам каля 8—10 м. Курганы пашкоджаны. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сэрвач, Малюшыцкі сельсавет**

**848. КАПЛІЦА** (архіт.). За 1,5 км ад вёскі, каля дарогі на в. Кайшоўка. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Аднапавярховы мураваны будынак цэнтрычнай кампазіцыі. План капліцы — правільны васьміграннік, у якім сіметрычныя глухія грані чаргуюцца з стральчатымі аконнымі праёмамі ў ліштвах (дах не захаваўся). З заходняга боку да капліцы прымыкае



848. *Капліца і склеп-пахавальня. Планы.*

склеп-пахавальня. Прастора склепа зальная, шасцігранная. Пахаванні размешчаны ў 2 ярусы ў 3 сценах залы. Перакрыцце бетоннае на металічных бэльках.

Капліца — помнік архітэктуры з элементамі неаготыкі.

*А. Ю. Пятросава.*

**в. Тударава, Паланаеўскі сельсавет**

**849. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 94 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**850. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Турэц, цэнтр сельсавета**

**851. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На плошчы ў цэнтры вёскі. Пахаваны 33 воіны 41-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 7.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 33 партызаны 1-й Украінскай партызанскай дывізіі імя С. А. Каўпака і партызанскай брыгады імя ЦК КП(б)Б. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з барэльефнымі выявамі воінаў, партызан і імёнамі 32 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

*М. В. Кірэйшын.*

**852. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны рускія воіны, якія загінулі ў 1914—18 гг. у 1-ю сусветную вайну. У 1937 г. на могілках на сродкі інвалідаў 1-й сусветнай вайны пастаўлены абеліск.

**853. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 463 мірныя жыхары, якіх у кастрычніку 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**854. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1888 г. з бутавага каменю і цэглы.



851. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Трохнефавы крыжова-купальны храм з квадратнай апсідай і высокай двух'яруснай званіцай. Шатровы дах асноўнага аб'ёму завершаны купалам на шасцігранным барабане, званіца — цыбулепадобнай галоўкай. Аконныя праёмы вузкія, паўцыркульныя, з ліштвамі. Вуглавыя часткі асноўнага аб'ёму, бабінца і апсіды вылучаны плоскімі лапаткамі. Першы ярус званіцы дэкарыраваны аркатурным поясам. Атынкаваныя ліштвы, лапаткі



854. *Пакроўская царква. Фрагмент бакавога фасада.*



854. *Пакроўская царква. Від з боку апсіды.*



859. *Помнік на брацкай магіле рэвалюцыянераў-падпольшчыкаў.*

кантрастна вылучаюцца на фоне бутавай муроўкі. У інтэр'еры бабінец раскрываецца ў цэнтральны неф арачным праёмам. У алтарнай частцы — пазалочаны іканастас.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

*А. Ю. Пятросава.*

**855. ПОМНІК ЧАРНЯХОЎСКАМУ** Івану Данілавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка Дома культуры. Бюст савецкага военачальніка, двойчы Героя Савецкага Саюза І. Д. Чарняхоўскага ўстаноўлены ў 1969 г.

**856. РАДЗІМА ДЗЕРКАЧА** Анатоля (гіст.).

Беларускі савецкі паэт-сатырык А. Дзяркач (сапраўднае імя Анатоль Рыгоравіч Зіміёнка, псеўданім Дзядок Тарас) нарадзіўся 6.4. 1887 г. у сям'і фельчара. Скончыў Навагрудскае гарадское вучылішча ў 1904 г. Служыў пісарам у гарадской і земскай управах. За ўдзел у рэвалюцыйным руху праследаваўся царскімі ўладамі. Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у рэдакцыях газет «Беларуская вёска», «Піянер Беларусі», рэдагаваў сатырычна-гумарыстычны часопіс «Дубинка» (1924 г., дадатак да газеты «Звязда»). Першыя вершы на рускай мове надрукаваў у 1904 г. у перыядычных выданнях. Аўтар зборнікаў сатырычных і гумарыстычных вершаў «Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў» (1925 г.), «Усім патроху», «Качаргой па абразах», «Бог удвох» (усе 1930 г.), паэмы «Міколава гаспадарка» (1927 г.) і кніг для дзецей «Нашы прыяцелі», «Першы дзень у дзіцячым садзе», «Працавітая дзяўчына» (усе 1928 г.), «Звяры нашых лясоў» (1929 г.), кнігі «Акупацыя і інтэрвенцыя ў Беларусі» (М., 1932 г.). Пісаў А. Дзяркач у простай апавядальнай манеры, шырока выкарыстоўваў фальклор. Высмейваў мяшчанства, рэлігійны дурман. Творы пісьменніка выразнай агітацыйнай накіраванасці. У кніжках для дзяцей услаўляў прыгажосць роднага краю. Пераклаў на беларускую мову творы А. Барто, Дз. Беднага, С. Маршака, У. Маякоўскага, К. Чукоўскага. Памёр А. Дзяркач у 1937 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981; Ватацы Н. Б. Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі (1917—1960): Бібліяграфія асобных выданняў.— Мн., 1962.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Церабостынь, Жухавіцкі сельсавет**

**857. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Цырын, цэнтр сельсавета**

**858. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 24 воіны 41-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 6 партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Ярэмічы, цэнтр сельсавета**

**859. БРАЦКАЯ МАГІЛА РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАЎ - ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 15 маладых рэвалюцыянераў-падпольшчыкаў, якіх 20.5.1920 г. расстралялі польскія акупанты. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.



860. *Капліца.*



862б. *Крамянёвыя прылады працы з паселішча-2.*

**860. КАПЛІЦА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Ярэмічы — Турэц. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Цэнтрычнае, квадратнае ў плане збудаванне на нізкім бутавым цокалі завершана шатровым дахам з цыбулепадобнай макаўкай. Грані капліцы раскрапаваны арачнымі нішамі з броўкамі, квадратнымі філёнгамі, прафіліроўкай з лякальнай цэглы. Карніз і фрыз выкананы фігурнай муроўкай. На галоўным фасадзе арачная глыбокая ніша, перакрытая цыліндрычным скляпеннем.

Капліца — помнік архітэктуры малых форм.

*А. М. Кулагін.*

**861. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе Нёмана. Пахаваны 97 мірных жыхароў, якіх 4.11.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**862. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**862а.** Паселішча-1. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Грудкі, на поймённай дзюне левага берага Нёмана. Пляцоўка памерам 140×80 м. Выявіў у 1962 г. і даследаваў у 1965 г. М. М. Чарняўскі. У раскопе плошчай 28 м² прасочаны культурны пласт да 0,7 м. Знойдзены крамянёвыя пласціны з рэтушшу, скрабкі, нажы, нуклеусы, рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да нёманскай культуры эпохі неаліту і бронзавага веку, датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

**862б.** Паселішча-2. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Быстрыца. Адкрыў і даследаваў у 1973 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце 0,5 м знойдзены крамянёвыя нуклеусы, скрабкі, адшчэпы, нажападобныя пласціны, сякерападобныя прылады працы, рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да нёманскай эпохі неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чернявский М. М. Основные итоги изучения неолита западных областей Белоруссии.— У кн.: Проблемы общественных наук. Экономика, история, культура. Мн., 1973. *М. М. Чарняўскі.*

**863. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай тэрыторыі Карэліцкага р-на дзейнічалі партызанскія брыгады «Камсамолец», Першамайская, 1-я Беларуская кавалерыйская, 1-я Баранавіцкая, «25 гадоў БССР» і імя Г. К. Жукава.

Брыгада «Камсамолец» створана ў снежні 1943 г. на базе атрадаў імя М. І. Калініна, «Сокал», 1-га і 2-га Камсамольскіх, вылучаных партызанскай брыгадай імя Г. К. Жукава. Камандзіры брыгады І. К. Кузняцоў (да лютага 1944 г.), Р. М. Панявін (люты — ліпень 1944 г.), камісар — А. І. Дзееў. Партызаны брыгады ў студзені 1944 г. падарвалі на чыгуначных участках Баранавічы — Ліда і Ліда — Маладзечна 5 варожых эшалонаў з ваеннымі грузамі, знішчылі мост каля в. Агароднікі, разграмілі паліцэйскі гарнізон у в. Загор'е Мірскага р-на, разам з партызанскай брыгадай імя Г. К. Жукава разграмілі варожы гарнізон у г. п. Мір. Ажыццяўлялі дыверсіі на шашэйных і грунтавых дарогах. 10.7.1944 г. брыгада (558 партызан, атрады імя М. І. Калініна, 1-ы камсамольскі, 2-і камсамольскі, «Сокал») злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

Партызанская брыгада Першамайская створана ў маі 1943 г. на базе атрадаў «Грознага», І. В. Маркава, «Стралкова», «Золатава», імя 1 Мая, імя Р. І. Катоўскага, імя А. В. Суворава. Камандзір Н. Г. Кавалёў, камісары А. І. Дзееў (май — лістапад 1943 г.), М. І. Ільініч (з лістапада 1943 г. па ліпень 1944 г.). Партызаны ажыццяўлялі дыверсіі на чыгуначных



863. *Помнік у гонар партызан.*



864. *Помнік У. З. Царуку.*

участках Баранавічы — Ліда, Ліда — Ваўкавыск, Баранавічы — Ваўкавыск. У верасні — кастрычніку 1943 г. зрабілі 57 дыверсій, падарвалі некалькі варожых эшалонаў, знішчылі масты на чыгуначным участку Дварэц — Выгада і каля станцыі Дамашэвічы, 2 масты на р. Уша каля в. Вялікія Жухавічы. На чыгуначным участку Баранавічы — Наваельня падарвалі больш за 900 рэек, у чэрвені 1944 г. паміж станцыямі Нёман і Яцукі — каля 600 рэек. Правялі шэраг баёў па знішчэнню варожых гарнізонаў і супраць карных экспедыцый гітлераўцаў. У кастрычніку 1943 г. разграмілі варожы абоз і знішчылі 34 аўтамашыны. 10.7.1944 г. брыгада (627 партызан, атрады імя 1-га Мая, «Кастрычнік», імя А. А. Жданава, імя Якуба Коласа) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

1-я Беларуская кавалерыйская брыгада вызначана ў жніўні 1944 г. 15.5. 1942 г. у р-не ўтворана партызанская група пад камандаваннем Дз. А. Дзенісенкі, якая ўлілася ў атрад імя В. І. Чапаева, пазней вылучылася ў асобную адзінку, дзейнічала разам з атрадам імя В. П. Чкалава. У жніўні 1942 г. група папоўнілася і аформілася ў атрад, з мая 1943 г.— кавалерыйскі атрад, з красавіка 1944 — кавалерыйскі дывізіён (да жніўня 1944 г.). Камандзір брыгады Дз. А. Дзенісенка, камісар У. А. Грачанічэнка. Партызаны вялі баі па разгрому варожых апорных пунктаў, гарнізонаў і паліцэйскіх участкаў. 2—3.7. 1944 г. разам з партызанамі брыгад імя А. В. Суворава і «25 гадоў БССР» вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх войск на паўднёвай ускраіне Налібоцкай пушчы, утрымлівалі пераправу цераз р. Нёман. 10.7.1944 г. брыгада (530 партызан, 1-ы і 2-і кавалерыйскія эскадроны і кулямётна-артылерыйскае падраздзяленне) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

1-я Баранавіцкая партызанская брыгада створана ў лістападзе 1943 г. на базе атрадаў «Бясстрашны», імя М. В. Фрунзе, «Арол», імя В. М. Молатава. Камандзір брыгады С. Ф. Бубін, камісар М. Ц. Цыцерын. Партызаны зрывалі перавозкі ворага на чыгуначных участках Полацк — Даўгаўпілс, Ліда — Маладзечна, Баранавічы — Ліда, Мінск — Стоўбцы і шашэйных дарогах Ліда — Баранавічы, Навагрудак — Любча і інш. У лютым — сакавіку 1944 г. вялі баі з карнікамі, 1—8.7.1944 г.— на дарогах, па якіх вораг адступаў. 8.7.1944 г. брыгада (458 партызан, атрады «Бясстрашны», імя М. Ф. Фрунзе, імя В. М. Молатава, імя І. В. Сталіна) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

Брыгада «25 гадоў БССР» створана ў снежні 1943 г. на базе атрадаў «Грозны», імя Р. І. Катоўскага, імя С. М. Будзённага, вылучаных партызанскай брыгадай Першамайскай. Адначасова арганізаваны атрад «25 гадоў БССР». Камандзір Б. А. Мічурын, камісар П. І. Смірноў. Партызаны вялі баі па разгрому варожых гарнізонаў, апорных пунктаў, паліцэйскіх участкаў. У студзені 1944 г. на чыгуначным участку Баранавічы — Ліда падарвалі 8, а ў чэрвені 10 варожых эшалонаў, 4 масты і 315 рэек. У маі 1944 г. удзельнічалі ў прарыве варожага акружэння, разам з часцямі Чырвонай Арміі — у вызваленні в. Дварэц Дзятлаўскага р-на. 10.7. 1944 г. брыгада (811 партызан, атрады «Грозны», імя Р. І. Катоўскага, імя С. М. Будзённага, «25 гадоў БССР») злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

Брыгада імя Г. К. Жукава створана ў сакавіку 1943 г. на базе атрадаў «Камсамолец» (пазней 1-ы камсамольскі), імя М. А. Сарокіна (пазней А. В. Суворава), «Франтавікоў» (пазней імя К. К. Ракасоўскага) і групы Д. П. Шапкевіча («Данілы»). Камандзіры брыгады С. С. Ключко (да жніўня 1943 г.), М. Ц. Маскалёў (жнівень — снежань 1943 г.), Р. Л. Васілевіч (студзень — ліпень 1944 г.), камісары В. С. Самусевіч (да ліпеня 1943 г.), У. З. Царук (жнівень 1943 г.— верасень 1943 г.), А. З. Гайсараў (кастрычнік 1943 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Ліда — Маладзечна, Мінск — Баранавічы. Вясной і летам 1943 г. правялі 10 баёў, разграмілі варожыя гарнізоны ў в. Ярэмічы Мірскага р-на і в. Дудкі Стаўбцоўскага р-на. У кастрычніку — лістападзе 1943 г. падарвалі 3 эшалоны і 180 рэек. У лютым 1944 г. падарвалі 9

15 Зак. 744

эшалонаў праціўніка, мост, пашкодзілі механічныя майстэрні ў дэпо станцыі Мінск. У сакавіку 1944 г. разам з брыгадай «Камсамолец» разграмілі варожы гарнізон у г. п. Мір. У чэрвені — ліпені 1944 г. разбурылі пераправу цераз р. Сула, у баях захапілі 5 аўтамашын, кулямёт, 100 вінтовак, абоз, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне» на чыгуначным участку Негарэлае — Коласава. 10.7.1944 г. брыгада (732 партызаны, атрады імя А. В. Суворава, імя М. М. Воранава, імя К. К. Ракасоўскага, «25 гадоў ВЛКСМ» і «Мсцівец») злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1979 г. у гонар партызан пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82. *М. В. Кірэйшын.*



865. *Царква Ушэсця.*

**864. ПОМНІК ЦАРУКУ** Уладзіміру Зянонавічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Бюст Героя Савецкага Саюза У. З. Царука ўстаноўлены ў 1979 г. Гл. таксама артыкул № 781 «Радзіма Царука Уладзіміра Зянонавіча».

**865. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з каменю і цэглы. Крыжова-купальны аднаапсідны храм. Цэнтральны квадратны ў плане аб'ём накрыты шатровым чатырохсхільным дахам, завершаным шлемападобным купалам на шасцерыку. Бабінец значна выступае за межы асноўнага аб'ёму, вылучаны лучковым уваходным праёмам. Фасады дэкарыраваны аркатурнымі паясамі, крыжамі, карнізам, па вуглах крапаваны плоскімі лапаткамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*




# ЛІДСКІ РАЁН

Крыніцы
Дварышча
Гуды
Бердаўка
Крупава
Дуброўня
ЛІДА
Першамайскі
Дзітва
Гарні
Еткі
Мыто
Далекія
Ваверка
Мінойты
Тарнова
Дакудава
Паперня
Радзівонішкі
Дзітрыкі
Ганчары
Гасцілаўцы
Бярозаўка
Ігнаткаўцы
Голдава
Табала
Сялец
Беліца
Лайкаўшчына
Ходараўцы
Заброеўцы
Збляны
Вангі
Пескаўцы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецнага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

## XV. ЛІДА

Горад, цэнтр раёна, на р. Лідзея (басейн Нёмана). За 112 км на паўночны ўсход ад Гродна. Вузел чыгуначных і аўтамабільных дарог на Гродна, Вільнюс, Маладзечна, Баранавічы.

Упершыню ўпамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», складзеным паміж 1387 і 1406 гг. Узнікла як невялікі гандлёва-рамесны пункт каля замка. Уваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае. З 1560-х гадоў цэнтр павета Віленскага ваяводства. У 1587 г. атрымала магдэбургскае права. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. горад быў разрабаваны і спустошаны шляхецкімі войскамі. У Паўночную вайну 1700—21 гг. абрабаваны і часткова спалены (1702 г.) шведскімі войскамі. Тады ж былі ўзарваны замкавыя вежы. У 18 ст. на рыначнай плошчы была пабудавана ратуша. У 2-й палове 18 ст. у Лідзе 1,5 тыс. жыхароў. У 1735 г. адкрыта піярская школа. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) Ліда ў складзе Расійскай імперыі, павятовы цэнтр Слонімскай, з 1796 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У 1837 г.— 1366 жыхароў, 324 дамы, у 1864 г.— 4087 жыхароў, 3 гарбарні, 2 майстэрні па вырабу свечак, 189 рамеснікаў, шпіталь, павятовая школа. Горад пачаў хутка расці ў канцы 19 ст. у сувязі з будаўніцтвам Палескіх чыгунак. У 1884 г. была здадзена ў эксплуатацыю лінія Вільня — Лунінец, у 1907 г.— Маладзечна — Масты. Ліда стала чыгуначным вузлом. Паводле перапісу 1897 г. у горадзе 8626 жыхароў (з іх 47,2 % непісьменных), працавалі піва-медаварны, гарэлачны і цагельны заводы, тытунёвая фабрыка. У 1904 г. было 1000 жылых дамоў (з іх 275 мураваных), 14 дробных прадпрыемстваў (400 рабочых), 170 рамесных майстэрняў (пераважна гарбарных, 204 рамеснікі), 4 бальніцы на 115 ложкаў, 6 ніжэйшых навучальных устаноў (700 вучняў). У 1904 г. у Лідзе створана арганізацыя РСДРП. У 1911 г.— 14 837 жыхароў. Выдавалася газета «Лидское слово» (1912—13 гг.).

З верасня 1915 г. да 5.1.1919 г. горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У канцы 1918 г. тут узнікла падпольная бальшавіцкая арганізацыя. 29.12.1918 г. яна стварыла рэўком. 5.1.1919 г. Ліда вызвалена Чырвонай Арміяй, устаноўлена Савецкая ўлада. З 17.4.1919 г. да 17.7.1920 г. акупіравана польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З канца 1939 г. у складзе БССР, з 15 студзеня 1940 г. раённы цэнтр у Баранавіцкай вобл. З 27.6.1941 г. да 9.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі Лідскае камуністычнае падполле (з снежня 1941 г. да ліпеня 1944 г.), Лідскі міжрайпартцэнтр (25.4—19.12.43 г.), падпольныя гаркомы-райкомы КП(б)Б (верасень 1943 г.— 7.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.7.1943 г.— 7.7.1944 г.). З верасня 1944 г. Ліда ў складзе Гродзенскай вобл.

Спачатку горад фарміраваўся вакол замка і меў драўляную забудову. У сярэдзіне 18 ст. пастаўлены мураваны будынак калегіума. У 1-й палове 19 ст. галоўнымі акцэнтамі забудовы горада з'яўляліся замак, Крыжаўзвіжанскі (фарны) касцёл (18 ст.), кляштар кармелітаў (не захаваўся), ратуша (не захавалася) і



**XV.** *Ліда ў пачатку 19 ст. З акварэлі Ю. Пешкі.*



**XV.** *Будынак гасцініцы «Ліда».*



XV. *Забудова плошчы Леніна.*

Іосіфаўскі касцёл піяраў. У 1826 і 1843 гг. значная частка забудовы знішчана пажарамі. З сярэдзіны 19 ст. будаваліся 1—2-павярховыя мурававыя дамы, багата арнаментаваныя фігурнай муроўкай.

Паводле генпланаў 1955, 1963, 1974 гг. (апошні распрацаваны Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва) вызначаны прамысловая і жылая зоны горада, удасканалена рэгулярная сетка вуліц. Цэнтр размешчаны па вул. Савецкай і перпендыкулярных да яе вуліцах Ленінскай, Кірава, Міцкевіча. Тут будынкі райкома КПБ, Дома культуры, 2 бібліятэк, рэстарана, магазінаў. На вул. Савецкай утвораны 2 плошчы. Галоўная — плошча Леніна (былая рыначная) — размешчана ў цэнтральнай частцы вуліцы. Тут пастаўлены помнік У. І. Леніну, узведзены будынкі гаркома КПБ, кінатэатра «Кастрычнік», 5-павярховыя жылыя дамы. На плошчы 600-годдзя горада (у пач. вуліцы, перад замкам) шматпавярховы будынак гасцініцы «Ліда», касцёл, 5-павярховыя жылыя дамы. Новы грамадскі цэнтр фарміруецца на вул. Перамогі (на участку ад вул. Ленінскай да вул. Кірава). Ва ўсходняй частцы горада створаны мікрараён Расплякі з 5—9-павярховых жылых дамоў, шматпавярховая жылая забудова таксама ў мікрараёнах ў цэнтральнай (Касманаўтаў), паўночнай (Індустрыяльны) частках горада; на паўднёвым захадзе ствараецца мікрараён Слабадскі.

Прамысловыя прадпрыемствы сканцэнтраваны ў паўночнай, усходняй і паўднёва-заходняй частках горада. Працуюць: заводы сельскагаспадарчых машын імя 60-годдзя БССР, электравырабаў, аўтарамонтны, жалезабетонных вырабаў, лакафарбавы, харчовых канцэнтратаў, піваварны, абутковая фабрыка імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка, камбінат будаўнічых матэрыялаў, вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, малочна-кансервавы камбінат, мясакамбінат, камбінат хлебапрадуктаў, хлебакамбінат, ЦЭЦ, метэастанцыя. У горадзе індустрыяльны тэхнікум, музычнае вучылішча, 2 сярэднія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 14 агульнаадукацыйных школ усіх відаў, 4 дзіцяча-юнацкія спартыўныя і музычная школы, 31 дашкольная ўстанова, Палац піянераў і школьнікаў, планетарый, 19 масавых бібліятэк, 3 кінатэатры, 5 Дамоў культуры, стадыён, плавальны басейн, 2 турбазы, краязнаўчы музей, філіял Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобл., 5 бальнічных, 6 урачэбных амбулаторна-паліклінічных устаноў (у т. л. 3 дыспансеры), станцыі хуткай медыцынскай дапамогі, пералівання крыві, санітарна-эпідэміялагічная, Дом санітарнай асветы, 3 аптэкі. Выдаецца газета «Уперад».

Помнікі: У. І. Леніну; у гонар вызвалення Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; героям Грамадзянскай вайны; Курган Бессмяротнасці. Зберагліся помнікі архітэктуры — замак (14 ст.), Крыжаўзвіжанскі касцёл (18 ст. і інш.). Зона адпачынку — 3 паркі, сквер, берагі р. Лідзея.

*Літ.:* Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (б. м., б. г.); Грыцкевіч А. П. Калі заснавана Ліда? — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 3; Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3. Baliński M. Wielkie Księztwo Litewskie.— Warszawa, 1846; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 5.— Warszawa, 1884.

*У. В. Алісейчык, А. П. Грыцкевіч.*




XV. *Вуліца Міцкевіча.*



XV. *Будынак піваварнага завода.*



869. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызана.*

**866. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны 40 падпольшчыкаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — актыўныя ўдзельнікі Лідскага камуністычнага падполля П. А. Авяр'янаў, М. В. Валіцкая, А. Г. Качан, Г. П. Качан, А. А. Клімко, З. Ф. і Л. Ф. Кудачовы, М. К. Наказных, расстраляныя гітлераўцамі 3.7.1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. артыкул № 895 «Помнік падпольшчыкам». *Г. І. Дулеба.*



870. *Дом № 3 па вуліцы Камсамольскай.*



870. *План 1-га паверха дома № 3 па вуліцы Камсамольскай.*

**867. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Міцкевіча, у гарадскім парку культуры і адпачынку. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — камандзір 86-га кавалерыйскага палка 32-й Смаленскай Чырванасцяжнай кавалерыйскай дывізіі гвардыі падпалкоўнік А. Ф. Труханаў, які загінуў у баі 8.7.1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1985 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла і 7 мемарыяльных пліт з прозвішчамі загінуўшых.

**868. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Вул. Кірава, на тэрыторыі раённай бальніцы. Пахаваны воіны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у чэрвені — ліпені 1941 г., і мірныя жыхары, якія загінулі ў першыя дні вайны пры бамбардзіроўцы горада варожай авіяцыяй. У 1956 г. на магіле пастаўлена стэла.

**869. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны 74 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Ліды і Лідскага р-на. У 1967 г. устаноўлены надмагільныя пліты з імёнамі загінуўшых.

**870. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ КАМСАМОЛЬСКАЙ** (архіт.). Адна з старажытных вуліц горада, сярод забудовы якой захаваліся 3 дамы (№ 3, 4, 6) пачатку 20 ст.

Дом № 3. На скрыжаванні вуліц Камсамольскай і Замкавай. Пабудаваны з цэглы як жылы. Размяшчэнне дома абумовіла складаную канфігурацыю яго плана — шматграннік са скругленым вуглом. Двухпавярховы аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Фасады маюць плоскаснае вырашэнне, пазбаўлены дэкору. Планіроўка зменена. Дом — помнік жыллёвай архітэктуры з рысамі канструктывізму. Цяпер тут адміністрацыйныя ўстановы.

Дом № 4. Пабудаваны з цэглы як жылы. Размешчаны адасоблена. Двухпавярховы, вырашаны ў выглядзе кампактнага аб'ёму з двухсхільным чарапічным дахам. Галоўны фасад шырокім поясам падзелены на 2 ярусы. Ідэнтычна вырашаны і дваровы фасад. Тарцы будынка завершаны шчытамі. Цяпер тут адміністрацыйныя ўстановы.



870. *План 1-га паверха дома № 6 па вуліцы Камсамольскай.*



870. *Дом № 4 па вуліцы Камсамольскай.*



870. *План 1-га паверха дома № 4 па вуліцы Камсамольскай.*



870. *Дом № 6 па вуліцы Камсамольскай.*

Дом № 6. Насупраць замкавай сцяны. Пабудаваны з цэглы. Размешчаны адасоблена. Двухпавярховы аб'ём блізкі ў плане да прамавугольніка, накрыты вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага фасада — лоджыя, дзе размешчаны двухкалонны порцік. Паміж калонамі выступае балкон з ажурнай кованай агароджай. Сцены будынка завершаны карнізам, у сярэдзіне якога трохвугольны франтон порціка. Тарцовыя фасады завершаны шчытамі. Кожны паверх дома папярочнай сцяной і лесвічнай клеткай падзелены на 4 кватэры.

Фрагмент жылой забудовы па вул. Камсамольскай — помнік горадабудаўніцтва, у якім увасоблены асноўныя мастацка-стылявыя напрамкі пачатку 20 ст.
*А. М. Кулагін.*

**871. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт.). Сярод сучаснай забудовы вуліцы зберагліся жылыя дамы № 23, 26, 31, 32, узведзеныя ў першыя дзесяцігоддзі 20 ст.

Дом № 23. Пабудаваны з цэглы. Размешчаны адасоблена. Прамавугольны ў плане кампактны двухпавярховы аб'ём пад двухсхільным дахам. Архітэктурны дэкор на галоўным фасадзе выкананы сродкамі мастацкай цаглянай муроўкі. На рызалітах выступаюць шырокія балконы з фігурнай жалезнай агароджай. Завяршае будынак карніз складанага арнаментальнага малюнка. Дэкаратыўна апрацаваны тарцовыя трохвугольныя шчыты.

Дом № 26. Размешчаны насупраць дома № 23 і складае з ім адзіны па архітэктуры фрагмент жылой забудовы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём завершаны пакатым вальмавым дахам. Сіметрыя галоўнага фасада падкрэслена 2 рызалітамі. Лучковыя і прамавугольныя аконныя праёмы, размешчаныя ў нішах, дэкарыраваны замковым каменем. Завяршальны карніз вырашаны ў выглядзе рытмічнага рада павялічаных і стылізаваных дэнтыкул, выкладзеных з цэглы.

Дом № 31. Пабудаваны з цэглы. Размешчаны адасоблена. П-падобны ў плане аднапавярховы аб'ём вылучаны высокім мансардавым дахам. Галоўны фасад мае сіметрычна-восевую кампазіцыю, якая падкрэслена бакавымі двухкалоннымі порцікамі. Цэнтральны ўваход фланкіраваны пілястрамі. Сіметрыя фасада падкрэслена прамавугольнымі аконнымі праёмамі. З боку дваровага фасада — паўкруглая тэраса, фланкіраваная бакавымі крыламі дома. Цяпер тут адміністрацыйныя ўстановы.

Дом № 32. Пабудаваны з цэглы. Размешчаны як асабняк. Т-падобны ў плане трохпавярховы аб'ём. На галоўным фасадзе выступае лесвічная клетка. Архітэктура будынка заснавана на рытме геаметрычна правільных плоскасцей, квадратных аконных праёмаў, стужак балконных агароджаў. На дваровым фасадзе выступае лесвічная клетка з уваходам у склеп.

Фрагмент жылой забудовы па вул. Савецкай — помнік горадабудаўніцтва, у якім увасобілася мастацка-стылявая разнастайнасць архітэктуры першых дзесяцігоддзяў 20 ст.
*А. М. Кулагін.*

**872. ІОСІФАЎСКІ КАСЦЁЛ ПІЯРАЎ** (архіт.). Вул. Савецкая, 20. Пабудаваны ў 1797—1824 гг. з цэглы. У 1842 г. гарэў, у 1863 г. перароблены на праваслаўную царкву (Міхаіла Архангела). Цяпер тут планетарый.

Храм-ратонда накрыты паўсферычным купалам з васьміграннымі ліхтаром. Да асноўнага круглага ў плане аб'ёму прылягаюць больш нізкія прамавугольныя ў плане аб'ёмы; па восі ўсход — захад — прытвор з чатырохкалонным порцікам на галоўным фасадзе і двухпавярховыя сакрысціі, з поўдня і поўначы — невялікія рызаліты. У афармленні фасадаў і інтэр'ера выкарыстаны дарычны ордэр. Порцік і рызаліты ўвенчаны трохвугольнымі франтонамі. Вокны прамавугольныя. Унутры па перыметры за-



871. *Дом № 23 па вуліцы Савецкай.*



871. *План 1-га паверха дома № 23 па вуліцы Савецкай.*



871. *План 1-га паверха дома № 26 па вуліцы Савецкай.*



871. *Дом № 31 па вуліцы Савецкай.*



871. *План дома № 31 па вуліцы Савецкай.*



872. *Будынак былога Іосіфаўскага касцёла піяраў.*



872. *Будынак былога Іосіфаўскага касцёла піяраў. План.*

лы размешчаны 8 пар дарычных калон. Па папярочнай восі храма — бакавыя ўваходныя парталы. Сцены апяразвае спрошчаны антаблемент. Столь размалявана ў тэхніцы грызайль з імітацыяй кесонаў і разетак.

Касцёл — помнік архітэктуры сталага класіцызму. *У. В. Алісейчык.*



873. *Крыжаўзвіжанскі касцёл.*



873. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. План.*



873. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. Інтэр'ер.*

**873. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). Вул. Савецкая, 2. Пабудаваны ў 1765—70 гг. з цэглы.

Касцёл Т-падобны ў плане, трохнефавы, з прамавугольнай алтарнай часткай, якая прадаўжае цэнтральны неф, і 2 квадратнымі ў плане сакрысціямі. Будынак завершаны высокім двухсхільным чарапічным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Кампазіцыя галоўнага фасада двух'ярусная, завершана фігурным франтонам. Плоскасці галоўнага і бакавых фасадаў расчлянёны пілястрамі. Цэнтральны неф касцёла перакрыты разам з алтарнай часткай цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — цыліндрычнымі на падпружных арках. Сакрысціі перакрыты плоскай столлю на падугах. Над уваходам — хоры. Інтэр'ер упрыгожаны фрэскавай размалёўкай, скульптурай і арнаментальнай лепкай, выкананай ў стылі сталага барока. У інтэр'еры касцёла — 3 мураваныя алтары: цэнтральны (галоўны) і 2 бакавыя. Цэнтральны раскрапаваны 4 калонамі карынфскага ордэра, размаляванымі пад мармур, і спаранымі пілястрамі таго ж ордэра. Антаблемент з моцнымі раскрапоўкамі і развітым карнізам.

Касцёл — помнік архітэктуры барока.

*У. В. Алісейчык, В. В. Герашчатава.*

**874. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада, у парку. Насыпаны ў 1966 г. на ўшанаванне памяці воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і мірных жыхароў Ліды і раёна, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На Курган прывезена зямля з брацкіх магіл савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў, з магіл ахвяр фашызму, якія знаходзяцца на тэрыторыі Ліды і раёна, з Гродна, з гарадоў-герояў Адэсы, Кіева, Ленінграда, Масквы, Мінска, Севастопаля, Брэсцкай крэпасці-героя, з Літвы і Латвіі і многіх іншых месцаў баявой славы савецкага народа. Каля Кургана — магіла невядомага салдата, астанкі якога перазахаваны 9.5.1967 г. Каля падножжа Кургана замуравана капсула з завяшчаннем нашчадкам, якая будзе ўскрыта 9.5.1995 г. у дзень 50-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй. У 1975 г. вакол Кургана пастаўлена 5 мемарыяльных стэл.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*Г. І. Дулеба.*



873. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. Фрагмент скляпенняў.*

**875. МАГІЛА КОСАЧАВА** Уладзіміра Паўлавіча (гіст.). Вул. Камуністычная, на могілках.

Герой Савецкага Саюза У. П. Косачаў нарадзіўся 3.7.1906 г. у г. Пенза ў сям'і рабочых. Член КПСС з 1931 г. У Чырвонай Арміі з 1924 г. Скончыў Ульянаўскую пяхотную школу ў 1925 г., Кіеўскую артылерыйскую школу ў 1928 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 22.6.1941 г. Камандзір 28-й асобнай процітанкавай артылерыйскай брыгады 1-га Украінскага фронту падпалкоўнік У. П. Косачаў вызначыўся ў 1943 г. на Украіне пры фарсіраванні Дняпра. Брыгада на чале з У. П. Косачавым знішчыла шмат танкаў і агнявых кропак праціўніка, што забяспечыла паспяховае наступленне пяхоты на поўнач ад Кіева. У час баёў У. П. Косачаў умела камандаваў брыгадай, сваёй мужнасцю і адвагай натхняў воінаў на подзвігі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 9.2.1944 г. З 1955 г. жыў і працаваў у Лідзе. Памёр 25.5.1975 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**876. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, каля чыгуначнага пераезда. Воін загінуў у ліпені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**877. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, старшыні ВЧК, актыўнага ўдзельніка польскага і рускага рэвалюцыйнага руху Ф. Э. Дзяржынскага, які 27.7. 1920 г. праездам на Заходні фронт наведаў г. Ліда. Ф. Э. Дзяржынскі гутарыў з чыгуначнікамі, рабочымі і служачымі горада па пытаннях знешняй і ўнутранай палітыкі савецкага ўрада.

*Літ.:* Хацкевіч А. Ф. Солдат вели-

кіх боёв: Жизнь и деятельность Ф. Э. Дзержинского.— 3 изд.— Мн., 1970.
*Г. І. Дулеба.*

**878. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАСТРАМІНОЙ** Марыі Іванаўне **І КЛІМКО** Аляксандру Аляксандравічу (гіст.). Вул. Паўліка Марозава, 17, на будынку сярэдняй школы № 10. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці актыўных удзельнікаў Лідскага камуністычнага падполля — піянерважатай М. І. Кастраміной і былога вучня школы А. А. Клімко, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943—44 гг.

**879. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КЛІМКО** Аляксандру Аляксандравічу (гіст.). Вул. Карла Маркса, 26. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Лідскага камуністычнага падполля.

А. А. Клімко нарадзіўся ў 1925 г. у сям'і служачых. Член ВЛКСМ. У 1941 г. вучыўся ў чыгуначным вучылішчы ў Беластоку. У Вялікую Айчынную вайну са снежня 1941 г. яго дом быў явачнай кватэрай Лідскага камуністычнага падполля. Падпольшчыкі па радыё прымалі зводкі Саўінфармбюро, пісалі лістоўкі і распаўсюджвалі іх сярод насельніцтва, здабывалі для партызан зброю, боепрыпасы, разведданыя аб ворагу. А. А. Клімко арганізаваў і асабіста ўдзельнічаў у дыверсіях на чыгуначным вузле. Разам з А. Г. Качаном і Л. Ф. Халевінскім спалілі вагоннае дэпо, узарвалі бронецягнік. У маі 1944 г. А. А. Клімко быў схоплены гітлераўцамі і 3.7.1944 г. расстраляны. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Гл. артыкул № 895 «Помнік падпольшчыкам».

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*Г. І. Дулеба.*

**880. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Кірава, 18. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку сярэдняй школы № 1, дзе вучыліся актыўныя ўдзельніцы Лідскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну Марыя Іванаўна Кастраміна, Матрона Канстанцінаўна Наказных і Ганна Віктараўна Суворава.

М. І. Кастраміна нарадзілася 25.3.1923 г. у г. п. Леў Талстой Ліпецкай вобл. у сям'і чыгуначніка. Член ВЛКСМ. З снежня 1941 г. падпольшчыца, з сакавіка 1943 г. партызанка атрада імя Варашылава брыгады імя Кірава Лідскага партызанскага злучэння. Загінула ў баі летам 1943 г. Пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

М. К. Наказных нарадзілася 17.8.1923 г. у сяле Чарнігаўка Архарынскага р-на Амурскай вобл. у сям'і чыгуначніка. Член ВЛКСМ. Удзельніца Лідскага камуністычнага падполля з снежня 1941 г. У маі 1944 г. арыштавана гітлераўцамі. Расстраляна 3.7.1944 г. Пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

Г. В. Суворава нарадзілася ў 1922 г. у г. Ліда ў сям'і рабочых. Удзельніца Лідскага камуністычнага падполля з снежня 1941 г. Закатавана гітлераўцамі ў сакавіку 1944 г.

Падпольшчыцы распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, збіралі для партызан зброю і боепрыпасы, разведданыя аб ворагу, удзельнічалі ў дыверсіях.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Ампилов В., Смирнов В. В маленьком городе Лиде...— М., 1962.
*Г. І. Дулеба.*

**881. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ ГАРАДСКОГА АДДЗЕЛА КДБ БССР** (гіст.). Вул. 7 Лістапада, 1. Устаноўлена ў 1975 г. на будынку Лідскага гарадскога аддзела Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў І. М. Наскова і А. Е. Стралкоўскага, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў.

**882. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Перамогі, 36. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 11 супрацоўнікаў Лідскага раённага аддзела ўнутраных спраў, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну і пры выкананні службовых абавязкаў.

**883. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАЎЛАЮ** Валянціну Паўлавічу (гіст.). Вул. Камсамольская, 5. Устаноўлена ў 1965 г. на доме, дзе жыў ён у 1939—41 гг.

Беларускі савецкі паэт, удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі В. П. Таўлай (літаратурныя псеўданімы Янка Дванаццаты, Паўлюк Сірата, В. Тарскі, партыйныя — Васіль, Канстанцін, Якімчык) нарадзіўся 8.2.1914 г. у г. Баранавічы. У 1921—24 гг. вучыўся ў Лідскай пачатковай школе, з 1927 г.— у Віленскай беларускай гімназіі. У гэты час выдадзена яго паэма «Непераможныя». У 1929 г. за ўдзел у вучнёўскіх хваляваннях выключаны з гімназіі. З 1929 г. член Слонімскага падпольнага райкома камсамола, сакратар Азярніцкага падраёна. У жніўні 1929 г. арыштаваны. У кастрычніку 1930 г. камуністычным падполлем накіраваны ў БССР, дзе працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», вучыўся ў БДУ. У 1932 г. адкліканы ЦК КПЗБ у Заходнюю Беларусь. З снежня 1932 г. член КПЗБ, член Цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ (Варшава), потым супрацоўнік легальнага неафіцыйнага органа КПЗБ «Беларуская газета» (Вільня), прадстаўнік ЦК КПЗБ у цэнтры падпольнага вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Адзін з арганізатараў (снежань 1933 г., Вільня) Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. У пачатку 1934 г. зноў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы, пазбаўлены волі на 8 гадоў. У верасні 1939 г. вызвалены з гродзенскай турмы Чырвонай Арміяй. Супрацоўнік лідскай раённай газеты «Уперад» (1939—41 гг.). У Вя-



874. *Курган Бессмяротнасці.*

лікую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі. У 1944—45 гг. адказны сакратар навагрудскай раённай газеты «Звязда», у 1945—47 гг. старшы навуковы супрацоўнік і намеснік дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы. Памёр 27.4.1947 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

В. Таўлай — паэт гераічнай тэмы. Яго паэзія вызначаецца высокай грамадзянскасцю, рэвалюцыйным гуманізмам, прасякнута духоўнай еднасцю з народам, яго лёсам (паэма «Таварыш», вершы «Ліст з турмы», «Таварышу маёй вясны» і інш.). У вершах, паэмах даў рэалістычную карціну мужнай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне з БССР. Нарысы «Катоўцы», «Марыя Гурына» і інш. прысвечаны лёсу таварышаў па партызанскай барацьбе, іх нязломнай мужнасці. Аўтар літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў «Янка Брыль» і «Янка Купала і Заходняя Беларусь» (1945 г.), «Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве» (1949 г.). Перакладаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча, І. Крылова і інш. Выдадзены кнігі: «Выбранае» (1947 г.), «Выбраныя творы» (1951 г.), «Вершы і паэмы» (1955 г.), «Творы» (1961 г.), «Выбраныя вершы і паэмы» (1967 г.).

Імем В. П. Таўлая названа вуліца ў Лідзе, яго імя прысвоена бібліятэкам у Баранавічах і Лідзе.

*Літ.:* Арочка М. Валянцін Таўлай: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1969; Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн., 1966; У суровыя гады падполля.— Мн., 1958; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.

*Г. І. Дулеба.*

**884. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР КАМУНІСТЫЧНАГА СУБОТНІКА** (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1967 г. у памяць аб першым камуністычным суботніку.

17.7.1920 г. Чырвоная Армія вызваліла г. Ліду ад войск буржуазнай Польшчы. Лідскі рэўком арганізаваў на чыгуначнай станцыі камуністычны суботнік, у якім удзельнічалі 920 чалавек, у т. л. 213 камуністаў. Удзельнікі суботніка — чыгуначнікі, рабочыя прадпрыемстваў, чырвонаармейцы расчысцілі ад завалаў больш за 50 тыс. м² чыгуначнага палатна.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*Г. І. Дулеба.*

**885. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ ЛІДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Створана ў 1904 г. Уваходзіла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП, у Паўночна-Заходні саюз РСДРП, з вясны 1906 г. у абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі, з восені 1905 г. адначасова ў Віленскую акруговую арганізацыю РСДРП. Вяла прапаганду і агітацыю сярод рабочых і сялян. Распаўсюджвала марксісцкую літаратуру, лістоўкі і пракламацыі. У студзені 1905 г. арганізавала стачку пратэсту рабочых Ліды супраць расстрэлу 9.1.1905 г. царскімі войскамі рабочых Пецярбурга, выступленне ў падтрымку Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г., якое прайшло пад заклікамі: «Далоў царскае самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!». Летам 1906 г. мела 30 прапагандыстаў, што вялі рэвалюцыйную работу ў Воранаве, Ганцавічах, Жалудку, Шчучыне і інш. гарадах. Арганізацыя стварала гурткі, кіравала выступленнямі сялян і парабкаў. На шклозаводзе «Нёман» у Бярозаўцы арганізавала прафсаюзную арганізацыю, якая аб'ядноўвала 100 чалавек (чэрвень 1906 г.). Арганізацыя падтрымлівала сувязь з Смаргонскай і некаторымі інш. арганізацыямі РСДРП. Для работы сярод салдат мела ваенна-рэвалюцыйную групу. Лідская арганізацыя РСДРП разгромлена пасля правалу (чэрвень 1906 г.) 3-й канферэнцыі Віленскай акруговай арганізацыі РСДРП, дзе ў час вобыску знойдзены яе справаздачы.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973.

*Г. І. Дулеба.*

**886. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ РАБОЧЫХ** (гіст.). Вул. Фабрычная, 6.

У 1930-я гады, калі многія гарады Заходняй Беларусі былі ахоплены рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам, якім кіравала КПЗБ, фабрыка «Ардаль» таксама з'яўлялася месцам рэвалюцыйных выступленняў. У 1932 г. тут арганізавана прайшла забастоўка супраць спробы адміністрацыі зменшыць зарплату, звольніць рэвалюцыйна настроеных рабочых і наняць штрэйкбрэхераў. У канцы снежня 1935 г. забастоўка пачалася зноў. Яна працягвалася больш за 3 месяцы, была адным з буйнейшых выступленняў рабочых Заходняй Беларусі. Штуршком для выступлення з'явілася звальненне адміністрацыяй 70 рабочых — пераважна тых, хто ўзначальваў прафсаюз ці актыўна ўдзельнічаў у яго рабоце. У знак салідарнасці са звольненымі 800 рабочых фабрыкі 30.12.1935 г. аб'явілі забастоўку. Яны патрабавалі павысіць заработную плату на 25 %, вярнуць на работу звольненых. Забастоўка суправаджалася бурнымі мітынгамі і дэманстрацыямі. Фабрыкант наняў штрэйкбрэхераў і з дапамогай паліцыі імкнуўся правесці іх на фабрыку. Паліцыя пусціла ў ход дубінкі, збівала і разганяла забастоўшчыкаў. Нягледзячы на рэпрэсіі, рабочыя прадаўжалі баставаць. Іх актыўна падтрымалі рабочыя фабрык і заводаў Ліды, Гродна, Беластока і іншых гарадоў Заходняй Беларусі. Яны збіралі грошы і прадукты для бастуючых. 27.2.1936 г. пад кіраўніцтвам Лідскага гаркома КПЗБ у Лідзе была праведзена аднадзённая агульнагарадская забастоўка салідарнасці з бастуючымі фабрыкі. Яна ахапіла ўсе прадпрыемствы і майстэрні горада. На мітынгу ў кінатэатры «Эра» гучалі лозунгі: «Далоў фашысцкі ўрад!», «Няхай жыве рэвалюцыя ў Іспаніі!». Выступаючыя прапанавалі стварыць адзіны фронт працоўных для барацьбы супраць фашызму. Непахіснасць бастуючых і шырокая салідарнасць з імі працоўных Заходняй Беларусі і Польшчы прымусілі прадпрыемцаў пайсці на ўступкі. Была павышана заработная плата, адноўлены на рабоце звольненыя, прызнана паўнамоцнай прафсаюзная арганізацыя рабочых фабрыкі.

*Літ.:* Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 2.— Мн., 1972; Лида: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1980.

*Г. І. Дулеба.*

**887. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад горада, на ўскраіне лесу. Пахаваны 5670 мірных жыхароў Ліды, якіх 8.5.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск і мемарыяльная пліта.

**888. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, каля завода сельскагаспадарчых машын. На ўшанаванне памяці жыхароў г. Ліда і раёна, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну і з ворагамі Савецкай улады ў пасляваенныя гады, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**889. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Ігнатава, на тэрыторыі лакафарбавага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**890. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**891. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Міцкевіча, у гарадскім парку культуры і адпачынку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1956 г.



888. *Помнік землякам.*



891. *Помнік У. І. Леніну на вуліцы Міцкевіча.*

892. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Мічурына, каля аўтарамонтнага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.
893. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля завода сельскагаспадарчых машын. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.
894. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы каля чыгуначнай станцыі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.
895. **ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад горада, на ўскраіне лесу.

Лідскае камуністычнае падполле дзейнічала з снежня 1941 г. да ліпеня 1944 г. Арганізатары і кіраўнікі М. М. Ігнатаў і А. А. Клімко. 35 падпольшчыкаў уваходзілі ў 4 групы: на чыгуначнай станцыі (кіраўнікі М. М. Ігнатаў і А. А. Клімко), на электрастанцыі чыгуначнага вузла (У. І. Пятроўскі), у авіярамонтных майстэрнях (М. Г. Мурын), у нямецкім ваенным шпіталі (Г. А. Марціросаў); 15 чалавек дзейнічалі самастойна. Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, рабілі дыверсіі; спалілі цэх авіямайстэрняў, сапсавалі рухавік дынамамашыны, падарвалі электрастанцыю, знішчылі некалькі аўтамашын, недабраякасна рамантавалі паравозы. Арганізавалі ўцёкі з турмы савецкіх патрыётаў і ваеннапалонных і дапамаглі ім пераправіцца да партызан. Наладзіўшы сувязь з партызанскімі атрадамі «Іскра», «Балтыец», імя К. Я. Варашылава, перапраўлялі ім зброю, медыкаменты, друкарскі шрыфт, перадавалі звесткі аб ворагу. У барацьбе загінулі Л. А. і П. А. Авяр'янавы, Р. М. Астрэйка, П. І. Булгакава, М. В.Валіцкая, А. В. Драздова, М. М. Ігнатаў, А. Г. і Г. П. Качан, А. А. і А. С. Клімко, Л. Крыжаноўская, З. Ф. і Л. Ф. Кудачовы, М. Г. Мурын, М. К. Наказных, Г. В. Суворава, К. М. Федарук, Л. Ф. Халявінскі, А. П. Чарнаскутаў.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў і ў гонар іх баявых дзеянняў пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Ампилов В., Смирнов В. В маленьком городе Лиде...— М., 1962.

*Г. І. Дылеба.*

896. **ПОМНІК РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ ЛІДСКАЙ АБУТКОВАЙ ФАБРЫКІ** (гіст.). На вул. Фабрычнай, у скверы, каля Палаца культуры абутковай фабрыкі. На ўшанаванне памяці 32 рабочых і служачых, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлена стэла.
897. **ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На вул. Ігнатава, каля лакафарбавага завода.

9.7.1944 г. воіны 5-й гвардзейскай імя Р. І. Катоўскага, 6-й гвардзейскай імя А. Я. Пархоменкі, 32-й Смаленскай кавалерыйскіх дывізій 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса пры падтрымцы 1-й паветранай арміі вызвалілі Ліду ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў, якія загінулі пры вызваленні горада, у 1967 г. пастаўлены помнік — гармата.
898. **ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы.

Умацаванню г. Ліда, вузла абароны на Гродзенскім напрамку, гітлераўцы надавалі важнае значэнне, стварылі на подступах да яго ўмацаваны раён, узвялі абарончыя збудаванні ў горадзе.

8.7.1944 г. 5-я гвардзейская кавалерыйская імя Р. І. Катоўскага дывізія (камандзір генерал-маёр М. С. Чапуркін), 6-я гвардзейская кавалерыйская імя А. Я. Пархоменкі (камандзір генерал-маёр П. П. Брыкель), 32-я Смаленская кавалерыйская дывізія (камандзір генерал-маёр І. П. Калюжны) 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса (камандзір генерал-лейтэнант М. С. Аслікоўскі), часці авіяцыі 1-й паветранай арміі (камандуючы генерал-палкоўнік авіяцыі Ц. Ц. Хрукін) 3-га Беларускага фронту пачалі штурм абарончых рубяжоў праціўніка. 9 ліпеня горад быў вызвалены. Часцям і злучэнням (17-ы, 23-і гвардзейскія, 86-ы кавалерыйскія палкі і 307-я штурмавая авіядывізія), якія вызначыліся пры вызваленні горада, было прысвоена ганаровае найменне «Лідскіх».



895. *Помнік падпольшчыкам.*



897. *Помнік савецкім воінам.*

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Баранавіцкай вобл. дзейнічалі партызанскія атрады і брыгады. На працягу красавіка — мая 1943 г. Лідскі міжрайпартцэнтр аб'яднаў асобныя атрады імя В. П. Чкалава, імя Аляксандра Неўскага, імя В. М. Молатава, імя Ленінскага камсамола, «Арол», «Рошча» (пазней «Беларускі мсціўец»), імя М. В. Фрунзе, імя Р. І. Катоўскага і «Бальшавік» у партызанскае злучэнне Лідскай зоны (тэрыторыя Лідскага, Юрацішкаўскага, Радунскага, Воранаўскага, Навагрудскага, Любчанскага, Іўеўскага р-наў). У верасні 1943 — красавіку 1944 гг. у складзе злучэння былі створаны брыгады імя Ленінскага камсамола (у снежні 1943 г. увайшла ў злучэнне Шчучынскай зоны), 1-я Баранавіцкая, «Уперад» і імя Аляксандра Неўскага. У снежні 1943 г. злучэнню Лідскай зоны перададзена са злучэння Шчучынскай зоны брыгада імя С. М. Кірава. На базе атрадаў, якія былі выдзелены брыгадай імя І. В. Сталіна партызанскага злучэння Іўянецкай зоны, створаны брыгады Ф. Э. Дзяржынскага (кастрычнік 1943 г.) і імя В. І. Чапаева (снежань



898. *Помнік савецкім воінам-вызваліцелям і партызанам.*

1943 г.). Апрача гэтага на тэрыторыі Лідскай зоны дзейнічалі асобныя брыгада «Няўлоўныя», атрад «Слаўны» і сямейны атрад імя М. І. Калініна. Камандзір злучэння член Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б Я. Д. Гапееў. З красавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. народныя мсціўцы злучэння знішчылі каля 8 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 128 гарнізонаў, управ, заводаў, складаў праціўніка, пусцілі пад адхон 210 варожых эшалонаў, падарвалі каля 8 тыс. рэек. 6—11 ліпеня 1944 г. партызанскае злучэнне Лідскай зоны ў складзе 6 брыгад і асобнага сямейнага атрада (4200 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У гонар воінаў-вызваліцеляў і баявых дзеянняў партызан Лідскага злучэння ў 1965 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* В приёманских лесах.— Мн., 1975; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Г. І. Дулеба.*

**899. ПОМНІК ЧЫРВОНААРМЕЙЦАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада, у парку.

У канцы верасня 1920 г. войскі буржуазнай Польшчы занялі Ліду, адрэзалі шляхі адступлення часцям 3-й арміі. У сувязі з гэтым камандаванне арміі дало заданне 37-му стралковаму палку авалодаць Лідай і даць магчымасць выйсці з акружэння часцям Чырвонай Арміі. Полк на чале з У. В. Лупавым 28 верасня выбіў праціўніка з горада і ўтрымліваў яго да адыходу часцей 3-й арміі. Воіны палка мужна змагаліся з намнога большымі сіламі ворага. У няроўным баі смерцю герояў загінулі каля 180 чырвонаармейцаў. За гераізм і мужнасць, праяўленыя ў баях з ворагамі Савецкай дзяржавы, загадам Рэўваенсавета рэспублікі ад 17.2.1921 г. 37-ы стралковы полк узнагароджаны ганаровым Чырвоным Сцягам.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці воінаў 37-га стралковага палка пастаўлены помнік: стэла і кулямёт.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**900. РЭШТКІ ЗАМКА** (архіт., гіст.). На вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1330-я гады з бутавага каменю і цэглы. Уваходзіў у лінію крапасных умацаванняў Навагрудак — Крэва — Мядзінінкай — Тракай. Пастаўлены на насыпным пясчаным узгорку (вышыня 5—6 м), быў абкружаны балоцістымі берагамі рэк Лідзея і Каменка і ровам з поўначы (шырыня каля 20 м), які злучаў рэкі і аддзяляў замак ад горада. Пазней (відаць, у 16—17 стагоддзях) у сістэму перадзамкавых умацаванняў з усходу ўключана штучнае возера. Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік (бакі каля 80 м) з 2 вуглавымі вежамі.

Асноўнае абарончае значэнне мелі пастаўленыя на невысокім падмурку (70—80 см) сцены таўшчынёй унізе 2 м, зверху 1,5 м, вышынёй да 15 м. Верхняя частка сцен з баявой галерэяй і байніцамі (3,3 м адна ад аднОй) змуравана з цэглы. Вонкавыя паверхні сцен — з вялікіх валуноў, прамежкі паміж імі запоўнены каменнымі клінамі, забутоўка з дробных камянёў, муроўка арміравана драўлянымі бэлькамі. Адначасова са сценамі ў 1-й палове 14 ст. пабудавана квадратная ў плане (9×9 м) паўднёва-заходняя вежа. Паўночна-ўсходняя вежа, зробленая ў канцы 14 — пачатку 15 ст., мела арачны ўваход з боку двара і лесвіцу шырынёй 1 м. Вежы накрыты шатровымі дахамі і не выступаюць за перыметр сцен. У замак вялі 3 уваходы: 2 ва ўсходняй і 1 у паўднёвай сценах. На тэрыторыі замка знаходзіліся праваслаўная царква (у 1533 г. перанесена ў горад), жылыя і гаспадарчыя пабудовы, з 1568 г. суд, архіў, турма. Жылыя памяшканні былі на верхніх паверхах вежаў.



899. *Помнік чырвонаармейцам.*

Замак неаднойчы быў у аблозе. У 1384 г. пасля штурму яго ўзялі крыжакі і часткова разбурылі. У 1392 г. атрады нямецкіх і англійскіх рыцараў і войскі іх саюзніка князя Вітаўта падышлі да лідскіх сцен, аблажылі замак. Яго гарнізон адступіў да Навагрудка. У 1394 г. англійскія і французскія рыцары зноў напалі на Ліду. Жыхары горада абаранілі замак. 5.4.1406 г. каля сцен Ліды з'явіліся атрады смаленскага князя Юрыя Святаславіча, што ішоў вызваляць з няволі сваю сям'ю, якую годам раней паланіў вялікі князь літоўскі Вітаўт, калі захапіў Смаленск. Пасля некалькіх марных штурмаў смаляне знялі аблогу. З 1434 г. да 1443 г. замак быў прытулкам для хана-выгнанніка — Даўлет Хаджы-Гірэя. У 1506 г. да сцен замка дайшлі загоны крымскіх татар, аднак штурмаваць яго не рызыкнулі.



900. *Замак. Агульны выгляд.*

У час войнаў паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай 30-тысячнае рускае войска ўлетку 1659 г. узяло замак штурмам. У Паўночную вайну 1700—21 гг. Лідскі замак стратэгічнага значэння не меў. Паступова разбураўся. Збергліся рэшткі абарончых сцен і вежаў (у 1-й чвэрці 20 ст. зроблена частковая кансервацыя, у 1982 г.— поўная). Праводзяцца работы па рэстаўрацыі сцен і вежаў (архіт. С. Багласаў, 1977 г.).

Замак — помнік абарончага дойлідства.

*Літ.:* Багласов С. Г., Трусов О. А. Историко-архитектурные исследования и реставрация Лидского замка.— У кн.: Lietuvos TSR architektūros klausimai. Vilnius, 1981, t. 7 (2); Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978, с. 28—34; Трусаў А. А. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Лідскага замка.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1979, № 4. *С. Г. Багласаў. А. А. Трусаў, М. А. Ткачоў.*

**в. Бабры,**

**Голдаўскі сельсавет**

**901. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1810 г. з дрэва.



**900.** *Замак. Фрагмент унутранай галерэі.*



**900.** *Замак. План.*

Кампазіцыя царквы складалася з прамавугольных у плане аб'ёмаў бабінца, асноўнай залы, алтарнай часткі з прыдзеламі. У 1880 г. над бабінцам надбудавана званіца, пры ўваходзе зроблены тамбур. Асноўны аб'ём і алтарная частка накрыты вальмавым дахам. Чацверыковы ярус званіцы завяршае шацёр з цыбулепадобнай галоўкай. Бабінец, асноўны аб'ём і алтарная частка аб'яднаны агульным карнізам. Сцены вертыкальна ашаляваны; на цокальнай частцы будынка імітаваны руст, характэрны для мураванай архітэктуры класіцызму. Памяшканні царквы звязаны паміж сабой арачнымі праёмамі. У апсідзе маляўнічая размалёўка (пейзаж).

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**в. Белагруда, Тарноўскі сельсавет**

**902. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У паўночна-заходняй частцы вёскі, на ўзвышшы. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Трохнефавая двухвежавая базіліка шматаб'ёмнай прасторавай кампазіцыі. Яе вертыкальнымі дамінантамі з'яўляюцца 2 двух'ярусныя вежы з шатровымі завяршэннямі. Да асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, далучаны больш нізкія прыбудовы трансепта, пяціграннай алтарнай часткі, бакавых сакрысціяў. На галоўным фасадзе ўваход вылучаны высокім парталам, акном-ружай, галерэяй. Цаглянай муроўкай выканаы элементы архітэктурнага дэкору: лапаткі, аркатурныя фрызы, ліштвы адзіночных і здвоеных арачных аконных праёмаў, профілі і раскрапоўкі. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі з падпружнымі аркамі і люнетамі, упрыгожанымі фрэскавай арнаментальнай размалёўкай. У завяршэнні нефа — манументальны шматкалонны алтар, над уваходам — арганныя хоры.



**901.** *Крыжаўзвіжанская царква.*



**901.** *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**903. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Дзітва. Плошча 0,8 га. Адкрыла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у



**902.** *Міхайлаўскі касцёл.*



**902.** *Міхайлаўскі касцёл. Галоўны алтар.*

1973 г. А. Р. Мітрафанаў. У культурным пласце 0,2 м сабраны абломкі ляпнога таўстасценнага посуду з вялікай колькасцю жарствы ў цесце, ганчарных гаршкоў з лінейным арнаментам. Ляпная кераміка датуецца 6—8 стагоддзямі (культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны), ганчарная — 12—13 стагоддзямі (раннефеадальны час). Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Археологическая разведка 1955 г. в Понеманье.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; яе ж. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Беліца, цэнтр сельсавета**

**904. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,25 км на паўночны ўсход ад вёскі, на невялікім узвышшы справа ад дарогі Слонім — Ліда. Помнік не мае вонкавых прыкмет. Выявіў у 1982 г. М. М. Чарняўскі. У гэтым жа годзе А. В. Квяткоўская раскапала адну магілу. На глыбіні 0,4 м ускрыта пахаванне каня, знойдзены абломкі 2 гліняных гаршкоў, 3 жалезныя нажы, крэсіва, завушніца, манета. Ніжэй на глыбіні 0,65 м было пахаванне чалавека.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Квятковская А. В. Работы в Гродненской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984. *Я. Г. Звяруга.*

**905. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, з правага боку шашы Ліда — Дзятлава. Пахаваны 20 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына ў жалобе і суворавец.

**906. КАПЛІЦА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на старых могілках. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва. Прамавугольны зруб з трохграннай апсідай. Двухсхільны гонтавы дах завершаны на галоўным фасадзе вежачкай-званіцай з макаўкай. Трохвугольны шчыт на галоўным фасадзе мае арачную нішу, у якой устаноўлена драўляная скульптура Хрыста. Фасады ашаляваны, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Капліца — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**907. СТАЯНКІ** (археал.).

**907а.** Стаянка-1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ніжэй упадзення ў р. Нёман р. Залатая. Шырыня 60—70 м, даўжыня 1,5 км. Выявіў у 1970 г. Г. І. Гарэцкі. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, якія адносяцца да мезаліту, ранняга неаліту і пачатку бронзавага веку, некаторыя — да позняга палеаліту.

**907б.** Стаянка-2. На высокай пойме правага берага Нёмана, ніжэй упадзення ў р. Нёман р. Залатая. Выявіў у 1970 г. Г. І. Гарэцкі. Раскопкі на плошчы 500 м² праводзіў у 1977—79 і 1982 гг. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце выяўлены агнішчы, знойдзены крамянёвыя вырабы — ланцэтападобныя вастрыі, трапецыі, нажы, разцы, аднапляцовачныя нуклеусы. Прылады працы маюць рысы яніславіцкай культуры, адносяцца да позняга мезаліту.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979. *М. М. Чарняўскі.*

**908. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на новых могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Адзіны прамавугольны ў плане аб'ём, які пераходзіць у трохгранную апсіду. Двухсхільны дах з вальмамі над апсідай завершаны з боку галоўнага фасада васьміграннай шатровай вежай з макаўкай. Над алтарнай часткай — цыбулепадобны купал на гранёным барабане. Уваход праз бабінец. Фасады ашаляваны, прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах. Зала царквы перакрыта падшыўной столлю на падугах, над уваходам — хоры на 4 слупах, на якія вядзе бакавая лесвіца.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Беневічы, Ганчарскі сельсавет**

**909. СТАЯНКА** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на стрэлцы васьміметровай тэрасы, паміж правым берагам р. Нёман і поймай р. Дзітва. Плошча каля 400 м². Абследавалі ў 1957 г. Н. М. Гурына і Ф. Д. Гурэвіч, даследавала ў 1957 і 1961 гг. Н. М. Гурына. Ускрыта 50 м² плошчы. У культурным пласце 0,8 м выяўлены рэшткі агнішча, злёгку паглыбленага ў мацярык, невялікая яма з вохрай. Сярод крамянёвых прылад вылучаюцца больш раннія — двухпляцовачныя нуклеусы, нажападобныя пласцінкі з скошаным канцом, разцы, канцавыя скрабкі, лістападобныя наканечнікі стрэл мікраліты і познія — пераважна нуклеусы і скрабкі. Большасць керамікі позняга неаліту. Стаянка адносіцца да эпохі мезаліту (7—5-е тысячагоддзі да н. э.), познія знаходкі — да нёманскай культуры неаліту.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гурина Н. Н. Новые данные о каменном веке северо-западной Белоруссии.— У кн.: Палеолит и неолит СССР. М.; Л., 1965, т. 5. *М. М. Чарняўскі.*



**907б.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-2.*

**в. Бердаўка, цэнтр сельсавета**

**910. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Пахаваны 143 воіны і 14 партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1985 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла з мемарыяльным надпісам.

**911. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**г. п. Бярозаўка, цэнтр пасялковага Савета**

**912. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Навагрудская, каля шклозавода «Нёман». Пахаваны 20 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына ў жалобе і хлопчык.

**913. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На заходняй ускраіне пасёлка, справа ад шашы Навагрудак — Ліда, недалёка ад моста цераз р. Нёман. Пахаваны 200 савецкіх ваеннапалонных, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**914. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Навагрудскай. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**915. ШКЛОЗАВОД «НЁМАН»** (гіст., маст.). На вул. Навагрудскай.

Старэйшы і буйнейшы ў рэспубліцы шклозавод «Нёман» заснаваны ў 1883 г. чэшскімі майстрамі прамысловага шкларобства І. Столе і В. Краеўскім (былы тэхнарук чэшскага шклозаводчыка І. Хордлічкі, які валодаў чэшскай гутай «Чэхі»). Як буйное прадпрыемства шклозавод сфарміраваўся ў 1910 г. (1000 рабочых) у выніку аб'яднання 3 дробных гут з хутара Устрынь-Борскі (Старая гута), хутара Новая Гута і шклозавода, што размяшчаўся на тэрыторыі сучаснага пасёлка. Выраблялі сталовы і гаспадарчы, аптэчны і парфумны посуд, лямпы, лямпавае шкло, вазы. У канцы 19 — пачатку 20 ст. вырабы мелі рысы стылю «мадэрн»,

пазней — функцыяналізму (пад уплывам школы «Баўхаўз»). Выдзімаліся вырабы з каляровага і бясколернага шкла і хрусталю ў рухомыя і нерухомыя формы (так званы ціхавыдзіманы спосаб); фармаваліся адвольна, але пераважна прасаваліся. Аздабляліся размалёўкай, гравіроўкай, алмазнай гранню, каляровым накладам з наступнай шліфоўкай ці траўленнем, а таксама глыбокім траўленнем тыпу «гале» і шліфаваліся шырокай гранню. 45 % вырабаў экспартавалі за мяжу. У Вялікую Айчынную вайну завод быў разбураны, адноўлены ў 1944 г. Да 1960 г. старыя карпусы рэканструяваны, у 1963—80 гг. пабудаваны новыя карпусы завода.



916. *Пакроўская царква.*



916. *Пакроўская царква. План.*



916. *Званіца Пакроўскай царквы.*

Месца забастоўкі рабочых. 17.5.1929 г. на заводзе адбылася забастоўка, якая працягвалася каля 1,5 месяца. У ёй удзельнічала каля 700 рабочых. Забастоўкай кіравалі мясцовая арганізацыя КПЗБ і стачачны камітэт. Бастуючыя патрабавалі павышэння на 25 % заработнай платы, неадкладнай выплаты запазычанасці па зарплаце, узгаднення з прафсаюзам прыёму і звальнення рабочых, выдзялення памяшкання для прафсаюзнай арганізацыі, забеспячэння рабочых спецвопраткай і інш. Каб сарваць забастоўку, адміністрацыя наняла штрэйкбрэхераў, але рабочыя не пусцілі іх у цэхі. На завод была выклікана паліцыя. Нягледзячы на рэпрэсіі, рабочыя працягвалі баставаць, пакуль уладальнік прадпрыемства не згадзіўся задаволіць іх асноўныя патрабаванні.

Нёманскае шкло. Прадукцыя шклозавода «Нёман» — вырабы з шкла (посуд, вазы, скульптура, творы манументальна-дэкаратыўнага мастацтва) носяць назву «Нёманскае шкло». У 1940—50-я гады большасць гатунковага посуду, туалетна-парфумных набораў і асвятляльнай арматуры выраблялася паводле старых форм і ўзораў. Пераважаў выраб гатунковага посуду і ваз накладнога каляровага, бясколернага, малочнага шкла і хрусталю, якія дэкарыравалі алмазнай гранню, траўленнем, фотадрукам, золатам, люстрам, нумарным шліфам, размалёўкай, эмалямі па ўзорах мастакоў Н. Растоўцава, Я. Гладкова, В. Кабылінскай, А. Зэльдзіч, Н. Ганф, Л. Жыгалінай. Пасля рэканструкцыі завода асвоены новы спосаб дэкарыравання вырабаў ніткамі крэалітавага і сульфіднага шкла (т. зв. «нёманская нітка»; майстар А. Федаркоў, член Саюза мастакоў БССР). Для створаных метадамі гутнага і ціхага выдзімання, пракатнага маліравання і ліцця вырабаў 1960-х гадоў характэрны новыя рысы: выштчаныя формы і класічная прастата абрысаў гладкасценнага бездэкорнага шкла, манументальнасць форм, разнастайнасць кампазіцый і аздобы, спалучэнне кантрастных таноў (мастакі завода У. Мурахвер, Л. Мягкова, С. Раўдвеэ, К. Вакс, В. Дзівінская, У. Жохаў, Г. Ісаевіч і майстры Б. Шыманскі, Р. Багінскі, Г. Лінкевіч, А. Федаркоў). У 1970-я гады засвоены выпуск каляровай смальты, варка каляровага і бясколернага хрусталю ў ванных печах, а таксама каляровага шкла ў ванных печах бесперапыннага дзеяння. Мастак У. Мурахвер распрацаваў выраб рэчаў з хрусталю тэхнікай ціхавыдзімання, вітражнага шкла і метад ліцця вітражоў, разам з галоўным інжынерам М. Ф. Пашуком — новы спосаб фармавання і дэкарыравання шкла (пракатнае маліраванне). Заснаванне новай тэхналогіі значна ўзбагаціла асартымент вырабаў і каляровую палітру нёманскага шкла, пашырыла яго своеасаблівасць. У аздобе выкарыстоўваюцца каляровая шклакрошка, смальта, «нёманская нітка». Сярод гутных спосабаў дэкарыравання пашыраны таксама прылепы, пячаткі, аплікацыі, ніткі, жгуты, рыфленне. Сярод халодных тэхнік дэкарыравання выкарыстоўваюць алмазную грань, траўленне, пескаструменную апрацоўку, размалёўку, люстраванне. У 1982 г. выраблена 48,8 млн. штук гатунковага посуду, у т. л. 7,6 млн. хрусталёвага. Нёманскае шкло дэманстравалася на міжнародных выстаўках і кірмашах. Першую міжнародную ўзнагароду атрымала на сусветнай выстаўцы ЭКСПО-58 у Бруселі (бронзавы медаль) за туалетны прыбор, выкананы паводле эскіза Г. Ісаевіч. На міжнародных выстаўках у Ябланцы (ЧССР) атрымалі: Гран-пры ў 1973 г. майстар А. Федаркоў за камплект посуду «Кветка»; залатыя медалі ў 1973 г. мастак У. Жохаў за кампазіцыю «Кветкі» і ў 1979 г. мастак У. Мурахвер за серыю ваз «Пералескі». Частка вырабаў экспартуецца ў Вялікабрытанію, Бельгію, Данію, Фінляндыю і інш. краіны.

*Літ.:* Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 2.— Мн., 1972; Герчук Ю. Стекло белорусских заводов.— Декоративное искусство СССР, 1962, № 8; Яницкая М. М. «Неманская нить».— Там жа, 1970, № 9. *Г. І. Дулеба, М. М. Яніцкая.*

**в. Ганчары, цэнтр сельсавета**

**916. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на старых могілках. Пабудавана ў 1774 г. з дрэва.

Базілікальнага тыпу, трохнефавая, прамавугольная ў плане, з трохсценнай алтарнай прыбудовай і вежай-званіцай на галоўным фасадзе. Вежа трох'ярусная, чацверыковая, завершана цыбулепадобнай галоўкай на кароткім васьмерыку. Сцены царквы вертыкальна ашаляваны дошкамі з шырокімі нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен. Унутраная прастора царквы расчлянёна 3 парамі квадратных у сячэнні слупоў на 3 нефы. Цэнтральны ўдвая шырэйшы за бакавыя і перакрыты кілепадобным скляпеннем. Столі бакавых нефаў плоскія. У бакавых нефах вылучаны сакрысціі, па баках бабінца — 2 дапаможныя памяшканні, над уваходам — хоры. Перад царквой знаходзіцца драўляная двух'ярусная зрубна-каркасная званіца, якая стаіць асобна (2-я палова 19 ст.). Ніжні ярус квад-

ратны ў плане, зрублены з брусоў, верхні — скразны: 4 стойкі падтрымліваюць каўпак даху.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**917. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Ціхановічаў Брод. Пляцоўка памерам 60×40 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 г. М. М. Чарняўскі. Ускрыта пляцоўка 47 м². У культурным пласце 0,6 м знойдзены крамянёвыя вырабы і ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга неаліту, датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Лідскім краязнаўчым музеі і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Гарні, Траццякоўскі сельсавет**

**918. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарняты, Тарноўскі сельсавет**

**919. СЕЛІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі. Плошча 0,5 га. Адкрыла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, даследаваў у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Датуецца канцом 1-га і пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Гасцілаўцы, цэнтр сельсавета**

**920. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля шашы Ліда — Гродна. Устаноўлены ў 1974 г. на ўшанаванне памяці 47 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Помнік (скульпт. М. Палякоў; бетон; вышыня кургана 2 м, скульптуры 3,2 м) — курган, на якім устаноўлена фігура воіна. Трактоўка абагульненая. Воін паказаны ў парывістым руху наперад, што падкрэсліваецца расхінутай за спіной плашчпалаткай, узнятай уверх левай і адкінутай назад правай рукой з аўтаматам. На бетанаванай пляцоўцы ўстаноўлены 3 пліты, на 2 з іх — імёны загінуўшых. *Л. Г. Лапцэвіч.*



**917.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*



**920.** *Помнік землякам.*

**в. Голдава, цэнтр сельсавета**

**921. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 73 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**922. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1795 г. (рэканструявана ў 19 ст.) з дрэва. Перад царквой устаноўлена двух'ярусная шатровая званіца каркаснай канструкцыі.

Складаецца з прамавугольных у плане бабінца і асноўнага зруба, пяціграннай апсіды з нізкай рызніцай. Над бабінцам — чацвярык званіцы, накрыты шатром з цыбулепадобнай галоўкай на 8-гранным барабане. Асноўны зруб накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Пры пераходзе ад асноўнага аб'ёму да алтарнай прыбудовы дах утварае трохвугольныя навісі. Сцены царквы ашаляваны. Аконныя праёмы лучковыя, размешчаны ў верхняй частцы сцен. Бабінец асвятляецца 2 люкарнамі, размешчанымі абапал увахода. Інтэр'ер царквы зальнага тыпу. Тры дзвярныя праёмы, якія звязваюць бабінец з асноўным памяшканнем, абрамляюць шырокія масіўныя ліштвы. Над уваходам — хоры.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*



**922.** *Царква Раства багародзіцы.*



**922.** *Царква Раства багародзіцы. План.*

**в. Гуды, Крупаўскі сельсавет**

**923. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 56 воінаў 213-га стралковага палка 56-й стралковай дывізіі, якія загінулі 3.7.1941 г.

22.6.1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі пачалі наступленне ў напрамку Гродна. Воіны 213-га палка аказалі ім упартае супраціўленне. Каля 3 сутак яны адбівалі націск ворага, але сілы былі няроўнымі, і полк ад-



**922.** *Званіца царквы Раства багародзіцы.*



923. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

ступіў. Апынуўшыся ў акружэнні, полк з баямі прабіваўся на ўсход. 3.7.1941 г. загінулі 56 воінаў.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск і стэла.

*Літ.:* Галицкий К. Н. Годы суровых испытаний. 1941—1944: Записки командарма.— М., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**в. Дакудава, цэнтр сельсавета**

**924. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 133 землякоў з вёсак калгаса «Іскра», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**925. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**925а.** Селішча-1. На паўднёвай ускраіне вёскі. Выявіла ў 1951 г. С. А. Тараканава, даследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,15—0,5 м, шырынёй 0,2 км, прасочваецца ў абрыве правага берага р. Нёман на працягу 1,5 км. У ім знойдзены рэшткі ганчарных гаршкоў з адагнутым венчыкам, упрыгожаных лінейна-хвалістым арнаментам, і каваны цвік. Адносіцца да 11—12 стагоддзяў.

**925б.** Селішча-2. За 1 км на поўдзень ад вёскі. Адкрыта і даследавана адначасова з селішчам-1. У размыве берага і на пясчанай дзюне знойдзены рэшткі ляпных (з дамешкай жарствы ў цесце) і ганчарных гаршкоў, абломак глінянага грузіла. Адносіцца да 6—8 стагоддзяў (культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны) і 11—12 стагоддзяў.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Тараканова С. А. Археологическая разведка по Нёману.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М., 1955. в. 57; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Далёкія, Тарноўскі сельсавет**

**926. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 8 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Даржы, Ганчарскі сельсавет**

**927. СТАЯНКА І МАЙСТЭРНЯ** (археал.).

**927а.** Стаянка. За 1 км на поўнач ад вёскі, на дзюне правабярэжнай поймы р. Дзітва, ва ўрочышчы Боркава Гара. Пляцоўка памерам 95×60 м. Выявіў і абследаваў у 1962 г. М. М. Чарняўскі. У цэнтральнай і паўднёва-заходняй частках культурны пласт 0,6 м. У ім знойдзены крамянёвыя пласціны з рэтушшу, скрабкі на пласцінах і адшчэпах, нуклеусы, ляпная кераміка.

**927б.** Майстэрня. Каля паўночна-заходняга краю дзюны, ва ўрочышчы Боркава Гара, на невялікім узвышшы. Памеры 30×20 м. Адкрыў і абследаваў у 1962 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, адбойнікі, адшчэпы, пласціны з рэтушшу і без яе, скрабкі і інш. Адносіцца да нёманскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Дворышча, цэнтр сельсавета**

**928. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1985 г. устаноўлены помнік — стэла з барэльефнымі выявамі галоў 2 воінаў, партызана, 2 жанчын і дзіцяці.

**в. Дроздава, Ганчарскі сельсавет**

**929. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на перакрыжаванні дарог Ліда — Слонім, Дроздава — Масявічы.

У Вялікую Айчынную вайну ў вёсках Дроздава і Ганчары з чэрвеня 1942 г. да ліпеня 1944 г. дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная арганізацыя. Арганізатар і кіраўнік падполля — камсамолец Г. С. Шут. Падпольшчыкі распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, вялі антыфашысцкую прапаганду сярод насельніцтва. Восенню 1942 г. устанавілі сувязь з партызанскім атрадам «Іскра» брыгады імя С. М. Кірава. Патрыёты збіралі для партызан зброю, прадукты, адзенне, рабілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка. У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў загінулі члены падпольнай арганізацыі Н. і Л. Дзешукі, У. К. і І. К. Кудлы, У. І. Казёл, В. В. Кумпяк. У ліпені 1944 г. трагічна загінуў Г. С. Шут.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці падпольшчыкаў пастаўлена стэла. У падножжа стэлы пліта, на якой імёны 22 аднавяскоўцаў, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. *Г. І. Дулеба.*



929. *Помнік падпольшчыкам і землякам.*

**в. Збляны, Беліцкі сельсавет**

**930. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Крыжова-купальны аднавежавы храм. Па падоўжнай планіровачнай восі размешчаны трох'ярусная званіца з купальным верхам і арачнай галерэяй, асноўны аб'ём з пяціграннай апсідай. У прасторавай кампазіцыі дамінуе купал асноўнага аб'ёму, устаноўлены на васьміграннным светлавым барабане. Архітэктурны дэкор уключае прафіляваны карніз, ліштвы арачных аконных праёмаў, вуглавыя лапаткі. У інтэр'еры светлавы барабан падтрымліваюць падпружныя аркі; перакрыцці цыліндрычныя.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**931. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці



930. *Пакроўская царква.*



931. *Помнік землякам.*

35 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**932. СТАЯНКІ** (археал.).

**932а.** Стаянка-1. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на краі васьміметровай правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Шырыня 70—80 м, даўжыня 0,8 км. Выявіў у 1962 г. Ф. Ф. Барташэвіч, абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя лістападобныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, разцы, двухпляцовачныя нуклеусы. Адносіцца да каменнага веку, частка знаходак — да свідэрскай культуры, датуецца канцом эпохі палеаліту (10—9-е тысячагоддзі да н. э.).



935. *Помнік на магіле савецкага воіна.*

**932б.** Стаянка-2. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,1 км на ўсход за аплыўшым ярам, на месцы былога хутара. Даўжыня ўздоўж берага Нёмана 0,5 км, шырыня каля 50 м. Адкрыў у 1960 г. Ф. Ф. Барташэвіч, абследавалі ў 1965 г. М. М. Чарняўскі, у 1971 г. Г. І. Гарэцкі. У агаленнях тэрасы правага берага Нёмана сабраны крамянёвыя матэрыялы познапалеалітычнага і мезалітычнага часоў.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Дзяржаўным музеі БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**933. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА ТКАЦТВА** (гіст.). Вёска вядома як даўні цэнтр ручнога мастацкага ткацтва. Посцілкі мясцовых ткачых адметныя мажорным колеравым ладам. Характэрная кампазіцыя: папярочныя палосы («вясёлкі»), пераважна жоўтага, зялёнага, сіняга, малінавага, фіялетавага і чорнага колеру. У 1960-я гады вялікае пашырэнне атрымала новая кампазіцыя, якая будуецца на чаргаванні папярочных шырокіх гладкіх і ўзорыстых палос. Узоры маюць тры элементы — «дарогі», «зубчыкі», шматпялёсткавыя разеткі. Гэтым дасягаецца разнастайнасць арнаменту. Звычайна па чорным або карычневым фоне размяшчаюць узорыстыя палосы розных мажорных колераў. Вытанчаная каларыстычная гама, асабліва ў кампазіцыі «вясёлка», выразнае рашэнне, высокае ткацкае майстэрства робяць гэтыя рэчы сапраўднымі творамі мастацтва. У апошні час ткуць посцілкі пераважна ў мясцовых традыцыях у тэхніцы перабору і закладання. Ткачыхі працуюць надомніцамі ад Слонімскай і Гродзенскай фабрык мастацкіх вырабаў.

*Літ.:* Беларускія народныя тканіны ў зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР: Каталог.— Мн., 1979. *Дз. С. Трызна.*

**в. Касоўшчына, Бердаўскі сельсавет**

**934. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Калдобы. 13 насыпаў дыяметрам 6—14 м, вышынёй 0,7—1,0 м. Каля падножжа асобных курганоў прасочваюцца аплыўшыя раўкі. Адкрыла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, даследавалі ў 1974—75 гг. Я. Г. Звяруга, у 1976 г. Т. С. Вергей. Раскапана 7 курганоў, абкладзеных камянямі. У 2 абкладка з камянёў была прасочана ўнутры, у адным камяні пакрывалі значную частку насыпу і ўверсе. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Пахавальны інвентар: 4 наканечнікі коп'яў (2 ланцэтападобныя, ромбападобны і лаўралісцевы), баявая сякера з вузкім лязом, шыла, спражка, абломкі бронзавых упрыгожанняў. Сабрана значная колькасць ганчарнай керамікі з разнастайнымі венчыкамі. Належалі ўсходнелітоўскім плямёнам, датуюцца 10—11 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Археологическая разведка 1955 г. в Понеманье.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959; Зверуго Я. Г. Исследования в Верхнем Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1974 года. М., 1975. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Красноўцы, Ваверскі сельсавет**

**935. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Воін загінуў у чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Крыніцы, Дварышчанскі сельсавет**

**936. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 12 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну і з ворагамі Савецкай улады ў першыя пасляваенныя гады, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Лесныкі, Голдаўскі сельсавет**

**937. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 81 мірны жыхар вёскі. 6.8.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі ўварваліся ў вёску, загубілі 81 жыхара, спалілі 99 двароў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына ў жалобе і хлопчык.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

**в. Малое Мажэйкава, Гасцілаўскі сельсавет**

**938. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Створана ў 19 ст. Цяпер тут цэнтральная сядзіба саўгаса. Сядзібны комплекс складаецца з трох зон: цэнтральнай — жылой, заходняй — гаспадарчай і ўсходняй — паркавай.

Сядзібны дом — мураваны прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак з высокім двухсхільным паўвальмавым дахам. Цэнтральная частка з мансардавым паверхам і чатырохкалонным дарычным портыкам. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены сандрыкамі, вуглы і прасценкі апрацаваны руставанымі лапаткамі. Планіроўка анфіладная ва ўсходняй, парадней палавіне дома, і калідорная — у заходняй, службовай. У мансардавым паверсе, злучаным з вестыбюлем жалезнай вітай лесвіцай, размяшчаліся спальныя памяшканні. У гаспадарчай зоне сядзібы 2 цагляныя атынкаваныя пабудовы: маслабойня і стайня. Будынак стайні прамавугольны ў плане. Галоўны фасад яго дэкарыраваны 2 двухкалоннымі портыкамі і люкарнамі ў верхняй частцы сцен. Маслабойня — прамавугольны ў плане аб'ём з галоўным тарцовым фасадам, які вылучаны портыкам і трохвугольным франтонам.


937. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Сядзібны парк мае мяшаную рэгулярна-пейзажную планіроўку. 2 узаемна перпендыкулярныя алеі абмяжоўваюць участкі маляўнічых паркавых курцін вакол 2 прамавугольных штучных вадаёмаў.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Мыто, Ваверскі сельсавет**

**939. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**939а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на ўзвышшы, у пойме правага берага р. Дзітва. Адкрыў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. Пляцоўка авальнай формы, выцягнута з захаду на ўсход, памерам 30×20 м. Культурны пласт да 0,5 м прасочваецца ў асобных месцах (у ямах). У ім знойдзена ляпная кераміка.

**939б.** Селішча. Побач з гарадзішчам, у полі. Плошча каля 1 га. Культурны пласт часткова разараны. У ім знойдзены ляпная кераміка, як і на гарадзішчы, і кавалкі глінянай абмазкі. Помнікі датуюцца канцом 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Навіцкія 2-я, Траццякоўскі сельсавет**

**940. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Нецеч, Тарноўскі сельсавет**

**941. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы і дрэва. Прамавугольны ў плане накрыты двухсхільным дахам аб'ём з трохграннай алтарнай часткай. На фасадах будынка вылучаны канструкцыйны каркас у выглядзе цагляных слупоў. Драўляныя прасценкі ашаляваны і прарэзаны аконнымі праёмамі. Галоўны фасад вылучаны 4 калонамі і завершаны трохвугольным шчытом з вежачкай-


938. *Сядзіба. Стайня.*


938. *Сядзібны дом. План.*



938. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — маслабойня; 3 — стайня.*


938. *Сядзібны дом.*


941. *Касцёл.*

званіцай над ім. Унутраная прастора 4 гранёнымі слупамі падзелена на 3 нефы. Алтарнай перагародкай аддзелены аб'ёмы апсіды і бакавых сакрысцій. Над уваходам — хоры на 2 калонах.

Касцёл — помнік культавай архітэктуры з утрыраванымі формамі класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Ольжава, Тарноўскі сельсавет**

**942. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**942а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Шведская Гара. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Дзітва, на ўзвышшы (8—10 м ад асновы) сярод моцна забалочанай поймы. Авальная пляцоўка выцягнута з захаду на ўсход, памерам 40×20 м. Адкрыла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч. Абследаваў у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,4—0,5 м прасочваецца толькі ў цэнтры пляцоўкі, у ім знойдзена ляпная кераміка.

**942б.** Селішча. За 2 км на поўдзень ад гарадзішча ва ўрочышчы Гарадзішча, на разараным полі. Плошча 0,7 га. Выявіла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Знойдзены абломкі таўстасценных гаршкоў, у цесце якіх трапляюцца буйныя зярняты жарствы

Гарадзішча і селішча адносяцца да 2-й паловы 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Археологическая разведка 1955 г. в Понеманье.— У кн.: Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Парачаны, Голдаўскі сельсавет**

**943. ПОМНІК Ў ГОНАР ВОІНАЎ 86-га КАВАЛЕРЫЙСКАГА ПАЛКА** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, каля моста цераз р. Дзітва.

8.7.1944 г. 86-ы кавалерыйскі полк 32-й кавалерыйскай Смаленскай дывізіі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 3-га Беларускага фронту разграміў гітлераўцаў каля вёсак Парачаны і Белагруда і першым уварваўся ў г. Ліда. У гэтым баі загінуў камандзір 86-га кавалерыйскага палка гвардыі падпалкоўнік А. Ф. Труханаў.

У 1967 г. у гонар воінаў палка пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**944. ПОМНІК У ГОНАР ПОДЗВІГУ БАЛГАРЫНА** Сяргея Іванавіча (гіст.) За 0,5 км на ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага моста цераз р. Дзітва.

Герой Савецкага Саюза С. І. Балгарын нарадзіўся 10.10.1925 г. у с. Каротнае Слабадзейскага р-на Малдаўскай ССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1962 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Прыбалтыйскім і 3-м Беларускім франтах. Кулямётчык 86-га кавалерыйскага палка 32-й Смаленскай дывізіі 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса 3-га Беларускага фронту С. І. Балгарын вызначыўся пры вызваленні Віцебскай і Гродзенскай абласцей. 25.6. 1944 г. у баі за в. Шаркі Багушэўскага р-на знішчыў варожы кулямёт і 25 фашыстаў, 8.7.1944 г. на подступах да г. Ліда — 50 гітлераўцаў, 10.7. 1944 г. у баі за пераправу на р. Дзітва каля в. Парачаны прарваўся да чыгуначнага моста, знішчыў сапёраў праціўніка і прадухіліў узрыў, што забяспечыла паспяховае наступленне кавалерыйскага эскадрона. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. Жыве ў с. Пакроўка Раздзяльнянскага р-на Адэскай вобл., працуе брыгадзірам трактарнай брыгады.

У 1980 г. у гонар подзвігу С. І. Балгарына пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Парэчча, Беліцкі сельсавет**

**945. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля бальніцы, у скверы. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пескаўцы, цэнтр сельсавета**

**946. СЕЛІШЧА** (археал.). Каля заходняй ускраіны вёскі, на правым беразе р. Нёман. Даўжыня 450 м, шырыня да 150 м. Адкрыла ў 1951 г. С. А. Тараканава, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,6 м. У ім знойдзены вуголле, фрагменты гаршкоў з вялікай колькасцю жарствы ў цесце, абломак ад венчыка гаршка з ямачным арнаментам, а таксама частка наляпнога валіка, упрыгожанага ямкамі. Належала ўсходнебалцкім плямёнам, датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Тараканова С. А. Археологическая разведка по Неману.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М., 1955, в. 57; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *А. Р. Мітрафанаў.*



949. *Помнік на магіле М. М. Манькоўскага.*

**947. СТАЯНКІ** (археал.).

**947а.** Стаянка-1. За 0,4 км на захад ад вёскі, на краі высокай правабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіла ў 1951 г. С. А. Тараканава, абследавалі ў 1966 г. Н. М. Гурына і М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,6 м прасочаны ўздоўж берага ракі на 0,5 км. У ім знойдзены крамянёвыя скрабкі, пласціны-ўкладышы, сякерападобныя прылады працы і дробныя фрагменты керамікі бронзавага веку, у невялікай колькасці крамянёвыя вырабы мезаліту (вербалістыя наканечнікі стрэл, пласціны-нажы і інш.).

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**947б.** Стаянка-2. Каля ўсходняй ускраіны вёскі, на невялікім выступе правабярэжнай тэрасы Нёмана вышэй 7 м, каля ўскрайку маладога лесу. Памер 40×120 м. Выявіў у 1973 г. А. І. Зімянкоў, даследаваў у 1983 г. М. М. Чарняўскі. Пад рэшткамі сярэдневяковага селішча выяўлены светла-шэры пласт са знаходкамі ранняга этапа нёманскай культуры (чарапкі глінянага посуду з разраджанымі арнаментамі, крамянёвыя вырабы, сляды агнішча). Стаянка датуецца 5-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Тараканова С. А. Археологическая разведка по Неману.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М., 1955, в. 57. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Сялец, Ганчарскі сельсавет**

**948. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 50 жыхароў вёскі, якіх 23.7.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. Сярод



950. *Помнік землякам.*

пахаваных — удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі і былы старшыня Ганчарскага сельсавета Аляксандр Іванавіч Некрашэвіч і член ВЛКСМ, дэпутат Баранавіцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных А. М. Манькоўская. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**949. МАГІЛА МАНЬКОЎСКАГА** Міхаіла Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік Грамадзянскай вайны, рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі М. М. Манькоўскі нарадзіўся ў 1877 г. у в. Малашкі Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПЗБ. У 1920-я гады арганізаваў у в. Сялец падпольную групу КПЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы і па прыгавору трыбунала павешаны 21.9.1933 г. у г. Ліда.

У 1965 г. на магіле М. М. Манькоўскага пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**в. Тарнова, цэнтр сельсавета**

**950. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**951. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Сфарміравана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Уключае сядзібны дом і гаспадарчыя пабудовы — стайню, лядоўню і ветраны млын. Перад сядзібным домам разбіты сквер з пасадкамі ясеню і клёну, за 0,2 км на поўдзень ад яго — 2 сажалкі. Пад'язная дарога агінае сядзібны дом, праходзіць паміж 2 сажалкамі, далей вядзе да былога гаспадарчага комплексу, дзе знаходзіцца ветраны млын.

С я д з і б н ы д о м — мураваны асіметрычны ў плане будынак з маляўнічай ступеньчатай кампазіцыяй фасадаў. Асноўнай часткай будынка з'яўляецца двухпавярховы аб'ём з цэнтральным выступам-рызалітам на галоўным фасадзе. З заходняга боку размешчана аднапавярховая прыбудова, з усходняга — дамінуючая ў сілуэце чатырохпавярховая вежа. У пластыцы фасадаў выкарыстаны элементы розных гістарычных стыляў. Абапал цэнтральнага рызаліта над ганкамі размешчаны балконы. Вуглы асноўнага аб'ёму руставаныя. Цэнтральная вось галоўнага фасада вылучана вільчыкам рызаліта і вертыкальным радам паўцыркульных акон з прафіляванымі арачнымі сандрыкамі. Планіроўка будынка анфіладна-калідорная. Паверхі асноўнага аб'ёму звязаны лесвіцай, якая размешчана ў цэнтры будынка. У інтэр'еры захавалася паркетная падлога. У доме размешчаны ашчадная каса і вузел сувязі.

С т а й н я — аднапавярховы цагляны будынак пад двухсхільным дахам з пластычным галоўным фасадам (руставаныя вуглы, прамавугольныя праёмы з паўкруглымі броўкамі, круглыя філёнгі).

Л я д о ў н я — паўпадвальнае памяшканне, дах якога выступае над




951. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — лядоўня; 3 — стайня.*



951. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



951. *Сядзібны дом.*



951. *Сядзіба. Ветраны млын.*



951. *Сядзіба. Лядоўня.*



951. *Сядзіба. Стайня.*

зямлёй. Над уваходам двухсхільны шчыт з люкарнай у цэнтры.

Ветраны млын размешчаны за 0,7 км на поўдзень ад сядзібнага дома. Конусападобная пабудова (дыяметр асновы 11,6 м) складзена з бутавага каменю. Верхняя частка млына — драўляны шацёр (не захаваўся), які паварочваецца на металічных шарах вакол сваёй восі з улікам напрамку ветру.

Сядзіба — помнік эклектычнай архітэктуры.
*У. В. Алісейчык.*

**в. Ходараўцы, цэнтр сельсавета**

**952. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 41 земляка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлена стэла.

# МАСТОЎСКІ РАЁН







 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Культавая архітэктура

## XVI. МАСТЫ

Горад, цэнтр раёна, размешчаны на р. Нёман пры ўпадзенні ў яе р. Зальвянка. Вузел чыгуначных і аўтамабільных дарог на Гродна, Ліду, Ваўкавыск. За 60 км на паўднёвы ўсход ад Гродна.

У пісьмовых крыніцах упамінаюцца ў 1551 г. як мястэчка Гродзенскай эканоміі Вялікага княства Літоўскага. Граматамі каралёў Рэчы Паспалітай 1601, 1633, 1653 і 1677 гг. жыхары Мастоў атрымалі некаторыя прывілеі паводле магдэбургскага права. З 1633 г. тут праводзіліся штотыднёвыя базары і 2 кірмашы на год. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Гродзенскага павета Слонімскай, з 1797 г.— Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1797 г. падараваны царскім урадам віленскаму віцэ-губернатару Волкаву і калежскаму саветніку Літку, пазней належалі правадзейнаму стацкаму саветніку Шэвальё Дальо, таможнаму інспектару Мураўёву і інш. У 1797 г. у Мастах 622 жыхары, у 1833 г.— 981 жыхар, 164 драўляныя дамы. У 1897 г.— 2633 жыхары, 601 будынак, народнае вучылішча, ліманаднае прадпрыемства. У 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг.— войскамі буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. цэнтр гміны Гродзенскага павета Беластоцкага ваяводства ў складзе буржуазнай Польшчы. У сакавіку — красавіку 1933 г. на фанерным заводзе адбылася адна з буйнейшых на Гродзеншчыне забастоўка рабочых. З канца 1939 г. у складзе БССР, з 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічаў падпольны райком ЛКСМБ (17.12.1943 г.— 13.7.1944 г.). 13.7.1944 г. вызвалены воінамі 348-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту. З 22.7. 1955 г. горад. У 1962—65 гг. у Ваўкавыскім р-не.

Планіровачная структура горада ў асноўным прамавугольная. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. На пл. Леніна размешчаны будынкі райкома партыі, райвыканкома, універмага, гасцініцы, Дома сувязі, на вул. Савецкай — бальніца, Дом быту, кінатэатр. Генеральным планам, распрацаваным у 1971 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, прадугледжана ўпарадкаванне дробнакварталнай забудовы, стварэнне 5 жылых і 2 прамысловых раёнаў. Капітальнае будаўніцтва вядзецца ў цэнтральнай частцы горада, а таксама на правым беразе р. Нёман, дзе ўзводзяцца 4- і 5-паярховыя будынкі.




**XVI.** *Забудова плошчы Леніна.*

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: фанерна-дрэваапрацоўчы камбінат (вытворчасць мяккай мэблі, фанеры, драўнянастружкавых пліт) вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання «Мастоўдрэў», хлебазавод; працуе раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. У горадзе 4 сярэднія, васьмігадовая, дзіцяча-юнацкая спартыўная і дзіцячая мастацкая школы, 7 дашкольных устаноў, Дом культуры, кінатэатр, 3 клубы, 3 бібліятэкі, бальніца, Дом быту. Выдаецца газета «Зара над Нёманам».

Помнікі: У. І. Леніну; Зоі Касмадзям'янскай; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, савецкіх воінаў і партызан, што загінулі пры вызваленні горада; землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Зона адпачынку — ва ўсходняй частцы горада, на берагах р. Нёман.

*Літ.:* Города и поселения в уездах, имеющих 2000 и более жителей.— СПб., 1905. *Э. М. Савіцкі, Л. В. Трэпет.*

**953. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 150 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**954. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, у скверы. Пахаваны 855 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Васіль Пятровіч Жукаў.

В. П. Ж у к а ў нарадзіўся ў 1922 г. у в. Бярозаўка Бялёўскага р-на Тульскай вобл. у сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1941 г. На фронце з мая 1944 г. Камандзір кулямётнага разліку 1090-га стралковага палка 323-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту старшы сяржант В. П. Жукаў вызначыўся ў баях за г. Масты. 12.7.1944 г. агнём з станковага кулямёта адбіў 3 варожыя контратакі. Трапным агнём адсякаў пяхоту праціўніка ад танкаў. Гранатамі падарваў адзін танк, які прарываўся да каманднага пункта роты. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.3.1945 г.

У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969. *М. К. Кошалеў.*

**955. МАГІЛА ТОРДЗІЯ** Івана Несцеравіча (гіст.). На беразе р. Зальвянка. Малодшы лейтэнант І. Н. Тордзія загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. установлена надмагілле.

**956. МАГІЛА ШАРОЙКІ** Мацвея Ануфрыевіча (гіст.). Вул. Шаройкі. Супрацоўнік міліцыі М. А. Шаройка загінуў пры выкананні службовых абавязкаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**957. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШАРОЙКУ** Мацвею Ануфрыевічу (гіст.). Вул. Занёманская, 18а, на будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1969 г. на ўша-

наванне памяці М. А. Шаройкі, які працаваў у аддзеле ў 1945—46 гг.

**958. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Занёманскай, у скверы. На ўшанаванне памяці 17 жыхароў горада, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**959. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, перад будынкам райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1976 г.

**960. РАДЗІМА ВАЛКОВІЧА** Данілы Іванавіча (гіст.).

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР Д. І. Валковіч нарадзіўся 5.4. 1900 г. у в. Занёманск (цяпер у межах г. Масты) у беднай сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. З красавіка 1918 г. у Чырвонай Арміі, актыўны ўдзельнік барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады. Працаваў намеснікам старшыні надзвычайнай камісіі Малмыжскага павета Вяцкай губерні, з 1920 г. сакратаром павятовага камітэта РКП(б). З жніўня 1920 г. на фронце. Вёў барацьбу супраць бандытызму ў Бабруйскім і Мазырскім паветах. З 1921 г. у апараце ЦК ЛКСМБ. з 1924 г. сакратар Койданаўскага, Ляхаўскага (Мінск) райкомаў партыі, загадчык аддзела Мінскага райкома партыі, сакратар Магілёўскага акруговага, Клімавіцкага, Бабруйскага раённых камітэтаў КП(б)Б. У лютым 1934 г. прызначаны намеснікам наркома земляробства БССР. З жніўня 1934 г. да 10 чэрвеня 1937 г. другі сакратар ЦК КП(б)Б, з 30.5 да 8.9.1937 г. старшыня СНК БССР. Член Бюро ЦК КП(б)Б (3.8. 1934 г.— 25.10.1937 г.). Член ЦВК БССР (1931—37 гг). Памёр 17.4.1943 г. Яго імем названы вуліцы ў Гродне і Мастах, калгас у Мастоўскім р-не.

*М. К. Кошалеў.*

**в. Баяры, Курылавіцкі сельсавет**

**961. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 50 мірных жыхароў вёскі, якіх у 1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург» расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі, вёску (23 двары) спалілі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вайнілавічы, Курылавіцкі сельсавет**

**962. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Выгода, Пескаўскі сельсавет**

**963. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на паўднёва-заходнім краі пясчанага ўзвышэння левабярэжнага поплава р. Зальвянка. Плошча 1000 м². Выявіў у 1966 г. і даследаваў у 1978 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт каля 0,4 м. Знойдзены фрагменты керамікі і крамянёвыя прылады працы нёманскай культуры неаліту і тшцінецкай культуры бронзавага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*




959. *Помнік У. І. Леніну.*

**964. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на высокай дзюне левабярэжнага поплава р. Зальвянка, ва ўрочышчы Маёнтак. Выявіў у 1966 г. і даследаваў у 1978 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены кераміка і крамянёвыя вырабы, якія адносяцца да тшцінецкай культуры бронзавага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Вялікія Азёркі, цэнтр Азёркаўскага сельсавета**

**965. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельскага Савета. Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці старшыні выканкома Азёркаўскага сельскага Савета І. А. Канюшэўскага, якога загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941 г., а таксама сакратара выканкома А. М. Слезніка, рахункавода І. С. Мураўскага, дэпутатаў сельскага Савета пулі ад рук ворагаў Савецкай улады. С. В. Жука і К. С. Сліжа, што загі-

**966. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка школы. На ўшанаванне памяці 36 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчыную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Галубы, цэнтр сельсавета**

**967. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Глядавічы, цэнтр сельсавета**

**968. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**968а.** Гарадзішча. На паўднёвай ускраіне вёскі. Пляцоўка круглай формы, дыяметрам 45 м, з боку поля ўмацавана валам вышынёй 2 м. З вонкавага боку вала прасочваюцца рэшткі рова. Адкрыла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,2 м. На тэрыторыі гарадзішча сабраны фрагменты шэрагліняных гаршкоў з дамешкай жарствы і шамоту ў цесце. Адносіцца да 11—14 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**968б.** Курганны могільнік. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. 17 насыпаў дыяметрам 6—10 м, вышынёй 2—3 м. Адкрыла ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973—75 гг. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Звяруга.*

**969. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 53 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гудзевічы, цэнтр сельсавета**

**970. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 савецкія воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**971. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 мірныя жыхары, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**972. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На плошчы, насупраць будынка клуба. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.



973. *Помнік землякам.*

в. Дзенькаўцы, Зарудаўеўскі сельсавет

**973. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 24 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

в. Дубна, цэнтр сельсавета

**974. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і суворавец.

**975. РАДЗІМА КРЫЎЦА** Сяргея Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі паэт С. М. Крывец нарадзіўся ў 1909 г. у сялянскай сям'і. Працаваў пастухом, цесляром. Займаўся самаадукацыяй. Удзельнічаў у рэвалюцыйным руху, быў арыштаваны. У 1930—33 гг. жыў у Гродне, у 1933—44 гг.— у Беластоку. Вучыўся ў Беластоцкім педагагічным інстытуце (1940—41 гг.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Загінуў 28.4. 1945 г. у час штурму Гдыні (Польшча).

С. М. Крывец друкаваўся ў часопісе «Заранка» пад псеўданімам С я р о ж а  П а с т у ш о к. Пісаў пра цяжкае жыццё беларускага сялянства і пралетарыяту пры буржуазнай Польшчы. Яго вершы клікалі да барацьбы за свабоднае жыццё, за лепшую долю. Пісаў на беларускай, рускай, польскай і нямецкай мовах. Выдадзена кніга «Дубок» (1972 г.). Вершы С. М. Крыўца змешчаны таксама ў кнігах «Сцягі і паходні» (1965 г.) і «Крывёю сэрца» (1967 г.).

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. К. Кошалеў.*

в. Дубраўка, Азёркаўскі сельсавет

**976. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 30 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў, і 22 мірныя жыхары, закатаваныя гітлераўцамі ў сакавіку — чэрвені 1944 г.

У сакавіку 1944 г., сцягнуўшы значныя сілы, нямецка-фашысцкія захопнікі пачалі карную аперацыю супраць партызан брыгады «Перамога» (камандзір П. І. Булак, камісар Р. Г. Іўлеў), якая размяшчалася паблізу вёсак Сліжы, Дубраўка, Пяшчанка. Партызаны вялі баі ў акружэнні. Атрад імя С. М. Будзённага пад камандаваннем Р. Л. Кірылава трымаў абарону на ўскраіне в. Дубраўка. Карнікі пры падтрымцы артылерыі і мінамётаў некалькі дзён беспаспяхова атакавалі пазіцыі партызан і вымушаны былі адысці ў в. Вострава. Ноччу партызаны разграмілі варожы гарнізон у Востраве, захапілі 2 гарматы, 5 кулямётаў і шмат боепрыпасаў, прарвалі кальцо акружэння, спалілі элеватар у Дзярэчыне.

У чэрвені 1944 г. з набліжэннем Чырвонай Арміі фашысты правялі другую карную аперацыю супраць партызан Шчучынскай зоны. У аперацыі ўдзельнічалі рэгулярныя часці, якія накіроўваліся на фронт, артылерыя, танкі. Праціўнік нанёс удары па абароне партызан уздоўж дарогі на Сліжы, Дубраўку, Пяшчанку, Задвор'е. Народныя мсціўцы адышлі і занялі абарону на правым беразе р. Шчара. Два дні працягваліся ўпартыя баі ў акружэнні. У ноч на 11.6. 1944 г. партызаны прарвалі варожую блакаду. 13.7.1944 г. брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1970; Л е с н и ч и й  С. П. Далеко за фронтом.— Мн., 1972. *М. К. Кошалеў.*



974. *Помнік землякам.*



978. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**977. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Сліжы, на беразе р. Шчара. 2 курганы вышынёй 1,2 і 2,1 м, дыяметрам 9 і 12 м. Выявіў і даследаваў у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

в. Задвор'е, Курылавіцкі сельсавет

**978. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Сіпа. Пахаваны 260 жыхароў в. Задвор'е і навакольных вёсак, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург». У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана з аўтаматам.

в. Зарудаўе, цэнтр сельсавета

**979. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 56 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызанкі.

в. Касілы, Лунненскі сельсавет

980. **КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. насыпаны Курган.

в. Каўшова, Харціцкі сельсавет

981. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Княжаводцы, Дубненскі сельсавет

982. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля лесу. Пахаваны 120 жыхароў вёскі і навакольных хутароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 23.7.1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

983. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км ад вёскі, на правым беразе Нёмана. Раніцай 23.7.1943 г. вёска была акружана карнікамі. Фашысты сагналі 900 жыхароў да р. Нёман, прымусілі выкапаць яму і ўсіх расстралялі. Вёска (260 двароў) была абрабавана і дашчэнту спалена. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

в. Котчына, Азёркаўскі сельсавет

984. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

в. Курылавічы, цэнтр сельсавета

985. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 33 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

в. Ланцавічы,
Курылавіцкі сельсавет

986. **СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, на правабярэжнай дзюне р. Зальвянка. Выявіў і абследаваў у 1966 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, пожападобныя пласціны і інш. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

в. Лунна, цэнтр сельсавета

987. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, насупраць будынка школы. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. устаноўлена надмагілле.

988. **КАСЦЁЛ ГАННЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1782 г. з цэглы, у 1895 г. рэканструяваны (без змен пакінута толькі апсіда). Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай апсіды. Сцены фасадаў абліцаваны бутавым каменем, архітэктурныя дэталі (ліштвы, карнізы, вуглы пілястраў) пабелены. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю. Зала расчлянёна 2 радамі слупоў на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты драўляным падвесным цыліндрычным скляпеннем, у бакавых нефах столь драўляная плоская, у апсідзе перакрыцце цаглянае — конха. Ва ўсходняй частцы бакавых нефаў размешчаны на $^1/_2$ вышыні залы 2 сакрысціі з галерэямі. Уздоўж заходняй сцяны — хоры. Інтэр'ер упрыгожваюць 7 драўляных неагатычных разных алтароў работы мясцовых майстроў, разныя разеткі і арнаментальна-геральдычны жывапіс.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*С. А. Друшчыц, Л. В. Трэпет.*



983. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

989. **МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ НЁМАНА ВОІНАМІ 64-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ Ў 1944 г.** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі.

14.7.1944 г. воіны 433-га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту фарсіравалі р. Нёман. За мужнасць і гераізм, праяўленыя пры фарсіраванні ракі і ў баях за плацдарм, званне Героя Савецкага Саюза прысвоена: лейтэнанту С. З. Сухіну, сяржанту С. М. Калініну, малодшаму сяржанту І. І. Асіннаму, радавым М. С. Майдану, А. П. Нічыпарэнку, Ц. І. Салопенку, І. Р. Шарамету.

У 1976 г. на месцы фарсіравання ракі пастаўлена стэла.

990. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы на скрыжаванні вуліц К. Лібкнехта і Камсамольскай. На ўшанаванне памяці 66 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

991. **ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ 64-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст.). У скверы насупраць школы. У гонар воінаў 64-й стралковай дывізіі 49-й



988. *Касцёл Ганны. Галоўны фасад.*

арміі 2-га Беларускага фронту, якія 14.7.1944 г. аднымі з першых фарсіравалі Нёман, захапілі плацдарм на заходнім беразе ракі і на працягу сутак адбілі 12 контратак гітлераўцаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**992. ПОМНІК ШАРАМЕТУ** Івану Рыгоравічу (гіст.). У двары сярэдняй школы. Бюст Героя Савецкага Саюза І. Р. Шарамета, імя якога носіць школа, устаноўлены ў 1973 г.

**в. Малькавічы, цэнтр сельсавета**

**993. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 53 воіны, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**994. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну і ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Маскалі, Галубоўскі сельсавет**

**995. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на мысе, каля балота. Пляцоўка прамавугольная, памерам 88×85 м, вельмі пашкоджана (раней тут быў хутар). Захаваліся 2 вуглавыя выступы і рэшткі валоў. Выявіў і абследаваў у 1963—64 гг. В. Р. Супрун. Знойдзена ганчарная кераміка. Датуецца 11—12 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.



**991.** *Помнік у гонар воінаў 64-й стралковай дывізіі.*

**в. Мікелеўшчына, цэнтр сельсавета**

**996. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельскага Савета. Воін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне яго памяці, а таксама 12 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мілявічы, Курылавіцкі сельсавет**

**997. КУРГАН СЛАВЫ, МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Насупраць будынка праўлення калгаса «Маяк». На ўшанаванне памяці 88 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. насыпаны Курган Славы. У 1975 г. пры рэканструкцыі помніка побач з ім выяўлены астанкі 2 савецкіх воінаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. устаноўлены надмагіллі.

**998. МАГІЛА ДЗЕРГАЧОВА** (гіст.). На могілках. Чырвонаармеец Дзергачоў загінуў у 1939 г. у час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. У 1939 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мінявічы, Глядавіцкі сельсавет**

**999. РАДЗІМА ЯВАРА** Міхася (гіст.). Беларускі паэт М. Явар (Міхаіл Андрэевіч К а р а с ь) нарадзіўся ў 1903 г. у сялянскай сям'і. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху працоўных Заходняй Беларусі праследаваўся ўладамі буржуазнай Польшчы. Друкаваўся ў «Беларускай газеце», часопісе «Шлях моладзі», некаторыя вершы распаўсюджваліся вусна і ў рукапісах. Асноўная тэма яго творчасці — любоў да роднага краю, да чалавека працы, пратэст супраць цяжкага становішча працоўных, сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. М. Явар памёр 24.6.1933 г.

**в. Монькавічы, Курылавіцкі сельсавет**

**1000. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам клуба. На ўшанаванне памяці 35 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мяхоўск, Курылавіцкі сельсавет**

**1001. ЗЕМЛЯНОЕ ЎМАЦАВАННЕ** (археал.). Мясцовая назва Т у р э ц к і  в а л. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Круглы ў плане вал вышынёй да 2 м, шырынёй 8—10 м, вакол пляцоўкі дыяметрам каля 30 м. Выявіў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1982 г. А. М. Гутоўскі. Культурны пласт на пляцоўцы і на прылеглай да яе тэрыторыі не прасочаны. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Навасёлкі, Лунненскі сельсавет**

**1002. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 0,7 км на захад ад вёскі, на невялікім узвышшы сярод поля. Захавалася 60 магіл з падчасанымі надмагільнымі плітамі і тарцом пастаўленымі плоскімі камянямі. Выявіла і абследавала ў 1982 г. А. В. Квяткоўская, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.



988. *Касцёл Ганны. Інтэр'ер.*



997. *Курган Славы. Магілы савецкіх воінаў.*

**в. Навасёлкі, Малькавіцкі сельсавет**

**1003. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на мысе левага берага р. Зальвянка пры зліцці яе з Нёманам. Захаваліся нязначныя рэшткі вала. Выявіў і абследаваў у 1957—58 гг. Л. С. Клейн, абследавала ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч. Знойдзены абломкі ганчарнай керамікі з дамешкай жарствы ў гліне. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

**в. Навінка, Мастоўскі сельсавет**

**1004. ПОМНІК У ГОНАР ВОІНАЎ 323-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, злева ад шашы Масты — Слонім. У ліпені 1944 г. воіны 1090-га стралковага палка 323-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту вялі баі за вызваленне г. Масты. У гэтых баях вызначыўся сяржант В. П. Жукаў (гл. артыкул № 954 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»). У 1975 г. у гонар воінаў дывізіі ўстаноўлена стэла.

**в. Парфёнавічы, Пацавіцкі сельсавет**

**1005. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 31 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пацавічы, цэнтр сельсавета**

**1006. МАГІЛА ЧАРМЯІНАВА** Пятра Дзмітрыевіча, **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Малодшы лейтэнант Чырвонай Арміі П. Дз. Чармяінаў загінуў 13.7.1944 г. у баі за вызваленне вёскі. На ўшанаванне яго памяці, а таксама 8 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пескі, цэнтр сельсавета**

**1007. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган.

**1008. ПОМНІК МАРОЗАВУ** Паўліку (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Бюст піянера, удзельніка барацьбы з кулацтвам у перыяд калектывізацыі сельскай гаспадаркі Паўліка (Паўла Трафімавіча) Марозава ўстаноўлены ў 1968 г.

**1009. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1009а.** Селішча-1. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на высокім левым беразе р. Зальвянка. Выявіў у 1976 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1978 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,65 м перакрыты (да 0,4 м) наносным пяском. Знойдзены абломкі ганчарных гаршкоў, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1009б.** Селішча-2. За 0,2 км уверх ад моста, на правым беразе р. Зальвянка. Выявіла і абследавала ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследавалі ў 1973 г. П. Ф. Лысенка, у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,2—0,6 м прасочваецца ўздоўж ракі на адлегласці 150 м. Знойдзены фрагменты ляпных і ганчарных пасудзін з дамешкай жарствы ў гліне. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962; Зверуго Я. Г. Исследования в Понеманье.— У кн.: Археологические открытия 1978 года. М., 1979. *Я. Г. Звяруга.*



1000. *Помнік землякам.*



1004. *Помнік у гонар воінаў 323-й стралковай дывізіі.*

**1010. СТАЯНКІ** (археал.).

**1010а.** Стаянка-1. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, за 0,3 км ад упадзення ў р. Зальвянка р. Мутвіца, на пясчанай дзюне. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,1 м. У месцы выдзімання пяску сабраны крамянёвыя прылады каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1010б.** Стаянка-2. За 3 км на паўночны захад ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы р. Зальвянка, ва ўрочышчы Гай. Выявіў і абследаваў у 1969 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,5 м знойдзены крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, разнастайныя разцы, рэжучыя прылады, фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да нёманскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1010в.** Стаянка-3. За 3,5 км на паўночны захад ад вёскі, каля старыцы, на мысе правабярэжнай тэрасы р. Зальвянка. Выявіў і абследаваў у 1969 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты керамікі нёманскай культуры. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Пілкі, Гудзевіцкі сельсавет**

**1011. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі перад будынкам ся-

рэдняй школы. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (16 загінулі на фронце, 4 расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі), у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1012. ПОМНІК КАРБЫШАВУ** Дзмітрыю Міхайлавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Дз. М. Карбышава. Бюст савецкага военачальніка, генерал-лейтэнанта інжынерных войск Дз. М. Карбышава ўстаноўлены ў 1979 г. Гл. таксама артыкул № 63 «Помнік Карбышаву Дзмітрыю Міхайлавічу».

**в. Правыя Масты, цэнтр Мастоўскага сельсавета**

**1013. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з канторай саўгаса «Мастоўскі». На ўшанаванне памяці 33 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Радзявічы, Гудзевіцкі сельсавет**

**1014. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Барысаўшчына. Пахаваны 4 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. Сярод пахаваных — палкоўнік Лысенка. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1015. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць Дома культуры. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Раўкі, Харціцкі сельсавет**

**1016. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Руда Ліпічанская, Галубоўскі сельсавет**

**1017. РАДЗІМА БЕЛУША** Міхаіла Андрэевіча (гіст.).

Удзельнік партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. у Вялікую Айчынную вайну М. А. Белуш нарадзіўся ў 1924 г. Член ВЛКСМ. У партызанах з мая 1943 г., радавы атрада «Кастрычнік» партызанскай брыгады Першамайскай. Падарваў 8 варожых эшалонаў. 16.6.1944 г. у баі за в. Купіск Навагрудскага р-на закрыў сваім целам амбразуру дота.

На ўшанаванне памяці М. А. Белуша ў 1976 г. перад будынкам Руда-Ліпічанскай школы пастаўлена стэла, на месцы гібелі — абеліск. Яго імем названы вуліцы ў Гродне і Мастах.

**в. Рыбакі, Зарудаўеўскі сельсавет**

**1018. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва З а м ч ы ш ч а, або Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на высокім (7—8 м) беразе старыцы р. Нёман. Пляцоўка прамавугольная, памерам 120×80 м, з паўночнага захаду па краі ўмацавана валам вышынёй 1—1,5 м, шырынёй 8—10 м. За валам роў шырынёй да 12 м, адмяжоўвае гарадзішча ад прыроднага ўзвышша. З паўднёвага захаду і паўднёвага ўсходу каля падножжа ёсць вонкавы вал вышынёй 1—4 м, шырынёй 6—15 м. За ім прасочваецца роў глыбінёй да 2,5 м, шырынёй да 10 м. Уезд на гарадзішча знаходзіцца з поўдня, з унутранага боку прыкрываецца дадатковым дугападобным валам вышынёй 0,8—1,2 м, даўжынёй 40 м, шырынёй 7—9 м. Выявіў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973 г. П. Ф. Лысенка, у 1984 г. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт выражаны слаба. Зрэдку трапляюцца абломкі ганчарнай керамікі, цэглы і камяні са слядамі раствору. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— Вильна, 1895; Г у р е в и ч Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Я. Г. Зверуга.*

**1019. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на захад ад паўночнай ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Выщерабак. 4 курганы вышынёй каля 2 м, дыяметрам каля 10 м. Абследавалі ў 1958 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Самуйлавічы Дольныя, Пацавіцкі сельсавет**

**1020. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 жыхароў вёскі Самуйлавічы Горныя, якія былі расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 10.4.1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Семярэнкі, Гудзевіцкі сельсавет**

**1021. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 савецкіх воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стральцы, Глядавіцкі сельсавет**

**1022. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 2 савецкія воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На ўшанаванне іх памяці, а таксама памяці 23 аднавяскоўцаў, што аддалі жыццё ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Струбніца, Пескаўскі сельсавет**

**1023. ТРОЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на высокім узгорку. Пабудаваны ў 1740 г. з дрэва, мураваныя брама і двух'ярусная званіца — у 1856 г. Дэкор інтэр'ера выкананы ў 1798—99 гг.



**1026.** *Помнік землякам.*

Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прымыкаюць пяціграняная апсіда з сакрысціямі з усходу, бабінец і 2 вуглавыя вежы з захаду (завяршэнні вежаў не захаваліся). Сцены ашаляваны і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Асноўны аб'ём і апсіда накрыты адным двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Галоўны фасад завершаны высокім франтонам з вежачкай. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю — бабінец, прамавугольная зала, глыбокая пяціграняная апсіда. Хоры з арганам адкрыты ў залу паўцыркульным праёмам. 3 разныя алтары з драўлянай скульптурай, выкананай у традыцыях барока. Найбольш багата аформлены трох'ярусны галоўны алтар (у апсідзе). Невысокі першы ярус алтара дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой расліннага арнаменту. Бакавыя алтары ўпрыгожаны паліхромнай і пазалочанай скульптурай, накладной разьбой. Сцены дэкарыраваны фрызам, арнаментальным і сюжэтным жывапісам, выкананым у тэхніцы грызайль.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока.

*С. А. Друшчыц, Л. Г. Лапцэвіч, Л. В. Трэпет.*

**в. Сухінічы, Дубненскі сельсавет**

**1024. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 125 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызанкі з аўтаматам.

**в. Харціца, цэнтр сельсавета**

**1025. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**в. Чарлёна, Харціцкі сельсавет**

**1026. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 1 км ад вёскі, на скрыжаванні дарог Гродна — Масты — Лунна. Пастаўлены ў 1968 г. на ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

На невысокім узгорку ўстаноўлена стэла асіметрычнай формы. У яе правай частцы — барэльефныя паплечныя выявы 2 воінаў у касках. Побач высечаны надпіс «1941—1945». Злева ад стэлы пастаўлена бетонная пліта з імёнамі загінуўшых. На ўзгорак вядзе шасціступеньчатая лесвіца. Пляцоўка, дзе ўстаноўлены помнік, выкладзена бетоннымі плітамі. Навокал узгорка высаджаны дрэвы і кусты.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Чарлёнка, Малькавіцкі сельсавет**

**1027. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Гліпішча. 3 курганы вышынёй 0,3—0,8 м, дыяметрам 5—6 м. Адкрыў у 1963 г. і абследаваў у 1964 г. В. Р. Супрун. У 1974 г. абследаваў П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1028. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 81 жыхар вёсак Чарлёнка, Малькавічы, Курылавічы, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 17.12.1942 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.



1029. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ахвяр фашызму.*

**в. Шчара, Курылавіцкі сельсавет**

**1029. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны і мірныя жыхары, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. 17.12.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 85 жыхароў, вёску (32 двары) спалілі. У 1960 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шымкі, Галубоўскі сельсавет**

**1030. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскіх атрадах змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў больш за 4 тыс. жыхароў Мастоўскага р-на. На франтах загінулі 958, у партызанскай барацьбе супраць ворага — 114 чалавек. Гітлераўскія карнікі ў 1941—44 гг. загубілі 2681 мірнага жыхара раёна, разрабавалі 16 калгасаў, спалілі 13 вёсак і 806 сялянскіх двароў. Восенню 1942 г. фашысцкія варвары знішчылі вёскі Баяры, Задвор'е, Шчара, Шымкі разам з 583 жыхарамі.

У вызваленні раёна ад гітлераўцаў у ліпені 1944 г. прымалі ўдзел воіны 64-й стралковай дывізіі 49-й арміі, 323-й, 348-й стралковых дывізій 3-й арміі 2-га Беларускага фронту і партызанскія брыгады, якія дзейнічалі ў раёне Ліпічанскай пушчы.




1030. *Мемарыяльны комплекс савецкім воінам, партызанам і ахвярам фашызму.*

У 1981—83 гг. у гонар воінаў-вызваліцеляў, партызан і на ўшанаванне памяці жыхароў раёна — ахвяр фашызму ўзведзены мемарыяльны комплекс. Архітэктурная кампазіцыя мемарыяла разгорнута на тэрасах берагавой пляцоўкі р. Нёман. У размяшчэнні элементаў комплексу выкарыстаны маляўнічая асіметрычнасць. Асноўны акцэнт помніка — гарызантальная бетонная стэла з асіметрычна ўстаноўленым абеліскам. Размешчаная ў глыбіні комплексу, яна лагічна завяршае каскад 15 бетонных блокаў па баках пляцовак. На плоскасці галоўнай стэлы — выявы мірных жыхароў (старыя, жанчыны і дзеці). Злева ад абеліска — 3 барэльефныя выявы воінаў і партызана. Перад стэлай устаноўлены бетонны блок з скошанымі краямі, на якім імёны загінуўшых, перад абеліскам — шэры бетонны блок, на плоскасці якога звесткі аб стратах раёна ў вайне.

*В. М. Баскова, А. М. Кулагін.*

**1031. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКІХ АТРАДАЎ «ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЙСКІ» І «КАМСАМОЛ БЕЛАРУСІ»** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну ў нізоўі р. Шчара базіраваліся атрады «Чырвонагвардзейскі» Ленінскай партызанскай брыгады і «Камсамол Беларусі» брыгады імя Кастуся Каліноўскага.

Атрад «Чырвонагвардзейскі» створаны ў снежні 1943 г. з часткі асабовага складу брыгады Ленінскай. Камандзір атрада І. Дз. Калашэйнаў, камісары І. М. Глазкоў, В. С. Каладзінскі (з чэрвеня 1944 г.). На дзень злучэння (ліпень 1944 г.) з часцямі Чырвонай Арміі атрад налічваў 196 партызан.

Атрад «Камсамол Беларусі» брыгады імя Кастуся Каліноўскага арганізаваны ў савецкім тыле ў сакавіку 1943 г. паводле загада Беларускага штаба партызанскага руху. У красавіку 1943 г. дэсантаваны ў Івянецкую пушчу. Атрад (да 3.1.1944 г. называўся «Кузнецкія металургі») дзейнічаў самастойна, потым у складзе партызанскай брыгады «Пралетарыят» (з 20.12.1943 г. брыгада імя Кастуся Каліноўскага). Камандзіры атрада М. К. Вайцяхоўскі (сакавік — лістапад 1943 г.), А. Я. Андрэеў (з лістапада 1943 г.), камісары А. Я. Андрэеў (сакавік — лістапад 1943 г.), К. Дз. Бандароўскі (лістапад 1943 г.— люты 1944 г.; загінуў), А. М. Трызна (з лютага 1944 г.). На дзень злучэння (жнівень 1944 г.) з часцямі Чырвонай Арміі атрад налічваў 124 партызаны.

У 1980 г. на месцы базіравання атрадаў «Чырвонагвардзейскі» і «Камсамол Беларусі» пастаўлена стэла, адноўлена партызанская зямлянка.

*В. М. Баскова.*




# НАВАГРУДСКІ РАЁН

Ацмінава
Зенявічы
Дзяляцічы
Вераскава
Бенін
Любча
Бор
Уселюб
Налібакі
Гнесічы
Асташына
Лаўрышава
Масцішча
Макрэц
Нягневічы
Харосіца
Ладзенікі
Куравічы
Пятрэвічы
Шчорсы
Гарадзечна
Брольнікі
Мітраполь
НАВАГРУДАК
Кміцянка
Ваўкавічы
Рутка 1-я
Неўда
Кашалёва
Багудзенка
Валеўка
Заполле
Ятра

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XVII. НАВАГРУДАК

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на Навагрудскім узвышшы. За 162 км на ўсход ад Гродна, 24 км ад чыгуначнай станцыі Наваельня на лініі Ліда — Баранавічы. Аэрапорт.

Паводле археалагічных звестак паселішча ўзнікла ў канцы 10 ст. як умацаванне на граніцы з Літвой (некаторыя даследчыкі лічаць годам заснавання 1116 г.). Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. (летапісны Новогород, Новгородок). Быў рэзідэнцыяй вялікага князя Літоўскага Міндоўга, які тут каранаваўся ў 1253 г., прыняў тытул караля. У 13—14 стагоддзях цэнтр удзельнага Навагрудскага княства на Чорнай Русі. У 13 ст. Навагрудак неаднаразова пераходзіў ад літоўскіх да галіцка-валынскіх князёў і наадварот. Горад і яго ваколіцы часта падвяргаліся разбурэнню, а замак асадзе. На горад нападалі татары ў 1255, 1274 і 1278 гг., крыжакі ў 1314, 1321, 1341, 1391 і 1394 гг. У 2-й палове 13 ст. увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага.

Як цэнтрам удзельнага княства Навагрудкам валодалі вялікі князь Трайдэн (канец 13 ст.), з 1341 г. Карыят Міхал Гедымінавіч, яго сын Фёдар, з канца 14 ст. Дзмітрый Альгердавіч Карыбут. Пасля 1394 г. горад стаў адным з цэнтраў велікакняжацкага дамена. У 1428 г. вялікі князь Вітаўт перадаў Навагрудак у пажыццёвае ўладанне (да 1448 г.) сваёй жонцы Ульяне. Горад заставаўся адным са значных і буйных гарадоў Вялікага княства Літоўскага, што было засведчана велікакняжацкім прывілеем у 1441 г. Тут праводзіліся ў 1448, 1508 і 1538 гг. сеймы Вялікага княства Літоўскага. У канцы 14 — пачатку 15 ст. Вітаўт пасяліў у горадзе татар, якія пабудавалі мячэць (не зберараглася).

З 1416 г. Навагрудак — рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта Вялікага княства Літоўскага (у 1568 г. у ім было 10 праваслаўных цэркваў), у 16 ст.— адзін з цэнтраў рэфармацыйнага руху на Беларусі, пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. рэзідэнцыя уніяцкіх мітрапалітаў Рэчы Паспалітай.

З 1507 г. Навагрудак — цэнтр ваяводства, тут адбываліся сеймікі, засядалі замкавы (гродскі), земскі і падкаморскі суды, з 1581 г.— сесіі Галоўнага літоўскага трыбунала. У 1511 г. горад атрымаў магдэбургскае права, але частка яго належала да замкавай юрыдыкі. У пачатку 16 ст. крымскія татары неаднаразова рабілі напады на Навагрудак, але ўзяць яго не змаглі. Найбольш жорсткімі былі баі пры асадзе горада і замка ў 1505 г. У 1535 г. часова заняты рускімі войскамі.



**XVII.** *Навагрудак у канцы 18 ст. З акварэлі Ю. Пешкі.*

У канцы 15 ст. у Навагрудку налічвалася 3—4 тыс. жыхароў, у 16 — пачатку 17 ст.— ад 2 да 5 тыс., у 18 ст.— каля 3 тыс., у канцы 18 ст.— 394 дамы і 2364 жыхары. Горад пацярпеў у час руска-польскай вайны 1654—67 гг.; у верасні 1655 г. штурмам узяты войскам князя А. Н. Трубяцкога, большая частка горада згарэла. У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведскія войскі штурмам авалодалі (1706 г.) замкам і разбурылі яго (не адбудаваны). У гарадскіх хроніках адзначаны вялікі пажар 8.5.1751 г., калі згарэлі 167 дамоў, ратуша, крамы, канцылярыя ваяводы і 4 касцёлы. З 2-й паловы 18 ст. у горадзе працавала гімназія (закрыта пасля паўстання 1863—64 гг.).

Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Навагрудак з 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1807—15 гг. у дамініканскай школе ў Навагрудку вучыўся Адам Міцкевіч. У 19 — пачатку 20 ст. горад — невялікі адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр. У 1825 г. было 15 мураваных і 399 драўляных дамоў, 3679 жыхароў, у 1854 г.— 23 мураваныя і 415 драўляных дамоў, 91 крама, некалькі цагельняў і піваварняў.

У час паўстання 1863—64 гг. у наваколлі Навагрудка дзейнічалі паўстанцкія атрады. У 1897 г. у горадзе 7887 жыхароў, у 1914 г.— 9,4 тыс. У пачатку 20 ст. адбывалася 6 кірмашоў штогод, у 1904 г. дзейнічалі 3 фабрыкі, на якіх працавала 49 рабочых, а таксама 5 рамесных майстэрняў (48 рамеснікаў). З верасня 1915 г. Навагрудак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У 1918 г. дзейнічала падпольная бальшавіцкая арганізацыя. 27.12.1918 г. вызвалены Чырвонай Арміяй, была ўстаноўлена Савецкая ўлада. 18.4.1919 г. Навагрудак захапілі войскі буржуазнай Польшчы. 19.7.1920 г. у горадзе зноў устаноўлена Савецкая ўлада, дзейнічаў павятовы ВРК. 1.10.1920 г. горад захапілі войскі буржуазнай Польшчы. Паводле Рыжскага прэлімінарнага мірнага дагавора 12.10.1920 г. і Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр Навагрудскіх павета і ваяводства. Дзейнічаў акруговы камітэт КПЗБ, пад кіраўніцтвам якога праводзіліся дэманстрацыі і забастоўкі працоўных. У 1921 г. у Навагрудку 6376 жыхароў.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Навагрудак з снежня 1939 г. у складзе Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 г.— раённы цэнтр. З 4.7.1941 г. да 8.7.1944 акупіраваны нямецка-фашысцкімі войскамі, якія загубілі ў горадзе і яго ваколіцах больш за 28 тыс. чалавек, знішчылі каля 60 % жыллёвага фонду, прадпрыемствы. На тэрыторыі Навагрудскага р-на дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (13.6.1943 г.— 6.7.1944 г.) і ЛКСМБ (верасень 1942 г.— 6.7.1944 г.). З 8.1.1954 г. Навагрудак — цэнтр раёна ў складзе Гродзенскай вобл., з 7.3.1963 г. горад абласнога падпарадкавання.

Сучасны Навагрудак у сваёй цэнтральнай частцы захаваў гістарычную планіроўку. У 12 ст. тут былі дзядзінец, вакольны горад і пасад. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляўся ўмацаваны замак і гандлёвая плошча каля Замкавай гары. Сістэму вуліц вызначылі гандлёвыя шляхі, якія падыходзілі да горада і сыходзіліся на ганд-



XVII. *Фрагмент забудовы вуліцы 1 Мая.*

лёвай плошчы, дзе размяшчаліся крамы. У 12—13 стагоддзях на тэрыторыі вакольнага горада вылучаўся квартал з двухпавярховымі жылымі дамамі рамеснікаў. Большасць дамоў (плошча каля 75 м²) мела чарапічныя дахі, зашклёныя вокны, атынкаваныя сцены інтэр'ера з фрэскавай размалёўкай (захавалася выява галавы мужчыны ў княжацкай шапцы). Дамы чэлядзі былі зрубнай канструкцыі (каля 30 м²), мелі глінабітныя печы на камянях. Сярод драўлянай забудовы вылучаліся мураваныя культавыя будынкі: царква, закладзеная ў 12 ст. (з 16 ст.— Барысаглебская), і касцёл, закладзены на мяжы 14—15 стагоддзяў. У 17 ст. пабудавана сінагога, у 18 ст.— мураваныя францысканскі і дамініканскі кляштары. Пасля ўз'яднання з Расіяй праекты рэгулярнай планіроўкі былі складзены ў 1809 і 1872 гг. (ажыццёўлены часткова).

Архітэктурна-планіровачным цэнтрам сучаснага горада з'яўляецца пл. Леніна (былая Гандлёвая). Галоўныя вуліцы радыяльнага напрамку сыходзяцца на пл. Леніна. З паўднёвага боку да яе вядуць вуліцы Леніна, Савецкая, Міцкевіча, з заходняга — Гродзенская, з паўночнага — Паштовая і Замкавая, з усходняга — 1 Мая і Мінская. Асноўныя вуліцы злучаны папярочнымі паўкальцавымі. На паўночна-ўсходнім баку пл. Леніна знаходзяцца жылыя дамы 18—19 стагоддзяў і крамы (вул. Мінская), з усходняга — мемарыяльны сквер, у якім магіла невядомага салдата. На паўднёвым баку панараму плошчы замыкае Міхайлаўскі касцёл (18 ст.). Жылая забудова канца 19 — пачатку 20 ст. захавалася на вуліцах Замкавай і Паштовай. У цэнтральнай частцы горада ёсць шэраг помнікаў архітэктуры 16—19 стагоддзяў, якія займаюць значнае месца ў гісторыі архітэктуры Беларусі: Барысаглебская царква, фарны касцёл, кляштар францысканцаў. У 1920—30 гг. на вул. Малы замак насыпаны Курган Бессмяротнасці на ўшанаванне памяці А. Міцкевіча.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны горад адбудоўваўся і рэканструяваўся паводле генеральнага плана 1964 г., распрацаванага ў інстытуце «Белдзяржпраект». У 1972 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва складзены новы генеральны план, які прадугледжвае рэгуляванне планіровачнай структуры, стварэнне кальцавых вуліц, захаванне помнікаў архітэктуры.

Сучасны агульнагарадскі цэнтр, акрамя пл. Леніна, уключае зону вул. Міцкевіча, дзе знаходзяцца асноўныя адміністрацыйныя будынкі гаркомаў КПБ і ЛКСМБ, райвыканкома, гарвыканкома. Капітальная жылая забудова размешчана на вуліцах Леніна, Міцкевіча, Савецкай, на ўскраінах — індывідуальная драўляная. У 1960—70 гг. на вул. Савецкай пабудаваны жылы дом з магазінам «Юбілейны», жылы дом з магазінам «Дружба», кафэ «Маладзёжнае», вучэбны корпус сельгастэхнікума, на вул. Міцкевіча — два 60-кватэрныя жылыя дамы, кінатэатр «Звязда», будынак гандлёва-эканамічнага тэхнікума і інш. Сучаснае жыллёвае будаўніцтва вядзецца ў заходняй (мікраражн Раднікі), у паўднёва-ўсходняй (мікраражн Касмаўтаў) частках горада і ў паўднёва-заходнім мікраражне, дзе ствараюцца жылыя комплексы з самастойнымі цэнтрамі абслугоўвання.

Асноўныя прадпрыемствы: завод газавай апаратуры, металаапрацоўчае вытворчае аб'яднанне, заводы сухога абястлушчанага малака, агародніна-сушыльны, млынакамбінат, хлебазавод, фабрыкі швейная і валюшна-лямцавая, вытворчыя ўчасткі Лідскага піўзавода і Наваельненскага камбіната хлебапрадуктаў, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. У горадзе ёсць сельгастэхнікум і гандлёва-эканамічны, прафесійна-тэхнічнае вучылішча, 8 агульнаадукацыйных школ усіх відаў, музычная і 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, 10 дашкольных устаноў, 2 кінатэатры, 4 бібліятэкі, 4 клубныя ўстановы, раённы Дом культуры, гарадскі Дом піянераў і школьнікаў, станцыя юных тэхнікаў і натуралістаў, дзіцячая турысцкая база, вучэбна-вытворчы камбінат, Дом-музей А. Міцкевіча, філіял Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобл., раённая бальніца, 2 дыспансеры, радзільны дом, паліклініка, мэтэастанцыя. Выдаецца газета «Новае жыццё». Помнікі: У. І. Леніну, Адаму Міцкевічу, Якубу Коласу, на брацкай магіле чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1939 г., на магілах савецкіх воінаў і партызан, на магіле невядомага салдата, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на магілах ахвяр фашызму і інш.

Зоны адпачынку — гарадскі парк, азёры Літоўка і Свіцязь.

*Літ.*: Живописная Россия. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад — окольный город.— Л., 1981; Казачонак І. І. Навагрудак: Старонкі гісторыі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1970, № 4; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVII стст.— Мн., 1978. *А. П. Грыцкевіч, Т. І. Чарняўская.*

**1032. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Вул. Міцкевіча, 11. Пабудаваны ў 1930-я гады з цэглы як ваяводскае ўпраўленне. Цяпер тут размешчаны выканком раённага Савета народных дэпутатаў. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак на цокалі. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана рызалітам з трохвугольным шчытом складанага абрысу і арачным парталам. Унутраная планіроўка калідорная.

Будынак — помнік архітэктуры з элементамі эклектыкі.

**1033. БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Паштовай. Пабудавана ў 1519 г. (паводле некаторых

звестак у 1517 г.) на месцы старажытнага храма 12 ст., змураванага з вапняковых кубоў і плінфы. У 14 ст. пры храме існаваў мужчынскі праваслаўны манастыр, з 1624 г.— жаночы, з 1628 г.— мужчынскі манастыр базыльян. З 1839 г. праваслаўная царква.

Царква 16 ст.— трохнефавае чатырохслуповае зальнае збудаванне ў стылі готыкі. Асноўны яе аб'ём завяршала ў заходняй частцы пяцісценная апсіда. Сцены былі ўмацаваны гранёнымі контрфорсамі. У інтэр'еры скляпенні на нервюрах (захаваліся пры пазнейшых перабудовах храма). Царква мела своеасаблівую дэкаратыўную аздобу ў стылі рэнесансу — сетку скрыжаваных стральчатых арачак, выкананых са спецыяльнай фасоннай цэглы (захавалася на бакавых фасадах і апсідзе).

Да 1632 г. завершана перабудова храма: быў разабраны галоўны фасад і пабудаваны новы з 2 абарончымі вежамі. У 18 ст. у інтэр'еры зроблены мураваны іканастас. У 1866 г. распрацаваны праект перабудовы храма, які быў ажыццёўлены ў 1873—75 гг. толькі часткова: разабрана цэнтральнае скляпенне, над храмам пастаўлены драўляны светлавы барабан з галоўкай, перабудаваны галоўны фасад (прыбудаваны прытвор, зменены завяршэнні вежаў), двухсхільны дах заменены чатырохсхільным. У 1923—24 гг. храм зноў рэканструяваны: замест драўлянага барабана з галоўкай адноўлена першапачатковае скляпенне, умацаваны фундамент царквы.

Пасля перабудоў храм — прамавугольны аб'ём, у паўночнай частцы завершаны пяцісценнай апсідай, у заходняй — невысокім прытворам. Галоўны фасад з 2 вежамі (прамавугольныя ў аснове і васьмерыковыя ўверсе), якія значна выступаюць за межы асноўнага аб'ёму. Храм ступеньчатага абрысу: самыя высокія часткі — васьміграннья ярусы вежаў, накрытыя шатровымі галоўкамі; больш нізкі асноўны аб'ём пад чатырохсхільным дахам; апсіда крыху ніжэйшая за асноўны аб'ём, накрыта шматсхільным дахам; самая нізкая частка — прытвор мае двухсхільны дах. Галоўны (заходні) фасад пасля перабудоў 19 ст. набыў рысы псеўдарускага стылю. Бакавыя фасады чляnёны пілястрамі, высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі. Паміж пілястрамі тонкія вертыкальныя цягі, якія ўверсе пераходзяць у шырокі аркатурны пояс.

Царква — помнік архітэктуры, у якім захаваліся асобныя элементы готыкі і рэнесансу.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Малоизвестные зальные сооружения Белоруссии конца XV — начала XVI в.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1967, в. 16.
*Т. І. Чарняўская.*

**1034. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). Вул. Камсамольская, на могілках. Пахаваны 8 чырвонаармейцаў з кавалерыйскага корпуса пад камандаваннем А. І. Яроменкі, якія загінулі 18.9.1939 г. у час вызваленчага паходу савецкіх войск у Заходнюю Беларусь. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1035. ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ** (архіт.). Вул. Мінская, 3. Пабудаваны ў 1812 г. з цэглы. Рэстаўрыраваны і часткова перабудаваны ў 1953 г. (зменены ўнутраная планіроўка, часткова галоўны фасад, каланада абліцавана дэкаратыўнай керамічнай пліткай). Цяпер выкарыстоўваюцца як гандлёвая ўстанова.

У плане будынак мае форму выцягнутай трапецыі. Накрыты двухсхільным дахам з трохвугольнымі франтонамі на тарцах і ў цэнтры падоўжных фасадаў. Мае цэнтральны



**1033.** *Барысаглебская царква. Аксанаметрыя.*



**1033.** *Барысаглебская царква. Падоўжны разрэз.*



**1033.** *Барысаглебская царква. План.*



**1033.** *Барысаглебская царква. Бакавы фасад.*



1034. *Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў.*

і 2 бакавыя ўваходы. Галоўны (паўднёвы) фасад прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уздоўж галоўнага фасада будынка абходная галерэя, утвораная дарычнай каланадай. Унутры — гандлёвая зала (займае большую частку аб'ёму будынка) і 2 невялікія складскія памяшканні (у заходнім тарцы).

Гандлёвыя рады — помнік архітэктуры класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**1036. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЎ АДАМ МІЦКЕВІЧ** (гіст., архіт.). Вул. Леніна, 1, у скверы.

У 1804 г. бацька А. Міцкевіча купіў у Навагрудку сядзібу, дзе паставіў драўляны дом, які ў 1807 г. згарэў. На яго месцы быў пабудаваны новы, цагляны. Тут прайшлі дзіцячыя гады А. Міцкевіча. У 1881 г. будынак моцна пашкоджаны пажарам. Адноўлены ў 1887 г.

Паводле загада Навагрудскага павятовага ВРК ад 16.9.1920 г. дом узяты пад ахову дзяржавы. У 1931 г. на будынку была ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у чэрвені 1934 г. арганізаваны музей. 11.9.1938 г. Дом-музей А. Міцкевіча прыняў першых наведвальнікаў. У Вялікую Айчынную вайну музей разбураны нямецка-фашысцкімі акупантамі, экспанаты разрабаваны. Адноўлены і зноў адкрыты ў снежні 1955 г.

Мураваны аднапавярховы будынак прамавугольны ў плане. Уваход у цэнтры галоўнага фасада, вырашаны ў выглядзе тамбура, завершанага трохвугольным франтонам. На процілеглым фасадзе — службовы ўваход. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі і завершаны шырокім прафіляваным карнізам.

*Літ.:* Горский И. К. Адам Мицкевич.— М., 1955; Живов М. С. Адам Мицкевич: Жизнь и творчество.— М., 1956; Стахеев Б. Ф. Мицкевич и прогрессивная русская общественность.— М., 1955; Лойка А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура.— Мн., 1959; Дом-музей А. Мицкевича в Новогрудке: Путеводитель по залам.— 2 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1037. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЗАМКАВАЙ** (архіт.). Адна з старажытных вуліц горада, злучала замак з гандлёвай плошчай. Трасіроўка вуліцы адпавядае рэльефу мясцовасці; ад плошчы яна рэзка паніжаецца, потым разгаліноўваецца на 2 вуліцы — Замкавую і Малы Замак, якія агінаюць Замкавую гару. Вуліца не мае адзінага фронту забудовы, жылыя дамы размешчаны асобнымі групамі. Вылучаюцца дамы № 3, 7, 9, 13, 15, пабудаваныя ў 2-й палове 19 ст., што ствараюць адзіную кампазіцыю.

Дом № 3. Двухпавярховы мураваны будынак, у плане выцягнуты прамавугольнік, накрыты вальмавым дахам. Сцены гладкія, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на 2-м паверсе — рамныя абрамленні. З-за рознасці ўзроўняў рэльефу будынак у тарцовай частцы мае цокальны паверх, умацаваны масіўнымі вуглавымі контрфорсамі. Планіроўка двухчасткавая. Першая частка аддзелена ад другой капітальнай сцяной; прызначалася пад жыллё і гандлёвую ўстанову (выходзіць на вул. Замкавую, раней мела асобны ўваход). Другая — калідорнай планіроўкі, прызначалася для муштуковай фабрыкі. У першай частцы размешчана лесвіца, што вядзе на 2-і паверх, які мае



1035. *Гандлёвыя рады.*



1035. *Гандлёвыя рады. План.*



1036. *Дом-музей А. Міцкевіча.*

асобны ўваход з боку падоўжанага дваровага фасада. Цяпер на 1-м і 2-м паверхах будынка адміністрацыйныя ўстановы.

Дамы № 7 і 9. Мураваныя будынкі з агульнай унутранай сцяной складаюць адзіны комплекс. Дом № 7 двухпавярховы, калідорнага тыпу: абапал цэнтральнага калідора размешчаны жылыя памяшканні, у канцы — лесвіца, якая вядзе на 2-і паверх. На 1-м паверсе частка памяшканняў адведзена пад гандлёвую ўстанову. Дом № 9 — аднапавярховы, планіроўка анфіладная, выкарыстоўваецца пад жыллё.

У архітэктуры абодвух будынкаў ёсць элементы класіцызму: шырокія прамавугольныя аконныя праёмы,



1037. *Дом № 3 па вуліцы Замкавай.*



1037. *Дом № 3 па вуліцы Замкавай. План 1-га паверха.*

прафіляваныя сандрыкі над вокнамі, карнізныя цягі, раскрапоўка вуглоў пілястрамі.

Дамы № 13 і 15. Мураваныя, аднапавярховыя, прамавугольныя ў плане. Утвараюць адзіны комплекс. Галоўныя тарцовыя фасады выходзяць на вул. Замкавую, завершаны трохвугольнымі шчытамі. Аконныя праёмы дома № 13 дэкарыраваны сандрыкамі. Выкарыстоўваюцца пад жыллё.

Жылыя дамы на вул. Замкавай — своеасаблівы архітэктурны ансамбль з рысамі позняга класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*

**1038. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ПАШТОВАЙ** (архіт.). Вуліца з паўночнага боку прымыкае да пл. Леніна. Забудоўвалася жылымі і грамадскімі будынкамі ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Па сваёй архітэктуры вылучаюцца жылыя дамы № 3 і 9, а таксама будынак пошты (№ 4).



**1037.** *Дамы № 7 і 9 па вуліцы Замкавай.*



**1037.** *Дамы № 7 і 9 па вуліцы Замкавай. Планы.*



**1037.** *Дамы № 13 і 15 па вуліцы Замкавай.*

Дом № 3. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы, неатынкаваны. Аднапавярховы будынак з мансардай, у плане выцягнуты прамавугольнік. На вул. Паштовую выходзіць тарцовым (усходнім) фасадам. Капітальнай сцяной падзелены на 2 часткі — усходнюю і заходнюю, якія маюць самастойныя ўваходы. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, завершаны трохвугольным шчытом. У дэкоры выкарыстана фігурная муроўка.

Дом № 9. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. Будынак аднапавярховы, мураваны (заходняя сцяна драўляная), у плане выцягнуты прамавугольнік. Капітальнай мураванай сцяной падзелены на 2 часткі: заходнюю і ўсходнюю, якія маюць самастойныя ўваходы. Галоўны (усходні) фасад вырашаны лаканічна: прарэзаны 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершаны шырокім складанапрафіляваным карнізам і трохвугольным шчытом з вялікім паўцыркульным акном у цэнтры.

Дом № 4. Пабудаваны ў 1920-я гады як паштамт. Будынак двухпавярховы на цокалі. У плане выцягнуты прамавугольнік, складаецца з 2 частак, падпарадкаваных функцыянальнаму прызначэнню. Заходняя (паштовае аддзяленне) мае ўваход з боку галоўнага (тарцовага) фасада, усходняя (тэхнічнае аддзяленне) — з боку дваровага (паўночнага) фасада. Па вертыкалі галоўны фасад члянёны на 3 часткі. Цэнтральная вылучана атыкам з трыма праёмамі і лапаткамі. Лесвічная клетка з суцэльным зашкленнем. Бакавыя часткі прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на 2-м паверсе — балконы.

У жылых і грамадскіх збудаваннях выкарыстаны элементы эклектычнай архітэктуры.

*Т. І. Чарняўская.*



**1038.** *Дом № 4 па вуліцы Паштовай. План.*



**1038.** *Дом № 9 па вуліцы Паштовай. План.*

**1039. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ ЛЕНІНА** (архіт.). Гістарычны цэнтр горада (былая Гандлёвая пл.). У плане мае складаную шматвугольную форму. На яе выходзяць асноўныя гарадскія вуліцы радыяльнага напрамку (сучасныя вуліцы Гродзенская, Паштовая, Замкавая, 1 Мая, Мінская, Леніна, Савецкая, Міцкевіча). Плошча фарміравалася на працягу стагоддзяў як гандлёвая і забудоўвалася жылымі, гандлёвымі і культавымі будынкамі. Вылучаецца паўночная частка сучаснай плошчы — жылыя дамы № 4, 5, 9, 10, якія ствараюць адзіны ансамбль забудовы.

Дом № 4. Мураваны, аднапавярховы, з мансардай. Складаецца з 2 частак: паўднёвая квадратная ў плане, пабудавана ў 1-й палове 19 ст.; паўночная — у плане выцягнуты прамавугольнік, прыбудавана ў канцы 19 ст. Паўднёвая частка капітальнай сцяной падзелена на 2 палавіны — жылую і гандлёвую, кожная з самастойным уваходам. Паўночная частка мае падоўжную ўнутраную сценку, анфіладна размешчаныя жылыя памяшканні і 2 самастойныя ўваходы (з заходняга і ўсходняга бакоў). Галоўны паўднёвы фасад (выходзіць на вул. Гродзенскую) завершаны трохвугольным шчытом. Просты прафіляваны карніз абрамляе франтон, у цэнтры якога 2 невялікія прамавугольныя аконныя праёмы, над імі — дахавае акно, злева — круглы праём.

Дом № 5. Мураваны, аднапавярховы, з мансардай. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. Фасад мае плоскаснае вырашэнне і завершаны трохвугольным шчытом. 2 прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах, над імі — дахавае акно з трохвугольным завяршэннем. У цэнтры фасада лесвіца. Будынак мае падвальнае памяшканне з асобным уваходам з боку галоўнага фасада.

Дом № 9. Мураваны, аднапавярховы, з мансардай. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. (цяпер выкарыстоўваецца як гандлёвая ўстанова). У плане выцягнуты прамавугольнік. Капітальнай сцяной падзелены на 2 прамавугольныя часткі — жылую і гандлёвую. Будынак мае паўпадвальны паверх з асобным уваходам з боку галоўнага (паўднёвага) фасада. У дэкаратыўным аздабленні франтона выкарыстаны элементы стылю барока. Цэнтральны аконны праём франтона з накладнымі ляпнымі дэталямі: 2 плоскія пілястры аб'яднаны гірляндай у выглядзе стылізаванай кветкі.

Дом № 10. Двухпавярховы мураваны будынак, накрыты двухсхільным дахам з вальмамі на тарцах. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. як абутковая фабрыка (цяпер жылы будынак). У плане выцягнуты прамавугольнік.



1039. *Забудова плошчы Леніна.*

У цэнтры лесвіца, якая вядзе на 2-і паверх. Галоўны тарцовы фасад выходзіць на плошчу. Паверхі падзелены карнізнымі паясками, кожны паверх з трыма аконнымі праёмамі. На 2-м паверсе ў цэнтры — балкон. Планіроўка (часткова зменена) калідорнага тыпу.

У забудове пл. Леніна праявіліся мясцовыя асаблівасці архітэктуры барока і класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**1040. КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ** (архіт.). На вул. Гродзенскай. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. Зберагліся касцёл і жылы корпус.

Касцёл пабудаваны ў 1780 г. У 1846 г. перабудаваны ў Мікалаеўскую царкву. Храм у плане прамавугольнай формы, завершаны ў заходняй частцы трохграннай апсідай. Галоўны ўсходні фасад трохчасткавы. 2 ніжнія ярусы завершаны шырокімі прафіляванымі карнізнымі паяскамі. У цэнтры 1-га яруса галоўны ўваход абрамлены спаранымі пілястрамі, абапал якіх размешчаны неглыбокія нішы. У цэнтры 2-га яруса над галоўным уваходам высокае паўцыркульнае акно, таксама абрамленае пілястрамі. 3-і ярус — невысокая вежа-званіца з паўцыркульнымі аконнымі і арачным (у цэнтры) праёмамі — завершаны невысокім купалам на васьміграннм барабане. Сцены бакавых фасадаў прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, размешчанымі ў 2 рады. У інтэр'еры 2 рады калон дзеляць прастору на 3 нефы. Бакавыя перакрыты крыжовымі скляпеннямі, цэнтральны — цыліндрычным з распалубкамі. У тоўшчы сцяны галоўнага фасада размешчаны 2 вітыя лесвіцы, якія вядуць на званіцу.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока з элементамі (пасля перабудовы) псеўдавізантыйскага стылю.

Жылы корпус узведзены адначасова з касцёлам. Мураванае двухпавярховае збудаванне, Г-падобнае ў плане. Галоўны (усходні) прадаўгаваты фасад вырашаны ў простых



1039. *Дом № 4 на плошчы Леніна. План.*



1039. *Дом № 9 на плошчы Леніна. План.*



1040. *Касцёл. Галоўны фасад.*



1040. *Жылы корпус.*



1040. *Касцёл. План.*



1040. *Жылы корпус. План 1-га паверха.*



1041. *Курган Бессмяротнасці.*

лаканічных формах: плоская сцяна рытмічна прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі, у цэнтры — дзвярны праём. Па цэнтры тарцовага паўднёвага фасада з мансардай размешчана мураваная, агароджаная падпорнай сцяной і ўмацаваная масіўным контрфорсам лесвіца, якая вядзе на 2-і паверх. Частка фасада пад мансардай вылучана пілястрамі. Планіроўка калідорная. Аднабаковы калідор арыентаваны на захад, да двара, жылыя памяшканні — на поўдзень і ўсход. Калідор і жылыя памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У заходняй частцы будынка некалькі пакояў з цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі.

Кляштар францысканцаў — помнік архітэктуры позняга барока.

*Т. І. Чарняўская.*



1042. *Курганны могільнік. План.*

**1041. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст.). Вул. Малы замак, на Замкавай гары. Навагрудак цесна звязаны з жыццёвым і творчым шляхам класіка польскай літаратуры, дзеяча вызваленчага руху Адама Міцкевіча (1798—1855 гг.). Паэт нарадзіўся паблізу ад Навагрудка, на хутары Завоссе (цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл.). У Навагрудку прайшлі яго дзіцячыя гады, тут у 1815 г. скончыў дамініканскую школу. З Навагрудка Міцкевіч хадзіў разам са сваімі сябрамі па навакольных вёсках, прыслухоўваўся да беларускіх народных песень і казак, што потым былі выкарыстаны ў яго баладах і рамансах, у другой частцы паэмы «Дзяды». У Навагрудку адбываюцца падзеі, якія апісаны паэтам у паэмах «Мешка, князь Навагрудка» і «Гражына». Падзеі, што адбываліся ў ваколіцах Навагрудка, апісаны ў паэме «Пан Тадэвуш». Таму і выбраны гэты горад месцам для мемарыяльнага кургана. Насыпаны па ініцыятыве Міцкевічаўскага камітэта, створанага ў Навагрудку ў студзені 1924 г. пад кіраўніцтвам юрыста Л. Дубашынскага. На добраахвотныя ахвяраванні (6 тыс. злотых) быў куплены ў мясцовага землеўладальніка пляц для Кургана. Урачыстая закладка адбылася 27.5. 1924 г., тады ж у зямлю закапаны «Акт аб заснаванні». Скончылі насыпаць Курган у 1931 г. Каля яго падножжа пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем.

*А. І. Мальдзіс.*

**1042. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Вядомы пад назвай Батароўка. На заходняй ускраіне горада, ва ўрочышчы Батароўка. 55 насыпаў добрай захаванасці, вышынёй 0,3—1 м, дыяметрам 3—4 м. Даследавала ў 1972 г. К. В. Паўлава (раскапана 6 курганоў), абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах і ў аснове насыпаў. Могільнік датуецца 12—13 стагоддзямі. Належаў змешанаму славяна-балцкаму насельніцтву. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*М. А. Ткачоў.*

**1043. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. 1 Мая, каля фарнага касцёла. Пахаваны 11 чалавек, якіх 1.8. 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1944 г. на магіле ўстаноўлены памятны знак.

**1044. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Мінская, каля шашы Навагрудак — Мінск. Пахаваны 1118 грамадзян, якіх 7.12.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1045. МАГІЛА НЕВЯДОМАГА САЛДАТА** (гіст.). На пл. Леніна, у сквery. Пахаваны невядомы савецкі воін, які загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля в. Нёўда пад Навагрудкам.

У ходзе Беластоцкай наступальнай аперацыі (5—27.7.1944 г.) войскі 2-га Беларускага фронту пасля ўпартых баёў вызвалілі 8.7.1944 г. Навагрудак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Непасрэдна ў вызваленні горада ўдзельнічалі армейскі рухомы атрад (камандзір генерал-лейтэнант А. А. Цюрын) 50-й арміі і 283-я стралковая дывізія (камандзір палкоўнік В. А. Канавалаў) 41-га стралковага корпуса 3-й арміі.

На ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у аба-



1044. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



1045. *Помнік на магіле невядомага салдата.*

рончых баях і ў 1944 г. пры вызваленні Навагрудка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на магіле невядомага салдата ў 1967 г. устаноўлены помнік — на фоне абеліска скульптуры воіна і партызанкі са сцягам, у 1969 г. пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем, запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Елисеев Е. П. На Белостокском направлении.— М., 1971.
*В. Б. Караткевіч.*

**1046. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Міцкевіча, 28. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці 4 супрацоўнікаў раённага аддзела міліцыі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і ў пасляваенныя гады пры ахове грамадскага парадку.

**1047. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ РЭЎКОМА** (гіст.). У 1919—20 гг. у горадзе двойчы дзейнічаў павятовы ВРК.

Пасля вызвалення (27.12.1918) Навагрудка ад германскіх войск 1.1. 1919 г. быў створаны павятовы ВРК. Пад яго кіраўніцтвам у лютым 1919 г. адбыўся 1-ы павятовы з'езд Саветаў, які прыняў рашэнні аб аддзяленні школы ад царквы, канфіскацыі зямлі ў 48 памешчыкаў і інш. Выбраны з'ездам павятовы выканком (15 чалавек) на чале з Залескім не змог разгарнуць работу ў сувязі з захопам (красавік 1919 г.) горада войскамі буржуазнай Польшчы.

У час савецка-польскай вайны 1920 г. часці Чырвонай Арміі вызвалілі Навагрудак (19.7.1920 г.) і павет ад інтэрвентаў. 21 ліпеня створаны павятовы ВРК (старшыня Лагвіновіч, пазней С. А. Мертэнс), якому належала ўся ўлада ў горадзе і павеце. Для кіравання народнай гаспадаркай былі створаны аддзелы: земляробства, народнай асветы, аховы здароўя, савет народнай гаспадаркі, сацыяльнага забеспячэння і інш., для падтрымання рэвалюцыйнага парадку — павятовая міліцыя. Рэўком вёў барацьбу з контррэвалюцыяй, арганізоўваў дапамогу фронту, памагаў сем'ям чырвонаармейцаў, праводзіў суботнікі па нарыхтоўцы паліва, культурна-масавыя мерапрыемствы, выдаў загад аб стварэнні ў Навагрудку дома-музея А. Міцкевіча і інш. Пасля захопу горада войскамі буржуазнай Польшчы (1.10.1920 г.) павятовы ВРК эвакуіраваўся і быў скасаваны.

*Літ.:* Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.).— Мн., 1957.
*В. Б. Караткевіч.*

**1048. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На перакрыжаванні вуліц Савецкай і Міцкевіча. Пабудаваны ў 1-й палове 18 ст. з цэглы як касцёл дамініканскага кляштара. Адноўлены пасля пажару 1751 і 1831 гг. У 1929 г. побач з храмам пабудавана двух'ярусная мураваная званіца (не захавалася). Касцёл — трохнефавая базіліка. З паўднёвага боку завершана паўцыркульнай апсідай аднолькавай вышыні з цэнтральным нефам. З заходняга боку да апсіды прылягае двухпавярховая прыбудова з асобным уваходам, з паўночнага боку храма — тамбур. Галоўны фасад шырокім карнізным паяском падзелены на 2 гарызантальныя ярусы і завершаны высокім трохвугольным франтонам, над якім узвышаецца маленькая чацверыковая вежа. Ніжні ярус пілястрамі падзелены на 3 часткі: цэнтральную (адпавядае цэнтральнаму нефу), дэкарыраваную паўцыркульнымі нішамі, і бакавыя (адпавядаюць бакавым нефам), завершаныя невысокімі фігурнымі атыкамі. Верхні ярус цэнтральнага нефа расчлянёны пілястрамі, у цэнтры — лучковы аконны праём. Сцены бакавых фасадаў касцёла ўпрыгожаны шырокімі лапаткамі, паміж якімі размешчаны 2 ярусы лучковых аконных праёмаў. У інтэр'еры 2 рады слупоў утвараюць 3 нефы. Бакавыя перакрыты крыжовымі скляпеннямі, цэнтральны — цыліндрычным з распалубкамі. Інтэр'ер дэкарыраваны лепкай і размалёўкай (захавалася часткова), 3 алтары (цэнтральны і 2 бакавыя) аздоблены лепкай.

Касцёл — помнік архітэктуры барока.
*Т. І. Чарняўская.*

**1049. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад горада, справа ад дарогі ў в. Усялюб. У час акупацыі Навагрудка нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі на Пярэсіцкай вуліцы гета. 7.6.1942 г. акупанты выгналі каля 4 тыс. жыхароў гета, пераважна жанчын, старых і дзяцей, за горад і расстралялі. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1050. МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Камсамольская. Пахаваны 239 воінаў і партызан. Сярод пахаваных 187 воінаў і партызан, якія загінулі 8.7.1944 г. пры вызваленні Навагрудка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і абеліскі.

**1051. ПАРК** (архіт.). На паўночнай ускраіне горада, каля Замкавай гары і Малога замка. Закладзены ў 1930-я гады, рэканструяваны ў 1950-я гады (выкапана штучнае возера, пракладзены алеі, зроблены новыя пасадкі дрэў). Плошча 10,2 га.

Парк пейзажны, мае веерную сістэму планіроўкі. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца ўваходная круглая пляцоўка з кветнікам. Ад яе адыходзяць 4 прамянёвыя алеі, якія перасякаюць кальцавыя дарожкі. У заходняй частцы парку — дзіцячы сектар, ва ўсходняй — спартыўная зона і атракцыёны. У штучнае возера ўпадае крынічны ручай, што бярэ пачатак на Замкавай гары. Пераважаюць таполя, ліпа, клён, ясень, акацыя, бяроза і інш., трапляюцца рэдкія пароды дрэў — лаўравішня, елка блакітная, арэх маньчжурскі і інш. Перад уваходам у парк — насыпаны Курган Бессмя-



1048. *Міхайлаўскі касцёл. Галоўны фасад.*



1048. *Міхайлаўскі касцёл. План.*



1056. *Помнік Адаму Міцкевічу.*

ротнасці на ўшанаванне памяці А. Міцкевіча.

Помнік садова-паркавага мастацтва.
*Т. І. Чарняўская.*

**1052. ПОМНІК КОЛАСУ** Якубу (гіст.). У скверы, на скрыжаванні вуліц А. Міцкевіча і Валчэцкага. Бюст народнага паэта БССР Якуба Коласа ўстаноўлены ў 1962 г.

**1053. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1946 г.

**1054. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Мінская, на тэрыторыі СПТВ № 26. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1962 г.

**1055. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Сечкі, на тэрыторыі аўтабазы № 10. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**1056. ПОМНІК МІЦКЕВІЧУ** Адаму (гіст.). Вул. Леніна, 1, каля Дома-музея Адама Міцкевіча. Бюст паэта (самадзейны скульпт. В. Галубкіна) устаноўлены ў 1980 г. да 125-годдзя з дня смерці паэта.

**1057. ПОМНІК МІЦКЕВІЧУ** Адаму (гіст.). На вул. Малы Замак, у скверы. На ўшанаванне памяці А. Міцкевіча ў ліпені 1975 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай паэта (самадзейны скульпт. У. Грэк). Ніжэй яе на рускай і беларускай мовах радкі з паэмы «Пан Тадэвуш»: «Маленства край! Ты з намі да скanання — чысты, святы, як першае каханне». З другога боку стэлы — словы А. С. Пушкіна: «Он говорил о временах грядущих, когда народы, распри позабыв, в великую семью соединятся».

**1058. ПОМНІК ФАМІЧОВУ** Рыгору Філатавічу (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, каля сярэдняй школы № 5.

Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР Р. Ф. Фамічоў нарадзіўся 10.1.1925 у в. Рунцова Навасільскага р-на Арлоўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1945 г. Скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС у 1958 г. Працоўную дзейнасць пачаў у 1941 г. слесарам на заводзе імя М. І. Калініна (г. Калінінград Маскоўскай вобл.). У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1942 г. у тыле ворага — камандзір аддзялення партызанскага атрада, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ, намеснік камандзіра партызанскай брыгады; з сакавіка 1943 г. інструктар, з красавіка 1943 г. член Баранавіцкага падпольнага абкома ЛКСМБ; з сакавіка 1944 г. сакратар Навагрудскага падпольнага райкома камсамола. У 1944—58 гг. сакратар Баранавіцкага, другі і першы сакратар Гродзенскага абкомаў ЛКСМБ. З 1958 г. першы сакратар Поразаўскага райкома, з 1961 г. Лідскага гаркома КПБ. З 1968 г. другі сакратар Гродзенскага абкома КПБ, з 1972 г. старшыня Гродзенскага аблвыканкома. Член ЦК КПБ з 1966 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1967 г., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР з 1972 г.

Памёр Р. Ф. Фамічоў 24.1.1978 г. Пахаваны ў г. Гродна. У 1981 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлены бюст.
*У. У. Бянько.*



1057. *Помнік Адаму Міцкевічу.*

**1059. РЭШТКІ ЗАМКА** (гіст., архіт.). На вул. Малы Замак.

Замак — старажытны цэнтр Навагрудка, рэзідэнцыя заходнерускіх і літоўскіх князёў. Будаваўся ў 13—16 ст. Размешчаны на часткова насыпным узгорку вышынёй 20 м, т. зв. Замкавай гары (дзядзінцы). З паўночнага і паўночна-заходняга бакоў Замкавая гара была ўмацавана ровам глыбінёй 10 м і шырынёй 10—12 м, а таксама земляным валам вышынёй каля 6 м і шырынёй у аснове 27 м. Мяркуюць, што аба-



1059. *Від на руіны замка і фарны касцёл*

рончы роў быў запоўнены вадой, на вале стаялі драўляныя сцены. У 2-й палове 13 ст. пабудавана абарончая вежа з вялікіх камянёў на вапне. Яна мела чатырохвугольную ў плане форму (12×12 м). Падмурак вышынёй 3,5 м мае трыццацісантыметровы цокаль. Відаць, у час апошняга нападу крыжакоў (1394 г.) вежа была моцна пашкоджана, асабліва яе верхнія ярусы. У канцы 14 ст. адноўлена, змуравана з цэглы, рэшткі папярэдняй выкарыстаны як падмурак. Вежа ўвайшла ў гісторыю замка пад назвамі Шчытоўка, Шчытовая, Цэнтральная. Мела меншыя памеры (11,4×11,4 м), формай пяціпавярховая вежа нагадвала прызму. Вышыня сцен каля 25 м, таўшчыня на ўзроўні 1-га паверха да 2,75 м, другога — 2,6 м. Адтуліны ад бэлек перакрыцця 35×35 см. Вежа была накрыта чатырохсхільным дахам. Сцены прарэзаны спічастымі байніцамі, на ніжнім паверсе — брамнымі праёмамі.

У канцы 14 ст. з паўночнага ўсходу і ўсходу пабудаваны яшчэ 3 мураваныя вежы. Справа на ўсход ад Шчытоўкі пастаўлена трохпавярховая Касцельная вежа (9×9 м у аснове). Ад яе па ўсходняй строме гары выкладзена мураваная сцяна (даўжынёй 80 м), якая вяла да другой уваходнай вежы — Малой брамы (8×10 м у аснове). Ад брамы на захад было прасла сцяны даўжынёй 70, таўшчынёй 2,6 м. Сцяна звязвала Малую браму з Пасадскай вежай (7,7×7,7 м у аснове, таўшчыня сцен 2,6 м). У вежы быў праход шырынёй 1,5 м. Вежы былі трохпавярховыя, мелі па 4 байніцы на кожным паверсе. У Малой браме быў дзвярны праём вышынёй 3 м і шырынёй 1,6 м.

Для надзейнага забеспячэння замка вадою на ўсходнім схіле, над крыніцай была пастаўлена Калодзежная вежа (8×8 м). Яна звязвалася праслам сцяны з верхнімі сценамі замка. Унутры вежы быў зроблены спецыяльны праход да вады. Будаўніцтва вежаў закончылася да 1410 г.

Далейшае ўмацаванне замка адбывалася ў канцы 15 — пачатку 16 ст. у сувязі з нападамі крымскіх татар. У паўночна-заходняй частцы замка была пабудавана мураваная вежа Дазорца (14×14 м). Чатырохмятровы каменны падмурак меў форму ганка. Паміж вежамі Дазорца і Шчытоўка пабудавалі мураванае прасла сцяны. Яно замкнула кальцо замкавых збудаванняў. У пачатку 16 ст. каля паўднёва-ўсходняга схілу Замкавай гары ўзведзена яшчэ адна — Меская вежа-брама, якая звязвалася праслам сцен з Калодзежнай вежай і Малой брамай. Утварыўся дадатковы своеасаблівы мураваны пояс абароны перад уваходам у замак з боку горада. У 1505 і 1506 гг. татары двойчы асаджалі замак, але ўзяць яго не змаглі. Замак разбураны ў сярэдзіне 17 — пачатку 18 ст.



**1059.** *Замак. Рэканструкцыя.*

На тэрыторыі замка была царква. Пабудавана ў 14 ст. на падмурку вышынёй 2 м, памерам 13,5×13,5 м у аснове. З усходу мела невялікую закругленую апсіду. Сцены храма таўшчынёй да 1,2 м зроблены з вялікапамернай цэглы. Скляпенні на нервюрах. 4 падкупальныя слупы пастаўлены пазней. Пад падлогай былі 2 склепы, куды вялі мураваныя прыступкі. У 17 ст. царква перабудавана. Аб'ём прадоўжаны на захад, павялічана апсіда. Пры ранейшай шырыні 13,5 м даўжыня будынка склала 34 м. Над паўднёвай сцяной пабудавана вежа складанай канфігурацыі. Фасады дэкарыраваны фігурнымі атынкаванымі карнізамі, цягамі, нішамі і інш.

Да 1775 г. у храме адбываліся сесіі Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага княства Літоўскага. Разбураны ў 19 ст. Захаваліся падмурак, частка сцен і падкупальных слупоў.

Замак — помнік абарончага дойлідства.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад — окольный город.— Л., 1981; Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977. *М. А. Ткачоў.*

**1060. ФАРНЫ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). На вул. 1 Мая. Пабудаваны ў 1712—23 гг. на месцы закладзенага ў пачатку 15 ст. храма, частка якога (2 капліцы, адна з іх Боскага цела) увайшла ў аб'ёмную кампазіцыю касцёла.

План яго мае складаную форму. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём завершаны ва ўсходняй частцы паўцыркульнай апсідай. Да яе з паўночнага боку далучана прамавугольная ў плане сакрысція. Галоўны (заходні) фасад па вертыкалі мае трохчасткавае чляненне. Цэнтральная частка завершана высокім трохвугольным шчытом. Бакавыя часткі фланкіраваны невысокімі чацверыковымі вежамі. Асноўны дэкаратыўны матыў галоўнага фасада — плоскія прамавугольныя і паўцыркульныя нішы. Сцяна бакавога паўночнага фасада раскрапавана шырокімі лапаткамі, паміж якімі паўцыркульныя вокны. Унутранае памяшканне зальнага характару. Сцены чляняны пілястрамі. Памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, над уваходам — хоры. У капліцах захаваліся нервюрныя зоркавыя скляпенні. У паўночную сцяну ў капліцы Боскага цела ўмуравана мемарыяльная пліта (чорны мармур, пясчанік; 275×150 см), устаноўлена ў 1643 г. па заказу кашталяна Яна Рудаміна ў памяць аб браце і суседзях, якія загінулі ў баі з туркамі пад Хоцінам у 1621 г. Цэнтральную частку пліты займае рэльеф — выявы 9 укленчаных фігур і Яна Рудаміна. Унізе фігуры пераможаных ворагаў з адсечанымі галовамі ў турбанах. Уверсе рэльефная выява Маці боскай з дзіцем. На пліце высечаны тэкст (па лацінскай мове) з пералікам тытулаў і імён загінуўшых.

Касцёл — помнік архітэктуры барока.

*Л. Г. Лапцэвіч, Т. І. Чарняўская.*

**в. Асташына, цэнтр сельсавета**

**1061. МАГІЛА РЫЛАВА** Цімафея Рыгоравіча (гіст.). На могілках.

У чэрвені 1941 г. лейтэнант Чырвонай Арміі Ц. Р. Рылаў быў цяжка



**1060.** *Фарны касцёл.*



**1060.** *Фарны касцёл. План.*

паранены ў баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Мясцовыя жыхары схавалі яго і лячылі. 5.5.1942 г. у вёску ўварваліся гітлераўцы, схапілі параненага і расстралялі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1062. МЕСЦА ЎЗБРОЕНАГА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН У 1932 г.** (гіст.). Адбылося 19—20 сакавіка пад кіраўніцтвам сялянскага камітэта супраць падатковага прыгнёту ў буржуазнай Польшчы.

Пачалося па заклiку Любчанскага падпольнага райкома КПЗБ. Сяляне байкатавалі аўкцыён канфіскаванай у іх маёмасці. 16.3.1932 г. спалілі маёнтак абшарніка, сядзібы асадніка і гандляра, якія скуплялі сялянскае дабро. Паліцыя арыштавала 5 чалавек, западозраных у падпале. Сяляне адбілі арыштаваных. Камітэт разаслаў у вёскі ганцоў, якія сабралі ў Асташыне больш за 1000 сялян. Паліцыя пачала страляць у людзей. Узброеныя паляўнічымі стрэльбамі сяляне ўступілі ў перастрэлку. 20 сакавіка на вёску напаў карны атрад: 87 чалавек арыштаваны, многія збіты. У адказ асташынцы разграмілі паліцэйскі ўчастак, вызвалілі арыштаваных, захапілі зброю. Іх падтрымалі сяляне 8 вёсак. Улады жорстка расправіліся з паўстанцамі. 5.7.1932 г. у Навагрудку павешаны актыўныя ўдзельнікі выступлення І. Бахар, А. Гаўраш, А. Малец, В. Стасевіч. На пажыццёвае зняволенне засуджаны А. Бахар, І. Валенчукевіч, Ф. Дарашэвіч, Дарашынскі, Аўсянік і Н. Бушэйка, 44 удзельнікі паўстання прыгавораны да розных тэрмінаў зняволення. Выступленне зрабіла значны ўплыў на развіццё рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966. *І. П. Хаўратовіч.*

**1063. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам праўлення калгаса «Камунар». На ўшанаванне памяці 142 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем.

**в. Ацмінава, цэнтр сельсавета**

**1064. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахавана сям'я партызана К. С. Лапцева.

Летам 1942 г. у партызанскую групу Г. І. Бязлюдава прыйшоў васемнаццацігадовы Косця Лапцеў. Яго залічылі ў разведку. Удзельнічаў у знішчэнні лесапільнага завода ў Бярозаўцы, моста на Нёмане і інш. Аднойчы Канстанцін вяртаўся з разведкі, непадалёку ад базы атрада «Арол» (у маі 1943 г. група Г. І. Бязлюдава ўвайшла ў яго склад) убачыў атрад карнікаў і, каб папярэдзіць сваіх, адкрыў агонь. У час бою загінуў. 19.12. 1943 г. карнікі акружылі в. Ацмінава, забілі бацьку, маці, шасці- і чатырохгадовых сясцёр і паўтарагадовага брата партызана. У гэты ж дзень яны спалілі ў вёсцы 90 двароў.

У 1966 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Станішэўскі Ф. К. Сям'я Лапцевых.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 2. *В. Б. Караткевіч.*

**1065. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам выканкома сельскага Савета і праўлення калгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1966 г. пастаўлены помнік — 2 абеліскі.

**в. Бенін, Зенявіцкі сельсавет**

**1066. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Брацянка, Гарадзечанскі сельсавет**

**1067. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).




**1067.** *Курганныя могільнікі. План.*




**1070.** *Курганны могільнік. План.*

**1067а. Могільнік-1.** За 1 км на захад ад вёскі, у лесе. 25 курганоў вышынёй да 1 м, дыяметрам 5—10 м. Каля асновы насыпаў захаваліся раўкі. Даследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1969 г. К. В. Паўлава, у 1975 г. М. А. Ткачоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены вырабы з жалеза (сякеры, нажы, крэсівы і інш.), гаршкі, упрыгожанні (пацеркі, падвескі, бляшкі з цісненнем, пярсцёнкі і інш.). Датуецца канцом 10—11 стагоддзямі. Належаў дрыгавічам.

**1067б. Могільнік-2.** За 1,5 км на захад ад вёскі. 27 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—10 м. Даследавалі ў 1960-я гады К. В. Паўлава, у 1975 г. М. А. Ткачоў. Ускрыты пахаванні з абрадамі трупаспалення і трупапалажэння. Знойдзены вырабы з жалеза і ўпрыгожанні, аналагічныя знаходкам могільніка-1. Належаў дрыгавічам, датуецца 10—11 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *М. А. Ткачоў.*

**в. Брольнікі, Гарадзечанскі сельсавет**

**1068. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад будынкам школы. На ўшанаванне памяці 43 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Валеўка, цэнтр сельсавета**

**1069. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 20 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — 15 воінаў 169-й стралковай Рагачоўскай дывізіі 40-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі 8.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад акупантаў. У 1959 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**1070. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4 км на поўдзень ад вёскі. Каля турбазы «Свіцязь», справа ад шашы Навагрудак — Свіцязь, у лесе. 30 курганоў добрай захаванасці вышынёй 0,7—2,5 м, дыяметрам 4—12 м. Адзін курган прадаўгаваты, вышынёй 2,5 м, шырынёй 6 м, даўжынёй 18 м. Адкрыла ў 1957 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1071. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Галоўным фасадам выходзіць на шашу Баранавічы — Навагрудак. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва як касцёл кляштара базыльян. З 19 ст. права-

слаўная царква: у 1840-я гады перабудаваны галоўны фасад (зняты вежы), у 1870-я гады над цэнтральнай часткай храма зроблена галоўка. У 1930-я гады да асноўнага аб'ёму прыбудавана званіца.

Пасля рэканструкцыі царква складаецца з асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму, да якога ў паўднёвай частцы прырублена пяцісценная апсіда, у паўночнай — трох'ярусная званіца. Да апсіды з захаду на ўсю вышыню асноўнага зруба далучана капліца, з усходу — невысокая рызніца. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Бакавая капліца мае двухсхільны дах, апсіда — трохсхільны. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Па ўсім перыметры храма праходзіць шырокі прафіляваны карніз. Сцены прарэзаны высока размешчанымі лучковымі аконнымі праёмамі.

Галоўны фасад несіметрычны. Яго фланкіруюць 2 аб'ёмы, што былі асновай вежаў. Фасад завершаны трохвугольным ламаным франтонам, цэнтральная частка якога вылучана гарызантальнай шалёўкай (раней гэтая частка была вырашана ў выглядзе трохпралётнай аркі, дзе былі званы). Званіца з трох чацверыковых ярусаў: першы — глухі, другі і трэці прарэзаны на ўсю вышыню паўцыркульнымі праёмамі. Над цэнтральнай часткай асноўнага аб'ёму — невысокая галоўка на васьмігранным барабане. У інтэр'еры вылучаецца цэнтральнае зальнае памяшканне з бэлечным перакрыццем. Алтарная частка аддзелена металічнай агароджай. Іканастас



1071. *Петрапаўлаўская царква. Бакавы фасад.*



1071. *Петрапаўлаўская царква. План.*

драўляны, двух'ярусны, дэкарыраваны накладной драўлянай разьбой з пазалотай (19 ст.). У паўночнай частцы над уваходам — хоры.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока.

*Т. І. Чарняўская.*

**1072. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 96 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. устаноўлены помнік (аўтар В. Ягадніцкі; бетон з гранітнай крошкай, бронза; вышыня стэлы 3,4 м, барэльефа 1,5 м). На чатырохступеньчатым стылабаце ўстаноўлена прамавугольная стэла. У яе ўрэзана вертыкальная пліта з бронзавым барэльефам галавы жанчыны. На стэле 2 рады мармуровых дошак з імёнамі загінуўшых і тэкстам-прысвячэннем.

Да помніка вядзе бетанаваная дарожка. Вакол пасаджаны серабрыстыя елкі. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**1073. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**1074. СТАЯНКА** (археал.). За 4 км на поўдзень ад вёскі, на заходнім беразе воз. Свіцязь. Амаль размыта. Першым крамянёвыя прылады знайшоў тут у 1870-я гады Я. Завіша. Даследавалі ў 1957 г. Н. М. Гурына, у 1972 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажападобныя пласціны, мікраліты, нуклеусы. Адносіцца да эпохі мезаліту. Частка знаходак мае прыкметы, характэрныя для позняга палеаліту.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гурина Н. Н. Новые данные о каменном веке северо-западной Белоруссии.— У кн.: Палеолит и неолит СССР. М.; Л., 1965, т. 5. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Васілевічы, Ацмінаўскі сельсавет**

**1075. СТАЯНКІ** (археал.).

**1075а.** Стаянка-1. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на выступе тэрасы, каля заходняга краю старыцы р. Нёман. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Сабраны крамянёвыя вырабы, рэшткі керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

**1075б.** Стаянка-2. За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на вузкім здзірванелым мысе левабярэжнай тэрасы р. Нёман. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены рэчы бронзавага веку.

**1075в.** Стаянка-3. За 0,6 км на паўночны захад ад вёскі, на высокай левабярэжнай дзюне р. Нёман, выцягнутай на 0,4 км уздоўж берага. Выявіў і абследаваў у 1976 г. Л. М. Вазнячук. На заходнім краі дзюны знойдзены рэчы позняга неаліту і бронзавага веку.



1072. *Помнік землякам.*

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Ваўкавічы, Руткаўскі сельсавет**

**1076. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАЦКО** Іосіфу Мікалаевічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці былога дырэктара Амнявіцкай школы (Руткаўскі сельсавет), закатаванага нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г.

**1077. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Прагрэс». На ўшанаванне памяці 57 землякоў — воінаў, партызан і мірных жыхароў з вёсак Ваўкавічы, Амневічы, Рутка, Гаравічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вераскава, цэнтр сельсавета**

**1078. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 66 жыхароў вёсак Вераскава, Плянта, Будныя, Яўсевічы, Галковічы, Чарэшля, Хорашава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Восава, Кашалёўскі сельсавет**

**1079. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у студзені 1944 г. У 1981 г. устаноўлена надмагілле.

**в. Вялікія Вераб'евічы, Асташынскі сельсавет**

**1080. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 101 жыхара вёсак Антонаўка, Валосаўка, Вялікія Вераб'евічы, Малыя Вераб'евічы, Поўбераг, Ракевічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Галынь, Любчанскі пасялковы Савет**

**1081. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На паўночнай ускраіне вёскі.



1081. *Помнік землякам.*

На ўшанаванне памяці 82 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік (скульпт. В. Ягадніцкі; бетон; вышыня 4 м) — прамавугольная вертыкальная стэла. Верхнюю частку яе апяразвае заглыблены фрыз, на якім рэльефныя выявы твараў салдата, партызана і дзяўчыны-воіна. Унізе стэлы — дошка з надпісам «1941—1945. Ніхто не забыты» і імёны загінуўшых землякоў. Злева ад стэлы — кветнік, абкладзены абколатым бутавым каменем.

Да помніка вядзе дарожка з шэрых бетонных пліт і васьміступеньчатая лесвіца. Вакол разбіты газоны і пасаджаны дэкаратыўныя кусты.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Гарадзечна, цэнтр сельсавета**

**1082. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку, злева ад шашы Навагрудак — Любча. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзяляцічы, Вераскаўскі сельсавет**

**1083. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва. Будынак трохкамернага тыпу. Складаецца з жылой часткі, сенцаў і клеці. Галоўным тарцовым фасадам арыентаваны ў бок вуліцы. Гаспадарчыя пабудовы размешчаны за домам у адну лінію. Зруб з часаных бярвёнаў, вуглы з астаткам. Фундамент адсутнічае. Страха саламяная, двухсхільная, з вертыкальным франтонам у верхняй частцы і паўвальмай у ніжняй. Канцавы прагон апіраецца на козлы, пастаўленыя на папярочныя сцены. Падлога глінабітная. Перакрыцце на папярочных бэльках з дошак, уцеплена слоем моху і пясчанай засыпкай. На галоўным і бакавым фасадах — па 2 аконныя праёмы. Уваходны праём нізкі. Дзверы з тоўстых дошак з гарызантальнай вонкавай шалёўкай. У інтэр'еры печ традыцыйна займае правы ад увахода кут, у напрамку да сцяны галоўнага тарцовага фасада размешчана грубка. Комін зроблены ў выглядзе нахіленага стаяка. Сцены атынкаваны глінай, пабелены.

Жылы дом — прыклад традыцыйнай сялянскай пабудовы 19 ст.

*В. В. Трацэўскі.*

**1084. КУРГАН** (археал.). За 4 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі, ва ўрочышчы Пярэстань. Вышыня насыпу 1,2 м, дыяметр 8 м. Адкрыла і абследавала ў 1956 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў.

**1085. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 35 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены помнік (скульпт. В. Грос; бетон, гранітныя валуны; вышыня скульптуры 2,5 м, пастамента 2 м). На пастаменце фігура маладога партызана. Корпус крыху павернуты ўлева, у руках — аўтамат і шапка. Рысы хударлявага твару, пільны позірк перадаюць нязломную волю і рашучасць. Каля падножжа помніка — 2 пліты з прозвішчамі загінуўшых. Пляцоўка выкладзена бетоннымі плітамі, вакол яе — кветнікі і газоны.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**1086. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму далучаны бабінец і пяцісценная апсіда з 2 рызніцамі. Сцены храма гарызантальна ашаляваны, вуглы ўмацаваны лапаткамі. Побач з царквой — двух'ярусная званіца з бутавага каменю. Помнік драўлянага дойлідства.

**в. Загор'е-Сенненскае, Асташынскі сельсавет**

**1087. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1877 г. з дрэва.

Храм падоўжна-восевай кампазіцыі. Да квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму прымыкаюць чатырохсценная апсіда з 2 прыбудовамі, невялікі бабінец з тамбурам, над якім узвышаецца аднаярусная шатровая званіца. Над асноўным аб'ёмам — галоўка на двух'ярусным шасціграным барабане. Пры ўваходзе — высокі мураваны ганак з навіссю на 2 калонках.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.



1085. *Помнік землякам.*

**в. Заполле, Ятраўскі сельсавет**

**1088. ПОМНІК КАМЫШАВУ** Сцяпану Канстанцінавічу (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса «Сцяг працы». 7.6.1943 г. пры выкананні баявога задання непадалёку ад в. Заполле загінуў камандзір партызанскага атрада імя А. В. Суворава Першамайскай брыгады С. К. Камышаў (Міхаіл Стралкоў). Пахаваны на могілках у в. Ятра. У 1982 г. на ўшанаванне яго памяці пастаўлена стэла.

**в. Зенявічы, цэнтр сельсавета**

**1089. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 49 жыхароў вёсак Ляхавічы, Марцулі, Зенявічы, Пліса, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1090. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Каменка, Кашалёўскі сельсавет**

**1091. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). Мясцовая назва Татарскія магілы. За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Гавейша. Захавалася 90 магіл, якія абазначаны пастаўленымі тарцом плітамі і плоскімі камянямі (без знакаў). Месцамі маюцца каменныя абкладкі. Выявіла і абследавала ў 1982 г. А. В. Квяткоўская. Раскопкі не праводзіліся.

**1092. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўскрайку лесу Дубнік. 20 насыпаў сферычнай формы, вышынёй 0,8—3 м, дыяметрам 4—9 м. Адзін курган прадаўгаваты, другі блізкі да квадрата. Адкрыў у 1965 г.

Л. Д. Побаль, абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1093. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 31 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кашалёва, цэнтр сельсавета**

**1094. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, злева ад шашы Навагрудак — Наваельня. Вышыня насыпу 4,5 м, дыяметр каля 20 м. Абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1973 г. М. А. Ткачоў.

**1095. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць будынка школы. На ўшанаванне памяці 58 жыхароў вёсак Сяцевіна, Раманюкі, Янавічы, Кашалёва, Ігольнікі, Бабічы, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—45 гг., у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**1096. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Кудавічы, Ятраўскі сельсавет**

**1097. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка праўлення калгаса імя Матросава. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі, што загінулі 7.7. 1944 г. у баях за вызваленне вёскі. У 1967 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і 36 надмагільных пліт.

**1098. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**в. Купіск, Любчанскі пасялковы Савет**

**1099. ПОМНІК БЕЛУШУ** Міхаілу Андрэевічу (гіст.). Перад будынкам сярэдняй школы. У Вялікую Айчынную вайну партызанскія брыгады Першамайская (камандзір Н. Г. Кавалёў) і імя А. В. Суворава (камандзір В. Н. Галоўчанка) 16.6.1944 г. знішчылі варожы апорны пункт у в. Купіск. У час бою партызан атрада «Кастрычнік» Першамайскай брыгады камсамолец М. А. Белуш закрыў сваім целам амбразуру варожага дота. Пахаваны партызан у г. п. Карэлічы (гл. артыкул № 762 «Вайсковыя могілкі»).

У 1965 г. на месцы гібелі М. А. Белуша пастаўлены абеліск.



*1097. Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

**1100. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля будынка клуба. У Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць ворага загінулі 92 жыхары вёскі, 14 закатаваны ў канцлагерах, 50 расстраляны і спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На ўшанаванне памяці землякоў у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ладзенікі,**
**Мітрапольскі сельсавет**

**1101. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на ўзлессі, абапал лясной дарогі. 21 курган дыяметрам 5—12 м, вышынёй да 1,2 м. Каля асновы курганоў раўкі. Адкрыла і даследавала ў 1956 г. Ф. Д. Гурэвіч, якая раскапала 2 насыпы, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Знойдзены кальцынiраваныя косці, ляпная і ганчарная кераміка 10—11 стагоддзяў.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*М. А. Ткачоў.*

**1102. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Лаўрышава, Шчорсаўскі сельсавет**

**1103. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 162 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**1104. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёвай частцы вёскі. Пабудавана ў 1768 г. з дрэва як уніяцкая манастырская царква. У канцы 19 ст. перабудавана ў праваслаўную: над галоўным (заходнім) фасадам пастаўлена васьмігранная шатровая вежа, зроблены бакавыя прыбудовы на ўсю вышыню асноўнага аб'ёму.

Царква ў плане крыжападобная, ва ўсходняй яе частцы пяцісценная апсіда з 2 рызніцамі, з захаду да галоўнага фасада прымыкае невялікі тамбур. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Сцены прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі



*1104. Успенская царква. Бакавы фасад.*




*1092. Курганны могільнік. План.*




*1101. Курганны могільнік. План.*



*1104. Успенская царква. План.*

праёмамі і гарызантальна ашаляваны. Дах над апсідай завершаны галоўкай. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Хоры падтрымліваюцца 2 чатырохграннымі калонкамі, агароджаны драўлянымі балясінамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. І. Чарняўская.*

## XVIII. ЛЮБЧА

Гарадскі пасёлак на левым беразе р. Нёман. За 26 км на паўночны ўсход ад Навагрудка, 188 км ад Гродна, 49 км ад чыгуначнай станцыі Навальня на лініі Баранавічы — Ліда.

Вядома з пачатку 15 ст. Належала Фёдару Храптовічу (з 1499 г.), Марціну Меляшковічу і Глебу Ельмановічу (з 1517), Гаштольдам (з 1528 г.), Кішкам (з 1574 г.), з 1606 г. Радзівілам.

У 1983 г. у цэнтры пасёлка на былой гандлёвай плошчы А. К. Краўцэвіч правёў раскопкі. Выяўлены культурны пласт 1,3 м. Знойдзены паліваны і непаліваны керамічны (гаршкі, макотры, крынкі, міскі, талеркі) і шкляны (шкляніцы, кварты, бутэлькі) посуд, прамавугольнае і круглае аконнае шкло, паліваная і тэракотавая кафля, у т. л. фрагмент унікальнай партрэтнай кафлі-медальёна. Трапляюцца знаходкі 17—18 стагоддзяў, ніжэй — рэчы 15—16 стагоддзяў. З сярэдзіны 16 ст. уваходзіла ў склад Навагрудскага павета і ваяводства. 15.4. 1590 г. атрымала магдэбургскае права, пацверджанае 22.3.1644 г. У 2-й палове 16 ст. Любча становіцца адным з цэнтраў арыянства ў Вялікім княстве Літоўскім, тут узнікае арыянская абшчына, пабудаваны арыянскі збор (храм), які пры Радзівілах ператвораны ў кальвінскі. У 1-й палове 17 ст. у мястэчку існавала друкарня, у якой надрукавана 75 кніг, большасць іх мела рэлігійны змест. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) Любча ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага павета Гродзенскай, з 1843 г. Мінскай губерняў. У 1832 г. перайшла да князёў Вітгенштэйнаў, потым да княгіні Гагенлоэ (сястры Вітгенштэйна). У 1859 г. 205 двароў. Насельніцтва займалася гандлем, сельскай гаспадаркай, часткова ткацтвам, кравецтвам, шавецтвам, вырабам палатна. Збіраліся штогод 2 кірмашы. У 1897 г. у мястэчку 3374 жыхары. У 1-ю сусветную вайну з верасня 1915 г. да снежня 1918 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў канцы снежня 1918 г. З красавіка 1919 г. да ліпеня 1920 г. мястэчка акупіравана войскамі буржуазнай Польшчы. У ліпені 1920 г. зноў вызвалена Чырвонай Арміяй, якая пакінула Любчу 1.10. 1920 г. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Навагрудскага павета і ваяводства.



**XVIII.** *Любча ў канцы 18 — пачатку 19 ст. З акварэлі Ю. Пешкі.*

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. Любча ў складзе Баранавіцкай вобл., гарадскі пасёлак, з 15.1.1940 г. раённы цэнтр. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 8.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі і ў значнай ступені разбурана. У Любчанскім р-не дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (чэрвень 1943 г.— 11.7.1944 г.) і ЛКСМБ (студзень 1943 г.— 11.7.1944 г.). 8.7.1944 г. воіны 69-га стралковага корпуса 49-й арміі, партызаны брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага (камандзір К. Ф. Шашкін, камісар Я. П. Ляхаў) вызвалілі гарадскі пасёлак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З 8.1.1954 г. Любча ў складзе Гродзенскай вобл., з 17.12. 1956 г. у Навагрудскім р-не.

У пачатку 17 ст. у мястэчку 142 дамы. Сярод забудовы дамінаваў замак. У пачатку 20 ст. пераважалі аднапавярховыя драўляныя будынкі, сярод іх вылучаліся царква, 2 сінагогі, школа і больш за 20 крам.

Цэнтр сучаснай забудовы — пл. Салабуціна, дзе размешчаны будынкі пасялковага Савета і праўлення калгаса імя А. А. Жданава, камбіната бытавога абслугоўвання і універмага.

Паводле генеральнага плана забудовы пасёлка, распрацаванага ў 1973 г. Гродзенскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект», капітальная забудова сканцэнтравана паміж цэнтрам і замкам уздоўж вул. Савецкай. У пасёлку Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, сярэдняя школа, філіял Навагрудскай музычнай школы, яслісад, бальніца. Працуюць хлебакамбінат, сырзавод, лесазавод. Помнікі: У. І. Леніну, А. А. Жданаву, партызанцы Л. П. Сечцы, на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан Айчыннай вайны, на 2 магілах ахвяр фашызму. Зона адпачынку — берагі Нёмана. *А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*

**1105. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Салабуціна, у скверы. Пахаваны 123 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — чырвонаармейцы, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені — ліпені 1941 г., воіны 69-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях пры вызваленні Любчы 8.7.1944 г., партызаны брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага партызанскага злучэння Лідскай зоны, што загінулі ў 1943 г. на тэрыторыі былога Любчанскага р-на і ў баях за вызваленне Любчы, камандзір атрада імя Р. І. Катоўскага М. М. Чайкоўскі (загінуў 22.3.1944 г.), камандзір аддзялення, падрыўнік гэтага атрада М. В. Яцук (загінуў 6.7. 1944 г.) і інш.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. Б. Караткевіч.*

**1106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У парку. Пахаваны 7 воінаў 69-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту і партызан брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага партызанскага злучэння Лідскай зоны, якія загінулі 8.7.1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1107. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў 1910 г. з цэглы.



1105. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1112. *Помнік А. А. Жданаву.*

Да квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму з 2 бакавымі прыбудовамі далучаны паўцыркульная апсіда і бабінец, завершаны двух'яруснай вежай-званіцай. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам, у цэнтры якога цыбулепадобная галоўка. Сцены прарэзаны вузкімі паўцыркульнымі вокнамі з ліштвамі ў выглядзе какошнікаў. Вежа-званіца завершана шатром з галоўкай. Галоўны ўваход вырашаны арачным порцікам пад двухсхільным дахам.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. І. Чарняўская.*

**1108. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак, за 0,2 км справа ад дарогі Любча — Дзялятычы. У жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі ў Любчы гета. Вясной 1942 г. гітлераўцы вывелі за пасёлак 375 чалавек і расстралялі каля загадзя выкапаных ям. У 1958 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**1109. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак, справа ад дарогі Любча — Дзялятычы. Пахавана каля 130 жыхароў пасёлка і іншых населеных месцаў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. Сярод пахаваных — 30 партыйна-савецкіх актывістаў былога Любчанскага р-на, расстраляных акупантамі летам 1942 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1110. МАГІЛА ТУМАШЫКА** Мікалая Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Палітрук роты партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага М. С. Тумашык (1914—44 гг.) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у час вызвалення Любчанскага р-на. У 1959 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1111. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). Пл. Салабуціна, 6. Установлена ў 1969 г.

3.7.1944 г. партызаны брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага (камандзір К. Ф. Шашкін, камісар Я. П. Ляхаў) штурмам авалодалі Любчай, знішчылі варожы гарнізон (да 450 гітлераўцаў), захапілі 7 кулямётаў, 13 аўтаматаў, больш за 200 вінтовак, харчовы і фуражны склады. Вораг сканцэнтраваў да 4 тыс. салдат, танкі, артылерыю, бронемашыны і 6.7.1944 г. на працягу 6 гадзін атакаваў пазіцыі партызан і вымусіў іх пакінуць Любчу. 8 ліпеня воіны 69-га стралковага корпуса (камандзір М. М. Мультан) 49-й арміі 2-га Беларускага фронту сумесна з партызанамі брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага вызвалілі Любчу ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Партызанская брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага створана ў кастрычніку 1943 г. на базе атрадаў імя Дзяржынскага (вылучаны з брыгады імя І. В. Сталіна) і асобнага імя Р. І. Катоўскага. Пры арганізацыі брыгады атрад імя Ф. Э. Дзяржынскага разбуйнены. З вылучанага ім асабовага складу дадаткова створаны атрады імя А. А. Жданава і імя К. Я. Варашылава. У студзені 1944 г. сфарміраваны атрад імя Я. М. Свярдлова. Дзейнічала на тэрыторыі Любчанскага р-на. Партызаны брыгады падарвалі ў лютым — красавіку 1944 г. 24 варожыя эшалоны і 7 чыгуначных мастоў, у чэрвені 1944 г. больш за 1 тыс. рэек, наносілі ўдары па варожых апорных пунктах у вёсках Вялікія Вераб'евічы, Басіна (сакавік 1944 г.), Вераскава (ліпень 1944 г.). 11.7.1944 г. брыгада (атрады імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя Р. І. Катоўскага, імя А. А. Жданава, імя К. Я. Варашылава, імя Я. М. Свярдлова) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*В. Б. Караткевіч.*

**1112. ПОМНІК ЖДАНАВУ** Андрэю Аляксандравічу (гіст.). Плошча Салабуціна, каля будынка кінатэатра. Бюст А. А. Жданава ўстаноўлены ў 1956 г.

**1113. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Пл. Салабуціна, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1948 г.

**1114. ПОМНІК СЕЧЦЫ** Людміле Паўлаўне (маст.). Перад будынкам школы, на тэрыторыі Любчанскага замка. Устаноўлены ў 1964 г. на ўшанаванне памяці камсамолкі, партызанкі атрада імя Р. І. Катоўскага брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага, якая загінула 22.3.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў каля в. Лугамавічы Іўеўскага р-на. Партрэтны бюст партызанкі (скульпт. В. Грос; бетон; вышыня бюста 90 см, пастамента 2,5 м) пастаўлены на прамавугольным пастаменце. Каля падножжа помніка разбіты кветнік. Гл. таксама артыкул № 1155 «Магіла Сечкі Людмілы Паўлаўны».

**1115. РЭШТКІ ЗАМКА** (гіст., архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка (вул. Савецкая). Будаўніцтва замка пачалося, відавочна, у 1581 г. (аб чым сведчыць выява даты на флюге-




**1113.** *Помнік У. І. Леніну.*

ры) пры Яне Кішку і закончана ў пачатку 17 ст. пры Радзівілах. Змураваны з цэглы і каменю на левым умацаваным валунамі высокім беразе Нёмана.

У плане — чатырохвугольнік, абкружаны з трох бакоў ровам шырынёй да 30 м і глыбінёй 7—10 м. Роў злучаўся з ракой. Вуглавыя вежы, палац і крапасныя сцены таўшчынёй да 1,8 м утваралі ўнутраны двор. З цягам часу замак прыйшоў у занядад, захаваліся 2 вежы (заходняя і паўднёвая) і флігель палаца. Да замка прылягае парк.

Заходняя (надбрамная) мураваная вежа была праезнай. Зроблена ў выглядзе куба (у аснове 9,9×9,9 м), які



**1114.** *Помнік Л. П. Сечцы.*

на вышыні 8 м пераходзіць у васьмігранную прызму. Накрыта шатровым дахам. Вежа мела 4 ярусы для вядзення бою: у 1-м ярусе 8 ружэйных байніц, у 2-м — 12 гарматных, у 3-м — 8 гарматных, у 4-м, пад дахам, у кожнай з 8 сцен па 2 байніцы для ружэйнага агню. Падмурак (вышыня 3,85 м) вежы складзены з вялікіх камянёў і цэглы на вапне. Паўднёвая вежа памерамі меншая, у аснове 8,1×8,1 м, зроблена пазней на падмурку вышынёй каля 4 м. Змуравана ў асноўным з цэглы-пальчаткі на вапнавым растворы. Мела 3 ярусы для вядзення бою: у 1-м — 4 ружэйныя, у 2-м — 4 гарматныя, у 3-м — 12 ружэйных байніц. Пад вежай размяшчаліся турма і скарбніца. Паводле інвентару замка за 1661 г. 2 іншыя вежы стаялі над Нёманам. Рэшткі трэцяй (паўночнай) вежы прасочваюцца на паўночным вуглу замчышча, па форме яна была падобнай на паўднёвую. Ад усходняй вежы слядоў не засталося. Захаваліся падмуркі абарончых сцен паміж вежамі. На замчышчы некалі размяшчаўся мураваны палац, які да канца 18 ст. разбурыўся. На яго фундаменце ў пачатку 19 ст. пабудаваны з белага каменю дом (разбураны ў 1-ю сусветную вайну) у неагатычным стылі. Адноўлены цэнтральны флігель. У канцы 1940-х гадоў усе будынкі на замчышчы перададзены сярэдняй школе.

*Літ.:* Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; Чарняўскі І., Саітгарэева С. Замак у Любчы.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1984, № 4; Прокопчик Л. Т. В краю Налибокской пущи.— Мн., 1979. *М. А. Ткачоў, І. М. Чарняўскі.*

**1116. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад пасёлка, за 0,1 км на паўночны захад ад дарогі на в. Купіск, на пясчаным поймавым узвышэнні. Памер 80×150 м. Заходняя частка стаянкі разбурана. Абследаваў у 1984 г. М. М. Чарняўскі. Сярод знаходак раннемезалітычныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі; фрагменты ляпных гаршкоў і крамянёвыя вырабы эпохі неаліту; штрыхаваная кераміка і серпападобныя крамянёвыя прылады працы позняга бронзавага веку. Стаянка была заселена з 9-га тысячагоддзя да н. э. Тут жа знаходзяцца рэшткі селішча ранняга феадалізму.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Ляхавічы 1-я, Зенявіцкі сельсавет**

**1117. ПОМНІК У ГОНАР НАВАГРУДСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА** (гіст.). Каля будынка клуба. У Вялікую Айчынную вайну ў вёсцы з студзеня да ліпеня 1944 г. базіраваліся Навагрудскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.

Навагрудскі падпольны райком партыі дзейнічаў з 13.6.1943 г. да 6.7. 1944 г. Створаны Баранавіцкім падпольным абкомам КП(б)Б. Сакратары Ц. Дз. Дзмітрыеў (13.6.1943 г.— 25.1. 1944 г.), П. А. Склемін (25.1.—6.7. 1944 г.). Падпольны райком КП(б)Б узначальваў партызанскі рух у раёне, вёў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, выдаваў газету «Звезда».

Навагрудскі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з верасня 1942 г. да 6.7.1944 г. Сакратары І. А. Капытка (да 1.7.1943 г.), Ю. Г. Баранаў (1.7.1943 г.— 13.3.1944 г., сакратар па прапагандзе), М. В. Паўлаў (кастрычнік 1943 г.— 13.3.1944 г.), Р. Ф. Фамічоў (13.3—6.7.1944 г.). Райком кіраваў партызанскай і падпольнай барацьбой, вёў палітычную работу сярод моладзі раёна.

Партызанская брыгада імя В. І. Чапаева створана ў снежні 1943 г. на базе атрадаў імя В. І. Чапаева і імя А. Я. Пархоменкі, вылучаных з брыгады імя І. В. Сталіна. Адначасова арганізаваны атрад імя Дз. А. Фурманава, пазней атрад імя С. Г. Лазо. Камандзір брыгады Р. Л. Кудрын, камісар П. А. Склемін. Брыгада дзейнічала на тэрыторыі Навагрудскага, Валожынскага і Лідскага р-наў. Партызаны вялі баі з карнікамі каля вёсак Каменка (31.3.1944 г.) і Такарышкі (19.5.1944 г.). У красавіку 1944 г. на дарозе Валожын — Вішнева падарвалі 2 аўтамашыны, на шашы Навагрудак — Ліда падбілі танк і спалілі аўтамашыну. У чэрвені 1944 г. на чыгунцы Ліда — Маладзечна падарва-



**1115.** *Заходняя вежа замка.*

лі 350 рэек, у выніку спынілі рух на 2 сутак. 6.7.1944 г. брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння налічвала 464 партызаны (атрады імя В. І. Чапаева, імя А. Я. Пархоменкі, імя Дз. А. Фурманава, імя С. Г. Лазо).

У 1980 г. у гонар падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, брыгады імя В. І. Чапаева пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Малыя Вераб'евічы, Асташынскі сельсавет**

**1118. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак.

На тэрыторыі былога Вераб'евіцкага сельсавета нямецка-фашысцкія акупанты стварылі ў 1941 г. гета, куды сагналі насельніцтва з навакольных населеных пунктаў. 8.8.1942 г. фашысты расстралялі 635 чалавек. Да пачатку 1943 г. акупанты загубілі тут яшчэ больш за 300 чалавек. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Масцішча, Уселюбскі сельсавет**

**1119. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі. Пастаўлены ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 64 землякоў з калгаса «Радзіма», якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну.

Помнік (аўтар В. Ягадніцкі; бетон; вышыня 6 м) — чатырохгранны абеліск асіметрычнай формы. На трохвугольным зрэзе адной з граняў размешчана барэльефная выява галавы воіна ў касцы. Унізе — дошкі з тэкстам-прысвячэннем і прозвішчамі 64 загінуўшых землякоў. Да абеліска пракладзена шматступеньчатая лесвіца. *Л. Г. Лапцэвіч.*




**1118.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Мольнічы, Гарадзечанскі сельсавет**

**1120. КУРГАН** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі. На месцы курганнага могільніка, раскапанага Ф. Д. Гурэвіч (1956 г.) і К. В. Паўлавай (1973 г.). Курган вышынёй 4 м і дыяметрам 17 м абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. У раскапаных 8 курганах знойдзены рэшткі труны, сярэбраныя і алавяныя скроневыя кольцы, сярэбраны пярсцёнак, абломак зярнёнай шарападобнай пацеркі, шкляныя, хрусталёвыя і сердалікавыя пацеркі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце галавой на захад (трапляецца галавою на поўнач і поўдзень). Могільнік належаў дрыгавічам, датуецца 11 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**в. Навіны, Пятрэвіцкі сельсавет**

**1121. МАГІЛА ВАЛЧЭЦКАГА** Віктара Дзмітрыевіча (гіст.). На плошчы, каля будынка школы.

Удзельнік партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну В. Дз. Валчэцкі нарадзіўся 15.11.1922 г. у в. Навіны ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1940 г., кандыдат у члены КПСС з 1944 г. З 1939 г. працаваў у Данбасе. Айчынная вайна застала яго на адпачынку ў роднай вёсцы. Разам са старэйшым братам вёў падпольную работу. З пачатку 1942 г. у партызанскім атрадзе «Кастрычніцкі» (з чэрвеня 1943 г. у складзе партызанскай брыгады імя С. М. Кірава), камандзір узвода падрыўнікоў. Удзельнічаў у падрыве 16 варожых эшалонаў. Загінуў у баі супраць карнікаў 5.6.1944 г. каля в. Малая Ізва Навагрудскага р-на. Яго імем названа адна з вуліц Навагрудка.

У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Налібакі, цэнтр сельсавета**

**1122. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 33 воінаў, 34 партызан і членаў іх сем'яў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1123. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.



**1119.** *Помнік землякам.*

**в. Несутычы, Гарадзечанскі сельсавет**

**1124. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 48 жыхароў вёсак Несутычы, Селішча, Клюкавічы, Куравічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



**1121.** *Помнік на магіле В. Дз. Валчэцкага.*

**в. Нёўда, Руткаўскі сельсавет**

**1125. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на поўнач ад вёскі, злева ад шашы Навагрудак — Баранавічы. Пахаваны 56 мірных грамадзян, якіх загубілі ў сакавіку 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Нягневічы, цэнтр сельсавета**

**1126. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны 348-й стралковай дывізіі 35-га корпуса 3-й арміі І. Т. Дадычын і Р. М. Сканцаў, якія загінулі 7.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.

**1127. БРАЦКАЯ МАГІЛА САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 48 салдат рускай арміі, якія загінулі ў баях 23—25.9.1915 г. у 1-ю сусветную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1128. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач з будынкам праўлення калгаса імя У. І. Леніна. 23.7.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі арыштавалі 48 актывістаў Нягневіцкага сельсавета, прывялі іх у двор жыхара вёскі Л. Дварэцкага, загналі ў хлеў і расстралялі. Хлеў спалілі.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

*В. Б. Караткевіч.*

**1129. МАГІЛЫ САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ** (гіст.). Побач з царквой. Пахавана каля 50 салдат рускай арміі, якія загінулі ў баях 23—25.9.1915 г. у 1-ю сусветную вайну. У 1915 г. пастаўлены крыж.

**1130. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1861 г. з цэглы.

Прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай апсідай. Накрыты двухсхільным дахам, апсіда — трохсхільным. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам, у цэнтры якога 2 спараныя паўцыркульныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя сандрыкамі з дэнтыкуламі. Сцены храма прарэзаны высока размешчанымі паўцыркульнымі вокнамі, паміж якімі — плоскія пілястры. У інтэр'еры 2 рады прафіляваных слупоў падзяляюць прастору на 3 нефы, якія раскрываюцца арачнымі праёмамі. Перакрыццё плоскае. Пры ўваходзе — тамбур з 2 бакоўкамі, над тамбурам размешчаны хоры. Побач з царквой пабудавана мураваная двух'ярусная званіца.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**1131. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**1132. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Панямонь, Шчорсаўскі сельсавет**

**1133. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на захад ад вёскі, справа і злева ад лясной дарогі. 6 курганоў вышынёй ад 0,9 да 1,5 м, дыяметрам ад 6 да 11 м. Адкрыў у 1951 г. У. С. Астапаў, абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1134. СТАЯНКІ** (археал.).

**1134а.** С т а я н к а - 1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Трахімавы Кусты, на поймавай дзюне правага берага р. Сэрвач. Адкрыў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, даследавала ў 1963 г. І. М. Цюрына (ускрыта 184 м² плошчы). Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і дробныя фрагменты слабаарнаментаванай рыхлай керамікі, а таксама ў невялікай колькасці матэрыялы бронзавага веку. Помнік датуецца 1-й паловай 3-га тысячагоддзя да н. э., адносіцца да ранняга этапа нёманскай культуры. Матэрыялы захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

**1134б.** С т а я н к а - 2. За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бабінка, на паўднёвым краі дзюны левага берага р. Сэрвач. Пашкоджана ямамі. Адкрыў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, даследаваў у 1965 г. М. М. Чарняўскі (68 м²). У культурным пласце знойдзены пераважна матэрыялы ранняга і позняга этапаў нёманскай культуры (3-е тысячагоддзе да н. э.), даследавана паўзямлянкавае жытло бронзавага веку (2-е тысячагоддзе да н. э.).

Матэрыялы захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Ч а р н я ў с к і М. М. Неаліт Беларускага Панямоння.— Мн., 1979.

*М. М. Чарняўскі.*



*1134. Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-1.*

**в. Поўбераг, Асташынскі сельсавет**

**1135. МАГІЛА ДЗЕДУЛЕВІЧ** Паўліны Паўлаўны (гіст.). На могілках.

Кіраўнік падпольнай камсамольскай арганізацыі ў Вялікую Айчынную вайну П. П. Дзедулевіч нарадзілася ў 1922 г. у в. Поўбераг у сям'і селяніна. Член ВЛКСМ з 1940 г. Дэпутат сельскага Савета з 1940 г., сакратар камсамольскай арганізацыі. У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі вясной 1942 г. стварыла падпольную камсамольскую арганізацыю (12 чалавек), якая ўваходзіла ў склад Любчанскага камсамольскага падполля. У ліпені 1942 г. камсамольцы разграмілі памяшканні мясцовай гміны і малочнага пункта, пашкодзілі тэлефонна-тэлеграфную сувязь на дарогах Верасхава — Уселюб і Любча — Навагрудак. Загінула летам 1943 г. у перастрэлцы з ворагам.

У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В приеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975, с. 105—107. *В. Б. Караткевіч.*

**1136. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі.

Пабудавана ў 1895 г. з цэглы і дрэва. Прамавугольная ў плане, каркаснай канструкцыі: паміж мураванымі слупамі складзены драўляныя сцены. Над аб'ёмам — двухсхільны дах з галоўкай на вільчыку. Галоўны фасад вылучаны трохвугольным франтонам, у цэнтры якога на 3 драўляных калонках умацаваны звон.

Царква — помнік народнага дойлідства.

**в. Пятрэвічы, цэнтр сельсавета**

**1137. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна і імёнамі загінуўшых.

**1138. ПОМНІК МАЯКОЎСКАМУ** Уладзіміру Уладзіміравічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса, які носіць імя паэта. Бюст У. У. Маякоўскага ўстаноўлены ў 1976 г.

**в. Радагошча, Валеўскі сельсавет**

**1139. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі, на мысе карэннага берага р. Нёўда. Авальная пляцоўка памерам 55×80 м узвышаецца над поймай ракі амаль на 20 м. З поўначы, усходу і паўночнага ўсходу прасочваюцца 2 валы вышынёй да 1 м, шырынёй у аснове да 8 м. Адкрыла ў 1957 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследавалі ў 1959 г. П. А. Рапапорт, у 1973 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт большай магутнасці каля валоў (0,5—0,6 м), дзе ў шурфах выяўлены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Г у р е в и ч Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*М. А. Ткачоў.*



1137. *Помнік землякам.*

в. Рахавец, Зенявіцкі сельсавет

**1140. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

в. Рутка 1-я, цэнтр сельсавета

**1141. РАДЗІМА БОРЗАБАГАТАГА** Уладзіслава Канстанцінавіча (гіст.).

Кіраўнік паўстання 1863—64 гг. у Навагрудскім павеце У. К. Борзабагаты нарадзіўся 5.5.1831 г. у маёнтку Рутка. За ўдзел у падпольнай арганізацыі «Братні саюз літоўскай моладзі» ў 1849 г. выключаны з Мінскай гімназіі без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Пасля амністыі вучыўся (з 1856 г.) ў Маскоўскім універсітэце, потым працаваў урачом у Навагрудку. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1863—64 гг. У. К. Борзабагаты падзяляў погляды Кастуся Каліноўскага на мэты паўстання, абараняў інтарэсы сялян, патрабаваў экспрапрыяцыі памешчыцкай уласнасці. У 1863 г. быў прызначаны паўстанцкім камісарам Навагрудскага павета. Пасля паражэння паўстання завочна прыгавораны да пакарання смерцю. Да 1865 г. нелегальна быў на Беларусі, потым эміграваў у Парыж. Удзельнік Парыжскай камуны, галоўны медык шпіталя. Пасля задушэння Камуны пераехаў у Кракаў, у 1874 г. вярнуўся на радзіму. Быў арыштаваны і зняволены ў турму ў Вільні, потым сасланы ў Кастрамскую губерню, працаваў земскім урачом. Апошні час жыў на радзіме. Аўтар успамінаў аб паўстанні 1863—64 гг. Памёр у 1886 г. Яго імем названа вуліца ў Навагрудку, на доме № 1 устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965.— (Восстание 1863 года. Материалы и документы).

*В. Б. Караткевіч.*



1139. *Гарадзішча. План.*

в. Селішча, Гарадзечанскі сельсавет

**1142. РАДЗІМА ДРАЗДА** Мікалая Пракопавіча (гіст.).

Удзельнік Мінскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну М. П. Дрозд нарадзіўся 29.11. 1890 г. З 1907 г. чорнарабочы, грузчык, з 1939 г. рабочы мінскай лямцавай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік». У час акупацыі Мінска нямецка-фашысцкімі захопнікамі М. П. Дрозд стварыў і ўзначаліў падпольную групу (падпольны псеўданім Дзядзя Вася). На яго кватэры па вул. Заслаўскай, 33, захоўваліся боепрыпасы, зброя, медыкаменты, у маі — чэрвені 1942 г. адбыліся 2 пасяджэнні Мінскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Жонка М. П. Дразда Алена Адамаўна і дочкі Рэгіна і Яніна былі сувязнымі партызанскага атрада «Дзімы», дапамагалі хаваць падпольшчыкаў і савецкіх ваеннаслужачых, якіх потым перапраўлялі ў партызанскія атрады. М. П. Дрозд, яго жонка і дачка Рэгіна ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы аперацыі па знішчэнню ката беларускага народа В. Кубэ, 24.9.1943 г. былі схоплены гітлераўцамі і пасля катаванняў загублены 7.11.1943 г. у Трасцянецкім лагеры смерці.

Імем М. П. Дразда названа вуліца ў Мінску. На доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Минск: Энциклопедический справочник.— 2 изд.— Мн., 1983.

в. Скрыдлева, Кашалёўскі сельсавет

**1143. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, у лесе, за 0,3 км ад дарогі Навагрудак — Наваельня. Пахаваны 18 тыс. жыхароў Навагрудскага р-на, а таксама Івянца, Карэліч, Любчы, Дзятлава, расстраляных у снежні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1144. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у полі, злева ад дарогі Навагрудак — Наваельня. Пахаваны 6 тыс. мірных жыхароў і ваеннапалонных, якіх у 1941—44 гг. на гэтым месцы расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік: скульптуры жанчыны і суворавца. На прадаўгаватым пастаменце рэльефныя выявы воінаў, якія вядуць бой.



1144. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

в. Суляцічы, Гарадзечанскі сельсавет

**1145. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовыя назвы Грудак, Гарэшнік. На левым карэнным беразе р. Валоўка, паміж вёскамі Суляцічы і Іспасць, на глінiстым пагорку. 40 кургановў добрай захаванасці вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам да 8—9 м, выцягнуты з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Месцамі парасл ядлоўцам. Могільнік адкрыла і даследавала ў 1956 г. Ф. Д. Гурэвіч, якая раскапала 3 курганы, у 1971 г. даследавала 20 кургановў К. В. Паўлава, у 1973 г. абследаваў М. А. Ткачоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне ў падкурганных ямах і ў аснове насыпаў. Знойдзены гліняныя гаршкі, сярэбраныя і алавяныя скроневыя кольцы, бронзавыя пярсцёнкі і падвескі. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—13 стагоддзямі.




1145. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*М. А. Ткачоў.*

**в. Сунчыцы, Гарадзечанскі сельсавет**

**1146. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Салаўіха. 28 насыпаў вышынёй 0,8—2 м, дыяметрам 4—9 м. Адкрыў у 1951 г. У. С. Астапаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сялец, Гарадзечанскі сельсавет**

**1147. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на адлегласці каля 0,5 км ад шашы Навагрудак — Карэлічы. 51 курган. Выцягнуты з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Насыпы здзірванелыя, парослі лесам, частка іх пашкоджана. Каля асноў зрэдку прасочваюцца рэшткі раўкоў. Большасць курганоў вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 4—6 м, асобныя вышынёй 2 м і дыяметрам больш за 10 м. У 1972 г. К. В. Паўлава раскапала 5 курганоў: 3 у цэнтральнай частцы могільніка і 2 на паўднёва-ўсходняй ускраіне. Абследаваў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў аснове насыпа. Знойдзены жалезныя нажы, бронзавыя арачныя спражкі, зярнёныя і шкляныя пацеркі, рэшткі драўлянага вядзерца, пярсцёнкі, гаршкі. Належаў дрыгавічам, датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*М. А. Ткачоў.*

**в. Сянежыцы, Руткаўскі сельсавет**

**1148. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 24 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.




**1146.** *Курганны могільнік. План.*




**1149.** *Помнік землякам.*

**в. Тулічава, Валеўскі сельсавет**

**1149. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 107 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Уселюб, цэнтр сельсавета**

**1150. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 8 воінаў 348-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 2-га Беларускага фронту і 3 партызаны брыгады імя С. М. Кірава злучэння Баранавіцкай вобл., якія загінулі 8.7.1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1151. ПАРК** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Сядзібны. Плошча каля 11 га. Абмежаваны перпендыкулярнымі алеямі і сажалкай. Складаецца з участкаў рэгулярнай і пейзажнай планіроўкі. Рэгулярная частка закладзена ў 2-й палове 18 ст. (зберагліся некалькі старых ліп), пейзажная — у канцы 19 — пачатку 20 ст., размешчана на 2 тэрасах, якія спускаюцца да сажалкі. З тэрас, 6 кальцавых дарожак-маршрутаў і ўзвышша (у паўночна-ўсходняй частцы) адкрываюцца віды на паркавыя курціны. У стварэнні іх і алей выкарыстаны ліпа, піхта сібірская, арэх шэры і лістоўніца еўрапейская. Пераважаюць дрэвы мясцовых парод. На ўзвышшы стаяў сядзібны дом (не зберогся). Пазней каля штучнага вадаёма быў пастаўлены новы сядзібны дом, разбіты пладовы сад, што аддзяліла рэгулярную частку парку ад пейзажнай. З паўночна-заходняга боку да парку прымыкаюць касцёл (на могілках) і капліца-пахавальня. Гаспадарчыя і службовыя пабудовы не захаваліся.



**1151.** *Парк. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — касцёл; 3 — капліца-пахавальня.*

Помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975.

*А. М. Кулагін.*

**1152. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. На ўшанаванне памяці 61 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў або сталі ахвярамі фашысцкага тэрору, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Харосіца, Нягневіцкі сельсавет**

**1153. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 107 воінаў і партызан — жыхароў вёсак Задвор'е, Лозкі, Мілушава, Падгур'е, Падкасоўе, Роскаш, Харосіца (калгас «Світанне»), якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чарэшля, Вераскаўскі сельсавет**

**1154. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны



**1151.** *Куток парку.*



1152. *Помнік землякам.*

партызаны М. І. Суравешка і Гусаў, якія загінулі 8.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1155. МАГІЛА СЕЧКІ** Людміды Паўлаўны (гіст.). На могілках.

Партызанка Л. П. Сечка нарадзілася ў 1924 г. у сям'і рабочага. Член ВЛКСМ з 1940 г. Вучылася ў Любчанскай сярэдняй школе. У Вялікую Айчынную вайну, вясной 1942 г. узначаліла падпольную камсамольскую арганізацыю ў в. Чарэшля (спачатку было 5 чалавек). Камсамольцы Чарэшлі знішчылі старасту — нямецка-фашысцкага паслугача, збіралі зброю, вялі агітацыйную работу. Паводле рашэння Любчанскага падпольнага райкома ЛКСМБ у 1943 г. Л. П. Сечка разам з іншымі камсамольцамі пайшла ў партызанскі атрад імя Р. І. Катоўскага брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага, дзе была разведчыцай. Загінула 22.3.1944 г. у баі ў час разгрому фашысцкага гарнізона ў в. Лугамавічы (цяпер Іўеўскі р-н). Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені. Яе імем названа вуліца ў Навагрудку і камсамольская арганізацыя Любчанскай сярэдняй школы. У г. п. Любча ўстаноўлены помнік-бюст Л. П. Сечкі.

У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.
*В. Б. Караткевіч.*

**1156. МАГІЛА СКУРАТА** Емяльяна Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Партызан Е. М. Скурат загінуў 14.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1157. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА ЛАГЕРА** (гіст.). У лесе, за 2 км на паўночны захад ад вёскі. Тут з снежня 1943 г. да ліпеня 1944 г. базіраваліся атрады імя А. А. Жданава і імя Я. М. Свярдлова партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага. Атрады імя К. Я. Варашылава, імя Р. І. Катоўскага, імя Ф. Э. Дзяржынскага і штаб брыгады дыслацыраваліся ў навакольных вёсках — Пліса-1, Пліса-2, Зенявічы.



1157. *Зямлянка на месцы партызанскага лагера.*

Партызанская брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага (камандзір — К. Ф. Шашкін, камісар Я. П. Ляхаў) створана ў кастрычніку 1943 г. (гл. артыкул № 1111 «Мемарыяльная дошка ў гонар вызваліцеляў»).

У 1974 г. у Чарэшлянскім лесе, дзе базіраваліся партызанскія атрады брыгады, адноўлены 3 зямлянкі, медыцынскі пункт, кухня, лазня.

*Літ.:* В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975.

**1158. ПОМНІК У ГОНАР ЛЮБЧАНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ Ф. Э. ДЗЯРЖЫНСКАГА** (гіст.). У вёсцы, насупраць будынка музея партызанскай славы.

Падпольны райком КП(б)Б створаны Баранавіцкім падпольным абкомам КП(б)Б у чэрвені 1943 г., сакратары Д. Д. Дзямяншчонак (чэрвень 1943 г.— 11.7.1944 г.), Я. П. Ляхаў (сакавік — 11.7.1944 г.). З кастрычніка 1943 г. базіраваўся ў партызанскай брыгадзе імя Ф. Э. Дзяржынскага, з снежня 1943 г.— у в. Чарэшля.

Райком арганізоўваў і кіраваў партызанскай барацьбой з нямецка-фашысцкімі акупантамі, праводзіў масава-палітычную работу сярод насельніцтва, кіраваў дзейнасцю Любчанскага падпольнага райкома камсамола, выдаваў газету «Смерть фашизму».

У 1981 г. у гонар Любчанскага падпольнага райкома КП(б)Б і брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага пастаўлены помнік — стэла на фоне стылізаванай зямлянкі. Гл. таксама артыкул № 1111 «Мемарыяльная дошка ў гонар вызваліцеляў».

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.
*В. Б. Караткевіч.*

**1159. СЕЛІШЧЫ, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1159а.** Селішча-1. На паўночнай ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Замэчак. Плошча 0,5 га. Адкрыла і даследавала ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч,



1157. *Помнік на месцы партызанскага лагера.*

даследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,4 м. У ім знойдзена ляпная кераміка і кераміка раннефеадальнага часу. У ніжняй частцы пласта трапляюцца крамянёвыя прылады эпохі неаліту. Селішча адносіцца да эпохі неаліту, ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі.

**1159б.** Селішча-2. Злева ад дарогі з в. Чарэшля ў в. Дзяляцічы, на ўзвышшы Аржаная Горка. Адкрыў і даследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Плошча каля 0,8 га. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку.

**1159в.** Курганны могільнік-1. На ўсходнім беразе воз. Чарэшля, справа ад дарогі Чарэшля — Мікалаева. 20 насыпаў вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 4—8 м. Адкрыла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1159г.** Курганны могільнік-2. Каля вёскі, перад мостам цераз р. Беланожка, злева ад лясной дарогі. 4 насыпы вышынёй 0,6—0,8 м, дыяметрам 4—6 м. Адкрыла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы даследавання селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*М. А. Ткачоў.*

**1160. СТАЯНКІ** (археал.).

**1160а.** Стаянка-1. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на карэнным беразе р. Нёман і воз. Чарэшля, каля вытоку р. Беланожка. Даследавалі ў 1957 г. Н. М. Гурына і Ф. Д. Гурэвіч, у 1962 г. Н. М. Гурына, у 1965 г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,4 м. У ім знойдзены крамянёвыя прылады працы, абломкі гаршкоў з наколамі, нарэзкамі і ямкавымі адбіткамі. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э., адносіцца да нёманскай культуры.



**1165.** *Помнік У. І. Леніну.*



**1162.** *Дзмітрыеўская царква.*



**1162.** *Дзмітрыеўская царква. План.*

**1160б.** Стаянка-2. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на пясчанай дзюне. Абследавалі ў 1957 г. Н. М. Гурына і Ф. Д. Гурэвіч, у 1962 г. Н. М. Гурына, у 1965 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце выяўлены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да позняга палеаліту і пачатку мезаліту.

Матэрыялы захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Гурина Н. Н. Новые данные о каменном веке северо-западной Белоруссии.— У кн.: Палеолит и неолит СССР. М.; Л., 1965, т. 5. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Шчорсы, цэнтр сельсавета**

**1161. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне парку. Пахаваны 37 савецкіх актывістаў, якіх у ліпені 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1162. ДЗМІТРЫЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана (з удзелам французскага архіт. Я. Габрыэля) у 1776 г. з цэглы. Галоўным (заходнім) фасадам выходзіць на сквер, размешчаны на перасячэнні Верхняй і Ніжняй вуліц. Абнесена драўлянай агароджай з муравановымі слупамі і трохпралётнай брамай.

Аднанефавы прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Апсіда і бакавыя памяшканні размешчаны ў асноўным аб'ёме. На галоўным фасадзе на чатырохступеньчатай аснове — 4 масіўныя слупы, што ўтвараюць порцік, завершаны трохвугольным франтонам. Над ім — невысокая вежа-званіца на чацверыковай аснове (завяршэнне вежы не захавалася). Сцяна галоўнага фасада расчлянёна пласкімі лапаткамі, паміж якімі невялікія прамавугольныя аконныя праёмы. Бакавыя фасады двух'ярусныя, падзелены шырокім прафіляваным карнізам, размешчаным на ўзроўні порціка галоўнага фасада. Сцены першага яруса дэкарыраваны лапаткамі і чляёны прамавугольным аконным праёмам, другога — лучковымі аконнымі праёмамі і завершаны прафіляванымі карнізамі. Інтэр'ер зальны, перакрыцце — цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі на падпружных арках. Сцены дэкарыраваны падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера не захавалася.

Царква — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**1163. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У паўднёвай частцы парку. Пахаваны 7 жыхароў вёскі, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1164. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы у цэнтры вёскі. Пахаваны 43 мірныя жыхары, расстраляныя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. Пазней тут пахаваны савецкі воін. На магіле ў 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызанкі. Каля падножжа помніка дошкі з імёнамі 191 земляка — жыхароў вёсак Балотца, Красноўскія Горы, Панямонь, Шчорсы і інш., якія загінулі на франтах Вя-



**1164.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму і савецкага воіна.*



**1166.** *Помнік М. А. Шчорсу.*

лікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1165. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1945 г.

**1166. ПОМНІК ШЧОРСУ** Мікалаю Аляксандравічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Звязда». Бюст героя Грамадзянскай вайны М. А. Шчорса ўстаноўлены ў 1967 г.

**1167. СЯДЗІБА** (архіт., гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў 2-й палове 18 — пачатку 19 ст. Цяпер у будынках сядзібы размешчаны калгасны дзіцячы сад.

Палацава-паркавы ансамбль уключаў палац (пабудаваны ў 1770—76 гг. архіт. Я. Габрыэлем паводле праекта Дж. Сака і К. Спампані; не збярогся), службовыя флігелі, будынак бібліятэкі, вяндлярню і інш. гаспадарчыя пабудовы, якія размяшчаліся ў парку. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляўся палац. Да яго ў 19 ст. прыбудаваны 2 сіметрычна размешчаныя флігелі (захаваўся заходні), прамавугольныя ў плане, аднапавярховыя з рытмам прамавугольных акон і лапатак. Перад палацам быў парадны двор, які абнесены ажурнай агароджай з узорнай брамай.

Б і б л і я т э к а. Двухпавярховы будынак узведзены ў канцы 18 ст. у стылі класіцызму спецыяльна для бібліятэкі. Над уваходам — шырокі балкон на 4 калонах. Уладальнік сядзібы канцлер Вялікага княства Літоўскага І. Храптовіч (1729—1812 гг.) сабраў багатую бібліятэку з архівам: каля 6 тыс. тамоў кніг, старажытныя рукапісы па гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы, геаграфічныя карты. У бібліятэцы працавалі астраном і асветнік М. Пачобут-Адляніцкі, гісторыкі І. Даніловіч, І. Лялевель, Ю. Ярашэвіч, паэты А. Міцкевіч, У. Сыракомля, Я. Чачот і інш. Летам 1819 і 1820 гг. у Шчорсах жыў А. Міцкевіч. Тут ён вывучаў гістарычныя матэрыялы, вызначыў сюжэт, які запазычыў з гісторыі Вялікага княства Літоўскага і паводле легенды пісаў паэму «Гражына». Паэма надрукавана ў 2-м томе яго твораў «Паэзіі», якія выйшаў у Вільні ў 1823 г. У ёй паэт уславіў героіку нацыянальна-вы-



**1167.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — флігелі; 3 — бібліятэка; 4 — гаспадарчыя пабудовы.*



**1167.** *Сядзіба. Флігель.*



**1167.** *Сядзіба. Будынак былой бібліятэкі.*



**1167.** *Куток парку.*



**1167.** *Сядзіба. Вяндлярня.*



**1167.** *Сядзіба. Дуб Адама Міцкевіча.*

зваленчай барацьбы супраць нямецкіх захопнікаў. Перад 1-й сусветнай вайной бібліятэка перададзена Кіеўскаму універсітэту.

Вяндлярня. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Круглая пабудова з высокім гонтавым дахам, які крыху звужаецца ўверсе і завершаны невысокім шатром. Па даху плаўнымі лініямі выступаюць пукатыя душнікі. Сцены аздоблены лапаткамі, карнізам простага профілю і лучковымі перамычкамі над аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Унутраная прастора падзелена на ярусы для размяшчэння прадуктаў вэнджання.

Парк. Створаны ў 2-й палове 18 — пачатку 19 ст., пейзажнага тыпу. Размешчаны на раўнінным рэльефе. Плошча 25 га. Цэнтрам кампазіцыі быў палац. На паўднёвы захад ад яго — суцэльны паркавы масіў з вадаёмамі і кальцавой дарожкай. Перад тыльным фасадам палаца — адкрытая пляцоўка з асобнымі групамі дрэў. У парку расце помнік прыроды, так званы дуб Адама Міцкевіча. Паводле легенды пад гэтым дубам А. Міцкевіч пісаў паэму «Гражына». У 1956 г. каля дуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Сядзіба — помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва перыяду класіцызму.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; яго ж. Архитектурные памятники Белоруссии.— Мн., 1982; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Всеобщая история архитектуры. Т. 2.— М., 1963; Живов М. С. Адам Мицкевич: Жизнь и творчество.— М., 1956; Мірачыцкі Л. Сцежкамі вялікага паэта.— Мн., 1957.

*В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін.*

**в. Янавічы, Кашалёўскі сельсавет**

**1168. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Ятра, цэнтр сельсавета**

**1169. МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны камандзір партызанскага атрада імя А. В. Суворава Першамайскай брыгады С. К. Камышаў (Міхаіл Стралкоў) і партызанка, медсястра гэтага атрада Г. Перальштэйн. Загінулі 7.6.1943 г. у час дыверсіі на вузкакалейцы Навагрудак — Наваельня. У 1978 г. на магілах пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Лесничий С. П. Далеко за фронтом.— Мн., 1972. *У. У. Бянько.*

**1170. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 108 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

# СВІСЛАЦКІ РАЁН







 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Цэнтры раместваў

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

 Помнікі і месцы, звязаныя з іменамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабняні

 Культавая архітэктура

 Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

 Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIX. СВІСЛАЧ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Каля вытоку р. Свіслач (басейн Нёмана). За 90 км на поўдзень ад Гродна, 3 км ад чыгуначнай станцыі Свіслач (на лініі Ваўкавыск — Свіслач). Аўтамабільнымі дарогамі злучана з Гродна, Ваўкавыскам, Поразавам.

З сярэдзіны 18 ст. мястэчка Ваўкавыскага павета Навагрудскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага, належала генералу А. К. Тышкевічу. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, з 1801 г. цэнтр валасці Ваўкавыскага павета. У 1805 г. адкрыта гімназія, настаўнікі і вучні якой падтрымлівалі сувязь з тайным рэвалюцыйным таварыствам «Ваенныя сябры». У 1851 г. замест пераведзенай у Шаўлі гімназіі адкрыта пяцікласнае дваранскае вучылішча, пераўтворанае пазней у прагімназію. У 1876 г. адкрыта настаўніцкая семінарыя. У 1833 г. у пасёлку было 1256 жыхароў, 146 драўляных і 1 мураваны дом, 48 крам, у 1897 г.— 3099 жыхароў, 526 дамоў (драўляных 502, цагляных 24), 6 гарбарных, піваварнае, 2 мёдаварныя прадпрыемствы, сельская лячэбніца. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны колькасць жыхароў дасягнула 6460 чалавек.

У 1915—18 гг. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг.— буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, горад Ваўкавыскага павета Беластоцкага ваяводства. Дзейнічалі падпольныя арганізацыі КПЗБ і КСМЗБ. З канца 1939 г. у складзе БССР, з 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (23.10.1943 г.— 13.7.1944 г.) і ЛКСМБ (5.11.1943 г.— 13.7.1944 г.). З 20.9.1944 г. у складзе Гродзенскай вобл.

Планіровачная структура сучаснага пасёлка прамавугольная, на ўскраінах аднапавярховая забудова, у цэнтральнай частцы — капітальная, 2—5-павярховая. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр сфарміраваўся на перакрыжаванні вуліц Леніна, Камсамольскай і пл. Леніна. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ і райвыканкома, Дома культуры, Дома сувязі, дзяржбанка, бальніцы, гандлёвыя прадпрыемствы. Галоўныя вуліцы пасёлка — Савецкая, Дзяржынскага, Каліноўскага. Генеральны план, распрацаваны ў 1976 г. інстытутам «Белдзяржпраект» прадугледжвае рэканструкцыю цэнтральнай часткі пасёлка.

У пасёлку малочны і вінаробчы заводы, хлебазавод, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, 2 сярэднія агульнаадукацыйныя (у т. л. школа-інтэрнат), музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, дзіцячыя яслі і сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, краязнаўчы музей, бальніца. Выдаецца газета «Заветы Ильича». Помнікі: У. І. Леніну, К. Каліноўскаму, на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, савецкіх воінаў і ахвяр фашызму. Збярогся помнік архітэктуры 19 ст.— будынак былой гімназіі, на паўднёва-заходняй ускраіне пасёлку захаваўся парк 19 ст., дзе размешчана зона адпачынку са штучным вадаёмам, стадыёнам, кінатэатрам.

*Літ.:* Орловский Е. Ф. Местечко Свислочь — Волковысская: [Ист. очерк].— Гродно, 1895. *Э. М. Савіцкі, Л. В. Трэпет.*



**XIX.** *Забудова вуліцы Дзяржынскага.*

**1171. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 54 воіны, якія загінулі пры вызваленні р-на ў ліпені 1944 г., і 3 мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1172. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. 17 Верасня, у скверы. Пахаваны 398 воінаў 190-га стралковага палка 5-й стралковай дывізіі 3-й арміі 2-га Беларускага фронту, а таксама воіны 336-га стралковага палка і партызан, якія загінулі пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Героі Савецкага



**XIX.** *Будынак раённай бальніцы.*

Саюза Мікалай Паўлавіч Масонаў і Іван Міхайлавіч Мяльноў.

М. П. Масонаў нарадзіўся 21.10. 1905 г. у рабочым пасёлку Васільсурск Варатынскага р-на Горкаўскай вобл. Член КПСС з 1936 г. У Чырвонай Арміі з 1926 г. У 1929 г. скончыў Разанскую пяхотную школу. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Бранскім, Беларускім франтах. Камандзір стралковай дывізіі палкоўнік М. П. Масонаў вызначыўся ў баях за вызваленне Бабруйска. 2 палкі дывізіі пад яго камандаваннем прарвалі абарону праціўніка і выйшлі да р. Бярэзіна, у ноч на 29. 6.1944 г. фарсіравалі раку. На Бабруйскім напрамку дывізія знішчыла 48 танкаў і самаходных артылерыйскіх установак, захапіла 30 гармат, 22 мінамёты, 760 аўтамашын, 2 тыс. вінтовак, знішчыла каля 3700 і ўзяла ў палон 1500 гітлераўцаў. М. П. Масонаў загінуў 17.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.8. 1944 г. Яго імем названа вуліца ў г. п. Свіслач.

І. М. Мяльноў нарадзіўся 22.1. 1924 г. у г. Златавусце Чэлябінскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір стралковай роты лейтэнант І. М. Мяльноў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля Магілёва. 27.6.1944 г. група з 6 чалавек пад камандаваннем І. М. Мяльнова пад моцным агнём праціўніка фарсіравала раку ў раёне в. Буйнічы, захапіла плацдарм на процілеглым беразе, знішчыла агнявыя кропкі праціўніка, што забяспечыла пераправу ўсяго батальёна. І. М. Мяльноў загінуў у баі 19.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названы пасёлак чыгуначнай станцыі Свіслач і вуліца ў г. п. Свіслач.

На магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.



**XIX.** *Жылыя дамы на вуліцы Леніна.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Э. М. Савіцкі.*

**1173. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ І СУПРАЦОЎНІКА НКДБ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 пагранічнікі і супрацоўнік раённага аддзела Наркамата дзяржаўнай бяспекі, якія загінулі 2.7.1945 г. у баі з ворагамі Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1174. БРАЦКАЯ МАГІЛА СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 супрацоўнікаў міліцыі, якія загінулі ў 1944—46 гг. пры выкананні службовых абавязкаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1175. БУДЫНАК ГІМНАЗІІ. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНОЎСКАМУ** Кастусю (гіст., архіт.). Вул. Дзяржынскага, 3. Пабудавана ў 1802—03 гг. з цэглы па праекту архітэктара М. Шульца. Адкрыта ў 1805 г. Цяпер адзін з карпусоў раённай бальніцы.

Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак накрыты двухсхільным дахам. Заходні тарцовы фасад аформлены каланадай дарычнага ордэра з атыкам. 2 уваходы на бакавым (паўднёвым) фасадзе вырашаны ў выглядзе порцікаў з 2 парамі квадратных у сячэнні слупоў. Унутраная планіроўка і дэкор інтэр'ера не захаваліся.

Гімназія адкрыта на сродкі тагачаснага ўладальніка Свіслачы графа Вінцэнта Тышкевіча. Колькасць вучняў у асобныя гады дасягала 300 чалавек. Настаўнікі і вучні падтрымлівалі сувязь з тайным рэвалюцыйным таварыствам «Ваенныя сябры». У 1819 г. тут узнікла тайнае «Таварыства аматараў навук» (арганізавана вядомым рэвалюцыянерам Віктарам Гельтманам і яго братам Іосіфам), пазней «Маральнае таварыства», якое наладзіла сувязі са студэнцкімі арганізацыямі Віленскага універсітэта. У 1825 г. свіслацкае тайнае таварыства пад назвай «Заране» было далучана да рэвалюцыйнай арганізацыі «Таварыства вайсковых сяброў», звязанага з дзекабрыстамі. У 1824—25 гг. царскія ўлады разграмілі тайныя арганізацыі ў Свіслачы, многія ўдзельнікі былі арыштаваны, засуджаны, аддадзены ў салдаты.

У 1851 г. гімназія пераведзена ў Шаўлі. Замест яе адкрыта пяцікласнае дваранскае вучылішча, якое ў 1855 г. скончыў Кастусь Каліноўскі. Навучэнцы вучылішча актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64 гг.

Мемарыяльная дошка ўстаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці К. Каліноўскага, які тут вучыўся.

*Літ.:* Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; Бобровский П. О. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 2.— СПб., 1863. *С. А. Друшчыц, Г. В. Кісялёў, Л. В. Трэпет.*



**1172.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**1176. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Вішаннік. Пахаваны 1536 жыхароў пасёлка і іншых населеных пунктаў. 2.11.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сагналі ў лес мірных жыхароў, загадалі выкапаць яму, потым расстралялі дарослых. Дзяцей забівалі прыкладамі і палкамі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1177. МАГІЛА ПАРТЫЗАН І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). На могіл-



**1175.** *Будынак былой гімназіі. Тарцовы заходні фасад.*



**1175.** *Будынак былой гімназіі. План.*



**1178.** *Куток парку.*

Kax. Пахавана больш за 300 партызан і мірных жыхароў пасёлка і раёна, якіх расстралялі ў лютым 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1178. ПАРК** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, на левым беразе р. Свіслач. Закладзены ў 19 ст.

Парк рэгулярнага тыпу. У кампазіцыю ўваходзілі сядзібны дом, брама, альтанка, аранжарэя, гаспадарчыя пабудовы, мураваная агароджа. Перад домам быў парадны партэр з уязной яловай алеяй і круглым газонам. Па перыметры парку праходзіла кляновая алея. Зберагліся рэшткі вялікіх тэрас з нязначнымі перападамі, вадаёмы з баскетамі па берагах. У дэндралагічным складзе парку пераважаюць клён і ліпа. Пазней пасаджаны экзоты: піхты бальзамічная і сібірская, дугласіі шэрая і шызая, лістоўніцы амерыканская, еўрапейская, сібірская і курыльская, арэх маньчжурскі, шаўкоўніца белая і інш. Цяпер парк — месца адпачынку працоўных.

Помнік садова-паркавага мастацтва.

*А. М. Кулагін.*

**1179. ПОМНІК КАЛІНОЎСКАМУ** Кастусю (Канстанціну Вікенцію Сямёнавічу; гіст., маст.). На вул. Леніна, каля будынка сярэдняй школы.

Беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання 1863—64 гг. на Беларусі і ў Літве К. Каліноўскі нарадзіўся 2.2.1838 г. у в. Мастаўляны Беластоцкага ваяводства (ПНР). У 1855 г. скончыў Свіслацкае вучылішча, у 1860 г.— Пецярбургскі універсітэт. У пачатку 1861 г. вярнуўся на Беларусь. З В. Урублеўскім у Гродне стварыў з разначыннай інтэлігенцыі нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю, якая наладзіла сувязь з рэвалюцыйнымі арганізацыямі Вільні. Рыхтуючы паўстанне на Беларусі і ў Літве, К. Каліноўскі падтрымліваў цесныя сувязі з рэвалюцыйным Пецярбургам і Масквою. Разам з В. Урублеўскім і Ф. Ражанскім у 1862 г.— пачатку 1863 г. выдаваў на беларускай мове нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную газету «Мужыцкая праўда». У 1862 г. у камітэце па падрыхтоўцы паўстання, створаным у Вільні, К. Каліноўскі ўзначаліў рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло. Рэвалюцыйныя дэмакраты на чале з К. Каліноўскім патрабавалі знішчыць самаўладдзе, ліквідаваць памешчыцкае землеўладанне, надзяліць сялян зямлёю, устанавіць народна-дэмакратычны дзяржаўны лад. Царызм задушыў паўстанне. 22.3.1864 г. К. Каліноўскі быў пакараны смерцю.

Характэрная рыса светапогляду К. Каліноўскага — нянавісць да прыгонніцтва, барацьбе з якім ён прысвяціў усё сваё жыццё. Рэзка крытыкаваў рэформу 1861 г. як чарговае ашуканства з боку самаўладдзя і памешчыкаў. Быў палымяным абаронцам свабоды, адукацыі і народнага самакіравання. Сцвярджаў і прапагандаваў ідэі дэмакратычнай рэспублікі, сацыяльнай і нацыянальнай свабоды працоўнага беларускага народа, яго права на развіццё нацыянальнай культуры. Зрабіў вялікі ўплыў на далейшае развіццё перадавой грамадскай думкі на Беларусі, беларускай літаратуры. Публіцыстыка К. Каліноўскага — яркая старонка беларускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага друку і літаратуры 19 ст. Яго імем названы калгас у Свіслацкім р-не, вуліцы ў Мінску і Гродне.

Помнік устаноўлены ў 1958 г. (скульпт. З. Азгур; бронза; вышыня бюста 1,05 м, пастамента 3 м). Пагрудны бюст К. Каліноўскага пастаўлены на высокім пастаменце пірамідальнай формы. Стрыманы парыў, гордая незалежнасць, духоўная актыўнасць героя перададзены ў павароце галавы, смелым позірку, у рысах твару. Кампазіцыя бюста ажыўлена рухам рукі, якая трымаецца за штрыфель фрака. Старанная прапрацоўка форм, дэталей касцюма (фрак, шырокі гальштук) надае вобліку жыццёвую канкрэтнасць і верагоднасць.

*Літ.:* Лушчыцкі І. М. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку.— Мн., 1958; Смирнов А. Ф. Кастусь Калиновский.— Мн., 1963; Кісялёў Г. В. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; яго ж. З думай пра Беларусь.— Мн., 1966. *Г. В. Кісялёў, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1180. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На плошчы Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1946 г.

**в. Вердамічы, цэнтр сельсавета**

**1181. ПАРК.** На паўднёвай ускраіне вёскі. Закладзены ў 2-й палове 19 ст. як сядзібны.




**1179.** *Помнік К. Каліноўскаму.*

Парк пейзажнага тыпу на раўнінным рэльефе. Плошча каля 12 га. Цэнтрам кампазіцыі быў палац (не захаваўся), які з паўночнага ўсходу і паўночнага захаду абмяжоўвала сістэма вадаёмаў, з паўднёвага ўсходу і паўднёвага захаду — парк з размешчанымі ў ім мураванымі гаспадарчымі пабудовамі. Перад паўднёвым фасадам палаца быў круглы ў плане парадны двор. Тэрыторыя абне-



**1181.** *Парк. Схема планіроўкі.*

сена муравапай сцяной. Ад уязной брамы разыходзяцца цэнтральная і кальцавая алеі. Абапал цэнтральнай алеі размешчаны самыя вялікія і маляўнічыя паляны. У стварэнні кампазіцыі парку выкарыстаны прыёмы паступовага раскрыцця пейзажу, кантрасту, улічаны асаблівасці дрэў: афарбоўка ў розныя поры года, форма кроны, хуткасць росту і інш. Растуць дуб шарлахаўскі, клён (чырвоны, серабрысты, ясенялісты), явар і яго пурпуровая форма, хвоя веймутава, лістоўніца (еўрапейская, польская), туя заходняя і інш.

Помнік садова-паркавага мастацтва.
*А. М. Кулагін.*

**1182. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 23 вяскоўцаў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры партызана, дзяўчынкі і стэла.

**в. Відзейкі, Свіслацкі сельсавет**

**1183. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 6 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1959 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Вілейшы, Вердаміцкі сельсавет**

**1184. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Крыжовая Гара (Штугер). Захавалася больш за 10 пахаванняў у выглядзе невысокіх або зусім плоскіх каменных вымасткаў авальнай ці круглай формы, дыяметрам 2—5 м. Вымасткі складзены з вялікіх (да 0,8—1,0 м у папярэчніку) і сярэдніх памераў камянёў (больш буйныя звычайна знаходзяцца ў цэнтры і па краях). Р. Якімовіч, З. Глогер і М. Федароўскі ў розны час раскапалі некалькі магіл, у якіх камяні ляжалі ў 2—3 рады да глыбіні 1—1,5 м. Рэшткі нябожчыкаў і пахавальны інвентар адсутнічалі. Абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Древности Белоруссии в музеях Польши.— Мн., 1979.
*Я. Г. Звяруга.*



**1181.** *Алея парку.*



**1186.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Вялікае Сяло,**
**Вердаміцкі сельсавет**

**1185. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 128 землякоў, якія загінулі ў барацьбе за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады, на франтах Вялікай Айчыннай вайны, ахвярам фашызму, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптуры партызана, дзяўчыны і стэла.

**в. Гарнастаевічы,**
**Поразаўскі пасялковы Савет**

**1186. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**1187. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. Цяпер тут адміністрацыйныя ўстановы.

Мураваны будынак Т-падобны ў плане. Складаецца з аднапавярховага і двухпавярховага карпусоў. Галоўны ўваход вылучаны чатырохкалонным порцікам. Вуглы 1-га паверха руставаныя, 2-га — дэкарыраваны плоскімі пілястрамі. Прамавугольныя і паўцыркульныя аконныя праёмы маюць абрамленні ў выглядзе вертыкальных і гарызантальных прафіляваных цяг. Планіроўка анфіладна-калідорная. У інтэр'еры захаваліся кафляныя печы, паркетная падлога, каваная і літая фурнітура. Перакрыцце на прафіляваных бэльках.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры класіцызму. *С. А. Друшчыц.*

**в. Грынкі 1-я, Нязбодзіцкі сельсавет**

**1188. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 32 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка.

**в. Грынявічы,**
**Поразаўскі пасялковы Савет**

**1189. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1792 г. з цэглы як касцёл францысканцаў, у 1870 г. перароблены ў праваслаўную царкву. Зберагліся фрагменты мураванай агароджы і брама 18 ст.

Храм трохнефавы, базілікальны, з бязвежавым фасадам і прамавугольнай апсідай. Накрыты пакатым (раней высокім) двухсхільным дахам. Бакавыя нефы карацей за галоўны, завершаны нізкімі аб'ёмамі. Крывалінейны галоўны фасад трох'ярусны, дэкарыраваны карнізнымі паясамі, спаранымі пілястрамі і завершаны фігурным франтонам. Бакавыя фасады



**1187.** *Сядзібны дом. Фрагмент бакавога фасада.*



**1187.** *Сядзібны дом. План.*

падзелены тонкімі пілястрамі і завершаны карнізамі. Дзверы галоўнага ўвахода з каванымі фігурнымі накладкамі. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю. Галоўны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, бакавыя — плоскімі драўлянымі перакрыццямі. Над уваходам размешчаны хоры. Сцены расчлянёны спаранымі пілястрамі і шырокім карнізным поясам.

Царква — помнік архітэктуры позняга барока.

*С. А. Друшчыц, Л. В. Трэпет.*

**в. Дабраволя, цэнтр сельсавета**

**1190. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 9 аднавяскоўцаў, расстраляных у 1941—43 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**1191. ЦАРКВА ІААНА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1840 г. з дрэва. Трохзрубная, на падмурку. Цэнтральны зруб накрыты шатровым дахам, завершаным цыбулепадобнай галоўкай на васьміграннным барабане. У дэкаратыўнай аздобе выкарыстаны разныя дэталі (аркатурны пояс цэнтральнага зруба, абрамленні акон і дзвярэй, арнаментальны фрыз бабінца). Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Дашкавічы, Ханявіцкі сельсавет**

**1192. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. насыпаны курган, на вяршыні — абеліск. Каля асновы кургана — стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Занкі, Свіслацкі сельсавет**

**1193. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Качкі, Нязбодзіцкі сельсавет**

**1194. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, уздоўж левага берага р. Калонка. Выявіў у 1983 г. Г. М. Семянчук, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены фрагменты гліняных пасудзін эпохі Кіеўскай Русі і шмат познасярэдневяковай керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Куклічы, Ханявіцкі сельсавет**

**1195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Новы Двор, цэнтр сельсавета**

**1196. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 449 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вёска Новы Двор вызвалена ў ноч на 15.7.1944 г. воінамі 243-га палка 96-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту і партызанамі брыгады імя В. І. Чапаева партызанскага злучэння Беластоцкай вобл. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**в. Нязбодзічы, цэнтр сельсавета**

**1197. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 3 пагранічнікі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці пагранічнікаў і 63 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці расстраляныя ў ліпені 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Пацуі, Свіслацкі сельсавет**

**1198. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.



1189. *Царква.*



1189. *Царква. План.*



1189. *Царква. Фрагмент інтэр'ера.*



1191. *Царква Іаана. Галоўны фасад.*



1191. *Царква Іаана. План.*



1193. *Помнік землякам.*

**г. п. Поразава,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**1199. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. 1 Мая, у скверы. Пахаваны 111 воінаў 391-га і 422-га палкоў 170-й Рэчыцкай стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. у баях пры вызваленні г. п. Поразава і Свіслацкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына і суворавец.



1196. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1200. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад пасёлка. Пахаваны 123 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 391-га і 422-га палкоў 170-й Рэчыцкай стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія ўдзельнічалі ў баях за вызваленне Поразава і Свіслацкага р-на. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1201. ДОМ, ДЗЕ РАЗМЯШЧАЎСЯ РЭЎКОМ** (гіст.). Вул. 1 Мая, 10. Тут з 28.7 да 23.9.1920 г. размяшчаўся валасны ваенна-рэвалюцыйны камітэт. У 1981 г. у гонар дзейнасці рэўкома на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1202. МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1825—28 гг. з цэглы і бутавага каменю.

Прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам з галоўкай. Сцены складзены з часанага каменю. Пілястры на фасадах, прамавугольныя абрамленні аконных праёмаў, фрыз, карніз і франтон галоўнага фасада цагляныя, атынкаваныя. Інтэр'ер зальны, столь плоская, драўляная. Уздоўж заходняй сцяны — хоры. Разныя алтары, кафедра, паліхромная драўляная скульптура (18 ст.) — характэрныя ўзоры народнага манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. У надбрамнай званіцы — адліты ў 1749 г. звон з сюжэтнай гравіроўкай.

Касцёл — помнік архітэктуры, у якім спалучаны мясцовыя традыцыі і формы класіцызму. *С. А. Друшчыц.*

**1203. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Я. Коласа, каля будынка школы-інтэрната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**1204. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). Каля дарогі на в. Гарнастаевічы, у парку. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. Цяпер тут бальніца.

Прамавугольны ў плане будынак з драўляных брусоў на падмурку накрыты высокім ламаным дахам. Сцены звонку ашаляваны, унутры атынкаваны. Вокны прамавугольныя. 3 рызаліты (над сярэднім — мансарда) вылучаны на галоўным фасадзе прамавугольнымі выступамі, з боку парка — гранёнымі эркерамі з ламанымі дахамі. Тарцы дома фланкіраваны двухпавярховымі вежападобнымі алькежамі, завершанымі шатровымі дахамі. Цэнтральны ўваход аформлены ганкам на 4 слупах. У аздобе фасадаў выкарыстана разьба (балясіны, валюты, ліштвы). Планіроўка дома калідорная (раней была анфіладная). Перад галоўным фасадам круглы партэр. За домам — парк рэгулярнай планіроўкі з сістэмай узаемна перпендыкулярных алей. Сярод насаджэнняў пераважаюць таполя і ліпа.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму.
*С. А. Друшчыц, Ю. А. Якімовіч.*

**1205. ЦЭНТР ГАНЧАРНАГА РАМЯСТВА** (гіст.). Пасёлак у канцы 19 — пачатку 20 ст. быў адным з цэнтраў ганчарнага промыслу. Тут выраблялўся чорнагляпцаваны посуд (гаршкі, збаны, талеркі, міскі, крынкі, цёрлы і інш.). Вырабы буйных памераў з суцэльна глянцаваным пакрыццём, з выціснутым хвалістым ці зубчастым узорам. Калекцыя такога посуду экспанавалася на саматужніцкапрамысловай выстаўцы ў Вільні ў 1913 г. (захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР). Асартымент сучасных вырабаў звузіўся, вырабляюцца пераважна збанкі, гаршкі і інш., дэкор абмяжоўваецца глянцаваннем у выглядзе вертыкальных палос. Цяпер вырабам керамічнага посуду займаюцца асобныя майстры. Калекцыі поразаўскага посуду 20 ст. захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.
*Я. М. Сахута.*



1202. *Міхайлаўскі касцёл.*



1202. *Міхайлаўскі касцёл. План.*



1208. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

в. Ражкі 1-я, Свіслацкі сельсавет

**1206. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 22 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.



1204. *Сядзібны дом. План.*

в. Сакольнікі, Вердаміцкі сельсавет

**1207. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Вядомы з 1930-х гадоў. У 1984 г. абследаваў Я. Г. Звяруга. Вонкавыя прыкметы амаль поўнасцю адсутнічаюць, толькі ў некаторых месцах захаваліся каменныя вымасткі і плоскія камяні. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Древности Белоруссии в музеях Польши.— Мн., 1979.

**1208. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне іх памяці, а таксама землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлена стэла з барэльефнай выявай воіна і жанчыны ў жалобе.

в. Стокі, Нязбодзіцкі сельсавет

**1209. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровай галінкай.

в. Студзенікі,
Навадворскі сельсавет

**1210. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1211. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Паўднёвая частка пашкоджана кар'ерам. Захавалася каля 50 магіл з каменнымі абкладкамі, гарызантальнымі ці вертыкальнымі плітамі. На некаторых плітах крыжападобныя знакі (у адным выпадку 2). Выявіў і абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.



1213. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызана і ахвяр фашызму.*

в. Ханчыцы, Свіслацкі сельсавет

**1212. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

в. Ханявічы, цэнтр сельсавета

**1213. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 75 воінаў і адзін партызан, што загінулі ў ліпені 1944 г. у баях за вызваленне Свіслацкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 22 мірныя жыхары вёскі, расстраляныя 12.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

в. Хруставa, Поразаўскі сельсавет

**1214. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Буслава Гара. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад дарогі, у лесе. Займае паўночную мысавую частку высокага марэннага ўзвышша. Пляцоўка авальная, памерам 40×17 м, выцягнута з поўначы на поўдзень. З паўднёвага боку ўмацавана невысокім (да 1,2 м) валам. Рэшткі вала прасочваюцца таксама на заходнім схіле. Выявіў і абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Я. Г. Звяруга.*



1204. *Сядзібны дом.*




# СЛОНІМСКІ РАЁН

## XX. СЛОНІМ

Горад, цэнтр раёна, на р. Шчара пры ўпадзенні ў яе р. Іса. За 143 км на паўднёвы ўсход ад Гродна, чыгуначная станцыя на лініі Баранавічы — Ваўкавыск. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Баранавічамі, Івацэвічамі, Ружанамі, Зэльвай, Дзятлавам.

Паводле археалагічных даследаванняў Слонім узнік у 1-й палове 11 ст. як апорны пункт рускіх князёў. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. пад назвай Услоним (у 1255 г. Вслоним). У 2-й палове 13 ст. неаднаразова пераходзіў ад галіцка-валынскіх князёў да літоўскіх. У 1280-я гады горадам правіў князь Васілька. У той час гэта быў горад з развітым рамяством і гандлем. Праз яго пралягаў гандлёвы шлях з Русі ў Прыбалтыку. З канца 13 ст. у Вялікім княстве Літоўскім. Уваходзіў у Трокскае (з 1413 г.), потым у Навагрудскае (з 1507 г.) ваяводствы, цэнтр павета. З 1508 г. Слонім і навакольныя вёскі былі пад кіраваннем старосты, якога прызначаў (пажыццёва) вялікі князь (кароль).

Самакіраванне паводле магдэбургскага права горад атрымаў у 1531 г. З 1566 г. тут дзейнічалі гродскі і земскі суды, збіраліся павятовыя сеймікі. З 1558 г. праводзіліся 2 кірмашы. Узніклі цэхавыя рамёствы. Гораду далі «права склада»; купцы, што праязджалі праз Слонім, павінны былі весці тут гандаль. Слонімскі магістрат спаганяў з праезджых гандляроў спецыяльны падатак на брукаванне вуліц і плошчаў. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. Слонім папераменна займалі атрады рускіх і польска-літоўскіх войск. Горад прыйшоў у заняпад. У 1776 г. магдэбургскае права Слоніму скасавана, і ён быў падпарадкаваны ўладзе старосты. Эканамічны ўздым Слоніма звязаны з будаўнічай дзейнасцю слонімскага старосты Міхала Казіміра Агінскага, вялікага гетмана літоўскага, які ў 2-й палове 18 ст. заснаваў тут сваю рэзідэнцыю, пабудаваў некалькі прадпрыемстваў, аўстэрыю, манеж, аранжарэю, стварыў оперны тэатр і капэлу, друкарню. Тады ж быў выпрастаны рукаў Шчары, пабудавана прыстань для прыёму рачных суднаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) горад у складзе Расійскай імперыі, з 14.12.1795 г. цэнтр Слонімскай губерні, з 1797 г. у Літоўскай, з 1801 г. у Гродзенскай губернях. У чэрвені 1812 г. французскія войскі захапілі горад. 8.10.1812 г. рускія войскі разбілі ў Слоніме французскі полк гвардзейскіх уланаў і занялі горад. У 1825 г. у Слоніме 5364 жыхары, 700 дамоў (14 мураваных), 2 суконныя фабрыкі, у 1857 г.— 9523 жыхары, 66 мураваных і 745 драўляных дамоў. Значная частка насельніцтва займалася рамяством. Паўстанне 1863—64 гг. ахапіла і Слонімскі павет. У красавіку — маі 1863 г. каля горада дзейнічалі паўстанцкія атрады. Тут 29.5.1863 г. вёў бой з царскімі войскамі атрад на чале з В. А. Урублеўскім. Праз Слонім у 1885 г. пракладзена чыгунка. У 1897 г.— 15 893 жыхары, працавала 5 півавараных, 4 ганчарныя, 2 гарбарныя заводы, 2 канатныя фабрыкі, дрожджа-вінакурны завод, некалькі млыноў; 1312 жылых дамоў, у т. л. 333 мураваныя.

У 1903—04 гг. створана арганізацыя РСДРП. Рабочыя прынялі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. Яны правялі 17 студзеня, 27 лютага, 18 мая 1905 г. і ў лістападзе 1907 г. забастоўкі (апошнюю разам з навучэнцамі рэальнага вучылішча і 2 жаночых прагімназій). Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў Слоніме было 21 624 жыхары. У 1-ю сусветную вайну ў раёне Слоніма 13—18.9.1915 г. адбыліся цяжкія баі, горад акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У 1918 г. дзейнічала бальшавіцкае падполле. 6 снежня выбраны ВРК, які вёў работу сярод працоўных. У студзені 1919 г. Слонім вызвалены Чырвонай Арміяй, у горадзе і павеце ўстаноўлена Савецкая ўлада. 4—25.2.1919 г. тут размяшчаўся Гродзенскі губернскі ВРК на чале з С. І. Берсанам. З 2.3.1919 г. Слонім акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. Горад быў вызвалены часцямі Чырвонай Арміі 20.7.1920 г. Устаноўлена Савецкая ўлада. Зноў захоплены польскімі войскамі 27.9.1920 г. У складзе Польшчы паводле Рыжскага прэлімінарнага мірнага дагавора ад 12.10. 1920 г. Цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. Дзейнічала Слонімска-Баранавіцкая акруговая арганізацыя КПЗБ, пад кіраўніцтвам якой адбыліся забастоўкі і дэманстрацыі рабочых, беспрацоўных і сялян. Самая буйная забастоўка была ў чэрвені — ліпені 1931 г.

З канца 1939 г. у складзе БССР. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з 26.6.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі войскамі. У горадзе дзейнічала антыфашысцкае падполле, на тэрыторыі раёна — Слонімскія падпольныя райкомы КП(б)Б (17.9.1943 г.— 10.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.12.1943 г.— 10.7.1944 г.). Вызвалены ў выніку Баранавіцка-Слонімскай аперацыі 1944 г. 11 часцям, якія вызвалялі горад, нададзена ганаровае найменне «Слонімскіх». З 8.1.1954 г. Слонім — цэнтр раёна Гродзенскай вобл. З 7.3.1963 г. горад абласнога падпарадкавання. 19.1. 1965 г. у склад горада ўключаны г. п. Альбярцін (цяпер Фабрычны пасёлак).

Рака Шчара дзеліць горад па 2 часткі: цэнтральную, якая гістарычна сфарміравалася на левым беразе ракі, і Замосце, што размешчана на паніжаным поймавым правабярэжжы. Цэнтрам і планіровачнай асновай горада з'яўляецца тэрыторыя замчышча. У 13 ст. у Слоніме быў драўляны замак старосты (адбудаваны пасля разбурэння ў 1211 г.). Слонім як важны стратэгічны пункт меў драўляныя ўмацаванні, земляны вал, роў і інш. У сістэму абарончых умацаванняў уваходзілі мураваныя будынкі манастыроў і храмаў: кляштары бернардзінцаў, дамініканцаў (не захаваўся), бернардзінак, бенедыкцінак, сінагога, Праабражэнскі сабор (не захаваўся), езуіцкі калегіум, якія былі ўзведзены ў 17 ст.

Забудова Слоніма фарміравалася вакол 3 звязаных паміж сабою плошчаў: галоўнай гандлёвай, перад дамініканскім касцёлам і перад сінагогай. Вуліцы радыяльнай планіроўкі накіраваны да гандлёвай плошчы. У 19 ст. было зроблена некалькі праектаў перапланіроўкі Слоніма — у 1825, 1863, 1870 і 1876 гг. У выніку архітэктурны выгляд горада крыху змяніўся, аднак яго гістарычная планіровачная структура захавалася. У горадзе будаваліся 2- і 3-павярховыя цагляныя дамы. Значныя страты драўлянай забудове нанёс пажар 1881 г. У Слоніме захаваліся фрагменты характэрнай для 18 ст. забудовы — дамы рамеснікаў і гараджан. У 1-й палове 19 ст. пабудаваны паштовая станцыя, суконная фабрыка, у пачатку 20 ст.— у стылі «мадэрн» будынак чыгуначнага вакзала, жылы дом (вул. Пушкіна, 8), будынак банка (вул. В. Крайняга, 21). Канструктывісцкі кірунак у будаўніцтве 20 ст. праявіўся ў архітэктуры дома № 5 на пл. Леніна (1938 г.). Генеральны план 1963 г. таксама захаваў старую планіроўку цэнтра горада. Апошні генплан распрацаваны Мінскім філіялам цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва ў 1973 г.



**XX.** ***Фрагмент забудовы вуліцы Чырвонаармейскай.***



**XX.** *Забудова мікраараёна па вуліцы Брэсцкай.*

Асноўнымі вуліцамі, якія фарміруюць горад, з'яўляюцца Чырвонаармейская, Пушкіна, Савецкая, П. Лумумбы. За апошнія гады ўздоўж вуліц Чырвонаармейскай, Шашэйнай, Пушкіна і ў мікраараёне па вул. Брэсцкай выраслі масівы жылой шматпавярховай забудовы.

Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны ў паўднёва-заходнім, паўночна-ўсходнім раёнах горада і ў пасёлку Фабрычным. Сярод іх — заводы кардонна-папяровы, асфальтабетонны, аўтарамонтны і маторарамонтны, фабрыкі мастацкіх вырабаў, камвольна-прадзільная, «Тэкстыльшчык», мэблевая. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны.

У Слоніме медыцынскае і 2 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 8 агульнаадукацыйных сярэдніх, васьмігадовая, санаторна-лясная, рабочай моладзі, 3 дзіцяча-юнацкія спартыўныя і музычная школы, 18 дашкольных устаноў, Дом культуры, 14 бібліятэк, 2 кінатэатры, краязнаўчы музей, 5 бальнічных і 6 амбулаторна-паліклінічных устаноў, 2 дыспансеры, 2 стадыёны. Зоны адпачынку — парк культуры і адпачынку па берагах р. Шчара, парк у пасёлку Фабрычным. Выдаецца газета «За перамогу камунізму». Помнікі: У. І. Леніну; вызваліцелям; на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан; на магіле Героя Савецкага Саюза К. С. Гнедаша; на ўшанаванне памяці работнікаў кардонна-папяровага завода; землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і інш. Зберагліся помнікі архітэктуры 17—18 стагоддзяў — кляштары бернардзінцаў і бернардзінак, сінагога, капліца Дамініка, частка жылой забудовы цэнтра і інш.

*Літ.:* Романовский И. О. Прошлое из жизни города Слонима.— Гродна, 1898; Бобровский П. О. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 1—2.— СПб., 1863; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Мелешко В. И. Слоним: Исторический очерк.— Мн., 1962; Милаковский М. Описание города Слонима.— Гродна, 1891; Квітніцкая А. Дз. Стары Слонім.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 4; Караткевіч В. Б., Кулагін А. М. Помнікі Слоніма.— Мн., 1983.

*А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*

**1215. АНДРЭЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У зарэчнай усходняй частцы горада (Замосце), на пл. імя М. Горкага. Пабудаваны ў 1775 г. з цэглы, рэстаўрыраваны ў 1920-я гады.



**1215.** *Андрэеўскі касцёл. Галоўны фасад.*



**1215.** *Андрэеўскі касцёл. План.*



**XX.** *Дом культуры.*

Аднанефавы прамавугольны ў плане храм з пазнейшымі бакавымі прыбудовамі накрыты двухсхільным чарапічным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Вось галоўнага двухвежавага фасада пазначана ўваходным парталам і высокім фігурным шчытом. Плоскасць галоўнага фасада выпукла-ўвагнутая, раскрапавана пілястрамі. Яго ярусны характар падкрэслены гарызантальнымі і вертыкальнымі чляненнямі, узмоцненай крапоўкай контурных ліній. Верхні ярус аддзелены расчлянёным карнізам. Бакавыя вежы завершаны ліхтарамі на фігурных купалах. Плоскасці галоўнага фасада дэкарыраваны нішамі з драўлянымі скульптурамі евангелістаў. Бакавыя фасады ў прасценках чляноны плоскімі пілястрамі.





1215. *Андрэеўскі касцёл. Скульптуры евангелістаў.*

У інтэр'еры высокі неф (14,1 м) перакрыты паўцыркульным скляпеннем з распалубкамі. Да алтарнай часткі прымыкаюць бакавыя квадратныя ў плане сакрысціі. Прастора інтэр'ера асветлена высокімі арачнымі вокнамі. У паўночнай частцы храма на 3 арках і крыжовых скляпеннях — хоры. На тарцовай сцяне хораў фрэскавая размалёўка: пілястры з ракайлямі, фігуры анёлаў, музычныя атрыбуты, вазы. Бакавыя сцены (таўшчыня 1,84 м) крапаваны пілястрамі з капітэлямі карынфскага ордэра. Паміж пілястрамі — прамавугольныя панелі. Каларыстычная гама інтэр'ера — светла-блакітны, белы і ружовы таны, пазалота.

Галоўным пластычна-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера з'яўляецца цэнтральны стукавы алтар у выглядзе порціка са здвоенымі карынфскімі калонамі, якія нясуць трохвугольны раскрапаваны франтон. Уздоўж схілаў франтона размешчаны стукавыя скульптуры анёлаў. Бакавыя алтары пабудаваны па ўзору галоўнага. На бакавых сценах прэсбітэрыя — прамавугольныя фрэскавыя карціны на біблейскія сюжэты. На ўсходняй сцяне алтара быў размешчаны амбон у форме чаўна пад ветразем.

Касцёл — помнік архітэктуры ракако.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968. *А. М. Кулагін.*

**1216. АСАБНЯК** (архіт.). У паўночнай частцы горада, на перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і Камуністычнай. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. Цяпер тут размешчана медыцынская ўстанова.

Аднапавярховы дом вынесены ў глыбіню прамавугольнага ўчастка. Курданёр фланкіраваны 2 аднапавярховымі прамавугольнымі ў плане флігелямі. Будынак пастаўлены на высокім цокалі. Цэнтральная частка галоўнага фасада выразана мансардавым порцікам (здвоеныя канеліраваныя калоны, капітэлі тасканскага ордэра, пакаты трохвугольны франтон з люкарнай). У дэкоры выкарыстаны вуглавыя руставаныя лапаткі і прафіляваныя карнізы з сухарыкамі. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уцалелыя часткі капітальных сцен сведчаць аб былой калідорнай планіроўцы дома. Флігелі вырашаны нейтральна, без выразнай архітэктурнай дэталізацыі.

Асабняк — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1217. АСАБНЯК** (архіт.). Вул. Маякоўскага, 5, на штучным плато левага берага канала Агінскага. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём з двухсхільным дахам. Вось сіметрыі галоўнага фасада адзначана цэнтральным уваходным рызалітам з трохвугольным шчытом у завяршэнні. Каларыстычнае і дэкаратыўнае вырашэнне фасадаў заснавана на спалучэнні жоўтага фону неатынкаванай цаглянай мурoўкі і выкананых з чырвонай цэглы архітэктурных элементаў (ліштвы, руст, фрыз і карніз). Планіроўка анфіладная. У цэнтры — вялікі вестыбюль з калонамі. Тры міжпаверхавыя лесвіцы знаходзяцца ў вуглавых частках дома. Значную прастору пад ім займаюць падвалы.

Асабняк — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**1218. АЎСТЭРЫЯ** (архіт.). Вул. Савецкая, 10. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. Былы заезны дом пры палацы Слонімскага старосты вялікага гетмана літоўскага М. К. Агінскага. Цяпер тут навучальная ўстанова.

Спачатку быў двухпавярховы (у 20 ст. надбудаваны трэці паверх, завершаны двухсхільным дахам). Галоўны фасад прамавугольнага ў плане будынка раскрапаваны буйнамаш-



1216. *Асабняк. Галоўны фасад.*



1216. *Асабняк. План.*

табнымі руставанымі лапаткамі і расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Палавіна першага паверха аўстэрыі была адведзена пад гасціную, перакрытую 4 ветразевымі скляпеннямі з цэнтральнай апорай. Пад гэтай часткай дома размешчаны шырокія скляпеністыя падвалы. Цэнтральная лесвіца вядзе з вузкага вестыбюля на другі жылы паверх.

Аўстэрыя — помнік архітэктуры барока. *А. М. Кулагін.*

**1219. БАНК** (архіт.). Вул. В. Крайняга, 21. Пабудаваны ў 1905 г. з цэглы.

Будынак — аднапавярховы аб'ём з сіметрычна-восевай кампазіцыяй галоўнага фасада. Цэнтр яго вылучаны рызалітам з увагнута-выпуклым пластычным шчытом. Галоўны ўваход аформлены буйным руставаным парталам. Дэкаратыўнае вырашэнне заснавана на спалучэнні чырвонага фону цаглянай муроўкі і атынкаваных архітэктурных дэталей. Фасады рытмічна члянёны вялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры вылучаецца памерамі цэнтральная аперацыйная зала.

Будынак банка — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

**1220. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Баранавіцкая, на могілках. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына ў жалобе і суворавец.

**1221. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На Гродзенскай шашы, каля адміністрацыйнага будынка міжраённага ўпраўлення газавай гаспадаркі. Пахаваны 110 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск, перад ім запалены Вечны агонь.

**1222. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Пушкіна, у скверы. Пахаваны 957 воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — салдаты і камандзіры Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях у чэрвені 1941 г.

Танкавыя калоны групы Гудэрыяна рваліся да Мінска. Іх стрымлівалі злучэнні і часці 4-й арміі, з 25 чэрвеня ў яе склад увайшлі 155-я (генерал-маёр П. А. Аляксандраў), 121-я (генерал-маёр П. М. Зыкаў), 143-я (генерал-маёр Д. П. Сафонаў) і 55-я (палкоўнік Д. І. Іванюк) стралковыя дывізіі 47-га стралковага корпуса, сканцэнтраваныя камандаваннем Заходняга фронту на рубяжы р. Шчара ў раёне Слоніма. Трое сутак (23—25 чэрвеня) працягваліся жорсткія баі на Шчары. Вораг спрабаваў абысці Слонім з паўднёвага ўсходу, але яго контратакавала 143-я стралковая дывізія, якая адкінула гітлераўцаў за Шчару і нанесла ім вялікія страты. Фашысцкае камандаванне падцягнула на гэты ўчастак свежыя сілы. Пад іх націскам часці Чырвонай Арміі з цяжкімі баямі адышлі і 26.6. 1941 г. пакінулі Слонім.

У брацкай магіле пахаваны таксама воіны часцей і злучэнняў, якія 10.7.1944 г. удзельнічалі ў вызваленні Слоніма ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле воінаў і партызан пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам і схіленым сцягам (скульпт. А. Курачкін), а таксама 7 пліт з прозвішчамі пахаваных воінаў і партызан. Перад скульптурай запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983.

*В. Б. Караткевіч.*

**1223. ВАКЗАЛ** (архіт.). Вул. Вакзальная, 11. Пабудаваны ў 1922 г. з цэглы.

Выцягнуты па фронту вуліцы аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак мае трох'ярусную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: бакавыя крылы, цэнтральны аб'ём, мансардавы паверх. Спалучэнне рознавялікіх вальмавых дахаў надае збудаванню пластычны сілуэт. Дамінуючыя элементы франтальных фасадаў — завяршэнні цэнтральных рызалітаў у выглядзе двух'ярусных шчытоў плаўнага крывалінейнага абрысу. Сцены расчлянёны прамавугольнымі і высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Пластычны архітэктурны дэкор уключае рустоўку, крапаваныя франтоны, валюты. Планіроўка вакзала мяшаная — калідорна-анфіладная. У цэнтры — квадратны ў плане вестыбюль,



1218. *Аўстэрыя.*



1218. *Аўстэрыя. План 1-га паверха.*



1219. *Будынак банка.*



1220. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1222. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1223. *Будынак вакзала.*

абапал яго — касавы вестыбюль і зала чакання.

Будынак вакзала — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**1224. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1224а.** Гарадзішча. На паўднёвай ускраіне горада, на мысе вялікага ўзвышша, ва ўрочышчы Косаўскі тракт. Памеры 50×35 м. Вышыня пляцоўкі 8 м. Умацавана валам вышынёй з боку поля 5 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. У шурфах выяўлены абломкі ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу, косці жывёлы.

**1224б.** Селішча. Побач з гарадзішчам, на паўднёвы ўсход ад яго. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні селішча сабраны рэшткі ляпной гладкасценнай керамікі 6—8 стагоддзяў і фрагменты ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу. На глыбіні 0,5 м ускрыта агнішча памерам 1×1,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі. *Л. Д. Побаль.*



1224. *Гарадзішча. План.*

**1225. ДАМЫ РАМЕСНІКАЎ** (архіт.). На пл. Леніна, № 7, 9, 11. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. слонімскім старостам М. К. Агінскім. Будынкі адпапавярховыя; два з іх (№ 7 і № 9) арыентаваны на плошчу тарцовымі фасадамі з трохвугольнымі шчытамі, трэці (№ 11) — франтальным. Выкарыстоўваюцца як жылыя і адміністрацыйныя будынкі.

Дом № 7. План дома развіты ў глыбіню двара і мае форму няправільнага прамавугольніка. Дэкор фасадаў — нескладаныя архітэктурныя абломы, абрамленні. Унутраная планіроўка нерэгулярная.

Дом № 9. Кампактны прамавугольны план дэфармаваны адпаведна канфігурацыі плошчы. Уваход у будынак з двара. Дэкор — нескладаныя абломы, карніз і вуглавыя лапаткі.

Дом № 11. Галоўным фасадам павернуты да плошчы. План блізкі да прамавугольніка. Унутраная планіроўка рэгулярная.

Дамы рамеснікаў — помнік жыллёвай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*



1225. *Дамы рамеснікаў.*



1225. *Дамы рамеснікаў. План дома № 7.*

**1226. ДОМ, У ЯКІМ АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ ПАВЯТОВЫ З'ЕЗД САВЕТАЎ** (гіст.). Вул. В. Крайняга, 18.

У 1-ю сусветную вайну Слонім акупіравалі (верасень 1915 г.) германскія войскі. Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 г. у Германіі прадстаўнікі дробнабуржуазных партый, якія баяліся ўплыву бальшавікоў на працоўных, атрымалі дазвол акупацыйных улад на стварэнне гарадскога Савета рабочых дэпутатаў. Створаны Савет працаваў пад поўным кантролем акупантаў.

Слонімскія бальшавікі вырашылі падрыхтаваць павятовы з'езд Саветаў, каб бальшавізаваць Савет. 6.12. 1918 г. на ўскраіне горада ў закінутай казарме адбыўся сход бальшавікоў Слоніма і спачуваючых ім рабочых. На сходзе 35 рабочых падалі заявы аб прыёме ў партыю. Быў выбраны ваенна-рэвалюцыйны камітэт, створана ініцыятыўная група па падрыхтоўцы з'езда Саветаў. Актыўную ролю ў гэтым адыгралі бальшавікі Я. Куніца, К. Куніца, Ю. Герман, Альбярцінскі, Кунда і інш. Ініцыятыўная група дабілася дазволу акупацыйных улад на легальнае скліканне з'езда, быццам для вырашэння гаспадарчых пытанняў.

Першы з'езд Саветаў рабочых і сялянскіх дэпутатаў Слонімскага павета адкрыўся 9.12.1918 г. На ім прысутнічала 36 дэлегатаў, 27 — прадстаўнікі навакольных населеных пунктаў, 4 — ад Слонімскага Савета, 5 — ад

ініцыятыўнай групы. Сакратаром з'езда быў выбраны бальшавік К. Г. Гараст. Абмяркоўваліся пытанні: аб арганізацыі ўлады на месцах, аб падзеле памешчыцкай зямлі, аб набыцці зброі і перадачы яе рэвалюцыйнаму насельніцтву і інш. Прадстаўнікі дробнабуржуазнага савета Слоніма спрабавалі сарваць з'езд, але дэлегаты іх не падтрымалі. З'езд паспяхова вырашыў усе пытанні, выбраў павятовы выканком Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў, у якім з 9 месцаў бальшавікі атрымалі 6.

У 1965 г. на будынку, дзе праходзіў з'езд, устаноўлена мемарыяльная дошка. *В. Б. Караткевіч.*

**1227. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА КПЗБ** (гіст.). Вул. Савецкая, 2. У гэтым будынку адбываліся пасяджэнні Слонімскага камітэта КПЗБ.

Партыйная арганізацыя ў Слоніме створана ў канцы 1921 г. (10 чалавек), была звязана з Віленскім акруговым камітэтам Кампартыі Літвы і Беластоцкім акруговым камітэтам. У пачатку 1924 г. у Слоніме была створана арганізацыя КПЗБ. Слонімскі райком (сакратар В. Н. Крупнік) кіраваў дзейнасцю Дзярэчынскага, Казлоўшчынскага, Ружанскага, Быценскага, Азярніцкага і Зэльвенскага падраёнаў. У пачатку 1926 г. члены райкома былі арыштаваны. У маі 1926 г. на раённай партыйнай канферэнцыі выбраны новы камітэт у складзе Л. Я. Дабрыяна, М. Р. Скока і Шарашэўскага. У канцы 1934 г.— пачатку 1935 г. паліцыя з дапамогай правакатараў разграміла райком. Аднак у 2-й палове 1935 г. ён быў аднаўлены (сакратары Ф. Д. Кавалеўскі, М. Р. Скок).

У красавіку 1924 г. створаны Слонімска-Баранавіцкі акругком, які сваёй дзейнасцю ахопліваў Слонімскі, Навагрудскі, Баранавіцкі, Нясвіжскі, Стаўбцоўскі і Косаўскі паветы. Узначальвалі яго К. І. Асіпік («Даніла»), В. М. Дайновіч («Стэфанчык»), М. Л. Паравалоцкі. У розны час у акругком уваходзілі: І. Кур'ян, А. І. Багданчук, Н. Ф. Міско, Ф. Кантар («Макар»), Ф. Д. Кавалеўскі, М. Я. Міхалоўскі, П. Маркевіч, Гурскі, Хомскі, Крукоўскі, Рубінчык, Карнач і інш.

Слонімскі райком і акругком КПЗБ праводзілі прапагандысцкую і арганізацыйную работу. Пад кіраўніцтвам камуністаў былі створаны прафсаюзы швейнікаў, гарбароў, гандлёвых служачых і інш. Члены КПЗБ у 1924 г. арганізавалі забастоўку рабочых харчовых прадпрыемстваў Слоніма. У пачатку ліпеня 1926 г. райком КПЗБ і Грамада правялі дэманстрацыю, у якой удзельнічалі 600 рабочых і сялян. Люты 1927 г. быў адзначаны шматлюднай дэманстрацыяй супраць разгрому Грамады, люты 1929 г.— забастоўкай сталяроў. 10.7.1931 г. баставалі 300 рабочых-будаўнікоў, у 1934 г.— рабочыя папяровай фабрыкі «Альбярцін». У студзені 1934 г. у Слонімскім павеце адбылася адна з буйнейшых у Заходняй Беларусі забастоўка лесарубаў і возчыкаў (больш за 3 тыс. удзельнікаў), якой кіравалі мясцовыя арганізацыі КПЗБ. Напярэдадні 2-га з'езда КПЗБ (май 1935 г.) у Слонімскай акрузе было 468 членаў КПЗБ. 1 Мая 1937 г. у Слоніме прайшла буйная дэманстрацыя пад лозунгамі барацьбы з фашызмам.

Слонімскія райком і акругком КПЗБ дзейнічалі да вясны 1938 г.

*Літ.:* Годы испытаний и мужества.— Мн., 1973; Мелешко В. И. Слоним: Исторический очерк.— Мн., 1962; Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966. *В. Б. Караткевіч.*

**1228. ЗАМЧЫШЧА, ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1228а.** Замчышча. У цэнтры горада. Абмежавана вуліцамі Першамайскай, Савецкай, імя Энгельса, імя Маякоўскага. Чатырохвугольнае ў плане, са стромкімі схіламі з поўдня і ўсходу, з поўначы і захаду абмежавана равамі глыбінёй 8 м, шырынёй 15—18 м. Памеры пляцоўкі 15×20 м, вышыня 6 м. Невялікія разведвальныя раскопкі праведзены ў 1959 г. Г. І. Пехам. У 1968 г. Я. Г. Звяруга ўскрыў участак плошчай 168 м² ва ўсходняй частцы Замчышча. Культурны пласт 5 і больш метраў павышанай вільготнасці. Пад пластом 18—19 стагоддзяў праслойка жоўтага пяску, ніжэй якой быў пласт 11—15 стагоддзяў. У ім добра захаваліся насцілы вуліц з тонкіх бярвенняў і плашак. Адна вуліца шырынёй 5—6 м пракладзена з поўначы на поўдзень, другая шырынёй 3—4 м прымыкала да першай з захаду. Абапал вуліц захаваліся рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў плошчай ад 3,96 м² (гаспадарчыя памяшканні) да 20 м² (жылыя дамы). Пераважаюць зрубныя пабудовы з хвойных і дзеніэе лісцевых парод дрэў. Усе яны рублены «ў абло». Есць рэшткі памяшканняў слупавой канструкцыі, пераважна гаспадарчага прызначэння. Печы размяшчаліся ў адным з вуглоў, часцей за ўсё каля ўвахода.



**1225.** *Дамы рамеснікаў. План дома № 9.*



**1225.** *Дамы рамеснікаў. План дома № 11.*



**1226.** *Дом, у якім адбыўся першы павятовы з'езд Саветаў.*



**1227.** *Дом, у якім была явачная кватэра КПЗБ.*

Знойдзена вялікая колькасць вырабаў з жалеза, каляровых металаў, шкла, дрэва, косці, скуры і тканіны (шкляныя пацеркі, рэшткі чырвонагліняных рыфленых амфар кіеўскага тыпу, бронзавая фібула з патоўшчанымі канцамі, манетападобная арнаментаваная падвеска, медны «збанок», абломкі шпор, жалезны шлем з наноснікам, драўляныя грабяні, міскі, дзіцячыя мячы, клёпкі і днішчы ад вёдраў, рэшткі скуранога абутку, футаралаў, ножнаў, фрагменты шарсцяных і льняных тканін). Матэрыялы раскопак сведчаць, што ў канцы 11—15 стагоддзяў у Слоніме былі шырокія вуліцы, зручныя дамы, развітыя рамёствы і гандаль.

**1228б.** Г а р а д з і ш ч а. На поўнач ад замчышча, на паўночнай ускраіне горада, на правым беразе р. Шчара, ва ўрочышчах Малева (Акураўшчына) і Саксонскі курган. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1963—64 гг. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1228в.** С е л і ш ч а. На паўночнай ускраіне Слоніма, на месцы былой в. Рышчыцы. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы каля 1 га выяўлены рэшткі грубаляпной гладкасценнай керамікі 1-га тысячагоддзя н. э. і ганчарнага посуду раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* М е л е ш к о В. И. Слоним: Исторический очерк.— Мн., 1962; З в е р у г о Я. Г. Раскопки в Слониме.— У кн.: Археологические открытия 1968 года. М., 1969. *Л. Д. Побаль.*



**1229.** *Капліца Дамініка.*

**1229. КАПЛІЦА ДАМІНІКА** (архіт.). У заходняй частцы горада, на перакрыжаванні вуліц Міцкевіча і Пушкіна. Збудавана ў 1745 г.

Цэнтрычнае вежападобнае трох'яруснае збудаванне. Кампазіцыя яго грунтуецца на пластычнасці аб'ёмных форм. Першы ярус масіўны, маналітны, з увагнутымі гранямі, другі — скразны, з чатырма арачнымі праёмамі, трэці — завяршэнне складанай увагнута-выпуклай канфігурацыі. Ярусы капліцы выразна падкрэслены чарапічнымі схіламі і пластычнымі карнізамі з выкружкамі. У другім ярусе была ўстаноўлена драўляная скульптура св. Дамініка (не захавалася).

Капліца — прыклад архітэктуры малых форм ракако.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968. *А. М. Кулагін.*

**1230. КАСЦЁЛ** (архіт.). Вул. Войкава, 13а.

Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У прасторавай кампазіцыі прамавугольнага ў плане аб'ёму з высокім двухсхільным дахам дамінуе квадратная ў сячэнні вежа, якая завершана чатырохгранным шпілем. Высокі цокаль і шырокая лесвіца галоўнага ўвахода выкладзены з вапняковых блокаў. Уваход вылучаны перспектыўным парталам. Плоскасныя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутраная прастора 2 парамі слупоў падзелена на 3 нефы. Цэнтральны перакрыты люстраным скляпеннем, бакавыя — прафіляванымі плафонамі. Пры ўваходзе, на трохпралётнай аркадзе,— хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры з элементамі неаготыкі. *А. М. Кулагін.*



**1230.** *Касцёл.*



**1230.** *Касцёл. План.*

**1231. КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК** (архіт.). На вул. Чырвонаармейскай, на паўднёва-ўсходняй ускраіне горада. Уваходзіў у кальцо абарончых збудаванняў. Закладзены ў 1669 г. з дрэва. У 1801 г. на яго месцы ўзведзены мураваны. Ансамбль кляштара ўключаў Крыжаўзвіжанскі касцёл (не захаваўся) і жылы корпус (цяпер размешчана сярэдняя школа).

Жылы корпус — Г-падобны ў плане двухпавярховы будынак, накрыты двухсхільным дахам. Пластыку фасадаў ствараюць арытмічна размешчаныя лапаткі. Планіроўка галерэйная. Захаваліся часткова скляпеністыя перакрыцці. Пад будынкам на ўсю даўжыню размешчаны скляпеністыя падвалы таксама галерэйнай планіроўкі.

Жылы корпус кляштара — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1232. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК** (архіт., маст.). Вул. Першамайская, 11, пабудаваны ў сярэдзіне 17 — 2-й палове 18 ст. з цэглы. Пашкоджаны пажарам 1790 г., адбудаваны ў 1793 г. Комплекс быў абнесены суцэльнай мураванай агароджай з уязной брамай (не збераглася), уключае касцёл і прыбудаваны да яго з паўднёва-заходняга боку жылы корпус. Цяпер у жылым корпусе размешчана медыцынская ўстанова.

К а с ц ё л М а р ы і. Будаўніцтва вя-



**1231.** *Кляштар бенедыкцінак. Жылы корпус.*



**1231.** *Кляштар бенедыкцінак. Жылы корпус. План 1-га паверха.*

лося на працягу 1664—70 гг. Аднанефавая базіліка. У кампазіцыі дамінуе трох'ярусная квадратная ў сячэнні вежа-званіца, вылучаная ў самастойны масіўны аб'ём. Верхні ярус вежы з больш насычанай дэкаратыўнай апрацоўкай (здвоеныя лапаткі, арачныя нішы) завершаны чатырохсхільным пакатым дахам. Аконныя праёмы дэкарыраваны франтонамі з фігуркамі херувімаў, арнаментам раслiннага характару. Фасады крапаваны плоскімі пілястрамі, карнізам і фрызам. Да сцен алтарнай часткі прымыкаюць align="розна"вялікія прамавугольныя ў плане сакрысціі. Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, пераходзіць у больш вузкую паўкруглую апсіду. Сцены ў інтэр'еры касцёла члянёны масіўнымі пілонамі, капітэлі якіх дэкарыраваны стылізаваным раслінным арнаментам. У вырашэнні алтароў сінтэзуюцца дэкаратыўная скульптура, жывапіс і прыкладное мастацтва. Галоўны алтар двух'ярусны, у выглядзе здвоеных карынфскіх калон, якія выкананы ў тэхніцы стука і нясуць раскрапаваны антаблемент у стылі ракако. У цэнтры знаходзіцца ікона св. Марыі (18 ст.; палатно, алей), абапал яе — скульптуры евангелістаў. Другі ярус дэкарыраваны групай валют, скульптурамі анёлаў. Меншыя па маштабу 4 бакавыя алтары нібы ўмураваны ў прасценкі і маюць аналагічную з галоўным алтаром кампазіцыю. Арнаментальная лепка (ракавіны, ракайлі, вазы, маскі жывёл) і гіпсавая скульптура выкананы ў стылі ракако. Амбон вырашаны ў выглядзе фігурнай кафедры з балдахінам, дэкарыраваным ракайлямі, вазамі, пуцці. Спавядальня — у стылі ракако. Пры ўваходзе на трохпралётнай аркадзе — хоры з арганам.

Жылы корпус. Прыбудаваны да касцёла ў сярэдзіне 18 ст. пад кіраўніцтвам архіт. І. Авадовіча. Утварае ўнутраны прамавугольны ў плане двор. Фасады рытмічна члянёны пілястрамі, дэкарыраваны прафіляваным карнізам. Паўднёва-заходні вугал корпуса вылучаны рызалітам з магутнымі контрфорсамі. Планіроўка галерэйная. У келлях і калідорах крыжовыя і цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі.

Кляштар бернардзінак — помнік архітэктуры з рысамі барока, ракако і класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1233. КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ** (архіт., маст.). Вул. В. Крайняга, 23, на левым беразе р. Шчара. Узведзены ў 17 ст. як апорны пункт сістэмы гарадскіх абарончых збудаванняў. Архітэктурны комплекс кляштара складаецца з мураваных касцёла і жылога корпуса.



**1233.** *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл. Інтэр'ер.*

Касцёл. Пабудаваны ў 1639—45 гг. на месцы драўлянага. Аднанефавая бяскупальная базіліка з выцягнутым прэсбітэрыем. Кампактная развітая па падоўжнай восі прасторавая кампазіцыя касцёла выразна падкрэслена трох'ярусная вежай-званіцай на галоўным фасадзе, сцены якой упрыгожаны прафіляванымі карнізамі, плоскімі капітэлямі. Цэласны і маналітны характар будынку надае высокі двухсхільны чарапічны дах, які над апсідай пераходзіць у канічны. Кампазіцыю збудавання ўскладняюць квадратныя ў плане капліцы (паўночная прыбудавана ў 1668 г., паўднёвая — у 1750 г.), на-



**1232.** *Кляштар бернардзінак. Касцёл Марыі. Выгляд з боку апсіды.*



**1232.** *Кляштар бернардзінак. План 1-га паверха жылога корпуса.*



**1232.** *Кляштар бернардзінак. Касцёл Марыі. Інтэр'ер.*

крытыя шлемападобнымі купаламі, і магутныя контрфорсы.

Інтэр'ер касцёла адпавядае характару вонкавай архітэктуры. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і конхай у алтарнай частцы храма. Прасценкі ўмацаваны пілястрамі, аб'яднанымі з вонкавымі контрфорсамі ў адзіны канструкцыйны элемент, які трымае распор скляпення. З заходняга боку нефа на трохпралётнай аркадзе і крыжовых скляпеннях узвышаюцца хоры, агароджаныя фігурным увагнута-выпуклым парапетам. Кампазіцыя інтэр'ера пабудавана на паступовым маштабным і дэкаратыўным нарастанні групы бакавых алтароў. Дамінуе цэнтральны алтар, выкананы ў 18 ст. маналітна са сцяной. Ён мае сіметрычнаахосевую шматкалонную і шматфігурную будову. У цэнтры алтара ікона св. Троіцы (18 ст., палатно, алей). Вуглавыя алтары раскрапаваны пучкамі пілястраў і завершаны барочнымі ўвагнута-выпуклымі франтонамі. Арнаментальная трактоўка алтароў заснавана на дэкаратыўных элементах ракако: валюты, ракайлі, ракавіны, вазы, фігуркі пуцці.

Жылы корпус. Пабудаваны ў 1749 г. Цяпер у будынку знаходзіцца інтэрнат медвучылішча.

Двухпавярховы П-падобны ў плане корпус прымыкае з паўднёвага боку да апсіды храма і абмяжоўвае прамавугольны курданёр. Сцены дэкарыраваны пілястрамі і міжпаверхавай цягай. Планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем келляў. У калідорах і памяшканнях будынка захаваліся крыжовыя і цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. У тарцы ўсходняга крыла — шырокая зала, перакрытая цыліндрычным скляпеннем з люнетамі.

Кляштар бернардзінцаў — помнік архітэктуры барока. *А. М. Кулагін.*



1233. *Кляштар бернардзінцаў. Касцёл. Галоўны фасад.*



1233. *Кляштар бернардзінцаў. План.*

**1234. МАГІЛА ГНЕДАША** Кузьмы Савельевіча і **ДАВІДЗЮК** Клары Трафімаўны (гіст.). Вул. Пушкіна, у скверы, побач з брацкай магілай 900 савецкіх воінаў і партызан.

Герой Савецкага Саюза К. С. Гнедаш нарадзіўся 17.11.1914 г. у с. Салагубаўка Роменскага р-на Сумскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў шафёрам у МТС. Скончыў Кіеўскае ваеннае вучылішча ў 1940 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У верасні 1939 г. удзельнічаў у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Украіну. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір аператыўна-дыверсійнага цэнтра разведаддзела штаба 1-га Беларускага фронту К. С. Гнедаш вызначыўся ў баях у тыле ворага. Групы пад яго камандаваннем вялі разведку і дыверсійную работу ў раёне Слуцка, Баранавіч, Мінска, Кобрына, Асіповіч, Пінска, Лунінца, Брэста, на тэрыторыі Кіеўскай і Чарнігаўскай абласцей, перадавалі камандаванню Чырвонай Арміі інфармацыю аб сістэме абароны ворага, колькасці войск, чыгуначных і аўтамабільных перавозках, што дапамагло савецкім войскам паспяхова фарсіраваць Дзісну, Дняпро, у правядзенні Беларускай аперацыі 1944 г. Разведчыкі ўзарвалі чыгуначны мост цераз Дняпро каля Кіева, пусцілі пад адхон 21 эшалон з жывой сілай праціўніка, затапілі 10 параходаў і 14 баржаў. Толькі са Слонімшчыны К. С. Гнедаш перадаў каля 200 радыёграм з данымі аб дыслакацыі варожых войск, складаў, аэрадромаў.

У чэрвені 1944 г. група К. С. Гнедаша прарывалася з акружэння. Камандзір быў паранены ў нагу. Байцы перанеслі яго ў зямлянку, што была ў лесе каля вёскі Ваўчуны. З раненым засталася радыстка Клара Давідзюк. 19.6.1944 г. карнікі знайшлі зямлянку. К. С. Гнедаш і К. Т. Давідзюк, каб не трапіць у палон, падарвалі сябе і фашыстаў гранатамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена К. С. Гнедашу 24.3.1945 г. Адна з вуліц Слоніма носіць яго імя. На радзіме пастаўлены помнік, на доме, у якім жыў, і на будынку школы,



1233. *Кляштар бернардзінцаў. Жылы корпус. Галерэя.*



1233. *Кляштар бернардзінцаў. Жылы корпус.*

дзе вучыўся, устаноўлены мемарыяльныя дошкі, у школе створаны музей героя.

К. Т. Давідзюк — камсамолка, масквічка. Нарадзілася ў 1924 г. Добраахвотна пайшла на фронт у чэрвені 1942 г., радыстка-разведчыца.

У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975; Гусев Б. За три часа до рассвета.— Л., 1972; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**1235. МАГІЛА КАРОЛЬ** Галіны Іванаўны (гіст.). Вул. П. Лумумбы, на Ружанскіх могілках.

Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Г. І. Кароль нарадзілася ў 1902 г. у в. Чамяры Слонімскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПЗБ з 1925 г. З 1915 г. да 1922 г. працавала па найму ў заможных сялян, потым на сваёй гаспадарцы. Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Неаднаразова была арыштавана. У 1928—30 гг., 1933—39 гг.— палітзняволеная. У 1939 г. вызвалена з Бяроза-Картузскага канцэнтрацыйнага лагера.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працавала ў сялянскім камітэце ў в. Чамяры (1939—40 гг.), старшынёй Парэцкага (1940—41 гг.) і Шылавіцкага (1944—47 гг.) сельскіх Саветаў. У 1947 г. выбрана дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Загінула ад рук ворагаў Савецкай улады 1.12.1947 г. Імем Г. І. Кароль названа вуліца ў Слоніме.

У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. Б. Караткевіч.*

**1236. МАГІЛА ЛЯВІЦКАГА** Міхаіла Іванавіча (гіст.). Вул. П. Лумумбы, на Ружанскіх могілках.

Генерал ад інфантэрыі М. І. Лявіцкі ў руска-турэцкую вайну 1787—91 гг. удзельнічаў (1790 г.) у штурме Ізмаіла, у Айчынную вайну 1812 г.— у вызваленні Беларусі ад напалеонаўскіх войск. За мужнасць у баях узнагароджаны 8 ордэнамі і медалямі. Памёр 6.5.1831 г. У 1832 г. устаноўлена надмагілле з чырвонага граніту ў выглядзе саркафага.

**1237. МАГІЛА МІХАЛЬЧЫКА** Аляксандра Лявонавіча (гіст.). Вул. П. Лумумбы, на Ружанскіх могілках.

Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі А. Л. Міхальчык нарадзіўся 5.5.1909 г. у в. Залессе Слонімскага р-на ў сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС з 1945 г. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе ў 1933 г. арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы і пазбаўлены волі на 2 гады. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР А. Л. Міхальчык быў старшынёй Залескага сельвыканкома, з мая 1941 г. участковы ўпаўнаважаны Слонімскага райаддзела міліцыі. У гады нямецка-фашысцкай акупацыі змагаўся супраць ворага ў радах партызан. Пасля вызвалення Слонімшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў А. Л. Міхальчык — участковы інспектар раённага аддзела міліцыі. Загінуў 25. 12.1945 г. у час ліквідацыі каля в. Плаўскія банды ворагаў Савецкай улады.



1236. *Помнік на магіле М. І. Лявіцкага.*

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла, у будынку райаддзела ўнутраных спраў — мемарыяльная дошка. *В. Б. Караткевіч.*

**1238. МАГІЛА СІНІЧКІНА** Фёдара Міхайлавіча (гіст.). Вул. П. Лумумбы, на Ружанскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза Ф. М. Сінічкін нарадзіўся 14.12.1901 г. у в. Гаўрылаўка Аляксееўскага р-на Куйбышаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Скончыў Ленінградскую пяхотную школу ў 1928 г. У Чырвонай Арміі з ліпеня 1919 г., удзельнічаў у ліквідацыі Кранштацкага мяцяжу 1921 г. У Вялікую Айчынную вайну трапіў у акружэнне. У жніўні 1941 г. арганізаваў у Налібоцкай пушчы партызанскую групу. У снежні 1942 г.— маі 1943 г. і ў снежні 1943 г.— чэрвені 1944 г. камандзір Ленінскай партызанскай брыгады, у чэрвені — кастрычніку 1943 г.— партызанскай брыгады імя Кірава Баранавіцкай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. З 1945 г. Ф. М. Сінічкін на савецкай рабоце. Памёр 17.7.1962 г. Яго імем названа вуліца ў Слоніме.



1240. *Помнік на магілах ахвяр фашызму.*

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**1239. МАГІЛА ШЫЛЫ** Аляксандра Андрэевіча (гіст.). Вул. П. Лумумбы, на Ружанскіх могілках. Чырвонаармеец А. А. Шыла загінуў 18.9.1939 г. у час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1240. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад горада, у лесе каля шашы на Баранавічы. У час акупацыі Слоніма нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі палітыку планамернага знішчэння насельніцтва горада і раёна. Толькі ў кастрычніку 1941 г. яны расстралялі на Чапялёўскіх палях каля 8 тыс. мірных жыхароў. Усяго акупанты загубілі тут каля 30 тыс. чалавек. Пахаваны ў 8 магілах. Толькі ў адной з іх — 14800 загубленых старых, жанчын і дзяцей. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1967 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965.

**1241. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ РЭЎКОМА** (гіст.). У верасні 1915 г. войскі кайзераўскай Германіі акупіравалі Слонім. Пад уплывам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. працоўныя горада ўзмацнілі барацьбу супраць акупантаў. Узначальвалі яе бальшавікі, што на той час былі ў падполлі. 6.12.1918 г. створаны ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які сфарміраваў узброены атрад рабочых і сялян колькасцю ў 100 чалавек. Калі нямецкія войскі пакідалі горад (у ноч з 13 на 14 студзеня 1919 г.), атрад узяў пад сваю ахову чыгуначны мост цераз Шчару і шэраг прадпрыемстваў. У лютым камітэт правёў 2-і павятовы з'езд Саветаў (больш за 250 дэлегатаў), які выбраў новы выканком Слонімскага павятовага Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. У пачатку сакавіка 1919 г. войскі буржуазна-памешчыцкай Польшчы акупіравалі горад. Вызвалены 20.7.1920 г. Чырвонай Арміяй. 21 ліпеня Слонімскі рэўком (старшыня І. Ткачоў) выдаў загад № 1 аб узяцці ўлады ў свае рукі.

Сваім найпершым абавязкам рэўком лічыў дапамогу Заходняму фронту. Ён арганізаваў насельніцтва на аднаўленне чыгуначнага моста цераз Шчару, абсталяваў памяшканне для шпіталя, дапамагаў у мабілізацыі ў Чырвоную Армію. Шмат зрабіў рэўком для аднаўлення гаспадаркі. Былі



1244. *Помнік вызваліцелям.*

ўзяты на ўлік фабрыкі і заводы, прымаліся меры па аднаўленню вытворчасці, былі створаны прафсаюзы краўцоў, швачак, шапачнікаў, панчошніц (158 членаў), шаўцоў (39), гарбароў (119), будаўнікоў (97 членаў), быў арганізаваны кантроль над вытворчасцю. У верасні 1920 г. у Слонімскім павеце пачалі ствараццa сельскагаспадарчыя камуны і калектыўныя гаспадаркі. Рэўком прымаў меры, каб забяспечыць іх насеннем і інвентаром. Паводле загадаў рэўкома ад 28 ліпеня і 12 жніўня ўсе школьныя работнікі павінны былі зарэгістравацца ў аддзеле народнай адукацыі. У верасні 1920 г. у Слонімскім павеце было 75 школ (каля 3 тыс. вучняў), працавалі 126 настаўнікаў, адкрываліся дзіцячыя дамы. Для насельніцтва горада праводзілася вусная газета. 11 жніўня рэўком выдаў загад аб рэгістрацыі маёмасці, якая мела культурную і мастацкую каштоўнасць. У ноч на 27.9.1920 г. пад націскам войск буржуазнай Польшчы часці Чырвонай Арміі пакінулі Слонім. Рэўком спыніў дзейнасць.

*Літ.:* Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г.— июль 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1961; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957.
*В. Б. Караткевіч.*



1245. *Помнік землякам.*

**1242. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Фабрычная, на тэрыторыі кардоннапапяровага завода. Тут 26.6.1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 13 ваеннапалонных. На ўшанаванне іх памяці на адміністрацыйным будынку ў 1969 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

**1243. МОГІЛКІ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км ад горада, у лесе, справа ад дарогі ў в. Дзераўная, ва ўрочышчы Маргі. Пахаваны 2 тыс. жыхароў Слоніма, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1979 г. на могілках пастаўлена стэла.

**1244. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На вул. Першамайскай, у скверы.

На другім этапе Беларускай аперацыі войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту атрымалі задачу развіваць наступленне ў агульным напрамку на Баранавічы, Брэст з бліжэйшай мэтай не пазней 10—12.7. 1944 г. вызваліць Баранавічы, Лунінец і выйсці на рубеж Слонім — р. Шчара — Пінск.

Слонім утрымлівалі адступіўшыя з Баранавіч пяхотныя і кавалерыйскія часці нямецка-фашысцкіх войск, якія мелі на ўзбраенні танкі і артылерыю. Добра арганізаваная сістэма агню, старанна падрыхтаваныя да абароны рэкі Шчара і Іса рабілі Слонім моцным вузлом супраціўлення.

Савецкія войскі пачалі наступленне на горад 9 ліпеня ў 17 гадзін адначасова з трох напрамкаў. Раніцай 10.7.1944 г. гвардзейцы 37-й (палкоўнік В. Л. Марозаў) і 15-й (генералмаёр К. Е. Грабенік) стралковых дывізій 65-й арміі 1-га Беларускага фронту ва ўзаемадзеянні з танкістамі 1-га танкавага корпуса (генералмаёр М. Ф. Паноў) і кавалерыстамі 4-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса (генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) з ходу фарсіравалі р. Шчара і авалодалі Слонімам. 11 злучэнням і часцям 1-га Беларускага фронту — 30-му, 32-му, 34-му гвардзейскім казацкім кавалерыйскім палкам 9-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, 199-й штурмавой авіяцыйнай дывізіі, 19-й і 35-й механізаваным брыгадам, 151-му танкаваму палку, 925-му самаходнаму артылерыйскаму Чырванасцяжнаму і 181-му гвардзейскаму артылерыйскаму мінамётнаму палкам, 9-му асобнаму штурмавому інжынерна-сапёрнаму і 899-му карпуснаму сапёрнаму батальёнам, якія вызначыліся пры вызваленні горада і фарсіраванні ракі, было нададзена ганаровае найменне «Слонімскіх».



1249. *Помнік У. І. Леніну. Здымак 1980 г.*

У 1968 г. у гонар вызваліцеляў пастаўлены помнік — танк Т-34 на бетонным п'едэстале і стэла, дзе пералічаны вайсковыя часці, што ўдзельнічалі ў вызваленні горада.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *В. Б. Караткевіч.*

**1245. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Баранавіцкай. На ўшанаванне памяці воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і ахвяр фашызму ў 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1246. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Баграціёна, на тэрыторыі фабрыкі «Тэкстыльшчык».



1256. *Помнік лётчыкам.*



1257. *Помнік работнікам кардонна-папяровага завода.*

Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1974 г.

**1247. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. М. Горкага, на тэрыторыі перасоўнай механізаванай калоны № 19. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**1248. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Перамогі, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**1249. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Першамайскай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**1250. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Фабрычнай, каля кардонна-папяровага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**1251. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Фабрычнай, на тэрыторыі ЦЭЦ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**1252. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Чкалава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1975 г.

**1253. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай, каля адміністрацыйнага будынка аўтарамонтнага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1971 г.

**1254. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Энгельса, у гарадскім парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1965 г.

**1255. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Ружанскай шашы, каля будынка інтэрната прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 5 механізацыі меліярацыйных работ. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**1256. ПОМНІК ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). На вул. Савецкай, каля школы № 4.

Пры ажыццяўленні другога этапа Беларускай наступальнай аперацыі ў Вялікую Айчынную вайну войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту пасля вызвалення г. Баранавічы вялі наступленне ў напрамку Слонім — Пінск. У баях за вызваленне Слоніма і раёна вялікую дапамогу часцям 65-й арміі аказала 199-я штурмавая авіяцыйная дывізія 4-га штурмавога авіякорпуса. Лётчыкі-штурмавікі знішчалі танкі, бронемашыны, артылерыю, аўтатранспарт і пяхоту праціўніка. 199-й штурмавой авіяцыйнай дывізіі было прысвоена ганаровае найменне «Слонімскай».

У 1974 г. у памяць аб баявых подзвігах лётчыкаў 199-й дывізіі ўстаноўлены помнік — стылізаваная ўзлётная палоса на 4 апорах, на вяршыні якой мадэль самалёта ІЛ-2. Мадэль — падарунак жыхарам Слоніма калектыву канструктарскага бюро С. У. Ільюшына.
*В. Б. Караткевіч.*

**1257. ПОМНІК РАБОТНІКАМ КАРДОННА-ПАПЯРОВАГА ЗАВОДА** (гіст.). На вул. Фабрычнай, перад адміністрацыйным будынкам прадпрыемства. На ўшанаванне памяці работнікаў завода (у 1927—61 гг. фабрыка «Альбярцін»), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла, на якой прозвішчы загінуўшых, надпіс-прысвячэнне і выява пяцівканцовай зоркі.

**1258. РАДЗІМА ДАРОЖНАГА** Сяргея Міхайлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт С. М. Дарожны (сапраўднае прозвішча С е р а д а) нарадзіўся 25.2.1909 г. у сям'і служачага. У 1915 г. разам з бацькамі эвакуіраваўся ў Варонеж. Пазней сям'я пераехала на Мазыршчыну. У 1921—24 гг. выхоўваўся ў Мазырскім дзіцячым доме. У 1924 г. паступіў у Мінскі педагагічны тэхнікум, потым вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. Пасля вучобы некаторы час працаваў на гуце ў г. Барысаве, з 1930 г.— у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Член літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша». Першыя вершы надрукаваў у 1925 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Звон вясны» (з І. Плаўнікам, 1926 г.), «Васількавы россып» (1929 г.), «Пракосы на памяць» (1932 г.). У 1966 г. выйшла кніга С. Дарожнага «Выбраныя вершы». Натхнёна апяваў гераічныя будні маладых будаўнікоў сацыялізма, адлюстроўваў станаўленне новых адносін паміж людзьмі, пісаў пра рэвалюцыйную барацьбу працоўных Заходняй Беларусі. С. Дарожнаму належаць пераклады на беларускую мову асобных твораў У. Караленкі, Дз. Беднага, М. Кальцова, С. Кірсанава, А. Новікава-Прыбоя, рамана Г. Караваевай «Лесазавод».

Памёр С. Дарожны 19.7.1943 г.

*Літ.:* Наднёманскія былі.— Мн., 1968.
*В. М. Удальцоў.*

**1259. РАТУША** (архіт.). Вул. Савецкая, 6. Пабудавана ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы. Замыкала паўднёва-ўсходні бок гандлёва-адміністрацыйнага цэнтра Слоніма. Цяпер выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Ратуша — кампактны прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак, які разам са службовымі карпусамі ўтвараў замкнёны двор. Кампазіцыя будынка бязвежавая, строга сіметрычная. Крапоўка фасадаў плоскасная (пілястры, філёнгі, нішы). Унутраная планіроўка калідорна-анфіладная з вестыбюлем і міжпаверхавай лесвіцай у цэнтры. Акрамя пакояў



1259. *Ратуша. План 1-га паверха.*



1259. *Ратуша. Галоўны фасад.*

для магістрата і залы сходаў у ратушы былі памяшканні для гараднічага, суда, гаўптвахты, архіва і інш.

Будынак ратушы — помнік архітэктуры барока.

**1260. СІНАГОГА** (архіт., маст.). Вул. Савецкая, 1. У гістарычным цэнтры горада. Пабудавана ў 1642 г. каля рынку. Цяпер выкарыстоўваецца як гандлёвае прадпрыемства.

Мураваны квадратны ў плане будынак пад высокім двухсхільным дахам. Двух'ярусныя фасады трохвосевай сіметрычнай кампазіцыі. Да асноўнага аб'ёму прымыкаюць з трох бакоў больш нізкія прыбудовы. Збудаванне мела абарончы характар: тоўстыя сцены, высокія аконныя праёмы, нішы-байніцы. Галоўны ўсходні фасад завершаны высокім фігурным франтонам на філёнгавым парапеце. Унутры галоўная зала мае 9-польную сістэму скляпенняў. У цэнтры яе біма — узвышэнне, перакрытае купалам, які дэкарыраваны раслінным арнаментам. Вуглавыя слупы бімы — апоры крыжовых скляпенняў. Сцены расчлянёны пілястрамі, якія размаляваны фрэскамі. Пластыка-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера з'яўляецца ляпны алтар на ўсходняй сцяне залы. Па баках алтарнага картуша — насценныя фрэскі на архітэктурныя матывы.

Будынак сінагогі — помнік архітэктуры барока. *А. М. Кулагін.*

**1261. СЯДЗІБА «АЛЬБЯРЦІН»** (архіт.). Вул. Калгасная, 8, на беразе р. Іса. Створана ў 1-й палове 19 ст. як рэзідэнцыя В. Пуслоўскага — уладальніка прадпрыемства па вытворчасці сукна, дываноў, паперы.

У комплекс уваходзілі сядзібны дом з флігелем, службовыя пабудовы, гаспадарчыя будынкі (захавалася стайня), фабрыка. Сядзібны дом абмяжоўваў парк пейзажнага тыпу планіроўкі, які на берагах запруджанай р. Іса пераходзіў у шырокі лесапарк.

Сядзібны дом двухпавярховы, мураваны, асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Галоўны фасад вылучаны цэнтральным чатырохкалонным порцікам. У афармленні галоўнага ўвахода выкарыстаны скульптуры львоў. Унутраная планіроўка калідорная. У апрацоўцы інтэр'ера атрымалі развіццё тэмы вонкавай архітэктуры — пілоны, кесоны, стылізаваныя капітэлі.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

Флігель — двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак эклектычнай архітэктуры.

Стайня — мураваны неатынкаваны Т-падобны ў плане будынак, у дэкоры якога выкарыстана арнаментальная муроўка. Кампазіцыя двух'ярусная: першы ярус вылучаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, другі — круглымі люкарнамі. У цэнтры галоўнага фасада шырокі партал з ліштвай у выглядзе падковы і з ляпной маскай галавы каня. Партал фланкіраваны рызалітамі.

У архітэктуры будовы выкарыстаны элементы стылю «мадэрн».

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**1262. ЦЭНТР МАСТАЦКАГА ТКАЦТВА** (гіст.). Промысел мясцовых майстроў пад назвай «слонімскае ткацтва» вядомы з даўніх часоў, узнік як народнае ўзорыстае ткацтва. У 18 ст. на базе яго ў Слоніме створаны ткацкія мануфактуры князёў Агінскіх. Тут выраблялі шпалеры, ворсавыя дываны, мастацкія тканіны. Адначасова існавалі ткацкія майстэрні ў маёнтках іншых феадалаў, а таксама пры кляштарах і манастырах. У вёсках народныя майстры ткалі на ўласны ўжытак — посцілкі, дываны, ручнікі пераважна ў пераборнай і шматнітовай тэхніцы. Сучасныя майстры выконваюць заказы Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў (посцілкі, дарожкі, накідкі на крэслы і канапы), выкарыстоўваюць традыцыйныя тэхніку, арнамент і каляровую гаму.



**1260.** *Будынак былой сінагогі.*



**1260.** *Сінагога. План.*



**1260.** *Сінагога. Фрагмент дэкору інтэр'ера.*




**1261.** *Сядзіба «Альбярцін». Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — флігель; 3 — стайня; 4 — службовая пабудова; 5 — брама; 6 — сажалка.*



**1261.** *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

Кампазіцыі будуюцца з палос з раслінным арнаментам. Палітра фарбаў разнастайная, але пераважаюць сінія і бардовыя колеры. *Дз. С. Трызна.*

**1263. ШПІТАЛЬ** (архіт.). Вул. Я. Купалы, 49. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы побач з Андрэеўскім касцёлам. Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак, накрыты двухсхільным дахам. Плоскасныя, пазбаўленыя архітэктурнага дэкору, фасады рытмічна чляняёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка калідорная, з вестыбюлем у цэнтры. У канструкцыю сцен (таўшчыня каля 1 м) былі ўмураваны грубкі (захаваліся часткова). Шпіталь — помнік грамадзянскай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**в. Азарычы, Паўлаўскі сельсавет**

**1264. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі карнікамі 24.12.1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Азгінавічы, цэнтр сельсавета**

**1265. СЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, на беразе р. Була (левы прыток Грыўды). Памер 100×50 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны абломкі ляпной гладкасценнай керамікі 1-га тысячагоддзя н. э., рэшткі ганчарнага посуду раннефеадальнага часу і шлакі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Азярніца, цэнтр сельсавета**

**1266. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У школьным двары. Пахаваны 223 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельскага Савета. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла і бетонны штык.

**1267. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Татарская Гара. Пляцоўка памерам 30×40 м. Абследавалі ў 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана грубаляпная кераміка. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Акунінава, Навадзевяткавіцкі сельсавет**

**1268. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. 22.12.1942 г. гітлераўскія карнікі акружылі вёску, выгналі жыхароў з хат і расстралялі 299 мужчын, жанчын і дзяцей. Вёску (111 двароў) спалілі. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1269. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 41 партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных партызаны з атрадаў імя Ф. Э. Дзяржынскага і імя К. К. Ракасоўскага брыгады імя К. К. Ракасоўскага, якія загінулі ў ноч на 29.2. 1944 г. у баях па разгрому паліцэйскіх гарнізонаў і апорных пунктаў праціўніка ў вёсках Баравікі, Сучкі, Плешкі (было знішчана каля 150 фашыстаў). Пасля вайны на могілках перазахаваны астанкі 7 савецкіх танкістаў, што загінулі ў чэрвені 1941 г., 6 партызан і 1 мірнага жыхара. Тут жа магілы камандзіра атрада імя Ф. Э. Дзяржынскага А. С. Серага (1913—66 гг.), партызана А. І. Серага (1924—70 гг.) і воіна, які загінуў у 1946 г. пры выкананні службовых абавязкаў.



**1269.** *Партызанскія могілкі.*

У 1956 г. на могілках пастаўлены абеліск і 18 надмагілляў.

*Літ.:* В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975. *В. Б. Караткевіч.*

**1270. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам у руках.

**в. Асабнякі, Азгінавіцкі сельсавет**

**1271. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1271а.** Гарадзішча. У вёсцы. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 50 м. Умацавана кальцавым валам вышынёй каля 2 м. Адкрыў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Сабрана штрыхаваная гладкасценная кераміка і кераміка раннефеадальнага часу. Датуецца 6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э., 6—8 і 10 стагоддзямі н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**1271б.** Селішча. Побач з гарадзішчам. Плошча каля 0,8 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны фрагменты керамікі, блізкай да пшэворскай культуры жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— Вильна, 1895. *Л. Д. Побаль.*



**1261.** *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



**1261.** *Стайня.*

**в. Баравікі,**
**Новадзевяткавіцкі сельсавет**

**1272. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 25.12.1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург» нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 84 мірных жыхароў вёскі, спалілі 40 двароў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1273. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпнікі. У верасні 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты схапілі 17 жыхароў вёскі і расстралялі. Трупы кінулі ў стары калодзеж. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1274. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. У 3 магілах пахаваны 19 жыхароў вёскі, якіх 22.9. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1951 г. пастаўлены абеліск.
**1275. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўскраіне вёскі, у вярхоўі р. Барадоі (левы прыток Грыўды). Плошча каля 1 га. Адкрыў у 1963 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3 м. На паверхні сабраны ляпная гладкасценная кераміка і рэшткі ганчарных гаршкоў. Датуецца 6—8 і 10—12 стагоддзямі н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.
*Л. Д. Побаль.*

**в. Бярдовічы,**
**Кастровіцкі сельсавет**

**1276. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Ш в е д с к і я  М а г і л ы. За 1 км на захад ад вёскі, у полі. 4 курганы дыяметрам да 5 м, вышынёй 2 м. Насыпы абкладзены камянямі. Абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Васілевічы,**
**Васілевіцкі сельсавет**

**1277. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 121 воін Чырвонай Арміі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і ліпені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.
**1278. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 270 мірных жыхароў вёскі, якіх 16.12. 1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург» расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. На магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак.
**1279. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму і воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1280. СЕЛІШЧЫ** (археал.).
**1280а.** С е л і ш ч а - 1. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Шчара, ва ўрочышчы Падлужжа. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2 м. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 6—8 стагоддзяў і шлакі. Адносіцца да жалезнага веку.
**1280б.** С е л і ш ч а - 2. За 0,8 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Шчара. Плошча 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3 м. На паверхні сабрана ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да жалезнага веку і да феадальнага часу.

Раскопкі селішчаў не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.
*Л. Д. Побаль.*

**в. Вераб'евічы,**
**Васілевіцкі сельсавет**

**1281. СЕЛІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Масанка, ва ўрочышчы Вострая Гара. Памеры 100×50 м, вышыня над поймай ракі да 6 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 6—8 і 9—12 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



1284. *Міхайлаўская царква.*



1284. *Міхайлаўская царква. План.*



1286. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Вербалаты, Глоўсевіцкі сельсавет**

**1282. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 мірных жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў снежні 1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург». У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вострава, Міжэвіцкі сельсавет**

**1283. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 22 воіны Чырвонай Арміі, якія ў чэрвені 1941 г. вялі бой каля вёскі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Байцы змагаліся да апошняга патрона. Мясцовыя жыхары пахавалі іх. У 1967 г. на магіле насыпаны курган, на вяршыні пастаўлены абеліск.
**1284. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Трохнефавы храм з прыбудаванымі апсідай, бабінцам і званіцай. Асноўны аб'ём і прамавугольная ў плане апсіда накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Над ёю —



1289. *Помнік на магіле С. Ф. Петручэні.*

васьміграннм барабан з цыбулепадобнай галоўкай. Нізкая прыбудова да апсіды (рызніца) накрыта асобным аднасхільным дахам. Званіца прамавугольная ў плане, двух'ярусная, з шатровым завяршэннем. Бакавыя фасады з паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Архітэктурны дэкор сціплы: карнізы, паясы, сухарыкі, вертыкальная шалёўка. У інтэр'еры васьмігранныя слупы з арачным злучэннем дзеляць прастору царквы на 3 нефы. Форма аркі выкарыстана і ў афармленні аконных праёмаў, алтарнай перагародкі, хораў.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін*

**в. Высацк, Дзераўноўскі сельсавет**

**1285. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, каля лесу. Пахаваны салдаты рускай арміі, якія загінулі (верасень 1915 г.) у 1-ю сусветную вайну.

**в. Вялікая Кракотка, Сялявіцкі сельсавет**

**1286. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 359 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — на агульным пастаменце стэла і бетонны штык.

**1287. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі карнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1288. МАГІЛА МАРЫЧАВА** Юрыя Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Самалёт, членам экіпажа якога быў Ю. А. Марычаў (нарадзіўся 9.5. 1921 г.), быў збіты над акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыяй у час выканання баявога задання. Лётчык Ю. А. Марычаў выратаваўся, працягваў ваяваць з ворагам у радах партызан. Загінуў у баі з гітлераўцамі 30.12.1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1289. МАГІЛА ПЕТРУЧЭНІ** Сямёна Фёдаравіча (гіст.). На могілках у лесе.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі С. Ф. Петручэня нарадзіўся ў 1907 г. у в. Вялікая Кракотка ў сям'і батрака. З 1915 г. разам з бежанцамі жыў у Новасібірску. Вярнуўся на радзіму ў 1920 г., сталярнічаў у вёсках Слонімскага і Пружанскага р-наў. У 1930 г. уступіў у КПЗБ, вёў рэвалюцыйна-прапагандысцкую работу. Схоплены агентамі дэфензівы ў студзені 1934 г., памёр 1.2.1934 г. ад жорсткіх катаванняў. Пахаванне Петручэні вылілася ў масавую дэманстрацыю працоўных.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1292. *Мікалаеўская царква. Званіца.*

**в. Вялікія Шылавічы, цэнтр сельсавета**

**1290. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 48 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне вёсак Шылавічы, Новая Стража і Талькаўшчына ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — на агульным пастаменце стэла і штык.

**1291. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1291а.** Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок (Маргач), на беразе р. Гараднянка. Пляцоўка авальная, памерам 15×10 м, узвышаецца над поплавам на 8 м. Адкрыў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,2 м знойдзены рэшткі зерняцёркі, абломкі гаршкоў, па форме падобных да посуду мілаградскай і зарубінецкай культур. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачаткам н. э.

**1291б.** С е л і ш ч а. Побач з гарадзішчам, на беразе ручая Студзянец (правы прыток р. Шчара). Памер 300×50 м. Абследавалі ў 1973 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,2 м выяўлены рэшткі глянцаваных гаршкоў, кераміка з расчосамі 6—8 стагоддзяў і рэшткі ганчарнага посуду эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.
*Л. Д. Побаль.*

**1292. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы і бутавага каменю. Асновай прасторавай кампазіцыі з'яўляецца цэнтрычны 8-гранны аб'ём, завершаны сферычным купалам на гранёным барабане. Па падоўжнай восі да асноўнага аб'ёму далучаны прамавугольныя ў плане бабінец і апсіда. Галоўны ўваход вырашаны двухкалонным порцікам. На фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя карнізы, ліштвы паўцыркульных акон, руст. Аналагічна з царквой вырашана асобна размешчаная званіца: цэнтрычны двух'ярусны аб'ём са сферычным купалам.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**1293. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1293а.** С е л і ш ч а - 1. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Шчара. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 6—8 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоў-



1296. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**1293б.** Селішча-2. За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Шчара, на месцы стаянкі каменнага веку. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны абломкі ляпной гладкасценнай керамікі 6—8 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**1294. СТАЯНКІ** (археал.). Вядомы пад назвай Шылавічы.

**1294а.** Стаянка-1. За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Палачышча, на краі надпоймавай тэрасы р. Шчара. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 гг. В. Р. Супрун, абследаваў у 1974 г. М. М. Чарняўскі. На паверхні сабраны ляпная кераміка, крамянёвыя прылады (скрабкі, нажападобныя пласціны, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы і інш.). Адносіцца да неаліту і бронзавага веку. Датуецца 3—4-м тысячагоддзямі да н. э.

**1294б.** Стаянка-2. Ва ўрочышчы Ніўкі, на правым беразе р. Шчара, насупраць будынка праўлення калгаса. Памер 50×60 м. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 гг. В. Р. Супрун, даследаваў у 1974 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,5 м выяўлены рэчы нёманскай культуры (4—3-е тысячагоддзі да н. э.). Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Гарбачы, Новадзевяткавіцкі сельсавет**

**1295. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 жыхароў вёскі, якіх 25.12.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты ў час карнай аперацыі «Гамбург». У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Глоўсевічы, цэнтр сельсавета**

**1296. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля школы. Пахаваны 42 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях з фашыстамі. Воіны загінулі ў чэрвені 1941 г., партызаны — у 1942—44 гг. На магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя. Побач — стэла з імёнамі 23 землякоў з калгаса «Пераможац», што аддалі сваё жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**1297. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у вярхоўі р. Піла (левы прыток р. Грыўда). Памеры 300×90 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны рэшткі таўстасценнай ляпной і ганчарнай керамікі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Дзераўная, цэнтр сельсавета**

**1298. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, на беразе р. Плехаўкі, ва ўрочышчы Старажавая Гара, на ўзвышшы вышынёй да 10 м. Пляцоўка авальнай формы памерам 35×20 м. Абследавалі ў 1893 г. Я. М. Міхайлоўскі, у у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Каля асновы гарадзішча сабраны абломкі ляпной і ганчарнай керамікі, шлакі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі і Інстытуце гісторыі АН БССР.



1303. *Георгіеўская царква.*



1303. *Георгіеўская царква. План.*




1304. *Помнік на магіле невядомага салдата.*

**1299. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці землякоў з вёсак калгаса «Уперад», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў.

**1300. ТРОЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане з двухсхільным дахам аб'ём храма пераходзіць у трохгранную апсіду. З боку галоўнага фасада — шатровая двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) з цыбулепадобнай галоўкай. Аналагічная ёй вежачка завяршае вальмавы дах апсіды. Фасады гарызантальна ашаляваны, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. Галоўны ўваход праз прамавугольны ў плане тамбур з двухсхільным дахам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*




**1305.** *Манастыр базыльян. Схема планіроўкі: 1 — Успенскі сабор; 2 — званіца; 3 — Крыжаўзвіжанская царква; 4 — Богаяўленская царква; 5 — семінарыя; 6 — жылы корпус; 7 — гаспадарчыя пабудовы.*



**1305.** *Манастыр базыльян.*

**в. Драпава, Азярніцкі сельсавет**

**1301. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і 11.7.1944 г. на тэрыторыі сельсавета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**в. Жыровічы, цэнтр сельсавета**

**1302. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, перад будынкам саўгаса-тэхнікума. Пахаваны 47 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 69-й стралковай дывізіі 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 10.7.1944 г. пры вызваленні в. Жыровічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1303. ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА.** На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Уваходзіць у манастырскі комплекс, але планіровачна з ім не звязана. Пабудавана ў канцы 18 ст. з дрэва.

Аднаазрубны, прамавугольны ў плане храм з пяціграннымі алтарным прырубам, арыентаваным на захад. Накрыты агульным двухсхільным дахам. Над галоўным фасадам — фігурная барочная вежачка. Сцены вертыкальна ашаляваны. Апсіда вылучана невялікім уступам, шырока раскрываецца ў залу. Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — іканастас з накладной разьбой.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

*А. М. Кулагін.*

**1304. МАГІЛА НЕВЯДОМАГА САЛДАТА** (гіст.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Савецкі пагранічнік (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**1305. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН** (архіт., маст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на ўзвышаным беразе р. Шчара. Заснаваны ў 1-й палове 16 ст., спачатку быў драўляны, згарэў у 1655 г. У 1672—1825 гг. на месцы яго пабудаваны мураваны. Уключае: Успенскі сабор, Богаяўленскую і Крыжаўзвіжанскую цэрквы, званіцу, будынак семінарыі, жылы корпус, трапезную, бальніцу, шэраг гаспадарчых пабудоў, а таксама пладовы сад, агарод, сажалкі.

Архітэктурны ансамбль мае нерэгулярную планіроўку, маляўнічую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю і выразны сілуэт. Ядро ансамбля — Успенскі сабор, злучаны крытымі пераходамі з будынкам семінарыі (на поўначы) і з жылым корпусам (на поўдні), у першым паверсе якога зроблены арачны праезд. Будынак семінарыі фарміруе парадны двор перад апсідай сабора. Каля ўсходняга крыла семінарыі вялікі прамавугольны гаспадарчы двор, абкружаны аднапавярховымі карпусамі. На паўднёвым усходзе ад сабора — Богаяўленская царква. Ва ўсходняй частцы манастыра на самым высокім месцы па-



**1305.** *Успенскі сабор.*

будавана Крыжаўзвіжанская царква — вертыкальная дамінанта ансамбля.

Успенскі сабор. Закладзены як галоўны храм манастыра базыльян у 1613 г. (закончаны ў 1650 г.). Мураваная трохнефавая крыжова-купальная базіліка (даўжыня больш за 55 м, вышыня каля 40 м) з паўкруглай алтарнай часткай ступеньчатага контуру. З паўночнага і паўднёвага бакоў да сабора прымыкаюць цэрквы Пакрова Прасвятой маці боскай і Раства Іаана Прадцечы. Спачатку сабор пабудаваны ў стылі барока. На галоўным фасадзе былі вуглавыя вежы. Пасля рэканструкцыі 1828 г. сабор набыў рысы класіцызму: вежы разабраны, зменена форма светлавога барабана і купала, у дэкоры выкарыстаны дарычны ордэр.

Інтэр'ер сабора захаваў барочны характар. Прастора трансепта павялічана кесаніраваным купалам паўночнага крыла і скляпеннем на вет-



1305. *Успенскі сабор. Фрагмент інтэр'ера.*



1305. *Успенскі сабор. План.*

разях паўднёвага. Нефы аддзелены высокімі аркадамі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Скляпенні ўпрыгожаны стукавым арнаментам, іх падпружныя аркі — фрэскавымі філёнгамі ў стылі ракако. Манументальная конха цэнтральнага двухсветлавога нефа прарэзана люнетамі і запоўнена фрэскай «Спас Пантакратар». Авальны цэнтральны купал пры дапамозе ветразяў падтрымліваюць масіўныя слупы крыжовага сячэння. У паўночна-заходняй частцы храма на манументальнай трохпралётнай аркадзе размешчаны шырокія хоры, парапет якіх дэкарыраваны дарычным фрызам. Пад апсіднай часткай сабора — крыпта.

Галоўны дэкаратыўны элемент інтэр'ера — драўляны разны трох'ярусны іканастас. Яго канструкцыйную аснову складаюць паярусныя каланады карынфскага ордэра з крапаванымі антаблементамі і фігурнымі франтонамі. Апрацоўка іканастаса ў стылі барока (ракавіны, гірлянды, херувімы, арнамент у выглядзе вінаграднай лазы і лістоў аканта) сведчыць пра высокае ўмельства майстроў-рэзчыкаў па дрэве. Барочнай трактоўкай вызначаецца алтарны абраз Жыровіцкай маці боскай у чаканеным сярэбраным абкладзе. Бакавыя двух'ярусныя алтары больш позняй работы (19 ст.). Іх кампазіцыя пабудавана на аснове карынфскага ордэра з абмежаваннем дэкаратыўнай арнаментыкі.

Званіца. Квадратная ў плане двух'ярусная пабудова, звязаная з саборам адзінай падоўжнай планіровачнай воссю. Завяршаецца паўсферычным купалам па аналогіі з саборам. Архітэктура заснавана на класічнай ордэрнай сістэме: калоны, антаблементы, трохвугольныя франтоны, дарычны фрыз.

Крыжаўзвіжанская царква. Храм-кальварыя. Пабудавана ў 1769 г. з цэглы. Адназальная, са званіцай над уваходам, без вылучэння апсіды ў самастойны аб'ём. Галоўны паўночна-заходні фасад вызначаецца стройнасцю трох'ярусной кампазіцыі. Плаўны пераход ярусаў забяспечваецца валютамі. Трэці ярус — чатырохгранная вежачка з фігурнай барочнай галоўкай. Падобная вежачка над алтарнай часткай. Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем з люнетамі. Над уваходам на трохпралётнай аркадзе хоры з плаўнай лініяй парапета. Шматступеньчатая аднамаршавая лесвіца займае палавіну будынка, мае ілюзорны працяг на алтарнай сцяне, што ставарае ўражанне вялікай глыбіні інтэр'ера. Усходы вялі да выявы распяцця (не захавалася).

Крыжаўзвіжанская царква — помнік архітэктуры ракако.

Богаяўленская царква. Пабудавана ў 1769 г. з цэглы ў цэнтры манастырскай тэрыторыі. Адносіцца да тыпу бязвежавых адназальных храмаў. Галоўны фасад — шчыт, які выходзіць за межы асноўнага аб'ёму. Уражанне вертыкальнай накіраванасці ствараецца паўкалонамі, крапаваным фігурным франтонам з бакавымі валютамі. Унутры хоры размешчаны ў заходняй частцы, абмежаваны ўвагнута-выпуклым парапетам, крапаваным пілястрамі і профілямі.

Богаяўленская царква — помнік архітэктуры позняга барока.

Семінарыя. Пабудавана ў 17—18 стагоддзях. Цяпер выкарыстоўваецца як вучэбны корпус саўгаса-тэхнікума.

П-падобны трохпавярховы будынак з мансардавым дахам вырашаны ў манументальных формах, мае сіметрычнае планіровачнае і аб'ёмна-прасторавае вырашэнне. З паўночна-ўсходняга боку прымыкае да сабора. Архітэктурны дэкор сціплы: карніз і падкарнізная прафіляваная цяга, простае абрамленне аконных праёмаў лучковымі броўкамі. Мяккую пластыку будынка ствараюць лапаткі, згрупаваныя ў вуглавых частках, высокі цоколь, дзе лапаткі пераходзяць у



1305. *Крыжаўзвіжанская царква. Галоўны фасад.*



1305. *Богаяўленская царква. План.*

контрфорсы. Планіроўка галерэйная, калідоры і падвалы перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

Будынак семінарыі — помнік архітэктуры барока.

Жылы корпус. Прымыкае да сабора з паўднёва-заходняга боку пры дапамозе надваротнага перахода. Выцягнуты двухпавярховы аб'ём галерэйнай планіроўкі. Перакрыцці скляпеністыя: цыліндрычнае з распалубкамі ў калідоры, крыжовыя ў пакоях. Архітэктура будынка гранічна спрошчаная: аконныя праёмы фасадаў дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі і франтончыкамі.

Гаспадарчы корпус. Аднапавярховае П-падобнае ў плане збудаванне з паўночна-заходняга фасада семінарыі ўтварае вялікі гаспадарчы двор. Утылітарнае прызначэнне корпуса абумовіла яго спрошчанае архітэктурна-дэкаратыўнае вырашэнне, у якім прасочваюцца матывы барока (фігурны шчыт) і класіцызму (сухарыкі, франтоны).

Ансамбль манастыра — помнік архітэктуры 17—19 стагоддзяў, у якім спалучаны рысы барока, ракако, класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Караткевіч В. Б., Кулагін А. М. Помнікі Слоніма.— Мн., 1983.

*А. М. Кулагін.*



**1305.** *Богаяўленская царква.*



**1305.** *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

**в. Забулле, Глоўсевіцкі сельсавет**

**1306. СЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, на правым беразе р. Була. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3 м. На паверхні знойдзены абломкі ляпной гладкасценнай керамікі 6—8 стагоддзяў і ганчарнай керамікі. Адносіцца да жалезнага веку і да раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Заводны Лес, Навадзевяткавіцкі сельсавет**

**1307. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,6 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на ўзлессі. Пахаваны 121 жыхар вёскі, якіх 22.8. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. Тут жа пахаваны 35 партызан брыгады імя К. К. Ракасоўскага, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Загор'е, Жыровіцкі сельсавет**

**1308. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі.

22.9.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты схапілі ў вёсках Заверша, Загор'е і Залессе 73 жыхароў — жанчын, старых і дзяцей, адвезлі іх у былы маёнтак Андрэева, зачынілі ў вялікай адрыне і ноччу спалілі жывымі. У пачатку кастрычніка 1942 г. гітлераўскія карнікі расстралялі яшчэ 40 жыхароў гэтых вёсак. Пазней тут былі пахаваны 4 партызаны.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Залессе, Жыровіцкі сельсавет**

**1309. СЕЛІШЧА** (археал.). У вёсцы, каля балота. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт у агаленнях 0,2—0,4 м. На паверхні сабрана ляпная таўстасценная і ганчарная кераміка. Датуецца 2—5 і 10—12 стагоддзямі н. э., адносіцца да ранняга жалезнага веку і да раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Збочна, Азярніцкі сельсавет**

**1310. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На беразе р. Окаўка, ва ўрочышчы Гарадзішча. Умацавана 2 валамі. Вышыня вонкавага вала 2 м. Унутраны вал вышынёй 2,5 м насыпаны па краі круглай пляцоўкі дыяметрам 60 м, якая ўзвышаецца над далінай ракі на 15 м. Ад вонкавага аддзелены прамежкам у 20—30 м. Адкрыў у 1893 г. Я. М. Міхайлоўскі, даследавалі ў 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1959 г. П. А. Рапапорт, у 1960 і 1962 гг. Ф. Д. Гурэвіч, у 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973 г. Л. Д. Побаль, у 1974 г. В. В. Сядоў. Культурны пласт 0,7 м. Знойдзены ганчарная кераміка, рэшткі цэглы і косці жывёл.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР, Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Михайловский Е. Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губернии.— У кн.: Труды Виленского отд-ния Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893; Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Ісаевічы, Дзераўноўскі сельсавет**

**1311. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, за 2 км ад правага берага р. Плехаўка. Плошча каля 1 га. Культурны пласт 0,2 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 6—8 стагоддзяў і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.



**1305.** *Будынак былой семінарыі.*



**1305.** *Будынак былой семінарыі. План.*

**в. Кавалі, Дзераўноўскі сельсавет**

**1312. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе р. Мехаўка (правы прыток р. Іса). Плошча 0,8 га. Адкрыла ў 1955 г. і абследавала ў 1960 г. і 1962 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. Ускрыта 60 м². Культурны пласт уздоўж ракі 0,1 м. На глыбіні 0,7 м прасочаны насціл з абгарэлых бярвёнаў. Знойдзены ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка 2—5 стагоддзяў, ганчарная раннефеадальнага часу, шлакі і тачыльны брусок. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Кастровічы, цэнтр сельсавета**

**1313. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы каля Дома культуры. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў ваколіцах вёскі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка са сцягам.

**в. Касцяні, Азгінавіцкі сельсавет**

**1314. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 547 воінаў, якія загінулі 24.6. 1941 г. і 8.7.1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за вёскі Касцяні, Разанаўшчына, Пасінічы, Харашэвічы. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком і стэла.

**1315. СЕЛІШЧА** (археал.). У заходняй частцы вёскі, на невялікім узвышшы левага берага р. Валабрынка. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы да 1 га сабраны ляпная гладкасценная кераміка 6—8 стагоддзяў і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Клепачы, Азярніцкі сельсавет**

**1316. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 208 воінаў Савецкай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — генерал-маёр Міхаіл Георгіевіч Хацкілевіч.

У пачатку вайны 10-я армія, якая знаходзілася ў так званым беластоцкім выступе, вяла цяжкія абарончыя баі. 23.6.1941 г. камандаванне Заходняга фронту прыняло рашэнне ажыццявіць сіламі коннамеханізаванай групы (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) контрудар на Гродна. У склад групы павінны былі ўвайсці 6-ы і 11-ы механізаваныя і 6-ы кавалерыйскі карпусы. Але на той час 6-ы механізаваны корпус (генерал-маёр М. Г. Хацкілевіч) вёў баі на р. Нараў у складзе 10-й арміі. Для контрудара была выкарыстана толькі частка сіл. 11-ы механізаваны корпус 24 чэрвеня контратакаваў праціўніка ў раёне баявых дзеянняў 3-й арміі. Сканцэнтраваны ўдар па сувалкаўскай групоўцы ворага не атрымаўся. Але вялікая бітва, якая тут разгарнулася, прымусіла фашысцкае камандаванне дадаткова перакінуць сюды яшчэ 2 армейскія карпусы і некаторыя часці 3-й танкавай групы. Найбольш актыўна дзейнічалі ў баях 6-ы і 11-ы механізаваныя карпусы і 85-я стралковая дывізія 3-й арміі, якія вечарам 25 чэрвеня змагаліся ўжо на подступах да Гродна. Але значныя страты, недахоп боепрыпасаў і гаручага прымусілі іх адступіць на рубеж р. Свіслач. У жорсткіх баях цяжкімі былі страты 6-га механізаванага корпуса. З-за адсутнасці гаручага танкісты вымушаны былі ўзарваць і спаліць частку баявых машын. У баі загінуў камкор М. Г. Хацкілевіч.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983.

*В. Б. Караткевіч.*

**1317. МОГІЛЬНІК З КАМЕННЫМІ МАГІЛАМІ** (археал.). На паўднёвым беразе воз. Бяздоннае. На пляцоўцы памерам 200×50 м больш за 100 магіл. Адкрыла і даследавала ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследавалі ў 1974 г. У. Ф. Ісаенка, у 1982 г. А. В. Квяткоўская. Ускрыта адна магіла, на якой ляжаў гранітны камень памерам 80×40 см. Быў выяўлены мур 2×1,5 м, таўшчынёй да 0,4 м, з 2 радоў камянёў. У насыпе знойдзены абломкі 3 ганчарных гаршкоў, арнаментаваных двайной лініяй, паралельна нанесенымі палосамі (абломак жоўтага гаршка з дамешкам пяску). На глыбіні 1,1 м ляжаў шкілет чалавека, арыентаванага галавой на захад. Могільнік датуецца 15—16 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР у Ленінградзе.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*У. Дз. Будзько.*

**в. Коласава, Навадзевяткавіцкі сельсавет**

**1318. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1944 г., партызаны брыгады «Савецкая Беларусь» І. В. Аўсейчык, А. В. Рыла (загінулі ў 1942 г.), А. П. Церашкоў (загінуў 8.5.1944 г.) і сям'я партызана А. В. Рыла — жонка Марыя, дзесяцігадовая Валя, васьмігадовы Алёша і двухгадовы Вася, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лапухова, Міжэвіцкі сельсавет**

**1319. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на востраве Груд, ва ўрочышчы Пеннае Балота. Авальная ў плане пляцоўка памерам 45×38 м. Прасочаны контуры рова. Адкрыў і абследаваў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1982 г. В. У. Шаблюк. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Масілавічы, Навадзевяткавіцкі сельсавет**

**1320. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у парку. Пахаваны 58 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1941 г. і ліпені 1944 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**1321. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Плошча 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973 г. Л. Д. Побаль. Прасочаны рэшткі разбураных доміц, шурпатая і гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку, ляпная кераміка з хвалістым арнаментам 6—8 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Махначы, Міжэвіцкі сельсавет**

**1322. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Міжэвічы, цэнтр сельсавета**

**1323. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 643 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. і 11—13.7.1944 г. на тэрыторыі сельсавета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызанкі.

**1324. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Грыўда. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963—64 гг. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны ляпная гладкасценная кераміка 2—5 стагоддзяў, рэшткі керамікі 6—8 стагоддзяў, абломак штрыхаванага гаршка. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоў-

ваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**1325. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Двухзрубная пабудова: прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з трохграннай алтарнай часткай і бабінец з двух'яруснай званіцай (васьмярык на васьмерыку), завершанай цыбулепадобнай галоўкай. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Фасады рытмічна падзелены слупамі-сцяжкамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Мастацка-дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — драўляны іканастас. Уваход на агароджаны ўчастак царквы праз драўляную двух'ярусную надваротную званіцу, якая размешчана аўтаномна па падоўжнай восі царквы. Канструкцыя званіцы каркасная. Агульныя дэталі дэкору (паўцыркульныя праёмы, шалёўка сцен) аб'ядноўваюць яе з царквой у адзіны архітэктурны ансамбль.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Мілашэвічы, Паўлаўскі сельсавет**

**1326. СЕЛІШЧА** (археал.). Каля вёскі, на месцы былога маёнтка Бершаніны, на правым беразе р. Вершанка. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963—64 гг. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Выяўлены кераміка 6—8 стагоддзяў н. э. і эпохі Кіеўскай Русі, а таксама ляпная кераміка, падпраўленая на ганчарным крузе. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Мялькaнавічы, Азгінавіцкі сельсавет**

**1327. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. устаноўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Навасёлкі, Дзераўноўскі сельсавет**

**1328. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нагуевічы, Дзераўноўскі сельсавет**

**1329. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 4,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 23 курганы: адзін прадаўгаваты і 22 круглыя. Дыяметр круглых курганоў 4—10 м (пераважаюць насыпы дыяметрам 5—7 м), вышыня 0,4—1,4 м. Памеры прадаўгаватага кургана 6×4 м, вышыня 0,5 м. Каля падножжа некаторых насыпаў прасочваюцца раўкі, на схілах — камяні. Выявіў у 1968 г. І. Д. Міско, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ніз, Кастровіцкі сельсавет**

**1330. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадкі. Памер пляцоўкі 54×35 м. Адкрыў і абследаваў у 1892 г. Я. М. Міхайлоўскі, абследавалі ў 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1963—64 гг. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 2 м. У ім знойдзена ляпная кераміка ранняга жалезнага веку (гладкасценная і штрыхаваная). Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Михайловский Е. Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губернии.— У кн.: Труды Виленского отд-ния Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893; Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *Л. Д. Побаль.*

**1331. СЕЛІШЧА** (археал.). Побач з гарадзішчам. На левым карэнным беразе р. Шчара. Абследавалі ў 1962 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1963 г. В. Р. Супрун, даследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы 0,9 га прасочваецца культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены рэшткі ляпнога штрыхаванага і гладкасценнага посуду ранняга жалезнага веку, кавалкі абпаленай гліны, ганчарная кераміка 11—12 стагоддзяў. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.



1325. *Царква Раства багародзіцы.*



1325. *Царква Раства багародзіцы. План.*

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962. *Л. Д. Побаль.*

**1332. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. Раніцай 16.12.1942 г. фашысцкія карнікі акружылі вёску і выгналі людзей з хат. Мужчын ва ўзросце ад 16 да 40 гадоў вывезлі на катаргу ў Германію. Старых, жанчын і дзяцей (296 чалавек) расстралялі, вёску (56 двароў) спалілі. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1333. СТАЯНКА** (археал.). За 0,6 км на паўночны захад ад вёскі, на ўчастку левабярэжнай тэрасы р. Шчара. Памеры 30×32 м. Вышыня над поплавам 4,5 м. З поўдня і поўначы абмежавана схілам тэрасы, з усходу і захаду — ярамі.

Адкрыў у 1962 г. і даследаваў у 1963 і 1965 гг. (104 м²) М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1963 г. В. Р. Супрун. Культурны пласт 0,6 м. Знойдзены матэрыялы позняга этапа нёманскай культуры (2-я палова 3-га тысячагоддзя да н. э.) — фрагменты добра абпаленых вастрадонных гаршкоў з пераважна накольчатым арнаментам, крамянёвыя прылады працы, агнішчы. Невялікая частка керамікі і крамянёвых вырабаў адносіцца да бронзавага веку (2-е тысячагоддзе да н. э.). На паўночным краі стаянкі выяўлена пахаванне ў яме з рэшткамі трупаспалення, пласкадонны гаршчок з штампаваным арнаментам і падшліхтаваная крамянёвая сякера. Знаходкі каменнага веку трапляюцца таксама на поўнач і на поўдзень ад стаянкі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Новадзевяткавічы, цэнтр сельсавета**

**1334. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 12 жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, і землякоў з вёсак саўгаса «Слонімскі», што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Партызанаўка, Новадзевяткавіцкі сельсавет**

**1335. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на беразе р. Барадок (левы прыток р. Грыўда). Абследаваў у 1963—64 гг. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы да 1 га на паверхні сабраны ляпная кераміка 1-й паловы 1-га тысячагоддзя н. э. і ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Парэчча,**
**цэнтр Васілевіцкага сельсавета**

**1336. РАДЗІМА ВАЛОВІЧА** Міхаіла Казіміравіча (гіст.).

Удзельнік вызваленчага руху на Беларусі М. К. Валовіч нарадзіўся 18.6.1806 г. у былым маёнтку Парэчча. Скончыў Віленскі універсітэт. Удзельнічаў у баявых аперацыях на тэрыторыі Літвы ў час паўстання 1830—31 гг. Пасля паражэння паўстання эмігрыраваў у Францыю. У 1833 г. прыняў удзел у так званай экспедыцыі Ю. Заліўскага з мэтай узняць паўстанне на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Тайна вярнуўся на радзіму і стварыў атрад з сялян вёсак Парэчча, Вострава, Бардышоў. Але паўстанцы былі акружаны ў лесе і пацярпелі паражэнне. Больш за 150 чалавек былі арыштаваны. 11.6.1833 г. пачаўся судовы працэс над М. К. Валовічам і 10 сялянамі. 2.8.1833 г. Валовіч быў павешаны. Сялян-паўстанцаў пакаралі бізунамі і саслалі ў Сібір.

М. К. Валовіч выступаў за адмену прыгону, за права кожнага народа на самастойнае развіццё, сцвярджаў, што асноўная сіла ў вызваленчай барацьбе — народныя масы, пераважна сялянства.

*Літ.:* М а л ь д з і с А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969. *В. Б. Караткевіч.*

**1337. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1337а.** С е л і ш ч а - 1. На паўднёвай ускраіне вёскі, на беразе р. Шчара, на месцы стаянкі каменнага веку. Адкрыў у 1962 г. М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы каля 1 га сабрана гладкасценная кераміка (2—5 стагоддзі н. э.) і рэшткі посуду 6—8 стагоддзяў н. э.

**1337б.** С е л і ш ч а - 2. Побач з селішчам-1, ва ўрочышчы Буслаўка. Выявіў у 1963 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы 0,5 га сабраны матэрыялы, аналагічныя знаходкам на селішчы-1.

Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі. *Л. Д. Побаль.*

**в. Пасінічы, Азгінавіцкі сельсавет**

**1338. СЕЛІШЧА** (археал.). Каля могілак, у вярхоўі р. Грыўда. Плошча каля 1 га. Абследаваў у 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны расшчэпленыя крэмяні, рэшткі посуду бронзавага веку, кераміка ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Паўлава, цэнтр сельсавета**

**1339. МЕСЦА БОЮ 1944 г.** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі ва ўрочышчы Руда, злева ад дарогі Слонім — Дзятлава. Тут 10.6.1944 г. партызаны атрада «Непераможны» прарвалі блакаду нямецка-фашысцкіх карнікаў.



**1344.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

У снежні 1942 г. у Ленінскай партызанскай брыгадзе была створана спецыяльная група «Пракопа» (П. М. Герасімчыка), задачай якой з'яўлялася дыверсійна-разведвальная дзейнасць у раёне Слоніма. Група налічвала 30 чалавек. У чэрвені 1943 г. на яе базе ўзнік атрад «Неперамoжны» (камандзір П. М. Герасімчык). Пастаянны лагер атрада быў паміж вёскамі Скрундзі і Трафімавічы Дзятлаўскага р-на, ва ўрочышчы Чорнае Калена.

У час варожай блакады Ліпічанскай пушчы ў чэрвені 1944 г. атрад атрымаў загад адысці са свайго лагера ў в. Маскалі. Фашысты блакіравалі левы бераг Шчары, абстрэльвалі подступы да ракі, увялі ў дзеянне авіяцыю. Атрад пераправіўся цераз Шчару, але адарвацца ад ворага не здолеў. Прыйшлося зноў вярнуцца на правы бераг ракі. У раёне в. Пузовічы (цяпер в. Паўлава) атрад падышоў да шашы Слонім — Дзятлава і пасля жорсткага бою з заслонам карнікаў прарваўся ва ўрочышчы Руда. Праз 2 дні разведка данесла, што атрад акружаны. 9 чэрвеня камандзір аддаў загад аб прарыве. Чатыры гадзіны ішоў цяжкі бой, загінуў камісар атрада С. С. Касцярэнка. У крытычны момант партызаны Іван Малаш, Федарышкін і Андрэй Бурцаў кінуліся да бункера, адкуль гітлераўцы вялі інтэнсіўны агонь, і закідалі яго процітанкавымі гранатамі. Кальцо акружэння ў гэтым месцы было прарвана, і ў 4 гадзіны раніцы 10.6.1944 г. атрад выйшаў з блакады, знішчыўшы каля 70 варожых салдат.

У 1967 г. ва ўрочышчы Руда на месцы прарыву блакады насыпаны Курган Славы.

*Літ.:* В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975. *В. Б. Караткевіч.*

**1340. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 90 землякоў з вёсак калгаса «Кастрычнік», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1341. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,4 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Дымарка (правы прыток р. Шчара). Памеры 400×70 м. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Сабрана ляпная гладкасценная кераміка 1-га тысячагоддзя н. э., знойдзены рэшткі домніц. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Паўлавічы, Кастровіцкі сельсавет**

**1342. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 120 жыхароў, расстраляных гітлераўцамі 16.12.1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург». Вёска (34 двары) была спалена. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1343. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 107 жыхароў, расстраляных гітлераўцамі 16.12.1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург». У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1344. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 49 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 16.12.1942 г. у час карнай аперацыі «Гамбург». У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Плаўскія, Азярніцкі сельсавет**

**1345. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 90 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

У чэрвені 1941 г. група чырвонаармейцаў прыкрывала адыход сваёй часці. Яна заняла абарону на невялікай вышыні паміж вёскамі Плаўскія і Ярмолаўшчына. Некалькі гадзін ішоў бой. Вораг вымушаны быў падцягнуць артылерыю. Байцы змагаліся да апошняга патрона, усе загінулі. У красавіку 1967 г. іх астанкі былі перазахаваны ў брацкую магілу.

Сюды перанесены астанкі воінаў, якія загінулі 11.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Пятралевічы 1-я, Паўлаўскі сельсавет**

**1346. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Крывая Гара (ці Леаргі). Пахавана больш за 10 тыс. мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў Вялікую Айчынную вайну.

Летам 1941 г. гітлераўцы расстралялі ва ўрочышчы Крывая Гара 2 тыс. мірных жыхароў Слоніма. У чэрвені — жніўні 1942 г. і пазней акупанты расстрэльвалі тут мірных жыхароў, ваеннапалонных, жонак і дзяцей ваеннаслужачых Чырвонай Арміі. У ноч на 4.7.1944 г. фашысты па-зверску загубілі яшчэ 102 чалавекі. Сярод іх — хірург К. П. Жураўлёва з 2 дочкамі 5 і 7 гадоў, зубны ўрач В. Н. Чарняўская з сынамі 2 і 5 гадоў, інжынер Т. Сяргеева, сяляне з вёсак Глоўсевічы, Харашэвічы і інш. Ва ўсіх рукі былі звязаны дротам, большасць дзяцей кінуты ў яму жывымі.

У 1964 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены 12-метровы абеліск.

**в. Рахавічы, Глоўсевіцкі сельсавет**

**1347. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1347а.** Селішча-1. За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Груд, у пойме р. Булы. Памеры 300×60 м. Абследавалі ў 1963—64 гг. В. Р. Супрун, у 1973 г. Л. Д. Побаль. Знойдзены абломкі печаў (домніц), ляпная кераміка, рэшткі посуду 6—8 стагоддзяў. Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і да ранне-феадальнага часу.

**1347б.** Селішча-2. У вёсцы, каля жывёлагадоўчай фермы. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны рэшткі ляпной гладкасценнай (са слабай прафіліроўкай сценак) і ганчарнай керамікі.

Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі. *Л. Д. Побаль.*

**в. Рудаўка, Сялявіцкі сельсавет**

**1348. КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на невялікім ўзвышшы сярод поля. Захаваліся 70 магіл з каменнымі абкладамі і пастаўленымі тарцом камянямі. Выявіла ў 1982 г. А. В. Квяткоўская, абследаваў у 1984 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рудня (не існуе), Слонімскі сельсавет**

**1349. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Рудня знаходзілася за 1,5 км на поўнач ад в. Харашэвічы. У 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі 17 жыхароў вёскі, у т. л. дзяцей. Вёска (6 двароў) была знішчана. Пасля вайны не адрадзілася.



**1346.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*




**1347а.** *Селішча-1. План.*

**в. Русакова, Жыровіцкі сельсавет**

**1350. ПОМНІК ФІДРЫКУ** Аляксандру Уласавічу (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у полі. Першы старшыня праўлення мясцовага калгаса імя 8 Сакавіка, удзельнік партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну А. У. Фідрык загінуў у баі з фашыстамі ў снежні 1941 г. На ўшанаванне яго памяці ў 1977 г. устаноўлены мемарыяльны знак.

**1351. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1351а.** Селішча-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Завала. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973—74 гг. Л. Д. Побаль. На плошчы ў 1 га сабрана кераміка ранняга жалезнага веку.

**1351б.** Селішча-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Марозавая Горка. Абследавалі ў 1966 г. В. Р. Супрун, у 1970 г. М. М. Чарняўскі, у 1973 г. Л. Д. Побаль. На паверхні і ў шурфах знойдзены рэшткі посуду ранняга жалезнага веку і абломкі гаршкоў 6—8 стагоддзяў, біканічныя прасліцы, рэшткі гліняных льячак. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі. *Л. Д. Побаль.*

**1352. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на левабярэжнай дзюне р. Шчара, ва ўрочышчы Літоўскі Бераг. Памеры 75×40 м. Адкрыў у 1965 г. і даследаваў у 1966 г. В. Р. Супрун, даследаваў у 1968, 1970 гг. М. М. Чарняўскі. Ускрыта 704 м² плошчы. У культурным пласце да 0,8 м знойдзены рэшткі агнішчаў, кераміка і прылады працы нёманскай культуры: абломкі ляпных вастрадонных гаршкоў з прафіляванымі сценкамі, арнаментаваных грабеньчатым, накольчатым, пракрэсленым, штампаваным арнаментамі, крамянёвыя скрабкі, нажы, праколкі, наканечнікі стрэл, сякеры, долаты, цёслы і інш. Да бронзавага веку адносяцца абломкі пласкадонных гаршкоў з шнуравым, штампаваным і пракрэсленым арнаментамі, а таксама крамянёвыя прылады, каменныя свідраваныя сякеры. У культурным пласце знойдзены рэшткі пахавання з абрадам трупаспалення (бронзавы век), гаршчок з наразным арнаментам і свідраваная каменная сякера.

Былі знойдзены таксама матэрыялы ранняга жалезнага веку (фрагменты керамікі, прасліцы) і ранняга феадалізму (кераміка, жалезныя вырабы). Матэрыялы нёманскай культуры датуюцца 3-м тысячагоддзем да н. э., бронзавага веку — 2-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР,

Дзяржаўным музеі БССР, Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Супрун В. Р. Поселение Русаково-II.— У кн.: Вопросы истории. Мн., 1969. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Саленікі, Азгінавіцкі сельсавет**

**1353. СЕЛІШЧА** (археал.). Каля вёскі, на поўнач ад могілак. Плошча каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973 г. абследаваў Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 1-га тысячагоддзя н. э. і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Сасноўка, Повадзевяткавіцкі сельсавет**

**1354. РАДЗІМА ПІШЧЫКЕВІЧА** Барыса Тарасавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Б. Т. Пішчыкевіч нарадзіўся 24.7.1899 г. у беднай сялянскай сям'і. Член КПСС з 1921 г. Скончыў Вышэйшую школу прафсаюзнага руху ў 1932 г., працаваў у ёй выкладчыкам і загадчыкам факультэта. Удзельнік Грамадзянскай вайны і вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Удзельнічаў у вызваленні Беларусі, у баях на тэрыторыі Германіі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім р-не Гомельскай вобл.

У ноч на 15.10.1943 г. 69-я Сеўская стралковая дывізія 65-й арміі заняла зыходныя пазіцыі на левым беразе Дняпра ў раёне в. Радуль Чарнігаўскай вобл. На досвітку агітатар палітаддзела дывізіі маёр Пішчыкевіч у складзе дэсантнага атрада фарсіраваў раку, замяніў параненага камандзіра і ў баі за плацдарм асабістым прыкладам натхняў воінаў. Дэсантнікі захапілі палосу берага шырынёй 800 м, адбілі 5 контратак праціўніка, што садзейнічала пераправе палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена Б. Т. Пішчыкевічу 30.10.1943 г. Пасля вайны да 1957 г. на прафсаюзнай рабоце ў Маскве. Памёр 15.1.1974 г. Яго імем названа школа на радзіме.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*



1352. *Гліняны ляпны посуд са стаянкі.*



1356. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Сурынка, Глоўсевіцкі сельсавет**

**1355. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, каля калгаснага гаспадарчага двара, на левым беразе р. Піла. Адкрыў і абследаваў у 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973 г. абследаваў Л. Д. Побаль. На плошчы 1 га сабраны ляпная гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку і рэшткі ганчарных гаршкоў раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Сялявічы, цэнтр сельсавета**

**1356 БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 335 воінаў і партызан, якія загінулі на тэрыторыі сельскага Савета ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**1357. КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст. з дрэва. Асноўны аб'ём прамавугольны ў плане з трохграннай алтарнай часткай. Двухсхільны дах з вальмамі над апсідай завершаны з боку галоўнага фасада васьміграннай шатровай вежай. Да бакавых фасадаў далучаны прамавугольныя ў плане сакрысціі з двухсхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны, арачныя аконныя праёмы ў плоскіх ліштвах. Інтэр'ер перакрыты плоскай столлю. Алтар упрыгожаны драўлянымі скульптурамі анёлаў. Над уваходам хоры на 2 слупах.

Касцёл — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**1358. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Перад будынкам праўлення калгаса імя Дзяржынскага. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1981 г.

**в. Сянькоўшчына, Кастровіцкі сельсавет**

**1359. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Насупраць будынка школы. Пахаваны 533 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам і 4 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**1360. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1360а.** Селішча-1. На левым беразе р. Бяроза (левы прыток р. Шчара), паміж вёскамі Сянькоўшчына і Куцейкі. Абследавалі ў 1964 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні плошчай каля 1 га сабраны гладкасценная кераміка 1-га тысячагоддзя н. э., ганчарная раннефеадальнага часу і шлакі.

**1360б.** Селішча-2. На заходняй ускраіне вёскі, на пагорку паміж правым берагам р. Бяроза і безназоўным ручаём. Памеры 300×100 м. Абследавалі ў 1964 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. Знаходкі такія ж, як і на селішчы-1. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі. *Л. Д. Побаль.*

**в. Талькаўшчына, Паўлаўскі сельсавет**

**1361. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,7 км ад вёскі, злева ад шашы Слонім — Дзятлава, у лесе. Пахаваны 69 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у чэрвені 1941 г. і ліпені 1944 г.

**1362. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1362а.** Гарадзішча. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Кураўская Гара, на мысе. Пляцоўка паме-



1357. *Касцёл.*

рам 125×60 м узвышаецца над ваколіцай на 30 м, умацавана 2 кальцавымі валамі вышынёй да 2 м. Абследавалі ў 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, у 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973—74 гг. Л. Д. Побаль. У культурным пласце да 0,6—0,7 м знойдзены рэшткі ляпных гладкасценных гаршкоў, косці буйной рагатай жывёлы. Датуецца 6—8 стагоддзямі н. э.

**1362б.** Селішча-1. Побач з гарадзішчам, на поплаве р. Шчара. Плошча 7—8 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны ляпная і ганчарная кераміка, шлакі, жалезная падкоўка.

**1362в.** Селішча-2. На паўднёвай ускраіне вёскі. Плошча каля 0,5 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,45 м знойдзена ляпная і ганчарная кераміка.

Селішчы адносяцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання гарадзішча і селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— Вильна, 1895. *Л. Д. Побаль.*

**1363. СТАЯНКА** (археал.). У паўночнай частцы вёскі, каля жывёлагадоўчай фермы. Цягнецца ўздоўж правага берага р. Шчара на 150 м. Выявіў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1963—64 гг. В. Р. Супрун. Культурны пласт месцамі да 0,6 м. У ім знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка. Помнік адносіцца да позняга этапа нёманскай культуры (2-я палова 3-га тысячагоддзя да н. э.). Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Ферадкі,**
**Паўлаўскі сельсавет**

**1364. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,8 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Лазок. Памеры 100×50 м, вышыня над поймай р. Шчара да 3 м. Адкрыў і абследаваў у 1963 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і рэшткі ганчарнага посуду раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Хадзявічы,**
**Васілевіцкі сельсавет**

**1365. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.



**1358.** *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*

**в. Харашэвічы,**
**Дзераўноўскі сельсавет**

**1366. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі. У 2 магілах пахаваны 17 жыхароў в. Рудня, якіх загубілі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1942 г.

**1367. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 70 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



**1359.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Чамяры,**
**Азгінавіцкі сельсавет**

**1368. РАДЗІМА ПРАКАПЧУКА** Андрэя Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі вучоны ў галіне дэрматавенералогіі, акадэмік АН БССР з 1940 г. (член-карэспандэнт з 1936 г.), доктар медыцынскіх навук з 1936 г., прафесар з 1931 г., заслужаны дзеяч навукі БССР (з 1944 г.) А. Я. Пракапчук нарадзіўся 4.7. 1896 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1917 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. Скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта ў 1923 г. З 1927 г. працаваў у клініцы скурных і венерычных хвароб БДУ. З 1931 г. загадчык кафедры дэрматавенералогіі Мінскага медыцынскага інстытута, адначасова ў 1932—38 гг. і 1945—63 гг. дырэктар скурна-венералагічнага навукова-даследчага інстытута Міністэрства аховы здароўя БССР. Даследаваў пытанні марфалогіі запаленчых працэсаў скуры, абмену рэчываў, прафілактыкі, дыягностыкі, ужывання радыеактыўных ізатопаў і стэроідных гармонаў пры скурных і венерычных хваробах. Распрацаваў і ўкараніў у практыку метад лячэння чырвонай ваўчанкі акрыхінам. Асноўныя працы: «Лячэнне чырвонай ваўчанкі акрыхінам» (1939 г.), «Гнойныя захворванні скуры» (1952 г.).

Памёр 13.4.1970 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979; А. Я. Прокопчук.— Здравоохранение Белоруссии, 1970, № 8. *У. У. Бянько.*

**1369. СЕЛІШЧА** (археал.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Валабранка. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1973—74 гг. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны ляпная кераміка 1-га тысячагоддзя н. э. і ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Чапялёва,**
**Вялікашылавіцкі сельсавет**

**1370. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Шчара, ва ўрочышчы Вераб'ёвая Гара. Плошча 0,5 га. Адкрыў у 1963 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны ляпная гладкасценная кераміка 1-га тысячагоддзя н. э. і абломак гаршка са штрыхаванай паверхняй, рэшткі ганчарнага посуду. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Юхнавічы, Сялявіцкі сельсавет**

**1371. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Плошча каля 1 га. Абследаваў у 1963 г. В. Р. Супрун. На паверхні сабраны ляпная кераміка жалезнага веку і рэшткі посуду раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

**в. Ягнешчычы, Кастровіцкі сельсавет**

**1372. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1372а.** Могільнік-1. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бяроза. 5 кургапоў дыяметрам ад 5 да 12 м, вышынёй да 1 м, пакрыты камянямі дыяметрам 0,2—0,4 м. Адкрыў у 1895 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі жоўтага колеру з дамешкай жарствы і абломак пасудзіны з наляпным валікам. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**1372б.** Могільнік-2. За 0,3 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі Ягнешчычы — Ніз. На плошчы каля 500 $м^2$ 3 насыпы. Першы (прадаўгаваты) памерам 15×8 м, вышынёй 1,5 м, каля асновы абкладзены камянямі, другі — круглы, дыяметрам 3 м, вышынёй 1,3 м, трэці — круглы, дыяметрам 2 м, вышынёй 0,5 м. Першы курган знаходзіцца на поўнач ад дарогі, другі — на поўдзень, трэці — бліжэй да вёскі. Адлегласць паміж курганамі 100—150 м. Адкрыла і абследавала ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1974 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.

*У. Дз. Будзько.*



**1373.** *Селішча-1. План.*

**1373. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1373а.** Селішча-1. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Цэсь, на невялікім узвышшы, каля правага берага р. Бяроза. Абследавалі ў 1963 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На плошчы каля 0,5 га на паверхні сабраны абломкі ляпной гладкасценнай керамікі 6—8 стагоддзяў.

**1373б.** Селішча-2. За 0,1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Бяроза. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1973 г. В. Р. Супрун, у 1974 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны рэшткі ляпной керамікі 1-га тысячагоддзя н. э., ганчарная кераміка, рэшткі домніц.

Селішчы адносяцца да жалезнага веку і раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Слонімскім краязнаўчым музеі.

# СМАРГОНСКІ РАЁН







- Цэнтр раёна
- Цэнтры сельсаветаў
- Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы
- Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы
- Цэнтры раместваў
- Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду
- Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)
- Помнікі і месцы воінскай славы
- Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)
- Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)
- Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы
- Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)
- Палацы, сядзібы, асабнякі
- Культавая архітэктура

## XXI. СМАРГОНЬ

Горад, цэнтр раёна. За 260 км на паўночны ўсход ад Гродна. Чыгуначная станцыя на лініі Маладзечна — Вільнюс, на аўтамабільнай дарозе Маладзечна — Вільнюс.

Вядома з 15 ст. у Вялікім княстве Літоўскім як прыватнае мястэчка Зяновічаў, Радзівілаў, Пшаздзецкіх. У 1553 г. пабудаваны мураваны кальвінскі збор. Каля 1590 г. заснаваны папяровая мануфактура, школа, шпіталь. У 1622 г. у Смаргоні 139, у 1640 г.— 155 домаўласнікаў. 20 % жыхароў займалася рамяством. У 1650-я гады ўзнікла пратэстанцкая абшчына, пры якой былі царква і шпіталь. У 17 ст. арганізавана так званая «Смаргонская акадэмія» (адна з школ беларускіх скамарохаў — дрэсіроўшчыкаў мядзведзяў), якая праіснавала, паводле некаторых крыніц, да 1-й паловы 19 ст. У 1788 г. у Смаргоні 3 магнацкія фальваркі, 393 двары, 3 бровары, 3 млыны, 2 прадпрыемствы па выпуску будаўнічых матэрыялаў, 1 гарбарня. З 1795 г. Смаргонь у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Ашмянскага павета Віленскай губерні. У канцы 19 — пачатку 20 ст. цэнтр гарбарнай (16 заводаў у 1904 г.) і швейнай прамысловасці на Беларусі. Развіццю мястэчка спрыяла будаўніцтва чыгункі (1873 г.) і наяўнасць грунтавых дарог, якія звязвалі яго з Мінскам, Вільняй, Вілейкай. У канцы 19 ст. было каля 650 рамеснікаў розных спецыяльнасцей, банкаўская кантора, паштовая станцыя, 2 фатаграфіі, аптэка, 5 ніжэйшых навучальных устаноў. Паводле перапісу 1897 г. у мястэчку 7,5 тыс. жыхароў, 1426 дамоў. У 1-й палове 1890-х гадоў узнік рабочы гурток, на аснове якога ў 1894 г. створана падпольная арганізацыя сацыял-дэмакратычнага кірунку. Яна мела стачачную касу з узносаў рабочых, нелегальную бібліятэку. У 1896 г. правяла 3 стачкі гарбароў, 3 масоўкі, у т. л. першую ў Смаргоні, прысвечаную 1 Мая. У кастрычніку 1901 г. адбылася чатырохтыднёвая стачка 1300 рабочых гарбарных заводаў. Усяго з 1901 г. да 1904 г. у Смаргоні прайшло больш за 30 эканамічных і 3 палітычныя стачкі, 13 масовак і маніфестацый. Пасля II з'езда РСДРП (1903 г.) узнікла Смаргонская арганізацыя РСДРП, пры ёй вясной 1906 г. утворана Смаргонская акруговая арганізацыя РСДРП, якая аб'ядноўвала больш за 630 членаў. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. пад кіраўніцтвам арганізацыі РСДРП адбыўся шэраг стачак, забастовак, дэманстрацый, мітынгаў. Буйная эканамічная забастоўка адбылася ў кастрычніку 1912 г. Тут дзейнічаў нелегальны прафсаюз гарбароў, які налічваў 1500 членаў (да 1914 г.).



**XXI.** *Забудова вуліцы Савецкай.*

У 1-ю сусветную вайну мястэчка разбурана. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў 1919 г. У маі 1919 г. Смаргонь акупіравана польскімі войскамі. Летам 1920 г. вызвалена Чырвонай Арміяй. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Ашмянскага павета Віленскага ваяводства. Барацьбу працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ўзначальвалі падпольныя Смаргонскі райком КПЗБ і Маладзечанскі акруговы камітэт КПЗБ. З канца 1939 г. Смаргонь у складзе БССР, з 1940 г. горад, цэнтр раёна Вілейскай вобл. З 25.6.1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (9.1. 1944 г.— 2.7.1944 г.) і ЛКСМБ (17.10. 1943 г.— 2.7.1944 г.), партызанская брыгада «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага. У 1945—60 гг. Смаргонь — цэнтр раёна Маладзечанскай, з 1960 г. Гродзенскай абласцей.

Генеральныя планы забудовы Смаргоні распрацаваны ў інстытуце «Белдзяржпраект» (1968 г.) і ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва (1973 г.). Паводле апошняга развіццё горада прадугледжваецца ў паўночным напрамку з выхадам да лясных масіваў уздоўж р. Вілія. Забудова дзеліцца на 3 жылыя і прамысловы раёны. Гарадскі цэнтр склаўся вакол вул. Савецкай. Тут размешчаны культурна-асветныя і гандлёвыя ўстановы. На пл. Леніна, якая з'яўляецца адміністрацыйным цэнтрам, знаходзіцца будынак райкома КПБ і райвыканкома. Капітальная шматпавярховая забудова сканцэнтравана ў заходняй і цэнтральнай частках горада, усходні раён забудаваны пераважна 1—2-павярховымі дамамі. Прамысловыя прадпрыемствы размешчаны ў заходняй частцы. Працуюць ліцейна-механічны, камбікармавы, сухога і абястлушчанага малака заводы, лесазавод, ільнозавод, хлебазавод, мэблевая фабрыка, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання, лясгас. У горадзе 4 сярэднія, музычная і 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, школа-інтэрнат, прафесійна-тэхнічнае вучылішча, вячэрні філіял Мінскага палітэхнікума, 9 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры (пры ім народны ансамбль песні і танца імя М.-К. Агінскага і народны цымбальны аркестр), кінатэатр, 3 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Светлы шлях». Помнікі: У. І. Леніну, вызваліцелям, на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан і інш. Збярогся помнік архітэктуры 16 ст.— кальвінскі збор.

Зона адпачынку — парк культуры і адпачынку, прырэчная паласа р. Вілія.

*Літ.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917). Т. 3.— Мн., 1953; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI— первой половине XVII в.— Мн., 1966; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; Мальдзіс А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955.

*Г. А. Каханоўскі, А. А. Міцянін.*



**1375.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1374. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Танкістаў, на тэрыторыі бальніцы. Пахаваны 50 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1375. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая. Пахаваны 250 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 7-й гвардзейскай механізаванай і 35-й гвардзейскай танкавай брыгад, 97-й стралковай дывізіі 3-га Беларускага фронту і партызаны брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач у 1982 г. устаноўлены пліты з імёнамі 646 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Г. І. Дулеба.*

**1376. КАЛЬВІНСКІ ЗБОР** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1553 г. (паводле іншых звестак у 1580 ці 1606—12 гг.). Рэстаўрыраваны ў 1858 і 1926 гг., адноўлены ў 1970-я гады.

Купальны храм цэнтрычнага тыпу, у плане злёгку выцягнуты па падоўжнай восі васьміграннік. Да яго з боку галоўнага фасада прымыкае шмат'ярусная вежа-званіца (захаваліся 2 ярусы), завершаная нізкім шатром на васьміграннным барабане.



**1376.** *Кальвінскі збор. Фрагмент бакавога фасада.*



**1376.** *Кальвінскі збор. Галоўны фасад.*



**1376.** *Кальвінскі збор. Падоўжны разрэз.*



**1376.** *Кальвінскі збор. План.*

У месцы злучэння званіцы і асноўнага аб'ёму прыбудавана цыліндрычная вежа. Магутныя сцены будынка (да 3,5 м) прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Пластычны парапет апрацаваны лапаткамі і характэрнай рэнесансавай аркатурай з гіркамі.

Уваход у храм праз квадратны ў плане ніжні ярус вежы-званіцы, перакрыты крыжовым скляпеннем. Унутраная прастора асноўнага аб'ёму перакрыта сферычным купалам. Аснова купала аддзелена ад сцен невялікім карнізам з дэнтыкуламі. Плоскасці сцен раскрапаваны шматлікімі арачнымі нішамі. Купал дэкарыраваны фрэскамі. Над прытворам — хоры, перакрытыя крыжовым скляпеннем. Парапет хораў мае філёнгавую крапоўку. Ярусы званіцы былі аб'яднаны вітай лесвіцай. Пад цэнтральнай часткай храма — крыпта.

Кальвінскі збор — помнік архітэктуры рэнесансу.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968. *А. А. Міцянін.*

**1377. МАГІЛА ІВАНОВА** Аляксандра Сцяпанавіча (гіст.). Вул. П. Лумумбы, у гарадскім парку. Супрацоўнік органаў Дзяржаўнай бяспекі БССР А. С. Іваноў загінуў 4.8.1950 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Яго імем названа вуліца ў Смаргоні. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1378. МАГІЛА СІНКЕВІЧ** Вікторыі Казіміраўны (гіст.). Вул. Танкістаў, на могілках.

Удзельніца рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі В. К. Сінкевіч нарадзілася ў 1914 г. у в. Караваі Смаргонскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПЗБ. У пачатку 1930-х гадоў узначальвала ў роднай вёсцы падпольную камсамольскую арганізацыю. У 1935 г. выконвала даручэнні ЦК КПЗБ. Распаўсюджвала нелегальную літаратуру, лістоўкі, якія заклікалі народ да барацьбы за вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. У 1936 г. за рэвалюцыйную дзейнасць арыштавана. Віленскі акруговы суд прыгаварыў яе да 2 гадоў турэмнага зняволення з пазбаўленнем палітычных правоў на 5 гадоў. Пасля выхаду з турмы выслана ў Беласток, дзе працягвала рэвалюцыйную работу. Турма, цяжкія ўмовы жыцця падарвалі здароўе рэвалюцыянеркі; яна захварэла на туберкулёз. Памерла 7.11.1939 г. Яе імем названа вуліца ў Смаргоні.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла і ўстаноўлена надмагілле.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*




1378. *Помнік на магіле В. К. Сінкевіч.*

**1379. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Гастэлы, 32, на будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў міліцыі А. А. Камінскага, А. М. Сташкевіча і С. І. Ермаловіча, якія загінулі ў 1944—46 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады.

**1380. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, 1, на будынку раённага вузла сувязі. Устаноўлена ў 1967 г. у гонар воінаў 7-й гвардзейскай механізаванай, 35-й гвардзейскай танкавай брыгад 3-га гвардзейскага механізаванага корпуса, 97-й стралковай дывізіі і партызан брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага, якія пры падтрымцы 1-й паветранай арміі вызвалілі 5.7.1944 г. Смаргонь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1381. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ СМАРГОНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП** (гіст.). Смаргонская арганізацыя РСДРП пачала афармляцца як група Віленскай арганізацыі РСДРП. З сакавіка 1904 г. уваходзіла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП, з жніўня 1905 г.— у Паўночна-Заходні саюз РСДРП, адначасова з снежня 1905 г. да вясны 1906 г.— у Віленскую акруговую арганізацыю РСДРП, з мая 1906 г.— у Абласны саюз РСДРП Літвы і Беларусі. З'яўлялася адной з буйнейшых арганізацый РСДРП на Беларусі. У канцы 1904 г. аб'ядноўвала 175 членаў, у чэрвені 1906 г.— 390 членаў. Узначальваў арганізацыю камітэт, які складаўся з 10 чалавек (1906 г.). Падзялялася на 3 раёны. Мела калегію прапагандыстаў, якая кіравала работай 12 палітгурткоў, у 8 з іх займаліся рабочыя. Вяла вусную і друкаваную прапаганду і агітацыю сярод рабочых, рамеснікаў, навучэнцаў мястэчка, сялян павета, выдавала і распаўсюджвала лістоўкі і адозвы, заклікала да барацьбы з царызмам. Узначальвала рэвалюцыйны рух, арганізоўвала стачкі, дэманстрацыі, мітынгі і масоўкі. Асабліва актывізавала сваю дзейнасць у перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг. 13—18.1.1905 г. узна-




1382. *Помнік вызваліцелям.*

чаліла ўсеагульную стачку пратэсту рабочых гарбарных заводаў Смаргоні супраць крывавай расправы царызму над рабочымі Пецярбурга. У час стачкі была праведзена палітычная дэманстрацыя з удзелам больш за 2 тыс. чалавек, распаўсюджвалася праклямацыя «Падзенне царызму і нашы задачы». На задушэнне стачкі ўлады выклікалі 400 салдат, правялі масавыя арышты. У чэрвені 1905 г. адбылася двухдзённая забастоўка салідарнасці з паўстаўшым пралетарыятам Адэсы, Варшавы, Іванава-Вазнясенска, Лодзі. У жніўні 1905 г. Смаргонская арганізацыя РСДРП выдала лістоўку «Таварышы», дзе выкрывала антынародную палітыку царызму, у верасні узначальвала забастоўку 500 рабочых гарбарных прадпрыемстваў, якая закончылася іх перамогай. У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі праводзіла мнагалюдныя мітынгі і дэманстрацыі пад лозунгамі «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!». У дэманстрацыі, якая адбывалася 20—21 кастрычніка, удзельнічала каля 10 тыс. чалавек, па патрабаванню дэманстрантаў з турмы былі вызвалены палітычныя вязні. У 1906—07 гг. накіроўвала дзейнасць прафсаюза гарбароў (800 чалавек). Дэлегаты Смаргонскай арганізацыі РСДРП удзельнічалі ў рабоце IV (Аб'яднаўчага) і V (Лонданскага) з'ездаў РСДРП, ва ўсіх з'ездах Паўночна-Заходняга саюза РСДРП, а потым Абласнога саюза РСДРП Літвы і Беларусі.

З вясны 1906 г. пры Смаргонскай арганізацыі РСДРП існавала Смаргонская акруговая арганізацыя РСДРП, якая аб'ядноўвала і ўзначальвала дзейнасць Смаргонскай, Валожынскай, Даўгінаўскай і Лебедзеўскай арганізацый РСДРП (больш за 630 членаў). Смаргонская арганізацыя РСДРП выконвала ролю камітэта акруговай арганізацыі.

У перыяд рэакцыі з прычыны арыштау многіх бальшавікоў Смаргонская акруговая арганізацыя РСДРП спыніла дзейнасць, а Смаргонская арганізацыя РСДРП значна аслабіла сваю работу. У час новага рэвалюцыйнага ўздыму (1910—14 гг.) апошняя зноў актывізавала дзейнасць. Яна праводзіла работу ў масах у сувязі з выбарамі ў 4-ю Дзяржаўную думу, трымала сувязь з яе бальшавіцкай фракцыяй, змагалася з бундаўцамі, меншавікамі, ліквідатарамі. Перастала існаваць у 1-ю сусветную вайну.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; его ж. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Скоробогатый В. В. Возникновение и основные этапы становления большевизма в Белоруссии (1903—1917 гг.).— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*



1384. *Помнік У. І. Леніну.*

**1382. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). За 4 км на поўнач ад горада, каля развілкі дарог на Вілейку і Свір.

У пачатку ліпеня 1944 г. у час Беларускай аперацыі 7-я гвардзейская механізаваная брыгада (камандзір палкоўнік М. І. Радзівонаў), 35-я гвардзейская танкавая брыгада (генерал-маёр танкавых войск А. А. Асланаў) 3-га гвардзейскага механізаванага корпуса, 97-я стралковая дывізія (камандзір палкоўнік Ф. Х. Жэкаў-Багатыроў) 65-га стралковага корпуса пры падтрымцы авіяцыі 1-й паветранай арміі 3-га Беларускага фронту пачалі наступленне ў напрамку Смаргоні. Тут гітлераўцы стварылі моцны вузел абароны, сканцэнтравалі больш за 20 танкаў, 3 самаходныя гарматы, 8 артылерыйскіх батарэй, 2 дывізіёны мінамётаў і 2 пяхотныя палкі. 4 ліпеня савецкія воіны пачалі штурмаваць пазіцыі ворага, зламалі яго супраціўленне і 5 ліпеня вызвалілі горад. У баях за Смаргонь удзельнічала партызанская брыгада «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага (камандзір Г. Ф. Пакроўскі, камісар М. І. Перапечка).

У 1976 г. у гонар вызваліцеляў горада пастаўлены пілон з выявай зоркі і гвардзейскага знака.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**1383. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Гагарына, на тэрыторыі ліцейна-механічнага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1950 г.

**1384. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1972 г.

**1385. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Танкістаў, у двары райваенкамата. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**1386. РАДЗІМА КУЛЬБАКА** Майсея Саламонавіча (гіст.).

Яўрэйскі савецкі пісьменнік М. С. Кульбак нарадзіўся 20.3.1896 г. у сям'і служачага. Здаў экстэрнам экзамен на званне настаўніка і працаваў у школах і гімназіях Смаргоні, Мінска, Вільні. У 1920—28 гг. жыў у Вільні, з 1928 г.— у Мінску. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, Акадэміі навук БССР.

Друкавацца пачаў у 1916 г. Аўтар зборнікаў «Вершы» (1920 г.), «Новыя вершы» (1922 г.), «Паэмы і вершы» (1929 г.), раманаў «Месія сын Эфроіма» (1924 г.), «Панядзелак» (1926 г.), «Зельманцы» (кн. 1—2, 1931—35 гг.) і інш., паэм «Горад» (1919 г.), «Каваль Еста» (1920 г.), «Беларусь» (1921 г.), «Дзісненскі Чайльд Гарольд» (1933 г.). На беларускай мове выдадзены раман «Зельманцы» (1960 г.), «Выбранае» (1970 г.), на рускай — зборнік «Вершы. Паэмы» (1969 г.), раман «Зельманцы» (1960 г.). У сваіх творах выкрываў рэлігійныя забабоны, адмоўныя рысы ў свядомасці і побыце людзей, услаўляў новае, сацыялістычнае жыццё. М. С. Кульбак пераклаў на яўрэйскую мову раман М. А. Астроўскага «Як гартавалася сталь», камедыю «Рэвізор» М. В. Гогаля, некаторыя творы Я. Коласа і Я. Купалы.

М. С. Кульбак памёр 17.7.1940 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба.*

**в. Абрамаўшчына 1-я, Вішнеўскі сельсавет**

**1387. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка бібліятэкі. На ўшанаванне памяці 21 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Алянец, Залескі сельсавет**

**1388. КАПЛІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі, пры дарозе Мінск — Вільнюс. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Абсаджана ліпамі. Цэнтрычнае, квадратнае ў плане двух'яруснае вежападобнае збудаванне на філёнгавым цокалі. Накрыта чатырохсхільным дахам з крыжам у завяршэнні. Першы ярус плоскасны, другі — адкрыты з 4 бакоў прамавугольнымі праёмамі ў сціплых арачных ліштвах. У другім ярусе ўстаноўлена драўляная скуль-

птура Хрыста. Капліца — помнік народнага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Ардашы, цэнтр сельсавета**

**1389. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Расія». На ўшанаванне памяці 8 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Баярск, Ардашынскі сельсавет**

**1390. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск. На ім устаноўлена дошка на ўшанаванне памяці 12 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Бялкоўшчына, цэнтр сельсавета**

**1391. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Смаргонскі». На ўшанаванне памяці 12 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вётхава, Залескі сельсавет**

**1392. МАГІЛА ЮЖЫКА** Паўла Фаміча (гіст.). На могілках.

Беларускі мастак і педагог П. Ф. Южык нарадзіўся 4.3.1874 г. у в. Вётхава Смаргонскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1896 г.). Працаваў настаўнікам на Вілейшчыне і ў мястэчку Падброддзе (цяпер Літоўская ССР). У 1901 г. скончыў Віленскую рысавальную школу, вучыўся ў Пензенскім мастацкім вучылішчы (1919—20 гг.). Быў выкладчыкам малявання ў Віленскай беларускай гімназіі (1928—31 гг.). Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ў верасні 1939 г.— выкладчык Залескай школы Смаргонскага р-на. Працаваў найбольш як пейзажыст і партрэтыст. Асноўныя творы, якія можна аб'яднаць агульнай назвай «Беларускія краявіды», адлюстроўвалі жыццё і прыроду ваколіц Залесся ў розныя поры года. Прататыпамі партрэтаў П. Южыка («Тамаш», «Нявестка», «Хлопчык» і інш.) былі жыхары в. Вётхава, залескіх ваколіц. Аўтар гарадскога пейзажу «Віленскія краявіды». Захавалася некалькі партрэтаў віленскіх гімназістаў і гімназістак, напісаных сакавітымі фарбамі на фоне летняй прыроды.

Памёр П. Ф. Южык 16.4.1944 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск. *А. С. Ліс.*



**1393.** *Касцёл Тадэвуша. Галоўны фасад.*



**1393.** *Касцёл Тадэвуша. План.*



**1395а.** *Гарадзішча.*

**в. Вішнева, цэнтр сельсавета**

**1393. КАСЦЁЛ ТАДЭВУША** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1811 г. з цэглы.

Касцёл — выцягнуты прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным бляшаным дахам. Над квадратнай у плане алтарнай часткай — вежа (надбудавана ў 1866 г.) з шатровым пакрыццём, завершаным галоўкай. Галоўны фасад вырашаны чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам. На тымпане франтона і над уваходам паўцыркульныя аконныя праёмы. У інтэр'еры бакавыя сцены чляняны з узроўню падлогі глыбокімі нішамі, у якіх прамавугольныя аконныя праёмы. Алтарная частка на $^1/_3$ вышэй зальнай, асвятляецца 3 прамавугольнымі аконнымі праёмамі (у вежы) і адным паўцыркульным над алтаром. 2 паўкалоны дарычнага ордэра аддзяляюць алтарную прастору ад зальнай. Абапал алтарнай часткі вылучаны 2 сакрысціі. Вітая мураваная лесвіца вядзе на хоры, якія падтрымліваюцца чатырма калонамі дарычнага ордэра. Па перыметры залы праходзіць карнізны пояс з сухарыкамі. Столь плоская, падшыўная, з падугамі.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму. *А. А. Міцянін.*

**1394. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Войстам, цэнтр сельсавета**

**1395. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1395а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля дарогі на Смаргонь, на пагорку вышынёй 5—6 м. Пляцоўка дыяметрам 50 м, моцна пашкоджана акопамі ў 1-ю сусветную вайну. Адкрыў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938 г. У. Галубовіч, у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт у паўночна-ўсходняй частцы пляцоўкі 1,3 м. Знойдзена ляпная кераміка 7 ст. да н. э. і гладкасценная 6—8 стагоддзяў н. э. (культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны). Раскопкі не праводзіліся.

**1395б.** Селішча. Прымыкае да гарадзішча з усходняга, паўночнага і паўднёвага бакоў. Плошча каля 3 га. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзена гладкасценная кераміка. Датуецца 6—8 стагоддзямі н. э. (куль-



**1395.** *Гарадзішча, селішча. План.*



**1399.** *Царква.*

тура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны). Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945, [в.] 11. *Г. В. Штыхаў.*

**1396. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Галоўны фасад завершаны двух'ярусналі шатровай вежачкай і фланкіраваны рызалітамі са ступеньчатымі атыкамі. Сцены рытмічна раскрапаваны лапаткамі, арачнымі аконнымі праёмамі. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з падпружнымі аркамі і люнетамі. Алтарная частка і хоры адкрываюцца шырокімі аркамі.

Касцёл — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**1397. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Выгалянепты, Вішнеўскі сельсавет**

**1398. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі ў в. Свайгіні. Насып дыяметрам 6,5 м, вышынёй 1 м. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў.

**1399. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Адназрубны будынак з трохграннай алтарнай часткай накрыты двухсхільным гонтавым дахам з шатровай вежачкай і вальмамі над гранямі апсіды. Сцены вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны сцяжкамі. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным порцікам з трохвугольным шчытом, які акаймаваны радамі сухарыкаў. Пры ўваходзе на 2 слупах размешчаны хоры, агароджаныя балюстрадай. Інтэр'ер асвятляецца бакавымі здвоенымі арачнымі вокнамі і люкарнамі ў алтарнай частцы.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Вялікая Мыса, Бялкоўшчынскі сельсавет**

**1400. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1401. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 13 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптурная выява жанчыны ў жалобе.

**в. Вярэбушкі, Ардашынскі сельсавет**

**1402. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 20 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Гарані, Вішнеўскі сельсавет**

**1403. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на заходнім беразе воз. Свір. Займае ўзгорак з падрэзанымі схіламі вышынёй 7—12 м. Пляцоўка трохвугольная, памерам 75×60 м. Штучных умацаванняў няма. Выявіў у 1978 г. і даследаваў у 1981 г. Я. Г. Зверуга. Культурны пласт 2,5 м. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў з круглымі ў плане агнішчамі дыяметрам 1—1,3 м, абкладзенымі камянямі. Знойдзена шмат вырабаў з косці (праколкі, іголкі, тронкі, скрабкі, муфты-насадкі і інш.), больш за 50 шліфаваных (кліноў) і каля 10 прасвідраваных сякер, жалезных вырабаў (нажы, сярпы, сякеры, шылы, рыбалоўныя кручкі, наканечнікі стрэл, кіяпадобныя шпількі), а таксама гліняныя прасліцы, грузілы да сетак, тыглі, тачыльныя камяні, абломкі зерняцёрак, кераміка ляпная гладкасценная і штрыхаваная. Фрагменты ганчарнага посуду адзінкавыя. Помнік датуецца 1-м — пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Зверуго Я. Г. Раскопки Гораньского городища.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *Я. Г. Зверуга.*

**в. Гауці, Сольскі сельсавет**

**1404. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, каля шашы Смаргонь — Ашмяны. На ўшанаванне памяці 3 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дабраўляны, Сыраваткінскі сельсавет**

**1405. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 8 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Данюшава, Жодзішкаўскі сельсавет**

**1406. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія. Пабудаваны ў 1809 г. з дрэва. Абнесены мураванай агароджай з брамай і шатровай званіцай.

Касцёл — прамавугольны ў плане будынак, накрыты двухсхільным дахам. Да асноўнага аб'ёму далучана алтарная частка з бакавымі сакрысціямі. Галоўны фасад двухвежавы, вылучаны чатырохкалонным порцікам з франтонам, прарэзаным стральчатым акном. Фасады ашаляваны, стральчатыя аконныя праёмы ў розных ліштвах. У інтэр'еры асноўнае памяшканне перакрыта плоскай падшыўной столлю з дэкаратыўнымі разеткамі, больш вузкая алтарная частка — карабавым драўляным скляпеннем. Пры ўваходзе — хоры на 4 слупах.



**1406.** *Троіцкі касцёл. Галоўны фасад.*



**1407.** *Кальвінскі збор. План.*



**1407.** *Кальвінскі збор. Галоўны фасад.*

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**в. Жодзішкі, цэнтр сельсавета**

**1407. КАЛЬВІНСКІ ЗБОР** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1-й палове 17 ст. з цэглы. Пасля рамонту вядомы з пачатку 19 ст. як Троіцкі касцёл. Прамавугольны выцягнуты па падоўжнай восі будынак атрымаў крыжападобную форму за кошт прыбудаванага ў 1904 г. трансепта. З заходняга боку да будынка прымыкае квадратная ў плане апсіда з сакрысціяй з паўночнага боку і вуглавымі контрфорсамі. Раней над апсідай узвышалася вежа-званіца (разбурана ў 1-ю сусветную вайну). Дахі ўсіх частак будынка двухсхільныя. Галоўны фасад вырашаны плоскасна, мае шчытавое завяршэнне і руставаны партал пры ўваходзе. Сцены члянёны плоскімі лапаткамі, лучковымі вокнамі і нішамі, завершаны прафіляваным карнізам. У інтэр'еры зальная частка перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта — крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам — хоры з лесвіцай у паўночна-ўсходнім вуглу.



**1407.** *Кальвінскі збор. Выгляд з боку апсіды.*

Кальвінскі збор — помнік архітэктуры рэнесансу. *А. А. Міцянін.*

**1408. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлена стэла.

**1409. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія, пры ўпадзенні ў яе р. Святлянка. Сфарміравана ў 19 ст. Уключае сядзібны дом (былы езуіцкі кляштар, пабудаваны ў 17 ст.).

Сядзібны дом — мураваны прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Цэнтральны ўваход вылучаны неглыбокім рызалітам з мансардай. Фасады чляпёны лучковымі аконнымі праёмамі і вузкімі лапаткамі ў прасценках. Планіроўка дома галерэйная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

Парк пейзажнага тыпу з дрэвамі мясцовых парод (ліпа, клён, таполя і інш.).

Сядзіба — помнік барока і сядзібна-паркавага мастацтва. *А. М. Кулагін.*



**1407.** *Кальвінскі збор. Фрагмент інтэр'ера.*

**в. Завозерцы, Сольскі сельсавет**

**1410. СТАЯНКА** (археал.). Паміж цэнтрам вёскі і паўночна-ўсходнім берагам воз. Рыжае, на выступе пясчанага ўзвышэння. Памер 40×80 м. Выявіў і абследаваў у 1984 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,5 м знойдзены крамянёвыя нуклеусы, скрабкі, рэтушаваныя пласцінкі і адшчэпы, мікраліты. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 7—6-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Залессе, цэнтр сельсавета**

**1411. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1412. СЯДЗІБА АГІНСКІХ** (архіт., гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пабудавана ў 1802—22 гг. паводле праекта архіт. М. Шульца з удзелам архіт. І. Пусэ для польскага кампазітара і грамадскага дзеяча М. К. Агінскага. Сядзіба — развіты палацава-паркавы ансамбль. Тэрыторыя з боку ўезда абмежавана каналам і валам, пасадкамі ліпы, з паўднёвага боку — сажалкай і ручаём. Палац абкружаны паркам, у якім захаваліся капліца і рэшткі вадзянога млына.

Палац — Г-падобны ў плане аднапавярховы будынак пад двухсхільным дахам. Галоўны прадаўгаваты корпус мае сіметрычна-восевую кампазіцыю з бакавымі двухпавярховымі павільёнамі і цэнтральнай часткай, вылучанай чатырохкалонным порцікам дарычнага ордэра. Порцік быў завершаны трохступеньчатым атыкам (не захаваўся). Да галоўнага корпуса з боку двара прылягае будынак аранжарэі, дэкарыраваны каланадай. Планіроўка будынка анфіладная. Вуглавыя лесвіцы (вітая і двухмаршавая) аб'ядноўваюць паверхі павільёнаў. Інтэр'ер палаца быў аформлены фрэскамі. У галоўным вестыбюлі захаваліся фрагменты, якія маюць арнаментальны раслінна-геаметрычны характар. Па баках вестыбюля ўстаноўлены кафляныя печы.

Асноўная частка парку пейзажнага тыпу. Прагулачныя алеі пракладзены па перыметры парку і ўздоўж берагоў ракі. Плаціна ўтварае шырокі вадаём, які ўваходзіць у агульную ландшафтную кампазіцыю. У парку растуць лістоўніца, дуб, вольха, кедр, асіна, ліпа, бэз.

Сядзіба — помнік архітэктуры класіцызму і садова-паркавага мастацтва.

З сядзібай цесна звязана жыццё і творчасць дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. М. К. Агінскі нарадзіўся 25.9.1765 г. у Гузуве каля Варшавы. Дзяцінства правёў у Слоніме. З 1789 г. надзвычайны паслан-

нік Рэчы Паспалітай у Галандыі. Дэпутат Чатырохгадовага сейма 1788—92 гг. і Гродзенскага сейма 1793 г. У 1793—94 гг. вялікі літоўскі падскарбі. У час паўстання 1794 г. член паўстанцкай улады ў Літве і на Беларусі, сфарміраваў на свой кошт батальён конных егераў, якім камандаваў у некалькіх бітвах. Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў. У 1802 г. вярнуўся на радзіму і жыў у маёнтку Залессе. Пры ім у маёнтку наладжваліся музычна-літаратурныя вечары, дзе выступалі айчынныя і зарубежныя выканаўцы. Часта бываў у Пецярбургу. З 1822 г. жыў у Італіі.

Кампазітарскую дзейнасць пачаў у 1790-я гады стварэннем шматлікіх маршаў і баявых песень, пашыраных сярод паўстанцаў 1794 г. (Агінскаму прыпісваецца аўтарства музыкі песні «Яшчэ Польшча не загінула», якая стала польскім нацыянальным гімнам). У асноўным займаўся музыкай у залескі перыяд. Пісаў паланезы (каля 20), у т. л. славуты паланез ля-мінор «Развітанне з Радзімай», мазуркі, менуэты, маршы, вальсы, рамансы. Аўтар аднаактовай оперы «Зеліда і Валькур, або Банапарт у Каіры». У 1826—27 гг. у Парыжы выдадзены яго «Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 па 1815 г.». Яго «Лісты пра музыку», напісаныя ў 1828 г., выйшлі ў 1956 г.

Творчасць М. К. Агінскага прыцягвае дзеячаў сучаснага беларускага мастацтва. Яму прысвечаны эсэ У. Караткевіча «Песня Паўночных Афін», дакументальны фільм «Паланез ля-мінор» (1973 г., рэжысёр В. Дашук); мелодыя Агінскага адыгрывае ролю своеасаблівага лейтматыва ў мастацкім фільме «Паланез Агінскага» (1971 г., рэжысёр Л. Голуб). Яго імя носіць Смаргонскі народны ансамбль песні і танца.

Памёр М. К. Агінскі 15.10.1833 г.

*Літ.:* Мальдзіс А. І. Падарожжа ў XIX стагоддзе.— Мн., 1969; Бэлза И. Михаил Клеофас Огиньский.— 2 изд.— М., 1974. *А. М. Кулагін, А. І. Мальдзіс.*

**в. Зарудзічы, Залескі сельсавет**

**1413. РАДЗІМА САЛАГУБА** Алеся (Аляксандра Феафілавіча; гіст.).

Беларускі савецкі паэт і літаратуразнавец, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі А. Ф. Салагуб (псеўданім Лявон Чачотка) нарадзіўся 5.10.1906 г. у сялянскай сям'і. Член КСМЗБ з 1923 г. У 1922—24 гг. вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Зблізіўся з дзея-



**1409.** *Сядзібны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*



**1409.** *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



**1411.** *Помнік землякам.*




**1412.** *Сядзіба Агінскіх. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — капліца; 3 — млын; 4 — гаспадарчыя пабудовы; 5 — сажалка; 6 — ручай.*



**1412.** *Сядзіба Агінскіх. Палац. План.*



**1412.** *Сядзіба Агінскіх. Алея парку.*



**1412.** *Сядзіба Агінскіх. Будынак аранжарэі.*



**1412.** *Сядзіба Агінскіх. Палац. Галоўны фасад.*

чамі рэвалюцыйнага руху, асабліва з А. У. Канчэўскім. Вёў палітычную работу ў гімназіі і на радзіме. За рэвалюцыйную дзейнасць уладамі буржуазнай Польшчы ў 1924 і 1927 гг. зняволены ў Лукішскую турму (Вільня), пазбаўлены палітычных правоў. У 1928 г. нелегальна перайшоў граніцу, жыў у Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1931 г.).

Друкаваўся з 1926 г. У віленскіх беларускіх выданнях «Беларуская ніва», «Народная справа», у перыёдыцы Савецкай Беларусі — часопісе «Полымя рэвалюцыі», газеце «Звязда» змяшчаў вершы, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. Выдаў зборнік вершаў «Лукішкі» (1929 г.). Шэраг вершаў змешчаны ў калектыўным зборніку «Сцягі і паходні» (1965 г.). Асноўная тэма творчасці — услаўленне рэвалюцыйнай барацьбы, веліч ідэалаў сацыялізма. Герой вершаў паэта — нязломны змагар за свабоду, сацыяльную справядлівасць, сацыялізм. У артыкулах з класавых пазіцый асвятляў развіццё літаратуры Заходняй Беларусі. Публікаваў запісы народных песень. Яго «Лукішскі дзённік» (фрагменты) апублікаваны ў часопісе «Полымя» (1961 г., № 4).

Памёр А. Ф. Салагуб 26.11.1941 г.

*Літ.:* Калеснік У. Час і песні.— Мн., 1962; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *Г. І. Дулеба, А. С. Ліс.*

**в. Карані, цэнтр сельсавета**

**1414. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці 23 жыхароў вёсак калгаса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Каты, Сінькоўскі сельсавет**

**1415. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кеўлы, Сінькоўскі сельсавет**

**1416. ЦАРКВА УСІХ ЗАСМУЧАНЫХ** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1862 г. з бутавага каменю і цэглы. Складаецца з прамавугольных у плане асноўнага аб'ёму і апсіды, накрытых двухсхільнымі дахамі. Галоўны фасад атынкаваны, дэкарыраваны шырокімі лапаткамі, люкарнамі, цягамі, карнізамі з сухарыкамі. З боку галоўнага фасада — званіца з макаўкай. На фоне муроўкі вылучаюцца атынкаваныя карнізы і ліштвы прамавугольных аконных праёмаў. Ва ўнутранай прасторы царквы над вузкім бабінцам хоры з драўлянай балюстрадай. Алтарная частка аддзелена ад асноўнай драўляным іканастасам.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі класіцызму.

*А. М. Кулагін.*



**1419.** *Гарадзішча.*

**в. Клідзеняты, Залескі сельсавет**

**1417. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 6 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Крэва, цэнтр сельсавета**

**1418. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САЛДАТ РУСКАЙ АРМІІ** (гіст.). У паўночнай частцы вёскі. Пахаваны воіны 10-й арміі Заходняга фронту, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну ў баях супраць войск кайзераўскай Германіі. У 1966 г. на могілках устаноўлены памятны знак.

**1419. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на поўнач ад заходняй ускраіны вёскі, каля дарогі на Смаргонь. Пляцоўка гарадзішча авальная, памерам 40×20 м, вышынёй да 20 м, з усіх бакоў умацавана земляным валам вышынёй да 5 м. Абследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,9 м. Знойдзена кераміка 16—17 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1420. МАГІЛА КАМІНСКАГА** Аляксандра Аляксандравіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Мінскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну А. А. Камінскі нарадзіўся 14.11.1919 г. у в. Вавукі Смаргонскага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. З 1940 г. працаваў у Ашмянскім раённым аддзеле міліцыі. У час нямецка-фашысцкай акупацыі па заданню партыйнага падполля ў лютым 1943 г. уладкаваўся ў Мінску на працу ў паліцыю. Здабываў для партызан звесткі пра ворага, зброю, боепрыпасы. Быў арыштаваны гітлераўцамі, уцёк. 3 мая 1943 г. партызан спецгрупы «Мсціўцы», хадзіў на разведку ў Мінск, дзе здабываў каштоўныя звесткі аб праціўніку. У снежні 1943 г. разам з Я. І. Кунцэвічам знішчыў бургамістра Мінска, фашысцкага паслугача Іваноўскага. Загінуў 3.6.1944 г. пры выкананні баявога задання. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеней. Імем А. А. Камінскага названа вуліца ў Смаргоні; яго імя прысвоена Крэўскай сярэдняй школе, на будынку якой устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Новікаў І. Дарогі скрыжаваліся ў Мінску.— Мн., 1964. *Г. І. Дулеба.*

**1421. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1422. РУІНЫ ЗАМКА** (архіт., гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Быў пабудаваны пасля 1338 г. на насыпным узгорку, абкружаным ровам з вадою.

Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік, абнесены мураванымі сценамі. Паўночная сцяна даўжынёй 85 м, усходняя — 108,5 м, паўднёвая — 71,55 м і заходняя — 97,2 м. Таўшчыня мураваных сцен 2,5—2,75 м, вышыня — 12—13 м. Сцены ўнізе складзены з каменю, уверсе з вонкавага боку абліцаваны цэглай. Меў 2 вуглавыя вежы, размешчаныя па дыяганалі. Паўночна-заходняя вялікая Княжацкая вежа амаль квадратная ў плане (18,65×17 м), выступае за перыметр замкавых сцен. Вежа, верагодна, мела не менш 4 паверхаў (кожны вышынёй 4,8—5 м) і склеп-турму ўнізе. Сцены вежы да вышыні 3 м складзены з каменю, вышэй — з вялікапамернай цэглы. Дах чатырохсхільны. Перакрыцці паверхаў былі бэлечныя. Прызначалася для жылля князя і чэлядзі. Паўднёва-ўсходняя вежа таксама чатырохпавярховая, памерам 11×10,65 м, прыбудавана да замкавых сцен унутры двара пазней. Ад вялікай Княжацкай вежы па дыяганалі да паўднёва-ўсходняй вежы ішла выбрукаваная дарога шырынёй каля 8 м. Уязная брама знаходзілася ў паўночнай сцяне. Гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся на падворку. Асноўнае абарончае значэнне мелі сцены замка. На вышыні 10 м уздоўж сцен па ўсім перыметры іх была галерэя на драўляных бэльках. Адлегласць паміж байніцамі 2,4 м. У цэнтры паўднёвай сцяны і ўнізе заходняй



**1422.** *Крэўскі замак. План.*

былі праёмы запасных выхадаў. Вокны вежаў і байніцы сцен стральчатыя.

Замак — помнік сярэдневяковага абарончa-крапаснога дойлідства.

Замак быў сведкам многіх гістарычных падзей. Тут у 1385 г. заключана пагадненне аб саюзе Вялікага княства Літоўскага з Польшчай (Крэўская унія). Паводле яе на чале абедзвюх дзяржаў станавіўся вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Ягайла. Палітычнае аб'яднанне 2 дзяржаў было абумоўлена неабходнасцю сумеснай барацьбы Польшчы і Вялікага княства Літоўскага супраць нямецкай агрэсіі і імкненнем літоўскіх феадалаў замацаваць пры дапамозе Польшчы сваё панаванне на беларускай, украінскай і часткі рускай зямель. Адыграла важную ролю ў разгроме войск Тэўтонскага ордэна ў Грунвальдскай бітве 1410 г. Адмоўны бок уніі ў тым, што яна садзейнічала пашырэнню на беларускіх, украінскіх і рускіх землях Вялікага княства Літоўскага каталіцызму. У 1443 г. Крэўскі замак быў узяты войскамі князя Свідрыгайлы, які ваяваў з князем Жыгімонтам за велікакняжацкі трон. У 1503—06 гг. замак трымалі ў аблозе і значна разбурылі войскі крымскіх татар. Моцна пашкоджаны ў 1-ю сусветную вайну. У 1929 г. праведзена кансервацыя руін.

*Літ.:* Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978.
*М. А. Ткачоў.*

**1423. ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1854 г. з бутавага каменю, рэстаўрыравана ў 1928 г. Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, і трох'яруснай шатровай званіцы (васьмярык на чацверыку). Архітэктурная выразнасць будынка дасягаецца кантрастным спалучэннем бутавай муроўкі і атынкаваных пабеленых элементаў дэкору: руставаных вуглавых лапатак, ліштваў арачных аконных праёмаў, карніза і фрыза. Інтэр'ер перакрыты цыліндрычным драўляным скляпеннем.

Царква — помнік народнага дойлідства.

**1424. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). У 19 — 1-й палове 20 ст. Крэва — адзін з буйнейшых цэнтраў керамічнай вытворчасці на захадзе Беларусі. Тут выраблялі ляпны бытавы посуд (збанкі, гаршкі, міскі, слоікі, кветачніцы і інш.) з апрацоўкай на ручным ганчарным крузе і наступным гартаваннем ці дымленнем. У 20 ст. выраблялі посуд на нажным ганчарным крузе, глазуравалі, аздаблялі размалёўкай расліннага характару. Вырабы вызначаліся дакладнымі выпрацаванымі формамі, выразным S-падобным профілем сценак. Калекцыя такога посуду зберагаецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Цяпер бытавую глазураваную кераміку (збанкі, кветачніцы, цёрлы) вырабляе ганчарны цэх райпрамкамбіната (калекцыя ў Дзяржаўным музеі Беларускай ССР).
*Я. М. Сахута.*

**в. Кушляны, цэнтр сельсавета**

**1425. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 3 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлена стэла.

**1426. СВІРАН** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва. Будынак двухпавярховы, аднаэрубны, складзены з брусоў у «лапу» на бутавым фундаменце. Накрыты двухсхільным гонтавым дахам. На галоўным фасадзе галерэя на 6 слупах.



**1422.** *Руіны замка. З малюнка Н. Орды. 2-я палова 19 ст.*



**1422.** *Руіны замка. Здымак 1982 г.*



**1423.** *Царква Аляксандра Неўскага.*

Тыльны фасад прарэзаны на ўзроўні 2-га паверха квадратным аконным праёмам. Бакавыя сцены будынка глухія.

Свіран — прыклад гаспадарчай пабудовы ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства.

**1427. СЯДЗІБА БАГУШЭВІЧА** Францішка (архіт., гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Сфарміравана ў 2-й палове 19 ст. Комплекс уключае сядзібны дом, капліцу, гаспадарчыя пабудовы і парк. Цяпер у сядзібным доме сельская бібліятэка імя Ф. Багушэвіча.

Сядзібны дом — прамавугольная ў плане аднапавярховая зрубная пабудова пад высокім двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны слупавой галерэяй з навіссю. Рытм аконных праёмаў і слупоў галерэі надае будынку архітэктурную выразнасць.

Парк з пладовым садам размешчаны вакол сядзібнага дома, падзелены прамавугольнай сеткай алей. Сярод насаджэнняў пераважаюць ліпа, клён, елка, трапляюцца асобныя экземпляры лістоўніцы.

З малых архітэктурных форм захавалася драўляная цэнтрычная капліца. Гаспадарчыя пабудовы таксама драўляныя, згрупаваны на паўднёвы захад ад дома.

З в. Кушляны цесна звязана жыццё і творчасць беларускага паэта і публіцыста Ф. Багушэвіча. У 1900 г. на тэрыторыі сядзібы ўстаноўлены камень з мемарыяльным надпісам. Гл. таксама артыкул № 183 «Магіла Багушэвіча Францішка Бенядзікта Казіміравіча».

*Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**в. Лешчаняты, Вішнеўскі сельсавет**

**1428. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лылойці, Сыраваткінскі сельсавет**

**1429. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малінавая, Вішнеўскі сельсавет**

**1430. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 22 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Медрыкі, Сольскі сельсавет**

**1431. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Кернава. Насып дыяметрам 1 м, вышынёй 1 м. Абследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў.

**в. Міхневічы, Залескі сельсавет**

**1432. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1866 г. з бутавага каменю.

Храм падоўжна-восевай кампазіцыі з трох'яруснай шатровай званіцай (васьмярык на чацверыку), бабінцам, квадратным у плане асноўным аб'ёмам і паўцыркульнай апсідай. Над пакатым чатырохсхільным дахам асноўнага аб'ёму цыбулепадобная галоўка на васьміграннымі барабане. На фоне маляўнічай бутавай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя элементы архітэктурнага дэкору: вуглавыя лапаткі, ліштвы арачных аконных праёмаў, какошнікі, карнізы. Зальнае памяшканне перакрыта корабавым драўляным скляпеннем. Над уваходам — хоры. Мастацка-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера з'яўляецца драўляны іканастас.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Міцкавічы, Войстамскі сельсавет**

**1433. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1973 г.

**в. Монтацішкі, Крэўскі сельсавет**

**1434. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1434а.** Гарадзішча. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Ліпняк, на правым беразе ручая Пральная. Пляцоўка авальная, памерам 40×60 м, абкружана валам вышынёй 2 м. Абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпной штрыхаванай керамікі. Датуецца 1—4 стагоддзямі н. э. Раскопкі не праводзіліся.

**1434б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, паміж урочышчамі Ройстра і дарогай Крэва — Міркліпікі. 20 насыпаў дыяметрам 6—12 м, вышынёй 0,5—3 м. Абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1974 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.




**1427.** *Сядзіба Ф. Багушэвіча. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — гаспадарчыя пабудовы; 3 — капліца.*



**1427.** *Сядзібны дом.*



**1427.** *Сядзібны дом. План.*



**1426.** *Свіран.*




**1427.** *Сядзіба Ф. Багушэвіча. Камень з мемарыяльным надпісам.*

Матэрыялы абследавання гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962.
*А. Г. Калечыц.*

**1435. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптурная выява жанчыны ў жалобе.

**в. Нястанішкі, Сыраваткінскі сельсавет**

**1436. КАСЦЁЛ** (архіт.). За 2 км на захад ад вёскі. Пабудаваны ў 1905 г. з цэглы. Трохнефавая двухвежавая базіліка з трансептам і пяціграннай алтарнай часткай. З боку галоўнага фасада чатырохгранныя вежы-званіцы з высокімі шпілямі. Фасады члянёны высокімі ступеньчатымі контрфорсамі і арачнымі аконнымі праёмамі. Унутраная прастора падзелена 8 слупамі на 3 нефы і шырокі трансепт, перакрытыя цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі. У больш шырокі сярэдні неф адкрываюцца арганныя хоры з бакавой лесвіцай.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**в. Няфёды, Вішнеўскі сельсавет**

**1437. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Войстам. Пляцоўка прадаўгавата-авальнай формы, памерам 70×25 м, краі паніжаныя, схілы стромкія, паўднёвая частка моцна пашкоджана. Гарадзішча адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Г. Звяруга. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э., адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Я. Г. Звяруга.*



**1432.** *Пакроўская царква.*



**1434а.** *Гарадзішча. План.*

**в. Ракаўцы, Крэўскі сельсавет**

**1438. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Расла, Жодзішкаўскі сельсавет**

**1439. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 8 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сасноўка, Жодзішкаўскі сельсавет**

**1440. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і стэла.

**в. Сівіца, Сінькоўскі сельсавет**

**1441. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Скірдзімы, Крэўскі сельсавет**

**1442. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, паміж палявой дарогай з вёскі і шашой на Вільнюс. 39 курганоў дыяметрам каля 15 м, вышынёй 0,3—1,3 м. У цэнтры амаль усіх курганоў глыбокія ўпадзіны (верагодна, сляды раскопак). Выяўлена каменная абкладка курганоў. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1982 г. Э. М. Зайкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Снігяны, Сольскі сельсавет**

**1443. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Солы, цэнтр сельсавета**

**1444. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На тэрыторыі бальніцы. Пахаваны 28 ваеннапалонных, якіх расстралялі ў 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1445. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — здвоеныя пілоны, на адным з якіх барэльефныя выявы воіна і жанчыны.

**1446. КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Будынак мае асіметрычную шматпланавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Асновай яе з'яўляецца аб'ём нефа, накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Да нефа далучаны трансепт і паўцыркульная апсіда з канічным пакрыццём. Невысокія прыбудовы сакрысціяў з крывалінейнымі парапетамі. Своеасаблівасць збудаванню надаюць галерэі-аркады. Уваходны тамбур паўкруглы ў плане. Вертыкальная дамінанта будынка — бакавая двух'ярусная вежа-званіца з фігурным завяршэннем. Двух'ярусная васьмігранная вежачка надбудавана над сяродкрыжжам храма. Фасады дэкарыраваны фігурнымі шчытамі з



**1436.** *Касцёл. Галоўны фасад.*

валютамі, ступеньчатымі контрфорсамі бутавай муроўкі.

У кампазіцыі інтэр'ера пануе прастора нефа, у якую раскрываюцца шырокі трансепт і больш вузкая алтарная частка. Сяродкрыжжа перакрыта купалам, неф — цыліндрычным скляпеннем. Над уваходам — хоры на 2 калонах. У дэкаратыўным аздабленні інтэр'ера выкарыстана фрэскавая размалёўка.

Касцёл — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**1447. МЕСЦА ПАДПІСАННЯ ДАГАВОРА АБ ПЕРАМІР'І НА ЗАХОДНІМ ФРОНЦЕ** (гіст.). 26.10(8.11).1917 г. II Усерасійскі з'езд Саветаў прыняў напісаны У. І. Леніным Дэкрэт аб міры, які змяшчаў адозву Савецкага ўрада да народаў і ўрадаў усіх дзяржаў — удзельніц вайны пачаць перагаворы аб спыненні вайны і заключэнні справядлівага дэмакратычнага міру без анексій і кантрыбуцый. 9(22).11.1917 г. Савецкі ўрад звярнуўся па радыё да салдат і матросаў з заклікам узяць справу міру ў свае рукі. Кіруючыся ленінскім дэкрэтам аб міры і заклікам Савецкага ўрада, ВРК Заходняга фронту прапанаваў ВРК армій і карпусоў пачаць перагаворы з нямецкімі войскамі аб перамір'і. Большасць вайсковых злучэнняў фронту да сярэдзіны лістапада заключыла на сваіх участках такія дагаворы. 19.11(2.12).1917 г. ВРК Заходняга фронту накіраваў у штаб нямецкага Усходняга фронту дэлегацыю для перагавораў. У яе склад уваходзілі 16 чалавек, у т. л. С. І. Берсан, Лук'янаў, М. Р. Пятроў, В. В. Фамін, М. С. Ціхменеў, В. І. Яркін і інш. Узначальваў дэлегацыю член ВРК Заходняга фронту С. Я. Шчукін. 21.11(4.12).1917 г. члены дэлегацыі і прадстаўнікі 2-, 3-, 10-й армій Заходняга фронту і ўпаўнаважаныя галоўнага камандавання нямецкіх армій Усходняга фронту падпісалі ў мястэчку Солы дагавор аб перамір'і тэрмінам на 2 месяцы. Дагавор набываў сілу з 12 гадзін 23.11(6.12).1917 г. на ўсім Заходнім фронце ад мястэчка Відзы да р. Прыпяць (уключна). Паводле дагавора ваенныя дзеянні на Заходнім фронце былі часова спынены. Дагавор аб перамір'і страціў сілу 2(15).12.1917 г. у сувязі з падпісаннем у Брэст-Літоўску пагаднення аб



**1437.** *Гарадзішча.*



**1445.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

часовым спыненні ваенных дзеянняў паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі германскага блока.

У 1967 г. у памяць аб падпісанні ў Солах дагавора аб перамір'і на будынку выканкома сельсавета (вул. Сацыялістычная, 9) устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 2.— Мн., 1957, с. 254—256; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте.— Мн., 1957, с. 357—370. *Г. І. Дулеба.*

**в. Стрыпуны, Кушлянскі сельсавет**

**1448. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Суцькава, Сінькоўскі сельсавет**

**1449. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Абрамаўка, на гары вышынёй да 20 м. Пашкоджана траншэямі ў 1-ю сусветную вайну. Выявіў у 1893 г. Ф. В. Пакроўскі, даследаваў у 1974 г. Г. В. Штыхаў. Знойдзены абломкі ляпнога штрыхаванага посуду. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, датуецца канцом 1 ст. да н. э.— пачаткам 1 ст. н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1450. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 35 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Сыраваткі, цэнтр сельсавета**

**1451. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сялец, Сінькоўскі сельсавет**

**1452. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. На ўшанаванне памяці 22 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хведзевічы, Сыраваткінскі сельсавет**

**1453. СЕЛІШЧА, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1453а.** Селішча. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на заходнім беразе воз. Свір. Выявіў у 1978 г. М. М. Чарняўскі, даследаваў у 1979 і 1982 гг. Я. Г. Звяруга. Культурны пласт 0,3—0,8 м. Знойдзена шмат крамянёвых прылад працы, загатоўкі сякер, гліняныя прасліцы, грузілы да сетак, жалезныя нажы, шылы, іголкі, фібулы, серп, кіяпадобная шпілька з S-падобным завіткам, кераміка ляпная гладкасценная і штрыхаваная, ганчарнай вельмі мала. Датуецца 2-й паловай 1 — пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1453б.** Бескурганны могільнік. На тэрыторыі селішча. Я. Г. Звяруга ў 1979 і 1982 гг. даследаваў 50 магіл. Нябожчыкі ляжалі на спіне, галавой на захад і паўднёвы захад. У некалькіх магілах захаваліся рэшткі дашчатых дамавін з каванымі цвікамі. На дне амаль усіх ям меліся падсыпкі з белага азёрнага пяску з дамешкай вапны ці белай гліны. Пахавальны інвентар: шкляныя пацеркі, медныя гузікі, запанкі са шклянымі ўстаўкамі, медныя пярсцёнкі, манеты. У адным выпадку ля галавы стаяў гліняны гаршчок. Могільнік датуецца 15—18 ст. Матэрыялы раско-



**1446.** *Касцёл Маці боскай.*

пак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі і Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.
*Я. Г. Звяруга.*

**в. Цары, Сінькоўскі сельсавет**

**1454. МАГІЛА ШЧАСНАГА** Уладзіміра Давыдавіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі У. Д. Шчасны нарадзіўся 20.9.1908 г. у в. Цары ў сялянскай сям'і. Член КСМЗБ. У 1924—29 гг. вучыўся ў Віленскай гімназіі. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1929 г. быў выключаны з гімназіі, вярнуўся ў вёску Цары, стварыў там нелегальную камсамольскую арганізацыю, якая вяла сярод насельніцтва агітацыйную работу, распаўсюджвала нелегальную літаратуру. У 1931 г. У. Д. Шчасны арыштаваны і засуджаны на 6 гадоў турэмнага зняволення. Пасля выхаду з турмы (1936 г.) зноў на радзіме ўключыўся ў рэвалюцыйную работу. 21.5.1936 г. забіты правакатарам. На доме, у якім нарадзіўся У. Д. Шчасны, у 1964 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*Г. І. Дулеба.*

**в. Шутавічы, Залескі сельсавет**

**1455. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 43 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1456. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Ягаднава, Войстамскі сельсавет**

**1457. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ М. В. ФРУНЗЕ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі ў лесе ў 1943—44 гг. базіраваўся партызанскі атрад імя М. В. Фрунзе брыгады імя С. М. Будзённага партызанскага злучэння Вілейскай вобл.

Атрад імя М. В. Фрунзе створаны 8.12.1943 г. з часткі асабовага складу атрада імя С. М. Будзённага. Камандзір М. М. Міхайлюк, камісар М. С. Чаракаеў. Дзейнічаў супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Смаргонскага і суседніх з ім раёнаў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Маладзечна — Вільнюс, Ліда — Маладзечна, на шашэйных і грунтавых дарогах. У снежні 1943 г. падарвалі шашэйны мост цераз раку Вілія, у чэрвені 1944 г. пусцілі пад адхон варожы эшалон на чыгуначным участку Солы — Смаргонь. 2.7.1944 г. атрад (57 партызан) у складзе брыгады злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1967 г. на месцы былога лагера партызанскага атрада імя М. В. Фрунзе ўстаноўлены мемарыяльны знак, адноўлена зямлянка.

*Літ.:* В принеманских лесах: Воспоминания партизан и подпольщиков.— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.
*Г. І. Дулеба.*

**1458. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. На ўшанаванне памяці 40 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

# ШЧУЧЫНСКІ РАЁН




Матылі
Першамайская
Берпіты
Хадзілоні
Таневічы
Новы Двор
Нарашы
Бакшты
Васілішкі
Кронькі
Дзегцяры
Астрына
Лычкаўцы
Гурнофель
Шайбакі
Галавічполле
Вял. Мажэйкава
Шчанец
Скрыбаўцы
Багушы
Ляшчанка
Дэмбрава
Лядск
Плянты
Дамуцеўцы
ШЧУЧЫН
Жалудок
Каменка
Барташы
Ражанка
Патока
Ракавічы
Орля
Сарокі

 Цэнтр раёна

 Цэнтры сельсаветаў

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Цэнтры раместваў

 Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905 – 07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

 Палацы, сядзібы, асабнякі

 Культавая архітэктура

## XXII. ШЧУЧЫН

Горад, цэнтр раёна. За 68 км на ўсход ад Гродна, 7 км ад чыгуначнай станцыі Ражанка на лініі Ваўкавыск — Ліда, каля аўтамабільнай дарогі Гродна — Ліда.

З 16 ст. Шчучын — мястэчка ў складзе Лідскага павета Віленскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага, належаў Радзівілам, Сцыпіёнам (заснавалі тут калегію піяраў, семінарыю і вышэйшую школу), Друцкім-Любецкім. З 1795 г. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Лідскага павета Гродзенскай, з 1842 г. Віленскай губерняў. У 1833 г. тут было 327 жыхароў, 40 дамоў, у сярэдзіне 19 ст.— каля 100 двароў, 580 жыхароў, прыходскае двухкласнае вучылішча, у 1897 г.— 1742, у пачатку 20 ст. больш за 3,8 тыс. жыхароў. У 1915 г. Шчучын акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919 г.— буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З канца 1939 г. у БССР, з 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. З чэрвеня 1941 г. да 13.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (лістапад 1943 г.— 15.7.1944 г.) і ЛКСМБ (10.11.1943 г.— 15.7.1944 г.), партызанскія фарміраванні злучэння Шчучынскай зоны Баранавіцкай вобл. З 31.8. 1962 г. горад.

Галоўнай вуліцай і асноўнай транспартнай магістраллю Шчучына з'яўляецца вул. 17 Верасня, якая злучае чыгуначную станцыю Ражанка з аўтамабільнай дарогай Гродна — Ліда. Адміністрацыйна-грамадскі і гандлёвы цэнтр знаходзіцца на пл. Свабоды. У ансамблі плошчы некалькі цагляных будынкаў канца 19 — пачатку 20 ст. і сучасныя: будынкі райкома КПБ і райвыканкома, універмага, пошты і інш. Генеральны план, распрацаваны ў 1971 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, захоўвае квартальную забудову горада. Прамысловая зона фарміруецца на паўднёвай ускраіне.



**XXII.** *Плошча Свабоды. Фрагмент забудовы канца 19 — пачатку 20 стагоддзя.*

Працуюць завод «Аўтапровад», масласырзавод, хлебазавод, лясгас, камбінат бытавога абслугоўвання. У горадзе сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, 2 сярэднія агульнаадукацыйныя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр, Дом культуры, 3 бібліятэкі, бальніца, Гродзенская абласная сельскагаспадарчая доследная станцыя. Выдаецца раённая газета «Савецкая вёска».

Помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, на магіле ахвяр фашызму, землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваліся помнікі архітэктуры — касцёл Тэрэзы (1829 г.), Міхайлаўская царква (канец 19 ст.).

Зона адпачынку — гарадскі сквер і прылеглыя да горада лясныя масівы. *С. Г. Багласаў, Э. М. Савіцкі.*

**1459. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Пл. Свабоды. Пахаваны 229 воінаў 139-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна і горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 6 партызан. У 1950 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1460. КАСЦЁЛ ТЭРЭЗЫ** (архіт.). Вул. Савецкая, 1, у цэнтральнай частцы горада. Пабудаваны ў 1829 г. з цэглы пры кляштары піяраў.

Мае выцягнутую па падоўжнай восі крыжова-купальную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Дамінуючае становішча ў ёй займае высокі купал над сяродкрыжжам. У дэкоры фасадаў выкарыстаны асноўныя элементы дарычнага ордэра. На галоўным фасадзе паўкалоны і антабламент ствараюць матыў дарычнага порціка. Вось сіметрыі галоўнага фасада падкрэслена ўваходным праёмам з сандрыкамі, акном у фігурнай ліштве і круглым праёмам на франтоне. Бакавыя фасады чляпёны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і аформлены рустам.

Інтэр'ер касцёла двухсветлавы. Алтары ўстаноўлены ва ўсходняй частцы асноўнага аб'ёму. Бабінец з тамбурам і хоры над імі аддзелены ад асноўнага памяшкання 2 калонамі. Сцены ў інтэр'еры расчлянёны паўкалонамі і аздоблены па ўсім перыметры шырокім карнізам.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму. *С. Г. Багласаў.*

**1461. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада. Пахаваны 2060 мірных жыхароў, якіх 9.5.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1462. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, 7, на будын-



**XXII.** *Плошча Свабоды. Фрагмент забудовы.*



**1459.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1464. *Помнік землякам.*

ку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 4 супрацоўнікаў міліцыі, якія загінулі ў 1946—48 гг. пры выкананні службовых абавязкаў.

**1463. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. 17 Верасня, у цэнтры горада. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы і бутавага каменю. Складаецца з асноўнага кубічнага і дадатковага аб'ёмаў, пяціграннай апсіды і бабінца. Асноўны аб'ём і званіца над бабінцам накрыты шатровымі дахамі з галоўкамі. У дэкоры фасадаў выкарыстаны атынкаваныя какошнікі, руставаныя вуглавыя лапаткі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1464. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Савецкай. На ўшанаванне памяці 1473 воінаў — жыхароў Шчучынскага р-на, 420 партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 6593 мірных жыхароў, расстраляных і закатаваных гітлераўцамі, а таксама партыйных і савецкіх работнікаў, што загінулі ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1465. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Свабоды. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1980 г.

**в. Андрушоўцы, Лядскі сельсавет**

**1466. СЯДЗІБА** (архіт.). У паўночна-ўсходняй частцы вёскі. Сфарміравана на мяжы 19—20 стагоддзяў.

Сядзібны комплекс займае прамавугольны ў плане ўчастак. Складаецца з жылога дома, 2 флігеляў, якія ўтвараюць парадны двор, гаспадарчых пабудоў, парку і саду. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца жылы дом, пастаўлены па падоўжнай восі ўчастка. На паўднёвы ўсход ад дома і часткова перад яго галоўным фасадам размешчаны парк. Гаспадарчы двор з 2 драўлянымі пабудовамі пачатку 20 ст. у заходняй частцы.

Сядзібны дом — аднапавярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак, накрыты двухсхільным дахам.



1465. *Помнік У. І. Леніну.*

Падоўжныя фасады з аднаго боку раскрапаваны рызалітамі. Сцены атынкаваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Парадны ўваход акцэнтаваны на галоўным фасадзе чатырохкалонным порцікам. Да тарцовага фасада прымыкае прыбудова з



1460. *Касцёл Тэрэзы.*



1460. *Касцёл Тэрэзы. План.*



**1468.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і партыйна-савецкіх актывістаў.*

асобным уваходам. Планіроўка дома зменена. Цяпер у сядзібным доме дзіцячая ўстанова.

Большая частка парку мае рэгулярную планіровачную структуру, паміж алеямі размешчаны садовыя ўчасткі. Цэнтрам кампазіцыі пейзажнай часткі была альтанка на штучным узгорку (не захавалася), каля яе — дэкаратыўная сажалка. Сярод насаджэнняў пераважаюць мясцовыя пароды дрэў: дуб, клён, ясень, бяроза, ліпа, вольха.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. *С. Г. Багласаў.*

**г. п. Астрына,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**1467. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны камсамольцы-падпольшчыкі У. Вашкевіч, П. Жукоўскі, М. Карсуноў, У. Сахута, М. Слатвінскі, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1468. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАРТЫЙНА-САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). Вул. Станкевіча. Пахаваны 21 воін 5-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі імя Р. І. Катоўскага 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 17 партызан, што загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — камандзір атрада імя Ленінскага камсамола Д. Ц. Панкоў, камандзір партызанскай брыгады імя Ленінскага камсамола А. В. Станкевіч. Імем А. В. Станкевіча названа вуліца ў г. п. Астрына.

Тут таксама пахаваны 11 партыйна-савецкіх актывістаў, якіх загубілі ў 1945—48 гг. ворагі Савецкай улады.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*М. М. Казлоўская.*

**1469. МАГІЛА МІХАЛЕВА** Міхаіла Васілевіча (гіст.). На паўночнай ускраіне пасёлка, на могілках.

М. В. Міхалёў нарадзіўся 21.8.1921 г. у в. Слугавішчава Мажайскага р-на Маскоўскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1939 г. скончыў сярэднюю школу і паступіў у Маскоўскі станкабудаўнічы інстытут. У Чырвонай Арміі з 1939 г., камандзір стралковага ўзвода. З верасня 1943 г. партызан, камісар атрада імя Р. І. Катоўскага брыгады імя Ленінскага камсамола. Пасля вайны працаваў сакратаром, з жніўня 1945 г. намеснікам старшыні Васілішкаўскага райвыканкома. 4.2.1948 г. забіты ворагамі Савецкай улады.



**1470.** *Помнік У. І. Леніну.*





**1466.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — флігелі; 3 — гаспадарчыя пабудовы; 4 — сад; 5 — парк.*



**1466.** *Алея парку.*



**1466.** *Сядзібны дом. План.*



**1466.** *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



1471. *Помнік Цётцы (Алаізе Пашкевіч).*

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск. *М. М. Казлоўская.*

**1470. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.

**1471. ПОМНІК ЦЁТЦЫ** (Алаізе Пашкевіч) (маст.). Каля будынка сярэдняй школы. Пастаўлены ў 1954 г. (скульпт. А. Заспіцкі; бронза, граніт; вышыня пастамента 4 м, вышыня фігуры 2 м). На гранітным пастаменце прамавугольнай формы скульптурная выява маладой жанчыны ў гарадской сукенцы з накінутым на плечы шалем. Фігура пададзена ў лёгкім руху, левая рука прыціскае да грудзей кнігу. Гордая пастава, цвёрды позірк перадаюць унутраную сілу і эмацыянальную ўсхваляванасць пісьменніцы. Вакол помніка — дэкаратыўныя кусты і газоны. Гл. таксама артыкул № 1564 «Магіла Цёткі». *Л. Г. Лапцэвіч.*



1472. *Царква. Галоўны фасад.*

**1472. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Гродзенская, 5. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы і бутавага каменю. Мае крыжовую кампазіцыю. Алтарная частка паўкруглая, астатнія аб'ёмы прамавугольныя, накрыты двухсхільнымі дахамі. Сяродкрыжжа ўвянчана васьміграным купалам з галоўкай. Квадратны ў плане бабінец размешчаны па падоўжнай восі, завершаны двух'яруснай шатровай званіцай. Элементы дэкору (пілястры, абрамленні акон) атынкаваны.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі класіцызму і псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Ашмянцы,**
***Жалудоцкі пасялковы Савет***

**1473. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 24 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ашуркі,**
***Астрынскі пасялковы Савет***

**1474. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Котра, на поплаве. Пляцоўка памерам 84×58 м зарасла хвойнікам, мае схіл з усходу на захад. Усходні край узвышаецца на 5—6 м над балоцістым поплавам, заходні і паўночны краі — на 4,5, паўднёвы — на 1,5 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,4 м прасочваецца на паўднёвым участку гарадзішча. Раскопкі не праводзіліся. *М. А. Ткачоў.*

**в. Багушы, Дэмбраўскі сельсавет**

**1475. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 26 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Барташы, Шчучынскі сельсавет**

**1476. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 землякоў з вёсак Барташы, Дубраўляны, Зарэчча, Поплава, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Берагоўцы, Орлеўскі сельсавет**

**1477. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж вёскамі Берагоўцы і Сарокі, у хваёвым лесе. 22 насыпы вышынёй 0,8—1,9 м, дыяметрам 5—12 м. Даследавалі ў 1960 г. К. Т. Кавальская, у 1975 г. М. А. Ткачоў. У адным насыпе выяўлена пахаванне з абрадам трупаспалення. Знойдзены ляпная кераміка і жалезныя прадметы (нажы, В-падобныя спражкі і інш.). Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, датуецца 6—8 стагоддзямі.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. *М. А. Ткачоў.*

**в. Бераставіца,**
**Берштаўскі сельсавет**

**1478. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН АТРАДА «БАЯВЫ» ІМЯ ДУНАЕВА** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі.

Партызанскі атрад «Баявы» створаны ў кастрычніку 1942 г. з асабовага складу 2-й роты атрада імя А. В. Суворава партызанскай брыгады імя К. Я. Варашылава Мінскай вобл. і арганізатарскай групы В. Л. Герасімовіча [прыбыла з савецкага тылу ў Дзяржынскі р-н па заданню ЦК КП(б)Б 17.8.1942 г.]. Да атрада далучыліся партызанская група П. А. Жылко і патрыёты з Гатаўскага сельсавета Мінскага р-на. З снежня 1942 г. дзейнічаў у складзе 300-й брыгады імя К. Я. Варашылава.

25.8.1943 г. паводле загаду Беларускага штаба партызанскага руху атрад перададзены партызанскаму злучэнню Беластоцкай вобласці. У скла-




1474. *Гарадзішча. План.*

дзе злучэння ў верасні — лістападзе зрабіў рэйд з Капыльскага р-на Мінскай вобл. у Ліпічанскую пушчу Баранавіцкай вобл. Атрад дзейнічаў у Дзяржынскім, Уздзенскім, Капыльскім р-нах Мінскай, Ганцавіцкім р-не Пінскай, Васілішкаўскім, Дзятлаўскім р-нах Баранавіцкай і Скідальскім р-не Беластоцкай абласцей.

7.11.1943 г. паводле пастановы Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б атраду нададзена імя Дунаева (псеўданім І. М. Тараховіча — камандзіра атрада імя В. І. Чапаева 27-й партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева; загінуў 7.11.1942 г. у баі каля в. Старыца Капыльскага р-на). Камандзіры атрада — Б. В. Жаўрыд (кастрычнік — снежань 1942 г.; загінуў), Я. П. Грыцаневіч (снежань 1942 г.— ліпень 1944 г.); камісар — П. А. Жылко. Партызаны атрада знішчылі 113 мастоў, у т. л. 7 на чыгунцы, 30 складоў, 82 дробныя прадпрыемствы, 2 заводы, 24 аўтамашыны, удзельнічалі ў нападзе на гарнізон у г. п. Узда, у аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгуначных участках Коласава — Негарэлае, Баранавічы — Ваўкавыск. 11.7.1944 г. атрад (203 партызаны) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1964 г. у памяць аб баявых дзеяннях партызан атрада «Баявы» імя Дунаева на месцы яго злучэння з часцямі Чырвонай Арміі ўстаноўлены абеліск.

*Літ.:* Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1959; В принеманских лесах.— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*

**в. Бершты, цэнтр сельсавета**

**1479. МАГІЛА АЛЯКСАНДРАВА** Валянціна Валянцінавіча (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Партызан брыгады імя Ленінскага камсамола В. В. Аляксандраў загінуў 15.12.1943 г.




1477. *Курганны могільнік. План.*

у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1480. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВАЛАСНОГА ВАЕННА-РЭВАЛЮЦЫЙНАГА КАМІТЭТА** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка бальніцы. Устаноўлена ў 1959 г. у памяць аб дзейнасці валаснога ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які ў ліпені — верасні 1920 г. размяшчаўся ў будынку сучаснай бальніцы.

**1481. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 148 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — стэла з зоркай на вяршыні і барэльефнай выявай галавы воіна, 3 дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1482. СТАЯНКА** (археал.). У цэнтры вёскі, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Бярштанскае. Выявіў і абследаваў у 1967 г. М. М. Чарняўскі. У культурным пласце да 0,5 м знойдзены крамянёвыя прылады працы і абломкі гаршкоў з расліннымі дамешкамі ў гліне. Адносіцца да ранняга перыяду нёманскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1483. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і алтарная частка накрыты асобнымі вальмавымі дахамі. Над франтонам галоўнага фасада чацверыковая вежачка пад пакатым шатром. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**в. Валянчыцы, Ракавіцкі сельсавет**

**1484. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Васілішкі, цэнтр сельсавета**

**1485. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік.

**1486. КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт., маст.). На цэнтральнай вуліцы. Пабудаваны ў 1769 г. з цэглы пры кляштары дамініканцаў (іншыя пабудовы кляштара не захаваліся). У 1832 г. пераабсталяваны пад царкву, з 1919 г.— касцёл.

Храм трохнефавы з двухвежавым галоўным фасадам і паўцыркульнай апсідай з сакрысціямі. У кампазіцыі дамінуе галоўны фасад. Цэнтральная плоскасць яго расчлянёна лучковымі



1479. *Помнік на магіле В. В. Аляксандрава.*

праёмамі, лапаткамі і карнізамі, увянчана паўцыркульным франтонам. Першы ярус вежаў увагнуты, з скругленымі вугламі і бакавымі пілястрамі; у другім ярусе ўвагнутыя часткі сцен плаўна пераходзяць у вуглавыя лапаткі з валютамі. Вежы завершаны маленькімі васьміграннымі аб'ёмамі з шлемападобным пакрыццём. Другі ярус галоўнага фасада і верхнія ярусы вежаў часткова перабудаваны ў




1480. *Мемарыяльная дошка ў гонар валаснога ваенна-рэвалюцыйнага камітэта.*



1481. *Помнік землякам.*

19 ст. Бакавыя фасады і апсіда прарэзаны лучковымі праёмамі, расчлянёны плоскімі лапаткамі і апяразаны карнізам.

Інтэр'ер касцёла зальны, апсіда аднолькавай шырыні з цэнтральным нефам, раскрываецца ў асноўнае памяшканне арачным праёмам. Над бабінцам паміж аб'ёмамі вежаў размешчаны хоры. Асноўнае памяшканне перакрыта плоскай драўлянай столлю, апсіда — конхай. У інтэр'еры 7 алтароў (галоўны трох'ярусны). Алтары мураваныя, апрацаваныя пад ружовы і блакітны мармур, упрыгожаны пазалочанай лепкай у выглядзе валют, ракайляў і дэкаратыўных ваз у стылі ракако.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.

*Літ.:* Encyklopedya kościelna. T. 4.— Warszawa, 1874, s. 300.

*С. Г. Багласаў, Л. Г. Лапцэвіч.*

**1487. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. 10—11.5.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўчынілі тут крывавую расправу над мірнымі жыхарамі. На працягу 2 дзён яны расстралялі больш за 2 тыс. чалавек. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1488. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 13 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай жанчыны ў жалобе.

**в. Ваўчкі, Орлеўскі сельсавет**

**1489. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**1490. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Дайнароўка, прытока Нёмана. Плошча каля 0,75 га. Адкрыў і даследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпной штрыхаванай керамікі. Датуецца пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э. Адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі. Матэрыялы даследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Вензаўшчына, Першамайскі сельсавет**

**1491. МОГІЛЬНІК З КАМЕННЫМІ МАГІЛАМІ** (археал.). Мясцовая назва Б а р о к. За 0,1 км на захад ад вёскі, на беразе р. Вензаўка, на пагорку. Курганы вышынёй 0,5—0,8 м, абкладзены камянямі ў 3—4 рады. Выявіў і даследаваў у канцы 19 ст. Э. А. Вольтэр, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Выяўлены 45 мужчынскіх і жаночых пахаванняў з абрадам трупапалажэння галавой на захад. Знойдзены баявыя сякеры, наканечнікі коп'яў, крэсівы, нажы, шпоры, тачыльныя брускі, разнастайныя пацер-



1486. *Касцёл Іаана Хрысціцеля.*



1486. *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Бакавы фасад.*



1486. *Касцёл Іаана Хрысціцеля. План.*




1488. *Помнік землякам.*

кі, бранзалеты, скроневыя кольцы, бронзавыя і сярэбраныя пласціны, завушніцы. Датуецца 13—14 стагоддзямі. Належаў балцкім плямёнам.

*Літ.:* [Спицын А. А.] Предполагаемые древности Черной Руси.— Записки имп. Русского археологического общества. СПб., 1899, т. 11, в. 1—2. *М. А. Ткачоў.*

**в. Вераб'і, Першамайскі сельсавет**

**1492. МОГІЛЬНІКІ З КАМЕННЫМІ МАГІЛАМІ** (археал.).

**1492а.** Могільнік-1. Мясцовая назва Моглiцы. За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Выявіў у 1889 г. Э. А. Вольтэр, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў.

**1492б.** Могільнік-2. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Дзенькавічы. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў.

Раскопкі не праводзіліся.




1490. *Селішча. План.*

**в. Вострава, Дэмбраўскі сельсавет**

**1493. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 52 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.




1492. *Могільнікі з каменнымі магіламі. План.*

**в. Вялікае Мажэйкава, цэнтр Мажэйкаўскага сельсавета**

**1494. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Сфарміравана ў канцы 18 — пачатку 19 ст.

Комплекс уключаў сядзібны дом (не збярогся), парк, абкружаны з трох бакоў пладовым садам (шырыня 40 м) і мураванай агароджай, флігель і гаспадарчыя пабудовы. Перад галоўным фасадам сядзібнага дома



1494. *Сядзіба. Схема планіроўкі.*



1494. *Сядзіба. Флігель.*



1494. *Сядзіба. Лямус.*

была парадная плошча і ўезд у сядзібу з 2 штучнымі прамавугольнымі вадаёмамі па баках.

Парк закладзены ў 1787 г. Плошча каля 5 га. Мае сіметрычную рэгулярную планіроўку. Складаецца зараднага партэра і сістэмы баскетаў, падзеленых сеткай грабавых, ліпавых і кляновых алей. Да партэра прымыкаюць 2 рады дэкаратыўных баскетаў. Яшчэ 2 рады баскетаў з пладовымі дрэвамі ўтвараюць паступовы пераход ад параднай часткі парку да саду. Кампазіцыйную вось парку завяршала мураваная капліца, у паўднёва-заходняй частцы парку стаяла мураваная альтанка-ратонда (не захавалася). З насаджэнняў трапляюцца экзоты: лістоўніца еўрапейская, белая акацыя, ліпа амерыканская і інш.

Прамавугольны ў плане мураваны аднапавярховы флігель вырашаны ў формах класіцызму.

Лямус размешчаны ў паўночнай частцы сядзібы. Двухпавярховы квадратны ў плане будынак. Першы паверх мураваны, другі драўляны.

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**в. Вялікае Сяло, Галавічпольскі сельсавет**

**1495. ПОМНІК АКТЫВІСТАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці настаўнікаў І. С. Камінскага і яго жонкі, па-зверску забітых ворагамі Савецкай улады ў чэрвені 1947 г., у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Бярозаўцы, Астрынскі пасялковы Савет**

**1496. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. Пахаваны воін, які загінуў у 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воіна і 44 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Галавічполе, цэнтр сельсавета**

**1497. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 8 жыхароў з в. Старыя Бернікі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1498. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер у будынку школа-інтэрнат.

Дом Г-падобны ў плане, асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Складаецца з адна- і двухпавярховых аб'ёмаў рознай велічыні, накрытых высокімі чарапічнымі дахамі. У дэкоры выкарыстаны фігурныя люкарны, спічастыя шчыты, пінаклі, гранёныя эркеры з шатровымі завяршэннямі. Да паўднёва-заходняй бакавой сцяны прымыкае звязаная з калідорам тэраса. Дэкаратыўнае вырашэнне фасадаў заснавана на кантрастным спалучэнні чырвонага фону цаглянай муроўкі з атынкаванымі архітэктурнымі дэталямі — ліштвамі, карнізамі і рустоўкай. Гарызантальныя паясы, абрамленні праёмаў, дэкаратыўная рустоўка вуглоў ствараюць на плоскасці



1498. *Сядзібны дом. Фрагмент галоўнага фасада.*



1498. *Сядзібны дом. План.*



1498. *Сядзібны дом.*



1499. *Гарадзішча. План.*

фасадаў складаны геаметрычны малюнак. У аздабленні фасадаў выкарыстаны таксама трохвугольныя дэкаратыўныя балкончыкі, металічныя каваныя рашоткі агароджаў балконаў і тэрасы, паліваная кафля з расліным малюнкам у паўцыркульных нішах над вокнамі. Планіроўка дома калідорная.



1501. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — парк; 3 — сад.*



1501. *Сядзібны дом.*

Сядзібны дом — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *С. Г. Багласаў.*

**в. Галынка, Орлеўскі сельсавет**

**1499. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва «А к о п». За 0,3 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Нёман. Пляцоўка памерам 70×70 м узвышаецца над поймай ракі на 5 м. З захаду і поўначы захаваліся валы вышынёй 3 м, шырынёй у аснове 7—8 м. Абследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1938—39 гг. У. Галубовіч, у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,3 м прасочваецца на паўднёвым і ўсходнім схілах. Знойдзена ганчарная кераміка 14—16 стагоддзяў.

Матэрыялы абследавання М. А. Ткачова захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* П о к р о в с к и й Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893. *М. А. Ткачоў.*

**в. Глебаўцы, Галавічпольскі сельсавет**

**1500. КУРГАН** (археал.). За 0,25 км на поўдзень ад вёскі, справа ад палявой дарогі. Вышыня насыпу каля 1 м, дыяметр 6 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі. Абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў.

**в. Глыбокае, Каменскі сельсавет**

**1501. СЯДЗІБА** (архіт.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Сфарміравана ў 19 ст., рэканструявана ў пачатку 20 ст. Сядзібны комплекс займае ўчастак 240×230 м. На ім размешчаны сядзібны дом, парк і сад. Гаспадарчыя пабудовы не захаваліся.

Сядзібны дом пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва. Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак з мансардай накрыты вальмавым дахам. Галоўны ўваход вылучаны ганкам на 4 калонках. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка анфіладная, у вестыбюлі камін з прафіляваным абрамленнем. Мансарда звязана з 1-м паверхам лесвіцай.

Парк эканамічнага тыпу. Плошча 7,5 га. Займае прамавугольны ў плане ўчастак з пасадкамі пладовых дрэў. Абсаджаны па перыметры дрэвамі мясцовых парод (дуб, клён, асіна,



1501. *Сядзібны дом. План.*




1502. *Помнік на магілах савецкіх воінаў.*

вольха, ліпа і інш.). Паўднёва-заходнюю частку парку перасякаюць 2 звілістыя дарожкі, якія вядуць да дома. Выразнасць пейзажнай кампазіцыі дасягнута кантрастным спалучэннем высокіх дрэў з нізкай шчыльнай пасадкай кустоў і маленькімі палянкамі, а таксама чаргаваннем розных парод дрэў. Пасаджаныя па крузе групы дрэў утвараюць натуральныя зялёныя альтанкі.

Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. *С. Г. Багласаў, Т. В. Габрусь.*

**в. Грамкі, Навадворскі сельсавет**

**1502. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. У двух магілах пахаваны 2 воіны (прозвішчы не ўстаноўлены), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магілах пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гурнофель, Галавічпольскі сельсавет**

**1503. СЯДЗІБА** (архіт.). У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Сфарміравана ў пачатку 20 ст., уключала сядзібны дом і парк. Цяпер тут размешчана кантора саўгаса «Шчучынскі».

Сядзібны дом аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з паўвальмавым дахам. Галоўны ўваход вылучаны шырокай тэрасай і ганкам у выглядзе драўлянай трохпралётнай аркады з шчытом. Сцены завершаны простым карнізам. Цокальны паверх з бутавага каменю, мае самастойны ўваход з боку тарцовага фасада. Сцены расчлянёны прамавугольнымі вок-

намі. З боку паркавага фасада выступае шырокая мураваная тэраса. Планіроўка калідорна-анфіладная. Падлога з буйнанаборнага (у шашку) паркету, столь з ляпной гіпсавай разеткай у стылі «мадэрн».

Парк пейзажнага тыпу. Сярод насаджэнняў пераважаюць ліпа, таполя, клён, ёсць туя, піхта.

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва. *А. М. Кулагін.*

**в. Дварчаны, Орлеўскі сельсавет**

**1504. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Грушка. Абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі 12—13 стагоддзяў з хвалістым і лінейным арнаментам. Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1503.** *Сядзібны дом.*



**1503.** *Сядзіба. Куток парку.*

**в. Дэмбрава, цэнтр сельсавета**

**1505. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 62 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1506. РАДЗІМА АЛЬХІМОВІЧА** Казіміра (гіст.).

Жывапісец і графік К. Альхімовіч нарадзіўся 20.12.1840 г. у сям'і шляхціца. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, у 1871—73 гг. у мастацкай школе Герсана ў Варшаве, у мастацкіх акадэміях Мюнхена (1873—75 гг.) і Парыжа (1875—78 гг.). За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. сасланы ў Сібір, дзе быў да 1869 г. Вызвалены па амністыі. З 1880 г. удзельнічаў у еўрапейскіх і сусветных выстаўках. Стварыў карціны на тэмы жыцця ў сібірскай ссылцы — «Смерць у выгнанні», «Пахаванне на Урале» (каля 1890 г.), «На этапе» (1894 г.), бытавыя тэмы — «Жніво» (1869 г.), «Найманне работнікаў» (1893 г.), «Дажынкі», «Хата селяніна», «Парабкава хата», «У поце чала», на тэмы беларускай, літоўскай і польскай гісторыі — «Пахаванне Гедыміна», «Пасля бітвы», «Лідзейка з дачкой на руінах царквы Перуна», «Абарона Ольштына» (1883 г.), «Смерць Глінскага ў турме» (каля 1884 г.), «Апошні жрэц Літвы з дачкою Плёнтай» і інш. К. Альхімовіч вядомы як ілюстратар твораў Ю. Славацкага, А. Міцкевіча, Ю. Крашэўскага і іншых пісьменнікаў.

Памёр К. Альхімовіч 31.12.1916 г.

*Літ.:* Дробаў Л. Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971. *М. М. Казлоўская.*

**в. Еўлашы, Дэмбраўскі сельсавет**

**1507. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 7 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**г. п. Жалудок, цэнтр пасялковага Савета**

**1508. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. Пахаваны 35 воінаў 199-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 12.7.1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 26 партызан, што загінулі ў барацьбе з акупантамі ў 1942—44 гг., а таксама Герой Савецкага Саюза Пётр Міхайлавіч Батыраў.

П. М. Батыраў нарадзіўся 3.1. 1918 г. у в. Чулпанава Падольскага р-на Маскоўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС. На фронце з 1942 г., лётчык-знішчальнік. Правёў 52 паветраныя баі, у якіх збіў 5 варожых самалётаў. Летам 1944 г. намеснік камандзіра па паветрана-стралковай службе 163-га знішчальнага авіяпалка гвардыі капітан П. М. Батыраў даставіў камандаванню даныя разведкі аб абароне праціўніка, пераправах на рэках Проня, Дняпро, Бярэзіна, эшалонах ворага на чыгунцы Магілёў — Орша, варожай групоўцы, акружанай каля Шклова. Зрабіў 330 баявых вылетаў, нанёс значныя страты праціўніку. Загінуў у паветраным баі ў ліпені 1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.2.1945 г.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**1509. КАСЦЁЛ УШЭСЦЯ** (архіт.). Вул. Савецкая, 21. Пабудаваны ў 1854 г. з бутавага каменю і цэглы.

Храм — прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты двухсхільным дахам з трохвугольным франтонам на галоўным фасадзе; сцены завершаны масіўным антаблементам. Да асноўнага аб'ёму далучаны паўкруглая апсіда з сакрысціямі па баках і крылы трансепта. Уваход афармлены масіўным чатырохкалонным порцікам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны шырокімі пілястрамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Дэкаратыўныя дэталі на фасадах атынкаваны.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**1510. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 2000 жыхароў пасёлка, якіх 9.5.1942 г. расстралялі на гэтым месцы нямецка-фашысцкія за-



**1509.** *Касцёл Ушэсця. Фрагмент галоўнага фасада.*

хопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1511. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Свабоды, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**1512. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Урублеўскага, каля інтэрната медвучылішча. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1947 г.

**1513. РАДЗІМА УРУБЛЕЎСКАГА** Валерыя Антонія (гіст.).

Дзеяч польскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху В. А. Урублеўскі нарадзіўся 15.12.1836 г. у сям'і шляхціца. У 1857 г. скончыў Пецярбургскі лясны інстытут. У 1861—63 гг. удзельнічаў у стварэнні рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гродне, памагаў К. Каліноўскаму выпускаць і распаўсюджваць нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную першую на беларускай мове газету «Мужыцкая праўда». У час паўстання 1863—64 гг. быў начальнікам штаба паўстанцаў, з 1863 г. кіраваў баявымі дзеяннямі паўстанцаў Гродзеншчыны, потым Падляшша і Люблінпічыны, праславіўся як таленавіты партызанскі камандзір. У студзені 1864 г. быў цяжка паранены і эміграваў у Францыю. У 1871 г. у званні генерала камандаваў адной з трох армій Парыжскай камуны. Пасля яе паражэння эміграваў у Лондан, дзе пасябраваў з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Быў членам Генеральнага Савета 1-га Інтэрнацыянала. У 1872 г. узначаліў арганізаванае ў Лондане польскае рэвалюцыйнае таварыства «Люд польскі», прапагандаваў ідэі руска-польскага рэвалюцыйнага саюза. У канцы 1870-х гадоў у Жэневе ўстанавіў кантакты з рускімі рэвалюцыянерамі і групай першых польскіх марксістаў. У 1878 г. нелегальна прыязджаў у Расію для знаёмства з народніцкім рэвалюцыйным рухам. Пасля амністыі камунараў (1880 г.) вярнуўся ў 1885 г. у Францыю. Да канца жыцця быў верны ідэям сацыялізма.

Памёр В. А. Урублеўскі 5.8.1908 г. Пахаваны каля сцяны Камунараў на могілках Пер-Лашэз у Парыжы. На радзіме яго імем названа вуліца, яго імя прысвоена сярэдняй школе.

*Літ.:* Абрамавичюс В. Е., Дьяков В. А. Валерий Врублевский.— М., 1968; Кісялёў Г. В. Паплечнік Каліноўскага.— Мн., 1976. *Г. В. Кісялёў.*

**1514. СЕЛІШЧА** (археал.). На правым беразе р. Жалудзянка, каля моста. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзена ганчарная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

**1515. СЯДЗІБА** (архіт.). За 1 км на захад ад пасёлка. Сфарміравана ў пачатку 20 ст. Уключае мураваныя палац, флігель, млын, кузню, якія аб'яднаны сеткаю ўзаемна перпендыкулярных алей рэгулярнага парку.

Палац пабудаваны ў 1908 г. паводле праекта архітэктара У. Марконі. Двухпавярховы будынак накрыты ламаным дахам. У дэкоры фасадаў выкарыстаны бакавыя круглаватыя рызаліты, фігурныя ліштвы і люкарны, картушы і гірлянды. У інтэр'еры будынка ў цэнтральнай частцы размешчана зала, вестыбюль з парадпай лесвіцай.

Флігель — аднапавярховы, прамавугольны ў плане аб'ём з круглай у сячэнні шатровай вежай, прыбудаванай да тарцовага фасада. Сцены з бутавага каменю, члянёны стральчатымі аконнымі праёмамі. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе гатычнага партала.

Сядзіба — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

### в. Залесна, Каменскі сельсавет

**1516. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

### в. Зачэпічы, Орлеўскі сельсавет

**1517. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны і 30 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**1518. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ ШЧУЧЫНСКАЙ ЗОНЫ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі ў лесе ў Вялікую Айчынную вайну базіраваўся ў 1943—44 г. штаб партызанскага злучэння Шчучынскай зоны.

18.4.1943 г. на тэрыторыі Шчучынскага, Мастоўскага, Дзятлаўскага, Казлоўшчынскага, Жалудоцкага, Васілішкаўскага, Зэльвенскага р-наў і г. Слоніма (у жніўні 1943 г. Казлоўшчынскі р-н і г. Слонім уключаны ў Слонімскую зону) пачаў працаваць Шчучынскі міжрайпартцэнтр на чале з упаўнаважаным ЦК КП(б)Б і БШПР, членам Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б С. П. Шупенем. Міжрайпартцэнтр аб'яднаў у партызанскае злучэнне Шчучынскай зоны фарміраванні, якія дзейнічалі ў гэтых раёнах: Ленінскую партызанскую брыгаду і асобна дзейныя атрады «Грознага», «Стралкова» (пазней імя А. В. Суворава), імя Р. І. Катоўскага, «Золатава» (пазней імя 1 Мая), 54-ы (потым імя Ф. Э. Дзяржынскага), імя П. К. Панамарэнкі (у жніўні 1943 г. перададзены Слонімскаму міжрайпартцэнтру). Пазней у злучэнні створаны партызанскія брыгады: Першамайская (з кастрычніка 1943 г. у злучэнні Стаўбцоўскай зоны), імя С. М. Кірава (з снежня 1943 г. у злучэнні Лідскай зоны), імя К. Я. Варашылава, «Перамога». У снежні 1943 г. паводле загаду ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б і БШПР па Баранавіцкай вобл. у злучэнне Шчучынскай зоны ўключана партызанская брыгада імя Ленінскага камсамола, вясной 1944 г.— асобны дыверсійна-разведвальны атрад імя М. І. Калініна. Камандзір злучэння С. П. Шупеня. 11—15.7.1944 г. 4 партызанскія брыгады і асобныя атрады (усяго 3,2 тыс. партызан)



**1510.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



**1511.** *Помнік У. І. Леніну.*

злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1974 г. на месцы базіравання штаба партызанскага злучэння Шчучынскай зоны адноўлена зямлянка, адкрыты музей баявой славы.

*Літ.:* В принеманских лесах.— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. М. Казлоўская.*

**в. Зенякі, Астрынскі пасялковы Савет**

**1519. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 2 магілах пахаваны 484 мірныя жыхары.

22.1.1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акружылі вёску, сагналі жыхароў: у адну групу жанчын з дзецьмі, у другую — мужчын. Спачатку на вачах бацькоў расстралялі дзяцей. Потым мужчын сагналі ў адно гумно, жанчын — у другое і спалілі. Спалілі таксама 82 дамы.

У 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зубрава, Першамайскі сельсавет**

**1520. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 147 жыхароў былой в. Агародзішча, якіх 26.2.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**хут. Зубраўка, Берштаўскі сельсавет**

**1521. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад хутара, за 0,2 км злева ад дарогі ў в. Сухары, сярод балота. Пляцоўка амаль круглая, памерам 30×28 м, над балотам узвышаецца на 6—8 м, мае нахіл на поўдзень. З паўночнага боку ўмацавана валам вышынёй 1—1,5 м, шырынёй да 5 м. Схілы гарадзішча крутыя (больш пакаты з поўдня). Выявіў і абследаваў у 1984 г. А. М. Мядзведзеў. Культурны пласт слаба выражаны. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ішчална, Мажэйкаўскі сельсавет**

**1522. ТРОІЦКІ КАСЦЕЛ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1758 г. з цэглы. Побач з касцёлам у 19 ст. пабудавана аднаярусная званіца.

Касцёл аднанефавы, двухвежавы з пяцігранная апсідай і сакрысціямі. Дамінуючае становішча ў аб'ёмнай кампазіцыі займае галоўны фасад. Яго вузкую цэнтральную плоскасць фланкіруюць квадратныя ў плане вежы, якія рэльефна выступаюць з асноўнага аб'ёму, маюць нізкае шлемападобнае завяршэнне. Фасадныя і бакавыя плоскасці вежаў апраразаны карнізамі, расчлянёны плоскімі прамавугольнымі філёнгамі і прарэзаны прамавугольнымі, лучковымі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя фасады будынка завершаны карнізам і расчлянёны ў верхняй частцы 2 радамі лучковых акон.

Інтэр'ер касцёла зальны, выцягнуты па падоўжнай восі. Асноўны аб'ём і апсіда перакрыты драўляным лучковым скляпеннем. Сцены дэкарыраваны тонкімі спаранымі лапаткамі, завершаны шырокім карнізам. Над бабінцам паміж аб'ёмамі вежаў ступеньчатыя ў плане хоры. 3 алтары і амбон выкананы ў стылі ракако. Галоўны алтар двух'ярусны. Першы ярус, устаноўлены на высокім цокалі, падзелены калонамі карынфскага ордэра на 3 часткі, аддзелены ад другога яруса хвалепадобным антаблементам з ляпным дэкорам. У цэнтры другога яруса — картуш з люнетай, па баках жывапісныя панелі і дэкаратыўныя вазы. 2 бакавыя алтары формай і дэкорам нагадваюць галоўны, але крыху меншыя за яго, увянчаны



1522. *Троіцкі касцёл. Інтэр'ер.*



1522. *Троіцкі касцёл. План.*



1522. *Троіцкі касцёл.*

скульптурнымі кампазіцыямі. Амбон хвалепадобнай формы, дэкарыраваны ляпнымі ракайлямі, пуцці, скульптурнай кампазіцыяй на біблейскія тэмы.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока.

*С. Г. Багласаў, Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Каменка, цэнтр сельсавета**

**1523. АНТОНІЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1908 г. з цэглы.



1523. *Антоніеўскі касцёл.*



1523. *Антоніеўскі касцёл. Від з боку апсіды.*

Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральны неф пераходзіць у пяцігранную апсіду, па баках якой невялікія гранёныя сакрысціі. Двух'ярусная вежа на галоўным фасадзе завершана стромкім шатром з люкарнамі. Галоўны ўваход афармлены парталам, над якім размешчана акно-ружа, дзверы аздоблены мастацкай коўкай. Астатнія фасады рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі. Аконныя праёмы стральчатыя. У інтэр'еры асноўны аб'ём падзелены на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам — хоры з арганам. Сцены і скляпенні атынкаваныя, пабелены, астатнія канструкцыйныя элементы вылучаны чырвоным колерам.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

*Т. В. Габрусь.*

**1524. МАГІЛА ЗЯМЦОВА** І. П. (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Камандзір Чырвонай Арміі І. П. Зямцоў загінуў 21.9.1939 г. у час вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1525. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Пратасаўшчына». На ўшанаванне памяці 8 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Касцянева,**
**Галавічпольскі сельсавет**

**1526. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 70 м, абкружана кальцавым валам вышынёй 2 м, шырынёй у аснове 14—16 м. Выявіў і даследаваў у 1969 г. В. В. Сядоў, даследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,5 м у паўднёвай частцы пляцоўкі, 1 м у паўночна-заходняй. Знойдзены кераміка 11—13 і 14—16 стагоддзяў, косці жывёл, жалезная спражка 11—12 стагоддзяў. Раскопкі М. А. Ткачова паказалі, што вал тройчы падсыпалі, ён меў дубовыя ўмацаванні, унутраны схіл у 12 ст. быў забрукаваны. Відаць, гарадзішча з'яўлялася адным з паўночных абаронных пунктаў Чорнай Русі, які быў разбураны ў 13 ст. Жыццё на гарадзішчы працягвалася да 16 ст.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Седов В. В. К истории поселений Черной Руси.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии. М., 1974, в. 139.

*М. А. Ткачоў.*

**1527. СЯДЗІБА** (архіт.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Уключае сядзібны дом, парк. Сядзібны дом — мураваны аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты высокім вальмавым дахам. У цэнтры галоўнага прадаўгаватага фасада чатырохкалонны порцік. Планіроўка калідорная. Парк пейзажнага тыпу з элементамі эканамічнага. Участкі пладова саду абсаджаны ліпамі. У парку растуць пераважна дрэвы мясцовых парод, трапляюцца экзоты.



1524. *Помнік на магіле І. П. Зямцова.*

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва.

**в. Кобраўцы,**
**Астрынскі пасялковы Савет**

**1528. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крупава, Ракавіцкі сельсавет**

**1529. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кульбачына,**
**Астрынскі пасялковы Савет**

**1530. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1530а.** Гарадзішча. За 0,8 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Астрынка. Пляцоўка круглая, дыяметрам 50 м, абкружана валам вышынёй з поўначы, усходу і поўдня 3 м, з захаду 1—1,5 м. Выявіў у 1968 г. В. В. Сядоў, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,2 м. У шурфах знойдзена ганчарная кераміка 13 ст. Відаць, гарадзішча было адным з паўночных абаронных збудаванняў Чорнай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1530б.** Могільнік-1. За 0,2 км на поўнач ад вёскі. Злева ад палявой дарогі. 5 курганоў вышынёй 1,2—1,7 м, дыяметрам 10—14 м. Каля асновы курганоў раўкі. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1530в.** Могільнік-2. За 0,3 км на поўдзень ад гарадзішча, на ўскрайку поля ў арэшніку. 4 насыпы вышынёй 1 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіў і абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии.— Вильна, 1893; Седов В. В. К истории поселений Черной Руси.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии. М., 1974, в. 139.

*М. А. Ткачоў.*

**в. Ліпічна, Орлеўскі сельсавет**

**1531. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лычкаўцы,**
**Галавічпольскі сельсавет**

**1532. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лядск, цэнтр сельсавета**

**1533. СТАНІСЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы, неатынкаваны.

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Да яго прыбудавана пяцігранная апсіда. Да галоўнага фасада далучана высокая двух'ярусная вежа (чацвярык на васьмерыку), завершаная высокім шатром. Дэкор фасадаў уключае аркатурныя паясы, раскрапаваныя над стральчатымі аконнымі праёмамі своеасаблівымі шырокімі лапаткамі, якія прарэзаны вокнамі-ружамі. Унутры касцёл падзелены слупамі на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. У інтэр'еры вылучаны дапаможныя памяшканні ў нартэксе і абапал апсіды.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі з элементамі стылю «мадэрн».

*Т. В. Габрусь.*




1530. *Гарадзішча, курганныя могільнікі. План.*



1532. *Помнік землякам.*

**в. Ляцэвічы, Дэмбраўскі сельсавет**

**1534. ПОМНІК ВУЧНЯМ** (гіст.). Каля будынка бібліятэкі. На ўшанаванне памяці 12 былых вучняў школы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Маліннікі, Дэмбраўскі сельсавет**

**1535. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 5 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мацеўчукі,**
**Жалудоцкі пасялковы Савет**

**1536. СТАЯНКА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на высокім правым беразе р. Лебяда. Выявіў і даследаваў у 1965—66 гг. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,8 м. Знойдзены кераміка і апрацаваныя крамяні бронзавага веку, у верхняй частцы культурнага пласта — рэшткі ганчарнай керамікі ранняга сярэднявечча. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Мацюкі, Бакштаўскі сельсавет**

**1537. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 11 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мураванка, Мажэйкаўскі сельсавет**

**1538. ЦАРКВА-КРЭПАСЦЬ** (Маламажэйкаўская царква-крэпасць; архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1524 г. з цэглы. У 1817 г. і 1871—72 гг. да галоўнага фасада прыбудаваны бабінец, надбудаваны на адзін ярус заходнія вежы, паніжаны дах, разабраны лесвіцы ва ўсходніх вежах, нанава выкладзены вонкавыя карнізы сцен асноўнага аб'ёму, вежаў і апсіды, павялічаны вокны, закладзе-







1538. *Царква-крэпасць: 1 — план; 2 — галоўны фасад (чарцёж); 3 — падоўжны разрэз.*

на частка байніц, атынкаваны шчыт галоўнага фасада, ніжнія і верхнія часткі бакавых сцен і апсіды. Да пачатку 19 ст. у царкве былі апускныя дзверы.

Царква складаецца з амаль прамавугольнага ў плане чатырохстаўповага асноўнага аб'ёму, фланкіраванага па вуглах круглымі шатровымі вежамі, вялікай паўцыркульнай апсіды на ўсю шырыню асноўнага аб'ёму і невялікага бабінца з дэкаратыўнымі вежачкамі на галоўным фасадзе. Пластыка фасадаў грунтуецца на выразным спалучэнні чырвоных цагляных сцен з атынкаванымі пабеленымі нішамі, праёмамі акон і байніц. Вуглавыя вежы фланкіруюць цэнтральную плоскасць галоўнага фасада, якая ўвенчана высокім франтонам і расчлянёна 3 вялікімі лучковымі нішамі. Цэнтральная ніша прарэзана круглым акном. Над нішамі 2 паясы байніц. Франтон ступеньчатага абрысу падзелены па гарызанталі на 2 часткі і члянёны нішамі рознай велічыні і формы. Бакавыя сцены, вежы і апсіда маюць адзінае з галоўным фасадам насычанае пластычнае афармленне. Тут выкарыстаны спараныя паўцыркульныя нішы. У ніжняй частцы сцен па ўсім перыметры храма праходзіць дэкаратыўны пояс.

Інтэр'ер храма мае кампактную прасторавую арганізацыю. Асноўнае памяшканне трохнефавае, добра асветлена высока размешчанымі ў паўцыркульных нішах з раструбамі вокнамі. Апсіда раскрываецца ў асноўнае памяшканне вялікім фігурным праёмам. Над уваходам хоры, якія апіраюцца на 2 (заходнія) слупы. Цэнтральны неф і апсіда перакрыты зорчатымі скляпеннямі з прафіляванымі дэкаратыўнымі нервюрамі, бакавыя — сотавымі. Скляпенні апіраюцца на васьмігранныя калоны з прафіляванымі базамі і капітэлямі. У цэнтры храма пад падлогай складское памяшканне для захоўвання зброі, боепрыпасаў і царкоўных каштоўнасцей.

Царква — помнік абарончага дойлідства, з стылявымі рысамі беларускай готыкі.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Егоров Ю. А. Градострои-



**1538.** *Царква-крэпасць.*

тельство Белоруссии.— М., 1954; Митянин А. Я. Оборонительные сооружения Белоруссии XIII—XVII вв.— У кн.: Сб. научных работ Ин-та строительства и архитектуры Академии наук БССР. Мн., 1958, в. 1. *С. Г. Багласаў.*



**1541.** *Юр'еўскі касцёл.*



**1541.** *Юр'еўскі касцёл. План.*



**1541.** *Юр'еўскі касцёл. Галоўны алтар.*

**в. Нарашы, Астрынскі пасялковы Савет**

**1539. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

Асноўны квадратны ў плане аб'ём накрыты пакатым чатырохсхільным дахам з галоўкай. Да асноўнага аб'ёму прыбудаваны прамавугольная апсіда і васьмерыковы бабінец з двух'яруснай шатровай вежай-званіцай. Вежа і дэкаратыўныя дэталі (руставаныя пілястры, аркатурныя паясы, фігурныя ліштвы праёмаў) атынкаваны.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Новы Двор, цэнтр сельсавета**

**1540. КАПЛІЦА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1882 г. з дрэва. Прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. З боку галоўнага фасада чацверыковая вежа, завершаная высокім шатром. Сцены гарызантальна ашаляваны. Аконныя праёмы стральчатыя. Капліца — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**1541. ЮР'ЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). На паўночным захадзе вёскі. Пабудаваны ў 1749 г. з дрэва. За 50 м на паўднёвы захад ад касцёла, за агароджай, пабудавана ў 1852 г. квадратная ў плане двух'ярусная званіца з чатырохсхільным дахам.

Касцёл складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, завершанага васьміграннай вежай (пабудавана ў 1880 г.), і пяціграннай апсіды з сакрысціямі. Асноўны аб'ём і апсіда накрыты агульным двухсхільным дахам з вальмамі. Сакрысціі маюць самастойныя вальмавыя дахі. Сцены прарэзаны лучковымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Франтон галоўнага фасада аддзелены ад плоскасці карнізам, гарызантальна ашаляваны.

У інтэр'еры асноўнае памяшканне выцягнута па падоўжнай восі. Плоскую столь падтрымліваюць 6 слупоў, звязаных бэлькамі ў 2 падоўжныя рады. 3 разныя алтары выкананы ў стылі ракако. Невысокі дэкарыраваны медальёнамі цокаль галоўнага алтара падтрымлівае асноўны ярус, расчлянёны 4 круглымі калонамі. Наверша, аддзеленае ад асноўнага яруса разным карнізам, аздоблена выявамі галовак херувімаў, кароны, ваз, картушам; у сярэдзіне — алтарны абраз «Багародзіца» (палатно; алей; 18 ст.). У дэкоры шырока выкарыстана скразная пазалочаная разьба па дрэве, у арнаментыцы якой валюты, ракайлі, лісце аканта. Бакавыя алтары кампазіцыйна паўтараюць галоўны, але дэкарыраваны больш сціпла. Устаноўлены на хорах арган упрыгожаны скульптурай.

Касцёл — помнік драўлянага дойлідства. *С. Г. Багласаў, Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Орля, цэнтр сельсавета**

**1542. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 46 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у абарончых баях і ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 16 партызан, што загінулі ў баях супраць акупантаў у 1943—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



**1541.** *Юр'еўскі касцёл. Арган.*

**1543. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1544. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Нёман, каля былой в. Перакоп. Пляцоўка выцягнутая ўздоўж берага ракі на 80 м, плошча каля 0,8 га. Выявіла ў 1954 г. С. А. Тараканава, абследавалі ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1975 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт у абрывах берага 0,6 м. Знойдзена ганчарная кераміка. Датуецца 12—13 стагоддзямі, належала ўсходнім славянам.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Ленінградскім аддзяленні Інстытута археалогіі АН СССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Патока, Ражанкаўскі сельсавет**

**1545. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Першамайская, цэнтр сельсавета**

**1546. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 8 мірных жыхароў, расстраляных у 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск. Помнік ушаноўвае таксама памяць жыхароў сельсавета, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.




1544. *Селішча. План.*



1545. *Помнік землякам.*

**1547. ПОМНІК МАРОЗАВУ** Паўліку (гіст.). Каля сярэдняй школы. Скульптура піянера, удзельніка барацьбы з кулацтвам у перыяд калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў СССР П. Марозава ўстаноўлена ў 1981 г. Яго імя носіць піянерская дружына школы.

**в. Пілаўня, Берштаўскі сельсавет**

**1548. МЕСЦА ГІБЕЛІ АЛЯКСАНДРАВА** Валянціна Валянцінавіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Тут 15. 12.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў партызан брыгады імя Ленінскага камсамола В. В. Аляксандраў. Пахаваны ў в. Берншты. У 1963 г. на месцы яго гібелі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Плёткі, Бакштаўскі сельсавет**

**1549. МОГІЛЬНІК З КАМЕННЫМІ МАГІЛАМІ** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гочуб, на правым беразе р. Латачок. Абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ражанка, цэнтр сельсавета**

**1550. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 33 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1551. КАПЛІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Трох'яруснае цэнтрычнае вежападобнае збудаванне. 1-ы круглы ў сячэнні ярус вылучаны прафіляваным карнізам, 2-і — чатырохгранны з лучковымі праёмамі, 3-і — круглая вежачка з паўсферычным купалком і крыжам у завяршэнні. Капліца — помнік народнага дойлідства.

**1552. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1674 г. з цэглы і бутавага каменю. Перабудаваны ў 1924—25 гг.

Аднанефавы крыжападобны ў плане храм з больш нізкімі пяціграннай апсідай і трансептам. Тарцы высокіх двухсхільных дахаў над нефам і крыламі трансепта закрыты ступень-



1552. *Петрапаўлаўскі касцёл. Галоўны фасад.*



1552. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*

чатымі шчытамі. Да бакавых сцен асноўнага аб'ёму далучаны 2 прамавугольныя ў плане капліцы. Да паўднёва-заходняга вугла нефа прыбудавана трох'ярусная вежа (васьмярык на 2 чацверыках), накрытая васьмігранным спічастым шатром, да нефа з паўночнага боку далучана невялікая сакрысція. Вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны контрфорсамі і завершаны дэкаратыўнымі вежачкамі. Вокны высокія, паўцыркульныя, з узорыстымі вітражамі. У цэнтры галоўнага фасада круглае акно-ружа, вышэй яго дэкаратыўны арнамент, пояс і шчыт. Аздобу фасада дапаўняюць вузкія плоскія нішы з трохлопасцевымі арачнымі завяршэннямі і ляпны герб. Галоўны ўваход выразаны стральчатым парталам.

Унутраная прастора касцёла перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта — крыжовымі скляпеннямі. Апсіда і капліцы раскрываюцца ў прастору нефа арачнымі праёмамі. Над уваходам — хоры. Сцены асноўнага аб'ёму расчлянёны пілястрамі і размаляваны ў верхняй частцы шматфігурнымі кампазіцыямі на біблейскія тэмы.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *С. Г. Багласаў.*

1553. **СЯДЗІБА** (архіт.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Сфарміравана ў 2-й палове 19 ст. Займае прамавугольны ў плане ўчастак, абсаджаны па перыметры дрэвамі. У цэнтры быў сядзібны дом (не захаваўся), на ўсход ад яго размяшчаліся 2 флігелі, на поўнач — гаспадарчыя пабудовы (лямус, стайня). У першапачатковым выглядзе астаўся аднапавярховы драўляны флігель з мансардавым дахам, тэрасай і ганкам з калонкамі з тарцовага боку. Сцены атынкаваны. Парк пейзажнага тыпу.

Помнік сядзібна-паркавага мастацтва.

**в. Сарокі, Орлеўскі сельсавет**

1554. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Скоржыкі, Шчучынскі сельсавет**

1555. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 13 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Скрыбаўцы, Мажэйкаўскі сельсавет**

1556. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стараўшчына, Дэмбраўскі сельсавет**

1557. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 18 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Старыя Васілішкі, Васілішкаўскі сельсавет**

1558. **КАСЦЁЛ СВЯТОГА ПЯТРА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1903 г. з цэглы, неатынкаваны.

Трохнефавая двухвежавая базіліка з трансептам. Усе нефы заканчваюцца гранёнымі апсідамі. Цэнтральная частка галоўнага фасада завершана востраканцовым шчытом, чатырох'ярусныя вежы — высокімі шатрамі. Галоўны фасад вылучае выразны рытм шматлікіх праёмаў і дэкаратыўных элементаў. У цэнтры акно-ружа з вітражом. Над галоўным уваходам размешчана керамічнае пано на біблейскі сюжэт, над бакавымі — сюжэтныя вітражы. У інтэр'еры цэнтральны неф заканчваецца алтаром, бакавыя — сакрысціямі. Прастора храма перакрыта крыжовымі скляпеннямі з нервюрамі на падпружных арках. На сценах бакавых нефаў размешчаны 14 стукавых карцін-пано. На кансолях апорных слупоў у цэнтральным нефе ўстаноўлена 12 скульптурных выяў апосталаў. Пад вокнамі цэнтральнага нефа 10 фрэскавых карцін на біблейскія сюжэты. Над уваходам — хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі. *Т. В. Габрусь, А. М. Кулагін.*

**в. Сырні, Навадворскі сельсавет**

1559. **КАМЕННЫЯ МАГІЛЫ** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Круглік. Захавалася 13 магіл, 6 маюць каменныя абкладкі і тарцом пастаўленыя камяні, астатнія — толькі абкладкі. Адна магіла арыентавана па лініі поўнач — поўдзень, астатнія — захад — усход. Выявіў і абследаваў у 1884—94 гг. В. Шукевіч, абследавалі ў 1974 г. А. М. Ткачоў, у 1984 г. Я. Г. Звяруга.

**в. Турэйск, Орлеўскі сельсавет**

1560. **ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У вёсцы, на ўзвышанай градзе правага берага р. Нёман. Пляцоўка памерам 30×85 м, з поўначы і поўдня мае схілы (паўднёвы апускаецца да поймы Нёмана, паўночны — да сучаснай вясковай вуліцы), з захаду і ўсходу абмежавана дугападобнымі равамі глыбінёй да 3 м. Раскопкі гарадзішча праводзілі ў 1961—62 гг. К. Т. Кавальская, у 1969—70 гг. Я. Г. Звяруга. Устаноўлена, што гарадзішча было ўмацавана валам, пабудаваным пасля пажару, які знішчыў першапачатковае паселішча. Ад пляцоўкі гарадзішча вал аддзяляўся частаколам, паглыбленым у мацярык на 0,5—0,6 м. Жытлы былі наземныя. Выяўлены рэшткі печаў-домніц, вялікая колькасць абломкаў гліняных соплаў, крыцы, шлакі. Знойдзены прылады працы для апрацоўкі зямлі і палявання, рэчы ўзбраення воіна і рыштунку баявога каня, бытавы інвентар, упрыгожанні. З'яўляецца гарадзішчам старажытнага горада Турыйска (Турск), які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1253 і 1276 гг. Датуецца 12—13 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья.— М.; Л., 1962; Раппопорт П. А. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв.— Л., 1967; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972; Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись.— М., 1962. *Я. Г. Звяруга.*

**в. Хадзілоні, Першамайскі сельсавет**

1561. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ІЛЬКЕВІЧУ** Іосіфу Іванавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці І. І. Ількевіча — былога дырэктара школы, якога ў 1948 г. забілі ворагі Савецкай улады.

**в. Чапаеўка, Дэмбраўскі сельсавет**

1562. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 10 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



**1558.** *Касцёл святога Пятра.*

**в. Шайбакі,**
**Галавічпольскі сельсавет**

**1563. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 19 землякоў з вёсак Зброжкі, Даліняны, Шайбакі, Псярцы, Ходзелі, Карэлічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шастакоўцы,**
**Першамайскі сельсавет**

**1564. МАГІЛА ЦЁТКІ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі.

Беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка (Мацей Крапіўка, Крапівіха, Гаўрыла з Полацка, Гаўрыла, Банадысь Асака, Тымчасовы і інш.; сапраўднае Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна) нарадзілася 15.7.1876 г. у былым фальварку Пешчын. У 1901 г. скончыла Віленскае прыватнае семінарскае вучылішча В. Прозаравай. Настаўнічала. У 1902—04 гг. вучылася на вышэйшых адукацыйных курсах П. Ф. Лесгафта ў Пецярбургу. Вярнуўшыся ў Вільню, арганізоўвала рабочыя і жаночыя рэвалюцыйныя гурткі, выступала з прамовамі на нелегальных сходах. У 1905 г. фельчар Новавілейскай лячэбніцы, член падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыі, вяла агітацыю супраць самаўладдзя, распаўсюджвала пракламацыі сярод рабочых і сялян. За ўдзел у рэвалюцыйнай арганізацыі была аддадзена пад суд. У 1906 г. эмігравала ў Галіцыю, паступіла вольнай слухачкай на філасофскае аддзяленне Львоўскага універсітэта, потым Ягелонскага (Кракаў) універсітэта. Была членам арганізацыі рэвалюцыйнай моладзі Ягелонскага універсітэта. Падарожнічала па Італіі (1908 г.). У 1910 г. нелегальна прыязджала ў Пецярбург, Вільню, разам з вандроўным тэатрам І. Буйніцкага ездзіла па Беларусі, выступала як артыстка. З 1911 г. жыла ў Вільні, Мінску. У 1914 г. рэдагавала часопіс для моладзі «Лучынка», вяла палітычную агітацыю сярод рабочых мінскіх заводаў. У час 1-й сусветнай вайны фельчар у віленскім тыфозным бараку. Літаратурную дзейнасць пачала ў 1902 г. пад уплывам творчасці Ф. Багушэвіча. У гісторыю беларускай літаратуры ўвайшла як песнярка Рэвалюцыі 1905—07 гг. Публіцыстычная завост-



**1558.** *Касцёл святога Пятра. Керамічнае пано.*



**1558.** *Касцёл святога Пятра. Інтэр'ер.*



**1564.** *Помнік на магіле Цёткі (Алаізы Пашкевіч).*



1569. *Помнік С. І. Клімаку.*

ранасць, рэвалюцыйны пафас, народнасць, яркая метафарычнасць, алегорыя, сімволіка, радыкалізм — асаблівасці паэзіі Цёткі гэтага часу. Як пракламацыі друкаваліся яе вершы «Хрэст на свабоду», «Мора (рэвалюцыя народная)», «Пад штандарам», а таксама апавяданні «Прысяга над крывавымі разорамі» (1906 г.), дзе паэтэса заклікала рабочых, сялян і салдат яднаць сілы для барацьбы з самаўладдзем. Рэвалюцыйны пафас у творчасці Цёткі спалучаецца з глыбокім лірызмам, які таксама мае грамадзянскі характар («Мае думкі», «Скрыпка», «На чужыне»). Як да крыніцы характва і мудрасці часта звярталася да фальклору. У 1906 г. у Жоўкве каля Львова выдала зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», зборнік перакладаў з украінскай мовы «Гасцінец для малых дзяцей», брашуру «Як мужыку палепшыць сваё жыццё». Аўтар «Першага чытання для дзетак-беларусаў» і беларускага «Лемантара» (1906 г., Пецярбург). Апавяданні Цёткі прасякнуты гуманізмам, любоўю і спачуваннем да чалавека працы, непрыняццем рэчаіснасці, заснаванай на несправядлівасці («Навагодні ліст», «Зялёнка», «Міхаська», «Асеннія лісты»). Пісала нарысы: «Гутаркі аб птушках», «Лісты з дарогі», «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю», «Наша народная беларуская песня» і інш. У «Нашай ніве» і ў «Лучынцы» змясціла публіцыстычныя артыкулы: «Як нам вучыцца», «Шануйце роднае слова», «Аб душы маладзёжы», «Папараць-кветка» і інш. Вывучала гісторыю беларускага народнага тэатра — батлейкі, выдала брашуру «Збірайце матэрыялы аб батлейцы». Творы Цёткі перакладзены на рускую, украінскую, польскую, нямецкую мовы.

Памёрла Цётка 17.2.1916 г. У 1936 г. на магіле пастаўлены мармуровы крыж. Ёй пастаўлены помнікі ў г. п. Астрына і ў в. Шастакоўцы, каля школы. Яе імя прысвоена бібліятэкам у Мінску і Шчучыне, школе ў г. п. Астрына, Гродзенскаму культасветвучылішчу, яе імем названы вуліцы ў Мінску і Шчучыне.

*Літ.:* Арабей Л. Цётка: Крытыка-біягр. нарыс.— Мн., 1956; яе ж. Стану песняй.— Мн., 1977. *Л. Л. Арабей.*

**1565. ПОМНІК ЦЁТЦЫ** (гіст.). Каля будынка школы. Бюст беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі (Алаізы Пашкевіч) устаноўлены ў 1955 г.

**в. Шчанец,**
**Астрынскі пасялковы Савет**

**1566. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шынкаўцы, Дэмбраўскі сельсавет**

**1567. МАГІЛА КВІТКОЎСКАГА** Людвіга Мацвеевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя Ванды Васілеўскай брыгады імя Ленінскага камсамола загінуў летам 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Якубавічы, Навадворскі сельсавет**

**1568. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 27 мірных жыхароў. 22.12. 1942 г. карны атрад гітлераўцаў уварваўся ноччу ў вёску. Жыхароў сагналі ў адзін дом, потым па 5 чалавек выводзілі на двор і расстрэльвалі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Янчукі, Шчучынскі сельсавет**

**1569. ПОМНІК КЛІМАКУ** Станіславу Іосіфавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «1 Мая».

С. І. Клімак нарадзіўся 22.4.1945 г. у в. Поплава Шчучынскага р-на ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння 7 класаў Шчучынскай сярэдняй школы працаваў у калгасе «1 Мая» даяром. 15.1.1967 г. у калгасе загарэлася жывёлагадоўчая ферма. С. І. Клімак першы кінуўся ратаваць жывёлу. Загінуў на пажары. Пасмяротна ўзнагароджаны медалём «За адвагу на пажары».

У 1971 г. на ўшанаванне памяці С. І. Клімака ўстаноўлены бюст. *М. М. Казлоўская.*

**в. Яселевічы, Орлеўскі сельсавет**

**1570. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1570а.** Курганны могільнік. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе р. Лебяда. 6 насыпаў дыяметрам 4—6 м, вышынёй 0,4—0,6 м. Выявіла ў 1955 г. Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1570б.** Селішча. За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, на беразе р. Лебяда. Плошча каля 1 га. Выявіў і даследаваў у 1975 г. М. А. Ткачоў. У абрыве берага культурны пласт да 0,5 м. Выяўлены абпаленае каменне, вуголле, попел, фрагменты ляпной штрыхаванай керамікі. Датуецца 6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. А. Ткачоў.*




1570. *Курганны могільнік, селішча. План.*

## БІБЛІЯТЭКІ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ *

Астравецкая раённая цэнтральная (г. п. Астравец, вул. Савецкая, 3). Фонд 37,3 тыс. экз.

Астравецкая раённая дзіцячая (г. п. Астравец, вул. Кастрычніцкая, 1).

Астрынская гарпасялковая (Шчучынскі р-н, г. п. Астрына, вул. Гродзенская, 2).

Астрынская гарпасялковая дзіцячая (Шчучынскі р-н, г. п. Астрына, вул. Жукоўскага, 9).

Ашмянская раённая цэнтральная (г. Ашмяны, вул. Савецкая, 83). Фонд 58,5 тыс. экз.

Ашмянская раённая дзіцячая (г. Ашмяны, вул. Савецкая, 80).

Ашмянская гарадская № 1 (г. Ашмяны, вул. Савецкая, 2). Фонд 15,9 тыс. экз.

Ашмянская гарадская дзіцячая (г. Ашмяны, вул. Савецкая, 80). Фонд 12 тыс. экз.

Бераставіцкая раённая цэнтральная (г. п. Вялікая Бераставіца, вул. Савецкая, 34). Фонд 37,2 тыс. экз.

Бераставіцкая раённая дзіцячая (г. п. Вялікая Бераставіца, вул. Савецкая, 34).

Бярозаўская гарпасялковая дзіцячая (Лідскі р-н, г. п. Бярозаўка, вул. Навагрудская, 4).

Ваўкавыская раённая цэнтральная (г. Ваўкавыск, вул. Першамайская, 7). Фонд 54,2 тыс. экз.

Ваўкавыская раённая дзіцячая (г. Ваўкавыск, вул. Новыя Боркі, 25).

Ваўкавыская гарадская (г. Ваўкавыск, вул. Мядзведзева, 14). Фонд 45,3 тыс. экз.

Ваўкавыская гарадская дзіцячая (г. Ваўкавыск, вул. Савецкая, 10). Фонд 26,8 тыс. экз.

Воранаўская раённая цэнтральная (г. п. Воранава, вул. Савецкая, 29). Фонд 33 тыс. экз.

Воранаўская раённая дзіцячая (г. п. Воранава, вул. Калініна, 6).

Гродзенская абласная імя Я. Ф. Карскага (г. Гродна, пл. Савецкая, 2). Фонд 394,3 тыс. экз.

Гродзенская абласная дзіцячая імя А. С. Пушкіна (г. Гродна, вул. Савецкая, 27). Фонд 111,1 тыс. экз.

Гродзенская раённая цэнтральная (г. Гродна, вул. Акадэмічная, 15). Фонд 34,7 тыс. экз.

Гродзенская раённая дзіцячая (Гродзенскі р-н, в. Грандзічы, вул. Гагарына, 34а).

Гродзенская гарадская цэнтральная (г. Гродна, вул. Савецкіх пагранічнікаў, 51/2). Фонд 109,7 тыс. экз.

Гродзенская гарадская цэнтральная дзіцячая (г. Гродна, вул. Цітова, 13). Фонд 56,3 тыс. экз.

Гродзенская гарадская № 1 (г. Гродна, вул. Даватара, 21). Фонд 50,5 тыс. экз.

Гродзенская гарадская № 2 (г. Гродна, вул. Белуша, 37). Фонд 50,2 тыс. экз.

Гродзенская гарадская № 3 (г. Гродна, вул. Чайкінай, 49). Фонд 52,2 тыс. экз.

Гродзенская гарадская № 4 (г. Гродна, вул. Дамброўскага, 55). Фонд 46,4 тыс. экз.

Гродзенская гарадская дзіцячая № 1 (г. Гродна, вул. Пушкіна, 30). Фонд 41,4 тыс. экз.

Гродзенская гарадская дзіцячая № 2 (г. Гродна, праспект Касманаўтаў, 4а). Фонд 37,3 тыс. экз.

Гродзенская гарадская дзіцячая № 3 (г. Гродна, вул. Камарова, 5). Фонд 30,9 тыс. экз.

Гродзенская гарадская дзіцячая № 4 (г. Гродна, бульвар Ленінскага камсамола, 43). Фонд 18,4 тыс. экз.

Дзятлаўская раённая цэнтральная (г. п. Дзятлава, вул. М. Горкага, 14). Фонд 45,8 тыс. экз.

Дзятлаўская раённая дзіцячая (г. п. Дзятлава, вул. М. Горкага, 10).

Жалудоцкая гарпасялковая (Шчучынскі р-н, г. п. Жалудок, вул. Камуністычная, 13).

Жалудоцкая гарпасялковая дзіцячая (Шчучынскі р-н, г. п. Жалудок, вул. Камуністычная, 13).

Зэльвенская раённая цэнтральная (г. п. Зэльва, вул. Савецкая, 34). Фонд 44,6 тыс. экз.

Зэльвенская раённая дзіцячая (г. п. Зэльва, вул. Пушкіна, 50).

Іўеўская раённая цэнтральная (г. п. Іўе, вул. 1 Мая, 2). Фонд 53,2 тыс. экз.

Іўеўская раённая дзіцячая (г. п. Іўе, вул. 1 Мая, 4).

Казлоўшчынская гарпасялковая (Дзятлаўскі р-н, г. п. Казлоўшчына, вул. Леніна, 19).

Казлоўшчынская гарпасялковая дзіцячая (Дзятлаўскі р-н, г. п. Казлоўшчына, вул. Савецкая, 8).

Карэліцкая раённая цэнтральная (г. п. Карэлічы, плошча 17 Верасня, 1). Фонд 61 тыс. экз.

Карэліцкая раённая дзіцячая (г. п. Карэлічы, плошча 17 Верасня, 5).

Лідская раённая цэнтральная (г. Ліда, вул. К. Маркса, 49). Фонд 41,3 тыс. экз.

Лідская раённая дзіцячая (г. Ліда, вул. Савецкая, 31).

Лідская гарадская цэнтральная (г. Ліда, вул. Катляроўскага, 18, корпус 1). Фонд 69,7 тыс. экз.

Лідская гарадская цэнтральная дзіцячая (г. Ліда, вул. Савецкая, 16). Фонд 42,5 тыс. экз.

Лідская гарадская № 1 (г. Ліда, вул. Чапаева, 9). Фонд 40,8 тыс. экз.

Лідская гарадская № 2 (г. Ліда, вул. А. Міцкевіча, 38, корпус 1). Фонд 26,7 тыс. экз.

Лідская гарадская № 3 (г. Ліда, вул. Фамічова, 6). Фонд 28,9 тыс. экз.

Любчанская гарпасялковая (Навагрудскі р-н, г. п. Любча, вул. Савецкая, 12).

Любчанская гарпасялковая дзіцячая (Навагрудскі р-н, г. п. Любча, вул. Савецкая, 9).

Мастоўская раённая цэнтральная (г. Масты, вул. Савецкая, 19а). Фонд 56,1 тыс. экз.

Мастоўская раённая дзіцячая (г. Масты, вул. Савецкая, 19а).

Мастоўская гарадская дзіцячая (г. Масты, вул. Пескаўская, 6). Фонд 20,9 тыс. экз.

Мірская гарпасялковая (Карэліцкі р-н, г. п. Мір, вул. Кірава, 22).

Мірская гарпасялковая дзіцячая (Карэліцкі р-н, г. п. Мір, вул. Кірава, 51).

---

* У спісе прыведзены абласныя, раённыя, гарадскія, гарпасялковыя і пасялковыя бібліятэкі. Кніжны фонд даецца на 1.1.1985 г. па цэнтралізаваных бібліятэчных сістэмах.

Навагрудская раённая цэнтральная (г. Навагрудак, вул. Леніна, 59а). Фонд 37,6 тыс. экз.

Навагрудская раённая дзіцячая (г. Навагрудак, вул. Камсамольская, 5).

Навагрудская гарадская № 1 (г. Навагрудак, вул. Мінская, 31). Фонд 25 тыс. экз.

Навагрудская гарадская дзіцячая № 2 (г. Навагрудак, вул. Мінская, 31). Фонд 17,5 тыс. экз.

Наваельненская гарпасялковая (Дзятлаўскі р-н, г. п. Наваельня, вул. Леніна, 27).

Наваельненская гарпасялковая дзіцячая (Дзятлаўскі р-н, г. п. Наваельня, вул. Леніна, 27).

Пагранічанская гарпасялковая (Бераставіцкі р-н, г. п. Пагранічны, вул. Камарова, 22).

Поразаўская гарпасялковая (Свіслацкі р-н, г. п. Поразава, вул. Леніна, 22).

Поразаўская гарпасялковая дзіцячая (Свіслацкі р-н, г. п. Поразава, вул. Леніна, 10).

Радунская гарпасялковая (Воранаўскі р-н, г. п. Радунь, вул. Камсамольская, 2).

Радунская гарпасялковая дзіцячая (Воранаўскі р-н, г. п. Радунь, вул. 1 Мая, 8).

Роская гарпасялковая (Ваўкавыскі р-н, г. п. Рось, вул. Паркавая, 8).

Сапоцкінская гарпасялковая (Гродзенскі р-н, г. п. Сапоцкін, вул. Гродзенская, 17).

Сапоцкінская гарпасялковая дзіцячая (Гродзенскі р-н, г. п. Сапоцкін, вул. Школьная, 1).

Свіслацкая раённая цэнтральная (г. п. Свіслач, вул. Мяльнова, 17). Фонд 48,7 тыс. экз.

Свіслацкая раённая дзіцячая (г. п. Свіслач, вул. Мяльнова, 10).

Скідальская гарадская (г. Скідаль, вул. Леніна, 38). Фонд 24 тыс. экз.

Скідальская гарадская дзіцячая (г. Скідаль, вул. Школьная, 6). Фонд 9,4 тыс. экз.

Скідальская дзіцячая (г. Скідаль, вул. Першамайская, 1). Фонд 14,1 тыс. экз.

Слонімская раённая цэнтральная імя Я. Коласа (г. Слонім, вул. Чырвонаармейская, 267). Фонд 50,1 тыс. экз.

Слонімская раённая дзіцячая (г. Слонім, вул. Я. Купалы, 27).

Слонімская гарадская № 1 (г. Слонім, вул. Патрыса Лумумбы, 1). Фонд 41,5 тыс. экз.

Слонімская гарадская № 2 (г. Слонім, вул. Брэсцкая, 69/1). Фонд 23,5 тыс. экз.

Слонімская гарадская дзіцячая імя А. С. Пушкіна (г. Слонім, вул. Аптэчная, 10). Фонд 36,4 тыс. экз.

Смаргонская раённая цэнтральная (г. Смаргонь, вул. Свабоды, 3). Фонд 32,6 тыс. экз.

Смаргонская раённая дзіцячая (г. Смаргонь, вул. Танкістаў, 6).

Смаргонская гарадская (г. Смаргонь, вул. Гагарына, 3). Фонд 20,6 тыс. экз.

Шчучынская раённая цэнтральная (г. Шчучын, вул. Леніна, 50). Фонд 51 тыс. экз.

Шчучынская раённая дзіцячая (г. Шчучын, вул. Леніна, 50).

Шчучынская гарадская (г. Шчучын, вул. Леніна, 44). Фонд 25,2 тыс. экз.

Юрацішкаўская гарпасялковая (Іўеўскі р-н, г. п. Юрацішкі, вул. Кастрычніцкая, 4).

Юрацішкаўская гарпасялковая дзіцячая (Іўеўскі р-н, г. п. Юрацішкі, вул. 40 год Кастрычніка, 37).

## МУЗЕІ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**АШМЯНСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** імя Ф. К. Багушэвіча (г. Ашмяны, вул. Савецкая, 9). Заснаваны ў верасні 1952 г., адкрыты ў кастрычніку 1955 г. У фондах на 1.1.1985 г. каля 4 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода краю, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства.

**ВАЎКАВЫСКІ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ** імя П. І. Баграціёна (г. Ваўкавыск, вул. Баграціёна, 10). Створаны ў 1935 г. на грамадскіх асновах як краязнаўчы музей, з 1939 г. дзяржаўны, з 1953 г. ваенна-гістарычны музей. У Вялікую Айчынную вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1948 г. адноўлены. З 1949 г. размешчаны ў будынку, дзе ў чэрвені 1812 г. была штаб-кватэра рускай 2-й Заходняй Арміі пад камандаваннем П. І. Баграціёна. У фондах на 1.1.1985 г. 30 тыс. экспанатаў. Аддзелы: старажытна-рускі Ваўкавыск, нашы вялікія продкі; Айчынная вайна 1812 г.; барацьба працоўных за Савецкую ўладу; Вялікая Айчынная вайна 1941—45 гг.; Ваўкавыск у пасляваенныя гады.

**ГРОДЗЕНСКІ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ** (г. Гродна, вул. Замкавая, 22). Заснаваны ў ліпені — верасні 1920 г. па ініцыятыве археолага Ю. Ядкоўскага. Адкрыты ў снежні 1922 г. У Вялікую Айчынную вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1945 г. Размешчаны ў Гродзенскім Старым замку. У фондах на 1.1.1985 г. больш за 110 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода краю, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства. У лютым 1982 г. заснаваны літаратурны аддзел. Мае філіял — музей народнай славы (г. Гродна, праспект Касманаўтаў, 83).

**ДЗЯТЛАЎСКІ МУЗЕЙ НАРОДНАЙ СЛАВЫ** (г. п. Дзятлава, вул. Першамайская, 12). Заснаваны ў жніўні 1966 г., адкрыты ў маі 1968 г. У фондах на 1.1.1985 г. 10 тыс. экспанатаў. Аддзелы: гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства, Вялікая Айчынная вайна.

**ДОМ-МУЗЕЙ АДАМА МІЦКЕВІЧА** ў Навагрудку (г. Навагрудак, вул. Леніна, 1), літаратурна-мемарыяльны музей. 16.9.1920 г. Навагрудскі павятовы рэвалюцыйны камітэт выдаў загад аб стварэнні музея, але ажыццявіць яго не ўдалося ў сувязі з тым, што паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Навагрудак адышоў да буржуазнай Польшчы. Адкрыты музей у 1934 г. у будынку, пастаўленым на месцы, дзе быў дом бацькоў паэта. У Вялікую Айчынную вайну разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1955 г. да 100-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча. У фондах на 1.1.1985 г. 2,9 тыс. экспанатаў. У экспазіцыі матэрыялы пра жыццё і творчасць А. Міцкевіча.

**КАРЭЛІЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. п. Карэлічы, вул. Савецкая, 19). Заснаваны ў 1971 г., адкрыты ў чэрвені 1974 г. У фондах на 1.1.1985 г. каля 3 тыс. экспанатаў. Аддзелы: гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства. Філіял музея — мемарыяльны аддзел Героя Савецкага Саюза У. З. Царука ў в. Ярэмічы.

**ЛІДСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Ліда, вул. Савецкая, 20). Заснаваны ў лютым 1959 г., адкрыты ў красавіку 1959 г. У фондах на 1.1.1985 г. 21,5 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода краю, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства.

**РЭСПУБЛІКАНСКІ МУЗЕЙ АТЭІЗМУ І ГІСТОРЫІ РЭЛІГІІ** (г. Гродна, вул. Навазамкавая, 3). Заснаваны ў студзені 1974 г. у г. Полацку. У жніўні 1977 г. пераведзены ў Гродна. Экспазіцыя адкрыта 15.1.1985 г. Мае аддзел каталіцызму і 2 сектары — праваслаўя і ўсходніх рэлігій, сектанцтва і іудаізму. У фондах на 1.1.1985 г. 21 тыс. экспанатаў.

**СВІСЛАЦКІ РАЁННЫ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. п. Свіслач, вул. Леніна, 8). Заснаваны ў красавіку 1976 г. на базе школьнага музея, адкрыты ў жніўні 1979 г. У фондах на 1.1.1985 г. 2,7 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода краю, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства.

**СЛОНІМСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Слонім, вул. Леніна, 1). Заснаваны і адкрыты ў 1929 г. мясцовым археолагам і краязнаўцам І. І. Стаброўскім на базе ўласных калекцый. У Вялікую Айчынную вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1945 г., у маі 1946 г. пераўтвораны ў Баранавіцкі абласны гісторыка-краязнаўчы музей, у верасні 1952 г. створаны нанава. У фондах на 1.1.1985 г. 17,5 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода краю, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства.

**СМАРГОНСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Смаргонь, вул. Леніна, 8). Заснаваны ў чэрвені 1984 г. Экспазіцыя ствараецца.

## АРХІВЫ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ** (г. Гродна, вул. Акадэмічная, 7а). Створаны паводле пастановы СНК БССР ад 11.2.1940 г. як архіў Беластоцкай вобл., з 1944 г. сучасная назва. Зберагаюцца дакументы ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў (1920 г.), арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў Навагрудскага ваяводства, Ваўкавыскага і Гродзенскага паветаў Беластоцкага ваяводства буржуазнай Польшчы, абласных, раённых, гарадскіх і сельскіх арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў Гродзенскай (з 1944 г.), а таксама Баранавіцкай (1939—54 гг.), Беластоцкай (1939—44 гг.) і Маладзечанскай (былой Вілейскай; 1939—60 гг.) абласцей, якія дзейнічалі на тэрыторыі, уключанай у Гродзенскую вобл.

Філіялы ў Лідзе (вул. Перамогі, 63) і Навагрудку (вул. Паштовая, 10); зберагаюцца дакументы савецкіх устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў пасляваеннага часу.

23 Зак. 744

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У імянны паказальнік вынесены прозвішчы ўсіх асоб, пра якіх ёсць асобныя артыкулы ці якія ўпамінаюцца ў тэкстах артыкулаў і ў подпісах пад ілюстрацыямі, у бібліяграфіі, а таксама прозвішчы аўтараў падпісаных артыкулаў. Лічбы паказваюць нумар артыкула, з якога вынесена прозвішча, лічбы ў дужках — старонку.

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У геаграфічны (адрасны) паказальнік вынесены ўсе населеныя пункты вобласці, дзе ёсць помнікі, а таксама назвы знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі і неадроджаных вёсак. Пасля назвы населенага пункта даецца назва сельсавета і раёна, да якіх адносіцца гэты населены пункт. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік, які знаходзіцца ў гэтым населеным пункце.

# ХРАНАЛАГІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У хранаλагічным паказальніку ўсе помнікі згрупаваны па часе, да якога адносяцца. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік.

### ПАЛЕАЛІТ

81, 426б, 462а, 462б, 602б, 907а, 932а. 932б, 1160б, 1074.

### МЕЗАЛІТ

98, 333, 422б, 426б, 443, 462б, 602а, 602б, 740, 809, 907б, 909, 932б, 947, 1160б, 1271а, 1410.

### НЕАЛІТ

81, 98, 321, 422а, 443, 462б, 556, 602б, 602в, 737, 809, 862, 907а, 909, 917, 927, 1010б, 1010в, 1075, 1134, 1159а, 1160а, 1271а, 1294, 1333, 1352, 1363, 1482.

### БРОНЗАВЫ ВЕК

321, 325, 326, 328, 400, 426а, 517, 588, 602б, 737, 862, 907а, 946, 963, 964, 1075, 1116, 1134а, 1271а, 1291, 1294, 1333, 1335, 1338, 1341, 1352, 1353, 1403, 1437, 1570б.

### ЖАЛЕЗНЫ ВЕК

100, 126, 127, 136, 138а, 141, 213, 303б, 429, 485, 490, 515, 516, 843, 919, 942, 1139, 1159а, 1159б, 1226в, 1271а, 1271б, 1280, 1306, 1309, 1311, 1312, 1315, 1321, 1324, 1330а, 1338, 1347а, 1351, 1355, 1362, 1364, 1369, 1370, 1371, 1373, 1403, 1434а, 1437, 1449, 1453а, 1477, 1490, 1570б.

### РАННІ ФЕАДАЛЬНЫ ПЕРЫЯД

197, 268, 269, 303в, 485, 490, 495, 515, 516, 566б, 661а, 677б, 903, 925б, 934, 1067, 1101, 1116, 1139, 1147, 1159, 1228в, 1271а, 1275, 1280, 1281, 1291, 1293б, 1306, 1310, 1311, 1312, 1315, 1321, 1324, 1326, 1335, 1337, 1338, 1347а, 1353, 1355, 1360а, 1362, 1369, 1371, 1373, 1395, 1536.

### НЕДАТАВАНЫЯ ПОМНІКІ АРХЕАЛОГІІ

116, 120, 121, 122, 128, 129, 130, 133, 134, 137, 138б, 139, 140, 145, 146, 190, 191, 225, 228, 239, 289, 290, 293, 303а, 303г, 309, 305, 318, 323, 332, 344, 358, 394, 402, 408, 412, 417, 421, 486, 535, 536, 547, 561, 566а, 570, 573, 582, 590, 605, 613, 615, 618, 629, 641, 644, 649, 658а, 662, 663, 677, 679, 680, 682б, 687, 697, 703, 729, 741, 751, 775, 835, 847, 904, 939, 968б, 977, 986, 1001, 1002, 1003, 1009, 1010а, 1018, 1019, 1027, 1070, 1084, 1091, 1092, 1094, 1133, 1146, 1159г, 1184, 1194, 1207, 1211, 1214, 1224, 1228б, 1265, 1267, 1276, 1293а, 1297, 1298, 1310, 1319, 1329, 1330, 1347б, 1348, 1360б, 1372, 1398, 1431, 1434б, 1442, 1474, 1492, 1500, 1514, 1521, 1530б, 1530в, 1549, 1559, 1570а.

### XI—XIII ст.

2, 44, 70, 80, 88, 165, 197, 268, 269, 297, 299, 300 ,306, 310, 336, 343, 346, 415, 442, 449, 459, 465, 468, 469, 484, 504, 661а, 661б, 677б, 843, 903, 925а, 925б, 934, 968а, 995, 1042, 1067, 1101, 1120, 1145, 1147, 1228а, 1275, 1281, 1309, 1330б, 1504, 1526, 1530а, 1536, 1544, 1560.

### XIII—XVII ст.

2, 30,31, 32, 33, 44, 80, 88, 91, 131, 165, 166, 167, 170, 201, 222, 306, 310, 336, 337, 346, 373, 379, 380, 381, 384, 403, 442, 449, 450, 468, 469, 484, 504, 528, 566б, 658б, 667, 677а, 682а, 692, 704, 719, 720, 769, 821, 822, 824, 825, 900, 968а, 1033, 1059, 1115, 1231, 1232, 1233, 1260, 1305, 1317, 1376, 1407, 1409, 1419, 1422, 1453б, 1491, 1499, 1504, 1526, 1538, 1552.

### XVIII ст.

9, 13, 20, 23, 27, 29, 32, 33, 36, 44, 54, 56, 57, 80, 82, 83, 88, 92, 101, 103, 107, 115, 123, 161, 166, 167, 170, 172, 177, 202, 222, 243, 247, 249, 295, 313, 314, 337, 377, 382, 387, 398, 418, 450, 501, 532, 669, 677а, 685, 704, 721, 748, 753, 777, 778, 786, 797, 816, 872, 873, 916, 922, 988, 1023, 1033, 1040, 1048, 1056, 1057, 1060, 1071, 1104, 1162, 1167, 1215, 1218, 1225, 1229, 1232, 1236, 1259, 1262, 1263, 1303, 1305, 1453б, 1486, 1494, 1522, 1541.

### XIX ст.

2, 8, 10, 13, 16, 18, 21, 27, 28, 29, 33, 37, 42, 44, 53, 54, 61, 74, 77, 79, 80, 82, 84, 85, 86, 87, 88, 89, 92, 103, 108, 109, 118, 125, 143, 151, 161, 170, 172, 173, 175, 177, 183, 184, 185, 188, 195, 200, 202, 220, 222, 230, 231, 240, 249, 250, 267, 282, 301, 308, 324, 330, 342, 354, 355, 359, 366, 377, 390, 391, 396, 397, 398, 411, 413, 416, 434, 437, 441, 450, 460, 467, 471, 473, 475, 479, 482, 493, 494, 500, 501, 502, 527, 542, 545, 550, 551, 557, 562, 572, 597, 598, 600, 601, 607, 634, 637, 646, 653, 655, 685, 686, 692, 668, 704, 710, 711, 719, 723, 735, 736, 753, 758, 766, 773, 777, 783, 797, 800, 812, 816, 824, 825, 828, 834, 838, 840, 842, 848, 854, 860, 865, 872, 901, 906, 915, 938, 941, 951, 988, 1023, 1033, 1035, 1036, 1037, 1038, 1039, 1040, 1071, 1083, 1086, 1087, 1090, 1130, 1136, 1141, 1151, 1167, 1175, 1178, 1179, 1181, 1187, 1189, 1191, 1202, 1204, 1205, 1216, 1231, 1236, 1261, 1284, 1292, 1300, 1305, 1325, 1336, 1357, 1388, 1393, 1399, 1406, 1409, 1412, 1416, 1423, 1424, 1426, 1427, 1432, 1460, 1463, 1466, 1471, 1472, 1483, 1494, 1501, 1506, 1509, 1513, 1522, 1527, 1538, 1539, 1540, 1541, 1551, 1553, 1564, 1565.

### 1900—1917 гг.

8, 11, 12, 16, 19, 22, 26, 27, 29, 37, 52, 54, 55, 65, 74, 76, 78, 84, 87, 88, 90, 96, 103, 112, 143, 153, 157, 169. 170, 179, 188, 196, 201, 221, 223, 281, 285, 286, 287, 288, 305, 308, 324, 351, 352, 353, 355, 364, 366, 372, 376, 393, 419, 423, 455, 460, 473, 497, 513, 533, 549, 557, 559, 562, 563, 564, 568, 571, 580, 581, 586, 596, 597, 611, 626, 630, 632, 633, 640, 650, 668, 672, 674, 676, 695, 712, 728, 730, 731, 734, 735, 739, 745, 752, 753, 760, 779, 791, 796, 799, 805, 807, 811, 822, 827, 834, 850, 852, 856, 870, 871, 877, 885, 888, 889, 890, 891, 892, 893, 894, 902, 906, 908, 911, 914, 915, 930, 951, 959, 1025, 1038, 1052, 1053, 1054, 1055, 1073, 1090, 1096, 1098, 1102, 1107, 1113, 1123, 1127, 1129, 1132, 1140, 1151, 1165, 1168, 1180, 1198, 1203, 1205, 1217, 1219, 1230, 1246, 1247, 1248, 1249, 1250, 1251, 1252, 1253, 1254, 1255, 1357, 1358, 1381, 1383, 1384, 1385, 1396, 1424, 1433, 1436, 1446, 1447, 1456, 1465, 1466, 1470, 1471, 1498, 1501, 1503, 1506, 1511, 1512, 1513, 1515, 1523, 1527, 1533, 1558, 1565.

### 1917—1920 гг.

13, 22, 27, 66, 73, 74, 76, 78, 84, 96, 102, 105, 150, 157, 169, 179, 196, 223, 285, 286, 287, 288, 305, 351, 352, 353, 364, 372, 419, 497, 513, 533, 549, 568, 571, 580, 596, 632, 633, 640, 668, 672, 676, 695, 712, 728, 730, 754, 760, 779, 781, 790, 791, 796, 799, 805, 806, 811, 823, 827, 850, 852, 856, 859, 864, 877, 884, 888, 889, 890, 891, 892, 893, 894, 911, 914, 959, 960, 1025, 1052, 1053, 1054, 1055, 1073, 1096, 1098, 1112, 1113, 1123, 1132, 1138, 1140, 1165, 1166, 1168, 1180, 1198, 1201, 1203, 1226, 1241, 1247, 1248, 1249, 1250, 1251, 1252, 1253, 1254, 1255, 1306, 1358, 1383, 1384, 1385, 1433, 1456, 1465, 1470, 1480, 1511, 1512.

### 1920—1941 гг.

8, 13, 14, 15, 22, 29, 38, 41, 45, 48, 51, 62, 65, 74, 76, 78, 84, 96, 149, 152, 154, 157, 169, 179, 196, 223, 224, 226, 276, 277, 279, 280, 285, 286, 287, 288, 292, 305, 351, 352, 353, 364, 365, 372, 419, 456, 497, 499, 506, 510, 513, 533, 537, 549, 568, 571, 580, 595, 596, 603, 632, 633, 640, 652, 657, 668, 672, 676, 695, 712, 728, 730, 754, 760, 763, 767, 779, 781, 784, 787, 791, 792, 794, 796, 799, 805, 808, 811, 823, 827, 846, 864, 877, 883, 886, 888, 889, 890, 891, 892, 893, 894, 899, 911, 914, 949, 959, 960, 965, 975, 998, 999, 1008, 1025, 1032, 1034, 1036, 1041, 1047, 1048, 1051, 1052, 1053, 1054, 1055, 1062, 1071, 1073, 1090, 1096, 1098, 1102, 1112, 1113, 1123, 1132, 1138, 1140. 1165, 1168, 1180, 1185, 1198, 1203, 1223, 1227, 1235, 1237, 1239, 1246, 1247, 1248, 1249, 1250, 1251, 1252, 1253, 1254, 1255, 1258, 1289, 1354, 1358, 1368, 1378, 1383, 1384, 1385, 1386, 1392, 1413, 1433, 1454, 1456, 1465, 1470, 1511, 1512, 1524, 1547, 1552.

### 1941—1945 гг.

3, 4, 5, 6, 22, 38, 39, 41, 43, 46, 49, 50, 63, 67, 68, 69, 71, 72, 75, 94, 95, 97, 99, 104, 106, 110, 111, 113, 114, 119, 124, 132, 135, 142, 144, 147, 148, 152, 154, 155, 156, 162, 163, 164, 168, 171, 174, 176, 178, 180, 181, 182, 186, 187, 189, 192, 193, 194, 198, 199, 203, 204, 205, 206, 207, 208, 209, 210, 211, 212, 214, 215, 216, 217, 218, 219, 224, 227, 232, 233, 234, 235, 236, 237, 238, 242, 244, 245, 246, 248, 251, 252, 253, 254, 255, 256, 258, 259, 260, 261, 262, 263, 264, 266, 270, 271, 273, 274, 278, 283, 284, 292, 294, 296, 298, 302, 304, 307, 311, 312, 316, 317, 319, 320, 322, 327, 329, 331, 334, 335, 338, 339, 340, 341, 345, 347, 348, 350, 356, 357, 360, 362, 363, 367, 368, 369, 370, 371, 374, 375, 378, 383, 385, 386, 388, 389, 392, 395, 399, 401, 405, 406, 407, 409, 410, 414, 420, 424, 425, 427, 428, 431, 433, 435, 436, 438, 439, 440, 444, 445, 446, 447, 448, 451, 452, 453, 454, 457, 458, 461, 463, 464, 470, 472, 474, 476, 477, 478, 480, 481, 483, 487, 488, 489, 491, 492, 496, 498, 503, 505, 507, 508, 509, 511, 512, 518, 519, 520, 521, 522, 523, 524, 525, 526, 529, 530, 531, 534, 538, 539,

**1945—1985 гг.**

## ЗМЕСТ

## СУПРАЦОЎНІКІ СЕКТАРА «ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ТОМА

Заг. сектара — член-карэспандэнт АН БССР, доктар гістарычных навук С. В. Марцэлеў.

Ст. навук. супрацоўнікі: кандыдаты гістарычных навук М. Б. Батвіннік, У. Дз. Будзько, Г. І. Дулеба, В. Б. Караткевіч, Г. М. Новікава, Э. М. Савіцкі; кандыдаты архітэктуры Т. В. Габрусь, Т. І. Чарняўская; кандыдаты мастацтвазнаўства Г. І. Барышаў, Л. Г. Лапцэвіч, В. В. Церашчатава, М. М. Яніцкая; кандыдат філалагічных навук І. Ф. Кудраўцаў.

Мал. навук. супрацоўнікі: У. В. Алісейчык, С. Г. Багласаў, А. А. Бараноўскі, В. М. Баскова, У. У. Бянько, М. М. Казлоўская, М. В. Кірэйшын, М. К. Кошалеў, А. М. Кулагін, Т. С. Кухарава, І. С. Мельнік, А. А. Міцянін, А. Ю. Пятросава, С. Ф. Самбук, В. В. Семянюк, В. М. Удальцоў, Т. Р. Чуракова, А. Г. Шчарбатаў, Л. І. Шэйко, Г. М. Ярмоленка.

Лабаранты: Т. В. Басалыга, В. С. Ванчук, І. К. Казлоў, А. М. Лапкоўская, Н. І. Пятровіч, Г. Ф. Раманаў, Л. М. Рыткіна, мастак Н. П. Вараб'ёва.

## СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ТОМА

Заг. рэдакцый: А. І. Марозава, С. П. Самуэль (адказная за выданне), кандыдат архітэктуры Ю. А. Якімовіч.

Ст. навук. рэдактары: В. М. Барадуліна, В. В. Гетаў, У. Б. Захарэвіч, А. Дз. Зубар, М. І. Камінскі, В. С. Паваліхіна.

Навук. рэдактары: Л. В. Календа, Т. І. Малашэвіч, Т. П. Панчанка, Л. В. Сакалова, Л. А. Суднік, Г. А. Фатыхава, Н. А. Ясінская.

Рэдактары: В. В. Гусева, В. В. Краснова, Л. У. Кучынская, Р. А. Ларчанка, Л. І. Паўловіч.

Бібліёграф М. А. Маўзон.

Карты-схемы выканалі картографы Т. У. Кавалеўская, Л. Дз. Мельнікава, чарцёжніцы А. К. Мілюткіна, Л. А. Панцялеева, Л. Ф. Скуратовіч.

У томе змешчаны фотаздымкі У. Ф. Варварына, У. В. Жэрко.

**СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ БЕЛОРУССИИ**

**Гродненская область**

На белорусском языке

Минск, издательство «Белорусская Советская Энциклопедия» имени Пятруся Бровки

У томе змешчаны 19 карт, 981 ілюстрацыя, з іх 190 каляровых.

Афармленне і мастацкае канструяванне *У. М. Якуніна.*
Мастацкія рэдактары *У. М. Якунін, А. І. Палуян.*
Тэхнічныя рэдактары *М. І. Грыневіч, А. У. Шэметавец.*
Карэктары: *В. І. Багдановіч, Р. Р. Блашко, Н. А. Дзянісава, Т. Я. Радзевіч, А. А. Федасеева, М. К. Хадыка.*

ІБ № 33

Здадзена ў набор 17.08.84. Падпісана да друку 18.09.85. АТ 07382. Фармат $84\times108^{1}/_{16}$. Папера мелаваная. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Фіз. друк. арк. 23,25. Ум. друк. арк. 39,06. Ум. фарба-адбіткаў 267,96. Ул.-выд. арк. 55,97. Тыраж 7500 экз. Зак. 744. Цана 7 руб. 80 кап.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.

